УДК 811.161.3(075.3)
ББК 81.2Беи-922
С34

**Р э ц э н з е н т ы:**
канд. філал. навук, праф. ***В. П. Красней***; настаўнік беларус. мовы і літ. дзярж. установы адукацыі «Гімназія № 1 імя Ф. Скарыны г. Мінска» ***С. М. Шугніла***

**Сіўковіч, В. М.**
С34 Беларуская мова : ЦТ за 60 урокаў / В. М. Сіўковіч. — 5-е выд., пераглedж. — Мінск : Аверсэв, 2021. — 237 с.
ISBN 978-985-19-5309-3.

Дапаможнік прызначаны для сістэматызацыі і паглыблення ведаў па беларускай мове пры падрыхтоўцы да цэнтралізаванага тэсціравання. Выданне змяшчае даведачны матэрыял, практыкаванні, тэсты з адказамі і каментарыямі.

Адрасуецца вучням старшых класаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі, абітурыентам. Можа выкарыстоўвацца на факультатыўных занятках, а таксама для самастойнай работы.

**УДК 811.161.3(075.3)**
**ББК 81.2Беи-922**

*Даведачнае выданне*

**Сіўковіч** Валянціна Мікалаеўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**
**ЦТ за 60 урокаў**

*5-е выданне, пераглeджанае*

Адказны за выпуск *Д. Л. Дзямбоўскі*

Падпісана да друку 18.01.2021. Фармат 60×84 $^1/_8$. Папера газетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 27,90. Ул.-выд. арк. 16,62. Тыраж 1500 экз. Заказ

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Аверсэв».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/15 ад 02.08.2013.
Вул. М. Олешава, 1, офіс 309, 220090, г. Мінск.
**E-mail: info@aversev.by; www.aversev.by**
Кантактныя тэлефоны: (017) 378-00-00, 379-00-00.
Для пісьмаў: а/с 3, 220090, г. Мінск.

УПП «Віцебская абласная друкарня».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/19 ад 26.11.2013.
Вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4, 210015, г. Віцебск.

12+

**ISBN 978-985-19-5309-3**

# Прадмова

Практычны дапаможнік прызначаны для сістэматызацыі і паглыблення ведаў па беларускай мове пры падрыхтоўцы да цэнтралізаванага тэсціравання (ЦТ).

Увесь матэрыял кнігі скіраваны на выпрацоўку ўмення карыстацца нарматыўнымі моўнымі адзінкамі, знаходзіць парушэнне нормы і выпраўляць памылкі, што дапаможа ўдасканаліць арфаграфічную і пунктуацыйную пісьменнасць, а таксама павысіць моўную культуру ў цэлым. Матэрыял размеркаваны ў 60 урокаў і пададзены тэматычна, што павінна дапамагчы падрыхтавацца да ЦТ і паспяхова прайсці яго.

Структура дапаможніка:

урок 1 — пробны тэст;
урокі 2—59 — тэорыя і практыка па тэмах ЦТ;
урок 60 — праверачны тэст;
ключы з каментарыямі.

Структура ўрокаў:

I частка — праверачныя тэсты. Мэта — выявіць тыя тэматычныя пазіцыі, у якіх дапускаюцца памылкі, што дапаможа навучэнцам пракантраляваць сябе, рэальна ацаніць свае веды і ўменне выконваць тэсты.

II частка — даведачны матэрыял (тэорыя) па тэме ўрока (усе пазіцыі ілюструюцца фактычным моўным матэрыялам). Мэта — знайсці тыя правілы, якія дапамогуць ліквідаваць прабелы ў ведах.

III частка — варыянты кантрольных тэстаў па тэме. Мэта — паўторная праверка і замацаванне матэрыялу тэмы. У некаторыя тэмы ўключана паўтарэнне папярэдняга матэрыялу.

Усе тэсты складзены на ўзор тых, што выкарыстоўваліся на ЦТ у папярэднія гады, з улікам спецыфічных цяжкасцей засваення тэарэтычнага матэрыялу пэўнай тэмы. Дапаможнік прызначаны як для самастойнай падрыхтоўкі старшакласнікаў і абітурыентаў, так і для працы пад кіраўніцтвам выкладчыкаў.

***

Усе сказы і тэксты ў матэрыялах аўтарызаваныя, тым не менш некаторыя аўтарскія знакі ў іх заменены на рэкамендаваныя Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі (ад 23 ліпеня 2008 года), а аўтарскія формы слоў і аўтарскія лексічныя адзінкі ў сказах падаюцца ў зносках (ГН — граматычная норма, ЛН — лексічная норма).

***

У якасці дадатковай крыніцы рэкамендуем практычны дапаможнік «Беларуская мова. Сшытак для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання»[1].

[1] Сіўковіч В. М. Беларуская мова. Сшытак для падрыхтоўкі да цэнтралізаванага тэсціравання. — Мінск : Аверсэв, 2017.

# УРОК 1 Пробны тэст

## Частка А

**А1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***а***:

- 1) сакр_тарка;
- 2) выс_каякасны;
- 3) гл_ток;
- 4) шніц_ль;
- 5) в_страсюжэтны.

**А2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара ***я***:

- 1) см_шнаваты;
- 2) закашл_цца;
- 3) дз_сяты;
- 4) ген_ральны;
- 5) вым_няць.

**А3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ў***:

- 1) індывіду_м;
- 2) ка_чукавы;
- 3) Ніна _льянаўна;
- 4) ва _нівермагу;
- 5) урачыста-_знёслы.

**А4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць ***мяккі знак***:

- 1) снежан_скі;
- 2) якіс_ці;
- 3) восем_сот;
- 4) рэл_еф;
- 5) вераб_і.

**А5.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- 1) массіўны;
- 2) палоззе;
- 3) ванначка;
- 4) паддашак;
- 5) паветранны.

**А6.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- 1) капустны;
- 2) рашчуліць;
- 3) суседскі;
- 4) пяшчота;
- 5) пераплёччык.

**А7.** Адзначце словы, марфемная будова якіх адпавядае схеме ***прыстаўка + корань + канчатак***:

- 1) падоўгу;
- 2) узрост;
- 3) бязгучны;
- 4) падгрупа;
- 5) дасканалы.

**А8.** Устанавіце адпаведнасць паміж назоўнікамі і іх канчаткамі ў форме меснага склону адзіночнага ліку.

| | |
|---|---|
| **А.** Шлях | **1.** -е |
| **Б.** Нос | **2.** -і |
| **В.** Адзнака | **3.** -у |
| **Г.** Гультай | **4.** -ю |
| | **5.** -ы |

- 1) А1Б3В2Г4;
- 2) А3Б1В5Г4;
- 3) А3Б1В5Г2;
- 4) А2Б4В5Г1;
- 5) А1Б2В3Г4.

**А9.** Адзначце словы, якія трэба пісаць ***праз злучок***:

- 1) (баравік) таўстун;
- 2) (тэх) агляд;
- 3) (магазін) салон;
- 4) (сама) ачышчэнне;
- 5) (віцэ) консул.

**А10.** Адзначце прыметнікі, ад якіх не ўтвараюцца формы ступеняў параўнання:

- 1) празрысты;
- 2) жывы;
- 3) белы;
- 4) чубаты;
- 5) спрыяльны.

**А11.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць ***разам***:

- 1) (пяцідзесяці) працэнтны;
- 2) (сацыял) дэмакратычны;
- 3) (глеба) апрацоўчы;
- 4) (цяжка) даступны;
- 5) (стара) дарожскі.

**А12.** Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць падкрэсленаму ў сказе дзеяслову:
*Цёпламу яснаму дню радуецца кожная жывая істота* (І. Навуменка).

- 1) ІІ спражэння;
- 2) пераходны;
- 3) зваротны;
- 4) абвеснага ладу;
- 5) ужыты ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку.

**А13.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме другой асобы множнага ліку.

| | |
|---|---|
| **А.** Прыгледзецца | **1.** -аце |
| **Б.** Крыкнуць | **2.** -яце |
| **В.** Надзьмуцца | **3.** -еце |
| **Г.** Растаптаць | **4.** -ыце |
| | **5.** -іце |

- 1) А3Б5В2Г4;
- 2) А5Б3В2Г1;
- 3) А5Б4В3Г1;
- 4) А3Б2В5Г4;
- 5) А1Б4В3Г2.

**А14.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы пішуцца ***разам***:

- 1) жылі **(*па*) *даўнейшаму***;
- 2) **(*на*) *доўга*** запомнілі;
- 3) **(*у*) *двая*** больш;
- 4) **(*з*) *верху*** будынка;
- 5) **(*па*) *ціху*** набліжаліся.

**А15.** Адзначце сказы, у якіх ***не*** з выдзеленымі словамі пішацца ***асобна***:

- 1) Мову **(*не*) *здарма*** называюць душой народа, нацыі (*Р. Барадулін*).
- 2) А я слухаў Надзю, **(*не*) *тоячы*** захаплення (*З. Прыгодзіч*).
- 3) Прадчуванне **(*не*) *зразумелай*** трывогі глыбока закралася ў душу лесніка (*С. Тарасаў*).
- 4) У гэтым глухім кутку каля кузні збіраліся часта — і каму трэба было, і каму **(*не*) *трэба*** (*К. Чорны*).
- 5) З таго часу прайшоў **(*не*) *адзін*** год (*М. Лобан*).

**А16.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) ужываецца ***не***:

- 1) Хто з нас у дзяцінстве ___ марыў адправіцца ў далёкае падарожжа, пабачыць таямнічыя краіны, сустрэцца з рэдкімі жывёламі і птушкамі? (*С. Зуёнак*).
- 2) Назаўтра на небе не было ___ воблачка з самай раніцы (*І. Пташнікаў*).
- 3) Памятаю, як сам аўтар тэксту ___ раз моршчыўся, слухаючы песню (*В. Вітка*).
- 4) Я ўжо амаль ___ чуў ног, але налягаў на вёслы (*С. Грахоўскі*).
- 5) Пачатак новага стагоддзя, што ___ кажыце, — незвычайная дата ў жыцці чалавечым! (*А. Лойка*).

**А17.** Адзначце словазлучэнні, правільна перакладзеныя на беларускую мову:

- 1) выше крыши — вышэй за дах;
- 2) не успеть из-за дождя — не паспець праз дождж;
- 3) пойти (в лес) за грибами — пайсці па грыбы;
- 4) послать по адресу — паслаць па адрасе;
- 5) анализировать по частям — аналізаваць па частках.

**А18.** Адзначце сказы, у якіх падкрэслены ***дзейнікі***:

- 1) У полі асеннім такая ўдача — знайсці і раскласці з іскрынкі касцёр (*С. Грахоўскі*).
- 2) Цяпер прыгадвалася толькі лепшае (*З. Прыгодзіч*).
- 3) Васілёк з рамонкам пачалі гамонку (*Н. Галіноўская*).
- 4) Мне лю́бы птушак спеў, зязюлі звонкі голас (*Я. Крупенька*).
- 5) Кусціся ж, налівайся сілай, жыта, пад цёплы дождж, пад гулкі гром (*У. Дзюба*).

**A19.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ***неабходна*** паставіць працяжнік:

- 1) Натхненне __ птушка рэдкая, залятае ў душу ў лічаныя шчаслівыя імгненні (*І. Навуменка*).
- 2) Ліпень __ у нас самы гарачы месяц (*В. Вольскі*).
- 3) Ехаць па лесе __ адна любата (*М. Гамолка*).
- 4) Але Несцяровіч __ не толькі пісьменнік (*І. Навуменка*).
- 5) І ён [Яўмен] __ сапраўды гаспадар гэтага лесу... (*В. Казько*).

**A20.** Адзначце сказы, у якіх правільна пастаўлены знакі прыпынку:

- 1) У паўсядзённым жыцці этыкет захоўваецца ў выглядзе агульных патрабаванняў — далікатнае, тактоўнае абыходжанне з жанчынай, пашана і павага да бацькоў і старэйшых, формы звароту і прывітання, правілы вядзення размовы, паводзіны за сталом, абыходжанне з гасцямі, патрабаванні да адзення ў залежнасці ад сітуацыі (*Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»*).
- 2) Звычайна раман, або аповесць, ці п'есу, якія рыхтаваліся да друку, чыталі адзін за адным загадчык аддзела, адказны сакратар і рэдактар часопіса (*М. Аўрамчык*).
- 3) Дажджом, і хлебам, і ветрам навальнічным заўсёды пахне хлеб наш, цудоўны хлеб пшанічны (*М. Калачынскі*).
- 4) Ссыпаліся ў калыску легенды і казкі, народныя пагаворкі[1] і выслоўі... (*В. Макарэвіч*).
- 5) Месяц з неба... нырнуў і пагас за далёкім, прыціхлым сялом (*В. Вітка*).

**A21.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

- 1) Твар у гэтага зусім маладога чалавека быў__ як вытачаны... (*К. Чорны*).
- 2) Як хатнія гусі__ па шашы шпацыравалі цыбатыя буслы (*М. Аўрамчык*).
- 3) Недзе за бліжэйшымі кустамі__ нібыта мільгануў шэры цень (*А. Кудравец*).
- 4) Фантазія__ нібы галлё вярбы__ раскінецца ўшыр (*В. Макарэвіч*).
- 5) Так__ як маці__ ніхто не ўмее на свеце немаўлят сваіх песціць, калыханку спяваць (*Я. Крупенька*).

**A22.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

- 1) Апавядае казку бабка__ не спяшаючыся, мяняе голас... (*С. Александровіч*).
- 2) Снілася__ ахопленая вечаровым залацістым__ святлом Гарынь (*У. Глушакоў*).
- 3) Але больш за ўсё мы мелі пацехі ад яго старэйшага сына__ Ваські (*Я. Майр*).
- 4) Начны туман__ чапляючыся за пушыстыя елкі__ ціха спаўзаў на зямлю (*С. Тарасаў*).
- 5) Але нікога__ акрамя Надзі__ я не бачыў (*З. Прыгодзіч*).

**A23.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

- 1) Аднак__ вады там не было, а была канава на месцы рэчкі... (*А. Жук*).
- 2) Пакажыся__ Дзед Мароз__ дай зірнуць мне на твой нос (*Н. Галіноўская*).
- 3) Праз вадзяны шум__ нават__ чулася гаворка (*К. Чорны*).
- 4) Можа__ давядзецца і вам быць у тым лесе?.. (*С. Кухараў*).
- 5) А дзяцел__ вось жа хітрун!__ выдзеўб на кары кольцы з маленькіх глыбокіх дзірачак і злізвае з іх сок сваім доўгім шурпатым языком (*В. Стома*).

**A24.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

- 1) Неба гуляла вадзяністым блакітам__ і гушчэчу сасновых ствалоў прастрэльвала сонца (*М. Лобан*).
- 2) На двары сцюжа__ і шугае вецер... (*М. Гарэцкі*).
- 3) Яшчэ з паўгадзіны__ і можна будзе пайсці (*М. Лобан*).
- 4) Маўчала возера ў тумане__ ды вербы плакалі ў цішы (*П. Трус*).
- 5) Раніца. Росна__ і ярка (*С. Баранавых*).

[1] ГН — *прымаўкі*.

**A25.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) Ёсць у кожнага з нас незабыўны маленства куток, як у птушак, дзе вывелі дзетак__ гняздоўе... (*Я. Крупенька*).

☐ 2) Аркадзь з малых гадоў ведаў, што яму трэба__ і заўжды ўпарта ішоў да ажыццяўлення свайго імкнення... (*В. Быкаў*).

☐ 3) Яна [вавёрка] ужо і рада была б вярнуцца, але не ведала__ як (*В. Вітка*).

☐ 4) Куды вяла сцежка__ і што іх чакала наперадзе, убачыць, аднак, было нельга (*В. Быкаў*).

☐ 5) Думалася, што__ калі б сустрэўся [з жонкай], то знайшлося б нейкае супакаенне (*М. Лобан*).

**A26.** Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць двукроп'е:

☐ 1) Толькі цяпер, стаўшы службоўцам, Несцяровіч зразумеў__ у бацькі было вельмі высокае пачуццё адказнасці за даручаную справу (*І. Навуменка*).

☐ 2) Месяц лёгкі ў небе пазяхае__ марывам ахутаны прасцяг (*Н. Маеўская*).

☐ 3) Бачыць пастух__ дзве бярозы спляліся голлем, быццам рукамі (*К. Цвірка*).

☐ 4) Была вясна, цвілі ландышы__ зязюлі цэлымі днямі шчодра дарылі ўсім гады жыцця... (*В. Карамазаў*).

☐ 5) Прайшло не толькі маленства__ юнацтва мінула таксама (*Я. Брыль*).

**A27.** Адзначце нумары пропускаў, на месцы якіх трэба паставіць коску:

*Агееў__ (1) нібы ў прастрацыі сядзеў ля палаткі__ (2) і толькі__ (3) калі бульдазерысты занялі свае месцы ў кабінах__ (4) і магутна зараўлі рухавікі__ (5) ён падняўся* (В. Быкаў).

☐☐☐☐☐

**A28.** Адзначце сцверджанні, якія адпавядаюць сказу з простай мовай:

*«Ды не, у тэатр сабраўся», — крыху сумеўшыся, хлушу я і, каб засцерагчыся ад далейшых роспытаў, дадаю: "Лебядзінае возера" іду глядзець»* (М. Зарэмба).

☐ 1) Простая мова няправільна заключана ў двукоссе;

☐ 2) у сказе адсутнічае знак прыпынку — двукроп'е;

☐ 3) у сказе адсутнічае знак прыпынку — працяжнік;

☐ 4) у сказе адсутнічае знак прыпынку — коска;

☐ 5) у сказе адсутнічае знак прыпынку — кропка.

**A29.** Адзначце правільныя сцверджанні:

☐ 1) у сказе можа быць некалькі дзейнікаў;

☐ 2) усе дзеясловы спрагаюцца;

☐ 3) дапаўненні бываюць дапасаваныя і недапасаваныя;

☐ 4) прыметнік *ціхі* і прыслоўе *ціха* маюць аднолькавую форму вышэйшай ступені параўнання — *цішэй*;

☐ 5) словы *дробавы* і *дробны* — паронімы.

### Тэкст да заданняў А30—А32, В1—В3, В5, В7, В8

(1) Ёсць вадаёмы, рэкі і азёры, на якіх свае няпісаныя правілы.

(2) Скажам, на адным вельмі любіць гарэзнічаць моладзь. (3) На другім — не. (4) На Бярозе гарэзнікаў хапае. (5) ***Хоць***, можа, мне так толькі здаецца...

(6) Вядома, з вадой жарты кепскія. (7) Вада ёсць вада. (8) На рацэ, возеры, вадасховішчы трэба быць абачлівым, асцярожным...

(9) Вось ідзеш на сваім судне і не ведаеш, што чакае цябе за чарговай паваротказ. (10) Хто ніколі не быў на Бярэзіне, хай ведае, што рака хоць па нашых мерках і шырокая, але пятляе шмат. (11) Здараецца, часам вілюжыць так, што прыдумаць цяжка. (12) Вось бачыш, здаецца, метраў за дзвесце ад сябе якую выспу па левым борце. (13) А ідзеш да яе гадзіну. (14) Яна — як дражніцца: то злева, то справа. (15) Выйдзеш да яе, а яна і не злева, і не справа, а прама перад табой — рэзкі паварот рабі. (16) Вёсламі працаваць прыходзіцца часта, але хутка ўцягваешся ў працу, адчуваеш прыемную стому, радуешся, што тваім рухам падпарадкоўваецца вялізны катамаран, што рака нічога з ім не можа зрабіць, калі ты не хочаш.

(17) Асабіста я люблю, калі рэкі цякуць сярод лясоў. (18) Калі на іх — нікога. (19) Калі ты, твой ***экіпаж*** з прыродай сам-насам.

*Паводле У. Саламахі.*

**A30.** Адзначце правільна ўтвораныя ад асновы дзеяслова, падкрэсленага ў ***16-м*** сказе, ***дзеепрыметнік*** і ***дзеепрыслоўе***:

☐ 1) зробячы;
☐ 2) зробляны;
☐ 3) зрабіўшы;
☐ 4) зроблены;
☐ 5) зробленны.

**A31.** Адзначце фанетычныя і арфаэпічныя характарыстыкі, уласцівыя падкрэсленаму ў ***6-м*** сказе слову:

☐ 1) вымаўленне слова адпавядае яго напісанню;
☐ 2) у слове няма санорных зычных гукаў;
☐ 3) у слове няма звонкіх зычных гукаў;
☐ 4) у слове няма шыпячых зычных гукаў;
☐ 5) у слове тры мяккія зычныя гукі.

**A32.** Адзначце лексіка-граматычныя характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў ***19-м*** сказе назоўніку:

☐ 1) абстрактны;
☐ 2) канкрэтны;
☐ 3) 2-га скланення;
☐ 4) у форме роднага склону адзіночнага ліку мае канчатак ***-а***;
☐ 5) у форме меснага склону адзіночнага ліку мае канчатак ***-у***.

## Частка В

**B1.** Знайдзіце ў ***12-м*** сказе лічэбнік і запішыце яго ў форме творнага склону.

______________________________

**B2.** Знайдзіце ў ***16-м*** сказе назоўнікі 1-га скланення і запішыце іх у форме меснага склону.

______________________________

**B3.** Вызначце ў ***15-м*** сказе слова, утворанае бяссуфіксным спосабам, і запішыце яго ў форме роднага склону адзіночнага ліку.

______________________________

**B4.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах спалучэннямі слоў і іх характарыстыкамі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Наш бусел — ***пералётная птушка***. | **1.** Фразеалагізм, які мае значэнне ‘*нельга прычапіцца да чаго-небудзь*’. |
| **Б.** Люблю адразу ***браць быка на рогі***, каб лішне не марнаваць часу. | **2.** Фразеалагізм, які ў сказе выконвае ролю *выказніка*. |
| **В.** Хоць запазніліся, а справу зрабілі надзейна... ***Камар носа не падточыць***. | **3.** Няправільна паводле свайго значэння ўжыты фразеалагізм. |
| **Г.** Кожны павінен разумець, што возера ***не бяздонная бочка***. | **4.** Свабоднае словазлучэнне. |
| | **5.** Фразеалагізм, які мае сінонім *так сабе*. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**B5.** Вызначце часцінамоўную прыналежнасць выдзеленага ў ***5-м*** сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

______________________________

**B6.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відам. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Голас быў роўны, ціхі і глыбокі (*М. Стральцоў*). | **1.** Двухсастаўны, развіты. |
| **Б.** Восенню поплаў залівае вадой (*І. Навуменка*). | **2.** Двухсастаўны, неразвіты. |
| **В.** Іду, перапоўнены сонцам, блакітам, звонкай празрыстасцю (*З. Прыгодзіч*). | **3.** Назыўны, развіты. |
| **Г.** Траў лясных шаптанне (*М. Башлакоў*). | **4.** Безасабовы. |
| | **5.** Пэўна-асабовы. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**B7.** Сярод сказаў ***10—14*** знайдзіце сказ, звязаны з папярэднім пры дапамозе злучніка і займенніка. Нумар сказа запішыце лічбай.

☐

**B8.** Вызначце стыль тэксту. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

______________________________

# УРОК 2 Лексічныя характарыстыкі слова



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж словамі, выдзеленымі ў парах словазлучэнняў, і іх сэнсавай характарыстыкай. Адзначце нумар правільнага адказу.

| | |
|---|---|
| **А.** ***Нізкая*** якасць — ***нізкая*** яблыня<br>**Б.** ***Маўклівая*** згода — ***гаваркая*** бабуля<br>**В.** ***Незвычайная*** далікатнасць — ***выключная*** памяць<br>**Г.** ***Крытычны*** артыкул — ***крытычны*** стан | **1.** Сінонімы<br>**2.** Антонімы<br>**3.** Амонімы<br>**4.** Мнагазначнае слова<br>**5.** Паронімы |

☐ 1) А4Б1В2Г5; ☐ 3) А4Б2В1Г3; ☐ 5) А3Б1В2Г4.
☐ 2) А3Б2В5Г4; ☐ 4) А5Б1В3Г2;

**Тэст № 2.** З пранумараваных слоў выберыце тыя, якія ўжыты ў пераносным значэнні. Запішыце нумары гэтых слоў.
*Даліны журацца[1] пад кроплямі[2] расы, і плача[3] стэп[4] глухім[5] вячэрнім гулам[6] у пацалунках[7] дзікае красы* (П. Трус).

☐☐☐☐☐☐☐



## ТЭОРЫЯ

**Лексічнае значэнне** — гэта ўнутраны змест слова, суаднесенасць яго гукавой абалонкі з пэўным прадметам ці з'явай рэчаіснасці, з дзеяннямі, прыметамі і інш. **Прамое значэнне слова** — такое значэнне, з якім слова ўзнікла (г. зн. зыходнае, першапачатковае). **Пераноснае значэнне** ўзнікае з часам пры пераносе прамога значэння слова на іншы прадмет.

**Адназначнымі** называюцца словы, якія маюць толькі адно лексічнае значэнне. Напрыклад, словы *равеснік* ('чалавек аднолькавага ўзросту з кім-небудзь'), *дваякавыпуклы* ('выпуклы з абодвух бакоў'), *неаспрэчны* ('які не выклікае пярэчанняў; бясспрэчны'). Адназначнымі ў сучаснай беларускай мове з'яўляюцца тэрміны ў межах канкрэтнай навукі (*сінтаксіс*, *гіпатэнуза*, *ізатоп*), назвы жывых істот (*алень*, *зубр*, *кот*), раслін (*жыта*, *скрыпень*, *валяр'ян*), асобныя абстрактныя паняцці (*маркота*, *адвага*, *літасць*), а таксама ўласныя назвы і імёны (*Нарач*, *Мележ*).

**Мнагазначныя (шматзначныя)** словы маюць некалькі лексічных значэнняў: *прысвоіць* — 1) завалодаць, самавольна ўзяць у сваю ўласнасць, выдаць за сваё (*прысвоіць чужыя рэчы*, *прысвоіць чужую ідэю*); 2) назваць якім-небудзь чынам, даць званне (*прысвоіць вуліцы імя героя*, *прысвоіць званне прафесара*).

**Амонімамі** называюцца словы, якія маюць living рознае лексічнае значэнне, але супадаюць або ў напісанні, або ў гучанні (ці ў напісанні і гучанні адначасова): *перасЛаць[1]* ('накіраваць у іншае месца') — *перасЛаць[2]* ('зрабіць новы насціл'), *Крапіва[1]* (прозвішча) — *крапіва[2]* (расліна), *праз* [прас] (прыназоўнік) — *прас* ('прылада для прасавання').

> **Як адрозніць амонімы ад мнагазначных слоў?**
> **Запомніце!** Асноўны крытэрый размежавання — лексічнае значэнне слоў. Калі паміж значэннямі ёсць сэнсавая сувязь, перад намі шматзначнае слова, калі няма — гэта амонімы. Трэба мець на ўвазе, што словы-амонімы будуць мець розныя рады аднакаранёвых слоў: да *перасЛаць[1]* — *перасыланне*, *перасылка*, *перасылачны*; да *перасЛаць[2]* — *перасцілка*, *перасціланне*.

**Паронімы** — словы, якія структурна, сваім знешнім афармленнем вельмі падобныя адно на другое (блізкія гучаннем), але маюць розныя значэнні: *звычны* 'які прывык да чаго-небудзь, звыкся з чым-небудзь; прывычны' // *звычайны* 'які не вылучаецца сярод іншых, нічым не знамянальны' // *звычаёвы* 'які ўстаноўлены звычаем, а не законам'.

**Сінонімы** — блізказначныя словы і выразы, якія абазначаюць адно і тое ж паняцце, але адрозніваюцца адценнямі значэння або стылістычнай афарбоўкай (а таму гучаць і пішуцца па-рознаму): *ранейшы*, *былы*, *мінулы*, *колішні*, *даўні*, *тагачасны*, *стары*. Усе гэтыя словы аб'яднаны значэннем 'які адбыўся або адбываўся даўно, існуе здаўна'. **Сінанімічны рад** — група слоў, аб'яднаных агульнасцю значэння. Гэта можа быць пара або група слоў, якія суадносяцца паміж сабой пры абазначэнні адных і тых жа паняццяў: *рыса* — *лінія*; *многа* — *шмат*, *багата*, *нямала*, *безліч*, *процьма*, *поўна*, *без ліку*, *па горла*, *хоць заваліся*, *хоць гаць гаці*.

**Антонімы** — пары слоў (адной часціны мовы) з процілеглым значэннем: *буйны́* — *дробны*, *большасць* — *меншасць*, *заехаць* — *выехаць*.

**Варыянт 1.** З пранумараваных слоў вызначце тыя, якія ўжыты ў пераносным значэнні. Запішыце нумары гэтых слоў.
*І райчукі[1] вясёлыя[2] гамоняць[3] па ваколіцах[4]. І першымі пралескамі ўзлескі[5] ўсміхаюцца[6]. І небасхіл абветраны[7] грамамі[8] адклікаецца[9]* (М. Башлакоў).

☐☐☐☐☐☐☐☐☐

**Варыянт 2.** Адзначце сінанімічныя рады:

☐ 1) бесклапотны, легкадумны, недарэчны;
☐ 2) старанна, рупна, дбала, шчыра;
☐ 3) раздарожжа, скрыжаванне, ростань;
☐ 4) самотны, даверлівы, прастадушны;
☐ 5) абшар, прасцяг, разлегласць.

**Варыянт 3.** Адзначце сінонім (сінонімы) да слова ***зграбны***:

☐ 1) прыдатны;
☐ 2) плённы;
☐ 3) стройны;
☐ 4) статны;
☐ 5) арыгінальны.

**Варыянт 4.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі парамі слоў і іх сэнсавай характарыстыкай. Адзначце нумар правільнага адказу.

| | |
|---|---|
| **А.** Сухая ***быліна*** — прачытаная ***быліна*** | **1.** Сінонімы |
| **Б.** ***Далікатна*** крануць — ***тактоўна*** прамаўчаць | **2.** Антонімы |
| **В.** ***Знарок*** зачапіў — ***выпадкова*** зайшоў | **3.** Амонімы |
| **Г.** ***Знак*** увагі — грашовы ***знак*** | **4.** Мнагазначнае слова |
| | **5.** Паронімы |

☐ 1) А4Б1В2Г5;
☐ 2) А3Б2В5Г4;
☐ 3) А4Б5В2Г3;
☐ 4) А5Б1В3Г2;
☐ 5) А3Б1В2Г4.

**Варыянт 5.** Адзначце словы-амонімы:

☐ 1) ***адступіць*** улева — ***адступіць*** ад тэмы;
☐ 2) ***выраз*** у сукенцы — ***выраз*** твару;
☐ 3) ***знесці*** ў кучу — ***знесці*** стары дом;
☐ 4) вычэрчваць ***графікі*** — галерэя ***графікі***;
☐ 5) ***прыцягнуць*** лодку да берага — ***прыцягнуць*** увагу.

**Варыянт 6.** Адзначце словазлучэнні з правільнай лексічнай спалучальнасцю слоў:

☐ 1) сабаліная шапка;
☐ 2) тактычны чалавек;
☐ 3) хвацкі хлопец;
☐ 4) хмарная ноч;
☐ 5) ядомыя ягады.

**Варыянт 7.** Знайдзіце ў сказе словазлучэнне, у якім залежны прыметнік лексічна не спалучаецца з галоўным словам. Замяніце прыметнік патрэбным словам-паронімам і запішыце яго ў пачатковай форме.
*Мне тады споўнілася васямнаццаць, і я адчуваў сябе дужа дарослым, разумным і гаспадарчым* (А. Асіпенка).

____________________

**Варыянт 8.** Знайдзіце памылку ў лексічнай спалучальнасці слоў. Падбярыце да няправільна ўжытага слова паронім і запішыце яго ў пачатковай форме.
*Дождж драбніў, далёка за ракой успыхвалі чырвоныя, што ноччу, сполахі* (І. Пташнікаў).

____________________

**Варыянт 9.** Устанавіце адпаведнасць паміж запазычанымі і беларускімі словамі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Манускрыпт | **1.** Парука |
| **Б.** Імітацыя | **2.** Рукапіс |
| **В.** Рэзананс | **3.** Водгук |
| **Г.** Гарантыя | **4.** Падробка |
| | **5.** Пералік |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 10.** Адзначце лексічныя характарыстыкі, якія адпавядаюць падкрэсленаму ў сказе слову.
*Пачуцці лірычнага героя абвостраны, настроі* <u>*пераменлівыя*</u>, *часам супярэчлівыя* (М. Ярош).

- ☐ 1) сінонімам з'яўляецца слова *працілеглыя*;
- ☐ 2) антонімам з'яўляецца слова *пастаянныя*;
- ☐ 3) паронімам з'яўляецца слова *пераменныя*;
- ☐ 4) ужыта ў прамым значэнні;
- ☐ 5) мнагазначнае.

# УРОК 3 Значэнне фразеалагізмаў і іх ужыванне



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннем. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Пацеха з пустога меха | **1.** Неўплывовы чалавек |
| **Б.** Пустая малатарня | **2.** Тое, што найбольш хвалюе |
| **В.** Малая сошка | **3.** Штосьці неверагоднае, незвычайнае |
| **Г.** Разменная манета | **4.** Чалавек, які займаецца пустымі размовамі |
| | **5.** Дробязь, штосьці неістотнае |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Тэст № 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах спалучэннямі слоў і іх характарыстыкамі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Толькі што там таго сена — ***кот наплакаў***. | **1.** Свабоднае словазлучэнне. |
| **Б.** Цяпер хлопцы ***ўбіваюць сабе ў галаву***, што б яшчэ такое прыдумаць. | **2.** Фразеалагізм, які мае значэнне '*зусім мала*'. |
| **В.** Так што сам сабе ты тут ***кум каралю***. | **3.** Фразеалагізм, які мае сінонім *круціць мазгамі*. |
| **Г.** Колькі яблыкаў восень ружовая, ***залацістая восень*** развесіла! | **4.** Фразеалагізм, няправільна ўжыты ў сказе паводле свайго значэння. |
| | **5.** Фразеалагізм, які ў сказе выконвае ролю *выказніка*. |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐



## ТЭОРЫЯ

**Фразеалагізм** (фразема) — устойлівае спалучэнне слоў з адзіным цэласным значэннем: *ні слыху ні дыху* — 'ніякіх звестак', *рукой падаць* — 'зусім блізка', *душа ў душу* — 'дружна'.

Фразеалагізмы — гэта гатовыя моўныя адзінкі, вядомыя носьбітам мовы. Асобныя словы ў іх складзе страчваюць сваё лексічнае значэнне і не могуць з'яўляцца асобным членам сказа. Нягледзячы на тое, што фразеалагізмы могуць мець граматычную структуру словазлучэння (*даць маху, кляваць носам, на ўсё горла*) або цэлага сказа (*свет клінам сышоўся, віламі па вадзе пісана, куды ногі нясуць*), у сказе яны выконваюць ролю аднаго члена сказа. У сказе *Лёгкага хлеба не бывае* фразеалагізм *лёгкага хлеба* выконвае ролю дапаўнення.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннем. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Навязнуць у зубах | **1.** Усяляк дапамагаць няздольнаму, няўмеламу чалавеку |
| **Б.** Прыкласці рукі | **2.** Моцна надакучыць |
| **В.** Ставіць у тупік | **3.** Заняцца чым-небудзь |
| **Г.** Цягнуць за вушы | **4.** Нудна, аднастайна гаварыць |
| | **5.** Даводзіць да збянтэжанасці |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннем. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Як гром з яснага неба<br>**Б.** Як свет светам<br>**В.** Як у полі вецер<br>**Г.** Як па пісаным | **1.** Легкадумны, пусты<br>**2.** Бойка, гладка, без запінкі<br>**3.** Вельмі моцны, дужы<br>**4.** Зусім нечакана, раптоўна<br>**5.** Заўсёды, спрадвечна |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 3.** Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннем. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Біць у званы<br>**Б.** Забіваць галаву<br>**В.** Зачапіць рукі<br>**Г.** Лунаць у паднябессі | **1.** Знайсці для сябе які-небудзь занятак<br>**2.** Аказвацца ў цяжкім, бязвыхадным становішчы<br>**3.** Бясплённа марыць, не заўважаючы навакольнага<br>**4.** Настойліва звяртаць усеагульную ўвагу на тое, што выклікае трывогу<br>**5.** Абцяжарваць сябе ці каго-небудзь абавязкамі, думкамі |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 4.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі фразеалагізмамі і іх сінтаксічнай роляй у сказе. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Не маглі ***звесці вочы*** да шэрага світання і мы (*У. Глушакоў*).<br>**Б.** Я ўвесь дзень настройваў сябе мужна і горда ***прыняць удар*** (*З. Прыгодзіч*).<br>**В.** Даўно маю намер пагутарыць з табою ***вока на вока*** (*Т. Хадкевіч*).<br>**Г.** Зноў у ім [Рыбаку] аднавілася прыціхлае было, але ўпартае жаданне ***даць дзёру*** (*В. Быкаў*). | **1.** Дзейнік.<br>**2.** Выказнік (частка выказніка).<br>**3.** Азначэнне.<br>**4.** Дапаўненне.<br>**5.** Акалічнасць. |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 5.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі фразеалагізмамі і іх сінтаксічнай роляй у сказе. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Рыта... не любіла ***будаваць паветраных замкаў*** (*А. Васілевіч*).<br>**Б.** Набралі хлопцы рыбы ***колькі ўлезе*** і накіраваліся дадому (*Я. Маўр*).<br>**В.** Маці мая была ***вострая на язык*** (*В. Стома*).<br>**Г.** Можа, ***нябесная канцылярыя*** вам надвор'е падкажа (*А. Кудравец*). | **1.** Дзейнік.<br>**2.** Выказнік (частка выказніка).<br>**3.** Азначэнне.<br>**4.** Дапаўненне.<br>**5.** Акалічнасць. |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 6.** Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і сінонімамі да іх. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Абводзіць вакол пальца<br>**Б.** Разводзіць рукамі<br>**В.** Канца-краю не відаць<br>**Г.** Забіваць дух | **1.** Дзіву давацца<br>**2.** Хоць гаць гаці<br>**3.** Браць на вудачку<br>**4.** Пападаць у пераплёт<br>**5.** Закрываць рот |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 7.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах фразеалагізмамі і сінонімамі да іх. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Табе што, прыемна нас абодвух ***за нос вадзіць***? (*У. Караткевіч*).<br>**Б.** Калі ты ўжо так крычаў, калі ты такі смелы, то ***зямлю грызі***, а не адступай (*І. Навуменка*).<br>**В.** Міхал скінуў стрэльбу з пляча і ***ператварыўся*** ўвесь ***у слых*** (*С. Александровіч*).<br>**Г.** ***На лбе запішы***, што прайшоў ужо час... (*К. Крапіва*). | **1.** Навастрыць вушы.<br>**2.** Выходзіць за межы звычайнага, прывычнага.<br>**3.** Абуваць у лапці.<br>**4.** Зарубіць на носе.<br>**5.** Разбіцца ў дошку. |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 8.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах спалучэннямі слоў і іх характарыстыкамі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Колькі дзён працаваў — і ўсё ***кату па пяту***.<br>**Б.** Ад нейкага белага доміка ***з усіх ног*** беглі да завода два хлопчыкі.<br>**В.** Уступіць месца брыгадзіра Гоман не мог ні пры якіх абставінах і таму адразу ж ***даў задні ход***.<br>**Г.** Лепяшынскі не прымаў ***гульні слоў*** у гэтай спрэчцы. | **1.** Свабоднае словазлучэнне.<br>**2.** Фразеалагізм, які мае значэнне ‘*дасціпны, каламбурны выраз*’.<br>**3.** Фразеалагізм, які мае сінонім *што ёсць духу*.<br>**4.** Фразеалагізм, няправільна ўжыты ў сказе паводле свайго значэння.<br>**5.** Фразеалагізм, які ў сказе выконвае ролю *выказніка*. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 9.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах спалучэннямі слоў і іх характарыстыкамі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Ён ***з агнём жартуе***, але паспрабуй да яго падступіцца ды параду даць.<br>**Б.** Ніна Аляксандраўна, наш куратар, доўга сядзела, моўчкі слухала нашы выступленні, а потым папрасіла не ***пераліваць з пустога ў парожняе***.<br>**В.** Каманда — і ракета ***адарвалася ад зямлі***.<br>**Г.** Дзень расце ***як на дражджах***. | **1.** Свабоднае словазлучэнне.<br>**2.** Фразеалагізм, які мае значэнне ‘*дзейнічаць неасцярожна*’.<br>**3.** Фразеалагізм, які мае сінонім *таўчы ваду ў ступе*.<br>**4.** Фразеалагізм, няправільна ўжыты ў сказе паводле свайго значэння.<br>**5.** Фразеалагізм, які ў сказе выконвае ролю *акалічнасці*. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 10.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах спалучэннямі слоў і іх характарыстыкамі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Вясна, ***само сабою разумеецца***, чаканы госць у кожным доме.<br>**Б.** Там сцежкі мае ***заraслі*** ўсе ***травою***, слядоў не відаць за густой лебядою.<br>**В.** На мой добры розум, дык я загадаў бы яму самому гэтую ***кашу расхлёбваць***.<br>**Г.** — Што гэта ты ***нос павесіў***? — глянуўшы на спахмурнелы твар Міхася, запытаў стары. | **1.** Свабоднае словазлучэнне.<br>**2.** Фразеалагізм, які мае значэнне ‘*разблытваць якую-небудзь складаную, клапатлівую ці непрыемную справу*’.<br>**3.** Фразеалагізм, які мае сінонім *вядомая рэч*.<br>**4.** Фразеалагізм, няправільна ўжыты ў сказе паводле свайго значэння.<br>**5.** Фразеалагізм, які ў сказе выконвае ролю *выказніка*. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

# УРОК 4 Фанетыка. Класіфікацыя гукаў беларускай мовы



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх колькасць гукаў і літар супадае:

☐ 1) шчаўе;
☐ 2) хімія;
☐ 3) выявіць;
☐ 4) вялікая;
☐ 5) трашчаў;
☐ 6) выязджаў;
☐ 7) насенне;
☐ 8) дзьме;
☐ 9) ганарыцца;
☐ 10) альянс.

**Тэст № 2.** Адзначце фанетычныя і арфаэпічныя характарыстыкі, уласцівыя падкрэсленаму ў сказе слову: *Туман апавіў мае ногі, і сцежкі зусім не відно*... (Н. Маеўская).

- [ ] 1) вымаўленне слова адпавядае яго напісанню;
- [ ] 2) у слове адзін санорны зычны гук;
- [ ] 3) у слове няма звонкіх зычных гукаў;
- [ ] 4) у слове два свісцячыя зычныя гукі;
- [ ] 5) у слове тры мяккія зычныя гукі.



## ТЭОРЫЯ

Усе гукі беларускай мовы падзяляюцца на галосныя і зычныя.
**Галосных** гукаў 6 — [а], [о], [і], [у], [ы], [э].
**Зычныя** гукі складаюцца з шуму або з голасу і шуму і падраздзяляюцца па розных параметрах: 1) паводле ўдзелу голасу і шуму; 2) паводле цвёрдасці і мяккасці; 3) паводле спосабу ўтварэння; 4) паводле месца ўтварэння.
Паводле ўдзелу голасу і шуму зычныя падзяляюцца наступным чынам:




***Шумныя*** зычныя з’яўляюцца суадноснымі па глухасці-звонкасці. Не маюць адпаведных звонкіх гукі [ф], [ф’].

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| звонкія | [б] | [б’] | [г] | [г’] | [д] | [дж] | [дз] | [дз’] |
| глухія | [п] | [п’] | [х] | [х’] | [т] | [ч] | [ц] | [ц’] |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| звонкія | [ж] | [з] | [з’] | [ґ] | [ґ’] | — | — |
| глухія | [ш] | [с] | [с’] | [к] | [к’] | [ф] | [ф’] |

***Санорныя*** гукі ў параўнанні з шумнымі маюць наступныя асаблівасці:
а) не маюць адпаведных глухіх, г. зн. не ствараюць пар па глухасці і звонкасці;
б) не асімілююцца па глухасці перад глухімі і не аглушаюцца ў канцы слова:
*водар* [водар];
*пыл* [пыл];
*гонкі* [гонк’і];
в) самі санорныя не ўплываюць на вымаўленне папярэдніх глухіх — г. зн., што глухія перад санорнымі не азванчаюцца:
*свой* [свой];
*учарашні* [учарашн’і].

Паводле цвёрдасці і мяккасці гукі падзяляюцца на ***цвёрдыя*** і ***мяккія***. Большасць гукаў утварае пары:

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| цвёрдыя | [б] | [в] | [г] | [ґ] | [д] | [з] | [к] | [л] | [м] |
| мяккія | [б’] | [в’] | [г’] | [ґ’] | [дз’] | [з’] | [к’] | [л’] | [м’] |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| цвёрдыя | [н] | [п] | [с] | [т] | [ф] | [х] | — | [ў] |
| мяккія | [н’] | [п’] | [с’] | [ц’] | [ф’] | [х’] | [й] | — |

Гукі [ж], [ш], [ч], [дж], [р], [ц] (не ўтвораны з [т]) называюцца ***зацвярдзелымі***. Яны таксама не маюць адпаведных мяккіх. Не мае пары і гук [дз] у запазычаных словах тыпу *ксяндзы*, *пэндзаль*.
Неабходна ведаць, што паводле месца ўтварэння гукі [г], [г’], [ґ], [ґ’], [к], [к’], [х], [х’] адносяцца да ***заднеязычных***.
Сярод пярэднеязычных вылучаюць групы ***шыпячых*** ([ж], [ш], [дж], [ч]) і ***свісцячых*** ([з], [з’], [с], [с’], [ц], [ц’], [дз], [дз’]).
Становішча гука ў дачыненні да тых гукаў, што стаяць побач з ім, а таксама да націску і месца ў слове называецца **пазіцыяй гука**. У моцнай пазіцыі гук праяўляе свае якасці ў найбольшай ступені, а ў слабай страчвае некаторыя ўласцівасці цалкам ці часткова.

Для галосных гукаў моцнай з'яўляецца пазіцыя пад націскам, слабай — у ненаціскным становішчы: [дом], [пол'э].
Санорныя гукі не змяняюцца пад уплывам іншых, г. зн. ні адна пазіцыя не з'яўляецца для іх слабай.
Для шумных цвёрдых звонкіх моцная пазіцыя — перад галоснымі і санорнымі: [**д**ом], [**т**ом], [**х**ром], [**х**л'эў]; для звонкіх слабая пазіцыя — на канцы слова і перад глухімі зычнымі: *грыб* [гры**п**], *казка* [ка́**с**ка], а для глухіх — перад звонкімі: *касьба* [ка**з'**ба́], *футбол* [фу**д**бо́л]. Для глухіх (цвёрдых і мяккіх) моцнай з'яўляецца пазіцыя на канцы слова: *лес* [л'э**с**], *спяваць* [с'п'ава́**ц'**].
Для свісцячых [з], [с] слабай будзе пазіцыя перад мяккімі зычнымі, за выключэннем заднеязычных [г'], [ґ'], [к'], [х']: *спяваць* [**с'**п'ава́ц'], *з'есці* [**з'**йэ́**с'**ц'і]; але: *згінуць* [**з**г'і́нуц'], *мазгі* [ма**з**ґ'і́].
Для свісцячых з'яўляецца слабай пазіцыя перад шыпячымі: *счышчаць* [**ш**чышча́ц'], *расчоска* [ра**ш**чо́ска], *зжаць* [**ж**жац'], а для шыпячых — перад свісцячымі: *возьмешся* [во́з'м'э**с'**с'а], *на дарожцы* [на͡даро́**с**цы].
Для гукаў [д], [т] слабай з'яўляецца пазіцыя перад [ч] і [ц]: *матчын* [ма́**ч**чын], *ад чаго* [а**ч**͡чаго́], *селядцы* [с'эл'а**ц**цы́], *у карытцы* [у͡карыы́**ц**цы].
З фанетычнай слабай пазіцыяй зычных звязана з'ява **асіміляцыі** — прыпадабнення папярэдняга зычнага да наступнага пры вымаўленні спалучэнняў зычных (гл. урок 5).
Асіміляцыя можа адбывацца па глухасці, калі звонкі перад глухім аглушаецца: *казка* — *ка*[с]*ка*, *сцежка* — *сце*[ш]*ка*.

> ! У абсалютным канцы слова адбываецца не асіміляцыя, а аглушэнне: *гры**б*** — *гры*[п].

Асіміляцыя па звонкасці — вымаўленне глухога перад звонкім як звонкага: *фу**т**бол* — *фу*[д]*бол*, *но**сь**біт* — *но*[з']*біт*.
Асіміляцыя па мяккасці — прыпадабненне свісцячых [з], [с] да наступных мяккіх, за выключэннем [г'], [ґ'], [к'], [х']: ***с**вет* — [с']*вет*, ***з**нікнуць* — [з']*нікнуць*.
Назіраецца ў маўленні і прыпадабненне шыпячых да свісцячых (*на талера**ч**цы* — *на талера*[ц]*цы*) і свісцячых да шыпячых (***з**жаць* — [ж]*жаць*, ***с**шыць* — [ш]*шыць*).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце правільныя сцверджанні адносна ***гукаў***:

☐ 1) усе ўтвараюцца пры дапамозе голасу і шуму;
☐ 2) усе ўтвараюць склады;
☐ 3) шумныя зычныя падзяляюцца на звонкія і глухія;
☐ 4) санорныя гукі не маюць адпаведных глухіх;
☐ 5) гук [ў] не ўтварае пары па мяккасці;
☐ 6) з'ява асіміляцыі звязана са слабай фанетычнай пазіцыяй зычных гукаў;
☐ 7) для гукаў [д] і [т] пазіцыя перад [ч] або [ц] з'яўляецца моцнай;
☐ 8) у канцы слоў назіраецца аглушэнне звонкіх зычных;
☐ 9) для свісцячых пазіцыя перад шыпячымі з'яўляецца моцнай;
☐ 10) галосныя не маюць слабых пазіцый.

**Варыянт 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж радамі гукаў і назвамі груп зычных, да якіх яны адносяцца. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** [г], [к], [х] | **1.** Шыпячыя |
| **Б.** [л], [м], [н], [р], [в], [ў], [й] | **2.** Свісцячыя |
| **В.** [з], [с], [дз], [ц] | **3.** Санорныя |
| **Г.** [ж], [ш], [дж], [ч] | **4.** Заднеязычныя |
| | **5.** Глухія |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх усе зычныя гукі з'яўляюцца глухімі:

☐ 1) грэчка;
☐ 2) коўшык;
☐ 3) падчэпяць;
☐ 4) кубкі;
☐ 5) пяеш;
☐ 6) абтаптаць;
☐ 7) пакуюць;
☐ 8) кіёчак;
☐ 9) шэсць;
☐ 10) счышчаць.

**Варыянт 4.** Адзначце словы, у якіх літар больш, чым гукаў:

- ☐ 1) шчаслівы;
- ☐ 2) дождж;
- ☐ 3) якасць;
- ☐ 4) абуджаюць;
- ☐ 5) адзвінеў;
- ☐ 6) сцюдзёны;
- ☐ 7) ванна;
- ☐ 8) дзіўная;
- ☐ 9) агеньчык;
- ☐ 10) ад'язджаюць.

**Варыянт 5.** Адзначце словы, у якіх гукаў больш, чым літар:

- ☐ 1) апошнія;
- ☐ 2) ігліца;
- ☐ 3) салаўі;
- ☐ 4) здаецца;
- ☐ 5) знаёмы;
- ☐ 6) яблынька;
- ☐ 7) аб'ява;
- ☐ 8) знойдзецца;
- ☐ 9) дыягназ;
- ☐ 10) батальён.

**Варыянт 6.** Адзначце словы, у якіх колькасць гукаў і літар супадае:

- ☐ 1) сям'я;
- ☐ 2) надзея;
- ☐ 3) абуджаць;
- ☐ 4) мяккая;
- ☐ 5) бліскучыць;
- ☐ 6) прыязджаў;
- ☐ 7) вяселле;
- ☐ 8) агеньчык;
- ☐ 9) змагацца;
- ☐ 10) брыльянт.

**Варыянт 7.** Адзначце фанетычныя і арфаэпічныя характарыстыкі, уласцівыя падкрэсленаму ў сказе слову: *Глянь, на пальчыку кожнай травінкі дыяментны пярсцёнак зіхціць* (Н. Маеўская).

- ☐ 1) вымаўленне слова адпавядае яго напісанню;
- ☐ 2) у слове два санорныя зычныя гукі;
- ☐ 3) у слове няма звонкіх зычных гукаў;
- ☐ 4) у слове няма шыпячых зычных гукаў;
- ☐ 5) у слове тры мяккія зычныя гукі.

## Тэкст да варыянтаў 8—10

(1) Плыве туман над скошанаю нівай.
(2) Па росных сцежках верасень брыдзе.
(3) І халадзее сумам жураўліным
Апошняя лілея на вадзе.

(4) Ліст залаты на срэбнай павуціне
***Гайдаецца*** над цёмнаю вадой.
(5) І восень у зялёных вершалінах
Вавёркаю мільгае маладой.

(6) Сумненняў час, час роздуму прыходзіць,
Час ***прасвятлення*** даляў і душы...
(7) Які спакой у восеньскай прыродзе!..
(8) Якая ***таямнічасць*** у цішы!..

*М. Башлакоў.*

**Варыянт 8.** Адзначце фанетычныя характарыстыкі, уласцівыя выдзеленаму ў ***4-м*** сказе слову:

- ☐ 1) у слове колькасць гукаў і літар супадае;
- ☐ 2) у слове няма санорных зычных гукаў;
- ☐ 3) у слове няма глухіх зычных гукаў;
- ☐ 4) у слове няма шыпячых зычных гукаў;
- ☐ 5) у слове два звонкія зычныя гукі.

**Варыянт 9.** Адзначце фанетычныя характарыстыкі, уласцівыя выдзеленаму ў ***6-м*** сказе слову:

- ☐ 1) у слове колькасць гукаў і літар супадае;
- ☐ 2) у слове чатыры санорныя зычныя гукі;
- ☐ 3) у слове няма глухіх зычных гукаў;
- ☐ 4) у слове няма свісцячых зычных гукаў;
- ☐ 5) у слове чатыры мяккія зычныя гукі.

**Варыянт 10.** Адзначце фанетычныя і арфаэпічныя характарыстыкі, уласцівыя выдзеленаму ў ***8-м*** сказе слову:

- ☐ 1) у слове колькасць гукаў і літар супадае;
- ☐ 2) у слове тры санорныя зычныя гукі;
- ☐ 3) у слове няма глухіх зычных гукаў;
- ☐ 4) у слове ёсць шыпячы зычны гук;
- ☐ 5) у слове чатыры мяккія зычныя гукі.

# УРОК 5 Беларускае літаратурнае вымаўленне. Націск

## Беларускае літаратурнае вымаўленне



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх пры вымаўленні адбываецца асіміляцыя зычных гукаў па мяккасці:

☐ 1) спяваць;
☐ 2) вагончык;
☐ 3) згінуць;
☐ 4) пранізлівы;
☐ 5) без зімы;
☐ 6) аб'ём;
☐ 7) здзівіцца;
☐ 8) расплюшчыць;
☐ 9) з'ехаць;
☐ 10) расхістаць.

**Тэст № 2.** Адзначце словы (спалучэнні слоў), вымаўленне якіх не супадае з напісаннем:

☐ 1) раскіснуць;
☐ 2) ад чаго;
☐ 3) з мёдам;
☐ 4) рух і транспарт;
☐ 5) праязны;
☐ 6) экзатычны;
☐ 7) у яме;
☐ 8) з кропкай;
☐ 9) гаварлівы;
☐ 10) футболка.



ТЭОРЫЯ

### Правілы вымаўлення гукаў

Усе пазіцыйныя чаргаванні гукаў падпарадкоўваюцца асноўным фанетычным законам. Для сучаснай беларускай мовы яны наступныя: аканне, яканне, закон аглушэння звонкіх зычных, закон прыпадабнення зычных па глухасці і звонкасці, асіміляцыя па мяккасці, асіміляцыя свісцячых да шыпячых і шыпячых да свісцячых, дзеканне і цеканне, закон узнікнення прыстаўных гукаў, фанетычнае падаўжэнне, закон пераходу [у] і [в] у [ў]. Некаторыя чаргаванні перадаюцца не толькі ў вымаўленні, але і на пісьме.

Закон ***аглушэння*** звонкіх зычных дзейнічае на канцы слоў перад паўзай:

*гры**б*** — [гры**п**], *ся**дзь*** — [с'а**ц'**], *до**ждж*** — [дош**ч**].

***Асіміляцыя па глухасці*** — гэта пераход звонкіх у глухія перад глухімі: *кні**ж**ка* — [кн'і**ш**ка], *бе**з** перапынку* — [б'э**с**⁀п'эрапынку]; ***асіміляцыя па звонкасці*** — гэта пераход глухіх у звонкія перад звонкімі: *ай**с**берг* — [ай**з**'б'эрх], *бара**ць**ба* — [бара**дз'**ба].

***Асіміляцыі па мяккасці*** падлягаюць свісцячыя [з], [с] у пазіцыі перад мяккімі (за выключэннем заднеязычных [г'], [ґ'], [к'], [х']); змякчаюцца таксама [д] і [т] перад [в']:

***з**носіць* [**з**нос'іц'] — ***з**несці* [**з'**н'эс'ц'і]; ***з**маніць* [**з**ман'іц'] — ***з**мяніць* [**з'**м'ан'іц'];
***с**паць* [**с**пац'] — ***с**піць* [**с'**п'іц']; ***с**плю* [**с**пл'у] — ***с**піш* [**с'**п'іш];
*без букета* [б'э**з**⁀букета] — *без білета* [б'э**з'**⁀б'іл'эта]; але: [**с**к'эм'іц'], [**з**г'інуц'], [**с**х'іл'іцца], [ма**ґ**'і];
*два* [**д**ва] — *дзве* [**дз'**в'э], *чатыры* — *чацвёрты* [ча**ц'**в'орты].

***Асіміляцыя шыпячых*** — змяненне шыпячых на свісцячыя перад свісцячымі: *радуе**ш**ся* — [радуйэ**с'**с'а], *на дошцы* — [на⁀до**с**цы]; ***асіміляцыя свісцячых*** — змяненне свісцячых на шыпячыя перад шыпячымі: ***с**шытак* — [**ш**шытак], ***з**жаўцець* — [**ж**жаўц'эц'].

! Усе шыпячыя ў беларускай мове зацвярдзелыя, але асімілююцца і мяккімі свісцячымі.

### Правілы вымаўлення галосных гукаў

1. Усе галосныя гукі пад націскам вымаўляюцца выразна, бо знаходзяцца ў моцнай пазіцыі: *р*[á]*дасць*, *д*[ý]*мка*, *ц*[э́]*гла*, [*с*'][í]*ні*, *м*[ó]*ўчкі*, *с*[ы́]*паць*.
2. У ненаціскным становішчы галосныя [і], [ы], [у] змяняюцца нязначна. У моўнай плыні гэтая змена не выяўляецца: *з*[і]*мá*, *сп*[ы]*ні́ць*, *с*[у]*мýю*.

3. Гукі [о], [э] пасля цвёрдых і зацвярдзелых ва ўсіх ненаціскных складах падлягаюць закону акання, якое перадаецца на пісьме: *ц*[а]*на́*, *р*[а]*ка́*.

! Аканню не падпарадкоўваюцца словы з націскнымі складамі ***ро***, ***ло***, ***рэ***, у якіх не пад націскам узнікае [ы]: *кроў* — *крыва́вы*.

4. Гукі [о], [э] пасля мяккіх зычных у першым складзе перад націскам пераходзяць у гук [а], у выніку чаго ўзнікае яканне: *нясу* [н'асу́], *лядок* [л'адо́к], *дзявяты* [дз'ав'а́ты].

! Літара ***і*** можа перадаваць на пісьме наступныя гукі:
1) [і] — пасля мяккіх зычных і ў пачатку слова не пад націскам: *ціхі* [ц'і́х'і], *імёны* [ім'о́ны];
2) [й] — пры вымаўленні двух слоў, калі папярэдняе заканчваецца на галосны, а наступнае пачынаецца з [і] не пад націскам: *яна ішла* [йана́‿йшла];
3) [ы] — калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны, за выключэннем ***г***, ***к***, ***х***: *ён ішоў* [йон‿ышо́ў]; але: *урок ішоў* [урок ішо́ў];
4) [йі] — у пачатку слова пад націскам: *іхні* [йі́хн'і]; у сярэдзіне слова пад націскам і не пад націскам пасля галоснага: *краіна* [крайі́на], *героі* [г'эро́йі]; пасля ***ў***: *салаўі* [салаўйі́]; пасля раздзяляльнага мяккага знака: *Ільіч* [іл'йі́ч]; пасля апострафа: *вераб'і* [в'эрабйі́].

## Правілы вымаўлення зычных гукаў

1. Гук [г] у беларускай мове фрыкатыўны, працяглы; часта ў транскрыпцыі яго абазначаюць знакам [γ]: *горад*, *горкі*, *гэты*.

! У асобных запазычаных словах захоўваецца [г] выбухны; часта да яго дадаюць знак націску — [ґ]: *гонта*, *ганак*, *гузік*, *агрэст*, *мазгі*.

2. Гукі [ж], [ш], [дж], [ч], [р] называюцца зацвярдзелымі і ніколі не змякчаюцца пры вымаўленні: *жыццё*, *шыць*, *нараджэнне*, *чорны*, *рака*.
3. Афрыкаты [дз], [дз'], [дж] — складаныя гукі, вымаўляюцца непадзельна: [дз'эн'], [джа́ла], [нэ́ндза].
4. Губныя зычныя [б], [п], [м], [ф] на канцы слова і перад [й] вымаўляюцца цвёрда: *восе*[м], *вер*[ф], *п'ю* [пйу], *сям'я* [с'амйа́].
5. Гукі [з'], [с'], [дз'], [ц'], [ж], [ч], [ш], [л'], [н'] паміж галоснымі вымаўляюцца як адзін падоўжаны гук: [кало́с̄'э], [суд̄з'а́], [збо́ж̄а].
6. Звонкія гукі на канцы слова аглушаюцца: *бераг* [б'э́рах], *медзь* [м'эц'].

## Правілы вымаўлення спалучэнняў зычных

1. Звонкія зычныя перад глухімі аглушаюцца: *кні*[ш]*ка*, *ло*[т]*ка*.
2. Глухія перад звонкімі азванчаюцца: *барацьба* [барадз'ба́], *футбол* [фудбо́л].
3. Шыпячыя прыпадабняюцца да свісцячых і вымаўляюцца як свісцячыя: *на дошцы* [на‿до́сцы], *возьмешся* [во́з'м'эс̄'а].
4. Свісцячыя прыпадабняюцца да шыпячых і вымаўляюцца як шыпячыя: *сшыць* [ш̄ыц'], *зжаць* [ж̄ац'].
5. Свісцячыя [з], [с] перад мяккімі зычнымі (за выключэннем [г'], [ґ'], [к'], [х']) вымаўляюцца мякка: *смелы* [с'м'э́лы], *снег* [с'н'эх]; але: *згінуць* [зг'і́нуц'], *мазгі* [мазґ'і́], *скіба* [ск'і́ба]; свісцячы гук [ц], які не ўтварыўся з [т], перад мяккім [в'] вымаўляецца як мяккі: *цвік* [ц'в'ік], *цвісці* [ц'в'іс'ц'і].
6. Зубныя [д] і [т] у пазіцыі перад [в'], [м'] вымаўляюцца як [дз'], [ц']: *два* — *дзве*, *мёртвы* — *мярцвяк*; але: *адвесці*, *падвязаць*, *у Літве*, *у бітве* і інш.
7. Спалучэнні [дч], [тч] вымаўляюцца як падоўжаны [ч]: *спадчына* [спа́ч̄ына], *цётчын* [ц'о́ч̄ын].
8. Спалучэнні [дц], [тц] вымаўляюцца як падоўжаны [ц]: *селядцы* [с'эл'ац̄ы́], *у вопратцы* [у‿во́прац̄ы].
9. Спалучэнне [дс] вымаўляецца як [ц]: *гарадскі* [гарацк'і́], *людскі* [л'уцк'і́].
10. Спалучэнні [жс], [шс], [зс] вымаўляюцца як [с]: *нясвіжскі* [н'ас'в'і́ск'і], *латышскі* [латы́ск'і], *французскі* [францу́ск'і].
11. Спалучэнне [чн] вымаўляецца нязменна: *ручнік* [ручн'і́к], *яечня* [йайэ́чн'а].

! У акадэмічнай граматыцы адзначаецца, што гук [н] перад [дз'], [ц'], [н'], [й] памякчаецца: [каман'дз'і́р], [на‿в'эра́н'дз'э], [на‿фро́н'ц'э], [ас'і́н'н'ік], [кан'йа́к]; але: *дра**нц**вець* [дранц'в'э́ц']. Падаюцца прыклады змякчэння [н] перад [з']: *вензель*, *дарагавізне*.

Запазычаныя словы (за рэдкім выключэннем) не падпарадкоўваюцца дзеканню і цеканню (*дырэктар*, *тэатр*, *тэма*), аканню і яканню (*дэпо*, *метро*, *пенал*). Перад націскным [і] ў запазычаных словах не ўзнікае прыстаўны [й]: [і́грэк], а перад націскнымі [о] і [у] не ўзнікае прыстаўны [в]: [о́п'эра], [о́рдэн], [у́н'ійа] (гл. урокі 6, 13).

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх пры вымаўленні адбываецца асіміляцыя зычных гукаў па мяккасці:

☐ 1) смяяцца;
☐ 2) бутончык;
☐ 3) згінацца;
☐ 4) шчаслівы;
☐ 5) без зелені;
☐ 6) пацвельвацца;
☐ 7) абедзве;
☐ 8) сплю;
☐ 9) з'ем;
☐ 10) скептычна.

**Варыянт 2.** Адзначце словы з падоўжаным ці падвоеным [***ч***]:

☐ 1) перакладчык;
☐ 2) ад чаргі;
☐ 3) заказчык;
☐ 4) Уруччa;
☐ 5) сашчыпваць;
☐ 6) падчарніць;
☐ 7) расчасаць;
☐ 8) нашчадкі;
☐ 9) счэпшчык;
☐ 10) матчын.

**Варыянт 3.** Адзначце словы з падоўжаным ці падвоеным [***ш***]:

☐ 1) узвышша;
☐ 2) падпісчык;
☐ 3) шчаўе;
☐ 4) расшырыць;
☐ 5) без шакаладу;
☐ 6) паднёсшы;
☐ 7) з шумам;
☐ 8) усчапіцца;
☐ 9) сашчаміць;
☐ 10) пясчынка.

**Варыянт 4.** Адзначце словы з падоўжаным ці падвоеным [***ж***]:

☐ 1) пераязджаць;
☐ 2) з жуpавін;
☐ 3) дажджынка;
☐ 4) разжаліць;
☐ 5) падарожжа;
☐ 6) без жартаў;
☐ 7) зжаты;
☐ 8) безжыццёва;
☐ 9) усходжасць;
☐ 10) дражджавы.

**Варыянт 5.** Адзначце словы з гукам [***дж***]:

☐ 1) паджаваць;
☐ 2) саладжавы;
☐ 3) дождж;
☐ 4) з'езджу;
☐ 5) аджынаць;
☐ 6) лічбавы;
☐ 7) аджыты;
☐ 8) дажджлівы;
☐ 9) прадугледжваць;
☐ 10) паджылкі.

**Варыянт 6.** Адзначце словы з гукам [***дз'***]:

☐ 1) дзесяць;
☐ 2) падзямельны;
☐ 3) надзьмуты;
☐ 4) запаведзь;
☐ 5) мядзведзь;
☐ 6) адзваніць;
☐ 7) медзь;
☐ 8) надзея;
☐ 9) падзываць;
☐ 10) забудзьце.

**Варыянт 7.** Адзначце словы з гукам [***ш***]:

☐ 1) расчыніць;
☐ 2) шчыліна;
☐ 3) вагаешся;
☐ 4) разносчык;
☐ 5) стужка;
☐ 6) разлушчаны;
☐ 7) з чыгункі;
☐ 8) рэзчыцкі;
☐ 9) міраж;
☐ 10) нарэшце.

**Варыянт 8.** Адзначце словы з гукам [***й***]:

☐ 1) вырай;
☐ 2) раз'ёмны;
☐ 3) з іголкамі;
☐ 4) пялёсткі;
☐ 5) елачка;
☐ 6) з імі;
☐ 7) ускраіна;
☐ 8) дыяменты;
☐ 9) заінец;
☐ 10) ісці.

**Варыянт 9.** Адзначце словы (спалучэнні слоў), вымаўленне якіх супадае з напісаннем:

- ☐ 1) ускіпець;
- ☐ 2) адразу;
- ☐ 3) змазчык;
- ☐ 4) не зрабіў;
- ☐ 5) лагчына;
- ☐ 6) адказваць;
- ☐ 7) ткацтва;
- ☐ 8) пясняр;
- ☐ 9) садаводства;
- ☐ 10) дажджысты.

**Варыянт 10.** Адзначце словы (спалучэнні слоў), вымаўленне якіх не супадае з напісаннем:

- ☐ 1) раскідваць;
- ☐ 2) адчыніць;
- ☐ 3) з лесу;
- ☐ 4) сок і цукеркі;
- ☐ 5) мядзведжы;
- ☐ 6) экзамен;
- ☐ 7) у яго;
- ☐ 8) з хаты;
- ☐ 9) сварлівы;
- ☐ 10) бейсболка.

# Націск



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, лексічнае значэнне якіх залежыць ад месца пастаноўкі націску:

- ☐ 1) га́ю — гаю́;
- ☐ 2) ма́я — мая́;
- ☐ 3) тра́су — трасу́;
- ☐ 4) ва́рыць — вары́ць;
- ☐ 5) зу́бам — зуба́м.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх пры змене формы ліку мяняецца месца націску:

- ☐ 1) барада;
- ☐ 2) бабёр;
- ☐ 3) варона;
- ☐ 4) голуб;
- ☐ 5) зубраня.



## ТЭОРЫЯ

Націск у беларускай мове рухомы, г. зн. у розных граматычных формах слова ён можа пераходзіць з аднаго склада на другі: *зямля́ — зе́млі, ру́кі — рукі́*.

Службовыя словы (у большасці выпадкаў) націску не маюць. Яны прымыкаюць да самастойных слоў у якасці ненаціскных складоў і ўваходзяць разам з самастойнымі часцінамі мовы ў адно ***фанетычнае слова*** з адным націскам: *за ракой* [за⁀рако́й], *не еў* [н'а⁀йэ́ў], *сказаў жа* [сказа́ў⁀жа].

Складаныя словы могуць мець два націскі: **асноўны** (акут — са значком ´) і **пабочны** (гравіс — са значком `): *зѐмлекарыста́нне, свѐчачасо́ва, рѐзнакаляро́вы*. Такая з'ява назіраецца ў складаных словах з дзвюх частак, у якіх асноўны націск прыпадае не на першы склад другой асновы.

Пры змене месца націску ў слове можа мяняцца яго лексічнае або граматычнае значэнне. **Лексічнае значэнне** — гэта ўнутраны змест слова, суаднесенасць яго гукавой абалонкі з пэўным прадметам ці з'явай рэчаіснасці, з дзеяннямі, прыметамі і інш. **Граматычнае значэнне** — гэта значэнне, уласцівае слову як часціне мовы. Яно можа выражацца рознымі формамі (склону, ліку, асобы і інш.), якія ўтвараюцца пры дапамозе канчаткаў, суфіксаў, прыставак і інш. (Словы *акно, дабро, крыло, палатно* маюць розныя лексічныя значэнні, але канчатак ***-о*** надае ім адно граматычнае значэнне: ніякага роду, адзіночнага ліку, назоўнага ці вінавальнага склону.)



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх націск падае на першы склад:

- ☐ 1) запечак;
- ☐ 2) занятасць;
- ☐ 3) трызненне;
- ☐ 4) іскра;
- ☐ 5) блукаць;
- ☐ 6) заціск;
- ☐ 7) летапісны;
- ☐ 8) жвавець;
- ☐ 9) мезенец;
- ☐ 10) знахар.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх націск падае на другі склад:

[ ] 1) страшыць;
[ ] 2) суцішыць;
[ ] 3) сцюард;
[ ] 4) навіна;
[ ] 5) шпакі;
[ ] 6) тузін;
[ ] 7) тузанне;
[ ] 8) углыбіцца;
[ ] 9) каштаны;
[ ] 10) курганы.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх націск падае на трэці склад:

[ ] 1) стэнаграфія;
[ ] 2) тайнапіс;
[ ] 3) тэкставы;
[ ] 4) увішны;
[ ] 5) татуіраванне;
[ ] 6) тапанімія;
[ ] 7) тайнапісны;
[ ] 8) уладары;
[ ] 9) цыганы;
[ ] 10) трактары.

**Варыянт 4.** Адзначце словы, у якіх выдзелены галосныя ў націскных складах:

[ ] 1) тл***у***шчавы;
[ ] 2) сцірт***а***;
[ ] 3) тарфян***ы***;
[ ] 4) тр***у***скалкі;
[ ] 5) тк***а***чы;
[ ] 6) к***а***мбала;
[ ] 7) ц***я***жар;
[ ] 8) слаб***ы***;
[ ] 9) п***е***чыва;
[ ] 10) н***а***дкус.

**Варыянт 5.** Адзначце словы, у якіх выдзелены галосныя ў націскных складах:

[ ] 1) шнур***ы***;
[ ] 2) абрус***ы***;
[ ] 3) упр***ы***сядкі;
[ ] 4) с***у***хенькі;
[ ] 5) пахм***у***рны;
[ ] 6) н***а***жыты;
[ ] 7) вітраж***ы***;
[ ] 8) чатырн***а***ццаць;
[ ] 9) загадз***я***;
[ ] 10) прыв***і***д.

**Варыянт 6.** Адзначце словы, лексічнае значэнне якіх залежыць ад месца пастаноўкі націску:

[ ] 1) га́ю — гаю́;
[ ] 2) лі́чыць — лічы́ць;
[ ] 3) гра́фа — графа́;
[ ] 4) укапа́ны — ука́паны;
[ ] 5) кавалі́ — кава́лі;
[ ] 6) зу́бам — зуба́м;
[ ] 7) спалу́чыць — спалучы́ць;
[ ] 8) вя́ла — вяла́;
[ ] 9) скры́пачка — скрыпа́чка;
[ ] 10) берагу́ — бе́рагу.

**Варыянт 7.** Адзначце пары слоў, у якіх націск служыць для адрознення іх граматычнай формы:

[ ] 1) дзі́кі — дзікі́;
[ ] 2) звары́ць — зва́рыць;
[ ] 3) скла́дны — складны́;
[ ] 4) пра́вы — правы́;
[ ] 5) пу́шчу — пушчу́;
[ ] 6) су́ддзі — суддзі́;
[ ] 7) заслужы́ць — заслу́жыць;
[ ] 8) бе́рагам — берага́м;
[ ] 9) за́вязі — завязі́;
[ ] 10) ду́гі — дугі́.

**Варыянт 8.** Адзначце пары слоў, у якіх націск служыць для адрознення іх лексічнага значэння:

[ ] 1) ва́раны — вараны́;
[ ] 2) на́сып — насы́п;
[ ] 3) клу́бы — клубы́;
[ ] 4) зі́мы — зімы́;
[ ] 5) лу́гам — луга́м;
[ ] 6) мяту́ — мя́ту;
[ ] 7) га́йка — гайка́;
[ ] 8) пі́лы — пілы́;
[ ] 9) акта́вы — а́ктавы;
[ ] 10) разві́ты — развіты́.

**Варыянт 9.** Адзначце пары слоў, у якіх пры змене формы ліку мяняецца месца націску:

[ ] 1) капыт;
[ ] 2) ласкут;
[ ] 3) хрып;
[ ] 4) шпрыц;
[ ] 5) гай;
[ ] 6) уюн;
[ ] 7) лось;
[ ] 8) спіна;
[ ] 9) валасіна;
[ ] 10) мох.

**Варыянт 10.** Адзначце пары слоў, у якіх пры змене формы ліку мяняецца месца націску:

[ ] 1) лыч;
[ ] 2) дзеяч;
[ ] 3) снягір;
[ ] 4) навіна;
[ ] 5) заяц;
[ ] 6) барада;
[ ] 7) жгут;
[ ] 8) гваздзік;
[ ] 9) караняплод;
[ ] 10) дырэктар.

# УРОК 6 Правапіс галосных О, Э – А, Ы ў простых словах



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***а***:

- ☐ 1) ж_лейка;
- ☐ 2) ч_рнець;
- ☐ 3) накр_шыць;
- ☐ 4) ар_ндаваць;
- ☐ 5) гіпот_за;
- ☐ 6) інд_кс;
- ☐ 7) д_лікатны;
- ☐ 8) кват_рант;
- ☐ 9) кандыт_р;
- ☐ 10) поч_рк.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***э***:

- ☐ 1) світ_р;
- ☐ 2) с_рвіс;
- ☐ 3) ш_вялюра;
- ☐ 4) вад_віль;
- ☐ 5) Піт_р;
- ☐ 6) ч_каніць;
- ☐ 7) кап_ла;
- ☐ 8) шніц_ль;
- ☐ 9) банд_роль;
- ☐ 10) інж_нер.

**Тэст № 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ы***:

- ☐ 1) бр_зент;
- ☐ 2) ш_дэўр;
- ☐ 3) апт_міст;
- ☐ 4) гр_мець;
- ☐ 5) д_рэкцыя;
- ☐ 6) гл_таць;
- ☐ 7) канц_лярыя;
- ☐ 8) д_зайнер;
- ☐ 9) ч_гун;
- ☐ 10) агр_гат.



ТЭОРЫЯ

**О – А**

**Літара *о* пішацца толькі пад націскам**: *сонца*, *метро*, *човен*, *позна*, *Полацк*, *Дуброўна*, *Орша*, *Осла*.
**Не пад націскам *о* захоўваецца:**

- у выклічніках і часціцах: *ого*, *о-го-го*, *ой*, *ой-ой-ой*;
- у першай частцы некаторых іншамоўных тэрмінаў: *омметр*, *оталарынголаг*, *оф-тайм*.

**Літара *а* пішацца на месцы *о* не пад націскам:**

- у пачатку і ў сярэдзіне агульных і ўласных назоўнікаў (гэта пазіцыйнае чаргаванне, у выніку якога ўзнікае аканне, што перадаецца на пісьме): *д**о**рдж — д**а**жджы*, *м**о**ладзь — м**а**лады*, *в**о**кны — **а**кно*, ***по**зна — п**а**зней*, ***О**рша — **а**ршанскі*;
- у пачатку і ў сярэдзіне ўласных імён і геаграфічных назваў незалежна ад паходжання: *Алоўнікаў*, *Абломаў*, *Агінскі*, *Асіяшвілі*, *Ашмяны*, *Астравец*, *Астрошыцы*, *Арлеан*, *Адэса*, *Анега*; *Вайкавыск*, *Гарадок*, *Масты*, *Апалон*;
- у якасці канчатка зменных слоў: *Сачанка*, *Пятрэнка*, *Васючэнка*, *Лёзна*, *Поразава*;
- на канцы іншамоўных слоў пасля галосных: *трыа*, *адажыа*, *сальфеджыа*, *радэа*, *імпрэсарыа*, *Антоніа*, *Токіа*, *Антарыа*, *Медэа*.

! Не падпарадкоўваюцца правілу перадачы акання ў вымаўленні і на пісьме словы са спалучэннямі ***ро***, ***ло***, якія не пад націскам чаргуюцца з ***ры***, ***лы***: *бр**о**вы — бр**ы**во*, *кр**о**й — кр**ы**вавы*, *гр**о**м — гр**ы**мець*, *др**о**вы — др**ы**вотня*, *кр**о**шка — кр**ы**шыць*, *бр**о**д — бр**ы**сці*, *гл**о**тка — гл**ы**таць*, *бл**о**хі — бл**ы**ха* і інш. **Запомніце!** *Ябл**ы**к*, *ябл**ы**ня*, *ябл**ы**чны*, *ябл**ы**невы*.

**Э – А**

**Пад націскам літара э пішацца:**

- пасля шыпячых, [р], [д], [т] і цвёрдага [ц]: *чэрап*, *шэсць*, *жэмчуг*, *грэбень*, *трэсці*, *рэбры*, *рэдкі*, *сардэчны*, *стэп*, *цэны*;

- у словах з прыстаўным [г]: *гэта*, *гэты*, *гэтак*, *гэтулькі*, *дагэтуль*;
- у пачатку выклічнікаў: *эй*, *эх*, *эт*;
- у пачатку іншамоўных слоў (у адпаведнасці з вымаўленнем): *эра*, *эпас*, *эндшпіль*, *эму*, *эўрыка*, *экспарт*, *эліпс*, *Эльба*; але: *егер*, *ерась*, *еўнух*.

**Не пад націскам э захоўваецца:**
- у пачатку выклічнікаў: *эге*, *э-ге-ге*, *э-хе-хе*;
- у словах, утвораных ад слова ***сэнс***: *асэнсаваць*, *асэнсаваны*, *пераасэнсаваць*;
- у пачатку іншамоўных слоў: *эвалюцыя*, *эпоха*, *экалогія*, *эканоміка*, *экзэмпляр*, *экран*, *Эстонія*, *Эльзас*, *Эквадор*, *Эльбрус*, *Эль-Кувейт*, *Эфіопія*;

> ! Літара ***э*** захоўваецца пасля прыставак і ў другой частцы складанага слова: *праэкзаменаваць*, *двухэлементны*.

- у сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля зацвярдзелых, [д] і [т]: *жэтон*, *шэдэўр*, *шэрыф*, *рэформа*, *цэмент*, *цэнтральны*, *цэнзура*, *тэлефон*, *дэталь*; *Жэнева*, *Дэтройт*, *Цэйлон*;

> ! Перадача на пісьме гука [э] пасля іншых зычных вызначаецца па слоўніку: *тунэль*, *шынель*.

- у прыстаўцы ***рэ-***, якая абазначае аднаўленне або паўторнасць дзеяння ці процілеглае дзеянне: *рэакцыя*, *рэанімацыя*, *рэканструкцыя*, *рэпрадукцыя*.

> ! Незалежна ад націску ***э*** пішацца на канцы запазычаных нязменных слоў, у тым ліку ўласных імён і геаграфічных назваў, пасля зычных, акрамя ***л***, ***к***: *купэ*, *рэзюмэ*, *кафэ*, *плісэ*; *Морзэ*, *Мерымэ*, *Каба-Вердэ*; але: *сальта-мартале*, *філе*, *камюніке*, *піке*.

> ! У сярэдзіне запазычаных слоў пасля губных зычных (***б***, ***п***, ***м***, ***в***, ***ф***) і пасля зычных ***з***, ***с***, ***н*** літара ***э*** пішацца згодна з літаратурным вымаўленнем: *капэла*, *экзэмпляр*, *маянэз*, *сэрвіс*, *інтэрнэт*; але: *менеджмент*, *газета*, *сервіз*.

**Літара *а* пішацца на месцы э не пад націскам:**
- у спрадвечнабеларускіх словах і запазычаннях са славянскіх моў, у тым ліку і ва ўласных імёнах: *жэрдка — жардзíна*, *рэчка — ракá*, *шэры — шарэ́ць*, *рэдкі — радкавáты*, *пацэліць — цаля́ць*, *сэрца — сардэ́чны*; *Жамчужнікаў*, *Шаўчэнка*, *Чалюскін*;
- у даўніх запазычаннях з неславянскіх моў, цалкам адаптаваных у беларускай мове: *літаратура*, *характарыстыка*, *латарэя*, *сакрэт*, *адрас*, *рамонт*; але: *брызент*, *почырк*, *канцылярыя*, *цырымонія*, *інжынер*, *рысора*, *дрызіна* і інш.

> ! Ненаціскныя фіналі ***-эль***, ***-эр*** у запазычаных словах перадаюцца як ***-аль***, ***-ар***: *шніцаль*, *карцар*, *лідар*, *камп'ютар*, *кратар*. Ненаціскныя фіналі ***-эль***, ***-эр*** ва ўласных імёнах іншамоўнага паходжання захоўваюцца: *Юпітэр*, *Одэр*, *Ландэр*.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***а***:

| | | |
|---|---|---|
| ☐ 1) пац_лаваць; | ☐ 5) ат_ставаць; | ☐ 9) ганд_ль; |
| ☐ 2) д_таль; | ☐ 6) выкр_слены; | ☐ 10) Юпіт_р. |
| ☐ 3) аст_роід; | ☐ 7) раскр_шыць; | |
| ☐ 4) выкарч_ваць; | ☐ 8) галант_рэя; | |

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***а***:

| | | |
|---|---|---|
| ☐ 1) д_дэрон; | ☐ 5) тр_скатня; | ☐ 9) паш_вяліцца; |
| ☐ 2) прынт_р; | ☐ 6) ж_стыкуляцыя; | ☐ 10) ч_рніла. |
| ☐ 3) альт_рнатыва; | ☐ 7) літ_ратурны; | |
| ☐ 4) шпат_ль; | ☐ 8) бяр_знік; | |

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***э***:

- ☐ 1) тр_вога;
- ☐ 2) інд_відуальны;
- ☐ 3) інгр_дыент;
- ☐ 4) р_естр;
- ☐ 5) д_летант;
- ☐ 6) кат_т;
- ☐ 7) орд_н;
- ☐ 8) палан_з;
- ☐ 9) ш_сцярня;
- ☐ 10) пан_ль.

**Варыянт 4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***э***:

- ☐ 1) экз_мпляр;
- ☐ 2) ар_штаваць;
- ☐ 3) сэканд-х_нд;
- ☐ 4) тун_ль;
- ☐ 5) дыспетч_р;
- ☐ 6) д_задарант;
- ☐ 7) скут_р;
- ☐ 8) ур_гуляваць;
- ☐ 9) ас_нсаваць;
- ☐ 10) д_сертацыя.

**Варыянт 5.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ы***:

- ☐ 1) прац_дура;
- ☐ 2) інц_дэнт;
- ☐ 3) гор_ч;
- ☐ 4) р_актар;
- ☐ 5) др_вотня;
- ☐ 6) д_дуктыўны;
- ☐ 7) зар_ва;
- ☐ 8) д_рыжор;
- ☐ 9) задр_маць;
- ☐ 10) д_скрымінацыя.

# УРОК 7 Правапіс галосных О, Э — А, Ы ў складаных словах



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***о***:

- ☐ 1) выс_камастацкі;
- ☐ 2) т_нкастволы;
- ☐ 3) в_даканал;
- ☐ 4) ст_тысячны;
- ☐ 5) сл_ватворчасць;
- ☐ 6) п_літэхнічны;
- ☐ 7) ф_таздымак;
- ☐ 8) в_гнеўстойлівы;
- ☐ 9) ч_рна-белы;
- ☐ 10) м_латабоец.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***а***:

- ☐ 1) выс_кародны;
- ☐ 2) пр_снаводны;
- ☐ 3) ст_тонны;
- ☐ 4) ч_рнагрывы;
- ☐ 5) пч_лаласвядзенне;
- ☐ 6) п_ліклініка;
- ☐ 7) кр_вяносны;
- ☐ 8) ф_таграфія;
- ☐ 9) пр_цівагаз;
- ☐ 10) п_ўналецце.



## ТЭОРЫЯ

**Злучальныя галосныя *а*** і ***о*** пішуцца пасля цвёрдых асноў (першых частак складанага слова), прычым ***о*** пішацца толькі пад націскам: *даўг**а**вечны*, *ст**а**гадовы*, *час**о**піс*, *кур**о**дым*.

Агульнае правіла напісання галосных ***а***, ***о*** ў корані першай асновы такое: складаныя словы з націскам на першым складзе другой часткі пішуцца як простыя, г. зн. з літарай ***а***: *д**а**брая́касны*, *ч**а**рнабро́вы*; калі ж у другой частцы націск прыпадае не на першы склад, то ў першай частцы ўзнікае пабочны націск, пад якім узнаўляецца гук [о] з простага слова: *д**ò**бразычлі́вы*, *ч**ò**рнавало́сы*.

! У частках ***святло-*** **(*-а-*)**, ***шкло-*** **(*-а-*)**, ***ільно-*** **(*-а-*)**, ***зло-*** **(*-а-*)** і пад. літары ***о*** і ***а*** пішуцца ў залежнасці ад месца націску ў другой аснове: пры націску на першым складзе другой асновы пішацца літара ***а***, пры націску не на першым складзе — літара ***о***. ***Параўнайце:*** *святл**а**бо́язь* — *святл**о**любі́вы*, *шкл**а**ва́та* — *шкл**о**заво́д*, *ільн**а**во́дчы* — *ільн**о**камбіна́т*, *зл**а**я́касны* — *зл**о**язы́чны*.

## Дадатковыя правілы

**О**

Літара ***о*** ў першай частцы захоўваецца незалежна ад націску ў другой частцы:
- у складаных словах, першымі часткамі якіх з'яўляюцца ***слова-***, ***што-***, ***фота-***, ***мота-***, ***грос-***, ***контр-***, ***проці-***: *словаформа*, *словазмяненне*, *штогод*, *штогадовы*, *фотаплёнка*, *фотаапарат*, *мотаспорт*, *мотакалона*, *гросмайстар*, *контратака*, *процілегла*;

  ! **Выключэнні:** *фатаграфія*, *матацыкл*, *матавоз* і вытворныя ад іх.

- у словах-тэрмінах з першай часткай ***азона-***, ***азотна-***, ***збожжа-***, ***іголк-***, ***калон-***, ***кокса-***, ***мова-***, ***мангола-***, ***матора-***, ***прырода-***, ***работа-***, ***ружова-***, ***свабода-***, ***усхода-***, ***фонда-***, ***фосфарна-***, ***япона-***: *азотнакіслы*, *збожжасховішча*, *мовазнаўства*, *ружоватвары*, *японавед*;
- калі першы націскны склад другой часткі пачынаецца з ***ў***: *марозаўсто́йлівы*, *солеўсто́йлівы*;
- калі ў другой частцы складанага слова выпадае прыстаўны галосны перад збегам зычных: *вокамгненна*, *вокамгненны*;
- у лічэбніку ***восемсот***; але: *васьмісоты*, *васьмістам*;
- калі першая частка з'яўляецца формай роднага склону лічэбнікаў ***тры***, ***трыста***, ***чатыры***, ***чатырыста***, ***дзевяноста***, ***дзвесце***: *трохструнны*, *чатырохтысячны*, *дзевяностагоддзе*, *двухсотгоддзе*;
- у складаных словах, што пішуцца праз злучок: *чорна-белы*, *чырвона-буры*, *малочна-белы*.

**А**

Літара ***а*** ў першай частцы захоўваецца незалежна ад націску ў другой частцы:
- калі неабходна пазбегнуць двухсэнсоўнасці: *кашападобны* (ад *ка́ша*) — *кошападобны* (ад *кош*), *славалюбівы* (ад *сла́ва*) — *словалюбівы* (ад *сло́ва*);
- у частках ***кіна-***, ***вела-***: *кінафільм*, *кінаафіша*, *велагоншчык*, *велазавод*;
- у частцы ***адна-*** (у такіх словах не ўзнікае пабочны націск, таму яны пішуцца як простыя словы): *адначасова*, *аднaзначна*.

**О – А**

Частка ***поў-*** пішацца пад націскам: *поўнач*, *поўдзень*; частка ***паў-*** — не пад націскам: *паўночны*, *паўвостраў*, *паў-Беларусі*.
Калі першая частка з'яўляецца формай роднага склону лічэбнікаў ***сорак*** і ***сто***, яна захоўваецца нязменна незалежна ад націску: *саракаградусны*, *саракатонны*, *стагодні*, *статысячны*, *стапрацэнтны*.

**Э**

Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца: *трэцякласнік*, *рэдкалессе*, *шэравокі*, *шэсцьсот*; але: *шасцісоты*, *шасцідзесяцігадовы* (у складаных словах, утвораных ад лічэбніка ў форме роднага склону і іншага слова, першая частка захоўваецца ў форме лічэбніка роднага склону).

**О, Э – Ы**

У першай частцы складанага слова можа адбывацца чаргаванне складоў са спалучэннямі ***ро***, ***рэ*** са складамі з ***ры***. Калі націск падае на першы склад другой часткі, то ў першай на месцы ***о*** ўзнікае ***ы***.

***Параўнайце:***

| | |
|---|---|
| кро́вацячэнне | крываце́к |
| кро́вазліццё | крывасмо́к |
| кро́ватачывы | крывапі́вец |
| кро́васпыняльны | крываду́шны |
| дро́ванарыхтоўка | дрывасе́к |
| (*спец.* ад *дро́вы*) | дрывако́л |

**Запомніце!** Калі складаныя словы маюць больш за дзве часткі, то кожная з гэтых частак пішацца як асобна ўзятае слова: *авіяматорабудаванне*, *кінафоталабараторыя*, *мотабалотаход*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***о***:

☐ 1) м_тавоз;
☐ 2) усх_дазнавец;
☐ 3) в_даправодны;
☐ 4) ст_годні;
☐ 5) п_лівітаміны;
☐ 6) с_нцапёк;
☐ 7) пр_ціболевы;
☐ 8) мал_чнакіслы;
☐ 9) в_страслоў;
☐ 10) м_тацыкліст.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***о***:

- ☐ 1) руж_ватвары;
- ☐ 2) н_ваўтвораны;
- ☐ 3) ст_метровы;
- ☐ 4) ч_рна-буры;
- ☐ 5) тр_хсоттонны;
- ☐ 6) п_літэхнікум;
- ☐ 7) м_вазнаўства;
- ☐ 8) р_ўнапраўе;
- ☐ 9) в_дацёк;
- ☐ 10) м_тагонкі.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***а***:

- ☐ 1) зак_надаўства;
- ☐ 2) ч_рнавалосы;
- ☐ 3) мн_газначны;
- ☐ 4) сваб_далюбства;
- ☐ 5) ф_таграфічны;
- ☐ 6) пр_цівірусны;
- ☐ 7) ст_рублёвы;
- ☐ 8) г_рналыжнік;
- ☐ 9) др_васек;
- ☐ 10) д_брадзей.

**Варыянт 4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***а***:

- ☐ 1) б_мбасховішча;
- ☐ 2) гр_смайстар;
- ☐ 3) р_ўназалежны;
- ☐ 4) сваб_далюбны;
- ☐ 5) д_ўгалецце;
- ☐ 6) п_ўнакроўны;
- ☐ 7) прыр_дазнавец;
- ☐ 8) ж_ўталісце;
- ☐ 9) ч_рнабровы;
- ☐ 10) ф_такамера.

**Варыянт 5.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***э***:

- ☐ 1) стр_мгалоў;
- ☐ 2) ш_разём;
- ☐ 3) стр_лавідны;
- ☐ 4) сонц_стаянне;
- ☐ 5) ш_сцьсот;
- ☐ 6) др_ванасаджэнне;
- ☐ 7) пч_лаводства;
- ☐ 8) ц_наўтварэнне;
- ☐ 9) р_дканаселены;
- ☐ 10) ш_сцісоты.

# УРОК 8 Правапіс галосных Е, Ё — Я ў простых словах



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- ☐ 1) б_споцлінны;
- ☐ 2) с_лянін;
- ☐ 3) гн_здаванне;
- ☐ 4) ве_лка;
- ☐ 5) вег_тацыя;
- ☐ 6) гал_рэя;
- ☐ 7) с_мнаццаты;
- ☐ 8) абан_мент;
- ☐ 9) высм_яць;
- ☐ 10) н_ўзгоднены.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***я***:

- ☐ 1) выл_піць;
- ☐ 2) дз_вяцера;
- ☐ 3) ск_птычны;
- ☐ 4) кал_ндар;
- ☐ 5) сув_зь;
- ☐ 6) ц_жкаваты;
- ☐ 7) в_львет;
- ☐ 8) кашл_ць;
- ☐ 9) спов_дзь;
- ☐ 10) аві_цыйны.

**Ё**

**Літара *ё* ў беларускай мове пішацца толькі пад націскам:** *цёплы*, *лёгкі*, *вёска*, *далёка*, *дэталёвы*, *сёлета*; але: *радыё*.

! Не пад націскам *ё* пішацца ў словах з каранямі ***ёд-*** і ***ёт-***: *ёдаваны*, *ёдапірын*, *ётаваны*, *ётацыя*, *ётаванне*.

**Е**

**Літара *е* пішацца:**

- пад націскам (у адпаведнасці з вымаўленнем): *це́сна*, *зе́млі*, *Ве́нгрыя*;
- ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам: *зеленава́ты*, *лесні́кі*, *вы́печка*, *вы́седжаны*, *медзведзяня́*, *чэ́рвень*, *водмель*, *вы́меняць*, *вы́бераш*;
- у першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў: *балеры́на*, *сезон*, *Еўропа*, *Берлі́н*, *Везу́вій*, *Вене́цыя*, *Палесці́на*, *Непа́л*;
- у ненаціскных складах пасля [г'], [к'], [х']: *генера́л*, *герметы́чны*, *кера́міка*, *кенгуру́*, *херуві́м*, *Хеопс*, *Геленджы́к*, *Туркеста́н*, *Георгій* і вытворных ад іх;
- у часціцы ***не*** і прыназоўніку ***без*** незалежна ад вымаўлення: *не быў* [н'а⁀бы́ў], *не была* [н'э⁀была́], *без нас* [б'аз⁀на́с], *без мяне* [б'эз'⁀м'ан'э́]. Пры напісанні са словамі разам часціца ***не*** і прыназоўнік ***без*** становяцца прыстаўкамі і падпарадкоўваюцца агульным правілам напісання ***е*** і ***я*** пры перадачы якання: ***не****тыпо́вы* — ***ня****дзе́йсны*, *б****е****здако́рны* — *б****я****згу́чны*.

**Я**

**Літара *я* замест *ё*, *е* пішацца:**

- у першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах: *лёгкі* — *лягчэ́йшы*, *цвёрды* — *зацвярдзе́лы*, *ве́цер* — *вятры́*, *дзе́вяць* — *дзявя́ты*, *дзе́сяць* — *дзязя́ты*, *сем* — *сямна́ццаць*, *дзе́сяць* — *пяцьдзяся́т*, *пяцідзяся́ты*;
- у першым складзе перад націскам у даўно запазычаных словах: *дзяжу́рны*, *каляндáр*, *яфрэ́йтар*, *сяржа́нт*, *яле́й*, *янот*, *яўрэ́й*, *яхі́дны*, *ярмолка*, *язмі́н*.

**Пачатковая літара *я*** незалежна ад націску захоўваецца ва ўласных назвах і ў корані слова: *Якуб*, *Яраслаў*, *Яраслававіч*, *Яраслаўль*; *ястраб* — *ястрабок*, *яр* — *ярына́*, *ясень* — *ясянёвы*.

**Літара *я* ў няпершым пераднаціскным складзе** пішацца толькі тады, калі ў аднакаранёвых словах пад націскам ёсць этымалагічны гук [а]: *пяцярня́* — *пяць* [п'ац'], *лямантава́ць* — *ля́мант* [л'а́мант]. Традыцыйныя напісанні неабходна запомніць: *мяккава́ты*, *святкава́ць*, *цягаві́ты*, *цяжкава́ты*, *яскра́вы*, *япру́к* — *япрука́*, *ядло́вец* — *ядло́ўцавы*, *язы́к* — *языка́ты*.

**Літара *я* ў паслянаціскных складах** пішацца:

- у суфіксах назоўнікаў ***-яч***, ***-язь***, ***-ядзь***: *дзеяч*, *дробязь*, *боязь*, *роўнядзь*, *Бесядзь*; але: *споведзь*, *запаведзь*;
- у суфіксах дзеясловаў (*лаяць*, *веяць*, *сеяць*, *муляць*, *кашляць*, *баяць*), а таксама ў аддзеяслоўных назоўніках з суфіксамі ***-ялк-*** (*сеялка*, *веялка*) і ***-янк-*** (*лаянка*).

**Літара *я* традыцыйна** пішацца ў некаторых паслянаціскных складах у корані (*выцягнуць*, *вывязаць*), суфіксах (*месяц*, *памяць*, *пояс*, *тысяча*, *заяц*, *дзевяць*, *дзесяць*, *Прыпяць*) і ў канчатках (*песняй*, *хваляў*, *раннія*, *сённяшняга*, *трэцяму*).

## Спалучэнні галосных у запазычаных словах

**Запомніце!** У запазычаных словах спалучэнні ***іо***, ***йо*** (у мовах-крыніцах) у беларускай мове на пісьме абазначаюцца па-рознаму:

1) калі пры вымаўленні спалучэнне разбіваецца на два склады:

- у пачатку слоў спалучэннем ***іо*** пад націскам, ***іа*** — не пад націскам (*іон* — *іанізáцыя*);
- у сярэдзіне слоў паміж зычнымі спалучэннем ***іё*** (***ыё***) пад націскам, ***ія*** (***ыя***) — не пад націскам (*біёлаг* — *біялогія*);

2) калі пры вымаўленні спалучэнне не разбіваецца на два склады:

- у пачатку слоў літарай ***ё*** (*ёгурт*, *ёд*, *ёдзісты*);
- у сярэдзіне слоў паміж зычнымі літарай ***ё*** пад націскам, літарай ***я*** — не пад націскам (*раён*, *маёр*; *маянэ́з*).



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- 1) цем_нь;
- 2) лег_ндарны;
- 3) ды_метральны;
- 4) адв_чорак;
- 5) унів_рсальны;
- 6) акс_суары;
- 7) пам_ць;
- 8) н_людзімы;
- 9) бо_зь;
- 10) дз_сятковы.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- 1) баск_тбол;
- 2) дроб_зь;
- 3) б_згустоўны;
- 4) н_езджаны;
- 5) венз_ль;
- 6) се_лка;
- 7) б_нзін;
- 8) дз_вяты;
- 9) выл_цець;
- 10) тыс_чны.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- 1) б_здзейны;
- 2) вес_ла;
- 3) л_генда;
- 4) з_ніт;
- 5) _длаўцовы;
- 6) цец_рук;
- 7) н_загойны;
- 8) з_ляніна;
- 9) пал_шукі;
- 10) дал_чынь.

**Варыянт 4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***я***:

- 1) ла_нка;
- 2) эл_мент;
- 3) выгл_д;
- 4) бал_рына;
- 5) та_мніца;
- 6) цв_рдаваты;
- 7) н_ўхільна;
- 8) выдз_ўбці;
- 9) б_сплатна;
- 10) фе_рверк.

**Варыянт 5.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***я***:

- 1) воз_ра;
- 2) св_ткаваць;
- 3) удал_чыні;
- 4) п_цярня;
- 5) пап_рэдні;
- 6) вары_тыўны;
- 7) з_мляны;
- 8) зн_важаць;
- 9) б_звізавы;
- 10) зав_зь.

# УРОК 9 Правапіс галосных Е, Ё — Я ў складаных словах



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- 1) дз_вяцігадовы;
- 2) л_гказасваяльны;
- 3) в_лікадушны;
- 4) цв_рданасенны;
- 5) в_лікагаловы;
- 6) с_рпападобны;
- 7) ц_мнавокі;
- 8) в_лікаўзроставы;
- 9) зв_рагадоўля;
- 10) в_лікарослы.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***я***:

- ☐ 1) кропл_падобны;
- ☐ 2) зерн_сховішча;
- ☐ 3) музе_знаўства;
- ☐ 4) крыштал_оптыка;
- ☐ 5) вогн_ўстойлівы;
- ☐ 6) вільгац_ёмістасць;
- ☐ 7) кра_знаўца;
- ☐ 8) рады_логія;
- ☐ 9) кра_вугольны;
- ☐ 10) рады_сувязь.



ТЭОРЫЯ

Злучальныя галосныя ***е*** і ***я*** пішуцца пасля асноў на мяккі зычны, прычым галосная ***я*** — толькі тады, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова: *жыццелюбівы*, *жыцця̀радасны*. Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам: *землеўла́снік*.

Літара ***е*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца незалежна ад месца націску ў другой частцы: *светапогляд*, *светаадчуванне*, *землеапісанне*, *землямерны*.

Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, напісанне літар ***е*** або ***я*** ў гэтай аснове залежыць ад месца націску ў другой частцы: літара ***е*** пішацца, калі націск падае на першы склад другой часткі.

***Параўнайце:***

| | |
|---|---|
| велікаду́шны | вялікагало́вы |
| велікаро́слы | вялікадзяржа́ўны |
| велікасве́цкі | Вялікабрыта́нія |

Але: *Вялі́кдзень — велікодны*.

! Літара ***я*** ў першай частцы ***вяліка-*** захоўваецца ў складаных словах, другая частка якіх пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам: *вялікаўзроставы*.

Літара ***ё*** ў першай частцы складаных слоў захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова: *мёдавара́нне*, *цёмнавало́сы*; пры націску на першым складзе другой часткі ў першай частцы пішацца літара ***е***: *медазбо́р*, *цемнаску́ры*. Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца, калі першы націскны склад другой часткі пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам: *лёгкаўзброены*.

! Частка *цепла-* пішацца нязменна.

**Запомніце!** Частка ***радыё-*** пішацца нязменна ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыё': *радыёвузел*, *радыёграма*, *радыёкропка*, *радыёінжынер*, *радыётэлефон*; частка ***радые-*** (***радыя-***) пішацца ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыю, радыяцыі': *радыенукліды*, *радыеактыўны*, *радыялогія*, *радыяграфія*.

Складанаскарочаныя словы разглядаюцца як простыя словы з адным націскам: *лясгас*, *сяльмаг*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- ☐ 1) м_даносны;
- ☐ 2) цв_рдахарактарны;
- ☐ 3) в_лікагрузны;
- ☐ 4) дал_каўсходні;
- ☐ 5) цв_рдацелы;
- ☐ 6) л_дарэз;
- ☐ 7) в_лікаакіянскі;
- ☐ 8) ц_мнабровы;
- ☐ 9) ц_плалюбівы;
- ☐ 10) л_гкаатлет.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ё***:

- ☐ 1) л_гкаверны;
- ☐ 2) л_дадрабілка;
- ☐ 3) цв_рдавэнджаны;
- ☐ 4) м_даварэнне;
- ☐ 5) л_дакольны;
- ☐ 6) ц_мнавалосы;
- ☐ 7) м_дазбор;
- ☐ 8) цв_рдакаменны;
- ☐ 9) дз_сяціградусны;
- ☐ 10) л_гкапранікальны.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- [ ] 1) хвал_ўтварэнне;
- [ ] 2) дал_гляд;
- [ ] 3) рады_актыўны;
- [ ] 4) карабл_ваджэнне;
- [ ] 5) крыв_творны;
- [ ] 6)земл_ўласнік;
- [ ] 7) рады_хімія;
- [ ] 8) жыцц_апісальны;
- [ ] 9) ча_ўборачны;
- [ ] 10) зме_яшчарка.

**Варыянт 4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***е***:

- [ ] 1) вільгац_зварот;
- [ ] 2) верхн_дзвінскі;
- [ ] 3) земл_апрацоўчы;
- [ ] 4) зме_лоў;
- [ ] 5) сол_ўстойлівасць;
- [ ] 6) жыцц_любства;
- [ ] 7) зме_падобны;
- [ ] 8) ча_апрацоўка;
- [ ] 9) узроўн_мер;
- [ ] 10) камен_драбленне.

**Варыянт 5.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***я***:

- [ ] 1) вільгац_ўстойлівы;
- [ ] 2) земл_роб;
- [ ] 3) рады_вежа;
- [ ] 4) жыцц_радасны;
- [ ] 5) вугл_прамысловы;
- [ ] 6) ча_водства;
- [ ] 7) вогн_тушыцель;
- [ ] 8) камен_пад;
- [ ] 9) рады_экалогія;
- [ ] 10) сярэдн_сутачны.

# УРОК 10 Правапіс літар У і Ў



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***у***:

- [ ] 1) прэзіды_м;
- [ ] 2) ток-шо_;
- [ ] 3) раздзел «Фанетыка» _ падручніку;
- [ ] 4) но_тбук;
- [ ] 5) вёска _здзенскага раёна.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ў***:

- [ ] 1) натары_с;
- [ ] 2) на _весь дзень;
- [ ] 3) па_за;
- [ ] 4) з гэтага _нікальнага адкрыцця;
- [ ] 5) Рана ўстанеш — _сё паспееш зрабіць.

**Тэст № 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ў***:

- [ ] 1) удвая-_трая больш;
- [ ] 2) со_сніца;
- [ ] 3) на _льтракароткіх хвалях;
- [ ] 4) прынялі на «_ра»;
- [ ] 5) танец «Лявоніха» _ канцэрце.



## ТЭОРЫЯ

**У**

**Літара *у* пішацца:**

- у сярэдзіне і на канцы слоў пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных: *д**у**бняк*, *л**у**наць*, *кенг**уру***, *у Пецярб**у**рг**у***;
- у пачатку слова, калі гэтым словам пачынаецца сказ: ***У** лесе было зусім ціха* (Я. Колас). ***У**сё навокал памаладзела* (А. Асіпенка);
- у пачатку слова, калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны ці мяккі знак або пасля знака прыпынку: *Белыя постаці жнеек-сялянак ныраюць **у** залатым моры даспелага жыта* (Я. Колас). *Горы — маршчыны зямлі, **у** якіх век таіцца не адна таямніца* (М. Танк);

- у пачатку ўласных назваў: *ва **У**ручч, на **У**краіну, да **У**льяны, да вострава **У**рангеля*;
- пад націскам у пачатку і ў сярэдзіне слова: *Брэсцкая **у**нія, празрыстая **у**рна, групоўка **у**льтра, новыя **у**нты, чулі **у**ханне савы, а**у**л, ба**у**л, а**у**каць*; у выклічніках ***у**, **у**х, **у**й*;
- у канцы запазычаных слоў не пад націскам: *но**у**-ха**у**, ток-шо**у*** (але: *шоўмен*), *фра**у**, Шо**у**, Ланда**у**, Карата**у***;
- у запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум, -ус***: *акварыу**м**, соцыу**м**, радыу**с**, страу**с*** (і вытворных ад іх).

**Ў**

**Літара *ў* пішацца згодна з беларускім літаратурным вымаўленнем пасля галосных пры пэўных чаргаваннях гукаў.**

**Пры чаргаванні [у] з [ў]:**

- у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку): *ва **ў**ніверсітэт* (але: *з **у**ніверсітэта*). *Сонца **ў**зыдзе і рассыпле золатам прамене* (Я. Колас) (але: *перад **у**зыходам сонца*);
- у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі: *а**ў**дыторыя, а**ў**дыякасета, а**ў**кцыён, ка**ў**чук, па**ў**за, бра**ў**нінг, нака**ў**т, га**ў**птвахта, са**ў**на, фа**ў**на, ра**ў**нд* (выключэнне: *траур*); у частках ***аўт-, аўта-***: *а**ў**т, ска**ў**т, а**ў**тограф, а**ў**тамабіль, а**ў**тсайдар*.

**Пры чаргаванні [л] з [ў]:**

- у сярэдзіне слоў перад зычнымі: *ва**ў**кі, шо**ў**к, по**ў**ны, мо**ў**чкі, па**ў**метра*; але: *памылка, сеялка, веялка, Алжыр, Албанія, Балгарыя, Волга* і інш.;
- у канцы слоў пасля галосных: *піса**ў**, мы**ў**, адчыні**ў*** (перад постфіксам у дзеясловах: *піса**ў**ся, мы**ў**ся, адчыні**ў**ся*); але: *пыл, стол, пасол* (тут не ўзнікае чаргаванне).

**Пры чаргаванні [в] з [ў]:**

- у сярэдзіне слоў перад зычнымі або літарамі ***е, ё, ю, я, і***: *ла**ў**ка, спра**ў**ны, зно**ў**ку, А**ў**стрыя, Ро**ў**да, Ка**ў**каз, са**ў**ю, сала**ў**і, здаро**ў**е*; але: *краіна В'етнам, рака Влтава* і інш.;
- у канцы слоў: *брата**ў**, свато**ў**, вострa**ў**, свякро**ў***.

! Нескладовае ***ў*** пішацца пасля злучка або двукосся (гэтыя значкі не з'яўляюцца знакамі прыпынку), калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *кантрольна-**ў**ліковы, жанчына-**ў**рач, па-**ў**чарашняму, гучнае «**ў**ра», часопіс «Бярозка» **ў**знавіў некаторыя рубрыкі.*



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***у***:

- ☐ 1) па_метра;
- ☐ 2) паводле Брэсцкай _ніі;
- ☐ 3) а_дыязапіс;
- ☐ 4) тэрары_м;
- ☐ 5) сталіца _збекістана.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***у***:

- ☐ 1) восенню, _ лістападзе;
- ☐ 2) гэтага _льтыматуму;
- ☐ 3) п'еса «Тутэйшыя» _ рэпертуары;
- ☐ 4) добра_парадкаваны;
- ☐ 5) браты _ласавы.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ў***:

- ☐ 1) да сястры _ладзіміра;
- ☐ 2) па_торны;
- ☐ 3) сея_ка;
- ☐ 4) машына-_тылізатар;
- ☐ 5) новая _рна.

**Варыянт 4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ў***:

- ☐ 1) стра_сятнік;
- ☐ 2) давай _спомнім;
- ☐ 3) спявалі ва _нісон;
- ☐ 4) фа_на;
- ☐ 5) мароза_стойлівы.

**Варыянт 5.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ў***:

- ☐ 1) на _сходнеславянскіх землях;
- ☐ 2) майстар-_ніверсал;
- ☐ 3) паўднёва-_сходні;
- ☐ 4) дзіця-_нікум;
- ☐ 5) метэа_мовы.

# УРОК 11 Правапіс мяккага знака і апострафа



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць ***мяккі знак***:

☐ 1) міл_ён;
☐ 2) саф_ян;
☐ 3) ц_мяны;
☐ 4) ін_екцыя;
☐ 5) струмен_чык;
☐ 6) ранц_е;
☐ 7) чац_вер;
☐ 8) яблын_;
☐ 9) кон_скі;
☐ 10) агледз_ся.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць ***апостраф***:

☐ 1) дас_е;
☐ 2) уз_яднанне;
☐ 3) сям_я;
☐ 4) кампан_ён;
☐ 5) бар_ер;
☐ 6) здароў_е;
☐ 7) двух_ярусны;
☐ 8) Лук_ян;
☐ 9) бяз_ядзерны;
☐ 10) парц_ера.



ТЭОРЫЯ

## Правапіс змякчальнага мяккага знака

**Змякчальны мяккі знак** у беларускай мове служыць для абазначэння мяккасці зычных [з'], [с'], [дз'] (з мяккага ***д***), [ц'] (з мяккага ***т***), [л'], [н'] і **пішацца** пасля адпаведных гэтым гукам літар:

- на канцы слова: *мазь*, *гусь*, *медзь*, *папараць*, *соль*, *конь*;
- у сярэдзіне слова перад цвёрдым зычным (калі пры змене слова гэты зычны змякчаецца): *разьба — разьбяр*, *просьба — просьбе*, *падзьмуць — падзьме*; перад мяккім зычным (калі пры змене слова гэты зычны становіцца цвёрдым): *ганьбіць — ганьба*;
- пасля [л'] перад наступнымі зычнымі, акрамя [л']: *калька*, *вельмі*, *колькі*, *гульня*; але: *вяселле*, *ралля*, *галлё*, *гуллівы*;
- у некаторых граматычных формах:
  — перад канчаткам ***-мі*** ў назоўніках творнага склону множнага ліку: *коньмі*, *людзьмі*, *дзецьмі*;
  — у назоўніках на ***-ня*** ў родным склоне множнага ліку: *соцень*, *вішань*;
  — перад суфіксам ***-чык***, калі слова без гэтага суфікса заканчваецца на ***-нь***: *грэбень — грабеньчык*, *прамень — праменьчык*; ***параўнайце:*** *бутон — бутончык*;
  — перад суфіксам ***-ск-*** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на ***-нь*** і слова ***восень***: *студзеньскі*, *ліпеньскі*, *восеньскі*;
  — у суфіксах ***-еньк-***, ***-аньк-***, ***-эньк-***: *рэчанька*, *ручанькі*, *слабенькі*, *прыгожанькі*, *старэнькі*;
  — у складаных лічэбніках ***пяцьдзясят***, ***шэсцьдзясят***, ***пяцьсот***, ***шэсцьсот***, ***дзевяцьсот***;
  — у дзеясловах загаднага ладу перад канчаткам 1-й асобы множнага ліку ***-ма***: *гляньма*, *станьма*; перад канчаткам 2-й асобы множнага ліку ***-це*** і перад постфіксам ***-ся***: *будзьце*, *кіньце*, *агледзься*, *звесься*;
  — у прыслоўі ***ледзьве***;
  — у постфіксе ***-сьці***: *чагосьці*, *штосьці*, *з кімсьці*.

**Мяккі знак не пішацца:**

- пасля шыпячых (***ж***, ***дж***, ***ш***, ***ч***), ***р***, ***ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д***, ***т***, а таксама пасля губных ***б***, ***п***, ***м***, ***в***, ***ф***: *бездараж*, *мыш*, *ноч*, *цар*, *д'ябал*, *голуб*, *стэп*, *верф*;
- пасля мяккіх зычных перад мяккімі, калі пры змяненні слова абодва зычныя становяцца цвёрдымі або застаюцца мяккімі: *збіраць — збор*, *змяняць — змена*;
- пры перадачы фанетычнага падаўжэння і марфалагічнага падваення: *ззянне*, *нараджэнне*, *калоссе*;
- перад суфіксам ***-ск-*** у прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на ***-нь***, калі гэтыя назоўнікі не з'яўляюцца назвамі месяцаў: *конскі*, *хатынскі*, *смаргонскі*, *цянь-шанскі*.

## Правапіс раздзяляльнага мяккага знака і апострафа

**Раздзяляльны мяккі знак пішацца:**

- у словах іншамоўнага паходжання пасля літар ***с***, ***дз***, ***ц*** (з ***т*** мяккага), ***л*** і непрыставачных ***н*** і ***з*** перад галоснымі ***е***, ***ё***, ***ю***, ***я***, ***і***, калі яны абазначаюць два гукі ([йэ], [йо], [йу], [йа], [йі]): *ласьён*, *мадзьяр*, *медальён*, *барэльеф*, *мільярд*, *альянс*, *Льюіс*, *Дэньі*;

- ва ўласных назоўніках, утвораных ад імён на **-ій**, перад суфіксам **-еў** (**-ев-**): *Аркадзій — Аркадзьеў, Аркадзьевіч, Васілій — Васільеў, Васільевіч*;
- у словах ***Ілья***, ***Ульяна***, ***Касьян*** і вытворных ад іх;
- у формах дзеяслова ***ліць***: *лью, льеш, выльецца*.

**Запомніце!** *Дзяк, дыякан.*

**Апостраф пішацца** перад ***е***, ***ё***, ***ю***, ***я*** і націскным ***і***:

- пасля прыставак, якія заканчваюцца на зычную: *аб'яднанне, з'язджацца, аб'інець, без'языкі, ін'екцыя, кан'юнктура*;
- у складаных словах пасля частак ***двух-***, ***трох-***, ***чатырох-***, ***шмат-***: *двух'якарны, трох'ярусны*;
- у сярэдзіне слоў пасля зычных, акрамя ***з*** (непрыставачнага), ***л***, ***с***, ***дз***, ***ц*** і ***ў***: *інтэрв'ю, мыш'як, В'етнам, Буш'е, Лук'янаў, сям'я, вераб'іны*; але: *шчаўе, здароўе, салаўіны, саўю, Іўе.*

! Гэтае правіла можна запамінаць інакш: апостраф пішацца ў сярэдзіне слоў пасля губных ***б***, ***п***, ***м***, ***в***, ***ф***, заднеязычных ***г***, ***к***, ***х***, зубных ***д***, ***т***, дрыжачага ***р*** і шыпячых перад галоснымі ***е***, ***ё***, ***ю***, ***я***, ***і***, калі яны абазначаюць два гукі ([йэ], [йо], [йу], [йа], [йі]).

**Апостраф не пішацца:**

- пасля ***ў*** (нескладовага) перад ***е***, ***ё***, ***ю***, ***я***, ***і***: *здароўе, салаўіны, саўём*;
- у складаных і складанаскарочаных словах на мяжы састаўных частак, у тым ліку калі іх часткі пішуцца праз злучок: *цэхячэйка, дзяржюркалегія, трэд-юніён.*



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць ***мяккі знак***:

☐ 1) кагос_ці;
☐ 2) пяц_цю;
☐ 3) мядз_ведзь;
☐ 4) мадз_яры;
☐ 5) жнівен_скі;
☐ 6) з_яднаць;
☐ 7) вагон_чык;
☐ 8) стан_ма;
☐ 9) шэсц_сот;
☐ 10) дз_весце.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць ***мяккі знак***:

☐ 1) песен_ка;
☐ 2) надзем_е;
☐ 3) прыгледз_ся;
☐ 4) п_яўка;
☐ 5) смаргон_скі;
☐ 6) дзец_мі;
☐ 7) мыш_;
☐ 8) дроб_;
☐ 9) чац_вёрты;
☐ 10) Ул_яна.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць ***апостраф***:

☐ 1) раўнапраў_е;
☐ 2) паўшар_е;
☐ 3) прэм_ера;
☐ 4) салаў_і;
☐ 5) з_яднацца;
☐ 6) в_етнамцы;
☐ 7) кан_як;
☐ 8) шмат_ёмісты
☐ 9) мыш_як;
☐ 10) канферанс_е.

# УРОК 12 Правапіс падоўжаных зычных



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільна напісаныя словы:

☐ 1) грамматыка;
☐ 2) плазменны;
☐ 3) упарадкаваннасць;
☐ 4) арцеллю;
☐ 5) накаленнік;
☐ 6) раўніннасць;
☐ 7) пехацiннец;
☐ 8) падэшвенны;
☐ 9) каллекцыя;
☐ 10) суквецце.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх пішуцца падвоеныя зычныя:

☐ 1) пан_ачка;
☐ 2) дзесяц_ю;
☐ 3) кас_ір;
☐ 4) расчулен_ы;
☐ 5) Натал_я;
☐ 6) падверджан_асць;
☐ 7) забыц_ё;
☐ 8) насцен_ы;
☐ 9) распазнаван_е;
☐ 10) Іл_я.



## ТЭОРЫЯ

Зычныя гукі [з’], [с’], [дз’], [ц’], [л’], [н’], [ж], [ш], [ч] у пазіцыі паміж галоснымі могуць вымаўляцца падоўжана. Фанетычнае падаўжэнне на пісьме перадаецца падваеннем адпаведных літар: *рыззё*, *калоссе*, *веццe*, *прыволле*, *сумленне*, *падарожжа*, *зацішша*, *ноччу*, *пяццюдзесяццю*, *мышшу*.
Падоўжаны [дз’] перадаецца спалучэннем літар ***ддз***: *суддзя*, *стагоддзе*, *ладдзя*.
Гукі [л’], [с’] ва ўласных імёнах ***Ілья***, ***Ульяна***, ***Касьян***, ***Емяльян***, ***Юльян***, ***Юльяна***, ***Традзьякоўскі*** і вытворных ад іх словах не падаўжаюцца: *Ільіч*, *Ульянаўск*, *Касьянавіч*.
Гук [л’] не падаўжаецца паміж галоснымі ў формах дзеяслова ***ліць***: *лью*, *выльеш*, *разальюць*.

> ! Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца наогул: *тона*, *група*, *калектыў*, *карэспандэнт*, *аташэ*, *апетыт*, *акардэон*, *Ала*, *Генадзь*.
> **Выключэнні:** *панна*, *бонна*, *донна*, *ванна*, *мецца-сапрана*, *дурра* (расліна), *мадонна*, *саванна*; *Ганна*, *Жанна*, *Сюзанна*, *Мадонна*, *Мекка* і вытворныя ад іх словы.

Напісанне падвоеных зычных назіраецца на стыку марфем: прыстаўкі і кораня (*рассыпаць*, *аддаць*), кораня і суфікса (*насценны*, *падкаленны*), суфікса і постфікса (*мыцца*, *цешыцца*).
У суфіксах прыметнікаў ***нн*** пішацца:
- на стыку ўтваральнай асновы і суфікса паміж галоснымі, калі:
  — утваральная аснова заканчваецца на ***н***, а суфікс пачынаецца з гэтай жа літары: *айчынны*, *глыбінны*;
  — калі аснова слова заканчваецца на ***нн***, а суфікс пачынаецца зычнай ***н***: *ванны* (пакой), *манная* (каша);
  — калі яны ўтвораны ад назоўнікаў на ***-мя***: *іменны*, *імянны*, *племянны*, *страмянны*, *цемянны*; выключэнне: *палымяны*;
- у суфіксах ***-енн-*** (***-энн-***), якія надаюць павелічальнае значэнне (*задуменны*, *свяшчэнны*, *страшэнны*), а таксама ў прыметніках з адносным значэннем (*вогненны*, *брытвенны*).

> ! Адна літара ***н*** пішацца ў суфіксах ***-ан-*** (***-ян-***), ***-ін-*** (***-ын-***): *сярэбраны*, *драўляны*, *шкляны*, *пчаліны*, а таксама ў словах ***сцюдзёны***, ***юны***.

У суфіксах дзеепрыметнікаў пішацца адна літара ***н***: *адчынены*, *заведзены*, *пасеяны*, *улагоджаны*.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх пішуцца падвоеныя літары:

☐ 1) пас_ажыр;
☐ 2) пацяплен_е;
☐ 3) зладжан_асць;
☐ 4) прымадон_а;
☐ 5) пчалін_ы;
☐ 6) пятнаццац_ю;
☐ 7) фірмен_ы;
☐ 8) прычэплен_ы;
☐ 9) выбран_ік;
☐ 10) Ген_адзь.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх пішуцца падвоеныя літары:

☐ 1) свац_я;
☐ 2) падгрудзін_ы;
☐ 3) сам_іт;
☐ 4) цемян_ы;
☐ 5) заціш_а;
☐ 6) сярэбран_ы;
☐ 7) ран_ішнік;
☐ 8) соцен_ы;
☐ 9) сягон_яшні;
☐ 10) раслін_аводства.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх пішуцца падвоеныя літары:

☐ 1) падкрэслен_ы;
☐ 2) пад_оследны;
☐ 3) прафес_ійны;
☐ 4) Прынямон_е;
☐ 5) ак_уратны;
☐ 6) белакачан_ы;
☐ 7) спалучан_асць;
☐ 8) абяз_броіць;
☐ 9) смятан_ік;
☐ 10) юн_ы.

# УРОК 13 Правапіс І, Ы, Й



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***і***:

- ☐ 1) дыза_н;
- ☐ 2) за_нтрыгаваць;
- ☐ 3) спыд_лба;
- ☐ 4) між_нстытуцкі;
- ☐ 5) без_ніцыятыўны;
- ☐ 6) бяспро_грышны;
- ☐ 7) вы_грываць;
- ☐ 8) за_скрыцца;
- ☐ 9) не_стотны;
- ☐ 10) пера_начаны.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***й***:

- ☐ 1) камба_н;
- ☐ 2) пера_мальны;
- ☐ 3) склады_сці;
- ☐ 4) за_грываць;
- ☐ 5) пера_шоўшы;
- ☐ 6) па_менны;
- ☐ 7) пра_снаваць;
- ☐ 8) да_граны;
- ☐ 9) фа_е;
- ☐ 10) пера_менаваць.



ТЭОРЫЯ

**І**

**Літара *і* пішацца:**

- пасля прыставак ***між-***, ***звыш-***, ***пан-***, ***транс-***, ***контр-***, ***гіпер-***, ***супер-***: *міжінстытуцкі*, *звышімклівы*, *паніслямізм*, *трансіарданскі*, *контрігра*, *гіперінфляцыя*, *суперінфекцыя*;
- у другой частцы складанаскарочаных слоў: *педінстытут*, *палітінфармацыя*, *бортінжынер*, *аўтаінспекцыя*.

**Ы**

**Літара *ы* пішацца:**

- пры спалучэнні прыставак ***аб-***, ***ад-***, ***над-***, ***пад-***, ***з-*** (***с-***), ***без-***, ***раз-***, ***уз-***, ***спад-***, ***перад-***, ***дэз-***, ***суб-*** са словамі, што пачынаюцца з ***і***: *сыграць*, *зыначыць*, *безыменны*, *абысці*, *надышоў*, *зымправізаваць*, *дэзынфармацыя*, *безыменны*, *абылгаць*, *абымшэць*, *субынспектар*.

**Й**

**Літара *й* пішацца:**

- пасля прыставак, што заканчваюцца на галосны, замест каранёвага ненаціскнога [і] ў словах, вытворных ад ***ісці***, ***іграць***, ***імя***, ***іначай*** і аднакаранёвых з імі: *зайсці*, *выйсці*, *прыйшоў*, *зайграць*, *выйграць*, *прайграць*, *паймення*, *перайменаваць*, *перайначаны*;
- у словах ***займаць***, ***наймаць***, ***пераймаць***, ***праймаць*** і ўсіх вытворных ад іх.

**!** У астатніх выпадках каранёвы [і] пасля галосных захоўваецца: *заікацца*, *заінтрыгаваць*, *праінфармаваць*, *даімперыялістычны*.

**!** Каранёвы [і] захоўваецца (пасля галосных) пад націскам, калі ўтварае склад: *заінець*, *заіскрыцца*, *выігрываць*, *праігрываць*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***і***:

- ☐ 1) на_грыш;
- ☐ 2) звыш_мклівы;
- ☐ 3) аб_шоўшы;
- ☐ 4) да_грываць;
- ☐ 5) за_скрыцца;
- ☐ 6) дэз_нфекцыя;
- ☐ 7) гіпер_нфляцыя;
- ☐ 8) пед_нстытут;
- ☐ 9) пера_мяноўваць;
- ☐ 10) пра_грацца.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ы***:

- ☐ 1) контр_гра;
- ☐ 2) аб_ржавелы;
- ☐ 3) раз_грацца;
- ☐ 4) з_мправізаваць;
- ☐ 5) звыш_нфляцыя;
- ☐ 6) с_сціся;
- ☐ 7) пан_сламізм;
- ☐ 8) дэз_нфармацыя;
- ☐ 9) с_скаць;
- ☐ 10) борт_нжынер.

**Варыянт 3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***й***:

- ☐ 1) пера_менаваны;
- ☐ 2) пады_граць;
- ☐ 3) вы_шла;
- ☐ 4) пра_маць;
- ☐ 5) пераўзы_дзены;
- ☐ 6) пера_начванне;
- ☐ 7) за_нтрыгаваць;
- ☐ 8) про_грыш;
- ☐ 9) неда_граны;
- ☐ 10) пера_грываць.

# УРОК 14 Правапіс спалучэнняў зычных



## ПРАВЕРЦЕ САВЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- ☐ 1) запознены;
- ☐ 2) атцягнуць;
- ☐ 3) рашчулены;
- ☐ 4) свіслацкі;
- ☐ 5) тлусчавы;
- ☐ 6) двадцатка;
- ☐ 7) свіснуць;
- ☐ 8) людскі;
- ☐ 9) пяшчынка;
- ☐ 10) маладзьба.

**Тэст № 2.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- ☐ 1) (на) сяччатцы;
- ☐ 2) агенцтва;
- ☐ 3) бястрашны;
- ☐ 4) сцерахчы;
- ☐ 5) парыжскі;
- ☐ 6) расселены;
- ☐ 7) загатчык;
- ☐ 8) Навагрудчына;
- ☐ 9) маччын;
- ☐ 10) шаснаццаць.



## ТЭОРЫЯ

### Правапіс спалучэнняў зычных у корані слова

У іншамоўных уласных назвах і словах, утвораных ад іх, каранёвыя спалучэнні зычных захоўваюцца: *Сартр*, *Фейхтвангер*, *Эйнштэйн*, *Бангкок*, *Вентспілс*, *Влтава*, *Гальфстрым*, *Джамалунгма*, *Еўфрат*, *Маньчжурыя*, *Гайдн*, *Гаўптман*, *Куінджы*.

У спалучэнні ***дт*** на канцы іншамоўных слоў зычны [д] не вымаўляецца і не перадаецца на пісьме: *Кранштат*, *Рэмбрант*, *Брант*, *Гумбальт*.

### Правапіс спалучэнняў зычных на стыку прыстаўкі і кораня

Спалучэнне аднолькавых зычных на стыку прыстаўкі і кораня перадаецца падвойным напісаннем адпаведнай літары: *аддаць*, *бяззубы*, *бясстрашны*, *расстанне*, *раззбраенне*, *рассаднік* (інфекцыі).

> ! **Выключэнні:** *расада*, *расол*, *расольнік*, *расаднік* (месца вырошчвання расады) і вытворныя ад іх словы.

Спалучэнні літар ***сч***, ***сш***, ***зж***, ***здж*** перадаюцца на пісьме нязменна: *счапляць*, *расчуліць*, *расчыніць* (вокны), *расчоска*, *расшпілены*, *безжурботна*, *зджаліць*; але: *ушчуваць*, *нішчымны*, *рошчына*, *рашчыніць* (цеста), *ушчыкнуць*.

Калі прыстаўка заканчваецца на ***с***, а корань пачынаецца спалучэннем ***шч***, то на пісьме захоўваюцца ўсе гукі: *расшчаміць*, *расшчодрыцца* (*расшчадрыцца*), *расшчапіць* (палена), *расшчэплівацца* і *расшчапляцца* (пра атамы), *расшчэп*, *расшчэпіна*, *расшчабятацца*.

## Правапіс спалучэнняў зычных на стыку кораня і суфікса

У беларускай мове назіраецца спрашчэнне ў вымаўленні некаторых спалучэнняў зычных шляхам выпадзення з іх складу аднаго гука. Гэтая з'ява адлюстроўваецца на пісьме. (Для параўнання: у рускай мове гэтыя гукі таксама не вымаўляюцца, але на пісьме захоўваюцца.)

Не вымаўляюцца і не перадаюцца на пісьме каранёвыя зычныя перад суфіксальнай ***н***:
- зычны [т] у спалучэнні ***стн***: *посны* (пост), *капусны* (капуста), *свісնуць* (свіст);

> ! Гэтае спалучэнне не захоўваецца ў прыметніках, утвораных ад запазычаных слоў з канцавым ***-ст***: *баласны*, *кантрасны*, *кампосны*, *фарпосны*.

- зычныя [д], [т] у спалучэннях ***здн***, ***рдн***, ***стл***: *праязны* (праезд), *міласэрны* (ад *сардэчны*), *помслівы* (помста);
- зычныя [к], [г] у спалучэннях ***скн***, ***згн***: *бліснуць* (блiскаць), *бразнуць* (бразгаць);
- зычны [ц] на месцы этымалагічнага [т] у спалучэннях ***сцн***, ***сцл***: *абласны* (вобласць), *радасны* (радасць), *шчаслівы* (шчасце);
- зычны [л] у спалучэнні ***лнц***: *сонца*, *сонечны*, *сонейка*.

Спалучэнні каранёвых зычных з суфіксальнай ***с*** (***-ск-***) на пісьме перадаюцца па-рознаму:
- каранёвая ***д*** перадаецца нязменна: *гарадскі*, *заводскі*, *грамадства*, *параходства*, *лідскі*, *людскі*;
- каранёвыя ***с***, ***ж***, ***ш*** (і ***г***, ***х***, якія чаргуюцца з ***ж***, ***ш***) перадаюцца літарай ***с***: *беларускі*, *палескі*, *мноства*, *таварыства*; у прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў, каранёвыя ***з***, ***ж***, ***ш***, а таксама ***г***, ***х***, якія чаргуюцца з ***ж***, ***ш***, на пісьме захоўваюцца: *каўказскі*, *белавежскі*, *пражскі*, *добрушскі*, *чэшскі*, *волжскі*, *выбаргскі*, *казахскі*; але: *Замошша — замошскі*, *Запарожжа — запарожскі*;
- каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** перадаюцца літарай ***ц***: *Дрысвяты — дрысвяцкі*, *кравец — кравецкі*, *казак — казацкі*, *Карэлічы — карэліцкі*; у запазычаных словах неславянскага паходжання спалучэнне каранёвай ***к*** з суфіксальнай ***с*** на пісьме перадаецца нязменна: *таджыкскі*, *баскунчакскі*, *мазамбікскі*, *іракскі*; але: *Хельсінкі — хельсінскі*.

Спалучэнні зычных ***ск***, ***ст***, ***сц*** [*с'ц'*] на канцы кораня могуць чаргавацца са ***шч***: *ласка — лашчыць*, *тоўсты — таўшчыня*, *хрысціць — хрышчоны*.

Спалучэнні каранёвых ***д***, ***т***, ***з***, ***с***, ***ж*** з суфіксальнай ***ч*** перадаюцца нязменна: *наладчык*, *апаратчык*, *перавозчык*, *перапісчык*, *перабежчык*.

Спалучэнні каранёвай ***к*** з суфіксальнай ***ч*** перадаюцца спалучэннем ***чч***: *Слуцк — Случчына*, *Полацк — Полаччына*, *картатэка — картатэччык*.

Каранёвыя зычныя перад [к], які чаргуецца з [ц], перадаюцца нязменна: *на вокладцы*, *у печцы*, *цётцы*, *на дошцы*, *на сцежцы*.

На стыку кораня і суфікса (як і на стыку прыстаўкі і кораня) можа ўзнікаць марфалагічнае падваенне зычных, якое перадаецца на пісьме: *каменны*, *коннік*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- ☐ 1) праездны;
- ☐ 2) атшпіліць;
- ☐ 3) расчараваны;
- ☐ 4) трыццаты;
- ☐ 5) заблісчаць;
- ☐ 6) гігантскі;
- ☐ 7) карыстлівы;
- ☐ 8) паломніцтва;
- ☐ 9) стужка;
- ☐ 10) Полаччына.

**Варыянт 2.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- ☐ 1) супясчаны;
- ☐ 2) французкі;
- ☐ 3) пішчаць;
- ☐ 4) рыбацтва;
- ☐ 5) чатырнадцаць;
- ☐ 6) разчарціць;
- ☐ 7) пладздарм;
- ☐ 8) адчайны;
- ☐ 9) мадэрністскі;
- ☐ 10) сваяцтва.

**Варыянт 3.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- ☐ 1) таварыства;
- ☐ 2) дзевятнадцаць;
- ☐ 3) прыласчаны;
- ☐ 4) разлаваць;
- ☐ 5) кліенцкі;
- ☐ 6) латышскі;
- ☐ 7) (у) частцы;
- ☐ 8) нозьбіт;
- ☐ 9) брэстскі;
- ☐ 10) расчараванне.

# УРОК 15 Марфемная будова слова. Асноўныя спосабы словаўтварэння



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, якія маюць канчатак:

- ☐ 1) чытаючы;
- ☐ 2) адказваў;
- ☐ 3) па-вясноваму;
- ☐ 4) золак;
- ☐ 5) расказваць;
- ☐ 6) стараемся;
- ☐ 7) прыгожа;
- ☐ 8) здарэнне;
- ☐ 9) апранацца;
- ☐ 10) выкананы.

**Тэст № 2.** Адзначце словы з аднолькавай марфемнай будовай:

- ☐ 1) пабрацім;
- ☐ 2) шматмернасць;
- ☐ 3) званковы;
- ☐ 4) паварыха;
- ☐ 5) напружана.



## ТЭОРЫЯ

Кожная структурная частка слова выражае пэўнае значэнне (лексічнае або граматычнае ці абодва разам). Напрыклад, у слове *грушка* ў наяўнасці тры часткі: *груш-к-а* (*груш-* выражае лексічнае значэнне, *-к-* надае памяншальна-ласкальнае значэнне, *-а* — граматычнае значэнне жаночага роду, адзіночнага ліку, назоўнага склону).

**Марфема** — гэта частка слова, якая выражае пэўнае значэнне. Марфемамі з'яўляюцца корань, суфікс, прыстаўка, канчатак, злучальныя галосныя і постфіксы. Марфемы характарызуюцца адзінствам значэння і гукавога выражэння. Так, у словах *фасол-ін-а*, *вінаградз-ін-а*, *гарош-ын-а* прысутнічае суфікс *-ін-* (*-ын-*), які выражае адно і тое ж значэнне адзінкавасці і мае аднолькавы гукавы склад. Адзінства марфемы ў выніку гукавых чаргаванняў не парушаецца. Марфема можа існаваць у розных варыянтах: *снег*, *снеж-н-ы*, *сняг-і*, *сняж-ок* (*г // ж* — гістарычнае чаргаванне, *е // я* — пазіцыйнае чаргаванне). Падоўжаныя гукі ўваходзяць у адну марфему, падвойныя — у розныя: *каменне* — *каменны*.

**Асновай** слова называецца частка слова без канчатка, якая з'яўляецца носьбітам індывідуальнага лексічнага значэння канкрэтнага слова і не змяняецца пры скланенні або спражэнні (г. зн. яна агульная для ўсіх формаў слова): *гараджанін* — *гараджанін-а* — *гараджан-е*. У зменных словах пры скланенні або спражэнні канчаткі змяняюцца, а ў нязменных канчаткаў увогуле не можа быць, нават нулявых, таму іх асновы называюцца ***чыстымі***: *кенгуру*, *аташэ*, *знізу*, *гаварыць*, *чытаючы*. Паводле паходжання асновы могуць быць вытворнымі і невытворнымі. *Невытворныя* асновы супадаюць з коранем, а ў склад *вытворных* асноў, акрамя кораня, уваходзяць афіксы. Так, у слове *мора* аснова невытворная, бо супадае з коранем, а ў словах *марскі*, *марак*, *прыморскі* — вытворныя асновы, бо ў іх складзе ёсць суфіксы і прыстаўкі. Паводле будовы асновы могуць быць простымі і складанымі. *Простыя* асновы ўключаюць у сябе адзін корань, а *складаныя* — два і больш.

**Канчатак** — гэта зменная частка слова, якая служыць для ўтварэння пэўных граматычных формаў слова і для сувязі слоў у словазлучэннях і сказах: *зімов-*[ы] *дзень*, *зімов-*[ая] *раніца*.

У канчатку можа быць нуль гука (калі ў нейкай форме зменнага слова канчатак адсутнічае) — *стол*, *дарог*, *узяў*; адзін гук — *дарог-а*, *стал-ы*; два гукі — *стал-ом*, *мож-аш*; тры гукі — *сін-яя* [с'ін'айа].

Нулявы канчатак з'яўляецца носьбітам граматычнага значэння. Так, у словах *дом*☐, *маладосць*☐, *ноч*☐ ён указвае на форму назоўнага (вінавальнага) склону адзіночнага ліку назоўнікаў; у словах *місак*☐, *стрэх*☐ — на форму роднага склону множнага ліку назоўнікаў; у словах *чытаў*☐, *узяў*☐ — на форму прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку дзеясловаў.

Канчаткаў не маюць словы з чыстай асновай (нязменныя словы). Да іх ліку ў беларускай мове адносяцца неазначальная форма дзеяслова — інфінітыў (*чытаць*, *ісці*, *бегчы*), прыслоўі (*зранку*, *па-твойму*, *удваіх*), дзеепрыслоўі (*чытаючы*, *спяшаючыся*).

**Корань** слова — гэта агульная непадзельная частка ўсіх роднасных слоў, якая выражае іх агульнае лексічнае значэнне. Так, у словах *будаваць*, *будаўнік*, *будаўнічы*, *будоўля*, *пабудова*, *будынак*, *буда*, *будка* агульнай з'яўляецца частка -*буд*-, якая і будзе коранем гэтых слоў. Канкрэтнае ж лексічнае значэнне кожнага слова заключана ў яго аснове.

Карані ў роднасных словах і ў формах слоў могуць мяняць сваё гукавое аблічча ў выніку чаргаванняў. Трэба памятаць, што адзінства кораня ў такіх выпадках не парушаецца: *страх-а — на страс-е — стрэш-к-а — за-стрэшш-а*.

**Прыстаўка** — гэта частка асновы слова, якая стаіць перад коранем і служыць для ўтварэння новых слоў або формаў таго самага слова. Так, прыстаўка ў слове *прадзед* змяняе лексічнае значэнне слова *дзед*, а ў слове *прачытаць* — надае граматычнае значэнне закончанага трывання дзеяслову *чытаць*.

**Суфікс** — гэта частка асновы слова, якая стаіць пасля кораня і служыць для ўтварэння новых слоў або граматычных формаў: *лес* — *лясн-ы*, *казаць* — *казал-а*. Словаўтваральны суфікс можа быць ***нулявым*** (калі ад утваральнага слова адсякаецца канчатак або суфікс: *сінь-∅* ад *сін-і*).

**Постфікс** — гэта афікс, які знаходзіцца ў слове пасля канчатка ці формаўтваральнага суфікса.

Постфіксамі з'яўляюцца:

а) афіксы ***-ся*** (***-ца***, ***-цца***) у формах зваротных дзеясловаў: *мыц-ца*, *мые-цца*, *мыеш-ся*;

б) афікс ***-це*** ў форме 2-й асобы множнага ліку дзеясловаў загаднага ладу: *спявайце*, *дайце*;

в) афіксы ***-сьці*** (***-сь***), ***-небудзь*** у няпэўных займенніках: *каму-сьці*, *што-небудзь*, у прыслоўях: *калісьці*, *дзе-небудзь*.

**Інтэрфікс** — гэта злучальны галосны, г. зн. марфема, якая стаіць у складаным слове паміж простымі асновамі і паказвае на іх сувязь. Гэта галосныя ***а***, ***о***, ***е***, ***я***, ***і*** (*чарн**а**бровы*, *час**о**піс*, *земл**е**ўладанне*, *земл**я**трус*, *пяц**і**годка*), а таксама спалучэнні ***ух*** і ***ох*** (*дв**ух**павярховы*, *тр**ох**павярховы*). Да інтэрфіксаў адносяць і галосны ***у*** ў словах тыпу *дв**у**коссе*, *дв**у**кроп'е*.

## Асноўныя спосабы словаўтварэння

Адрозніваюць ***марфалагічныя*** (марфемныя), ***складанне*** і ***немарфалагічныя*** (немарфемныя) спосабы словаўтварэння.

**Марфалагічны** спосаб уключае ў сябе наступныя разнавіднасці:

1) прыставачны (прэфіксальны): ***перад**гісторыя* ← *гісторыя*, ***пасля**заўтра* ← *заўтра*;

2) суфіксальны: *здольн**асць*** ← *здольн-ы*, *лёгк**а*** ← *лёгк-і*, *завар**ка*** ← *завар-ы-ць*, *небяспеч**н**ы* ← *небяспек-а*;

3) прыставачна-суфіксальны: ***пры**меж**н**ы* ← *мяж-а*, ***уз**лес**ак*** ← *лес*;

4) постфіксальны: *зачыняц**ца*** ← *зачыняць*, *хто**сьці*** ← *хто*, *што**-небудзь*** ← *што*;

5) бяссуфіксны: *уваход-∅-□* ← *уваходз-і-ць*, *чалавеч-∅-ы* ← *чалавек*, *чырвань-∅-□* ← *чырвон-ы*, *паваг-∅-а* ← ← *паваж-а-ць*, *актыў-∅-□* ← *актыўн-ы*;

Разнавіднасці **складання**:

1) ***словаскладанне*** — аб'ядноўваюцца цэлыя словы (без злучальнага галоснага): *вечназялёны*, *добраўпарадкаваны*, *лёгкарастваральны*, *балет-казка*;

2) ***асноваскладанне*** — новае слова ўтвараецца з дзвюх і болей асноў пры дапамозе злучальных галосных (інтэрфіксаў): *кругл-**а**-сутачн-ы* ад *круглыя суткі*, *лес-**а**-парк* ад *лес* і *парк*, *светл-**а**-сін-і* ад *светл-ы* і *сін-і*;

3) ***складана-суфіксальны спосаб*** — асноваскладанне з далучэннем суфікса: *дв-ух-гад-ов-ы* ← *дв-а гад-ы* + + суфікс -*ов*-, *мал-а-снеж-н-ы*, *ус-е-народ-н-ы* (асноваскладанне з далучэннем нулявога суфікса часта называюць ***складана-бяссуфіксным*** спосабам: *лес-а-воз-∅-□*, *чарн-а-бров-∅-ы*);

4) ***абрэвіяцыя*** — утварэнне складанаскарочаных слоў на базе скарочаных слоў або частак і цэлых слоў: *хімфак — хімічны факультэт*, *ААН — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый*, *СНД* [эс-эн-дэ] — *Садружнасць Незалежных Дзяржаў*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж словамі і спосабам іх утварэння. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Зарапад<br>**Б.** Запатрабаванне<br>**В.** За́відна<br>**Г.** Выбар | **1.** Прыставачны<br>**2.** Суфіксальны<br>**3.** Прыставачна-суфіксальны<br>**4.** Бяссуфіксны<br>**5.** Складанне |

**А** □ **Б** □ **В** □ **Г** □

**Варыянт 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж словамі і спосабам іх утварэння. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Шматбаковы<br>**Б.** Практык<br>**В.** Перасяленец<br>**Г.** Антысейсмічны | **1.** Прыставачны<br>**2.** Суфіксальны<br>**3.** Прыставачна-суфіксальны<br>**4.** Бяссуфіксны<br>**5.** Складанне |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

# УРОК 16 Лексіка-граматычныя разрады назоўнікаў



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў сказе назоўніку:
*Зашчабятаў птушыны **хор*** (У. Дубоўка).

☐ 1) агульны; ☐ 3) адушаўлёны; ☐ 5) зборны.
☐ 2) канкрэтны; ☐ 4) асабовы;

**Тэст № 2.** Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў сказе назоўніку:
*Хочацца мне мець адказ на ўсё, што ёсць, што будзе, каб назаўсёды зразумець, што значу я, што значаць **людзі*** (М. Шабовіч).

☐ 1) уласны; ☐ 3) адушаўлёны; ☐ 5) зборны.
☐ 2) канкрэтны; ☐ 4) асабовы;



## ТЭОРЫЯ

**Назоўнік** — самастойная часціна мовы, якая характарызуецца значэннем прадметнасці: *стол*, *сшытак*, *з'ява*, *настаўнік*, *прыяцель*. Назоўнікі адказваюць на пытанні *хто? што?*

У залежнасці ад лексічнага значэння назоўнікі прынята падзяляць на агульныя і ўласныя, адушаўлёныя і неадушаўлёныя, канкрэтныя і абстрактныя, а таксама вылучаць сярод іх зборныя і рэчыўныя. Пры гэтым падзеле ўлічваецца не толькі лексічнае значэнне, але і граматычныя асаблівасці, якімі адна катэгорыя адрозніваецца ад другой. Так, мы гаворым, што катэгорыі роду, ліку і склону з'яўляюцца агульнымі для ўсіх назоўнікаў, аднак трэба мець на ўвазе, што канкрэтныя назоўнікі, напрыклад, змяняюцца па ліках (*кніга — кнігі*, *лыжка — лыжкі*), а абстрактныя, як правіла, ужываюцца або ў адзіночным ліку (*радасць*, *сум*), або ў множным (*паводзіны*, *выбары*).

### Лексіка-граматычныя разрады назоўнікаў[1]

| Разрады | Што абазначаюць | Марфалагічныя прыметы | Прыклады |
|---|---|---|---|
| Агульныя | Назвы шэрагу аднародных прадметаў, з'яў, жывых істот, паняццяў | Маюць формы адз. і мн. ліку | *Дом, лётчык, бег, свята, голуб, мора* |
| Уласныя | Назвы асобных, адзінкавых прадметаў, асоб, паняццяў | Маюць формы толькі аднаго ліку — адз. (такіх назоўнікаў большасць) або мн. | *Беларусь, Нарач, Марс, Янка Купала, часопіс «Нёман», Жучка, кінатэатр «Дружба», Альпы, Баранавічы* |
| | **Заўвага.** Межы паміж гэтымі назоўнікамі рухомыя: 1) уласныя (*Ампер, Бастон*) — агульныя (*ампер, бастон*); 2) агульныя (*бурак, камень, лось*) — уласныя (*Бурак, Камень, Лось*). | | |

[1] Табліца прыводзіцца па кнізе: Сямешка, Л. І. Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. — Мінск : Універсітэцкае, 1996.

| Разрады | | Што абазначаюць | Марфалагічныя прыметы | Прыклады |
|---|---|---|---|---|
| Адушаўлёныя | асабовыя | Назвы асоб | Формы В. скл. мн. ліку супадаюць з формамі Р. скл. (*бачу сыноў, коней — няма сыноў, коней*) | *Чалавек, дзіця, сын, сястра* |
| | неасабовыя | Назвы жывых істот | | *Гусь, салавей, конь, муха* |
| Неадушаўлёныя | | Назвы прадметаў нежывой прыроды і раслін, назвы з'яў, якасцей, стану і г. д. | Формы В. скл. мн. ліку супадаюць з формамі Н. скл. (*бачу палі, лясы*) | *Ружа, аловак, лекцыя, лес, памяць, блакіт, туман, хадзьба* |
| | | **Заўвагі: 1.** Класіфікацыя па адуш.-неадуш. не супадае з падзелам прыроды на жывое і нежывое. Так, назоўнікі *нябожчык, пешка, туз, валет, лялька* і інш. у марфалогіі лічацца адуш., хоць у прыродзе гэта нежывыя прадметы; назоўнікі *статак, натоўп* лічацца неадуш., хоць яны абазначаюць сукупнасць жывых істот. Такія ж назоўнікі, як *мікроб, бактэрыя* і інш., адносяць то да адуш., то да неадуш. **2.** У метафарычных кантэкстах уласцівасці жывых істот ці толькі чалавечыя ўласцівасці могуць пераносіцца на прадметы, рэчы, абстрактныя паняцці, з'явы прыроды. Такі прыём называюць адпаведна адухаўленнем або ўвасабленнем (персаніфікацыяй): *Звязала* ручніком рака, тугім вузлом *злучыла* з лесавіком палевіка і дружбе навучыла (Віт.). | | |
| Канкрэтныя | | Назвы канкрэтных прадметаў, жывых істот (якія існуюць у выглядзе асобных экзэмпляраў) | Маюць формы адз. і мн. ліку. Спалучаюцца з колькаснымі лічэбнікамі (іх можна лічыць) | *Горад, кніга, крок, вучань* (выкл.: *сані, акуляры* і інш.). *Пяць дамоў, два чалавекі* |
| Абстрактныя | | Назвы адцягненых паняццяў, апрадмечаных уласцівасцей, працэсаў, пачуццяў і інш. | Ужываюцца пераважна ў форме адз. ліку. Не спалучаюцца з колькаснымі лічэбнікамі | *Гонар, смех, дабрата, спрыт, бег, цеплыня* |
| | | **Заўвага.** Асобныя абстрактныя назоўнікі могуць у пэўным кантэксце, звычайна вобразным, ужывацца ў форме мн. ліку: *маленькія радасці, марскія глыбіні, першыя ўражанні.* | | |
| Зборныя | | Абазначаюць сукупнасць прадметаў як непадзельнае цэлае | Ужываюцца толькі ў форме адз. л. Зборнасць выражаецца суфіксамі ***-ств-*** (***-цтв-***), [-j-], ***-от-/-ат-***, ***-ур-***, ***-нік-***, ***-няк-*** і інш. | *Сялянства, студэнцтва, пер'е, лістота, прафесура, алешнік, дубняк* |
| | | **Заўвага.** У пэўных кантэкстах назоўнікі, якія маюць суадносныя формы ліку, могуць ужывацца са значэннем зборнасці: *Глядач чакае добрых фільмаў.* | | |
| Рэчыўныя | | Назвы рэчываў, якія можна вымяраць, але нельга лічыць | Маюць формы або толькі адз. ліку (такіх назоўнікаў большасць), або толькі мн. | *Цукар, малако, воцат, вугаль, тлушч, шоўк, суніцы, духі, крупы* |
| | | **Заўвага.** У навуковым і прафесійным маўленні рэчыўныя назоўнікі пры абазначэнні розных відаў рэчыва могуць ужывацца ў мн. ліку: *мінеральныя воды, лячэбныя гразі, калійныя солі.* | | |

**Дадатак да табліцы.**

1. ***Адушаўлёныя*** і ***неадушаўлёныя*** назоўнікі:
   — назвы памерлых людзей *нябожчык, пакойнік, мярцвяк* успрымаюцца як адушаўлёныя істоты, а назоўнік *труп* — як неадушаўлёны: *несці нябожчыка — несці труп*;
   — назоўнікі, што абазначаюць дзіцячыя цацкі (*лялька, салдацік* і пад.), успрымаюцца як адушаўлёныя: *падобныя на лялек, купілі алавяных салдацікаў*; але: *гуляць у лялькі* (*у салдацікі*);
   — адушаўлёныя назоўнікі пры ўжыванні з адценнем зборнасці (у множным ліку), калі абазначаюць уключэнне ў пэўную групу асоб, успрымаюцца як неадушаўлёныя: *пайсці ў салдаты, узвесці ў генералы*;
   — словы *вобраз, тып, характар* у дачыненні да дзеючых асоб у мастацкіх творах адносяцца да неадушаўлёных назоўнікаў: *стварыў цікавыя вобразы, паказаў станоўчыя тыпы.*
2. Да ***рэчыўных*** адносяцца назоўнікі, якія абазначаюць назвы карысных выкапняў, металаў, газаў (*соль, нафта, газ, вадарод*), грунту (*зямля, гліна, чарназём*), лекаў і прэпаратаў (*аспірын, валідол*), злакаў, траў, агародных культур, ягад (*жыта, лебяда, гарох, агрэст, маліны*), харчовых прадуктаў (*хлеб, сыр, цукар, малако*), тканін (*шоўк, вельвет*), будаўнічых матэрыялаў (*вапна, драўніна, шыфер*), прыродных з'яў (*снег, дождж*), касметычных сродкаў (*крэм, памада, пудра*) — іх кампаненты не паддаюцца лічэнню як асобна ўзятыя прадметы.

3. Значэнне ***зборнасці*** выражаецца пры дапамозе характэрных суфіксаў:

***-ств****-а* (-***цтв****-а*): *вучнёўства, кіраўніцтва*;
***-j****-о* (-***j****-е*): *куп'ё, пер'е*;
***-ыj****-а* (-***іj****-а*): *інтэлігенцыя, арыстакратыя*;
***-ат****-а* (-***от****-а*): *бедната, лістота*;
***-н****-я*: *салдатня, дворня*;
***-ур****-а*: *апаратура, мускулатура*;
***-ар****-а*: *дзетвара, машкара*;
***-ін****-а* (-***ын****-а*): *садавіна, ярына*;
***-нік***, ***-няк***: *асіннік, лазняк*;
***-ык****-а* (-***ік****-а*): *сімволіка*;
***-атык****-а*: *праблематыка*;
***-арый***: *інструментарый*.

Некаторыя зборныя назоўнікі ўтвараюцца шляхам падаўжэння зычных: *калоссе, бярвенне*. У частцы назоўнікаў зборнасць выражаецца лексічна: *люд, моладзь, чэлядзь, зброд, хмыз* і інш.

! Не адносяцца да зборных назоўнікі, што абазначаюць такую сукупнасць асоб ці прадметаў, якая паддаецца лічэнню: *лес — змешаныя лясы, група — дзве групы, ансамбль — розныя ансамблі*.

! Рэчыўныя назоўнікі і некаторыя зборныя могуць спалучацца з няпэўна-колькаснымі словамі *многа, мала, шмат, трохі, колькі, столькі, гэтулькі, некалькі*: *многа бульбы* (*кіслароду, солі*; *машкары, звяр'я*).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце абстрактныя назоўнікі:

☐ 1) кілаграм;
☐ 2) рухавасць;
☐ 3) аднаўленне;
☐ 4) занятак;
☐ 5) маланка;
☐ 6) існаванне;
☐ 7) характво;
☐ 8) вецер;
☐ 9) рамантызм;
☐ 10) барацьба.

**Варыянт 2.** Адзначце асабовыя назоўнікі:

☐ 1) весялун;
☐ 2) сялянства;
☐ 3) працаўніца;
☐ 4) народ;
☐ 5) патрыёт;
☐ 6) дзетвара;
☐ 7) старшыня;
☐ 8) творца;
☐ 9) муляр;
☐ 10) моладзь.

**Варыянт 3.** Адзначце зборныя назоўнікі:

☐ 1) нафта;
☐ 2) лісце;
☐ 3) морква;
☐ 4) студэнцтва;
☐ 5) клавіятура;
☐ 6) малако;
☐ 7) адміністрацыя;
☐ 8) снег;
☐ 9) сузор'е;
☐ 10) крупы.



## ПАЎТАРЭННЕ

**Варыянт 1.** Адзначце лексічныя характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў сказе назоўніку:
*Беларусу і ў Парыжы сніцца* ***белізна*** *бяроз і сосен медзь* (П. Панчанка).

☐ 1) сінонімам з'яўляецца слова *бель*;
☐ 2) паронімам з'яўляецца слова *бялізна*;
☐ 3) антонімам з'яўляецца слова *чорны*;
☐ 4) ужыта ў прамым значэнні;
☐ 5) мнагазначнае слова.

**Варыянт 2.** Знайдзіце сярод пранумараваных слоў тыя, у якіх колькасць гукаў і літар не супадае. Запішыце нумары гэтых слоў.

Магу _дзень(1)_ выхадзіць і _выстаяць(2)_
Пад шатамі асін, бяроз,
Дзе _задуменнасць(3)_ _урачыстая(4)_
Находзіць на _мяне(5)_ з нябёс.

*А. Русецкі.*

☐☐☐☐☐

# УРОК 17 Род назоўнікаў



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Вызначце род назоўнікаў. Лічбай 1 адзначце назоўнікі мужчынскага роду, лічбай 2 — назоўнікі жаночага роду, лічбай 3 — назоўнікі ніякага роду, лічбай 4 — назоўнікі агульнага роду.

☐ 1) дзіця;
☐ 2) палац;
☐ 3) моладзь;
☐ 4) выскачка;
☐ 5) алібі;
☐ 6) канцэрт-лекцыя;
☐ 7) шчолач;
☐ 8) папрашайка;
☐ 9) інтэрв'ю;
☐ 10) рэч;
☐ 11) іржышча;
☐ 12) ваявода;
☐ 13) семя;
☐ 14) пані;
☐ 15) разява;
☐ 16) Чылі;
☐ 17) тарнада;
☐ 18) пюрэ;
☐ 19) кенгуру;
☐ 20) кальрабі;
☐ 21) назола;
☐ 22) жанчына-афіцэр;
☐ 23) сялянства;
☐ 24) дроб;
☐ 25) ранцье;
☐ 26) ціхоня;
☐ 27) выстаўка-продаж;
☐ 28) цюль;
☐ 29) райана;
☐ 30) штаб-кватэра.

**Тэст № 2.** Адзначце словазлучэнні з памылкай у дапасаванні:

☐ 1) чарговы перапіс;
☐ 2) густы цень;
☐ 3) вялікая жаль;
☐ 4) алімпійская медаль;
☐ 5) сіняе чарніла.

**Тэст № 3.** Адзначце словазлучэнні з памылкай у дапасаванні:

☐ 1) белая гусь;
☐ 2) паляўнічая сабака;
☐ 3) балючы мазоль;
☐ 4) смачнае рагу;
☐ 5) вялікая бярэмя.



ТЭОРЫЯ

Па марфалагічных прыметах да мужчынскага роду адносяцца назоўнікі з нулявым канчаткам (*сноп*, *вобраз*, *калодзеж*, *сын*, *іней*, *рой*, *тыдзень*), а таксама невялікая група асабовых назоўнікаў з канчаткам ***-а*** (***-я***) (*дзядзька*, *бацька*, *мужчына*).

Да жаночага роду адносяцца назоўнікі з канчаткам ***-а*** (***-я***) (*хата*, *хваля*), адзінкавыя назоўнікі з нулявым канчаткам пры асновах на губныя, шыпячыя, ***р***, ***ц*** (*глыб*, *печ*, *крой*, *шыр*, *мясцовасць*) і назоўнік ***маці***.

Да ніякага роду адносяцца назоўнікі з канчаткамі ***-а*** (***-я***), ***-о*** (***-ё***), ***-е*** (*мора*, *акно*, *кап'ё*, *калоссе*), назоўнікі на ***-мя*** (*полымя*, *племя*). Ніякі род маюць назоўнікі, якія абазначаюць назвы маладых істот (*дзіця — дзіцё*, *птушаня — птушанё*).

Ёсць шэраг назоўнікаў на ***-а*** (***-я***), якія могуць абазначаць асобу як мужчынскага, так і жаночага полу (*плакса*, *ціхоня*). Іх адносяць да агульнага роду. Назоўнікі мужчынскага роду, што абазначаюць прафесіі

і пасады (*агент*, *пасол*, *інжынер*, *дырэктар*, *старшыня*, *суддзя* і інш.), выкарыстоўваюцца для абазначэння асоб як мужчынскага, так і жаночага полу; у тэкстах род такіх назоўнікаў можа ўдакладняцца пры дапамозе прыметнікаў ці займеннікаў, а таксама дзеясловаў прошлага часу: ***наш*** (***наша***) *аграном*, ***выступіў*** (***выступіла***) *дырэктар*; трэба мець на ўвазе, што дзеясловы-выказнікі пры назоўніках мужчынскага роду, якія абазначаюць жанчын па прафесіі, ужываюцца ў прошлым часе ў форме жаночага роду, а азначэнні пры іх захоўваюць форму мужчынскага роду: ***абследавала*** *вопытны* ***кардыёлаг Пятрова***, *малады* ***лейтэнант Антонава правяла*** *заняткі*.

Пры вызначэнні роду назоўнікаў цяжкасці могуць быць выкліканы дзвюма прычынамі:

1) несупадзеннем назоўнікаў у катэгорыі роду ў беларускай і рускай мовах: у рускай словы *полынь*, *степь*, *шинель*, *дробь*, *запись*, *рукопись*, *на́сыпь*, *тень*, *тяжесть*, *накинь* і інш. адносяцца да жаночага роду, а ў беларускай — да мужчынскага: *палын*, *стэп*, *шынель*, *дроб*, *запіс*, *рукапіс*, *на́сып*, *цень*, *цяжа́р*, *накіп*; *гусь* (у рускай мове гэта назоўнік мужчынскага роду, а ў беларускай — жаночага);
2) у беларускай мове шмат нескланяльных назоўнікаў іншамоўнага паходжання: *аташэ*, *пані*, *місіс*.

## Род нескланяльных назоўнікаў

Пры вызначэнні роду нескланяльных назоўнікаў іншамоўнага паходжання, за выключэннем геаграфічных назваў, пад увагу бярэцца іх лексічнае значэнне:

1) да мужчынскага роду адносяцца назвы асоб мужчынскага полу (*аташэ*, *канферансье*, *маэстра*, *дэндзі*) і назвы жывых істот (*кенгуру*, *калібры*, *поні*); выключэнні: *цэцэ* (муха), *івасі* (рыба), *кальрабі* (капуста) — жаночага роду; мужчынскі род маюць назвы вятроў: *тарнада*, *сірока*, *салана*;
2) да жаночага роду належаць назоўнікі, якія абазначаюць асоб жаночага полу (*фрау*, *фрэйлін*, *міс*, *мадам*, *Элен*, *Мэры*), назвы моў (*хіндзі*, *пушту*, *бенгалі*), назоўнікі *кальрабі* (капуста), *беры-беры* (хвароба), *салямі* (каўбаса), *цэцэ* (муха), *івасі* (рыба);
3) да ніякага роду адносяцца назоўнікі, якія абазначаюць неадушаўлёныя прадметы: *бюро*, *сола*, *турнэ*, *вета*.

Асноўным паказчыкам роду нескланяльнай геаграфічнай назвы з'яўляецца агульны назоўнік, які можна падставіць да геаграфічнай назвы:

а) мужчынскі род — (***горад***) *Тбілісі*, *Сочы*, *Глазга*, *Дэлі*; (***востраў***) *Барнэа*;
б) жаночы род — (***дзяржава***) *Перу*, *Чылі*; (***рака***) *По*, *Місісіпі*, *Місуры*; (***гара***) *Ай-Петры*, *Кіліманджара*; (***пустыня***) *Гобі*;
в) ніякі род — (***возера***) *Антарыа*, *Ківу*.

## Род складанаскарочаных слоў (абрэвіятур)

Граматычны род складанаскарочаных слоў (абрэвіятур) можа вызначацца па структуры скарачэння або па сэнсе.

**Па структуры скарачэння** да мужчынскага роду адносяцца:

- абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковых частак слоў і заканчваюцца на зычны: *калгас* (калектыўная гаспадарка), *рыбгас* (рыбная гаспадарка), *лясгас* (лясная гаспадарка), *юрфак* (юрыдычны факультэт), *прафкам* (прафсаюзны камітэт), *аблвыканкам* (абласны выканаўчы камітэт), *Мінюст* (Міністэрства юстыцыі) (род абрэвіятуры не залежыць ад роду апорнага слова);
- гукавыя абрэвіятуры, падобныя на агульныя назоўнікі мужчынскага роду: *загс* (запіс актаў грамадзянскага стану), *нэп* (новая эканамічная палітыка); калі пішуцца вялікімі літарамі, іх род можа супадаць з родам апорнага кампанента, а можа не супадаць: *ААН* (Арганізацыя Аб'яднаных Нацый) — жаночага роду, бо апорнае слова тут — *арганізацыя*; але: *БАМ* (Байкала-Амурская магістраль) — мужчынскага роду.

Правілы вызначэння роду абрэвіятур **па сэнсе** наступныя:

- род нескланяльных абрэвіятур літарнага тыпу, якія пішуцца вялікімі літарамі, вызначаецца, як правіла, па родзе апорнага слова: *ЭВМ* (жаночы род — электронна-вылічальная *машына*), *МТЗ* (мужчынскі род — Мінскі трактарны *завод*), *ТБМ* (ніякі род — *Таварыства* беларускай мовы);
- калі абрэвіятура ўтворана шляхам спалучэння часткі аднаго назоўніка і формы роднага склону другога назоўніка, то абрэвіятура адносіцца да таго роду, да якога належыць слова, ад якога ўтворана першая частка абрэвіятуры: *камроты* (м. — камандзір роты), *кампалка* (м. — камандзір палка).

## Род складаных назоўнікаў

1. Род складаных назоўнікаў, якія называюць асобу па прафесіі, званні, сацыяльным паходжанні і пад., вызначаецца па назоўніку, які ўказвае на прыналежнасць асобы да пэўнага полу (***жанчына***-*кандуктар* (ж.), *цуда*-***асілак*** (м.)).

2. У складаных назоўніках, якія называюць неадушаўлёныя прадметы, асноўную сэнсавую нагрузку нясе найчасцей першае слова, таму па ім вызначаецца род усяго складанага слова: ***аўтамабіль***-*цыстэрна* (м.), ***зорка***-*гігант* (ж.). У тых выпадках, калі кампаненты можна лёгка памяняць месцамі, род вызначаецца па першым кампаненце: *смачны* ***торт***-*марожанае* (м.), *смачнае* ***марожанае***-*торт* (н.).
3. Род складаных назоўнікаў, якія абазначаюць жывых істот, вызначаецца па першым кампаненце: ***акула***-*молат* (ж.), ***камар***-*даўганожка* (м.); выключэнні: *меч*-***рыба***, *вожык*-***рыба*** і пад. (тут вядучым словам з'яўляецца родавая назва *рыба*).
4. Род складаных назоўнікаў, якія называюць неадушаўлёныя прадметы і ў якіх змяняецца толькі адна частка, вызначаецца па змяняльным кампаненце: *вакуум*-***камера*** — *вакуум*-***камеры*** (ж.), *вакуум*-***апарат*** — *вакуум*-***апарата*** (м.).


ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словазлучэнні з памылкай у дапасаванні:

☐ 1) чорная кава; ☐ 2) высокая насып; ☐ 3) маленькая гусяня; ☐ 4) мужчынскі далонь; ☐ 5) сучасны жывапіс.

**Варыянт 2.** Адзначце словазлучэнні з памылкай у дапасаванні:

☐ 1) прыгожая роспіс; ☐ 2) звонкая салоўка; ☐ 3) лёгкі поступ; ☐ 4) шэрая шынель; ☐ 5) узорыстая намаразь.

# УРОК 18 Лік назоўнікаў


ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце назоўнікі, якія не маюць формы адзіночнага ліку:

☐ 1) мышаняты; ☐ 2) граблі; ☐ 3) нетры; ☐ 4) вогнішчы; ☐ 5) вароты; ☐ 6) гурбы; ☐ 7) грошы; ☐ 8) канікулы; ☐ 9) пачу́ццi; ☐ 10) дзверы.

**Тэст № 2.** Адзначце назоўнікі, якія не маюць формы множнага ліку:

☐ 1) жвір; ☐ 2) квартал; ☐ 3) птаства; ☐ 4) радня; ☐ 5) волас; ☐ 6) трава; ☐ 7) калоссе; ☐ 8) дробязь; ☐ 9) бляск; ☐ 10) поўдзень.


ТЭОРЫЯ

У залежнасці ад формаў ліку назоўнікі падзяляюцца на дзве групы:
1) назоўнікі, якія маюць суадносныя формы адзіночнага і множнага ліку;
2) назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным або толькі ў множным ліку.

Суадносныя паводле значэння формы адзіночнага і множнага ліку маюць назоўнікі з прадметным значэннем — яны абазначаюць прадметы і з'явы рэчаіснасці, што паддаюцца лічэнню і могуць спалучацца з колькаснымі лічэбнікамі: *рука — дзве рукі, палянка — дзве палянкі, падзея — дзве падзеі.*

! Не маюць формаў ліку нескланяльныя назоўнікі з канкрэтным значэннем: *кафэ — тры кафэ, паліто — тры паліто.*

! Суадносныя формы адзіночнага і множнага ліку могуць утвараць і некаторыя абстрактныя назоўнікі: *вучэнне — розныя вучэнні*, *перажыванне — нашы перажыванні*.

Толькі ў адзіночным ліку ўжываюцца ***адзіночналікавыя*** назоўнікі, да якіх адносяцца:
1) назоўнікі са зборным значэннем: *радня*, *лісце*, *моладзь*, *птаства*;
2) назоўнікі з рэчыўным значэннем: *малако*, *жалеза*, *сок*, *снег*;
3) абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць якасці, уласцівасці, прыметы, працэсы, псіхічны стан і інш.: *адраджэнне*, *гнеў*, *спрыт*, *бегатня*, *смех*, *навучанне*, *суседства*;
4) назоўнікі, якія абазначаюць грамадска-палітычныя плыні, вучэнні, формы дзяржаўнага ладу, вытворчыя працэсы, мерапрыемствы, галіны навукі: *феадалізм*, *дэмакратызацыя*, *рэалізм*, *індустрыялізацыя*, *яравізацыя*, *мовазнаўства*;
5) назоўнікі, якія абазначаюць напрамкі свету (*поўнач*, *поўдзень*, *захад*, *усход*), астранамічныя і геаграфічныя аб'екты (*Марс*, *Зямля*, *Беларусь*, *Полаччына*);
6) уласныя імёны (*Іван*, *Каваленка*, *БДУ*).

! Многія адзіночналікавыя назоўнікі ў пэўным кантэксце могуць мець форму множнага ліку, але пры гэтым змяняецца іх лексічнае значэнне: *цукры*, *тлушчы*, *сокі* — разнавіднасці ці гатункі рэчываў; *пяскі*, *снягі* — плошчы, занятыя гэтымі рэчывамі; *Васілі* — некалькі розных асоб з аднолькавым іменем.

Толькі ў множным ліку ўжываюцца назоўнікі з адпаведнай назвай — ***множналікавыя***. Да іх адносяцца:
1) назоўнікі, якія абазначаюць парныя і састаўныя прадметы: *вароты*, *сенцы*, *акуляры*, *вілы*, *соты*;

! Гэтыя назоўнікі могуць спалучацца са зборнымі лічэбнікамі: *двое варот*, *абцугоў*.

2) назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць прадметаў ці з'яў у іх адзінстве: *ападкі*, *прыпасы*, *зараслі*, *грошы*;
3) назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць асоб або пэўныя грамадскія пласты: *бацькі*, *кадры*, *нізы*;
4) назоўнікі, якія паходзяць ад прыметнікаў і абазначаюць віды раслін і жывёл або віды розных выплат: *азімыя*, *тутавыя*, *сумчатыя*, *сутачныя*, *чаявыя*;
5) некаторыя рэчыўныя назоўнікі: *дровы*, *лекі*, *прысмакі*, *выскваркі*;
6) рытуалы, працэсы, стан: *памінкі*, *паводзіны*, *замаразкі*, *зносіны*, *хітрыкі*;
7) гульні, абрады, звычаі, святы: *хованкі*, *вячоркі*, *дажынкі*, *дзяды*;
8) прамежкі часу і прасторавыя паняцці: *суткі*, *будні*, *канікулы*, *гоні*;
9) некаторыя геаграфічныя і астранамічныя назвы: *Баранавічы*, *Асіповічы*, *Гімалаі*, *Філіпіны*, *сузор'е Блізняты*.

Форма множнага ліку ўтвараецца ад формы адзіночнага з дапамогай канчаткаў ***-ы***, ***-і***: *клас — класы*, *салавей — салаўі*. Асобная група назоўнікаў мужчынскага роду з суфіксам адзінкавасці ***-ін-*** утварае форму множнага ліку з дапамогай канчатка ***-е*** (суфікс ***-ін-*** пры гэтым выпадае): *грамадзянін — грамадзяне*, *мінчанін — мінчане*. Некаторыя назоўнікі пры ўтварэнні формы множнага ліку змяняюць аснову: *курыца — куры*, *птушаня — птушанты*. Сустракаецца і **суплетывізм** (утварэнне формаў аднаго і таго ж слова ад розных асноў): *чалавек — людзі*.

У нязменных назоўнікаў форма ліку выражаецца сінтаксічна — формамі дапасавання да іх іншых слоў:

*сіняе галіфэ — сінія галіфэ*;
*наша родная маці — нашы родныя маці*;
*вісіць зімовае паліто — вісяць зімовыя паліто*.

Назоўнікі ў беларускай і рускай мовах у ліку супадаюць не заўсёды. Такія словы неабходна запомніць.

| У рускай мове | У беларускай мове |
|---|---|
| адзіночны лік | множны лік |
| *грудь*<br>*крупа*<br>*конопля*<br>*дверь*<br>*черника*<br>*брусника*<br>*поведение*<br>*двойня* | *грудзі*<br>*крупы*<br>*каноплі*<br>*дзверы*<br>*чарніцы*<br>*брусніцы*<br>*паводзіны*<br>*двайняты* |
| множны лік | адзіночны лік |
| *чернила*<br>*белила*<br>*хлопоты*<br>*сумерки* | *чарніла*<br>*бяліла*<br>*клопат*<br>*змрок* |



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце назоўнікі, форма множнага ліку назоўнага склону якіх утворана правільна:

☐ 1) каласы;
☐ 2) астрава;
☐ 3) фасоліны;
☐ 4) корані;
☐ 5) азёры;
☐ 6) рага;
☐ 7) каменне;
☐ 8) пашпарта;
☐ 9) імхі;
☐ 10) бровы.

**Варыянт 2.** Адзначце назоўнікі, форма множнага ліку назоўнага склону якіх утворана няправільна:

☐ 1) дырэктара;
☐ 2) лясы;
☐ 3) вокна;
☐ 4) нябёсы;
☐ 5) воўкі;
☐ 6) торты;
☐ 7) птушані;
☐ 8) рэбры;
☐ 9) лосі;
☐ 10) тыдзені.

# УРОК 19 Назоўнікі першага скланення. Правапіс канчаткаў



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***-е***:

☐ 1) дзяўчына;
☐ 2) глыбіня;
☐ 3) заслуга;
☐ 4) завіруха;
☐ 5) шчака;
☐ 6) перапёлка;
☐ 7) Света;
☐ 8) узнагарода;
☐ 9) хваля;
☐ 10) Алеся.

**Тэст № 2.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***-ы***:

☐ 1) ружа;
☐ 2) сініца;
☐ 3) дачка́;
☐ 4) рака́;
☐ 5) камера;
☐ 6) вышыўка;
☐ 7) задача;
☐ 8) траска́ (*рыба*);
☐ 9) Вера;
☐ 10) пчолка.



ТЭОРЫЯ

Склонавыя канчаткі залежаць ад характару асновы і месца націску ў слове. Асновы назоўнікаў першага скланення могуць заканчвацца:

— на цвёрды зычны: *вясн-а*;
— на мяккі зычны: *зямл-я*;
— на зацвярдзелы зычны (***ж***, ***дж***, ***ш***, ***ч***, ***р***, ***ц***): *мяж-а*, *душ-а*, *мар-а*;
— на ***г***, ***к***, ***х***: *наг-а*, *рак-а*, *страх-а*.

Аснова можа змяняцца ў выніку чаргавання галосных і зычных: *рука — у руцэ*, *вішня — вішань*, *страха — на страсе*.

Неабходна ведаць спецыфічныя для беларускай мовы канчаткі:

• у назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны ў творным склоне пад націскам канчатак ***-ой*** (***-ою***), не пад націскам — ***-ай*** (***-аю***): *сасной* (*сасною*), *бярозай* (*бярозаю*); у давальным і месным склонах канцавы

цвёрды зычны асновы чаргуецца з адпаведным мяккім: *сасна — на сасне*, *чарада — у чарадзе*, *аплата — пры аплаце*;
- у назоўнікаў з асновай на мяккі зычны ў давальным і месным склонах канчатак **-і**: *хваля — на хвалі*, *станцыя — на станцыі*; у творным (у залежнасці ад націску) — **-ёй** (**-ёю**), **-яй** (**-яю**): *зямлёй* (*зямлёю*), *хваляй* (*хваляю*);
- назоўнікам з асновай на зацвярдзелы ў родным, давальным і месным склонах уласцівы канчатак **-ы**: *мяжа — на мяжы*, *вуліца — на вуліцы*;
- у назоўніках з асновай на **г**, **х** у давальным і месным склонах заднеязычныя [г], [х] чаргуюцца са свісцячымі [з'], [с']: *дарога — на дарозе*, *страха — на страсе*; у творным склоне канчатак залежыць ад націску: *дарог**ай*** (*дарог**аю***), *страх**ой*** (*страх**ою***).

У назоўнікаў з асновай на **к** у давальным і месным склонах пад націскам канчатак **-э**, не пад націскам — **-ы**, пры гэтым заднеязычны [к] чаргуецца са свісцячым [ц]: *дачка́ — дачцэ́*, *рука́ — у руцэ́*; але: *ру́чка — на ру́чцы*.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***–е***:

- ☐ 1) вавёрка;
- ☐ 2) аздоба;
- ☐ 3) яблыня;
- ☐ 4) морква;
- ☐ 5) нумарацыя;
- ☐ 6) Паліна;
- ☐ 7) Лідзія;
- ☐ 8) Зінаіда;
- ☐ 9) Таня;
- ☐ 10) Узда.

**Варыянт 2.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***–і***:

- ☐ 1) гераіня;
- ☐ 2) нядзеля;
- ☐ 3) узнагарода;
- ☐ 4) свацця;
- ☐ 5) шпакоўня;
- ☐ 6) падлога;
- ☐ 7) ніва;
- ☐ 8) Азія;
- ☐ 9) Насця;
- ☐ 10) Марыя.

**Варыянт 3.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***–ы***:

- ☐ 1) пляцоўка;
- ☐ 2) агароджа;
- ☐ 3) шаша;
- ☐ 4) мука́;
- ☐ 5) модніца;
- ☐ 6) натура;
- ☐ 7) рука;
- ☐ 8) Орша;
- ☐ 9) Варвара;
- ☐ 10) луска́.

# УРОК 20 Назоўнікі другога скланення. Правапіс канчаткаў



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме роднага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***–а***:

- ☐ 1) гуманізм;
- ☐ 2) айсберг;
- ☐ 3) твар;
- ☐ 4) куб;
- ☐ 5) камітэт;
- ☐ 6) грып;
- ☐ 7) палец;
- ☐ 8) бокс;
- ☐ 9) віхар;
- ☐ 10) асфальт.

**Тэст № 2.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***-і***:

☐ 1) геній;
☐ 2) музей;
☐ 3) гандаль;
☐ 4) Віталь;
☐ 5) мядзведзь;
☐ 6) певень;
☐ 7) вучань;
☐ 8) узлессе;
☐ 9) кісель;
☐ 10) ветразь.



ТЭОРЫЯ

Для назоўнікаў другога скланення характэрны асновы:
— на цвёрды зычны: *стол*-☐, *золат-а*;
— на мяккі зычны: *дзень*-☐, *край*-☐, *шчасц-е*;
— на зацвярдзелы зычны: *плашч*-☐, *мор-а*;
— на заднеязычныя ***г***, ***к***, ***х***: *бераг*-☐, *замак*-☐, *кажух*-☐.

Аснова можа змяняцца ў выніку чаргавання заднеязычных ***г***, ***х*** са свісцячымі [з'], [с']: *луг — на лузе*, *гарох — у гаросе*. Цвёрды ***т*** чаргуецца з [ц']: *золата — у золаце*, а цвёрды ***д*** — з [дз']: *лёд — на лёдзе*.

! Цяжкасці могуць узнікнуць ва ўжыванні канчаткаў роднага і меснага склонаў.

## Родны склон

Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне могуць мець канчаткі ***-а*** (***-я***) і ***-у*** (***-ю***) у залежнасці ад лексічнага значэння.

Канчатак ***-а*** (***-я***) маюць назоўнікі, якія абазначаюць:
1) асоб і істот: *чалавека*, *агранома*, *каня*, *салаўя*, *Івана*;
2) канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, якія паддаюцца лічэнню: *падручніка*, *відэльца*, *тэлевізара*;
3) установы, прадпрыемствы, грамадскія арганізацыі: *штаба*, *універсітэта*, *завода*;
4) геаграфічныя і астранамічныя паняцці, населеныя пункты, мясцовасці: *горада*, *Віцебска*, *Марса*, *Нёмана*, *пасёлка*;
5) адзінкі вымярэння, пэўныя прамежкі часу: *метра*, *грама*, *рубля*, *ампера*, *літра*, *чэрвеня*, *сезона*, *сеанса*; але: *ранку*, *веку*, *абеду*, *без году тыдзень*, *з году ў год*;
6) часткі цела чалавека або жывёл: *носа*, *рота*, *хваста*; але: *твару*;
7) тэрміны: *радыуса*, *суфікса*, *пратона*, *дзеяслова*, *лагарыфма*; але: *склону*, *тэксту*, *роду*, *ліку*;
8) назвы танцаў і розных гульняў (народных, спартыўных, картачных): *танца*, *вальса*, *крыжачка*, *бокса*, *футбола*, *пасьянса*.

Канчатак ***-у*** (***-ю***) маюць:
1) назоўнікі са зборным значэннем: *лесу*, *пырніку*, *ельніку*, *натоўпу*, *актыву*; але: *сквера*, *скверыка*;

! Назоўнік *народ* у спалучэнні з няпэўна-колькаснымі словамі тыпу *многа*, *мала*, *шмат* ужываецца з канчаткам ***-у*** (*многа народу*), у астатніх выпадках — з канчаткам ***-а*** (*беларускага народа*).

! Назоўнікі з суфіксам ***-ок-*** (*барок*, *гаёк*, *лясок*, *садок*) ужываюцца з канчаткам ***-а***: *барка*, *гайка*, *ляска*, *садка*.

2) абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць:
- абстрактна-разумовыя паняцці, адцягненыя якасці, прыметы: *абавязку*, *азарту*, *блакіту*, *вопыту*, *гневу*, *патрыятызму*, *страху*;
- дзеянні, працэсы, стан, розныя адчуванні і пачуцці: *абеду*, *адпачынку*, *бою*, *вываду*, *звароту*, *загаду*, *маршу*, *пад'ёму*;
- напрамкі ў прасторы, месца, а таксама неакрэсленыя прамежкі часу: *абрысу*, *берагу*, *верху*, *зеніту*, *інтэрвалу*, *краю*, *маршруту*, *стэпу*, *сусвету*, *фармату*;

! Некаторыя назоўнікі гэтай групы з суфіксам ***-ок-*** у родным склоне ўжываюцца з канчаткам ***-а***: *вяршок — вяршка*, *лужок — лужка*.

- грамадскія фармацыі, сацыяльна-палітычныя плыні, навуковыя тэорыі: *капіталізму*, *гуманізму*, *пацыфізму*, *рэалізму*;
- розныя захворванні: *апендыцыту*, *бранхіту*, *грыпу*, *інфаркту*;
- з'явы прыроды, стыхійныя бедствы: *агню*, *ветру*, *ветрыку*, *віхру*, *галалёду*, *грому*, *змроку*, *норду*, *світанку*;
- розныя падзеі ў грамадскім жыцці: *кірмашу*, *фестывалю*, *фэсту*;

3) разнастайныя рэчывы, матэрыялы, у тым ліку хімічныя элементы і злучэнні: *цукру*, *перцу*, *шакаладу*, *кіслароду*, *вугалю* (***параўнайце:*** *ліст дуба — зроблены з дубу*); але: *аўса*, *хлеба*, *бітка*, *торта*, *пірага*, *каравая*, *батона*, *варэніка*, *бліна*, *кекса*.

**Запомніце!** Некаторыя назоўнікі маюць паралельныя канчаткі ***-а*** **(*-я*)** і ***-у*** **(*-ю*)** у залежнасці ад семантыкі, якую набывае слова ў кантэксце: *посуд з крышталю — хакеісты «Крышталя»*, *стаяў ля ўвахода — пяць хвілін да ўваходу*, *без газу — работнікі Мінгаза*, *прыехаў з фронту — камандуючы Першага Беларускага фронта*, *выйшаў з дома — адбіцца ад дому* і інш.

## Месны склон

У месным склоне назоўнікі мужчынскага роду другога скланення могуць мець канчаткі ***-е***, ***-у*** **(*-ю*)**, ***-і***, ***-ы***.

**Запомніце!** Агульныя асабовыя назоўнікі маюць наступныя канчаткі:

| Канчатак | Аснова | Прыклады |
|---|---|---|
| ***-е*** | на цвёрды зычны | (*аб*) *браце*, *апекуне*, *лесаводзе*, *рыбалове*, *Іване* |
| ***-у*** | на ***ж***, ***ш***, ***ч***, ***дж***, ***р***, ***ц***<br>на ***г***, ***к***, ***х*** | (*аб*) *мужу*, *чытачу*, *выхадцу*, *Рыгору*, *Талашу*<br>(*аб*) *геолагу*, *будаўніку*, *пастуху* |
| ***-ю*** | на мяккі зычны | (*аб*) *вучню*, *герою*, *кавалю*, *Мікалаю* |

Назоўнікі *дзед*, *прадзед* маюць варыянтныя канчаткі: *пры дзедзе* і *пры дзеду*, а назоўнікі з націскным канчаткам ***-о*** тыпу *Пятро* скланяюцца як назоўнікі з нулявым канчаткам: *аб Пятру*.

Канчатак ***-е*** маюць неадушаўлёныя назоўнікі з асновай на цвёрдыя зычныя і на ***г***, ***х*** (калі чаргуюцца з мяккімі ***з***, ***с***): *у голасе*, *у стозе*, *на паверсе*.

Канчатак ***-у*** **(*-ю*)** маюць:

1) усе назоўнікі мужчынскага роду з асновай на ***к***: (*на*) *ветраку*, *досвітку*, *пагорку*, *пачатку*, *скрутку*;
2) некаторыя канкрэтныя назоўнікі з асновай на ***г***, ***х***: (*аб*) *мозгу*, *сцягу*, *мурагу*, *тварагу*, *даху*, *арэху*, *мяху*, *лопуху*, *цэху*, *шляху*; але: *у снезе*, *на беразе*, *на паверсе*;
3) абстрактныя назоўнікі з асновай на ***г***, ***х***: (*аб*) *бегу*, *подзвігу*, *граху*, *смеху*, *руху*, *страху*;
4) запазычаныя назоўнікі з асновай на ***г***, ***к***, ***х***: (*аб*) *бульдогу*, *жэмчугу*, *дыялогу*, *бруку*, *друку*, *штрыху*;
5) злучэнні з прыназоўнікамі ***на***, ***па***, ***у***: *на ляту*, *на бягу*, *на раду*, *у хаду*, *на віду*, *у даўгу*;
6) назоўнікі ніякага роду з асновай на ***к***, ***х***: *у вуху*, *на воблаку*, *аб рэху*; назоўнік *малако* ўжываецца з канчаткам ***-у***: *у малаку* (радзей — з ***-э***: *у малацэ*).

Канчатак ***-і*** пішацца ў назоўніках мужчынскага і ніякага роду, аснова якіх заканчваецца на мяккі зычны: *агонь — у агні*, *музей — у музеі*, *поле — у полі*.

Канчатак ***-ы*** маюць назоўнікі з асновай на зацвярдзелы зычны (шыпячыя, ***р***, ***ц***): *на нажы*, *у бары*, *на пляцы*, *на ўзвышшы*, *на месцы*. Назоўнік *двор* са значэннем 'не ў хаце' мае канчатак ***-э***. ***Параўнайце:*** *гулялі ў двары — холадна на дварэ*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме роднага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***–а***:

☐ 1) вопыт;
☐ 2) суфікс;
☐ 3) гоман;
☐ 4) штаб;
☐ 5) вальс;
☐ 6) стэп;
☐ 7) раён;
☐ 8) гумар;
☐ 9) смутак;
☐ 10) хлеб.

**Варыянт 2.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***–і***:

☐ 1) палын;
☐ 2) лісце;
☐ 3) прамень;
☐ 4) госць;
☐ 5) кап'ё;
☐ 6) поле;
☐ 7) герой;
☐ 8) звычай;
☐ 9) конь;
☐ 10) Анатоль.

**Варыянт 3.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***-ю***:

- [ ] 1) вызваліцель;
- [ ] 2) Аляксей;
- [ ] 3) зерне;
- [ ] 4) збавіцель;
- [ ] 5) Генадзь;
- [ ] 6) гай;
- [ ] 7) верабей;
- [ ] 8) каваль;
- [ ] 9) алень;
- [ ] 10) стыль.

**Варыянт 4.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***-ы***:

- [ ] 1) дырыжор;
- [ ] 2) багаж;
- [ ] 3) заяц;
- [ ] 4) плашч;
- [ ] 5) глядач;
- [ ] 6) палац;
- [ ] 7) хітрэц;
- [ ] 8) плячо;
- [ ] 9) геолаг;
- [ ] 10) дрэўца.

**Варыянт 5.** Адзначце назоўнікі, якія ў форме меснага склону адзіночнага ліку маюць канчатак ***-е***:

- [ ] 1) мост;
- [ ] 2) смех;
- [ ] 3) Раман;
- [ ] 4) універмаг;
- [ ] 5) бераг;
- [ ] 6) нарыс;
- [ ] 7) напарстак;
- [ ] 8) артыст;
- [ ] 9) паверх;
- [ ] 10) Яўсей.

# УРОК 21 Назоўнікі трэцяга скланення. Правапіс канчаткаў. Скланенне назоўнікаў у множным ліку

## Назоўнікі трэцяга скланення. Правапіс канчаткаў



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце назоўнікі, у якіх у форме творнага склону адзіночнага ліку адбываецца падаўжэнне зычнага ў аснове:

- [ ] 1) здольнасць;
- [ ] 2) лань;
- [ ] 3) чвэрць;
- [ ] 4) спіраль;
- [ ] 5) сувязь.

**Тэст № 2.** Адзначце назоўнікі, у якіх у форме творнага склону адзіночнага ліку адбываецца падаўжэнне зычнага ў аснове:

- [ ] 1) глыб;
- [ ] 2) мыш;
- [ ] 3) рысь;
- [ ] 4) ніць;
- [ ] 5) шыр.



ТЭОРЫЯ

У назоўнікаў трэцяга скланення адрозніваюцца асновы:
— на мяккі зычны: *плынь*, *медзь*, *гусь*;
— на губныя зычныя і ***ў***: *крой*, *глыб*, *верф*;
— на шыпячыя: *ноч*, *мыш*, *суш*;
— на ***р***: *шыр*, *Свір*.

Канчаткі прыведзены ў табліцы:

| Склоны | Тыпы асноў і ўзоры скланення | | | |
|---|---|---|---|---|
| | на мяккі | на губны | на шыпячы | на ***р*** |
| **Назоўны** | *столь*<br>*гусь*<br>*медзь* | *кроў*<br>*глыб*<br>*верф* | *ноч*<br>*мыш*<br>*печ* | *шыр*<br>*Свір* |
| **Родны** | *століі*<br>*гусі*<br>*медзі* | *крыві*<br>*глыбі*<br>*верфі* | *ночы*<br>*мышы*<br>*печы* | *шыры*<br>*Свіры* |
| **Давальны** | *століі*<br>*гусі*<br>*медзі* | *крыві*<br>*глыбі*<br>*верфі* | *ночы*<br>*мышы*<br>*печы* | *шыры*<br>*Свіры* |
| **Вінавальны** | *столь*<br>*гусь*<br>*медзь* | *кроў*<br>*глыб*<br>*верф* | *ноч*<br>*мыш*<br>*печ* | *шыр*<br>*Свір* |
| **Творны** | *столлю*<br>*гуссю*<br>*меддзю* | *крывёю*<br>*глыб'ю*<br>*верф'ю* | *ноччу*<br>*мышшу*<br>*печчу* | *шыр'ю*<br>*Свір'ю* |
| **Месны** | *у століі*<br>*у гусі*<br>*у медзі* | *у крыві*<br>*у глыбі*<br>*на верфі* | *у ночы*<br>*у мышы*<br>*у печы* | *у шыры*<br>*на Свіры* |

! У родным, давальным і месным склонах канчаткі аднолькавыя: ***-і***, ***-ы***.

! У творным склоне назіраецца падаўжэнне зычнага асновы (апрача губных і ***р***), калі ён знаходзіцца пасля галоснага, а ў назоўніках з асновамі на губныя і ***р*** пішацца апостраф.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце назоўнікі, у якіх у форме творнага склону адзіночнага ліку адбываецца падаўжэнне зычнага ў аснове:

- ☐ 1) якасць;
- ☐ 2) памяць;
- ☐ 3) моладзь;
- ☐ 4) косць;
- ☐ 5) намаразь;
- ☐ 6) Свіслач;
- ☐ 7) Убарць;
- ☐ 8) Беларусь;
- ☐ 9) Прыпяць;
- ☐ 10) Хатынь.

**Варыянт 2.** Адзначце назоўнікі, у якіх у форме творнага склону адзіночнага ліку пішацца ***апостраф***:

- ☐ 1) любоў;
- ☐ 2) глыб;
- ☐ 3) верф;
- ☐ 4) свякроў;
- ☐ 5) Сібір;
- ☐ 6) туш;
- ☐ 7) шыр;
- ☐ 8) Свір;
- ☐ 9) рэч;
- ☐ 10) моц.

## Скланенне назоўнікаў у множным ліку



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце назоўнікі, форма назоўнага склону множнага ліку якіх утворана правільна:

- ☐ 1) галасы;
- ☐ 2) тыдзені;
- ☐ 3) грамадзяне;
- ☐ 4) птушані;
- ☐ 5) галубы;
- ☐ 6) курыцы;
- ☐ 7) імёны;
- ☐ 8) востравы;
- ☐ 9) цяляты;
- ☐ 10) вараннё.

**Тэст № 2.** Адзначце назоўнікі, форма роднага склону множнага ліку якіх утворана правільна:

- ☐ 1) трамваеў;
- ☐ 2) тыдняў;
- ☐ 3) гамяльчан;
- ☐ 4) коняў;
- ☐ 5) ваўкоў;
- ☐ 6) птушкаў;
- ☐ 7) з'яў;
- ☐ 8) аповесцеў;
- ☐ 9) вуліц;
- ☐ 10) рэчаў.



ТЭОРЫЯ

Назоўнікі ўсіх трох скланенняў у множным ліку ва ўсіх склонах, ***акрамя роднага***, маюць аднолькавыя канчаткі.

| Склон | Канчаткі | Скланенне | Прыклады |
|---|---|---|---|
| Н. | ***-ы*** (з ***цвёрдай*** асновай і асновай на ***шыпячы***, ***р***, ***ц***) | 1-е<br>2-е<br>3-е | *школы, сцены*<br>*сталы, лясы*<br>*ночы, двары, палацы* |
| | ***-і*** (з асновамі на ***мяккі*** і ***г***, ***к***, ***х***) | 1-е<br>2-е<br>3-е | *землі, рэкі, стрэхі*<br>*медалі, парогі*<br>*далі, верфі, гусі* |
| Д. | ***-ам*** (***-ям***) | 1-е<br>2-е<br>3-е | *школам, землям*<br>*сталам, медалям*<br>*рэчам, верфям* |
| В. | ***-ы***, ***-і*** (неадуш.) | 1-е, 2-е, 3-е | *школы, сталы, землі, ночы* |
| | ***нулявы*** канчатак (адуш.) | 1-е | *сясцёр, дачок, цётак* |
| | ***-аў*** (***-яў***) (адуш. не пад націскам),<br>***-оў*** (***-ёў***) (адуш. пад націскам) | 2-е | *інжынераў, братоў, акунёў* |
| | ***-эй*** (***-ей***) (адуш.) | 3-е | *мышэй, гусей* |
| Т. | ***-амі*** (***-ямі***), ***-мі***, ***-ыма*** | 1-е<br>2-е<br><br>3-е | *школамі, землямі*<br>*лясамі, гасцямі*<br>*коньмі, плячыма*<br>*мышамі, гусямі* |
| М. | ***-ах*** (***-ях***) | 1-е<br>2-е<br>3-е | *у школах, на землях*<br>*на сталах, пры медалях*<br>*у мышах, у гусях* |

Канчаткі ***роднага склону*** залежаць ад тыпу скланення назоўніка.

| Скланенне | Характар асновы | Канчаткі | Прыклады |
|---|---|---|---|
| 1-е | аснова заканчваецца збегам зычных або падоўжаным зычным | ***-аў*** (***-яў***) | *бітваў, земляў, ваннаў, сваццяў* |
| | аснова заканчваецца адным зычным | ***нулявы*** канчатак | *школ, сцен* |
| | аснова заканчваецца на зычныя ***г***, ***к***, ***х*** | ***нулявы*** канчатак | *дарог, рук, стрэх* |
| | аснова заканчваецца збегам зычных, апошні з якіх ***к*** | ***нулявы*** канчатак (**!** у корані — беглы галосны) | *вёсак, рэчак* |
| | **!** назоўнікі, якія заканчваюцца на ***-ыя*** (***-ія***) — з асновай на ***-й*** | ***нулявы*** канчатак | *армій, станцый* |
| 2-е | аснова заканчваецца на цвёрды зычны, на шыпячы, ***р***, ***ц***; на ***г***, ***к***, ***х*** | ***-аў*** не пад націскам<br><br>***-оў*** пад націскам | *матываў, хлопцаў, парогаў*<br>*лясоў, нажоў, лугоў* |
| | аснова на мяккі зычны | ***-яў*** не пад націскам<br>***-ёў*** пад націскам | *вучэнняў, трамваяў*<br>*палёў, гаёў* |
| | **!** назоўнікі, якія заканчваюцца на ***-анін*** (***-янін***), ***-чанін***, ***-ін*** (***-ын***) | ***нулявы*** канчатак | *грамадзян, мінчан, балгар* |
| 3-е | незалежна ад характару асновы | ***-аў*** (***-яў***) (не пад націскам)<br>***-эй*** (***-ей***) (пад націскам) | *рэчаў, даляў*<br><br>*мышэй, касцей* |

**У родным склоне *нулявы*** канчатак маюць:
- назоўнікі *ладдзя*, *пападдзя*, *свіння*: *ладзей*, *пападзей*, *свіней*;
- назоўнікі *чалавек*, *дзень*: *пяць чалавек*, *пяць дзён*.

! **У родным склоне** варыянтныя канчаткі ***-оў*** (***-ёў***), ***-аў*** (***-яў***) ці ***нулявы*** могуць мець:
а) назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць адзінкі вымярэння (*ампераў*, *ватаў*), некаторыя парныя прадметы (*валёнкаў — валёнак*, *туфель — туфляў*), асоб некаторых нацыянальнасцей (*турак — туркаў*);
б) назоўнікі *салдат* (*-аў*), *партызан* (*-аў*);
в) назоўнікі ніякага і жаночага роду з асновай на адзін зычны: *бяроз — бярозаў*, *куль — куляў*; але толькі: *кароў*, *траў*, *спраў*, *вуліц*, *настаўніц*, *аперацый* і пад.

**У творным склоне** некаторыя назоўнікі ўжываюцца з варыянтнымі канчаткамі: *грудзямі — грудзьмі*, *касцямі — касцьмі*, *санямі — саньмі*, *свіннямі — свіньмі*.
Назоўнікі *плечы*, *вочы*, *вушы*, *дзверы*, *грошы* ў творным склоне могуць ужывацца з канчаткамі ***-амі*** (***-ямі***) і ***-ыма***: *плячамі — плячыма*, *вачамі — вачыма*, *дзвярамі — дзвярыма*.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце назоўнікі, форма назоўнага склону множнага ліку якіх утворана правільна:

- ☐ 1) вольхі;
- ☐ 2) бервяны;
- ☐ 3) сэрцы;
- ☐ 4) шуфелі;
- ☐ 5) вятракі;
- ☐ 6) рэбры;
- ☐ 7) пашпарта;
- ☐ 8) славяне;
- ☐ 9) сподакі;
- ☐ 10) пёры.

**Варыянт 2.** Адзначце назоўнікі, форма роднага склону множнага ліку якіх утворана правільна:

- ☐ 1) плакс;
- ☐ 2) ліній;
- ☐ 3) кніжкаў;
- ☐ 4) спраў;
- ☐ 5) крыг;
- ☐ 6) стрэльб;
- ☐ 7) сялян;
- ☐ 8) мужчынаў;
- ☐ 9) мячоў;
- ☐ 10) дажынкаў.

# УРОК 22 Правапіс складаных назоўнікаў



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словы, якія трэба пісаць ***разам***:

- ☐ 1) (альпініст) вышыннік;
- ☐ 2) (авія) білет;
- ☐ 3) (паліт) карэктнасць;
- ☐ 4) (грузавік) самазвал;
- ☐ 5) (унтэр) афіцэр;
- ☐ 6) (сама) апраўданне;
- ☐ 7) (чалавека) дзень;
- ☐ 8) (вода) ачыстка;
- ☐ 9) (паў) артыкула;
- ☐ 10) (вакуум) помпа.

**Тэст № 2.** Адзначце словы, якія трэба пісаць ***праз злучок***:

- ☐ 1) (лётчык) выпрабавальнік;
- ☐ 2) (экс) дырэктар;
- ☐ 3) (міні) матч;
- ☐ 4) (радыё) сеанс;
- ☐ 5) (агіт) брыгада;
- ☐ 6) (газа) сховішча;
- ☐ 7) (мікра) арганізм;
- ☐ 8) (ліберал) дэмакрат;
- ☐ 9) (прэм'ер) міністр;
- ☐ 10) (паў) Беларусі.

**Пішуцца разам:**
- складаныя назоўнікі з дзвюх і больш асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальных галосных ***о*** (***а***), ***е*** (***я***): *конезавод*, *льнозавод*, *далягляд*, *землекарыстанне*, *птушкагадоўля*, *чалавекалюбства*;
- складанаскарочаныя словы ўсіх тыпаў утварэння: *сельсавет*, *газпрам*, *журфак*;
- агульныя назвы з часткай ***паў-*** (***поў-***): *поўдзень*, *паўлімона*;
- з пачатковымі іншамоўнымі часткамі ***авія-***, ***агра-***, ***астра-***, ***аўдыя-***, ***аўта-***, ***аэра-***, ***бія-***, ***варыя-***, ***вела-***, ***відэа-***, ***гама-***, ***геа-***, ***грам-***, ***заа-***, ***кіна-***, ***контр-***, ***макра-***, ***медыя-***, ***мота-***, ***неа-***, ***палеа-***, ***радыё-***, ***сацыя-***, ***спарт-***, ***стэрэа-***, ***танц-***, ***тэле-***, ***фота-***, ***электра-*** і пад.: *авіябілет*, *аграхімія*, *аўтамотакрос*, *аўдыявізуальны*, *відэафільм*, *заапарк*, *кінастужка*, *медыятэкст*, *палеаантраполаг*, *спартбаза*, *контратака* (выкл.: *контр-адмірал*);
- складаныя назоўнікі, у якіх першай часткай з'яўляецца дзеяслоўная форма загаднага ладу на ***-і*** (***-ы***): *вярцішыйка*, *сарвігалава*, *вярнідуб*, *прайдзісвет*, *пакацігарошак*; але: *перакаці-поле*;
- складаныя назоўнікі ад'ектыўнага тыпу скланення (гэта субстантываваныя прыметнікі, таму і скланяюцца на ўзор прыметнікаў), калі яны з'яўляюцца навуковымі тэрмінамі: *галаваногія*, *бруханогія*;
- складаныя ўласныя назвы паселішчаў:
  — з пачатковай часткай ***нова-*** (***нава-***), ***стара-***, ***верхне-*** (***верхня-***), ***ніжне-*** (***ніжня-***), ***сярэдне-*** (***сярэдня-***): *Новалукомль*, *Наваполацк*, *Навасады*, *Верхнядзвінск*, *Ніжнявартаўск*, *Сярэдняборск*;
  — з першай часткай ад прыметнікаў тыпу *белы*, *светлы* і пад.: *Краснаполле*, *Крутагор'е*;
  — другой часткай якіх з'яўляюцца ***-горск***, ***-град***, ***-горад*** (***-гарад***): *Светлагорск*, *Петраград*, *Слаўгарад*.

**Пішуцца праз злучок** складаныя назоўнікі:
- у якіх скланяюцца ўсе словы: *папараць-кветка*, *вагон-рэстаран*, *лётчык-касманаўт*, *член-карэспандэнт*;
- у якіх скланяецца толькі апошняе слова: *жар-птушка*, *сон-трава*, *стоп-сігнал*, *генерал-маёр*, *прэм'ер-міністр*, *норд-ост*;
- з аднаслоўным прыдаткам: *лён-даўгунец*, *заяц-русак*, *нявеста-красуня*, *дзед-мароз*, *горад-герой*. Пры адваротным парадку назоўніка і аднаслоўнага прыдатка злучок не пішацца: *красуня нявеста*;
- са значэннем цэласнай адзінкі вымярэння: *кілават-гадзіна*, *тона-кіламетр-гадзіна*, *самалёта-вылет*, *чалавека-дзень*; але: *працадзень*;
- якія называюць прадстаўнікоў палітычных і іншых грамадскіх рухаў і самі партыі, рухі, плыні: *ліберал-дэмакрат* (*-ыя*), *нацыянал-патрыёт*, *сацыял-дэмакрат* (*-ыя*);
- з пачатковымі часткамі ***арт-***, ***віцэ-***, ***вэб-***, ***лейб-***, ***максі-***, ***міні-***, ***обер-***, ***унтэр-***, ***штаб-*** (***штабс-***), ***экс-*** (са значэннем 'які быў раней' пры абазначэнні пасад), ***прэс-***, ***блок-***: *арт-галерэя*, *віцэ-прэм'ер*, *вэб-старонка*, *лейб-гвардыя*, *максі-прэс*, *міні-матч*, *обер-майстар*, *унтэр-афіцэр*, *штаб-ротмістр*, *штабс-капітан*, *экс-чэмпіён*, *экс-прэм'ер*, *прэс-сакратар*, *блок-сігнал*; але: *блокпост*;
- субстантываваныя спалучэнні слоў, якія з'яўляюцца назвамі раслін: *брат-і-сястра*;
- састаўныя прозвішчы, імёны і назвы геаграфічных аб'ектаў: *Бялыніцкі-Біруля*, *Дунін-Марцінкевіч*, *Жан-Жак Русо*, *Аўстра-Венгрыя*, *Камянец-Падольскі*, *Буда-Кашалёва*, *Давыд-Гарадок*;
- уласныя геаграфічныя назвы, якія з'яўляюцца спалучэннем назоўніка з назоўнікам у месным склоне і прыназоўнікам ***на***, а таксама падобнымі іншамоўнымі спалучэннямі слоў з ***дэ***, ***сюр***: *Растоў-на-Доне*, *Франкфурт-на-Майне*, *Па-дэ-Кале*;
- іншамоўныя ўласныя назвы асоб і геаграфічных аб'ектаў з пачатковымі часткамі ***Ван-***, ***Мак-***, ***Нью-***, ***Сан-***, ***Санкт-***, ***Сен-***, ***Сент-***: *Ван-Дэйк*, *Мак-Магон*, *Мак-Кінлі*, *Нью-Кастл*, *Сан-Себасцьян*, *Сан-Марына*, *Санкт-Пецярбург*, *Сен-Санс*, *Сент-Экзюперы*;
- уласныя назвы паселішчаў з пачатковай часткай ***Усць-***, ***Верх-***, ***Соль-***: *Усць-Каменагорск*, *Верх-Ірмень*, *Соль-Ілецк*.

**Пішуцца асобна:**
- спалучэнні назоўнікаў, у якіх першы абазначае родавае паняцце, а другі з'яўляецца ўласным імем: *рака Днепр*, *горад Мінск*, *вулкан Везувій*, *маёр Кравец*, *дзед Янка*;
- словы ў геаграфічных уласных назвах, якія з'яўляюцца спалучэннем поўнага прыметніка ці парадкавага лічэбніка з назоўнікам: *Стары Свержань*, *Белы Груд*, *Карнаты Дуб*, *Вялікія Радванічы*, *Старыя Дарогі*, *Астрашыцкі Гарадок*, *Восьмая лінія* (вуліца), *Першая пасялковая* (вуліца), *Першы чыгуначны* (завулак).



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце словы, якія трэба пісаць ***разам***:

- [ ] 1) (стэрэа) гук;
- [ ] 2) (тона) кіламетр;
- [ ] 3) (нафта) здабыча;
- [ ] 4) (грам) пласцінка;
- [ ] 5) (прэс) сакратар;
- [ ] 6) (развед) рота;
- [ ] 7) (асфальта) укладчык;
- [ ] 8) (сацыял) дэмакратыя;
- [ ] 9) (арг) камітэт;
- [ ] 10) (віцэ) прэзідэнт.

**Варыянт 2.** Адзначце словы, якія трэба пісаць ***праз злучок***:

- [ ] 1) (максі) спадніца;
- [ ] 2) (самалёта) вылет;
- [ ] 3) (сабака) такса;
- [ ] 4) (паэт) песеннік;
- [ ] 5) (обер) майстар;
- [ ] 6) (прайдзі) свет;
- [ ] 7) (паў) яблыка;
- [ ] 8) (рэжысёр) пастаноўшчык;
- [ ] 9) (Нова) лукомль;
- [ ] 10) (матыль) птушкакрыл.

# УРОК 23 Прыметнік. Разрады. Ступені параўнання



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце прыметнікі. Адзначце нумары гэтых слоў:
*Усё меншаў, аддаляючыся ў глыбокае неба, павольны[1] бусліны[2] круг, рабіліся малымі буслы, што ўсё плылі, не збіваючыся са сваіх[3] пазначаных[4] дарог у гэтым[5] крузе* (В. Адамчык).

☐☐☐☐☐

**Тэст № 2.** Адзначце словазлучэнні, у якіх адносныя прыметнікі ўжываюцца са значэннем якасных:

- [ ] 1) скураное паліто;
- [ ] 2) крыштальная вада;
- [ ] 3) ранішнія навіны;
- [ ] 4) свінцовы град;
- [ ] 5) залаты характар.



ТЭОРЫЯ

У залежнасці ад значэння і марфалагічных асаблівасцей прыметнікі падзяляюцца на тры разрады: *якасныя*, *адносныя* і *прыналежныя*.

**Якасныя** прыметнікі абазначаюць:

а) якасці і ўласцівасці, што ўспрымаюцца органамі пачуццяў: *лёгкі*, *востры*, *халодны*, *гарачы*, *цвёрды*, *кіслы*;
б) прасторавыя і часавыя якасці: *вялікі*, *малы*, *шырокі*, *вузкі*, *доўгі*, *кароткі*;
в) фізічныя, псіхічныя і разумовыя якасці жывых істот: *здаровы*, *худы*, *рухавы*, *хітры*;
г) колеры і іх адценні: *белы*, *цёмна-сіні*;
д) масць жывёл: *гняды*, *вараны*.

Якасныя прыметнікі вызначаюцца тым, што:

— могуць утвараць ступені параўнання: *лёгкі — лягчэйшы*, *больш* (*менш*) *лёгкі*;
— маюць форму ацэнкі: *лёгкі — лёгенькі*, *легкаваты* (некаторыя якасныя прыметнікі не маюць формы ацэнкі: *крохкі*, *ліпкі*, *ломкі*, *паэтычны*);
— могуць утвараць антанімічныя пары слоў: *лёгкі — цяжкі*, *добры — дрэнны*;
— з'яўляюцца ўтваральнай асновай для абстрактных назоўнікаў: *малады — маладосць*, *зялёны — зелень*, *сумны — сум*;

— могуць спалучацца з прыслоўямі меры і ступені: *надзвычай важны*, *вельмі карысны*;
— ад большасці якасных прыметнікаў могуць утварацца якасныя прыслоўі: *вясёлы — весела*, *добры — добра*.

! Некаторыя якасныя прыметнікі не ўтвараюць ступеняў параўнання.

**Адносныя** прыметнікі абазначаюць прымету прадмета праз адносіны гэтага прадмета:
— да асобы ці жывой істоты: *дзіцячы* погляд, *мацярынскі* клопат;
— да іншага прадмета ці абстрактнага паняцця: *філасофскі* падыход, *дамашняе* заданне;
— да прасторы ці месца: *лясныя* насельнікі, *вясковая* вуліца;
— да часу: *сённяшняя* газета, *ранішняе* сонца;
— да матэрыялу або рэчыва: *драўляная* лыжка, *цукровая* вата;
— да дзеяння: *купальны* касцюм, *вылічальная* машына;
— да колькасці: *дзесятковыя* дробы, *двайны* падлік, *чатырохзначная* лічба;
— да меры і вагі: *двухметровы* мур, *пяцітонны* самазвал;
— да прызначэння: *службовая* машына, *пасудная* паліца і інш.

Паводле граматычных адзнак адносныя прыметнікі процілеглыя якасным:
— яны не ўтвараюць ступеняў параўнання, формаў ацэнкі і меры якасці;
— не далучаюць да сябе прыслоўяў меры і ступені;
— ад іх не ўтвараюцца прыслоўі з суфіксам ***-а*** і назоўнікі з абстрактным значэннем.

**Прыналежныя** прыметнікі абазначаюць прыналежнасць прадметаў пэўнай ***жывой*** асобе ці істоце і ўтвараюцца наступным чынам: ад адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду пры дапамозе суфіксаў ***-оў-*** (***-ёў-***) (не пад націскам — ***-оў-*** (***-еў-***), ва ўскосных склонах і ў формах жаночага і ніякага роду — ***-ов-*** (***-ёв-***), ***-ав-*** (***-яв-***)), а ад адушаўлёных назоўнікаў жаночага роду — пры дапамозе суфікса ***-ін-*** (***-ын-***): *Васеў* сшытак, *Васева* сястра, *Васілёў* бацька, *Васілёва* хата, *бацькаў* пінжак, *бацькавы* боты, *Алёнчына* кніга, *бабуліна* хата, *лісіная* нара.

## Ступені параўнання прыметнікаў

Ступені параўнання маюць толькі якасныя прыметнікі.

Існуе дзве ступені параўнання — вышэйшая і найвышэйшая.

***Простая форма вышэйшай ступені*** параўнання ўтвараецца далучэннем да асновы прыметніка суфікса ***-ейш-*** (***-эйш-***): *цвёрды — цвярдзейшы*, *дарагі — даражэйшы*.

! Пры ўтварэнні формы можа адбывацца чаргаванне зычных (*г, з // ж*; *к // ч*; *х // ш*; *д // дз'*; *т // ц'*).

Часам простая форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца пры дапамозе суфікса ***-ш-*** ад розных асноў: *добры — лепшы*, *дрэнны — горшы*. Такія асновы называюцца **суплетыўнымі**.

Простая форма не ўтвараецца:
а) ад прыметнікаў, якія паходзяць з дзеепрыметнікаў: *калючы*, *балючы*, *гаючы*, *вядомы* і інш.;
б) ад якасных прыметнікаў з суфіксамі ***-ав-***, ***-іст-***, ***-аўн-***, ***-ат-***, ***-к-***: *перадавы*, *агністы*, *сакаўны*, *шурпаты*, *ліпкі*.

***Складаная форма вышэйшай ступені*** з'яўляецца больш пашыранай у параўнанні з простай. Яна ўтвараецца далучэннем да прыметнікаў слоў ***больш*** (***болей***), ***менш*** (***меней***): *шырокі — больш* (*болей*) *шырокі*, *менш* (*меней*) *шырокі*.

! Да формаў вышэйшай ступені параўнання могуць далучацца часціцы ***яшчэ*** і ***куды*** (яны надаюць узмацняльнае значэнне): *яшчэ большы*, *куды большы*, *яшчэ больш моцны*.

! Пры простай форме вышэйшай ступені параўнання залежны ад прыметніка назоўнік ці займеннік ужываецца ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***за***: *брат старэйшы за сястру*, *яна старэйшая за яго*.

***Простая форма найвышэйшай ступені*** параўнання ўтвараецца ад простай формы вышэйшай ступені пры дапамозе прыстаўкі ***най-***: *найвышэйшы*, *найлягчэйшы*, *найлепшы*, *найгоршы*.

! У рэдкіх выпадках утварэнне адбываецца прыставачна-суфіксальным спосабам: *найвялікшы*, *найноўшы*.

***Складаныя формы найвышэйшай ступені*** параўнання ўтвараюцца далучэннем да якаснага прыметніка займенніка ***самы*** (*самы сціплы*, *самы цяжкі*) або прыслоўяў ***найбольш***, ***найменш*** (*найбольш складаны*, *найменш выразны*).

**Запомніце!** Не ўтвараюць ні простых, ні складаных формаў ступеняў параўнання тыя прыметнікі, якія абазначаюць абсалютную (колькасна нязменную, статычную) якасць:
— некаторыя прыметнікі са значэннем стану асобы ці жывой істоты: *жывы*, *мёртвы*, *сонны*; *халасты*, *жанаты* і інш.;
— прыметнікі, якія абазначаюць прымету на аснове якой-небудзь характэрнай фізічнай знешняй адзнакі: *бязногі*, *аднарукі*, *барадаты*, *вусаты*, *чубаты*, *хвастаты* і інш.;
— некаторыя прыметнікі, якія абазначаюць масці жывёл і колер жывых істот ці прадметаў: *вараны*, *гняды*, *буланы*, *шэры*, *шызы*, *русы*; *карычневы*, *кафейны*, *бэзавы*, *мышасты*, *паласаты*, *попельны*, *зямлісты*, *бронзавы* і інш.;
— прыметнікі, якія з'яўляюцца якаснымі толькі ў пераносным значэнні: *жалезная воля*, *пшанічныя вусы*, *алавяныя вочы*, *каменнае сэрца* і інш.;
— прыметнікі, якія ўжываюцца ва ўстойлівых спалучэннях са спецыялізаваным значэннем: *лёгкая атлетыка*, *цяжкая прамысловасць*, *Блізкі Усход*.

! Толькі складаныя формы ступеняў параўнання ўтвараюць наступныя групы прыметнікаў:
— некаторыя невытворныя якасныя прыметнікі: *упарты*, *бадзёры*, *пануры*, *прыкры*, *варожы*, *благі*, *любы*, *ліхі*, *хцівы* і інш.;
— некаторыя вытворныя прыметнікі:
а) з суфіксамі ***-н-*** (ад назоўнікаў і дзеясловаў): *радасны*, *надзейны*, *марозны*, *сумны*, *мірны*, *звычайны*, *адважны*, *стыхійны*, *трывожны* і інш.;
б) з суфіксамі ***-ічн-*** (***-ычн-***): *крытычны*, *паэтычны*, *гераічны*, *рытмічны* і інш.;
в) з суфіксамі ***-льн-***, ***-альн-*** (***-яльн-***): *натуральны*, *максімальны*, *спрыяльны* і інш.;
г) з суфіксамі ***-ів-*** (***-ыв-***), ***-лів-***: *бурлівы*, *імклівы*, *фальшывы*, *дакучлівы* і інш.;
д) з суфіксамі ***-ат-***, ***-аст-***, ***-іт-***, ***-авіт-***: *касматы*, *стракаты*, *мурзаты*, *выгінасты*, *хваравіты* і інш.;
е) з суфіксамі ***-к-***, ***-ск-*** (***-цк-***): *вёрткі*, *колкі*, *гнуткі*, *геройскі*, *таварыскі*, *здрадніцкі* і інш.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце прыметнікі. Адзначце нумары гэтых слоў:
*Жаўранкавым[1] спевам звінела ўсё навокал у гэты незвычайны[2] дзень, першы[3] такі[4] ясны[5] і цёплы пасля зімы* (І. Шамякін).

☐☐☐☐☐

**Варыянт 2.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце прыметнікі. Адзначце нумары якасных прыметнікаў:
*На паляне ў светлым[1] пералеску расцвілі налітыя[2] расой сінія[3] падснежныя[4] пралескі пад аховай урачыстых[5] хвой* (П. Панчанка).

☐☐☐☐☐

**Варыянт 3.** Адзначце прыметнікі, якія не ўтвараюць ступеняў параўнання:
☐ 1) малы;
☐ 2) босы;
☐ 3) складаны;
☐ 4) гняды;
☐ 5) жанаты;
☐ 6) шырокі;
☐ 7) драўляны;
☐ 8) адказны;
☐ 9) беларускі;
☐ 10) просты.

**Варыянт 4.** Адзначце правільна ўтвораныя формы ступеняў параўнання прыметнікаў:
☐ 1) маленькі;
☐ 2) найцяжэйшы;
☐ 3) самы складаны;
☐ 4) больш смялейшы;
☐ 5) акуратнейшы;
☐ 6) горшы;
☐ 7) больш цвёрды;
☐ 8) менш адказнейшы;
☐ 9) самая шырокая;
☐ 10) самы найдужэйшы.

# УРОК 24 Правапіс складаных прыметнікаў



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць ***разам***:

- ☐ 1) (сацыял) дэмакратычны;
- ☐ 2) (шмат) складовы;
- ☐ 3) (экалагічна) чысты;
- ☐ 4) (вугле) пад'ёмны;
- ☐ 5) (электра) вымяральны;
- ☐ 6) (паўднёва) усходні;
- ☐ 7) (эканамічна) выгадны;
- ☐ 8) (лёгка) выканальны;
- ☐ 9) (мар'іна) горскі;
- ☐ 10) (штабс) капітанскі.

**Тэст № 2.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць ***праз злучок***:

- ☐ 1) (авія) спартыўны;
- ☐ 2) (кісла) салодкі;
- ☐ 3) (фізіка) тэхнічны;
- ☐ 4) (аэра) здымачны;
- ☐ 5) (пясчана) глiністы;
- ☐ 6) (белавата) блакітны;
- ☐ 7) (выключна) важны;
- ☐ 8) (обер) пракурорскі;
- ☐ 9) (буда) кашалёўскі;
- ☐ 10) (дастаткова) вядомы.



ТЭОРЫЯ

**Разам пішуцца складаныя прыметнікі:**

- якія суадносяцца са складанымі назоўнікамі, што пішуцца ў адно слова: *наваполацкі* (ад *Наваполацк*), *водаправодны* (ад *водаправод*);
- якія суадносяцца са словазлучэннямі з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння назоўніка з прыметнікам, лічэбнікам ці займеннікам): *сельскагаспадарчы*, *левабярэжны*, *дзесяцігадовы*, *іншамоўны*, *своечасовы*;
- якія суадносяцца са словазлучэннямі дзеясловаў з назоўнікамі: *лесанарыхтоўчы* (ад *нарыхтоўваць лес*), *глебаапрацоўчы* (ад *апрацоўваць глебу*);
- якія суадносяцца са словазлучэннямі назоўнікаў з лічэбнікамі і прыслоўямі адноснай меры колькасці, аб'ёму, прасторы: *трохразовы*, *пяцідзесяцірублёвы*, *шматразовы*, *мнагатысячны*, *усёмагутны*;
- якія ўтвораны спосабам словаскладання (***прыслоўе*** + ***прыметнік***, ***прыслоўе*** + ***дзеепрыметнік***) і абазначаюць адно паняцце: *вечназялёны*, *дзікарослы*, *вышэйсказаны*, *узаемаабумоўлены*, *малапрыкметны*; але: *асабліва важны*, *адносна стабільны*, *дыяметральна процілеглы* і пад. (прыслоўі ад адносных прыметнікаў);
- словы-тэрміны тыпу *індаеўрапейскі*, *шматскладовы*, *металарэзны*, *усходнеславянскі* (большасць з іх утворана складана-суфіксальным спосабам);
- якія ўтвораны ад складаных уласных імёнаў са злучком, калі да іх далучаецца прыстаўка: *Ісык-Куль — заісыккульскі*, *Цянь-Шань — перадцяньшанскі*.

! Правапіс слоў з часткай ***ваенна-*** патрабуе асаблівай увагі: субстантываваныя прыметнікі *ваеннаабавязаны*, *ваеннаслужачы*, *ваеннапалонны*; прыметнік *ваеннаабарончы* (ад *ваенная абарона*); але: *ваенна-гістарычны*, *ваенна-паветраны*.

**Праз злучок пішуцца складаныя прыметнікі:**

- утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца праз злучок: *Давыд-Гарадок — давыд-гарадоцкі*, *Буда-Кашалёва — буда-кашалёўскі*, *сацыял-дэмакратыя — сацыял-дэмакратычны*;
- утвораныя ад прыметнікаў, часткі якіх абазначаюць асаблівасці ці адценні разнароднай якасці: *светла-зялёны*, *бел-чырвона-белы*, *гучна-пявучы*;
- утвораныя спалучэннем слоў, якія абазначаюць раўнапраўныя паняцці (паміж словамі ў прыметніку можна паставіць злучнікі ***і***, ***але***): *руска-беларускі*, *беспрацэнтна-выйгрышны*, *шахматна-шашачны*;
- часткі якіх абазначаюць разнародныя назвы адпаведнай прыметы: *прыродна-гаспадарчы*, *грамадска-палітычны*, *сярэдня-верхні*, *навукова-тэхнічны*;
- утвораныя ад спалучэння імя і прозвішча: *леў-талстоўскі*, *рамэн-раланаўскі*;
- часткі якіх абазначаюць спалучэнні напрамкаў свету: *паўночна-заходні*, *норд-остаўскі*;
- з першай часткай ***Усходне-***, ***Заходне-***, ***Паўднёва-***, ***Паўночна-***, ***Цэнтральна-***, калі ўваходзяць у склад геаграфічных назваў: *Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка*, *Заходне-Сібірская раўніна*, *Цэнтральна-Азіяцкі рэгіён*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць ***разам***:

- ☐ 1) (лёгка) засваяльны;
- ☐ 2) (стале) разлівачны;
- ☐ 3) (эканамічна) стабільны;
- ☐ 4) (горка) салёны;
- ☐ 5) (пяці) сценны;
- ☐ 6) (паўночна) афрыканскі;
- ☐ 7) (мядзяна) чырвоны;
- ☐ 8) (мікра) кліматычны;
- ☐ 9) (маральна) прававы;
- ☐ 10) (хутка) растваральны.

**Варыянт 2.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць ***праз злучок***:

- ☐ 1) (аэра) дынамічны;
- ☐ 2) (паштова) тэлеграфны;
- ☐ 3) (абсалютна) спакойны;
- ☐ 4) (бледна) зялёны;
- ☐ 5) (віцэ) консульскі;
- ☐ 6) (дзесяці) гадовы;
- ☐ 7) (музейна) краязнаўчы;
- ☐ 8) (агра) тэхнічны;
- ☐ 9) (ідэальна) чысты;
- ☐ 10) (эстэтычна) філасофскі.

# УРОК 25 Лічэбнік. Разрады лічэбнікаў



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словазлучэнні з лічэбнікамі:

- ☐ 1) трэць слоіка;
- ☐ 2) паўтара месяца;
- ☐ 3) пяты год;
- ☐ 4) сотня баравікоў;
- ☐ 5) палова вядра.

**Тэст № 2.** Адзначце словазлучэнні з колькаснымі лічэбнікамі:

- ☐ 1) сем дубоў;
- ☐ 2) двухсоты нумар;
- ☐ 3) двое птушанят;
- ☐ 4) адны непрыемнасці;
- ☐ 5) тры сотыя працэнта.



ТЭОРЫЯ

**Лічэбнік** — гэта самастойная часціна мовы, да якой адносяцца словы, што абазначаюць абстрактныя лікі, колькасць прадметаў або іх парадкавае месца пры лічэнні: *пяць*, *пяць дамоў*, *пяты дом*.

! Да лічэбнікаў адносяцца не ўсе словы з лікавым значэннем. Словы *нуль*, *двойка*, *тройка*, *пяцёрка*, *дзясятка*, *сотня*, а таксама *тузін* (дванаццаць адзінак) і *копа* (шэсцьдзясят адзінак) належаць да назоўнікаў. Назоўнікамі з'яўляюцца таксама словы *палавіна* (*палова*), *трэць*, *чвэрць* (*чацвярціна*), *васьмушка*, *сотка* і інш.

! Словы *тысяча*, *мільён*, *мільярд* у складзе састаўных лічэбнікаў і ў спалучэннях з назоўнікамі з'яўляюцца лічэбнікамі. Без назоўніка, а таксама ў множным ліку яны з'яўляюцца назоўнікамі.

! Словы *некалькі*, *столькі*, *колькі*, *гэтулькі*, *многа*, *мала*, *шмат* абазначаюць няпэўную колькасць прадметаў. У спалучэнні з назоўнікамі гэта лічэбнікі, у спалучэнні з дзеясловамі — прыслоўі. Гэтыя словы могуць спалучацца з назоўнікамі — назвамі прадметаў, якія паддаюцца лічэнню (*шмат вучняў*, *мала кніг*). Усе яны, за выключэннем слова *некалькі*, таксама спалучаюцца з назоўнікамі, што маюць абстрактнае ці рэчыўнае значэнне: *нямала намаганняў*, *многа пяску*.

Усе лічэбнікі (акрамя *дзевяноста* і *паўтара*) скланяюцца, а асобныя маюць формы роду і ліку: *два сталы*, *дзве кнігі*, *двух сталоў*, *з дзвюма кнігамі*.

Лічэбнікі падзяляюцца на разрады паводле значэння і паводле структуры.

У адпаведнасці са значэннем вызначаюць два разрады лічэбнікаў — колькасныя і парадкавыя.

**Колькасныя** лічэбнікі могуць абазначаць:

а) колькасць як спалучэнне пэўнага ліку адзінак — уласнаколькасныя (пэўнаколькасныя): *дзесяць пальцаў*, *пяць выкладчыкаў*;

б) колькасць як спалучэнне няпэўнага ліку адзінак — няпэўнаколькасныя: *некалькі чалавек*, *мала год*;

в) колькасць як адно цэлае, як сукупнасць — зборныя: *трое коней*, *двое дзяцей*;

г) колькасць як пэўную частку цэлага — дробавыя: *дзве пятыя*, *тры дзясятыя*.

Зборнымі называюцца колькасныя лічэбнікі, якія абазначаюць пэўную колькасць прадметаў як сукупнасць, як адно цэлае: *Гняздо пугачоў апынулася на ўзвышшы, з якога цяпер паглядаюць* ***пяцёра*** *лупатых гномаў-савянят* (С. Зуёнак).

Нягледзячы на тое, што зборныя лічэбнікі абазначаюць тую самую колькасць прадметаў, што і ўласнаколькасныя, якія паслужылі словаўтваральнай базай, неабходна размяжоўваць іх ужыванне. Зборныя лічэбнікі могуць ужывацца толькі з пэўнымі групамі назоўнікаў (паралельна з уласнаколькаснымі). Гэтыя групы наступныя:

1) назоўнікі, якія маюць форму толькі множнага ліку або абазначаюць назвы парных прадметаў: *трое сутак*, *двое нажніц*, *чацвёра акуляраў*;
2) назоўнікі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу (у тым ліку і тыя, што ўтварыліся шляхам субстантывацыі прыметнікаў, дзеепрыметнікаў і займеннікаў): *чацвёра юнакоў*, *трое параненых*, *двое старых*, *двое нашых*;
3) назоўнікі, якія абазначаюць назвы маладых істот: *двое птушанят*, *трое качанят*;
4) назоўнікі *людзі*, *дзеці*, *коні*, *гусі*, *свінні*: *трое коней*, *двое гусей*.

> ! Як адзіна магчымыя абазначэнні колькасці зборныя лічэбнікі ўжываюцца:
> — са словам *людзі*;
> — для абазначэння колькасці ад двух да чатырох са словам *дзеці*;
> — для абазначэння колькасці ад двух да чатырох з множналікавымі і парнымі назоўнікамі ў назоўным і вінавальным склонах (у астатніх склонах пры спалучэнні з неадушаўлёнымі назоўнікамі яны, як правіла, замяняюцца ўласнаколькаснымі лічэбнікамі): *трое сутак — каля трох сутак*.

Лічэбнік ***абодва*** спалучаецца з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду (*абодва студэнты*, *абодва ягняці*), лічэбнік ***абедзве*** — з назоўнікамі жаночага роду (*абедзве сястры*); калі трэба сказаць пра разнаполых людзей, ужываецца зборны лічэбнік ***абое*** (*спазніліся абое — брат і сястра*).

Дробавымі называюцца колькасныя лічэбнікі, якія абазначаюць дробавыя велічыні — частку ад цэлага (*пяць сёмых*, *адна трэцяя*) або цэлае і частку ад наступнага цэлага (*восем і адна дзясятая*), а таксама лічэбнікі *паўтара*, *паўтары*.

Дробавыя лічэбнікі, якія абазначаюць частку ад цэлага, першым словам (у лічніку дробу) маюць колькасны лічэбнік, другім словам (у назоўніку дробу) — парадкавы: *тры пятыя*, *сем дзясятых*.

> ! Калі дробавы лічэбнік у лічніку мае лічэбнікі *два*, *тры*, *чатыры*, то парадкавы лічэбнік у назоўніку павінен стаяць у форме назоўнага склону множнага ліку: *дзве пятыя*, *тры сёмыя*, *чатыры дзясятыя*. Пасля іншых лічэбнікаў (у лічніку) парадкавы ў назоўніку стаіць у родным склоне множнага ліку: *пяць сёмых*, *восем дзясятых*. Гэтае ж правіла распаўсюджваецца і на абазначэнне цэлага пры дробе: *тры цэлыя тры дзясятыя*, *пяць цэлых пяць дзясятых*.

Лічэбнік ***паўтара*** ўжываецца з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду (*паўтара кіламетра*, *паўтара вядра*), лічэбнік ***паўтары*** — з назоўнікамі жаночага роду (*паўтары тоны*).

> ! Назоўнік мае форму роднага склону адзіночнага ліку.

**Парадкавыя** лічэбнікі абазначаюць парадак прадметаў пры лічэнні, месца канкрэтнага прадмета ў шэрагу аднародных: *першы раз*, *другі дзень*, *пяты месяц*.

Паводле структурнага складу лічэбнікі бываюць **простыя** (з адным коранем: *адзін*, *чатыры*, *адзінаццаць*), **складаныя** (утвораныя ў выніку зліцця слоў: *шэсцьдзясят*, *шэсцьсот*, *дзвесце*) і **састаўныя** (складаюцца з некалькіх асобных слоў: *дваццаць тры*, *дзвесце сорак восем*).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце складаныя лічэбнікі:

☐ 1) дзевяноста;
☐ 2) пяцідзясяты;
☐ 3) паўтара;
☐ 4) шэсцьсот;
☐ 5) адзінаццаць;
☐ 6) восемдзесят;
☐ 7) сорак два;
☐ 8) чатырыста;
☐ 9) дзевяцісоты;
☐ 10) сто дваццаць трэці.

**Варыянт 2.** Адзначце назоўнікі, з якімі могуць спалучацца зборныя лічэбнікі ***трое — дзясяцера***:

- [ ] 1) студэнт;
- [ ] 2) шпачаня;
- [ ] 3) актрыса;
- [ ] 4) гусь;
- [ ] 5) тэатр;
- [ ] 6) дрэва;
- [ ] 7) вартавы;
- [ ] 8) сям'я;
- [ ] 9) дзіця;
- [ ] 10) дзяжурны.

**Варыянт 3.** Адзначце лічэбнікі, у якіх на месцы пропуску пішацца ***мяккі знак***:

- [ ] 1) сем_;
- [ ] 2) пяц_дзясят;
- [ ] 3) восем_сот;
- [ ] 4) пяц_сот;
- [ ] 5) восем_дзесят;
- [ ] 6) вас_мі;
- [ ] 7) дз_ве;
- [ ] 8) шасц_ю;
- [ ] 9) сям_юстамі;
- [ ] 10) міл_ярд.

# УРОК 26 Лічэбнік. Скланенне лічэбнікаў



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце лічэбнікі, якія ў форме назоўнага склону напісаны правільна:

- [ ] 1) абедзве;
- [ ] 2) васемсот;
- [ ] 3) восем;
- [ ] 4) дзвесце;
- [ ] 5) чацьвёрты;
- [ ] 6) пяцьдзясят;
- [ ] 7) двухсотая;
- [ ] 8) двадцаць;
- [ ] 9) чатыры сёмых;
- [ ] 10) васьмідзясяты.

**Тэст № 2.** Адзначце лічэбнікі, якія ў форме творнага склону напісаны правільна:

- [ ] 1) абедзвух;
- [ ] 2) васьмістамі;
- [ ] 3) траімі;
- [ ] 4) двухстамі;
- [ ] 5) пятнаццаццю;
- [ ] 6) пяцідзясяццю;
- [ ] 7) дзвесце дваццаццю;
- [ ] 8) абедзвюма;
- [ ] 9) чатырма сёмымі;
- [ ] 10) васьмюдзясяццю.



## ТЭОРЫЯ

У скланенні ўласнаколькасных лічэбнікаў назіраецца вялікая разнастайнасць:

а) лічэбнік ***адзін*** (***адна***, ***адно***, ***адны***) скланяецца на ўзор прыналежных прыметнікаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *адзін, адно* | *адна* | *адны* |
| Р. | *аднаго* | *адной (-ае)* | *адных* |
| Д. | *аднаму* | *адной* | *адным* |
| В. | *аднаго, адзін; адно* | *адну* | *адных, адны* |
| Т. | *адным* | *адной (-ою)* | *аднымі* |
| М. | *(у) адным* | *(у) адной* | *(у) адных* |

б) лічэбнікі ***два***, ***дзве*** пры скланенні захоўваюць родавыя адрозненні; лічэбнікі ***тры***, ***чатыры*** не маюць формы роду. Гэтыя лічэбнікі аб'ядноўвае тое, што ў творным склоне яны маюць форму на ***-ма***:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *два* | *дзве* | *тры* | *чатыры* |
| Р. | *двух* | *дзвюх* | *трох* | *чатырох* |
| Д. | *двум* | *дзвюм* | *тром* | *чатыром* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| В. | як Н. ці Р. (неадуш./адуш.) | | | |
| Т. | *двума* | *дзвюма* | *трыма* | *чатырма* |
| М. | (*у*) *двух* | (*у*) *дзвюх* | (*у*) *трох* | (*у*) *чатырох* |

в) лічэбнікі ад ***пяці*** да ***дваццаці*** і лічэбнік ***трыццаць*** скланяюцца на ўзор назоўнікаў трэцяга скланення:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *пяць* | *сем* | *дваццаць* |
| Р. | *пяці* | *сямі* | *дваццаці* |
| Д. | *пяці* | *сямі* | *дваццаці* |
| В. | *пяць* | *сем* | *дваццаць* |
| Т. | *пяццю* | *сямю* | *дваццаццю* |
| М. | (*у*) *пяці* | (*у*) *сямі* | (*у*) *дваццаці* |

! У творным склоне ў лічэбніках на ***-ць*** адбываецца падаўжэнне [ц'] перад канчаткам.
**Выключэнне:** *шэсць — шасцю.*

г) лічэбнік ***дзевяноста*** не скланяецца, а лічэбнікі ***сорак*** і ***сто*** ва ўсіх склонах, акрамя назоўнага і вінавальнага, маюць канчатак ***-а***: *ста*, *сарака*;

д) у складаных колькасных лічэбніках ад ***пяцідзесяці*** да ***васьмідзесяці*** і ад ***двухсот*** да ***дзевяцісот*** пры скланенні змяняюцца абедзве часткі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *пяцьдзясят* | *дзвесце* | *дзевяцьсот* |
| Р. | *пяцідзесяці* | *двухсот* | *дзевяцісот* |
| Д. | *пяцідзесяці* | *двумстам* | *дзевяцістам* |
| В. | *пяцьдзясят* | *дзвесце* | *дзевяцьсот* |
| Т. | *пяццюдзесяццю* | *двумастамі* | *дзевяццюстамі* |
| М. | (*у*) *пяцідзесяці* | (*у*) *двухстах* | (*у*) *дзевяцістах* |

е) лічэбнік ***тысяча*** скланяецца так, як назоўнікі першага скланення з асновай на зацвярдзелы зычны; лічэбнікі ***мільён***, ***мільярд*** — як назоўнікі другога скланення з асновай на цвёрды зычны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *тысяча* | *мільён* | *мільярд* |
| Р. | *тысячы* | *мільёна* | *мільярда* |
| Д. | *тысячы* | *мільёну* | *мільярду* |
| В. | *тысячу* | *мільён* | *мільярд* |
| Т. | *тысячай* | *мільёнам* | *мільярдам* |
| М. | (*у*) *тысячы* | (*у*) *мільёне* | (*у*) *мільярдзе* |

ё) пры скланенні састаўных колькасных лічэбнікаў скланяецца кожнае слова (на ўзор простых або складаных лічэбнікаў):

| | |
|---|---|
| Н. | *пяцьсот шэсцьдзясят тры* |
| Р. | *пяцісот шасцідзесяці трох* |
| Д. | *пяцістам шасцідзесяці тром* |
| В. | *пяцьсот шэсцьдзясят тры* |
| Т. | *пяццюстамі шасцюдзесяццю трыма* |
| М. | (*у*) *пяцістах шасцідзесяці трох* |

Зборныя лічэбнікі скланяюцца на ўзор прыметнікаў з адпаведнай асновай у множным ліку:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *двое* | *трое* | *пяцёра* | *сямёра* |
| Р. | *дваіх* | *траіх* | *пяцярых* | *семярых* |
| Д. | *дваім* | *траім* | *пяцярым* | *семярым* |
| В. | як Н. ці Р. | | | |
| Т. | *дваімі* | *траімі* | *пяцярымі* | *семярымі* |
| М. | (*у*) *дваіх* | (*у*) *траіх* | (*у*) *пяцярых* | (*у*) *семярых* |

Лічэбнікі ***чацвёра***, ***пяцёра*** і г. д. у творным склоне сучасныя навукоўцы рэкамендуюць ужываць з канчаткам ***-ыма***: *чацвярыма*.

Пры скланенні лічэбнікаў ***абодва***, ***абедзве*** змяняецца другая частка на ўзор лічэбнікаў *два*, *дзве*, лічэбнік ***абое*** мае адметны ўзор скланення:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *абодва* | *абедзве* | *абое* |
| Р. | *абодвух* | *абедзвюх* | *абаіх* |
| Д. | *абодвум* | *абедзвюм* | *абаім* |
| В. | *абодвух/абодва* | *абедзвюх/абедзве* | *абаіх* |
| Т. | *абодвума* | *абедзвюма* | *абаімі* |
| М. | (*у*) *абодвух* | (*у*) *абедзвюх* | (*у*) *абаіх* |

У дробавых лічэбніках часткі змяняюцца па-рознаму: лічнік дробу — як колькасны лічэбнік, назоўнік — як парадкавы:

| | |
|---|---|
| Н. | *чатыры цэлыя шэсць дзясятых* |
| Р. | *чатырох цэлых шасці дзясятых* |
| Д. | *чатыром цэлым шасці дзясятым* |
| В. | *чатыры цэлыя шэсць дзясятых* |
| Т. | *чатырма цэлымі шасцю дзясятымі* |
| М. | (*у*) *чатырох цэлых шасці дзясятых* |

Лічэбнікі ***паўтара*** і ***паўтары*** ва ўсіх склонах захоўваюць родавыя адрозненні, але самі па склонах не змяняюцца:

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *паўтара* (*грама*, *вядра*) | *паўтары шклянкі* |
| Р. | *паўтара* (*грама*, *вядра*) | *паўтары шклянкі* |
| Д. | *паўтара* (*грамам*, *вёдрам*) | *паўтары шклянкам* |
| В. | *паўтара* (*грама*, *вядра*) | *паўтары шклянкі* |
| Т. | *паўтара* (*грамамі*, *вёдрамі*) | *паўтары шклянкамі* |
| М. | (*у*) *паўтара* (*грамах*, *вёдрах*) | (*у*) *паўтары шклянках* |

Парадкавыя лічэбнікі скланяюцца на ўзор прыметнікаў, прычым у састаўных змяняецца толькі апошняе слова (як і ў складаных, якія заканчваюцца на -*тысячны*, -*мільённы*, -*мільярдны*, скланяецца толькі апошняя частка):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *восьмы, -ая* | *шэсцьдзясят пяты, -ая* | *двухмільённы, -ая* |
| Р. | *восьмага, -ай* | *шэсцьдзясят пятага, -ай* | *двухмільённага, -ай* |
| Д. | *восьмаму, -ай* | *шэсцьдзясят пятаму, -ай* | *двухмільённаму, -ай* |
| В. | *восьмы, -ага, -ую* | *шэсцьдзясят пяты, -ага, -ую* | *двухмільённы, -ага, -ую* |
| Т. | *восьмым, -ай* | *шэсцьдзясят пятым, -ай* | *двухмільённым, -ай* |
| М. | (*у*) *восьмым, -ай* | (*у*) *шэсцьдзясят пятым, -ай* | (*у*) *двухмільённым, -ай* |

! Канчаткі будуць залежаць ад роду і ліку назоўніка ў колькасна-іменным спалучэнні, а таксама ад таго, адушаўлёны ён ці неадушаўлёны.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце лічэбнікі, якія ў форме роднага склону напісаны правільна:

☐ 1) адных;
☐ 2) дзвюх;
☐ 3) абоіх;
☐ 4) трыццаці;
☐ 5) трэццяй;
☐ 6) пяцідзясяці;
☐ 7) ста дваццаці пяці;
☐ 8) трох пятых;
☐ 9) паўтара (тоны);
☐ 10) шэсцісот.

**Варыянт 2.** Адзначце лічэбнікі, якія ў форме творнага склону напісаны правільна:

- ☐ 1) трымя пятымі;
- ☐ 2) двумастамі;
- ☐ 3) чатырма;
- ☐ 4) дванаццаццю;
- ☐ 5) сто сарака дзевяццю;
- ☐ 6) дзвюма;
- ☐ 7) васьмюдзесяццю;
- ☐ 8) тысячай сто сёмым;
- ☐ 9) сто сорак трэцяй;
- ☐ 10) дваіма.

**Варыянт 3.** Адзначце лічэбнікі, якія ў форме меснага склону напісаны правільна:

- ☐ 1) абаіх;
- ☐ 2) чацвёртам;
- ☐ 3) чатырнаццаці;
- ☐ 4) дзевяноста;
- ☐ 5) двухста;
- ☐ 6) дзвюх;
- ☐ 7) трохстах;
- ☐ 8) стах дваццаці;
- ☐ 9) чацвярых;
- ☐ 10) трэцяй.

# УРОК 27 Займеннік



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце займеннікі:

- ☐ 1) чамусьці;
- ☐ 2) які;
- ☐ 3) многа;
- ☐ 4) сябе;
- ☐ 5) усюды;
- ☐ 6) іх;
- ☐ 7) недзе;
- ☐ 8) абы-што;
- ☐ 9) ніякі;
- ☐ 10) інакш.

**Тэст № 2.** Адзначце займеннік, які адрозніваецца ад іншых паводле разраду:

- ☐ 1) кожны;
- ☐ 2) сам;
- ☐ 3) самы;
- ☐ 4) такі;
- ☐ 5) усякі.



## ТЭОРЫЯ

### Займеннік як часціна мовы

**Займеннік** — часціна мовы, якая ўказвае на прадмет, якасць і колькасць, не называючы іх. Яго значэнне канкрэтызуецца толькі ў кантэксце: *І **ён** недзе пад абед нарэшце зашумеў* (Я. Сіпакоў). Мы не ведаем, хто такі *ён*, бо не ведаем пачатку тэксту, дзе гаворыцца пра дождж.

Паводле значэння, марфалагічных прымет і сінтаксічнай ролі частка займеннікаў суадносіцца з назоўнікамі (*мы*, *яны*, *хто*, *што*, *нішто*, *нехта*, *што-небудзь* і інш.), частка — з прыметнікамі (*той*, *гэты*, *наш*, *ваш*, *які*, *такі*, *кожны* і інш.), невялікая колькасць — з лічэбнікамі (*столькі*, *гэтулькі* і інш.).

Паводле лексічнага значэння займеннікі традыцыйна дзеляцца на дзевяць разрадаў:

1) асабовыя: *я*, *ты*, *мы*, *вы*, *ён* (*яна*, *яно*, *яны*);
2) зваротны: *сябе*;
3) прыналежныя: *мой*, *твой*, *свой*, *наш*, *ваш*, *яго*, *яе*, *іх*;
4) указальныя: *гэты*, *той*, *такі*, *гэтакі*;
5) азначальныя: *сам*, *самы*, *увесь*, *усякі*, *кожны*, *іншы*, *любы*;
6) пытальныя: *хто? што? які? каторы? чый? колькі?*;
7) адносныя: *хто*, *што*, *які*, *каторы*, *чый*, *колькі*;
8) адмоўныя: *ніхто*, *нішто*, *ніякі*, *нічый*;

9) няпэўныя: *нехта, нешта, хтосьці, штосьці, некаторы, нейкі, нечы (нейчы), якісьці, чыйсьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, чый-небудзь, абы-хто, абы-што, абы-які, абы-чый.*

! Займеннікі *хто*, *што* не маюць катэгорый роду і ліку; займеннік *сябе* не мае формы назоўнага склону; займеннікі *я*, *мы*, *ты*, *вы* не маюць родавых адрозненняў.

## Скланенне займеннікаў

1. Характэрнай асаблівасцю скланення асабовых займеннікаў з'яўляецца тое, што формы ўскосных склонаў утвараюцца не ад асновы назоўнага склону:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *я* | *ты* | *мы* | *вы* | *ён, яно* | *яна* | *яны* |
| Р. | *мяне* | *цябе* | *нас* | *вас* | *яго* | *яе* | *іх* |
| Д. | *мне* | *табе* | *нам* | *вам* | *яму* | *ёй* | *ім* |
| В. | *мяне* | *цябе* | *нас* | *вас* | *яго* | *яе* | *іх* |
| Т. | *мной (-ою)* | *табой (-ою)* | *намі* | *вамі* | *ім* | *ёй (ёю)* | *імі* |
| М. | *(пры) мне* | *(пры) табе* | *(пры) нас* | *(пры) вас* | *(пры) ім* | *(пры) ёй* | *(пры) іх* |

2. Займеннік ***сябе*** скланяецца на ўзор займенніка *ты*: Р. — *сябе*, Д. — *сабе*, В. — *сябе*, Т. — *сабой (-ою)*, М. — *(пры) сабе*.
3. Займеннікі ***мой***, ***твой***, ***свой*** скланяюцца на ўзор прыметнікаў з мяккай асновай, а займеннікі ***ваш***, ***наш*** — на ўзор прыметнікаў з асновай на цвёрды зычны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *мой, маё* | *мая* | *мае* |
| Р. | *майго* | *маёй* | *маіх* |
| Д. | *майму* | *маёй* | *маім* |
| В. | *майго (мой), маё* | *маю* | як Н. або Р. |
| Т. | *маім* | *маёй (-ёю)* | *маімі* |
| М. | *(пры) маім* | *(пры) маёй* | *(пры) маіх* |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *наш, наша* | *наша* | *нашы* |
| Р. | *нашага* | *нашай* | *нашых* |
| Д. | *нашаму* | *нашай* | *нашым* |
| В. | *нашага (наш), наша* | *нашу* | як Н. або Р. |
| Т. | *нашым* | *нашай (-аю)* | *нашымі* |
| М. | *(пры) нашым* | *(пры) нашай* | *(пры) нашых* |

4. Указальныя займеннікі скланяюцца на ўзор прыметнікаў з адпаведнай асновай:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *той, тое* | *тая* | *тыя* | *увесь, усё* | *уся* | *усе* |
| Р. | *таго* | *той (-ае́)* | *тых* | *усяго* | *усёй (-яе́)* | *усіх* |
| Д. | *таму* | *той* | *тым* | *усяму* | *усёй* | *усім* |
| В. | *таго (той), тое* | *тую* | як Н. або Р. | *усяго (увесь), усё* | *усю* | як Н. або Р. |
| Т. | *тым* | *той (-ою)* | *тымі* | *усім* | *усёй (-ёю)* | *усімі* |
| М. | *(пры) тым* | *(пры) той* | *(пры) тых* | *(пры) усім* | *(пры) усёй* | *(пры) усіх* |

! Форма вінавальнага склону ўказальных займеннікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку пры адушаўлёных назоўніках супадае з формай роднага склону, пры неадушаўлёных — з формай назоўнага склону.

5. Формы ўскосных склонаў займеннікаў ***сам*** і ***самы*** адрозніваюцца націскам, а ў сувязі з гэтым — і галосным у канчатку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *сам, само* | *сама* | *самі* |
| Р. | *самога* | *самой (-ое)* | *саміх* |
| Д. | *самому* | *самой* | *самім* |
| В. | *самога (сам), само* | *саму* | як Н. або Р. |
| Т. | *самім* | *самой (-ою)* | *самімі* |
| М. | *(у) самім* | *(у) самой* | *(у) саміх* |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *самы, самае* | *самая* | *самыя* |
| Р. | *самага* | *самай* | *самых* |
| Д. | *самаму* | *самай* | *самым* |
| В. | *самага* (*самы*), *самае* | *самую* | як Н. або Р. |
| Т. | *самым* | *самай* (*-аю*) | *самымі* |
| М. | (*у*) *самым* | (*у*) *самай* | (*у*) *самых* |

! Форма вінавальнага склону гэтых займеннікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку пры адушаўлёных назоўніках супадае з формай роднага склону, пры неадушаўлёных — з формай назоўнага склону.

6. Пытальна-адносныя займеннікі ***хто***, ***што*** скланяюцца на ўзор указальнага займенніка *той*, толькі формы назоўнага і ўскоснага склонаў у іх маюць суплетыўныя асновы:

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *хто* | *што* |
| Р. | *каго* | *чаго* |
| Д. | *каму* | *чаму* |
| В. | *каго* | *што* |
| Т. | *кім* | *чым* |
| М. | (*у*) *кім* | (*у*) *чым* |

Займеннік ***чый*** мае склонавыя формы, падобныя да склонавых формаў займенніка *мой*:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *чый, чыё* | *чыя* | *чые* |
| Р. | *чыйго* | *чыёй* | *чыіх* |
| Д. | *чыйму* | *чыёй* | *чыім* |
| В. | *чыйго* (*чый*), *чыё* | *чыю* | *чыіх, чые* |
| Т. | *чыім* | *чыёй* (*-ёю*) | *чыімі* |
| М. | (*у*) *чыім* | (*у*) *чыёй* | (*у*) *чыіх* |

Займеннікі ***які***, ***каторы*** скланяюцца на ўзор прыметнікаў з асновай на цвёрды і зацвярдзелы зычны.

7. Адмоўныя займеннікі скланяюцца на ўзор пытальных. У займенніках ***ніхто***, ***нішто*** пры скланенні націск падае на першы галосны канчатка: *нікога*, *нічога*, *нікому*, *нічому*; у займенніку ***ніякі*** (***ніякая***, ***ніякае***, ***ніякія***) ва ўсіх склонах націск застаецца на аснове: *ніякага*, *ніякаму*, *ніякай*, *ніякім* і г. д.

! Калі пры адмоўным займенніку ўжываецца прыназоўнік, ён ставіцца пасля адмоўнай часціцы ***ні***: *ні пры кім*, *ні на што*, *ні на кога*, *ні да чога*.

8. Няпэўныя займеннікі ***нехта***, ***нешта***, ***хто-небудзь***, ***што-небудзь***, ***хтосьці***, ***штосьці***, ***абы-хто***, ***абы-што*** скланяюцца на ўзор займеннікаў *хто*, *што*, ад якіх утвораны:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *хтосьці* | *штосьці* | *нехта* | *нешта* |
| Р. | *кагосьці* | *чагосьці* | *некага* | *нечага* |
| Д. | *камусьці* | *чамусьці* | *некаму* | *нечаму* |
| В. | *кагосьці* | *штосьці* | *некага* | *нешта* |
| Т. | *кімсьці* | *чымсьці* | *некім* | *нечым* |
| М. | (*у*) *кімсьці* | (*у*) *чымсьці* | (*у*) *некім* | (*у*) *нечым* |

У словах з часткай ***абы-*** прыназоўнік ужываецца пасля яе: *абы з кім быць не хочацца*, *абы ў каго бывае*, *абы з кім не гаворыць*.

Займеннікі ***нейкі***, ***некаторы*** скланяюцца, як займеннік *які*, а ***нечы*** — як займеннік *мой*:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *нейкі* | *нечы* | *некаторы* |
| Р. | *нейкага* | *нечага* | *некаторага* |
| Д. | *нейкаму* | *нечаму* | *некатораму* |
| В. | як Н. або Р. | | |
| Т. | *нейкім* | *нечым* | *некаторым* |
| М. | (*у*) *нейкім* | (*у*) *нечым* | (*у*) *некаторым* |

## Правапіс займеннікаў

**У адно слова** заўсёды пішуцца займеннікі з постфіксамі ***-сьці (-сь)***: *хтосьці* (*хтось*), *кагосьці* (*кагось*), *якісьці* (*якісь*), *якомусьці*.
**Праз злучок** пішуцца няпэўныя займеннікі з постфіксам ***-небудзь*** і прыстаўкай ***абы-***: *хто-небудзь*, *з кім-небудзь*, *абы-хто*. Прыназоўнік пры неабходнасці ўжываецца пасля прыстаўкі ***абы-***: *абы з кім*, *абы з чым*.
У адмоўных займенніках, калі яны ўжываюцца без прыназоўніка, ***ні-*** з'яўляецца прыстаўкай: *нікому*, *нікога*. Калі пры займенніку ўжываецца прыназоўнік, ***ні*** становіцца часціцай і пішацца асобна: *ні з кім*, *ні ў кога*.

**Запомніце!** Адмоўным займеннікам ***некого***, ***нечего*** ў рускай мове адпавядаюць спалучэнні ***няма каго***, ***няма чаго*** ў беларускай мове: *некого послать — няма каго пасласць*, *нечего читать — няма чаго чытаць*, *некем заменить — няма кім замяніць*, *нечем помочь — няма чым памагчы*, *не с кем посоветоваться — няма з кім параіцца*, *не с чем сравнить — няма з чым параўнаць*.

У спалучэннях слоў *не хто іншы*, *як*; *не што іншае*, *як* ***не*** ў склад займенніка не ўваходзіць і пішацца асобна. У спалучэннях *ніхто іншы*, *нішто іншае* ***ні*** з'яўляецца прыстаўкай і пішацца разам з займеннікам.

! Размежаваць гэтыя спалучэнні лёгка: спалучэнні слоў *ніхто іншы*, *нішто іншае* ўжываюцца ў сказах, дзе ёсць яшчэ адно адмоўе: *Ніхто іншы не мог гэтага зрабіць*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Прааналізуйце выдзеленыя ў сказах словы і ўстанавіце адпаведнасць паміж слупкамі табліцы. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** ***Хто*** з нас у дзяцінстве не марыў адправіцца ў далёкае падарожжа, пабачыць таямнічыя краіны, сустрэцца з рэдкімі жывёламі і птушкамі?<br>**Б.** За ***нейкіх*** два-тры гады дзіця аваладвае мовай дарослых.<br>**В.** Тое, што расказаў Андрэенка, сам па ***сабе*** харошы факт.<br>**Г.** Можа, пакрыўдзіў ***кагосці***, то прабачэння прашу. | **1.** Адмоўны займеннік.<br>**2.** Слова напісана з памылкай.<br>**3.** Ужыта не ў патрэбнай форме.<br>**4.** Не мае формы назоўнага склону.<br>**5.** Не мае катэгорыі ліку. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўжыванні займеннікаў:

☐ 1) Занепакоены такім катастрафічным збядненнем прыродных багаццяў, чалавек пачаў шукаць прычыну гэтаму, толькі не ў сабе самым.
☐ 2) Недарэмна ж само слова «меліярацыя», калі перакласці з лацінскай мовы, азначае паляпшэнне.
☐ 3) Віталю самаму хацелася, каб у гэты вечар ніхто яго не трывожыў.
☐ 4) Нават у змроку відаць, як махнатая лапа хвоі матляецца перад самай шыбінай.
☐ 5) Кожны дзяцел сам аглядае свой участак, гаспадарыць на ім.

**Варыянт 3.** Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўжыванні займеннікаў:

☐ 1) Проста я цябе прашу: клапатлівымі рукамі прытулі маю душу.
☐ 2) І павуцінка незаўважна цябе лягла на валасы.
☐ 3) Ты нешта мне гаворыш, і я — цябе ў адказ.
☐ 4) Я знайду цябе, чуеш, знайду: покуль сонца над светам гарыць, я па промніку тонкім прайду.
☐ 5) Я да цябе прапісаны, мой край, матулі наймілейшымі вачыма.

**Варыянт 4.** Адзначце сказы, у якіх ёсць памылкі ва ўжыванні займеннікаў:

☐ 1) Чалавек ачалавечвае свет вакол сябе, пераносячы свае адчуванні на жывыя істоты, расліны, рэчы, з'явы.
☐ 2) Розных кветак тут багата, кожны сплёў сябе вянок.
☐ 3) Прырода надзяліла чалавека цудоўным дарам — рашучасцю аддаваць сябе высокай мэце, ставіць у імя яе на вагі сваё жыццё.
☐ 4) У такія хвіліны я сам сябе здаюся нейкім складаным і надзвычай чуйным апаратам, які здольны прымаць нават біятокі.
☐ 5) Большасць мелодый, якія жывуць у нашым народзе, увабралі ў сябе яго смутак і жальбу, думы пра жыццё і ясную долю.

# УРОК 28 Дзеяслоў. Граматычныя катэгорыі. Правапіс суфіксаў



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільна напісаныя дзеясловы:

- ☐ 1) завязваць;
- ☐ 2) даследаваць;
- ☐ 3) хадайнічыць;
- ☐ 4) удвойваць;
- ☐ 5) абнадзеіваць;
- ☐ 6) замарожваць;
- ☐ 7) настройваць;
- ☐ 8) разгладжваць;
- ☐ 9) удасканальваць;
- ☐ 10) падцягваць.

**Тэст № 2.** Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць падкрэсленаму ў сказе дзеяслову:
*Выйшаў месяц на ясны блакіт прагуляцца па чэрвеньскай ночы* (А. Астрэйка).

- ☐ 1) II спражэння;
- ☐ 2) закончанага трывання;
- ☐ 3) зваротны;
- ☐ 4) непераходны;
- ☐ 5) ужыты ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку.



ТЭОРЫЯ

Дзеяслоў характарызуецца катэгорыямі стану, ладу, часу, асобы, ліку, а ў некаторых формах і роду. Дзеясловы бываюць пераходныя і непераходныя, зваротныя і незваротныя, закончанага ці незакончанага трывання.

### Пераходныя і непераходныя дзеясловы

Паняцце пераходнасці/непераходнасці звязана з адносінамі дзеяння да аб'екта. ***Параўнайце:*** *будаваць хату — жыць у хаце*. У першым словазлучэнні дзеянне пераходзіць на аб'ект, у другім жа дзеянне проста адбываецца ў аб'екце.

**Пераходныя** дзеясловы абазначаюць дзеянне, накіраванае непасрэдна на аб'ект. У сказе гэта прамое дапаўненне, якое выражаецца формай вінавальнага склону без прыназоўніка: *чытаць кнігу*, *перабіраць насенне*, *бачыць сябра* — або формай роднага склону пры ўмове, што аб'ект абазначае частку прадмета (*накасіць травы*, *папіць соку*) або калі пры пераходным дзеяслове ёсць адмоўе (*не выканаў задання*, *не спаткаў сястры*).

**Непераходныя** дзеясловы абазначаюць дзеянне, якое не накіравана на нейкі аб'ект, а адносіцца толькі да ўтваральніка дзеяння: *бялець*, *старэць*, *хварэць*, *ісці*, *маўчаць*.

### Зваротныя дзеясловы

**Зваротныя** дзеясловы абазначаюць дзеянне, якое накіравана на суб'ект, «звяртаецца» да самога суб'екта: *мыцца*, *жаніцца*, *апранацца*.

Зваротныя дзеясловы ўтвараюцца шляхам далучэння да інфінітыва або да пэўнай дзеяслоўнай формы постфікса ***-ся***: *стрыгчы — стрыгчыся*, *стрыгу — стрыгуся*, *стрыжы — стрыжыся*, *стрыгучы — стрыгучыся*.

> ! Постфікс ***-ся*** набывае форму ***-ца*** пры далучэнні да інфінітыва на ***-ць*** або да формы 3-й асобы множнага ліку з канчаткамі ***-уць*** (***-юць***), ***-аць*** (***-яць***): *мыць — мыцца*, *мыюць — мыюцца*.

### Стан дзеяслова

Да **незалежнага стану** адносяцца ўсе дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, непасрэдна накіраванае на аб'ект (усе пераходныя і частка непераходных): *лавіць рыбу*, *любіць дзяцей*, *вывучаць гісторыю*; *хадзіць*, *жыць*, *гаварыць*, *апранацца*, *смяяцца* і інш.

Да **залежнага стану** адносяцца дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, накіраванае на граматычны суб'ект (у сказе — дзейнік): *Сады* ***агалошваюцца*** *нястомным ціньканнем сініц* (І. Навуменка).

## Трыванні дзеяслова

**Трыванне** — гэта граматычная катэгорыя, якая ўказвае на адносіны дзеяння, абазначанага дзеясловам, да мяжы гэтага дзеяння, яго закончанасці. Дзеянне можа быць незакончаным (*пісаць*, *рабіць*, *ісці*) і закончаным (*напісаць*, *зрабіць*, *прыйсці*). На падставе такога размежавання ў беларускай мове вызначаюць два трыванні дзеяслова: незакончанае і закончанае.

Дзеясловы **незакончанага трывання** абазначаюць дзеянне як працяглы ці незавершаны працэс, як спробу дасягнуць выніку. Яны адказваюць на пытанне *што рабіць?*: ***Шапаціць*** (што робіць?) *лістапад за асеннім акном* (М. Башлакоў). *Я* ***слухаў*** (што рабіў?) *сосен шум у восеньскім бары* (М. Башлакоў).

Дзеясловы **закончанага трывання** абазначаюць дзеянне з указаннем яго мяжы, выніку, а ў будучым часе — такое дзеянне, што абавязкова адбудзецца. Дзеясловы закончанага трывання адказваюць на пытанне *што зрабіць?*: *Тваю руку я* ***затрымаю*** (што зраблю?), *у вочы шчыра* ***зазірну*** (што зраблю?) (Н. Маеўская). *Сонца* ***ўзнялося*** (што зрабіла?) *з-за лесу*. *Росы* ***абмылі*** (што зрабілі?) *у садзе траву* (Н. Маеўская).

Дзеясловы закончанага трывання могуць абазначаць пачатак дзеяння (*заспяваць*, *загаварыць*), заканчэнне дзеяння (*купіць*, *даць*), імгненнасць дзеяння: *Святло ўспыхнула на адно толькі імгненне...* (І. Навуменка).

## Лады дзеяслова

Катэгорыя **ладу** выражае адносіны дзеяння, абазначанага дзеясловам, да рэчаіснасці. Гэтыя адносіны ўстанаўліваюцца тым, хто гаворыць. Дзеянне можа быць рэальным (якое сапраўды існуе або не існуе ў пэўным часе) і нерэальным (магчымым або пажаданым): *зрабіў*, *зрабіў бы*, *зрабі*.

Дзеясловы могуць ужывацца ў формах абвеснага, загаднага і ўмоўнага ладу.

Дзеясловы **абвеснага ладу** абазначаюць дзеянне як рэальны факт, сцвярджаючы ці адмаўляючы яго наяўнасць у цяперашнім, прошлым ці будучым часе. Дзеясловы абвеснага ладу, за выключэннем безасабовых, маюць формы асобы і ліку (а ў прошлым часе — і роду): *Кветкі яблынь белым пухам* ***засцілаюць*** *весні сад* (А. Дзеружынскі). *Маланка* ***бліснe***. ***Згасне*** *зорка*. ***Пальецца*** *дождж як з рукава* (Я. Янішчыц). *Гром яшчэ неакрэплым басам* ***абвясціў*** *аб прыходзе вясны* (Н. Маеўская).

Формы **загаднага ладу** паказваюць, што дзеянне павінна ажыццявіцца ў выніку пабуджэння, патрабавання ці просьбы: *Не* ***варушыся***, *чапля, ў*[1] *сне*. ***Ляці***, *мой жураваель*. ***Курлыч***, *але не* ***кліч*** *мяне да іншых рэк, зямель* (М. Калачынскі).

Загадны лад мае пяць формаў: 2-й і 3-й асобы адзіночнага ліку, 1-й, 2-й і 3-й асобы множнага ліку. Найбольш ужывальнымі з'яўляюцца формы 2-й асобы.

Формы 2-й асобы адзіночнага ліку ўтвараюцца ад асновы цяперашняга (будучага) часу далучэннем да яе суфіксаў ***-і***, ***-ы*** (*нясі*, *падмяці*, *бяры*, *скажы*) або без далучэння суфіксаў (*сып*, *стань*, *слухай*).

! У многіх вучэбных дапаможніках ***-і***, ***-ы*** трактуюцца як канчаткі.

Асобную групу складаюць дзеясловы *біць*, *піць*, *ліць*, *віць*, якія ў загадным ладзе маюць форму *бі*, *пі*, *лі*, *ві*.

Існуе група дзеясловаў, якія ўтвараюць форму 2-й асобы не ад асновы цяперашняга часу: а) дзеясловы з асновай цяперашняга часу на ***-ай***: *прадаваць — прадай-уць — прадавай*; б) дзеяслоў ***даць***: *дад-уць — дай*; в) дзеяслоў ***есці***: *яд-уць — еш* і пад.

Форма 2-й асобы множнага ліку ўтвараецца ад формы 2-й асобы адзіночнага ліку пры дапамозе постфікса ***-це***: *нясіце*, *сыпце*, *станьце*, *слухайце*, *біце*, *дайце*, *ешце*.

Формы 1-й асобы множнага ліку маюць канчаткі ***-ем*** (***-эм***, ***-ам***), ***-ім*** (***-ым***): *Сябры*, ***успомнім*** *пра сяброў, пра тых, што не прыйшлі* (П. Броўка). Некаторыя з формаў 1-й асобы супадаюць з формай будучага простага часу: *скажам*, *возьмем*, *зробім*; другія маюць спецыфічныя формы: *бярэм*, *ідзем*, *нясем*. Адметнасцю беларускай мовы з'яўляецца форма на ***-ма***: *гляньма*, *кіньма*, *рэжма*.

Для выражэння загаду ў дачыненні да 1-й асобы множнага ліку ўжываюцца апісальныя формы з часціцай ***давай*** (***давайце***) і дзеясловам у форме інфінітыва (*давай пісаць*) або будучага простага часу (*давай напішам*).

Формы 3-й асобы ўтвараюцца далучэннем часціцы ***няхай*** (***хай***) да формы 3-й асобы: *няхай зробяць*, *хай прачытаюць*. *Дзесь пад крылом ціхавейнае ласкі* ***хай*** *вам* ***прысніцца*** *цудоўная казка* (М. Шабовіч).

Дзеясловы **ўмоўнага ладу** абазначаюць дзеянне магчымае, пажаданае, якое можа ці магло б адбыцца пры пэўных умовах: *На свеце, мусіць, добра ўсё* ***было б***, *каб людзі болей думалі пра жыта!*

Формы ўмоўнага ладу ўтвараюцца спалучэннем формаў дзеяслова прошлага часу або інфінітыва з часціцай ***бы*** (***б***): *купіў бы*, *купіла б*. ***Паляцела б*** *разам з птушкамі ў вырай, каб змагла ад зямлі адарвацца* (Н. Маеўская).

[1] ГН — *у сне*.

! Дзеясловы ва ўмоўным ладзе змяняюцца па родах і ліках, але не маюць формаў асобы і часу.

Часціца **бы** (**б**) можа знаходзіцца як пры самім дзеяслове, так і пры іншых членах сказа: *Я **быў бы** шчаслівы бязмерна, калі **б удалося** мне здзейсніць надзеі маіх незабыўных настаўнікаў і сяброў* (М. Танк).

## Часы дзеяслова

У катэгорыі **часу** выражаюцца адносіны дзеяння або стану да моманту гутаркі. Форму часу (цяперашняга, прошлага або будучага) маюць толькі дзеясловы абвеснага ладу: *чытаю*, *чытаў*, *буду чытаць*.
Формы **цяперашняга часу** абазначаюць дзеянне, якое адбываецца ў момант гутаркі: *І горыч уяўнай няўмольнай разлукі **агортвае** сэрца сівою тугой* (Н. Маеўская).
У цяперашнім часе могуць ужывацца толькі дзеясловы незакончанага трывання.
Формы **прошлага часу** абазначаюць дзеянне, якое адбывалася ці адбылося да моманту гутаркі: ***Упала** кропля і другая, за імі цэлым вадаспадам буйныя капкі, як бы градам, па лісцях дуба **секанулі** ды далей сетку **пацягнулі*** (Я. Колас).
Формы прошлага часу ў большасці дзеясловаў утвараюцца ад асновы інфінітыва шляхам далучэння суфікса ***-л-*** (***-ў***) і канчаткаў: нулявога для мужчынскага роду (*узяў*, *пайшоў*), ***-а*** для жаночага роду (*узяла*, *пайшла*), ***-а***, ***-о*** для ніякага роду (*дзіця несла*, *дзіця жыло*), ***-і*** для множнага ліку (*узялі*, *пайшлі*, *неслі*, *жылі*).

! Калі аснова інфінітыва заканчваецца на зычны, то ў форме прошлага часу мужчынскага роду суфікс ***-ў*** не ўжываецца: *зберагчы — збярог*, *стрыгчы — стрыг*.

Калі дзеяслоў заканчваецца на ***-сці***, то каранёвы ***с*** у прошлым часе выпадае: *класці — клаў*, *клала*, *клалі*.
Калі інфінітыў мае канцавы суфікс ***-чы***, то ў формах прошлага часу аднаўляецца этымалагічны ***к***: *пячы — пёк*, *пякла*, *пяклі*.
У прошлым часе могуць ужывацца дзеясловы незакончанага і закончанага трывання (*даваў*, *даў*). Яны змяняюцца па ліках, а ў адзіночным ліку — па родах.
Суфікс ***-ну-*** ў дзеясловах закончанага трывання захоўваецца, калі яны абазначаюць аднаразовае дзеянне (*стукнуць — стукнуў*), і выпадае, калі яны абазначаюць стан (*намокнуць — намок*, *прыліпнуць — прыліп*).
Дзеясловы **будучага часу** абазначаюць дзеянне, якое будзе адбывацца ці адбудзецца пасля моманту гутаркі:

*Ветры буйныя песню вясны*
***Разнясуць** па зялёнай даліне.*
***Будзе** гай на гары **гаманіць**,*
***Будзе плакаць** у лузе каліна.*
П. Трус.

Будучы час мае дзве формы: простую і складаную.
Простую форму будучага часу маюць дзеясловы закончанага трывання. Яны ўжываюцца з тымі ж канчаткамі, што і дзеясловы незакончанага трывання ў цяперашнім часе: *чытаю — прачытаю*, *чытаецце — прачытаецце*.
Складаная форма будучага часу ўласціва дзеясловам незакончанага трывання. Асабовыя формы дапаможнага дзеяслова ***быць*** спалучаюцца з інфінітывам асноўнага дзеяслова: *буду спаць*, *будзеш спаць*, *будзе спаць*.

## Правапіс суфіксаў дзеясловаў

Неабходна адрозніваць суфіксы дзеясловаў ***-ава-*** (***-ява-***), ***-ва-***, ***-іва-*** (***-ыва-***).
У неазначальнай форме і ў формах прошлага часу пішацца суфікс ***-ава-*** (***-ява-***), калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку дзеясловы заканчваюцца на ***-ую***: *даследую — даследаваць*, *даследаваў*; *пакутую — пакутаваць*, *пакутаваў*; *здзекуюся — здзекавацца*, *здзекаваўся*. Суфікс ***-ава-*** пішацца ў дзеясловах *выйграваць*, *прайграваць*.
Калі перад суфіксам утвараецца збег зычных, апошнімі ў якім з'яўляюцца [л'], [н], [р], то ў неазначальнай форме, у прошлым і цяперашнім часе пішацца суфікс ***-іва-*** (***-ыва-***): *падкрэсліваць*, *падкрэсліваю*, *падкрэсліваў*; *праветрываць*, *праветрываю*, *праветрываў*.
Суфікс ***-ва-*** пішацца пасля адзіночных зычных або іх спалучэнняў, якія заканчваюцца не на [л'], [н], [р]: *расказваць*, *наведваць*. У 1-й асобе адзіночнага ліку яны заканчваюцца на ***-ваю***: *расказваю*, *наведваю*.
Мяккасць зычнага захоўваецца: *удасканал**і**ць — удасканал**ь**ваць*.

! Калі ў інфінітыве дзеяслоў закончанага трывання на ***-іць*** мае папярэдні галосны, то ў незакончаным трыванні замест ***і*** пішацца ***й***: *супакоіць — супакойваць*, *прыклеіць — прыклейваць*.

! Ад некаторых прыставачных дзесловаў закончанае трыванне ўтвараецца пры дапамозе суфікса ***-оўва-*** (***-ёўва-***): *аб'яднаць — аб'ядноўваць*, *размалявацъ — размалёўваць*.

**Варыянт 1.** Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць падкрэсленаму ў сказе дзеяслову:
*Дажджавая хмара раздзялілася на два крылы* (Я. Брыль).

- [ ] 1) I спражэння;
- [ ] 2) закончанага трывання;
- [ ] 3) зваротны;
- [ ] 4) абвеснага ладу;
- [ ] 5) ужыты ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку.

**Варыянт 2.** Адзначце дзеясловы, якія не маюць формаў цяперашняга часу:

- [ ] 1) радавацца;
- [ ] 2) намокнуць;
- [ ] 3) прылятаць;
- [ ] 4) заспяваць;
- [ ] 5) прывезці;
- [ ] 6) заплятаць;
- [ ] 7) перабегчы;
- [ ] 8) праспешыць;
- [ ] 9) прыводзіць;
- [ ] 10) змагацца.

**Варыянт 3.** Адзначце дзеясловы, формы прошлага часу якіх утвораны і напісаны правільна:

- [ ] 1) садзейнічыў;
- [ ] 2) склаў;
- [ ] 3) падпоўз;
- [ ] 4) сцярагла;
- [ ] 5) настроівалі;
- [ ] 6) загроб;
- [ ] 7) зморшчыўся;
- [ ] 8) папрысутнічыў;
- [ ] 9) прыліп;
- [ ] 10) вывязла.

**Варыянт 4.** Адзначце сказы, у якіх падкрэслены дзеясловы закончанага трывання:

- [ ] 1) I лёгкі сум агортвае мяне (*М. Шабовіч*).
- [ ] 2) Вецер калыхне зорку за акном (*М. Башлакоў*).
- [ ] 3) Росы абмылі ў садзе траву (*Н. Маеўская*).
- [ ] 4) Дразды, пераймаючы салаўіныя пералівы, сустракалі ў захапленні раніцу такім адмысловым перасвістам, што звінела ў вушах (*I. Пташнікаў*).
- [ ] 5) Мне рукі азяблыя полымя грэла, а роднае слова сагрэла душу (*С. Грахоўскі*).

**Варыянт 5.** Адзначце сказы з дзеясловамі ўмоўнага ладу:

- [ ] 1) Найдаражэйшы з галасоў я б слухаў тысячу разоў (*Ф. Баторын*).
- [ ] 2) Той міг сустрэчы берагчы ў будні буду і ў нядзелі (*М. Шабовіч*).
- [ ] 3) Хмурынкай залацістаю паплыць бы з вамі, воблакі (*А. Дзеружынскі*).
- [ ] 4) Спадар мастак, партрэт з мяне пішы, пакуль тут ноч святла не патушыла (*Н. Маеўская*).
- [ ] 5) I кожнай хвіляй жораў пільна сачыў за зменамі ў жыцці (*К. Кірэенка*).

**Варыянт 6.** Адзначце сказы з дзеясловамі загаднага ладу:

- [ ] 1) Хай вам прысніцца чароўная фея... (*М. Шабовіч*).
- [ ] 2) А нам не трэба славы і багацця, хацелася б нам проста добра жыць (*Ф. Баторын*).
- [ ] 3) А цяпер давайце зноў вернемся ў стары сакавіцкі лес (*С. Зуёнак*).
- [ ] 4) Гэй ты, церам-церамок, адчыні свае нам дзверы, адамкні хутчэй замок (*Н. Галіноўская*).
- [ ] 5) I вятрак далёкі ў ціхім полі пахавалі хвалі збажыны (*А. Вялюгін*).

**Варыянт 7.** Адзначце сказы з дзеясловамі незалежнага стану:

- [ ] 1) Небывалае красуе жыта, сонца засланяючы сабой (*А. Вялюгін*).
- [ ] 2) I хмара нізкая над намі ўсё рассыпае спорны дождж (*Н. Маеўская*).
- [ ] 3) Свята рабілася кожны год на адным месцы, на вялікай прагаліне (*А. Жук*).
- [ ] 4) Ужо ў суботу ва ўсіх хатах мыецца падлога, падмятаюцца падворкі... (*С. Кухараў*).
- [ ] 5) Крык жураваў у апусцелым полі танюткай павуцінкаю плыве (*М. Башлакоў*).

**Варыянт 8.** Адзначце сказы з пераходнымі дзеясловамі:

☐ 1) Кранула шэрань раніцай траву (*Я. Крупенька*).
☐ 2) Лагодны вецер дзьмуў з акна (*М. Шабовіч*).
☐ 3) З зямлі змываюць рэшткі змроку росы (*Ф. Баторын*).
☐ 4) Вада чамусьці плешча цераз край (*Я. Янішчыц*).
☐ 5) Свет запаланілі перамены (*Г. Бураўкін*).

# УРОКІ 29–30 Дзеяслоў. Спражэнне. Асабовыя канчаткі



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце дзеясловы I спражэння:

☐ 1) перабраць;
☐ 2) цярпець;
☐ 3) закрычаць;
☐ 4) вымыць;
☐ 5) шыць;
☐ 6) падвезці;
☐ 7) з'есці;
☐ 8) абклеіць;
☐ 9) перадаць;
☐ 10) садзейнічаць.

**Тэст № 2.** Адзначце правільныя сцверджанні адносна дзеясловаў:

☐ 1) асоба дзеяслова паказвае, хто з'яўляецца вытворцам дзеяння;
☐ 2) формы асобы дзеясловаў абвеснага ладу звязаны з часам і лікам;
☐ 3) незваротныя і адпаведныя ім зваротныя дзеясловы не заўсёды адносяцца да аднаго тыпу спражэння;
☐ 4) дзеясловы прошлага часу не маюць асабовых формаў;
☐ 5) дзеясловы ўмоўнага ладу маюць асабовыя формы.



## ТЭОРЫЯ

**Спражэнне** — гэта змяненне дзеясловаў па асобах і ліках у цяперашнім або будучым (простым) часе абвеснага ладу.

**Асоба** паказвае, хто з'яўляецца вытворцам дзеяння. Дзеяслоў мае формы трох асоб адзіночнага і множнага ліку. Формы асобы звязаны з ладам і лікам, а ў абвесным ладзе — і часам (цяперашнім ці будучым простым).

! Дзеясловы прошлага часу і ўмоўнага ладу формы асобы не маюць.

Існуе два тыпы спражэння — першае (I) і другое (II). Кожнаму з гэтых тыпаў у цяперашнім (будучым простым) часе ўласцівы свае асабовыя канчаткі (**!** у 1-й асобе адзіночнага ліку канчаткі супадаюць):

| Лік | Асоба | I спражэнне | II спражэнне |
|---|---|---|---|
| адз. | 1-я | *-у (-ю)* | *-у (-ю)* |
| | 2-я | *-еш (-эш, -аш)* | *-іш (-ыш)* |
| | 3-я | *-е (-э, -а)* | *-іць (-ыць)* |
| мн. | 1-я | *-ём (-ем, -ом, -ам)* | *-ім (-ым)* |
| | 2-я | *-еце (-яце, -аце)* | *-іце (-ыце)* |
| | 3-я | *-уць (-юць)* | *-аць (-яць)* |

Размяжоўваць дзеясловы паводле тыпаў спражэння зручней за ўсё па канчатках 3-й асобы множнага ліку абвеснага ладу (асабліва ў тым выпадку, калі ў гэтых формах націск прыпадае на канчатак): *нясуць* (I спр.), *стаяць* (II спр.).
Калі ж у асабовых формах націск падае не на канчатак, а на аснову, тып спражэння вызначаецца па неазначальнай форме дзеяслова: да II спражэння адносяцца дзеясловы *гнаць*, *цярпець*, *вярцець*, *ненавідзець*, *залежаць*, *належаць*, а таксама дзеясловы, якія заканчваюцца на ***-іць***, ***-ыць*** (*насіць*, *вучыць*), за выключэннем аднаскладовых тыпу *біць*, *шыць*, *крыць*, *мыць*, *ліць*.

! Вытворныя прыставачныя дзеясловы належаць да таго самага тыпу спражэння, што і беспрыставачныя: *шыць* (I спр.) і *прышыць* (I спр.), *вучыць* (II спр.) і *вывучыць* (II спр.).

Незваротныя і адпаведныя ім зваротныя дзеясловы адносяцца да аднаго тыпу спражэння: *мыць* (I спр.) — *мыцца* (I спр.), *лячыць* (II спр.) — *лячыцца* (II спр.).

## Асабовыя канчаткі дзеясловаў першага спражэння

| Лік | Асоба | Тып асновы (цяперашняга або будучага простага часу) | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | на мяккі зычны | | на цвёрды зычны (акрамя ***г***, ***к***) | | на ***г***, ***к*** (*г* // *ж*, *к* // *ч*) | | на зацвярдзелы | |
| | | націск на аснове | націск на канчатку | націск на аснове | націск на канчатку | націск на аснове | націск на канчатку | націск на аснове | націск на канчатку |
| адз. | 1-я | *чыта́ю* | *лью́* | *уста́ну* | *грабу́* | *ля́гу* | *стрыгу́* | *кажу́* | *бяру́* |
| | 2-я | *чытаеш* | *льеш* | *устанеш* | *грабеш* | *ляжаш* | *стрыжэш* | *кажаш* | *бярэш* |
| | 3-я | *чытае* | *лье* | *устане* | *грабе* | *ляжа* | *стрыжэ* | *кажа* | *бярэ* |
| мн. | 1-я | *чытаем* | *льём* | *устанем* | *грабём* | *ляжам* | *стрыжом* | *кажам* | *бяром* |
| | 2-я | *чытаеце* | *льяце́* | *устанеце* | *грабяце́* | *ляжаце* | *стрыжаце́* | *кажаце* | *бераце́* |
| | 3-я | *чытаюць* | *льюць* | *устануць* | *грабуць* | *лягуць* | *стрыгуць* | *кажуць* | *бяруць* |

## Асабовыя канчаткі дзеясловаў другога спражэння

| Лік | Асоба | Тып асновы | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | на мяккі зычны | | на зацвярдзелы | |
| | | націск на аснове | націск на канчатку | націск на аснове | націск на канчатку |
| адз. | 1-я | *хвалю* | *стаю* | *бачу* | *маўчу* |
| | 2-я | *хваліш* | *стаіш* | *бачыш* | *маўчыш* |
| | 3-я | *хваліць* | *стаіць* | *бачыць* | *маўчыць* |
| мн. | 1-я | *хвалім* | *стаім* | *бачым* | *маўчым* |
| | 2-я | *хва́ліце* | *стаіце́* | *ба́чыце* | *маўчыце́* |
| | 3-я | *хваляць* | *стаяць* | *бачаць* | *маўчаць* |

**Безасабовымі** дзеясловамі называюцца дзеясловы са значэннем дзеяння, якое адбываецца само па сабе, без удзелу ўтваральніка: *З алешніку яшчэ* ***дыхае*** *роснай сырасцю...* (В. Быкаў). *А на імшарыне, дзе* ***пахне*** *багульнікам і лазой, чырванеюць россыпы журавін* (М. Лынькоў).
Безасабовыя дзеясловы не маюць катэгорыі асобы, яны ўжываюцца ва ўсіх формах часу абвеснага ладу.
Безасабовыя дзеясловы могуць абазначаць:
— з’явы прыроды: *вечарэе*, *развіднела*, *падмарожвае*;
— фізічны і псіхічны стан: *нездаровіцца*, *дыхаецца*, *думаецца*;
— магчымасць ці неабходнасць дзеяння: *прыйшлося*, *удаецца*;
— дзеянне невядомай ці стыхійнай сілы: *мяце*, *замяло*, *нанесла*, *цягне*.

! У сказах з безасабовымі дзеясловамі не можа быць дзейніка.

**Рознаспрагальнымі** лічацца дзеясловы, якія маюць канчаткі розных тыпаў спражэння. У беларускай мове гэта дзеясловы *бегчы*, *есці*, *даць*. Яны спрагаюцца наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Адз. лік | 1-я асоба | *бягу* | *ем* | *дам* |
| | 2-я асоба | *бяжыш* | *ясі* | *дасі* |
| | 3-я асоба | *бяжыць* | *есць* | *дасць* |
| Мн. лік | 1-я асоба | *бяжым* | *ядзім* | *дадзім* |
| | 2-я асоба | *бежыцé* | *ясцé* | *дасцé* |
| | 3-я асоба | *бягуць* | *ядуць* | *дадуць* |



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме 2-й асобы адзіночнага ліку. Адзначце нумар правільнага адказу.

| | |
|---|---|
| **А.** Расцерці<br>**Б.** Выткаць<br>**В.** Злучыць<br>**Г.** Прывезці | **1.** -еш<br>**2.** -эш<br>**3.** -іш<br>**4.** -ыш<br>**5.** -аш |

☐ 1) А2Б4В1Г3; ☐ 3) А2Б5В4Г1; ☐ 5) А1Б4В3Г2.
☐ 2) А1Б2В4Г5; ☐ 4) А4Б2В1Г3;

**Варыянт 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку. Адзначце нумар правільнага адказу.

| | |
|---|---|
| **А.** Успомніць<br>**Б.** Несці<br>**В.** Браць<br>**Г.** Сказаць | **1.** -е<br>**2.** -э<br>**3.** -а<br>**4.** -іць<br>**5.** -ыць |

☐ 1) А1Б4В2Г3; ☐ 3) А4Б1В2Г5; ☐ 5) А1Б2В4Г5.
☐ 2) А4Б1В2Г3; ☐ 4) А2Б1В5Г3;

**Варыянт 3.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Залежаць<br>**Б.** Адрачыся<br>**В.** Садзейнічаць<br>**Г.** Вязаць | **1.** -е<br>**2.** -э<br>**3.** -а<br>**4.** -іць<br>**5.** -ыць |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 4.** Адзначце дзеясловы, якія ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчатак ***-а***:

☐ 1) пераказаць; ☐ 3) распасцерці; ☐ 5) выбраць.
☐ 2) магчы; ☐ 4) распрэгчы;

**Варыянт 5.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме 1-й асобы множнага ліку. Адзначце нумар правільнага адказу.

| | |
|---|---|
| **А.** Разнесці<br>**Б.** Нарэзаць<br>**В.** Дабрацца<br>**Г.** Знайсці | **1.** -ем<br>**2.** -ём<br>**3.** -ом<br>**4.** -ам<br>**5.** -ым |

☐ 1) А2Б4В3Г1; ☐ 3) А2Б3В4Г1; ☐ 5) А1Б3В4Г2.
☐ 2) А1Б4В3Г5; ☐ 4) А5Б1В2Г4;

**Варыянт 6.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме 1-й асобы множнага ліку. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Напячы<br>**Б.** Завяршыць<br>**В.** Надзьмуцца<br>**Г.** Прыгнаць | **1.** -ем<br>**2.** -ом<br>**3.** -ём<br>**4.** -ім<br>**5.** -ым |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 7.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме 2-й асобы множнага ліку. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Даставаць<br>**Б.** Стварыць<br>**В.** Прымусіць<br>**Г.** Вырашаць | **1.** -еце<br>**2.** -яце<br>**3.** -аце<br>**4.** -іце<br>**5.** -ыце |

А ☐ Б ☐ В ☐ Г ☐

**Варыянт 8.** Адзначце дзеясловы, якія ў форме 2-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчатак ***–ацé*** (***–яцé***):

☐ 1) крычаць;
☐ 2) ісці;
☐ 3) стрыгчы;
☐ 4) баяцца;
☐ 5) стаяць.

**Варыянт 9.** Адзначце дзеясловы, якія ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчатак ***–уць*** (***–юць***):

☐ 1) склейваць;
☐ 2) разганяць;
☐ 3) злучыць;
☐ 4) бараніць;
☐ 5) пускаць.

**Варыянт 10.** Адзначце дзеясловы, якія ў форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга або будучага простага часу маюць канчатак ***–аць*** (***–яць***):

☐ 1) малоць;
☐ 2) дагнаць;
☐ 3) зменшыць;
☐ 4) падзяліць;
☐ 5) раскалоць.

# УРОК 31 Дзеепрыметнік



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільныя сцверджанні адносна дзеепрыметнікаў:

☐ 1) абазначаюць дзеянне як прымету прадмета;
☐ 2) маюць граматычныя катэгорыі трывання, часу, стану;
☐ 3) змяняюцца па ліках, родах, склонах;
☐ 4) прымыкаюць да назоўнікаў;
☐ 5) маюць ступені параўнання.

**Тэст № 2.** Адзначце правільна ўтвораныя і напісаныя дзеепрыметнікі:

☐ 1) прагоркнуўшы хлеб;
☐ 2) скліканы сход;
☐ 3) скошанная трава;
☐ 4) паспелыя суніцы;
☐ 5) пройдзенны шлях;
☐ 6) засеенае поле;
☐ 7) прамёрзлая глеба;
☐ 8) пераплаўлены метал;
☐ 9) адштурхнуты мяч;
☐ 10) растаўшы снег.

**Дзеепрыметнік** — гэта неспрагальная дзеяслоўная форма, якая абазначае прымету або ўласцівасць прадмета ці асобы паводле дзеяння: *Водная роўнядзь як бы застыла,* ***разамлелая*** *ў сонечным праменні, і лёгкія аблачынкі ў небе, і само неба адбіваліся ў ёй, і дзе-нідзе на плыні ўспыхвалі і гаслі залацістыя бліскаўкі —* ***рассыпаныя*** *па вадзе косы сонца* (Т. Хадкевіч).

Дзеепрыметнік спалучае ў сабе граматычныя прыметы дзеяслова і прыметніка.

Як і дзеяслоў, дзеепрыметнік бывае цяперашняга і прошлага часу (*квітнеючы* сад, *расквітнелая* вішня), незалежнага і залежнага стану (*прывялая* трава, *перапісаны* тэкст), незакончанага і закончанага трывання (*красуючы* сад, *вышыты* ручнік). Дзеепрыметнікі, як і дзеясловы, кіруюць назоўнікамі: *напісаць алоўкам — напісаны алоўкам*. Да дзеепрыметнікаў могуць прымыкаць прыслоўі: *уважліва прачытаць — уважліва прачытаны*.

Як і прыметнікі, дзеепрыметнікі прымаюць форму роду, ліку і склону назоўніка, дапасоўваючыся да яго: *прачытаная кніга*, *прачытаны раман*, *прачытаныя кнігі*, *у прачытанай кнізе*, *у прачытаным рамане*, *з прачытанымі кнігамі*. Дзеепрыметнікі могуць мець кароткую форму: *лугі скошаны*, *кнігі прачытаны*.

Поўныя дзеепрыметнікі могуць выконваць ролю азначэння: *А ў нейкіх месцах шпаркі бег крынічкі раптоўна сціхае і яна... марудна і разважліва расцякаецца* ***пашырэлай запаволенай*** *плынню* (В. Стома), а таксама выказніка або яго іменнай часткі: *Сад увесь* ***абліты*** *белай квеценню* (І. Навуменка).

Кароткія дзеепрыметнікі заўсёды з'яўляюцца выказнікамі: *У якія роўныя шнурочкі цяпер* ***пакладзены*** *снапочкі!* (Я. Колас).

! Дзеепрыметнік разам з паясняльнымі словамі ўтварае дзеепрыметнікавы зварот — непадзельнае словазлучэнне, якое з'яўляецца адным членам сказа і адасабляецца, калі стаіць пасля паяснёнага слова. ***Параўнайце:*** *Пахла цёплай зямлёй і* ***абуджаным на ёй*** *жыццём* (В. Карамазаў) і *Пахла цёплай зямлёй і жыццём,* ***абуджаным на ёй***.

Неабходна разглядаць асобна ўтварэнне дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану ў цяперашнім і прошлым часе.

Утварэнне дзеепрыметнікаў у беларускай мове прадстаўлена ў наступнай табліцы:

| Дзеепрыметнікі незалежнага стану | |
|---|---|
| цяперашні час | прошлы час |
| аснова дзеясловаў цяперашняга часу незакончанага трывання + суфіксы ***-уч-*** (***-юч-***), ***-ач-*** (***-яч-***) | аснова інфінітыва непераходнага дзеяслова + суфікс ***-л-*** |
| *квітнеючы* | *пасталелы*, *утравелы* |
| ! Не ўласцівы беларускай мове, ужываюцца ва ўстойлівых словазлучэннях: *рухаючыя* сілы гісторыі, *адыходзячыя* падзеі | ! Сустракаюцца дзеепрыметнікі з суфіксамі ***-ш-***, ***-ўш-*** (*засохшы*, *павесялеўшыя*), але яны непажаданыя (іх ужыванне абмежавана) |

| Дзеепрыметнікі залежнага стану | |
|---|---|
| цяперашні час | прошлы час |
| аснова цяперашняга часу + суфіксы ***-ом-*** (***-ем-***), ***-ім-*** (***-ым-***) | аснова інфінітыва пераходных дзеясловаў закончанага трывання + суфіксы ***-н-***, ***-ан-***, ***-ен-***, ***-т-***<br>*зроблены*, *сшыты*<br>! Сустракаюцца ўтварэнні і ад дзеясловаў незакончанага трывання тыпу *шыты*, *вязаны* (яны разглядаюцца як прыметнікі) |
| Не ўласцівы беларускай мове, ужываюцца ў навуковым стылі ў спалучэннях тэрміналагічнага характару: *пілатуемы* самалёт, *атэстуемыя* асобы | Самае шырокае выкарыстанне ў беларускай мове.<br>Схемы ўжывання суфіксаў:<br>1) аснова на ***-а-***, ***-я-*** + ***-н̂-***: *задума-ць — задума-н-ы*;<br>2) аснова на зычны або на ***-і-***, ***-ы-***, ***-е-*** + ***-е̂н-***, ***-а̂н-***: *прынесці — прынесены*, *вывучыць — вывучаны*;<br>! У беларускай мове дзеепрыметнікі пішуцца з адной літарай ***н***.<br>3) аснова на ***-а-***, ***-я-***, ***-ы-***, ***-і-*** прыставачных дзеясловаў з аднаскладовай беспрыставачнай часткай + ***-т̂-***: *абвіць — абвіты*;<br>аснова на ***-о-***, ***-у-***, ***-ну-*** + ***-т̂-***: *абуць — абуты*, *абгарнуць — абгорнуты* |

! Зваротныя дзеепрыметнікі ў беларускай мове не ўжываюцца.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце дзеясловы, ад якіх нельга ўтварыць дзеепрыметнікі:

- 1) выпусціць;
- 2) размясціцца;
- 3) высмеяць;
- 4) прыгнуцца;
- 5) змалаціць;
- 6) спадзявацца;
- 7) выціснуць;
- 8) хвалявацца;
- 9) сесці;
- 10) збудаваць.

**Варыянт 2.** Адзначце словазлучэнні, у якіх дзеепрыметнікі ўтвораны, ужыты і напісаны правільна:

- 1) спахмурнелае неба;
- 2) змолатая кава;
- 3) апаўшы ліст;
- 4) заасфальтаванная дарога;
- 5) прадыктаваны тэкст;
- 6) ашукаты чалавек;
- 7) затопленая вуліца;
- 8) хвалюючаяся маці;
- 9) пасеяны авёс;
- 10) напаленная печ.

**Варыянт 3.** Адзначце словазлучэнні з правільна напісанымі дзеепрыметнікамі:

- 1) правеенае зерне;
- 2) уладкаваны на працу;
- 3) непрадбачанная сустрэча;
- 4) купленыя рэчы;
- 5) вывуджанная рыба;
- 6) утояны факт;
- 7) пабялелая страха;
- 8) знойдзенае рашэнне;
- 9) перададзянае прывітанне;
- 10) адроджаныя традыцыі.

**Варыянт 4.** Адзначце дзеясловы, ад якіх дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвараюцца пры дапамозе суфікса ***-т-***:

- 1) укамплектаваць;
- 2) перашыць;
- 3) закрануць;
- 4) запаволіць;
- 5) выцягнуць;
- 6) падмокнуць;
- 7) падкінуць;
- 8) падсохнуць;
- 9) закалыхаць;
- 10) сціснуць.

# УРОК 32 Дзеепрыслоўе



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільныя сцверджанні адносна дзеепрыслоўяў:

- 1) усе з'яўляюцца нязменнай формай дзеяслова;
- 2) маюць асаблівасці прыслоўя і дзеяслова;
- 3) могуць быць незакончанага і закончанага трывання;
- 4) звязваюцца з дзеясловам пры дапамозе кіравання;
- 5) дзеепрыслоўі закончанага трывання ўтвараюцца ад дзеяслоўных асноў цяперашняга часу.

**Тэст № 2.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце дзеепрыслоўі. Адзначце нумары гэтых слоў:

*Нягледзячы[1] на сілу і моц, апошнія патугі зімы выглядалі дарэмнымі: хоць пад раніцу, сабраўшы[2] апошнія рэшткі назапашанага[3] холаду, зіма ўедліва агрызалася адчувальнымі подыхамі марозу, зацягваючы[4] лужыны дастаткова моцным лёдам, дні яе былі ўжо злічаны[5]* (Паводле В. Стомы).

**Дзеепрыслоўе** — нязменная форма дзеяслова, якая абазначае дадатковае дзеянне і паясняе асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам: ***Стаміўшыся****, мы накіраваліся на ўскрай лесу, каб трохі перакусіць* (І. Гурскі). *Яны, не* ***змаўляючыся****, пабеглі на голас* (І. Мележ).

Дзеепрыслоўе мае прыметы дзеяслова і прыслоўя.

Як і дзеясловы, дзеепрыслоўі бываюць незакончанага і закончанага трывання, могуць быць пераходнымі і непераходнымі: *ляжаць — лежачы*, *сказаць — сказаўшы*; могуць мець зваротную форму: *сабрацца — сабраўшыся*, *умыцца — умыўшыся*; могуць кіраваць назоўнікамі: *пасадзіць дрэва — пасадзіўшы дрэва*; да іх могуць прымыкаць прыслоўі: *добра пад'есці — добра пад'еўшы*.

Як і прыслоўі, дзеепрыслоўі з'яўляюцца нязменнымі і прымыкаюць да дзеяслова.

Формаў часу дзеепрыслоўі не ўтвараюць. Гэтыя формы ў дзеепрыслоўях выражаюцца праз трыванне: дзеепрыслоўі незакончанага трывання абазначаюць дзеянне, якое адбываецца ці адбывалася адначасова з дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам: *На маўклівыя нізіны бяжыць,* ***шалеючы****, вада* (П. Глебка); дзеепрыслоўі закончанага трывання абазначаюць закончанае дадатковае дзеянне, якое адбылося раней за галоўнае: *Трактар дайшоў да канца палетка і,* ***завярнуўшыся****, заняў новыя барозны* (М. Паслядовіч).

! Дзеепрыслоўе заўсёды абазначае дзеянне той самай асобы або прадмета, што і дзеяслоў-выказнік, да якога адносіцца дзеепрыслоўе.

У сказе дзеепрыслоўі выконваюць ролю акалічнасцей. Найчасцей ужываюцца з паясняльнымі словамі, утвараючы з імі дзеепрыслоўнае словазлучэнне, якое з'яўляецца адным членам сказа і заўсёды адасабляецца: *І скуголяць вятры,* ***да зямлі прыпадаючы нізка****...* (Н. Маеўская).

Дзеепрыслоўі незакончанага трывання ўтвараюцца ад асновы цяперашняга часу дзеясловаў незакончанага трывання І спражэння пры дапамозе суфікса ***-учы*** (***-ючы***) і дзеясловаў ІІ спражэння пры дапамозе суфіксаў ***-ачы*** (***-ячы***):

І — *чытаць — чытаючы*, *казаць — кажучы*;
ІІ — *хадзіць — ходзячы*, *бачыць — бачачы*.

! **Выключэнні:** *баючыся*, *сплючы* (у дзеясловах ІІ спражэння суфікс ***-ючы***).

Дзеепрыслоўі закончанага трывання ўтвараюцца ад асновы інфінітыва дзеясловаў закончанага трывання далучэннем суфіксаў ***-ўшы*** (пасля галосных) і ***-шы*** (пасля зычных): *узяць — узяўшы*, *прынесці — прынёсшы*. Ад формы прошлага часу ўтвараюцца дзеепрыслоўі, калі ў інфінітыве перад ***-ці*** ёсць гук [с'], які ў асабовых формах чаргуецца з [д], [т]: *прывесці — прывяду — прывёўшы*.

**Запомніце!** Пры ўжыванні дзеепрыслоўяў неабходна кіравацца пэўнымі правіламі:

| | |
|---|---|
| 1. Дзеепрыслоўі незакончанага трывання абазначаюць дзеянне, адначасовае з дзеяннем дзеяслова-выказніка. Дзеепрыслоўі, утвораныя ад дзеясловаў незакончанага трывання з дапамогай суфіксаў ***-ўшы***, ***-шы***, лічацца парушэннем літаратурнай нормы. | |
| ***Правільна:***<br>*Яна ішла, трымаючы сына на руках.* | ***Няправільна:***<br>*Яна ішла, трымаўшы сына на руках.* |
| 2. У двухсастаўным сказе дзеянне, абазначанае выказнікам, і дадатковае дзеянне, выражанае дзеепрыслоўем, павінна выконвацца адной і той жа асобай ці прадметам. | |
| ***Правільна:***<br>*Ідучы паўз хаты, Васіль позіркам шукаў у вокнах Люду.* | ***Няправільна:***<br>*Ідучы паўз хаты, яго позірк шукаў у вокнах Люду.* |
| ***Спосабы праверкі:***<br>а) у правільна пабудаваным сказе дзеепрыслоўе можна замяніць дзеясловам і злучыць атрыманыя аднародныя выказнікі злучнікам ***і***: *Васіль ішоў паўз хаты і позіркам шукаў у вокнах Люду*;<br>б) паколькі дзеепрыслоўе, абазначаючы дадатковае дзеянне, сэнсава звязана з дзейнікам, у правільна пабудаваным сказе магчыма перастаноўка гэтага дзеепрыслоўя (дзеепрыслоўнага словазлучэння) у пазіцыю бліжэй да дзейніка: *Васіль, ідучы паўз хаты, позіркам шукаў Люду*. | |
| 3. Ужыванне дзеепрыслоўяў у аднасастаўных сказах абмежаванае:<br>а) у абагульнена-асабовых сказах можна ўжываць дзеепрыслоўі, калі дзеянне, выражанае дзеясловам і дзеепрыслоўем, адносіцца да кожнага, да любой асобы: *Не шукаючы, не знойдзеш* (Прык.); | |

| |
|---|
| б) у безасабовых сказах дзеепрыслоўе можна ўжываць толькі ў тым выпадку, калі яно адносіцца да інфінітыва (выказнік выражаны спалучэннем безасабовага дзеяслова ці прэдыкатыўнага прыслоўя тыпу *трэба*, *неабходна*, *можна*, *нельга*, *варта* з інфінітывам). Калі ў безасабовым сказе інфінітыва няма або яго ролю выконваюць словы *відаць*, *чуваць*, то дзеепрыслоўе ўжываць нельга. |

| ***Правільна:*** | ***Няправільна:*** |
|---|---|
| *Добра прыгледзеўшыся, можна было ўбачыць ля слупа сілуэт чалавека.* | *Добра прыгледзеўшыся, мне быў відаць ля слупа сілуэт чалавека.* |


ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце дзеясловы, ад якіх утвараюцца дзеепрыслоўі пры дапамозе суфікса ***-ўшы***:

☐ 1) захапляцца; ☐ 2) хадзіць; ☐ 3) паспрабаваць; ☐ 4) узгадаць; ☐ 5) адзначаць; ☐ 6) прыстасавацца; ☐ 7) засеяць; ☐ 8) змагацца; ☐ 9) прывесці; ☐ 10) адмовіць.

**Варыянт 2.** Адзначце дзеепрыслоўі, у якіх на месцы пропуску пішацца літара ***я***:

☐ 1) высмейва_чы; ☐ 2) сто_чы; ☐ 3) скардз_чыся; ☐ 4) дума_чы; ☐ 5) лом_чы; ☐ 6) выпроства_чыся; ☐ 7) танцу_чы; ☐ 8) то_чыся; ☐ 9) загойва_чы; ☐ 10) звон_чы.

**Варыянт 3.** Адзначце сказы, у якіх дзеепрыслоўі ўтвораны і ўжыты правільна:

☐ 1) Бярэзнік заварушыўся, гайдаючы тонкімі верхавінамі.
☐ 2) Не даляцеўшы да зямлі, лісток закружыла ў паветры.
☐ 3) Спыніўшыся ля вакзала, мне ўспомнілася наша з Віктарам сустрэча.
☐ 4) Праз колькі часу лес расступіўся, адкрыўшы нам сінюю прастору льнянога поля.
☐ 5) Увесь дзень нас цешыў, сыплючыся з неба, сухі звон жаўранкаў.

# УРОК 33 Прыслоўе


ПРАВЕРЦЕ САВЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце прыслоўі. Адзначце нумары гэтых слоў:
*Вузкая сцяжына змяілася ўздоўж[1] стромкага правага берага Гарыні, і я, выблытваючы ногі з пажоўкла-валакністага, падвялага травастою, нечакана[2] пачуў шолах крылаў над галавой і амаль[3] адначасова[4] заўважыў узбоч[5] дарогі цень, які павольна слаўся па траве* (У. Глушакоў).

☐☐☐☐☐

**Тэст № 2.** Адзначце прыслоўі, якія не ўтвараюць ступеняў параўнання:

☐ 1) мала; ☐ 2) уверх; ☐ 3) складана; ☐ 4) зранку; ☐ 5) рана; ☐ 6) шчыра; ☐ 7) начыста; ☐ 8) удвая; ☐ 9) блізенька; ☐ 10) далёка.

**Прыслоўе** — гэта самастойная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння, стану, іншай прыметы ці прадмета. Прыслоўі могуць адносіцца да дзеясловаў (***уважліва*** *чытаць*), да прыметнікаў (***вельмі*** *малы*), да прыслоўяў (***надта*** *холадна*), да назоўнікаў (*размова* ***па-англійску***).

Прыслоўі — нязменныя словы: яны не спрагаюцца, не скланяюцца, не маюць формаў роду, ліку і склону. Ім уласцівы спецыфічныя суфіксы ***-а***, ***-е***, ***-ому*** (***-аму***), ***-яму***, ***-у***, ***-ы***: *мала*, *наверсе*, *па-веснавому*, *па-добраму*, *па-летняму*, *збоку*, *угары*.

Якасныя прыслоўі маюць ступені параўнання: *глыбока — глыбей*, *больш глыбока* і інш.; некаторыя прыслоўі маюць формы ацэнкі і меры якасці: *рана — раненька*, *ранютка*, *ранюсенька*.

У сказе прыслоўі звычайна з’яўляюцца акалічнасцямі, але могуць выступаць у ролі іменнага выказніка або яго часткі: *Апоўдні таго дня на Ростані было непрытульна*. *Мая сястра замужам*. *Ён ужо дома*.

Калі прыслоўе адносіцца да назоўніка, яно выступае ў ролі недапасаванага азначэння: *Мы ўбачылі абеліск з зоркай наверсе*.

Да **азначальных** адносяцца якасныя і колькасныя прыслоўі, а таксама прыслоўі спосабу дзеяння.

Якасныя прыслоўі адказваюць на пытанне *як?* і характарызуюць якасць дзеяння: *весела*, *важна*, *далікатна*, *інакш* і інш.

Колькасныя прыслоўі абазначаюць меру дзеяння (прыметы), ступень інтэнсіўнасці і адказваюць на пытанні *ў якой меры? у якой ступені? як многа? колькі?*: *вельмі*, *выключна*, *дужа*, *залішне*, *надта*, *удвая*, *больш-менш*, *крыху*, *прыблізна*, *многа*, *мала* і інш.

Прыслоўі спосабу дзеяння паказваюць, як адбываецца дзеянне, і адказваюць на пытанні *як? якім чынам? якім спосабам?*: *бягом*, *наўздагон*, *па-свойму*, *упустую*, *насцеж*.

Да **акалічнасных** адносяцца прыслоўі са значэннем месца (*дома*, *далёка*, *наводшыбе*), часу (*аднойчы*, *летась*, *штогод*), прычыны (*згарача*, *нізавошта*, *чамусьці*), мэты (*назло*, *знарок*, *ненаўмысна*).

Прыслоўі могуць ужывацца ў ролі прыназоўнікаў, злучнікаў, часціц.

У ролі прыназоўнікаў найчасцей ужываюцца прыслоўі *вакол*, *насустрач*, *побач*, *пасля*, *уздоўж*, *паблізу*, *абапал*.

***Параўнайце сказы:***

| Прыслоўі | Прыназоўнікі |
|---|---|
| 1. *Вакол* ляжала лісце.<br>2. Ён убачыў мяне і пайшоў *насустрач*.<br>3. *Побач* расла ліпа.<br>4. Ён дайшоў да берага і пайшоў *уздоўж*.<br>5. *Пасля* пайшоў дождж.<br>6. *Паблізу* тоўпіліся людзі.<br>7. Зрабілі дарогу і *абапал* высадзілі дрэвы. | 1. *Вакол дрэва* ляжала лісце.<br>2. Ён пайшоў *насустрач мне*.<br>3. *Побач з будынкам* расла ліпа.<br>4. Ён пайшоў *уздоўж берага*.<br>5. *Пасля дажджу* добра растуць грыбы.<br>6. *Паблізу магазіна* тоўпіліся людзі.<br>7. *Абапал дарогі* высадзілі дрэвы. |

! Ад прыназоўніка можна паставіць склонавае пытанне да назоўніка: *вакол* (чаго?) *дрэва*.

У ролі часціц ужываюцца прыслоўі *ўжо*, *проста*, *роўна*, *чыста*, *тут*, *там*, *яшчэ* і інш.

***Параўнайце сказы:***

| Прыслоўі | Часціцы |
|---|---|
| 1. *Ужо* зайшло сонца.<br>2. Яна гаварыла *проста*, даходліва.<br>3. Калона ішла *роўна*, зладжана.<br>4. У хаце *чыста* прыбрана.<br>5. Ён сядзеў *тут*, у кабінеце.<br>6. *Там* яны і сустрэліся.<br>7. Яму хацелася сустрэцца з бацькам *яшчэ*. | 1. *Ужо* ў дзвярах ён азірнуўся.<br>2. *Проста* ён не ведаў адказу на гэта пытанне.<br>3. *Роўна* ў поўнач адбіў гадзіннік.<br>4. На ўсёй *чыста* вуліцы былі людзі.<br>5. Ну, *тут* ён і пабег.<br>6. Што *там* ні кажы, а вясны ўсе чакаюць.<br>7. Не толькі прыйдзеш, а *яшчэ* й прыбяжыш. |

! Часціцы можна апусціць (сэнс сказа ад гэтага не зменіцца).

У ролі злучнікаў могуць ужывацца прыслоўі *як*, *ледзь*, *калі*.

***Параўнайце сказы:***

| Прыслоўі | Злучнікі |
|---|---|
| 1. *Як* гэта зрабіць, ён не ведаў.<br>2. Стары *ледзь* ішоў.<br>3. *Калі* ты прыйдзеш? | 1. *Як* зробіш шпакоўню, чакай гасцей з выраю.<br>2. *Ледзь* выглянула сонца, усё заварушылася.<br>3. Мы сустрэліся, *калі* былі ўжо сталымі людзьмі. |

! Прыслоўі з’яўляюцца членамі сказа.

## Ступені параўнання

Ступені параўнання могуць утвараць якасныя прыслоўі з суфіксам ***-а***, утвораныя ад якасных прыметнікаў. Прыслоўі ў форме вышэйшай і найвышэйшай ступеняў параўнання паказваюць на розную ступень праяўлення дзеяння, стану ці якасці: *глыбока — глыбей, больш глыбока, найглыбей, найбольш глыбока*.

! Як і ў прыметнікаў, формы ступеняў параўнання могуць быць простыя і складаныя.

**Простая форма вышэйшай ступені** параўнання ўтвараецца ад прыслоўяў пры дапамозе суфіксаў ***-ей*** (***-эй***, ***-ай***): *далёка — далей, высока — вышэй* (пры гэтым можа адбывацца чаргаванне зычных). Сустракаюцца і суплетыўныя формы: *добра — лепш, дрэнна — горш, многа — больш* (*болей*), *мала — менш* (*меней*).
**Складаная форма вышэйшай ступені** ўтвараецца шляхам спалучэння прыслоўяў са словамі ***больш***, ***менш***: *больш важна, менш зладжана*.
**Простая форма найвышэйшай ступені** ўтвараецца далучэннем прыстаўкі ***най-*** да формы вышэйшай ступені: *менш — найменш, далёка — найдалей*.
**Складаная форма найвышэйшай ступені** ўтвараецца спалучэннем прыслоўяў са словамі ***найбольш***, ***найменш*** (*найбольш упэўнена, найменш складана*), а таксама спалучэннем формаў вышэйшай ступені са словамі ***за ўсё***, ***за ўсіх*** (*менш за ўсё, лепш за ўсіх*).


ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце якасныя прыслоўі. Адзначце нумары гэтых слоў:
*Бесперапынна*[1] *трашчаць дразды, пералівіста*[2] *заліваецца шпак, адрывіста*[3] *пасвістваюць івалгі, а ноччу*[4] *пачынаюць аднатонна*[5] *драць горла на лугах славутыя пешыя хадакі — драчы — ды выводзіць непаўторныя пошчакі цуд нашага лесу — аліўкавы салавей, надаючы асаблівую прыгажосць цёплай майскай ночы* (В. Стома).

☐☐☐☐☐

**Варыянт 2.** Адзначце сцверджанні, якія характарызуюць абедзве часціны мовы — прыслоўе ***моцна*** і прыметнік ***моцны***:

☐ 1) самастойныя часціны мовы;
☐ 2) уваходзяць у разрад *якасных*;
☐ 3) утвараюць ступені параўнання;
☐ 4) змяняюцца па склонах;
☐ 5) змяняюцца па ліках.

# УРОК 34 Правапіс прыслоўяў


ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць ***разам***:

☐ 1) (***у***) ***сярэдзіне*** лета;
☐ 2) рабілі (***па***) ***этапна***;
☐ 3) насыпалі (***да***) ***верху***;
☐ 4) (***па***) ***троху*** папраўляўся;
☐ 5) спынілі (***на***) ***скаку***;
☐ 6) (***што***) ***год*** наведваўся;
☐ 7) (***на***) ***верх*** гары;
☐ 8) працавалі (***у***) ***дваіх***;
☐ 9) стаіць (***на***) ***воддаль***;
☐ 10) планавалі (***на***) ***далей***.

**Тэст № 2.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць ***праз злучок***:

☐ 1) (***па***) ***філасофску*** глыбока;
☐ 2) падлічвалі (***па***) ***дэкадна***;
☐ 3) (***па***) ***доўгу*** размаўлялі;
☐ 4) атрымалася (***па***) ***твойму***;

☐ 5) сустракалі (**сям**) **там**;
☐ 6) знаходзіўся (**пад**) **бокам**;
☐ 7) выць (**па**) **воўчы**;
☐ 8) разышліся (**па**) **добраму**;
☐ 9) ішлі (**па**) **двое**;
☐ 10) (**дзе**) **небудзь** у космасе.



ТЭОРЫЯ

У беларускай мове адрозніваюцца напісанні прыслоўяў ***разам*** і ***праз злучок***.

**Разам** пішуцца прыслоўі:

1) утвораныя ад прыслоўяў прыставачным спосабам: *назаўтра*, *назаўсёды*, *назаўжды*, *назусім*, *намнога*, *наколькі*, *настолькі*, *нашмат*, *насупраць*, *заўчора*, *залетась*, *паслязаўтра*, *пазаўчора*, *пазалетась*, *замнога*, *задоўга* і інш. Ад такіх прыслоўяў трэба адрозніваць спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, якія ўжываюцца ў значэнні дапаўнення. Назоўнікі з прыназоўнікамі пішуцца асобна: *на заўтра* (*адкласці*), *за дзякуй* (*рабіць*), *да заўтра* (*скончыць*); *ад цямна да відна*, *з цямна да цямна*, *да ранку*, а таксама *ў адно*, *па двое*, *па трое* і інш.;
2) утвораныя пры дапамозе постфікса ***-сьці***: *кудысьці*, *калісьці*, *дзесьці*, *адкульсьці*;
3) утвораныя ў выніку спалучэння прыназоўнікаў ***у*** і ***на*** з рознымі склонавымі формамі колькасных і зборных лічэбнікаў: *удвая*, *утрая*, *удваіх*, *утраіх*, *утрох*, *учатырох*, *усемярых*, *удвух*, *удзвюх*, *усямёх*, *надвое*, *натрое*;
4) утвораныя ад прыметнікаў прыставачна-суфіксальным спосабам: *дабяла*, *дачыста*, *дасуха*, *дасыта*, *здалёку*, *звысоку*, *зрэдку*, *справа*, *сослепу*, *змоладу*, *змалку*, *злёгку*, *паблізу*, *папросту*, *паціху*, *падоўгу*, *паройну*, *улева*, *управа*, *навечна*, *надоўга*, *насуха*, *зажыва*, *зацемна*, а таксама *заадно*, *наўдалую*, *ушчыльную*, *урассыпную*, *упустую*, *збольшага*, *нашто*, *навошта*, *нізашто*, *потым*, *надта*, *зусім*, *затым*, *прытым* і інш.;

> ! Ад прыслоўяў *нашто*, *нізашто*, *зусім*, *затым* трэба адрозніваць спалучэнні займеннікаў з прыназоўнікамі, якія пішуцца асобна: *нашто ты сказаў — на што ты глядзіш*, *нізашто не скажу — ні за што пакаралі*, *зусім позна — з усім класам*, *затым пойдзем — за тым дрэвам*.

5) утвораныя ў выніку спалучэння прыназоўнікаў і склонавай формы назоўнікаў, якая самастойна не ўжываецца: *бесперастанку*, *дашчэнту*, *досыць*, *замуж*, *запанібрата*, *знячэўку*, *знянацку*, *навобмацак*, *наогул*, *напагатове*, *напавал*, *напалам*, *наперакор*, *наперарэз*, *напрост*, *напярэймы*, *насцеж*, *наўздагон*, *наўздзіў*, *наўпрост*, *наўскос*, *наўцёк*, *неўзабаве*, *неўпапад*, *паасобку*, *паблізу*, *спакон*, *уваччу*, *удоўжкі* (*удоўж*), *упокат*, *употай*, *усутыч* і інш.;
6) утвораныя ў выніку спалучэння прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў і іншых часцін мовы, калі да падобнай формы назоўніка не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам: *апоўдні*, *апоўначы*, *даволі*, *дадому*, *замужам*, *зроду*, *наадварот*, *наадрэз*, *накрыж*, *напаказ*, *напалавіну* (*напалову*), *напераменку*, *напракат*, *напралом*, *напрыклад*, *насілу*, *насмерць* (але: *не на жыццё*, *а на смерць*), *наўдачу*, *навек*, *паволі*, *падрад*, *падчас*, *пакрысе*, *увосень*, *ўброд*, *уголас*, *удзень*, *углыб*, *упершыню*, *уранку*, *уранні*, *уразброд*, *усур'ёз* і інш.;
7) утвораныя ў выніку спалучэння прыназоўнікаў з формамі назоўнікаў ***верх***, ***ніз***, ***перад***, ***зад***, ***бок***, ***гара***, ***высь***, ***век***, ***пачатак***, ***раз***, ***ноч***, ***вечар***, ***раніца*** і іншых пры адсутнасці пры іх азначэння або дапаўнення: *зверху*, *наверх*, *уверх*, *уверсе*, *данізу*, *знізу* (але: *з верху да нізу*), *наніз*, *унізе*; *наперад*, *уперад*, *уперадзе*; *ззаду*, *назад*, *узад*; *збоку*, *набок*, *убок*, *убаку*; *дагары*, *згары*, *угары*, *угару*; *увысь*; *удалеч*; *навек*, *навекі*; *спачатку*, *упачатку*; *адразу*, *ураз*; *уночы*, *поначы*; *звечара* (але: *з вечара да ранку*), *надвечар*, *увечары*; *зранку* (але: *з ранку да вечара*), *уранку*. Спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паяснільнага слова пішуцца асобна: *на верх гары*, *на ніз ямы*, *у высь завоблачную*, *у даль палёў*, *на векі вечныя*, *у пачатку года*, *з пачатку вясны*;
8) прыслоўі з часткамі ***што-*** і ***-сама***: *таксама*, *гэтаксама*, *штодзень*, *штоноч* (*штоночы*), *штовечар* (*штовечара*), *штотыдзень* (*штотыдня*), *штомесяц*, *штогод* і інш.

**Праз злучок** пішуцца:

1) прыслоўі *па-першае*, *па-другое*, *па-трэцяе* і г. д.;
2) прыслоўі з прыстаўкай ***па-***, утвораныя ад давальнага склону поўных прыметнікаў і прыналежных займеннікаў з суфіксамі ***-аму***, ***-яму***, ***-ому***, ***-му***: *па-зімоваму*, *па-мойму*; прыслоўі на ***-ску***, ***-цку*** ад адносных прыметнікаў: *па-таварыску*, *па-брацку*; прыслоўі з суфіксам ***-ы*** ад прыметнікаў: *па-дзіцячы*, *па-мядзведжы*;
3) складаныя прыслоўі, утвораныя паўтарэннем аднолькавых, блізкіх або супрацьлеглых па значэнні слоў (можа далучацца прыстаўка): *светла-светла*, *крыж-накрыж*, *сюды-туды*, *як-ніяк*, *больш-менш*;
4) прыслоўі з прыстаўкай ***абы-*** і постфіксамі ***-небудзь***, ***-колечы***: *абы-дзе*, *дзе-небудзь*, *як-колечы*;
5) тэхнічны тэрмін *на-гара*.

Некаторыя прыслоўі з прыстаўкамі падобны на спалучэнні назоўнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў з прыназоўнікамі: *звярнуў убок — звярнуў у бок лесу, зрабілі ўтрох — у трох кнігах*.
Для размежавання такіх напісанняў неабходна ведаць наступныя **правілы**:

1) назоўнікі з прыназоўнікамі абазначаюць прадмет і маюць пры сабе пяснялбныя словы: *упаў з верху* (чаго?) *дрэва*;
2) лічэбнікі і займеннікі дапасуюцца да назоўнікаў: *прыехалі ў дзвюх машынах*; прыслоўі прымыкаюць да дзеясловаў: *прыйшлі ўдзвюх*.

**Асобна** пішуцца:

1) прыназоўнік ***у*** і склонавая форма поўнага прыметніка ў значэнні прыслоўя, калі яна пачынаецца з галоснай: *у адкрытую*; але: *ушчыльную*, *упустую*;
2) блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўніка з прыназоўнікам:
   - калі паміж прыназоўнікам і назоўнікам можна паставіць азначэнне: *у момант* (*у адзін момант*), *у тупік* (*папаў у такі тупік, што не выбрацца*), *да астатку* (*да самага астатку*);
   - калі назоўнік у пэўным (адным) значэнні захаваў хаця б некаторыя склонавыя формы з прыназоўнікамі (за выключэннем назоўнікаў *верх, ніз, перад, зад, бок, гара, высь, далеч, век, пачатак, раз, ноч, вечар, ранак* і інш.): *пад паху, пад пахі, пад пахамі*; *па часе, да часу, з часам, у час*; *праз меру, у меру, па меры*; *на памяць, на памяці, па памяці*; *на руку, не з рукі*; *да душы, па душы*; *у пару, да пары, не ў пару*; *за мяжой, за мяжу, з-за мяжы*; *за граніцай, з-за граніцы*;
3) наступныя блізкія па значэнні да прыслоўяў спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі:
   - ***без***: *без упынку, без аглядкі, без разбору, без развагі, без толку, без канца*; але: *бясконца, безупынна, безаглядна, безразважна, бесталкова*;
   - ***да***: *да адвалу, да зарэзу, да ўпаду, да смерці*;
   - ***на***: *на баку, на хаду, на ляту, на скаку, на бягу, на віду, на смак, на слых, на вока, на грэх, на дзіва, на славу, на смех, на гвалт, на злосць, на жаль*;
   - ***з***: *з налёту, з разбегу, з разгону, з размаху, з наскоку, з ходу, з гарачкі*;
4) спалучэнні часціц ***не*** і ***ні*** з прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *не ў меру, не ў пару, не ў лад, не пад сілу, не да смеху, не да спеху, не да смаку, не да твару, не на жарт, ні на ёту, ні за грош*;
5) спалучэнні назоўнікаў, якія пачынаюцца з галоснай, з прыназоўнікам ***у***: *у абхват, у абдымку, у абмен, у абрэз, у адзіночку, у абцяжку, у імгненне* і інш.;
6) выразы: *усё роўна, усё адно, як бачыш, як след, як мага* і інш. (але: *якраз*); *без дай рады, без дай прычыны*.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць ***разам***:

- [ ] 1) вымылі (***да***) ***чыста***;
- [ ] 2) бегалі (***да***) ***упаду***;
- [ ] 3) лічылі (***па***) ***гадзінна***;
- [ ] 4) вярталіся (***да***) ***дому***;
- [ ] 5) сеяў (***з***) ***ранку*** (***да***) ***вечара***;
- [ ] 6) завучыць (***на***) ***памяць***;
- [ ] 7) зачыніць (***на***) ***глуха***;
- [ ] 8) (***у***) ***дадатак*** да сказанага;
- [ ] 9) (***з***) ***роду*** Радзівілаў;
- [ ] 10) (***у***) ***даль*** мора.

**Варыянт 2.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць ***праз злучок***:

- [ ] 1) (***па***) ***рыцарску*** смела;
- [ ] 2) (***па***) ***асенняму*** дажджлівы;
- [ ] 3) дзялілі (***па***) ***роўну***;
- [ ] 4) кінуўся (***на***) ***перарэз***;
- [ ] 5) ладзіў (***па***) ***гаспадарску***;
- [ ] 6) выкінуць (***абы***) ***куды***;
- [ ] 7) (***усё***) ***роўна*** спазнілася;
- [ ] 8) ***перш*** (***на***) ***перш*** спланаваў;
- [ ] 9) дадаваць (***па***) ***малу***;
- [ ] 10) (***па***) ***чалавечы*** шкада.

**Варыянт 3.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы трэба пісаць ***асобна***:

- [ ] 1) бег (***што***) ***сілы***;
- [ ] 2) лавіць (***на***) ***ляту***;
- [ ] 3) (***па***) ***мацярынску*** пяшчотна;
- [ ] 4) (***у***) ***пачатку*** восені;
- [ ] 5) сядзеў (***на***) ***супраць***;
- [ ] 6) (***у***) ***дзвюх*** кватэрах;
- [ ] 7) прыняць (***на***) ***павер***;
- [ ] 8) беглі (***без***) ***аглядкі***;
- [ ] 9) заўсёды (***на***) ***віду***;
- [ ] 10) гадаць (***на***) ***двае***.

# УРОК 35 Службовыя часціны мовы

## Прыназоўнікі



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільныя сцверджанні адносна прыназоўнікаў:

☐ 1) гэта службовая часціна мовы;
☐ 2) усе з'яўляюцца нязменнымі словамі;
☐ 3) могуць звязваць аднародныя члены сказа;
☐ 4) удакладняюць значэнні ўскосных склонаў;
☐ 5) не бываюць вытворнымі.

**Тэст № 2.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце прыназоўнікі. Адзначце нумары гэтых слоў:
*Вялікі пунсовы шар [сонца] імкліва каціўся насустрач[1] адзінокай ранішняй хмарцы, якая, нібы[2] спалохаўшыся, што[3] спазнілася, хутка падала ўніз, за[4] далягляд, і[5] таяла там у полымі ўсходу* (І. Шамякін).

☐☐☐☐☐



ТЭОРЫЯ

**Прыназоўнік** — службовая часціна мовы, якая ўдакладняе і дыферэнцыруе значэнні ўскосных склонаў. Асноўная функцыя прыназоўнікаў — выражаць сінтаксічныя адносіны паміж словамі ў сказе і словазлучэнні: *іду **ад** Віктара, іду **да** Віктара, іду **з** Віктарам, іду **поруч з** Віктарам.*
Галоўная асаблівасць прыназоўнікаў — іх нязменнасць. Яны не маюць лексічнага значэння і набываюць яго толькі пры ўмове ўжывання з самастойнымі словамі.
Паводле паходжання прыназоўнікі падзяляюцца на **невытворныя** і **вытворныя**. Да невытворных адносяцца прыназоўнікі, якія не суадносяцца з іншымі часцінамі мовы. Яны ўзніклі вельмі даўно і найчасцей з'яўляюцца аднаскладовымі: *а, аб, ад, з, за, без, да, для, на, над* і інш. Двухскладовыя сярод невытворных — прыназоўнікі *перад, цераз, паміж, дзеля*. Вытворныя прыназоўнікі ўзніклі на базе іншых часцін мовы. У залежнасці ад часціны мовы, якая паслужыла ўтваральнай базай, вытворныя прыназоўнікі падзяляюцца на адпрыслоўныя (*абапал, блізка, вакол, насустрач, наперад, пасля, побач, паблізу, супраць, услед* і інш.), адыменныя (утвораныя ад назоўнікаў ва ўскосных склонах з невытворнымі прыназоўнікамі або без іх: *шляхам, за кошт, з мэтай, на чале, у выніку* і інш.), аддзеяслоўныя (суадносяцца з дзеепрыслоўямі: *дзякуючы, нягледзячы на, пачынаючы ад, пачынаючы з* і інш.).
Паводле марфалагічнага складу прыназоўнікі бываюць **простыя** (складаюцца з аднаго слова: *на, з, сярод, цераз*), **складаныя** (утвораныя спалучэннем двух простых: *з-за, з-пад, па-над*) і **састаўныя** (складаюцца з двух ці некалькіх слоў: *у адрозненне ад, на працягу, на чале з*).
Прыназоўнікі могуць ужывацца толькі з адным склонам або з двума ці нават трыма.

Асаблівасці ўжывання прыназоўнікаў у беларускай мове:
1) для выражэння прадмета думкі ці маўлення (пасля адпаведных дзеясловаў і назоўнікаў) ужываецца прыназоўнік ***пра***: *марыць пра падарожжа, мара пра падарожжа*;
2) пры дзеясловах, якія абазначаюць эмоцыі, перажыванні (*смяяцца, здзекавацца, кпіць, жартаваць, дзівіцца, цешыцца*), ужываецца прыназоўнік ***з*** з родным склонам: *жартаваць з брата, цешыцца з дзіцяці*;
3) для абазначэння мэты ўжываецца прыназоўнік ***па***: *пайсці па ваду, схадзіць па бацьку*; у спалучэнні з назвамі ягад і грыбоў ужываецца прыназоўнік ***у***: *пайсці ў грыбы, у маліны*;
4) прыназоўнік ***па*** ўжываецца для выражэння прасторавых, часавых, аб'ектных і іншых адносін: *ісці па лесе, хадзіць па зямлі, сумаваць па радзіме*;
5) прыназоўнік ***між*** (***паміж***) для абазначэння прасторавых адносін ужываецца з родным склонам: *паміж лясоў і балот*;
6) прыназоўнік ***аб*** ужываецца ў афіцыйна-дзелавым стылі з месным склонам: *закон аб мове*;

7) пры форме вышэйшай ступені параўнання прыметніка і прыслоўя ўжываецца прыназоўнік ***за*** (радзей — ***ад***): *старэйшы за сястру*, *зрабіў лепш за брата*.

! Гл. таксама ўрок 38 (асаблівасці кіравання ў беларускай мове).

## Правапіс прыназоўнікаў

Неабходна ведаць варыянты некаторых простых прыназоўнікаў і ўмовы іх ужывання:

а) прыназоўнік ***у*** ўжываецца ў варыянце ***ва*** перад словамі з пачатковым ***у***: *ва ўсім*, *ва ўніверсітэце*, *ва ўласнасці*;

б) прыназоўнік ***з*** ужываецца ў варыянце ***са*** перад словамі са збегам зычных, першы з якіх — ***з***, ***с***, ***ж***, ***ш***, ***м***: *са зборнікам*, *са сходу*, *са жніва*, *са шпакоўні*, *са мною*.

Усе складаныя прыназоўнікі пішуцца праз злучок: *з-за*, *з-пад*, *па-за*, *па-над*.

Састаўныя прыназоўнікі, утвораныя ад назоўнікаў з прыназоўнікамі або дзеепрыслоўяў з прыназоўнікамі, пішуцца, як два або некалькі слоў: ***на чале з*** *кіраўніком*, ***на працягу*** *лістапада*, ***у адрозненне ад*** *астатніх*, ***нягледзячы на*** *абставіны*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх выдзелены прыназоўнікі:

☐ 1) Ён далікатна пастукаў у дзверы нізенькага асабняка, што стаяў ***побач з*** заводам, сярод высокіх і тонкіх сосен (*М. Лынькоў*).

☐ 2) Я ***праз*** росныя травы бягу да вады, бы ў маленстве бягу... (*М. Башлакоў*).

☐ 3) ***Паміж*** намі сівыя лясы ды бруілівыя, пенныя моры (*Н. Маеўская*).

☐ 4) Малады ж мастак, ***дзякуючы*** свайму таленту і працы, стаў вядомым (*Б. Сачанка*).

☐ 5) І ён хуценька ўстаў, нарваў ***паблізу*** травы... (*Г. Далідовіч*).

**Варыянт 2.** Адзначце словазлучэнні, правільна перакладзеныя на беларускую мову:

☐ 1) осенние ночи холоднее летних — восеньскія ночы халаднейшыя за летнія;

☐ 2) смеяться над ними — смяяцца над імі;

☐ 3) бежать по тротуару — бегчы па тратуары;

☐ 4) отправить за сахаром — выправіць за цукрам;

☐ 5) отъехать по делам — ад'ехаць па справам.

# Злучнікі



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільныя сцверджанні адносна злучнікаў:

☐ 1) гэта службовая часціна мовы;

☐ 2) гэта нязменныя словы;

☐ 3) могуць звязваць аднародныя члены сказа;

☐ 4) могуць выступаць у ролі даданых членаў сказа;

☐ 5) усе з'яўляюцца невытворнымі.

**Тэст № 2.** Адзначце нумары сказаў, у якіх падкрэслены злучнікі.

(1) Вальдшнэп — птушка асаблівая. (2) Гэта адзіны прадстаўнік з вялікага радаводу кулікоў, ***<u>якія</u>*** жыве ў лясах... (3) Вальдшнэп невялікі сабою, з голуба, ***<u>а то і</u>*** меншы. (4) Вось толькі нос у яго, ***<u>як</u>*** ні ў кога з лясных жыхароў, разоў у пяць даўжэйшы за галаву... (5) ***<u>Затое</u>*** які гэта зручны інструмент для пошуку чарвякоў і лічынак! (6) ***<u>Ім</u>*** гэтая птушка на вялікай глыбіні можа даставаць ежу з мяккага ляснога грунту. (7) ***<u>А</u>*** на канцы дзюбы ў вальдшнэпа ёсць у дадатак спецыяльныя адчувальныя бугаркі. (8) ***<u>З</u>*** іх дапамогай птушка нават пад зямлёй адчувае сваю здабычу. (9) Сярод дзікай прыроды вальдшнэп здаецца вельмі прыгожай і зграбнай птушкай, нягледзячы на доўгі нос, на зрушаныя назад вочы, якімі ён бачыць нават тое, ***<u>што</u>*** робіцца ззаду. (10) Птушка, бясспрэчна, прыгожая, а ***<u>наколькі</u>*** гэта адзіны з усіх кулікоў лясны жыхар, ***<u>то</u>*** яшчэ і незвычайная (*Паводле В. Стомы*).

☐☐☐☐☐☐☐☐☐☐

**Злучнік** — службовая часціна мовы, якая служыць для сувязі сінтаксічных адзінак (членаў сказа, частак складанага сказа, самастойных сказаў, абзацаў тэксту):

1. *Я вяртаюся горадам сонным* ***і*** *ад холаду злёгку дрыжу, укрываюся парасонам ад асенняй слаты* ***і*** *дажджу* (Н. Маеўская). — Злучнікі ***і*** злучаюць аднародныя выказнікі *вяртаюся* ***і*** *дрыжу* і аднародныя дапаўненні *ад слаты* ***і*** *дажджу*.
2. *Ціха спалі дрэвы ў змроку шэрым,* ***і*** *ўздыхала сонная шаша* (В. Вітка). — Злучнік ***і*** злучае часткі складаназлучанага сказа.
3. *Падкрэслены холад маўчання.* ***І*** *крокі заціхлі.* ***І*** *выплыў туман з-за ракі* (Г. Бураўкін). — Злучнікі ***і*** злучаюць самастойныя сказы.

Злучнікі — гэта нязменныя словы, якія не маюць намінатыўнай функцыі і не з'яўляюцца членамі сказа. Іх галоўная функцыя — афармляць пэўныя сэнсавыя адносіны (адначасовасці, умовы, мэты і г. д.).

Злучнікі падзяляюцца на разрады:

- паводле паходжання бываюць ***невытворныя*** і ***вытворныя***. Невытворныя злучнікі не суадносяцца з іншымі часцінамі мовы і ўспрымаюцца як першапачатковыя: *а, і, ды, але, бо, каб* і інш. Вытворныя злучнікі паходзяць з іншых часцін мовы: займеннікаў (*што, таму*), прыслоўяў (*як, калі*), назоўнікаў (*раз*), часціц (*ці, бы, толькі*) або спалучэння розных часцін мовы (*для таго каб, пасля таго як* і інш.);
- паводле структурнага складу (саставу) злучнікі бываюць ***простыя*** і ***састаўныя***. Простыя злучнікі ўсе аднаслоўныя: *а, і, але, каб, што*. Састаўныя злучнікі складаюцца з некалькіх слоў, якія выконваюць ролю аднаго слова: *для таго каб, тым часам як*;
- паводле ўжывання злучнікі падзяляюцца на ***адзіночныя***, ***паўторныя*** і ***парныя***. Адзіночныя злучнікі не паўтараюцца пры членах сказа ці частках складанага сказа. Паўторныя злучнікі паўтараюцца пры кожным аднародным члене сказа (або толькі пры некаторых) ці кожнай частцы складанага сказа. Так, у сказе *А сам той бор глядзіць з усмехам* ***і*** *ўторыць чуткім сваім рэхам* ***і*** *спеву-посвісту драздоў,* ***і*** *громкім трубам пастухоў,* ***і*** *ціхай дудцы за гарою* (Я. Колас) першы злучнік ***і*** — адзіночны пры аднародных выказніках *глядзіць* ***і*** *ўторыць*, а пры аднародных дапаўненнях ***і*** *спеву-посвісту,* ***і*** *трубам,* ***і*** *дудцы* — ён паўторны. Толькі паўторнымі бываюць злучнікі *то — то, ці то — ці то, ні — ні, не то — не то*. Злучнікі *і, ды, або, ці* і ўсе падпарадкавальныя злучнікі могуць выступаць і як адзіночныя, і як паўторныя. Парныя злучнікі складаюцца з дзвюх частак, адна з якіх адносіцца да аднаго члена сказа (ці часткі складанага сказа), а другая — да іншага: *Здавалася, жыццё знайшло сваю каляіну і пакацілася па ёй* ***хоць і*** *не дужа шпарка,* ***але і*** *не вельмі ціха* (А. Асіпенка). Парнымі з'яўляюцца злучнікі *не толькі — але і, не толькі — а і, калі — то, калі — дык, як — так і, толькі — як, не тое што — а, не тое што — але, а раз — то, хоць і — але* (*і*) і інш.;
- паводле функцыянальнага прызначэння злучнікі падзяляюцца на ***злучальныя*** і ***падпарадкавальныя***. **Злучальныя** злучнікі служаць для сувязі сінтаксічна раўнапраўных адзінак — аднародных членаў сказа і частак складаназлучанага сказа: *Дзень быў хмарны, і таму вечаровыя змрокі насунуліся хутка і неўпрыкмет...* (А. Савіцкі) (першы злучнік ***і*** звязвае часткі складаназлучанага сказа, а другі — аднародныя акалічнасці). У залежнасці ад таго, якія сэнсавыя адносіны выражаюць злучальныя злучнікі, яны падзяляюцца на спалучальныя, супастаўляльныя і размеркавальныя. ***Спалучальныя*** злучнікі паказваюць на адносіны пералічэння, адначасовасці. Да спалучальных адносяцца злучнікі *і, ды* (у значэнні *і*), *як ... так і, ні ... ні, не толькі ... але і*: *У той сумны* ***і*** *цяжкі час нельга ўжо было пачуць* ***ні*** *тапалінага шолаху,* ***ні*** *птушынага спеву ў тапалінай кроне* (А. Бялевіч). ***Супастаўляльныя*** злучнікі выражаюць адносіны неадпаведнасці і супрацьпастаўлення. Гэта злучнікі *а, але, ды* (у значэнні *але*), *аднак, затое* і інш.: *Людзей слухай,* ***а*** *свой розум май* (Прыказка). *Днём церусіў дождж,* ***але*** *на змярканні супыніўся...* (І. Навуменка). ***Размеркавальныя*** злучнікі паказваюць на чаргаванне з'яў, фактаў, іх несумяшчальнасць. Гэта злучнікі *або, ці, або ... або, ці ... ці, не то ... не то, ці то ... ці то*: *А тут не зварухнецца ніводзін лісточак нават на трапяткіх высачэзных таполях* ***або*** *на такіх жа грушах на агародных узмежках* (П. Пестрак). *Дзверы ў скверыку стаялі наўкруг, пасярэдзіне меркавалася зрабіць фантан, але яго так ніколі і не зрабілі:* ***ці то*** *не хапала сродкаў,* ***ці*** *проста хто-небудзь палічыў гэта залішняй раскошай для звычайнай чыгуначнай станцыі* (І. Навуменка). **Падпарадкавальныя** злучнікі служаць для сувязі сінтаксічна нераўнапраўных адзінак — частак складаназалежнага сказа. Яны паказваюць на залежнасць дадзенай часткі ад галоўнай: *Кожны з нас прыпасае Радзімы куток,* ***каб*** *да старасці чэрпаць адтуль успаміны...* (П. Панчанка). Падпарадкавальныя злучнікі выражаюць розныя адносіны паміж дадзенай часткай і галоўнай. З улікам гэтых адносін падпарадкавальныя злучнікі падзяляюцца на: 1) ***тлумачальныя*** (*што, як, чым* і інш.); 2) ***прычынныя*** (*бо, таму што, з-за таго што* і інш.); 3) ***часавыя*** (*калі, як, пакуль, ледзь, чуць, толькі, з таго часу як* і інш.); 4) ***умоўныя*** (*калі, калі б, каб, як, як бы, раз, калі ... то, як ... то* і інш.); 5) ***мэтавыя*** (*каб, для, дзеля таго каб, з тым каб* і інш.); 6) ***уступальныя*** (*хоць, хоць бы, хай, няхай, нягледзячы на тое што* і інш.); 7) ***параўнальныя*** (*як, чым, што, як бы, нібы, быццам, чым ... тым* і інш.); 8) ***выніковыя*** (*так што, то, дык*).

! Прамежкавае становішча паміж злучальнымі і падпарадкавальнымі злучнікамі займаюць ***паясняльныя***, што служаць для сувязі такіх сінтаксічных адзінак, з якіх наступная паясняе першую: *або, ці, гэта значыць, а менавіта*.

## Правапіс злучнікаў

У адно слова пішуцца злучнікі *або, ажно, дый, таксама, нібы, нібыта*.
У два словы пішуцца злучнікі *а то, ды і, затым што, пры гэтым*.
Неабходна размяжоўваць злучнікі *затое, паколькі, прытым, прычым* ад спалучэнняў прыназоўнікаў з займеннікамі *за тое, па колькі, пры тым, пры чым*. Для гэтага размежавання неабходна памятаць, што займеннікі адказваюць на пытанні членаў сказа і пасля іх заўсёды ёсць назоўнік, на які гэты займеннік указвае.

***Параўнайце:***

| | |
|---|---|
| 1. *Праваднікі адказваюць* ***за тое****, каб бабры-перасяленцы закончылі сваё падарожжа паспяхова* (В. Вольскі).<br>2. *Ён схаваўся* ***за тое*** *дрэва, што расло побач.* | 1. *Не бяда, што дождж і гразка,* ***затое*** *прырода ажывае* (Э. Самуйлёнак).<br>2. *Ён схаваўся за дрэва,* ***затое*** *ўсё бачыў.* |

* Злучнік *затое* можна замяніць злучнікам *але*.


ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх падкрэслены злучнікі:

☐ 1) Затое трымалася лістота дастаткова моцна, па чым можна было меркаваць, што зіма ў гэтым годзе будзе не вельмі суровая, запозніцца яе надыход (*В. Стома*).

☐ 2) Калі ж акіян зазлуе, уздыбіць ён хвалі свае, пагоніць адну за адной высокай сцяной вадзяной (*Н. Галіноўская*).

☐ 3) Дакладна ўжо не прыгадаю, што мяне тады паклікала ў дарогу (*У. Глушакоў*).

☐ 4) І чым далей на захад, тым выразней праступаюць сляды велізарнай навальніцы, якая бушавала тут і павярнула на захад (*М. Лынькоў*).

☐ 5) Птахі вольныя, смела ляціце туды, дзе зялёныя вечна квітнеюць сады! (*А. Звонак*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх падкрэсленыя злучнікі звязваюць часткі складаных сказаў:

☐ 1) І нішто не магло спыніць яе [крынічку]: ні пераплеценыя карані кустоў, ні густая асака, ні душная летняя сухмень (*М. Зарэмба*).

☐ 2) Іх [верасы] не жнуць, не косяць, не рвуць, як кветкі, але першы, яшчэ цёплы, прывабны месяц восені называецца ў беларусаў верасень (*І. Навуменка*).

☐ 3) Хоць камень і далекавата ад сядзібы, на водшыбе, але ніхто з наведвальнікаў яго не міне, не абыдзе... (*У. Содаль*).

☐ 4) У нас гаворка нібыта адна, ды размаўляем мы на розных мовах (*Ф. Баторын*).

☐ 5) Васілька адчуў нядобрае, насупіўся, гуляць не пайшоў, а, залезшы на дах хлеўчука, пачаў выглядаць таго ненавіснага госця (*В. Быкаў*).

# Часціцы


ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце правільныя сцверджанні адносна часціц:

☐ 1) гэта самастойная часціна мовы;

☐ 2) могуць надаваць дадатковыя адценні словам, словазлучэнням і сказам;

☐ 3) могуць называць прадметы і дзеянні;

☐ 4) не з’яўляюцца членамі сказа;

☐ 5) некаторыя з часціц служаць для ўтварэння граматычных формаў.

**Тэст № 2.** Адзначце нумары сказаў, у якіх падкрэслены часціцы.

(1) Снег ляжаў **_на_** зямлі агромністай асляпляльнай коўдрай, вісеў на галінах тоўстымі глыбамі небывалай формы. (2) **_Як_** ён толькі трымаўся!

(3) **_Вось_** на тонкай бярозавай галінцы ўладкаваўся снежны ком. (4) Ён нагадвае грыб баравік **_з_** вялізнай шапкай. (5) Галінка апусцілася **_аж_** да самага долу пад яго цяжарам. (6) А грыб сядзіць **_сабе_**, не падае. (7) **_А_** махнатая елка стала падобнай на святочнага Дзеда Мароза. (8) Дзед расставіў свае рукі-лапы, **_быццам_** збіраецца абняць імі ўвесь свет. (9) **_Побач_** з дзедам дзівосная пячора. (10) Рыма ведае: дакраніся **_толькі_** да яе сякеркай — і пячора ператворыцца ў звычайны куст арэшніку. (11) Але Рыма не дакранаецца — **_няхай_** будзе пячора (*Паводле Г. Васілеўскай*).





ТЭОРЫЯ

**Часціца** — службовая часціна мовы, якая надае дадатковыя сэнсавыя, мадальныя і эмацыянальныя адценні словам, словазлучэнням і сказам: *вось*, *вунь*, *але*, *не*, *ні*, *як*, *аж*, *нават*, *толькі*.
Часціцы з'яўляюцца нязменнымі словамі. Яны не маюць намінатыўнай функцыі. Іх значэннем лічыцца тое дадатковае адценне, якое яны надаюць моўнай адзінцы. Часціцы не ўжываюцца самастойна і не з'яўляюцца членамі сказа.

> ! У дыялогу некаторыя часціцы (*але*, *не*, *так*, *няўжо*, *ага*) выступаюць у ролі слоў-сказаў:
> — *А вы, я бачу, таксама не ваенны.*
> — *Не* (І. Навуменка).

Пры дапамозе часціц можна:
1) узмацніць сэнс выказвання: *Я* ***нават*** *і цяпер не магу растлумачыць тое захапленне кветкамі* (Л. Гаўрылкін);
2) выказаць пэўнае пачуццё: *Зірні, прыслухайся наўкола:* ***як*** *ціхамірна,* ***як*** *вясёла* (Я. Колас);
3) выказаць сцвярджэнне: *«****Ага****, — гаворыць ён, — я ж тады і не сказаў пра спаборніцтва...»* (Я. Скрыган) — або адмаўленне: *Мне страшна хацелася з'есці лішні кавалачак, але я адмаўлялася: «Не, не, я* ***не*** *хачу, я ўжо наелася»* (І. Шамякін);
4) выказаць пажаданне ці пабуджэнне: ***Няхай жа*** *для шчасця цвіце ваша доля* (А. Русак);
5) выразіць пытанне: *«Пека? — здзівіўся я. —* ***Хіба*** *ёсць такое імя?»* (І. Навуменка).

## Разрады часціц

Часціцы паводле значэння і ролі ў сказе падзяляюцца на чатыры разрады: 1) сэнсавыя; 2) мадальныя; 3) эмацыянальныя; 4) формаўтваральныя.
Да ***сэнсавых*** адносяцца часціцы, якія надаюць словам дадатковыя сэнсавыя адценні. Сюды ўваходзяць тры тыпы часціц: *указальныя*: *вось* (*ось*, *от*, *во*), *вунь* (*унь*), *гэта*; *выдзяляльна-абмежавальныя*: *толькі*, *абы толькі*, *ледзь*, *хоць*, *хоць бы*, *выключна*, *хіба*, *толькі*; *удакладняльныя*: *амаль*, *іменна*, *проста*, *роўна*, *якраз*.
Да ***мадальных*** адносяцца часціцы, якія надаюць выказванню розныя мадальныя адценні. У залежнасці ад гэтых адценняў мадальныя часціцы падзяляюцца на *сцвярджальныя*: *так*, *ага*, *але*; *адмоўныя*: *не*, *ні*; *пытальныя*: *ці*, *хіба*, *няўжо*, *а*, *так*; *пабуджальныя*: *бы* (*б*), *няхай* (*хай*), *дай* (*давай*), *давай* (*-це*), *ну*, *бадай*, *на*, *ану*.
***Эмацыянальныя*** часціцы выражаюць розныя эмацыянальныя адценні (радасць, здзіўленне, захапленне) або ўзмацняюць выразнасць выказвання. Сярод іх вылучаюць *клічныя* часціцы (*што за*, *як*, *вось дык*, *няхай*) і *ўзмацняльныя* (*і*, *ні*, *ну*, *нават*, *дык*, *вось ... дык*, *аж*, *ж* (*жа*), *такі*).
***Формаўтваральныя*** часціцы служаць для ўтварэння граматычных формаў слова: *бы* (*б*) — для ўтварэння ўмоўнага ладу; *няхай* (*хай*), *давай* (*давайце*) — для ўтварэння загаднага ладу.

## Правапіс часціц

Пры напісанні часціц трэба кіравацца наступнымі **правіламі**:
1) часціцы ***бы*** (***б***), ***жа*** (***ж***) пішуцца асобна ад слоў, прычым ***бы*** і ***жа*** пішуцца пасля слоў, якія заканчваюцца на зычны (*сказаў бы*, *сказаў жа*), а ***б*** і ***ж*** — пасля слоў, якія заканчваюцца на галосны (*сказала б*, *сказала ж*);
2) часціца ***такі*** пішацца праз злучок, калі стаіць пасля дзеясловаў, да якіх адносіцца (*сказаў-такі*, *прыйшла-такі*), і ў складзе слоў *зноў-такі*, *зусім-такі*, *даволі-такі*, *так-такі*, *усё-такі*; у пазіцыі перад словамі ***такі*** пішацца асобна (*такі сказаў праўду*);
3) у няпэўных займенніках і прыслоўях часціца ***абы*** становіцца прыстаўкай і пішацца праз злучок: *абы-хто*, *абы-дзе*. Калі паміж часціцай і займеннікам ужыты прыназоўнік, спалучэнне пішацца ў тры словы: *абы з кім*, *абы да каго*;
4) часціца ***што*** пішацца асобна ў спалучэннях *толькі што*, *ледзь што*, *амаль што*, *сама што*, *хіба што*, *пакуль што*;

5) калі паміж постфіксам ***-небудзь*** і займеннікам ці прыслоўем ужыта часціца ***ж***, спалучэнне пішацца ў тры словы: *хто ж небудзь скажа*, *калі ж небудзь*;
6) часціца ***то*** пішацца праз злучок з займеннікамі, дзеясловамі і прыслоўямі: *ён-то сказаў*; *хадзілі-то хадзілі, але нічога не атрымалі*; *так-то яно так*.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх падкрэслены часціцы:

☐ 1) ...Ужо зоры загусціліся ў небе, ужо <u>і</u> шырокі серп месяца ўзышоў (*К. Чорны*).
☐ 2) Мы стаялі ў маладым садку, <u>што</u> ажно кіпеў ружовым яблыневым цветам (*У. Ягоўдзік*).
☐ 3) Дзьмухаўцы, <u>як</u> парашуты, па-над лугам кружацца (*Н. Галіноўская*).
☐ 4) Увесь пясчаны бераг і нізкая лугавіна былі <u>нібы</u> ўсеяны слюдзянымі бліскаўкамі (*М. Лынькоў*).
☐ 5) Праз дрыготкае мроіва, здавалася мне, яна [вёска] узнімаецца над дрэвамі, над прысадамі і <u>наогул</u> хоча адарвацца ад зямлі, узляцець (*Л. Гаўрылкін*).

**Варыянт 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж падкрэсленымі ў сказах словамі і іх прыналежнасцю да часцін мовы. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Якія ж яны [ластаўкі] вясёлыя, дружныя! І <u>***хоць бы***</u> калі ў іх надарылася птушыная спрэчка... (*М. Зарэмба*).<br>**Б.** Вось і думай, што тут рабіць. <u>***Хіба што***</u> лавушку якую змайстраваць (*В. Стома*).<br>**В.** Убачыш таксама гасцінец. Бярозы растуць <u>***паабапал***</u> (*К. Чорны*).<br>**Г.** [Эвалюцыя] у вузкім сэнсе ўключае толькі паступовыя змяненні <u>***ў адрозненне ад***</u> рэвалюцыі; у шырокім сэнсе — сінонім развіцця (*Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»*). | **1.** Прыназоўнік.<br>**2.** Часціца.<br>**3.** Злучнік.<br>**4.** Займеннік.<br>**5.** Прыслоўе. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

# УРОК 36 Ужыванне часціц НЕ і НІ



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) ужываецца ***не***:

☐ 1) Шура загаварыла __ адразу (*У. Дамашэвіч*).
☐ 2) Як __ стараліся ўсе развесяліць Міколку, гэта не ўдавалася (*М. Лынькоў*).
☐ 3) Ці __ жнівеньскія туманы наліваюць воскам жыты?.. (*І. Пташнікаў*).
☐ 4) Відаць, і ў адносінах да мяне сыгралі гэтыя моманты далёка __ апошнюю ролю... (*В. Стома*).
☐ 5) Нідзе __ гуку, __ руху, __ ветрыка (*В. Вольскі*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) ужываецца ***ні***:

☐ 1) Пятровіч __ раз са сваім памочнікам начаваў на гэтым возеры, ратуючы жураўлёў ад злой кулі браканьера (*М. Капыловіч*).
☐ 2) Няма над возерам __ ластавак, __ чаек (*В. Вольскі*).
☐ 3) Дзе б __ жыў, я заўсёды намагаўся пасадзіць некалькі дрэў (*М. Лынькоў*).
☐ 4) Хор лясны — птушыны гоман — не змаўкае __ на момант (*Н. Галіноўская*).
☐ 5) Ён угледзеў нязграбных цёмна-шэрых казюрак, даўжынёй __ больш за паўмезенца... (*М. Лынькоў*).



## ТЭОРЫЯ

Як часціца ***не***, так і часціца ***ні*** могуць выражаць і адмоўнае, і сцвярджальнае значэнне — гэта залежыць ад пэўных выпадкаў ужывання.

Часціца ***не*** адносіцца да адмоўных. Яе асноўнае значэнне — адмаўленне таго, што выражана словам, з якім яна ўжыта: *Жыццё **не** можа надакучыць* (Ф. Баторын). ***Не** чутно салаўя, **не** ўскрыкваюць совы* (Н. Маеўская).

Сцвярджальнай часціца ***не*** становіцца ў наступных выпадках:

1) калі яна ўжыта двойчы — пры кожнай частцы састаўнога выказніка: *не мог не пайсці*, *не мог не выканаць*;
2) у спалучэннях *хто не*, *дзе не*, *дзе толькі не*, *куды не* і інш., калі яны ўжываюцца ў незалежных пытальна-клічных сказах: *Чаго толькі **не** ведаў мой дзед!* (С. Лобач);
3) калі стаіць перад назоўнікам з прыназоўнікам *без*: *зірнуў не без цікавасці*, *зрабіў не без карысці*;
4) калі стаіць пасля часціц *ледзь*, *чуць*, *амаль* або пасля злучніка *пакуль*: *ледзь не спазніліся*, *пакуль не позна*;
5) у спалучэнні са словамі *нельга*, *немагчыма*: *нельга не паверыць*, *немагчыма не прыйсці*;
6) у спалучэннях *не больш за*, *не меньш за*.

Часціца ***ні*** — узмацняльная. Яе роля — узмацняць або адмаўленне, або сцвярджэнне.

Часціца ***ні*** ўзмацняе адмаўленне, ужо выражанае ў сказе іншымі сродкамі:

1) у адмоўных сказах, дзе адмаўленне выражана часціцай *не* або словамі *нельга*, *няма*, *немагчыма*: *Няма ні душы на вуліцы*; у спалучэннях тыпу *ні на момант*, *ні на хвіліну*;
2) у няпоўных сказах, у якіх выказнік з адмоўем падразумяваецца: *Ні гуку ў адказ*;
3) у ролі злучніка *і* ў адмоўных сказах пры пералічэнні аднародных членаў сказа: ***Ні** дождж, **ні** жар для яго [каменя] не страшны* (Я. Колас);
4) у пабуджальных сказах загаднага характару: *Ні з месца!*

Часціца ***ні*** ўзмацняе сцвярджэнне ў даданых сказах, дзе выкарыстоўваецца ў спалучэнні з займеннікамі і прыслоўямі: *дзе ні*, *хто ні*, *што ні*, *куды ні*, *адкуль ні* і інш. У такія спалучэнні можа ўваходзіць часціца *б* (*дзе б ні*, *хто б ні* і г. д.): *Толькі дзе за морам **ні** жыў я, Беларусь мая снілася мне* (Г. Бураўкін).

Часціца ***ні*** ўжываецца ў фразеалагізмах са значэннем няпэўнасці: *ні тое ні сёе*, *ні рыба ні мяса* і інш.

Неабходна адрозніваць спалучэнні *не раз* (многа разоў) і *ні разу* (ні аднаго разу); *не адзін* (некалькі) і *ні адзін* (ніхто).

! Гл. таксама урок 27, с. 68.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) ужываецца ***не***:

☐ 1) У апошнія дзесяцігоддзі, у выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека, адбываецца значнае змяненне навакольнага асяроддзя, што ___ можа ___ адбіцца на жыцці звяроў і птушак (*С. Зуёнак*).

☐ 2) Хіба я сам ___ адчуваў радасці жыцця? (*Я. Маўр*).

☐ 3) Не ціхне лес ___ на хвіліну (*А. Астрэйка*).

☐ 4) Кандрат Назарэўскі аніяк не аддаваў увагі ___ сонцу, ___ цішыні на полі і ў лесе (*К. Чорны*).

☐ 5) Праз некаторы час хлопцы заўважылі купку ___ то травы, ___ то кустоў з прыгожымі залаціста-жоўтымі кветкамі (*Я. Маўр*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) ужываецца ***не***:

☐ 1) Але на фоне цёмна-зялёнага хвойніку нельга было ___ заўважыць гэтага залацістага пасланца восені, як немагчыма ___ заўважыць у начным небе падаючую зорку (*Р. Ігнаценка*).

☐ 2) ___ адзін месяц так не багаты на грыбы, як жнівень (*В. Стома*).

☐ 3) Адчынілі — і ў пакой зайшоў ___ хто іншы, а сам фінагент Васіль (*А. Кудравец*).

☐ 4) Што ___ дзень хаджу на пошту і весткі чакаю... (*А. Дзеружынскі*).

☐ 5) І якіх толькі ___ нацярпеўся страхаў слаўны бабчын кот! (*М. Лынькоў*).

**Варыянт 3.** Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў ужываецца ***ні***:

☐ 1) Больш важныя паляўнічыя клопаты ___ на міг не пакідалі яго [Кузьміча] (*В. Стома*).

☐ 2) Хто ___ мае слабасці да месца свайго дзяцінства? (*М. Лобан*).

☐ 3) Паабапал збожжавае мора ледзь ___ хлыне на бальшак з бакоў (*М. Аўрамчык*).

☐ 4) Не чуваць было ___ лёскату машын, ___ грукату матораў, ___ людскіх галасоў (*М. Лынькоў*).

☐ 5) І як ___ гне мароз, ___ гладзіць, але нічога не парадзіць (*Я. Колас*).

# УРОК 37 Правапіс часціц НЕ і НІ (АНІ)



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх ***не***, ***ні*** з выдзеленымі словамі трэба пісаць ***асобна***:

- ☐ 1) Яшчэ некалькі хвілін Сяргей стаяў (***не***) ***рухома*** (*І. Шамякін*).
- ☐ 2) І шлях (***не***) ***блізкі***, а далёкі, і нам сумесна не прыстаць... (*А. Дзеружынскі*).
- ☐ 3) Так перада мной паўставалі яшчэ ніколі (***не***) ***бачаныя*** Казбек, Эльбрус, Эверэст... (*І. Грамовіч*).
- ☐ 4) І патаемных дум бярозы (***ні***) ***хто*** не можа разгадаць (*М. Машара*).
- ☐ 5) Аб чым (***ні***) ***пацікаўся*** — [дзед] раскажа (*Л. Калодзежны*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх ***не***, ***ні*** з выдзеленымі словамі трэба пісаць ***асобна***:

- ☐ 1) Але позняй травы было (***не***) ***вельмі*** багата (*В. Стома*).
- ☐ 2) (***Ні***) ***дзе*** нічога не варушылася (*Я. Сіпакоў*).
- ☐ 3) Вясна (***не***) ***прыкметна*** перайшла ў лета (*Т. Хадкевіч*).
- ☐ 4) (***Не***) ***чутно***, як звычайна, аукання ў лесе, толькі дождж шуміць і шуміць (*М. Лупсякоў*).
- ☐ 5) Пімен Панчанка, як (***ні***) ***хто*** іншы з паэтаў, ведае і адчувае, што трэба людзям у дадзены момант іх гістарычнага існавання і чаго ўжо не трэба... (*В. Быкаў*).



## ТЭОРЫЯ

Часціца ***не*** (***ня***) з'яўляецца прыстаўкай і пішацца **разам**:

1) са словамі, якія без яе не ўжываюцца: *нельга*, *непахісны*, *нягоды*, *нясцерпна*, *ненавідзець*, *няволіць*, *непакоіць*, *нездаровіцца*, *няможацца*;
2) з назоўнікамі, калі адмоўе надае слову без гэтай часціцы значэнне супрацьпастаўлення, адмаўлення: *неспецыяліст*, *нечалавек*, *неметал*, *нятэрмін*, *нелінгвіст* і інш., напрыклад: *розніца паміж тэрмінамі і нятэрмінамі*, *кніга прызначана ў асноўным для неспецыялістаў*;
3) з прыметнікамі і прыметнікавымі прыслоўямі на ***-о*** (***-а***), калі спалучэнне іх з ***не*** служыць не для адмаўлення якога-небудзь паняцця, а для выражэння новага, супрацьлеглага паняцця: *невысокі* (нізкі), *нешырокі* (вузкі), *недалёкі* (блізкі), *неспакойны* (які хвалюецца), *невялікі* (малы), *нелегальна* (падпольна, скрыта), *нямнога* (мала) і інш., а таксама з прыслоўем *няйначай* (абавязкова). Наяўнасць паясняльных слоў, як правіла, не ўплывае на напісанне разам ***не*** з прыметнікамі: *незнаёмы нам аўтар*, *невядомыя навуцы факты*, *непрыгодны для будоўлі матэрыял*, *няправільныя ў многіх адносінах вывады*;
4) з дзеепрыметнікамі, пры якіх няма паясняльных слоў ці супрацьпастаўлення: *неасушаныя* (балоты), *нечаканы* (прыход), *непрыбраны* (пакой), *незачыненыя* (дзверы), *няходжаная* (сцежка); але: *не засеянае жытам поле*; *не асушаныя да гэтага часу балоты*; *не напісаны, а надрукаваны тэкст*;

> **!** ***Не*** (***ня***) пішацца разам з поўнымі дзеепрыметнікамі і прыметнікамі пры наяўнасці пры іх слоў *вельмі*, *надта*, *зусім*, *выключна*, *абсалютна*, *незвычайна* і інш.: *вельмі неабдуманы ўчынак*, *выключна неспрыяльнае надвор'е*, *абсалютна непрымальная прапанова*, *зусім някепскі вынік*.

5) у прыслоўях: *нечакана*, *неабсяжна*, *неўзабаве*, *незадоўга*, *неўпапад*, *непадалёк*, *неўзаметку*, *няўцям*, *нехаця*, *нельга*; у прыназоўніку *нягледзячы на*; у часціцах *няўжо*, *няхай*, постфіксе ***-небудзь*** (*як-небудзь*, *хто-небудзь*) і слове *няма*;
6) у няпэўных займенніках і прыслоўях (калі на ***не*** падае націск): *нешта*, *некаму*, *некуды*, але: *некаторы*;
7) у дзеясловах і назоўніках з прыстаўкай ***неда-***, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме: *недачуць*, *недасыпаць*, *недасол*, *недабор*.

> **!** Калі дзеяслоў з прыстаўкай ***да-*** ў спалучэнні з часціцай *не* абазначае не даведзенае да канца дзеянне, часціца пішацца асобна: *не дачытаць кнігі*.

Часціца ***не*** пішацца **асобна**, калі ўжываецца:

1) з дзеясловамі і дзеепрыслоўямі: *не чытаў*, *не прачытаўшы*, *не чытаючы*;

2) з назоўнікамі, прыметнікамі і прыслоўямі, калі пры іх выражана ці падразумяваецца супрацьпастаўленне: *Яму трэба быць тут **не** госцем, **а** гаспадаром* (К. Чорны). *Межы і рысы гістарычнай эпохі **не** абсалютныя, **а** рухомыя і адносныя* (Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»);
3) з поўнымі дзеепрыметнікамі, пры якіх ёсць паясняльныя словы ці супрацьпастаўленне: *не зжаты да гэтага часу ячмень*; *не зжаты, а скошаны ячмень*;
4) з кароткімі дзеепрыметнікамі: *трава не скошана*, *падарункі не куплены*;
5) з формамі вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў: *не пазней чым заўтра*, *не горш за іншых*; з прыслоўямі ацэнкі: *не надта*, *не вельмі*, *не моцна*, *не зусім*;
6) з прыметнікамі і прыслоўямі з паясняльным словам, якое мае ацэначнае значэнне якасці: *далёка не лепшы вынік*, *сёння дзень зусім не горшы за мінулы*, *не спелы яшчэ яблык*;
7) з нязменнымі словамі *не трэба*, *не варта*, *не шкода*, *не супраць*, *не чуваць*, *не чутно*, *не відаць*, *не відно*, якія выступаюць у якасці выказніка;
8) з прыметнікамі, прыслоўямі, калі ў якасці паясняльнага слова выступае займеннік або займеннікавае прыслоўе, якія пачынаюцца з ***ні***: *нікому не патрэбны*, *ніхто не галодны*, *ні да чаго не здольны*;
9) з усімі словамі, часткі якіх пішуцца праз злучок: *паступіў не па-сяброўску*, *зроблена не па-людску*, *не навукова-папулярны фільм*;
10) у выразе *не раз*: *Не раз давялося яму ісці гэтым лесам*;
11) у зваротах *не хто іншы, як*; *не што іншае, як*; *не хто іншы, а*; *не што іншае, а*, у складзе якіх ёсць адносныя займеннікі *хто*, *што* і азначальны займеннік *іншы* (*хто іншы*, *што іншае*), якія ў спалучэнні з ***не*** з'яўляюцца адмаўленнем іх сумеснага значэння: *не хто іншы ўзяў, як ён*; *не хто іншы, а толькі ён*; *гэта не што іншае, як вапна*; *гэта не што іншае, а толькі нейкі звярок прашмыгнуў*; але: *ніхто іншы не быў, толькі ён*; *нішто іншае не цікавіць яго, адно толькі кнігі*.

Часціца ***ні*** пішацца **разам**:
1) са словамі, якія без яе не ўжываюцца: *нішчымны*, *нікчэмны*, *ніводны*;
2) у займенніках, калі ***ні*** не аддзелена ад займенніка прыназоўнікам: *ніхто*, *нішто*, *нікога*, *нічога*, *ніякі*, *нічый*, *ніякаму*, *нічыйго*, *нічыім*; але: *ні ў кога*, *ні ў якім*, *ні ў якія*, *ні да чаго*, *ні да каго*;
3) у прыслоўях *ніколі*, *нідзе*, *нікуды*, *ніадкуль*, *ніяк*, *нікольні*, *нічуць*, а таксама ў вытворных словах: *нічыйны*, *ніштаваты*, *ніякавата*, *ніякаватасць*;
4) у слове *нібы* (*нібыта*).

**Запомніце!** Правапіс часціцы ***ані*** такі ж, як і правапіс часціцы ***ні***:
1) пішацца разам з адмоўнымі займеннікамі і прыслоўямі: *аніхто*, *аніпто*, *анікуды*, *аніяк*;
2) калі паміж займеннікам і часціцай ужыты прыназоўнік, спалучэнне пішацца ў тры словы: *ані з кім*, *ані ў кога*.
Часціца ***ні*** пішацца са словамі **асобна**:
1) ва ўстойлівых узмацняльных зваротах: *што ні кажы*, *з кім бы то ні было*, *што б там ні было*;
2) перад выказнікам у даданых частках складаных сказаў, калі служыць для ўзмацнення сцвярджальнага значэння: *Летам, куды **ні** кінеш вокам, зачароўвае зялёны прастор і прыгажосць* (Р. Ігнаценка);
3) у выразе *ні разу*.


## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце прыклады, у якіх ***не***, ***ні*** з выдзеленымі словамі трэба пісаць ***асобна***:

- ☐ 1) дзе б (***ні***) ***сустрэў***;
- ☐ 2) (***не***) ***дааценіць*** намаганняў;
- ☐ 3) (***не***) ***сустракаючы*** перашкод;
- ☐ 4) (***не***) ***крануты*** нікім снег;
- ☐ 5) (***ні***) ***куды*** не спяшаўся.

**Варыянт 2.** Адзначце прыклады, у якіх ***не***, ***ні*** з выдзеленымі словамі трэба пісаць ***асобна***:

- ☐ 1) (***ні***) ***дзе*** не бачыў;
- ☐ 2) (***не***) ***падобная*** на астатнія сасна;
- ☐ 3) зусім (***не***) ***прадуманы*** адказ;
- ☐ 4) экзамен (***не***) ***здадзены***;
- ☐ 5) (***не***) ***даспелыя*** памідоры.

**Варыянт 3.** Адзначце прыклады, у якіх ***не***, ***ні*** з выдзеленымі словамі трэба пісаць ***асобна***:

- ☐ 1) (***не***) ***пахісная*** вера;
- ☐ 2) (***не***) ***шкада*** часу;
- ☐ 3) (***ні***) ***што*** не перашкаджае;
- ☐ 4) (***ні***) ***разу*** не бачыў;
- ☐ 5) яшчэ (***не***) ***пажаўцелы*** ліст.

# УРОК 38 Словазлучэнне



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце словазлучэнні:

- ☐ 1) сорак пяты;
- ☐ 2) выканаць своечасова;
- ☐ 3) нібыта знарок;
- ☐ 4) сто тон;
- ☐ 5) падтрымка сябра;
- ☐ 6) сустрэліся і пагаварылі;
- ☐ 7) самы лепшы;
- ☐ 8) яго характарыстыка;
- ☐ 9) высока ў небе;
- ☐ 10) небасхіл ясны.

**Тэст № 2.** Адзначце словазлучэнні, правільна перакладзеныя на беларускую мову:

- ☐ 1) три высоких здания — тры высокіх будынкі;
- ☐ 2) приступить к исполнению — прыступіць да выканання;
- ☐ 3) глубже океана — глыбей акіяна;
- ☐ 4) идти за продуктами — ісці па прадукты;
- ☐ 5) находить по следам — знаходзіць па слядам;
- ☐ 6) заболеть гриппом — захварэць на грып;
- ☐ 7) говорить по телефону — гаварыць па тэлефону;
- ☐ 8) дом в два этажа — дом на два паверхі;
- ☐ 9) поблагодарить руководителей — падзякаваць кіраўнікоў;
- ☐ 10) удивились увиденному — здзівіліся з убачанага.



ТЭОРЫЯ

**Словазлучэнне** — гэта сэнсава-граматычнае адзінства двух або некалькіх самастойных слоў, звязаных падпарадкавальнай сувяззю.

Словазлучэнні можна вылучыць у сказе, вызначаючы сэнсавыя і граматычныя сувязі паміж словамі. У сказе *Высокія травы звінелі расою на золку* (М. Башлакоў) можна вылучыць наступныя словазлучэнні: *высокія травы*, *звінелі расою*, *звінелі на золку*.

**Запомніце!** Словазлучэннямі не з'яўляюцца:
1) спалучэнне дзейніка і выказніка (граматычная аснова сказа);
2) формы іменнага выказніка (*будзе весела*, *стане вядомым*);
3) спалучэнне аднародных членаў сказа;
4) спалучэнне з адасобленымі членамі сказа;
5) складаныя граматычныя формы часцін мовы:
— будучага часу дзеяслова (*буду працаваць*); загаднага і ўмоўнага ладу дзеяслова (*давайце пойдзем*, *схадзіў бы*); даўноминулага часу дзеяслова (*быў дамовіўся*, *пайшла была*);
— найвышэйшай ступені параўнання прыметніка (*самы вялікі*) і вышэйшай ступені параўнання прыслоўя (*менш падрабязна*);
— склонавыя формы назоўнікаў (займеннікаў) і субстантываваных часцін мовы з прыназоўнікамі (*вакол дома*, *на аснове тэорыі*, *у час світання*, *побач з намі*, *дзякуючы намаганням*);
6) састаўныя лічэбнікі (*сорак два*, *сорак другі*).

Словазлучэнні будуюцца на залежнай, падпарадкавальнай сувязі, таму адно са слоў з'яўляецца ***галоўным***, а другое — ***залежным***. Ад галоўнага слова да залежнага ставіцца пытанне: *сяброўскія* (якія?) ***адносіны***.

Граматычная сувязь паміж словамі ў словазлучэнні выяўляецца ў тым, што залежнае слова прымае тую форму, якой патрабуе галоўнае.

Сэнсавая сувязь выяўляецца ў тым, што словазлучэнне ўтвараецца толькі са слоў з пэўным лексічным значэннем: мы можам сказаць *высокае дрэва*, але не скажам *кіслае дрэва*.

! Неабходна адрозніваць свабодныя і фразеалагічныя словазлучэнні. Фразеалагічныя словазлучэнні з'яўляюцца адным членам сказа, таму ўваходзяць у склад адной сінтаксічнай адзінкі ў якасці галоўнага ці залежнага слова: ***гадаць*** *на кафейнай гушчы*.

Пад будовай словазлучэння разумеецца ўвесь набор часцін мовы, якія ўваходзяць у словазлучэнне. Марфалагічная будова словазлучэння *ў восеньскім паветры* — прыназоўнік + прыметнік + назоўнік у М. с.; марфалагічная будова словазлучэння *не выканаў абавязкаў* — часціца + дзеяслоў у форме пр. часу + назоўнік у Р. с.

Словы ў словазлучэннях звязваюцца адным з трох відаў падпарадкавальнай сувязі — ***дапасаваннем***, ***кіраваннем*** або ***прымыканнем***.

**Дапасаванне** — гэта такі від сувязі, пры якім залежнае слова прымае тую граматычную форму, што і галоўнае. Пры змене формы галоўнага слова абавязкова змяняецца і форма залежнага. Прыметнікі, дзеепрыметнікі, парадкавыя лічэбнікі і займеннікі пэўных разрадаў у адзіночным ліку дапасуюцца да назоўнікаў у родзе і склоне, а ў множным ліку — толькі ў склоне. Напрыклад, у словазлучэнні *з новага дома* прыметнік *новага* дапасуецца да назоўніка (*з*) *дома* ў форме адзіночнага ліку, мужчынскага роду, роднага склону.

**Кіраванне** — такі від сувязі паміж словамі, калі залежнае слова становіцца ў форму таго ўскоснага склону, якога патрабуе галоўнае. Форма склону залежыць ад лексіка-граматычнага значэння галоўнага слова і сэнсу залежнага. Кіраваць здольны ўсе самастойныя часціны мовы, а «паддаюцца» кіраванню словы з прадметным значэннем: *чытаць кнігу*, *чытаць у кнізе*, *чытаць сябру*, *чытаць з сябрам*. Паколькі многія формы склонаў ужываюцца з прыназоўнікамі, адрозніваюць *прыназоўнікавае* і *беспрыназоўнікавае* кіраванне.

Сутнасць **прымыкання** ў тым, што залежнае слова звязваецца з галоўным толькі паводле сэнсу, бо з'яўляецца нязменным. Прымыкаць да галоўных слоў могуць прыслоўі (*выразна прачытаць*, *выразна прачытаны*), дзеепрыслоўі (*чытаць лежачы*, *працаваць стоячы*), інфінітывы (*жаданне вучыцца*).

## Класіфікацыя словазлучэнняў

Класіфікацыя словазлучэнняў праводзіцца паводле іх структуры, паводле прыналежнасці галоўнага слова да пэўнай часціны мовы і паводле сэнсавых адносін паміж словамі ў словазлучэнні.

Паводле структуры (будовы) словазлучэнні падзяляюцца на ***простыя*** і ***складаныя***. **Простыя** словазлучэнні складаюцца з двух самастойных слоў: *чытаць кнігу*, *чытаць з цікавасцю*. Да простых адносяцца і словазлучэнні, якія складаюцца з большай колькасці слоў, калі ў іх склад уваходзяць складаныя граматычныя формы (*буду чытаць кнігу*), формы ступеняў параўнання (*самы высокі дом*), складаныя колькасныя лічэбнікі (*сорак пяць кіламетраў*), а таксама фразеалагізмы (*бачыцца гады ў рады*). **Складаныя** словазлучэнні ўключаюць не менш за тры самастойныя словы: *дзяўчынка з блакітнымі вачыма*, *спявак з высокім голасам*.

Паводле прыналежнасці галоўнага слова да пэўнай часціны мовы словазлучэнні падзяляюцца на ***іменныя***, ***дзеяслоўныя*** і ***прыслоўныя***.

**Іменныя** словазлучэнні бываюць назоўнікавыя (*мяккі* ***снег***), прыметнікавыя (***мокры*** *ад расы*), лічэбнікавыя (***другі*** *ад дарогі*), займеннікавыя (***хтосьці*** *з вяскоўцаў*).

У **дзеяслоўных** словазлучэннях галоўнае слова можа быць прадстаўлена дзеясловам (***іду*** *вуліцай*), дзеепрыслоўем (***з'еўшы*** *грушу*), дзеепрыметнікам (***намаляваны*** *алоўкамі*).

У **прыслоўных** словазлучэннях галоўнае слова з'яўляецца прыслоўем (*вельмі* ***хутка***, ***далёка*** *ад горада*).

## Асаблівасці кіравання ў беларускай мове

Асаблівасці кіравання ў беларускай мове (у параўнанні з рускай) выяўляюцца ў наступным:

1) дзеясловы *дзякаваць* (*падзякаваць*, *аддзякаваць*, *аддзячыць*), *выбачаць*, *прабачыць*, *даравацъ*, кіруючы назоўнікамі (займеннікамі), патрабуюць давальнага склону: *дзякаваць бацьку* (*сястры*, *бабулі*, *дзядулю*), *выбачаць сябру* (*мне*, *яму*, *ёй*);
2) пры дзеясловах *жартаваць*, *насміхацца*, *смяяцца*, *рагатаць*, *дзівіцца*, *кпіць*, *здзекавацца* ўжываюцца назоўнікі роднага склону з прыназоўнікам ***з***: *насміхацца з малога*, *здзекавацца з чалавека*;
3) дзеясловы руху *ісці*, *бегчы*, *ехаць*, *ляцець* і інш. пры абазначэнні мэты дзеяння ўтвараюць словазлучэнні з вінавальным склонам назоўніка ці займенніка з прыназоўнікам ***па***: *схадзіць па хлеб*, *ісці па яе*; калі пасля такіх дзеясловаў ужываюцца словы *ягады*, *грыбы* (або іх канкрэтныя назвы), *рыба*, *шчаўе*, *дровы*, *буракі*, *кмен* і інш., то назоўнікі ўжываюцца ў форме вінавальнага склону з прыназоўнікам ***у***: *пайшлі ў суніцы*, *паехалі ў дровы*, *выбраліся ў млын*;
4) пры дзеясловах *хварэць*, *захварэць*, *перахварэць* і прыметніку *хворы* назоўнікі ўжываюцца ў вінавальным склоне з прыназоўнікам ***на***: *хворы на ангіну*, *перахварэць на грып*;
5) дзеясловы *ажаніць*, *ажаніцца* патрабуюць творнага склону з прыназоўнікам ***з***: *ажаніцца з Ганнай*, *ажанілі з нялюбай*;
6) у дзеяслоўных і назоўнікавых словазлучэннях з прыназоўнікам ***па*** ўжываюцца назоўнікі і займеннікі ў месным склоне: *ездзілі па гарадах і вёсках*, *сумавалі па блізкіх*, *па старадаўнім звычаі*, *вучыўся па кнігах*, *размаўляць па тэлефоне*;
7) у параўнальных словазлучэннях залежнае слова ўжываецца ў вінавальным склоне з прыназоўнікам ***за***: *старэйшы за сястру*, *зрабіў лепш за суседа*;

8) прыназоўнік ***праз*** ужываецца для выражэння прычынных адносін: *спазніўся праз дождж*, *спазненне праз дождж*, а таксама аб'ектных адносін пасля дзеясловаў са значэннем 'пранікаць, прабівацца': *прамень праз шчыліну*, *прабіцца праз гушчар*; у спалучэннях *праз зубы*, *праз слёзы*, *праз сон*;
9) у спецыфічных словазлучэннях: *дом на тры паверхі*, *падобны да брата*, *загадчык бібліятэкі*, *пазычыла нажа*, *дасылаць на адрас*, *больш за тры кіламетры*, *за тры крокі ад мяне*, *яма на сілас*, *бачыў на свае вочы*, *прыйшоў а пятай гадзіне* і інш.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце ***іменныя*** словазлучэнні:

☐ 1) уменне слухаць;
☐ 2) закалыхаць дзіця;
☐ 3) шчаслівае дзяцінства;
☐ 4) другая з краю;
☐ 5) добра выкананы;
☐ 6) малодшы за мяне;
☐ 7) саматканы абрус;
☐ 8) сказаўшы праўду;
☐ 9) адзін з жыхароў;
☐ 10) напісаны алоўкам.

**Варыянт 2.** Адзначце словазлучэнні, у якіх сувязь паміж словамі – ***дапасаванне***:

☐ 1) жаданне дапамагчы;
☐ 2) чыясьці кніга;
☐ 3) ручнік з вышыўкай;
☐ 4) падрыхтаваны артыкул;
☐ 5) дзясяты клас;
☐ 6) вашы спадзяванні;
☐ 7) лаўка пад клёнам;
☐ 8) пераспелыя вішні;
☐ 9) кожны грамадзянін;
☐ 10) прыгожа распісаны.

**Варыянт 3.** Адзначце словазлучэнні, у якіх сувязь паміж словамі – ***кіраванне***:

☐ 1) узяцца за рукі;
☐ 2) кавалак хлеба;
☐ 3) кожны з нас;
☐ 4) яшчэ вучацца;
☐ 5) зжатае жыта;
☐ 6) лепш за ўсё;
☐ 7) адказна выкананая;
☐ 8) спісаны з кнігі;
☐ 9) часта сустракаліся;
☐ 10) радасная сустрэча.

**Варыянт 4.** Адзначце словазлучэнні, у якіх сувязь паміж словамі – ***прымыканне***:

☐ 1) пасадзіць дрэва;
☐ 2) майстэрства вышываць;
☐ 3) размаўляць стоячы;
☐ 4) вельмі старанны;
☐ 5) пішу штомесяц;
☐ 6) чагосьці хочацца;
☐ 7) рэдка бачымся;
☐ 8) нешта задумаць;
☐ 9) дзесьці ў лесе;
☐ 10) зрабіць па-свойму.

# УРОК 39 Сказ. Тыпы сказаў. Аднасастаўныя сказы

## Сказ. Тыпы сказаў



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Прачытайце сказ і адзначце ўласцівыя яму характарыстыкі:
*А найчасцей хочацца пабыць адзін на адзін з прыродай, памаўчаць, слухаючы, убіраючы ў сябе рознакаляровую, журботную сімфонію восені* (З. Прыгодзіч).

☐ 1) просты, апавядальны, няклічны, аднасастаўны;
☐ 2) ускладнены адасобленымі акалічнасцямі;

☐ 3) у сказе ёсць просты дзеяслоўны выказнік;
☐ 4) ёсць ускосныя дапаўненні;
☐ 5) ёсць тры рады аднародных членаў.

**Тэст № 2.** Прачытайце сказ і адзначце ўласцівыя яму характарыстыкі:
*Жалеза моцнае, але цярпенне і настойлівасць чалавечыя яшчэ мацнейшыя* (Я. Сіпакоў).

☐ 1) складаназлучаны;
☐ 2) складаецца з дзвюх частак;
☐ 3) адна з частак аднасастаўная;
☐ 4) адна з частак ускладненая;
☐ 5) адна з частак неразвітая.



ТЭОРЫЯ

**Сказ** — гэта граматычна і інтанацыйна аформленая адзінка моўных зносін, у якой сфарміравана і выражана пэўная думка: *Голас я перайму ў песняра салавейкі і ахвотна вазьму мілагучнасць жалейкі* (А. Дзеружынскі).

## Класіфікацыя сказаў

1. **Паводле мэты выказвання** сказы бываюць апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя.
***Апавядальнымі*** называюцца сказы, у якіх паведамляецца пра факты рэчаіснасці, канстатуецца наяўнасць або адсутнасць чаго-небудзь: *Мову нездарма называюць душой народа, нацыі* (Р. Барадулін).
***Пытальны*** сказ — гэта сказ, у якім выражана пытанне. Пры афармленні пытальнага сказа, акрамя інтанацыі, выкарыстоўваюцца пытальныя часціцы, займеннікі, прыслоўі — *ці*, *няўжо*, *хіба*, *колькі*, *які*, *чаму*, *дзе*, *калі* і інш.: *Ці даводзілася вам у чэрвені на лузе быць?* (Р. Ігнаценка).
У залежнасці ад характару пытання пытальныя сказы падзяляюцца на ўласна-пытальныя, пытальна-рытарычныя і пытальна-пабуджальныя.
***Пабуджальнымі*** называюцца сказы, у якіх выражаюцца загад, просьба, парада, перасцярога, запрашэнне, заклік: *Прыязджайце пагглядзець на Свіцязь летам...* (С. Лобач).

! Апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя сказы пры наяўнасці клічнай інтанацыі, якая перадае разнастайныя адценні пачуццяў — захапленне, здзіўленне, радасць, гнеў, засмучэнне і інш., могуць быць ***клічнымі***. Для ўзмацнення клічнай інтанацыі часта ўжываюцца часціцы, выклічнікі. У канцы клічнага сказа ставіцца клічнік: *Перамога! Не спалохаць іх [сініц]! Няхай абжываюцца!* (І. Шамякін).

2. **Паводле адносін зместу выказвання да рэчаіснасці** сказы падзяляюцца на сцвярджальныя і адмоўныя.
***Сцвярджальнымі*** называюцца сказы, у змесце якіх сцвярджаецца наяўнасць чаго-небудзь у рэчаіснасці: *Паветра было свежае і чыстае. Жоўты пясок ярка вылучаўся сярод зялёнага фону травы і хмызняку* (В. Вольскі).
У ***адмоўных*** сказах адмаўляецца наяўнасць таго, пра што гаворыцца ў сказе. У такіх сказах абавязкова прысутнічае часціца ***не*** або ***ні*** ці слова ***няма***: *Я яшчэ ніколі не бачыў гор* (І. Грамовіч).

! Не заўсёды наяўнасць часціцы ***не*** сведчыць пра тое, што сказ адмоўны, бо часціца ***не*** можа быць сцвярджальнай (гл. урок 35 (часціцы)): *Ён не мог не прыйсці. Хто не любаваўся на журайліны клін!*

! Пытальна-рытарычныя сказы без адмоўных слоў могуць быць адмоўнымі: *Хіба ж ёсць на свеце шчасце лепшае, як пад небам Бацькаўшчыны жыць?* (В. Вітка).

3. **Паводле структуры** сказы падзяляюцца на простыя і складаныя.
***Простыя*** сказы — гэта сказы з адной граматычнай (прэдыкатыўнай) асновай, што складаецца з дзейніка і выказніка або аднаго з іх: *Рыбалоўства на Беларусі існавала спрадвечна* (У. Караткевіч). *Не бяруся нічога сцвярджаць* (У. Глушакоў).
***Складанымі*** называюцца сказы, у якія ўваходзяць дзве і больш граматычных асноў, што аб'яднаны сэнсам і інтанацыяй: *Верасы пад лісцем спалі, бор зялёны гнуўся, недзе пелі ў цёмнай далі журавы ды гусі* (Я. Купала).

## Характарыстыкі простага сказа

Простыя сказы могуць быць: 1) двухсастаўнымі і аднасастаўнымі; 2) развітымі і неразвітымі; 3) поўнымі і няпоўнымі; 4) ускладненымі і няўскладненымі.

1. У ***двухсастаўных*** сказах ёсць састаў дзейніка і выказніка (прычым дзейнік і выказнік могуць мець пры сабе паясняльныя словы): *Ціха драмала Палессе пад цёплым дыханнем сонца* (М. Лынькоў).
У ***аднасастаўных*** сказах ёсць або састаў дзейніка, або састаў выказніка: *Росны ранак. Травы. Сонца. Птушак, птушак галасы* (М. Башлакоў). *Сёння падводзілі вынікі нашай практыкі* (З. Прыгодзіч).

2. ***Неразвітыя*** сказы складаюцца толькі з галоўных членаў сказа: Травы. Сенакос (М. Башлакоў). У ***развітых*** сказах, апрача галоўных, ёсць даданыя члены сказа: *Пачуецца музыка ў лесе асеннім у шораху лісця і шэпце дажджу* (М. Башлакоў).
3. У ***поўных*** сказах прысутнічаюць усе неабходныя члены гэтай структуры, што робіць зразумелым сэнс выказвання: *Наша хата стаяла ў гушчыні чаромхі і лесу* (У. Аляхновіч). ***Няпоўнымі*** з'яўляюцца сказы, у якіх апушчаны адзін ці некалькі членаў сказа, неабходных для разумення зместу (іх можна вызначыць толькі з кантэксту): *— Ну, дык давай удвух* (К. Каліна).
4. ***Ускладненымі*** з'яўляюцца сказы, у складзе якіх ёсць ці аднародныя члены сказа, ці адасобленыя члены сказа, ці параўнальны зварот, ці зваротак, ці пабочныя словы і сказы, ці ўстаўныя канструкцыі (альбо іх спалучэнні): *Зімовае сонца **хілілася** на захад, нізка **спусцілася** над самым лесам* (М. Лынькоў). ***Матчына нявыцвілае слова***, *дайжнікі мы вечныя твае* (Г. Бураўкін). ***Сасніўшы сінія снягі***, *за вокнамі ля тыну чырванее*, ***як снягір***, *вясёлая рабіна* (А. Вялюгін). *Шчасліваму*, ***кажуць***, *і ў сне шчасце сніцца* (А. Капусцін).



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Прачытайце сказ і адзначце ўласцівыя яму характарыстыкі:

*А ў чыстых хваёвых лясах, калі пашанцуе, натрапіце на грузды і рыжыкі — лепшыя з пласціністых грыбоў* (В. Стома).

☐ 1) складаназлучаны;
☐ 2) складаецца з трох частак;
☐ 3) усе часткі аднасастаўныя;
☐ 4) адна з частак неразвітая;
☐ 5) адна з частак ускладненая.

**Варыянт 2.** Прачытайце сказ і адзначце ўласцівыя яму характарыстыкі:

*Пойдзем з табою, матуля, апоўначы, знойдзем у лесе кветку чароўную і прынясём у хату...* (Я. Крупенька).

☐ 1) просты, няклічны, двухсастаўны, няпоўны;
☐ 2) у сказе састаўны дзеяслоўны выказнік;
☐ 3) ёсць дапасаванае азначэнне;
☐ 4) ускладнены;
☐ 5) у сказе два рады аднародных членаў.

## Аднасастаўныя сказы



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відам. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Начлег з сабой не носяць, а ў людзей просяць (*Прыказка*). | **1.** Пэўна-асабовы. |
| **Б.** Мне хочацца зноў паехаць у вёску, убачыць Ганку... (*М. Стральцоў*). | **2.** Няпэўна-асабовы. |
| **В.** Высокім, урачыстым стылем напісаны газетныя матэрыялы (*І. Навуменка*). | **3.** Абагульнена-асабовы. |
| **Г.** Выкарыстоўваюць журавіны і для выпрацоўкі віна і сокаў (*В. Стома*). | **4.** Безасабовы. |
| | **5.** Двухсастаўны. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Тэст № 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відам. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Вадзе ахвяравалі таксама каменныя сякеры, ежу, кветкі (*Л. Дучыц*). | **1.** Пэўна-асабовы. |
| **Б.** Пахі зямлі, вады, водару, кветак... (*С. Лобач*). | **2.** Няпэўна-асабовы. |
| **В.** Памятаеш нашу першую сустрэчу? (*М. Стральцоў*). | **3.** Абагульнена-асабовы. |
| **Г.** У кожнага чалавека свае жыццёвыя сцяжынкі, сцежкі, дарогі (*А. Пальчэўскі*). | **4.** Назыўны. |
| | **5.** Двухсастаўны. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Аднасастаўныя сказы** — гэта сказы з адным галоўным членам (ці дзейнікам, ці выказнікам). Адсутнасць другога галоўнага члена — спецыфічнасць аднасастаўных сказаў, бо іх сэнс зразумелы і не патрабуе ўзнаўлення другога галоўнага члена: *Купалля заўсёды* ***чакалі*** *з таямнічай нецярплівасцю і рыхтаваліся да яго загадзя* (В. Стома). Аднасастаўныя сказы могуць быць развітыя і неразвітыя. ***Параўнайце:*** *Акінчыцы. Шырокая вуліца* (С. Кухараў).
Аднасастаўныя сказы ў залежнасці ад таго, які галоўны член у іх прысутнічае, падзяляюцца на аднасастаўныя дзейнікавыя і аднасастаўныя выказнікавыя.
Сярод аднасастаўных выказнікавых сказаў вылучаюцца пэўна-асабовыя, няпэўна-асабовыя, абагульнена-асабовыя, безасабовыя і інфінітыўныя сказы.
У **пэўна-асабовых** сказах абазначаецца дзеянне, якое ўтвараецца канкрэтнай асобай — тым, хто гаворыць, або яго субяседнікам. Выказнікі ў пэўна-асабовых сказах выражаюцца дзеясловамі 1-й і 2-й асобы цяперашняга і будучага часу абвеснага ладу, а таксама дзеясловамі загаднага ладу: *З крыніцы* ***нап'юся*** *сцюдзёнай вады* (М. Башлакоў). *Гасцей заўжды* ***страчаем*** *хлебам-соллю...* (Я. Крупенька). ***Прыхініся*** *перасохлымі губамі да таго чысцюткага імклівага патоку* (В. Стома).
У **няпэўна-асабовых** сказах перадаецца дзеянне, утворанае няпэўнымі або невядомымі асобамі. Уся ўвага ў такіх сказах звернута менавіта на дзеянне, а не на яго ўтваральніка: *Балоты асушылі, пачалі садзіць бульбу, сеяць травы* (С. Лобач). Выказнік у няпэўна-асабовых сказах выражаецца дзеясловамі 3-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага часу, а таксама дзеясловамі прошлага часу множнага ліку: *Канчаюць будаваць новую двухпавярховую школу* (І. Навуменка). *У зале зашумелі, загаманілі* (А. Пальчэўскі).
**Абагульнена-асабовымі** называюцца такія аднасастаўныя сказы, у якіх дзеянне, абазначанае дзеясловам, можа адносіцца да любой асобы, да кожнага. Выказнік найчасцей выражаецца дзеясловам 2-й асобы цяперашняга і будучага часу, а таксама дзеясловам 2-й асобы загаднага ладу: *Не запрогшы, не паедзеш. Не вучы салаўя песні пець* (Прыказкі).
Абагульнена-асабовыя сказы вельмі шырока выкарыстаны ў прыказках. Тут могуць быць ужыты і дзеясловы 1-й і 3-й асобы: *Птушку пазнаюць па палёце. Ад дабра дабра не шукаюць. На сваім кані як хачу скачу. Аб адсутных не гавораць кепска. Увосень за стол просім.*
У **безасабовых** сказах выказнік абазначае дзеянне або стан, што выконваюцца або існуюць незалежна ад дзейнай асобы: *Вечарэе. Падмарожвала. Было цёпла на дварэ.* У гэтых сказах дзейнік не толькі не абазначаны, але нават і не падразумяваецца. Безасабовыя сказы могуць абазначаць з'явы прыроды, стан навакольнага асяроддзя; псіхічны і фізічны стан і адчуванні чалавека; магчымасць (немагчымасць) дзеяння, неабходнасць, жаданне дзеяння; наяўнасць ці адсутнасць чаго-небудзь.
Выказнік у безасабовых сказах можа быць выражаны:
- безасабовым дзеясловам (зваротным і незваротным): *Толькі аднаму музыку месячнай ноччу* ***не спіцца*** (М. Танк);
- асабовым дзеясловам ў значэнні безасабовага: ***Пацягне*** *з балота замшэлага холадам* (М. Башлакоў);
- прэдыкатыўным прыслоўем: ***Пуста*** *і* ***прасторна*** *ў полі і на лузе* (С. Лобач);
- безасабова-прэдыкатыўным словам (*можна, нельга, варта, трэба* і пад.) або спалучэннем яго з інфінітывам: *Ранкамі ў асеннім небе* ***можна пачуць*** *толькі трубныя галасы апошніх жураўоў* (Р. Ігнаценка);
- дзеепрыметнікам залежнага стану ў форме прошлага часу: *Пра гэта ўжо* ***напісана*** *ў газетах* (І. Навуменка);
- адмоўным словам *няма* і дзеясловам *не было*: *Для мастацтва* ***няма*** *дробных, нязначных праблем* (З. Прыгодзіч). *Паблізу нікога нідзе* ***не было*** (В. Быкаў);
- словамі *відаць, чуваць, відно, чутно* з адмоўем ***не***, пры якіх абавязкова ўжываюцца дапаўненні ў форме роднага склону: *Нідзе не відаць (не відно) і не чуваць (не чутно) аніводнага чалавека.*

Да **інфінітыўных** адносяцца аднасастаўныя сказы, выказнік у якіх выражаны незалежным інфінітывам. У гэтых сказах можа быць выражана пажаданасць, неабходнасць, непазбежнасць або немагчымасць дзеяння: *Не злічыць у небе ясных зорак, не злічыць у сэрцы светлых дум* (М. Багдановіч).
**Намінатыўныя** (ці **назыўныя**) сказы адносяцца да аднасастаўных дзейнікавых. У іх складзе ёсць толькі дзейнік. Намінатыўныя сказы, як і іншыя аднасастаўныя, бываюць развітыя і неразвітыя. У развітых дададзеным членам сказа можа быць азначэнне — дапасаванае ці недапасаванае: *Светлая* ***восень***. ***Пара*** *лістападу*. *Сцішаны* ***шэпат***[1] *бяроз* (М. Башлакоў).
Намінатыўныя сказы не бываюць адмоўнымі, але могуць быць указальнымі (у іх прысутнічаюць часціцы *вось, вунь, во*). ***Параўнайце два сказы:*** 1) *Вунь Падлужжа.* 2) *Вунь там, збоку, Падлужжа* (С. Скрыган). Першы сказ намінатыўны, неразвіты, няўскладнены. Другі сказ — двухсастаўны (няпоўны), развіты, ускладнены.

[1] ГН — *шэпт.*



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відам. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Утульны невялічкі пакой (*С. Александровіч*).<br>**Б.** Сусвет вялікі, казачны, бяздонны (*З. Марозаў*).<br>**В.** Шчырасць у мастацтве нельга падрабіць (*В. Быкаў*).<br>**Г.** Над макаўкамі елак маладых маладзіка сярэбраныя рогі (*Г. Пашкоў*). | **1.** Двухсастаўны, развіты.<br>**2.** Двухсастаўны, неразвіты.<br>**3.** Назыўны, развіты.<br>**4.** Безасабовы.<br>**5.** Пэўна-асабовы. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відам. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** За акном вагона чорная вераснёвая ноч (*А. Пальчэўскі*).<br>**Б.** Яму з нізінкі адказалі такім жа свістам (*М. Лобан*).<br>**В.** Пойдзем пешкі (*М. Стральцоў*).<br>**Г.** Мяжа, зробленая бацькам (*Т. Хадкевіч*). | **1.** Двухсастаўны, развіты.<br>**2.** Двухсастаўны, неразвіты.<br>**3.** Назыўны, развіты.<br>**4.** Няпэўна-асабовы.<br>**5.** Пэўна-асабовы. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 3.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відам. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Ад дальняй рэчкі вее прыемным халадком (*Т. Хадкевіч*).<br>**Б.** Не шукайце красы за марамі... (*Г. Бураўкін*).<br>**В.** А за акном неверагодны птушыны канцэрт (*З. Прыгодзіч*).<br>**Г.** Дрэва загадкавае і мудрае (*І. Навуменка*). | **1.** Двухсастаўны, развіты.<br>**2.** Двухсастаўны, неразвіты.<br>**3.** Назыўны, развіты.<br>**4.** Безасабовы.<br>**5.** Пэўна-асабовы. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

# УРОК 40 Члены сказа



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Дзяцінства іншы раз дапамагае ***выбраць*** занятак на ўсё жыццё (*І. Навуменка*).<br>**Б.** Усё ***жывое*** святкуе адраджэнне... (*С. Грахоўскі*).<br>**В.** Далей ад каменя было прыкметна ***глыбей*** (*В. Стома*).<br>**Г.** Усе гады свайго жыцця я шукаў адказ ***на адно*** пякучае ***пытанне***... (*С. Давідовіч*). | **1.** Дзейнік (частка дзейніка).<br>**2.** Выказнік (частка выказніка).<br>**3.** Азначэнне.<br>**4.** Дапаўненне.<br>**5.** Акалічнасць. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Тэст № 2.** Вызначце сінтаксічную ролю выдзеленага інфінітыва:
*Зведала шчасце* ***адчуць*** *пад нагамі жывую і цёплую гэту зямлю* (Н. Маеўская).

☐ 1) дзейнік;
☐ 2) выказнік;
☐ 3) азначэнне;
☐ 4) дапаўненне;
☐ 5) акалічнасць.



ТЭОРЫЯ

**Члены сказа** — гэта словы і словазлучэнні, якія ўваходзяць у сказ і выконваюць у ім пэўную сэнсавую і сінтаксічную ролю. **Галоўнымі** членамі сказа з'яўляюцца ***дзейнік*** і ***выказнік*** (утвараюць граматычную

аснову). **Даданымі** называюцца члены сказа, якія не ўваходзяць у граматычную аснову, знаходзяцца ў падпарадкавальнай сувязі з галоўнымі членамі сказа або паміж сабой, г. зн. дапаўняюць, паясняюць, удакладняюць нейкі член сказа. Даданымі членамі сказа з'яўляюцца ***азначэнні***, ***дапаўненні***, ***акалічнасці***.

## Галоўныя члены сказа

**Дзейнік** — галоўны член сказа, які выражае прадмет думкі і паясняецца выказнікам. Дзейнік можа абазначаць суб'ект дзеяння: *Па галінках скачуць чубатыя сініцы* (В. Вольскі); аб'ект дзеяння: *Юновічу ўспаміналася чамусьці нядаўняя паездка* (М. Стральцоў); дзеянне як назву: *Маляваць стала для яго ўнутранай неабходнасцю* (А. Пісьмянкоў).

Дзейнік можа быць выражаны:

1) назоўнікам у назоўным склоне: *Фантастыка часта апераджае навуку* (І. Навуменка);
2) займеннікам у назоўным склоне: *Нехта мне ў сэрца закінуў залатыя шолахі вясны* (М. Танк);
3) субстантываванымі часцінамі мовы: *Малы засмяяўся. Свае заўсёды памогуць. Паранены застагнаў. Абое стаміліся*;
4) колькаснымі лічэбнікамі: *Восем дзеліцца на два*;
5) інфінітывам: *Вучыцца — вялікая асалода*;
6) прыслоўем, службовымі часцінамі мовы і літарамі ў сказах тыпу: *Заўсёды — акалічнаснае прыслоўе часу. Толькі — сэнсавая (абмежавальная) часціца. А — першая літара алфавіта*;
7) спалучэннем слоў: *Два ды два — чатыры. Некалькі тыдняў за працай прайшлі* (Я. Брыль). *Падышло чалавек з восем* (Т. Хадкевіч). *Адзін з іх не прыйшоў*;
8) сказам: *Што будзе далей? — вечнае пытанне.*

**Выказнік** — граматычна залежны ад дзейніка член сказа, які абазначае дзеянне, стан ці прымету прадмета, названага дзейнікам.

Выказнік можа адказваць на наступныя пытанні:

— што робіць прадмет? *Свішча вецер, нясе белы пыл у кожны куточак...* (Я. Колас);
— што робіцца з прадметам? *Працай шліфуецца талент* (У. Мяжэвіч);
— які прадмет? *Сад прыгожы ў любую часіну года, у любое надвор'е* (Я. Сіпакоў);
— хто такі прадмет? што такое прадмет? *Максім Танк — народны пісьменнік Беларусі. Мова — найважнейшы сродак зносін паміж людзьмі.*

## Тыпы выказнікаў паводле структуры і спосабу выражэння

**Простыя** выказнікі складаюцца з адной словаформы, у якой заключана іх лексічнае і граматычнае значэнне: *Недзе ў гушчары нягучна пераклікаліся зязюлі* (М. Ваданосаў).

***Простыя дзеяслоўныя*** выказнікі могуць выражацца:

1) дзеясловамі абвеснага, умоўнага і загаднага ладу: *Сады агалошваюцца нястомным ціньканнем сініц* (І. Навуменка). *Будзем чакаць мы вясновага сонца цярпліва...* (Ф. Баторын). *Найдаражэйшы з галасоў я б слухаў тысячу разоў* (Ф. Баторын). *Няхай цячэ ручай імклівы* (М. Шабовіч);
2) інфінітывам: *Кветкам красавацца, гарэць агнём чырвоным* (Я. Брыль);
3) усечанай формай дзеяслова — так званым дзеяслоўным выклічнікам: *І тут шусь да нас у хату сабака*;
4) фразеалагічным словазлучэннем, калі яно сваім значэннем адпавядае слову (дзеяслову): *Ад калыскі да магілы выціскалі сокі, крой пілі, цягнулі жылы каты-крывасмокі* (К. Крапіва). Усе фразеалагізмы можна замяніць дзеясловамі: *прыгняталі, мучылі, здзекаваліся.*

> ! У склад выказніка можа ўваходзіць параўнальны злучнік: *Звычайна пад раніцу завея быццам улягалася, слабела* (Б. Сачанка).

> ! Просты дзеяслоўны выказнік можа быць ускладненым, калі ён выражаны двума аднолькавымі ці сінанімічнымі дзеясловамі: *Гадзіннік няўмольна лічыць і лічыць хвіліны...* (Б. Сачанка); *Сарока-белабока па галінках гайсала, стракатала-трашчала...* (Н. Галіноўская) або спалучэннем дзеясловаў з формай прошлага часу дзеясловаў *быць, узяць*: *На спуску з гары я нават дагнаў быў Валодзю...* (З. Прыгодзіч).

***Састаўныя*** выказнікі складаюцца з двух структурных кампанентаў: дзеяслова-звязкі і выказальнага слова. Дзеяслоў-звязка выражае граматычнае значэнне (паказвае на час, асобу, лік, род) і каардынуе тым самым сувязь выказальнага слова з дзейнікам. Выказальнае слова выражае лексічнае значэнне выказніка. У ролі звязак ужываюцца асабовыя формы дзеясловаў *быць, стаць, перастаць, закончыць, пачаць, хацець, магчы, жадаць, з'яўляцца* і інш., прыметнікі *рад, гатоў*, дзеепрыметнікі *вымушаны, абавязаны*, мадальныя словы *трэба, варта, можна, нельга, немагчыма.*

Састаўныя дзеяслоўныя выказнікі складаюцца з дзеяслова-звязкі і інфінітыва: *Сталі сыпаць на зямлю дажджынкі* (Н. Галіноўская); *Але вось зусім нечакана дождж перастаў ісці* (Р. Ігнаценка).

Састаўныя іменныя выказнікі складаюцца з выказальнага слова, якое выражана іменнай часцінай мовы, і дзеяслова-звязкі.

Выказальнае слова можа выражацца:

1) назоўнікамі: *Дык ты неўзабаве* ***гаспадаром*** *будзеш!* (К. Чорны);
2) прыметнікамі: *Вада пад тонкім лёдам была* ***чыстая***... (І. Пташнікаў);
3) лічэбнікамі: *Аксіння зноў засталася* ***адна*** (А. Кулакоўскі);
4) займеннікамі: *Рэчка зімою была не* ***такая****, як улетку*;
5) дзеепрыметнікамі: *Вечар быў* ***напоўнены*** *ружовай празрыстасцю і глыбокай цішшу* (Т. Хадкевіч);
6) прыслоўямі: *Яна даўно ўжо была* ***замужам***;
7) безасабова-прэдыкатыўнымі словамі: *Ад гэтага спакойнага святла яшчэ цішэй здавалася на зямлі* (К. Чорны);
8) сінтаксічна непадзельнымі словазлучэннямі: *Сам я па прафесіі настаўнік, знаю слоў дакладную вагу* (П. Панчанка);
9) фразеалагічнымі словазлучэннямі: *У тую ноч разведка была пад самым бокам фашысцкага гарнізона* (В. Быкаў).

***Пры адсутнасці звязкі*** такія выказнікі могуць выражацца:

1) іменнымі часцінамі мовы (прыметнікамі: *Большы за пчалу шэршань* (С. Лобач); назоўнікамі: *Прыроды мы адданыя, надзейныя сябры* (Н. Галіноўская); лічэбнікамі: *У адзіноце гэтай ты, аднак, не адзін* (В. Быкаў); займеннікамі: *Дарога быццам тая і быццам не тая* (М. Лобан));
2) дзеепрыметнікамі: *Сосны захутаны ў белыя шалікі* (Н. Гілевіч);
3) прыслоўямі: Мая сястра ўжо *замужам*;
4) безасабова-прэдыкатыўнымі словамі: *Усім радасна ў такі дзень* (Я. Сіпакоў);
5) выклічнікамі: *Ого-го-го яшчэ дзядзька наш!* (А. Чарнышэвіч).

! У некаторых падручніках такія выказнікі называюць ***простымі іменнымі***.

! Ролю звязкі ў састаўным іменным выказніку могуць выконваць дзеясловы, якія абазначаюць рух або становішча: *ісці*, *сядзець*, *ляжаць*, *стаяць* і інш.: *Дзень выдаўся поўны клопату* (М. Лынькоў). *Раніца пачыналася прыгожая* (Я. Сіпакоў). Пры нулявой звязцы звычайна ўжываецца назоўнік у назоўным склоне: *Беларусь — мая маці і мова, паветра і хлеб* (А. Вялюгін).

**Запомніце!**

Калі пры выказніку ўжыты словы *чалавек*, *мужчына*, *жанчына*, *людзі*, *хлопец*, *рэч*, *дрэва* і інш. у значэнні родавых паняццяў, гэтыя словы не змяняюць тыпу выказніка: *Бацькі мае людзі добрыя. Бацька мой быў працавіты чалавек* (выказнікі састаўныя іменныя).

## Даданыя члены сказа

**Дапаўненне** — даданы член сказа, які абазначае аб'ект і адказвае на пытанні ўскосных склонаў.

Дапаўненне можа быць выражана:

- назоўнікам: *Ляцяць вятры з далёкага поўдня і нясуць з сабой неўгамонную вясновую сілу* (Т. Хадкевіч);
- займеннікам: *Нам выткала ціхая восень ручнік на дзівосны ўзор* (А. Астрэйка);
- субстантываванымі часцінамі мовы: *Аднаму льецца, а другому нават не капае* (Прыказка). *Падышоўшы, убачыў абаіх. Усе суцяшалі малога*;
- інфінітывам: *Дзед навучыў нас вызначаць час па кветках* (В. Хомчанка);
- прыслоўем (у значэнні назоўніка): *Пяю пра сёння з любасцю...* (Я. Брыль);
- спалучэннем слоў: *Шмат захапленняў прыносіць лета* (І. Навуменка).

У залежнасці ад спосабу выражэння і ад таго, да якіх слоў яны адносяцца ў сказе, дапаўненні падзяляюцца на прамыя і ўскосныя.

***Прамыя*** дапаўненні адносяцца да *пераходных* дзеясловаў і абазначаюць аб'ект, на які непасрэдна накіравана дзеянне. Асноўны спосаб іх выражэння — форма вінавальнага склону без прыназоўніка: *Напевам гонкая сасна мне сэрца чаравала* (Ю. Свірка).

Прамое дапаўненне можа быць выражана і формай роднага склону без прыназоўніка: 1) калі дзеянне, абазначанае пераходным дзеясловам, пераходзіць не на ўвесь прадмет, а на яго частку: *Цяпла напіліся тапалі* (Я. Янішчыц); 2) калі пры пераходным дзеяслове ёсць адмоўе ***не***: *Такіх пісем ад Надзі я не атрымліваў ніколі* (З. Прыгодзіч); 3) калі дапаўненне абазначае аб'ект часовага карыстання і ўжыта з дзеясловамі *даць*, *узяць*, *браць*, *пазычыць*, *папрасіць*: *Насця пазычыла ў суседзяў газы і зварыла на прымусе суп* (К. Чорны).

Дапаўненні, выражаныя ўсімі ўскоснымі склонамі, акрамя пералічаных у абзацы вышэй, называюцца ***ўскоснымі***. Яны могуць адносіцца да непераходных дзеясловаў, назоўнікаў, прыметнікаў, прыслоўяў: *Для ўсіх нас хопіць працы, сонца, зорак* (П. Панчанка).

**Азначэнне** — даданы член сказа, які паказвае на прымету, якасць ці ўласцівасць прадмета (суб'екта, аб'екта ці акалічнасці) і адказвае на пытанні *які? чый?* Азначэнні могуць звязвацца з паяснёнымі словамі дапасаваннем, кіраваннем і прымыканнем. У залежнасці ад віду сувязі яны бываюць дапасаваныя і недапасаваныя.

Азначэнні, якія дапасуюцца да паяснёнага слова ў родзе, ліку і склоне, называюцца ***дапасаванымі***. Яны могуць выражацца: 1) прыметнікамі: *У маланкавы дзень хмара кідае медныя коп'і* (П. Панчанка); 2) займеннікамі: *Я прыехаў пажыць у родным свеце майго маленства і маладосці...* (Я. Брыль); 3) парадкавымі лічэбнікамі: *Брыгада чакала першага самалёта з Масквы* (І. Шамякін); 4) дзеепрыметнікамі: *За вокнамі ляжала ўмытая цішыня* (У. Караткевіч); 5) дзеепрыметнымі зваротамі: *Мядовы пах чабору змешваецца з густым настоем нагрэтай сонцам зямлі* (В. Вольскі).

***Недапасаваныя*** азначэнні звязваюцца з паяснёным словам кіраваннем або прымыканнем. Яны могуць выражацца: 1) назоўнікамі ва ўскосных склонах (з прыназоўнікамі ці без іх): *Размова ішла пра чалавека будучыні* (З. Прыгодзіч); 2) прыналежнымі займеннікамі *яго*, *яе*, *іх*: *Ідуць касцы, звіняць іх косы...* (Я. Колас); 3) прыслоўямі: *Суседам справа аказаўся дзед Мікіта* (Ф. Янкоўскі); 4) інфінітывам: *Абяцанні прыехаць на дзедаў хутар так і засталіся абяцаннямі* (А. Кажадуб); 5) словазлучэннямі: *Я азіраюся і бачу хлапчука гадоў дванаццаці* (Я. Сіпакоў).

**Прыдатак** — гэта азначэнне, выражанае назоўнікам, які паслядоўна дапасуецца да паяснёнага слова ў склоне: *Янот-**паласкун** — прышлец з Паўночнай Амерыкі* (С. Зуёнак). Прыдаткі могуць абазначаць якасць ці ўласцівасць прадметаў: *вочы-васількі*, *цар-дуб*; сваяцкія адносіны: *цётка Адэля*; відавое адрозненне: *лодкі-пласкадонкі*, *лён-даўгунец*; род заняткаў, прафесію, пасаду, узрост: *лётчык-знішчальнік*, *выкладчык Несцяровіч*, *хлопчык-падлетак*; геаграфічныя назвы: *возера Свіцязь*, *горад Полацк*; назвы прадпрыемстваў, кніг, часопісаў, фільмаў, калгасаў, гасцініц, караблёў і інш.: *паэма «Новая зямля»*, *гасцініца «Планета»*.

! Пры абазначэнні асобы прыдаткам з'яўляецца агульны назоўнік (*дзед Талаш*), пры абазначэнні неадушаўлёнага прадмета прыдаткам з'яўляецца ўласны назоўнік (*рака Свіслач*).

! Не з'яўляюцца прыдаткамі назоўнікі-сінонімы (*сцежкі-дарожкі*, *бяда-гора*).

Адзіночны прыдатак пішацца праз злучок з паяснёным словам:

1) калі абодва словы — агульныя назоўнікі: *Проста дзіваў натварыў гэты снег-**жартаўнік*** (Я. Колас); пры адваротным парадку словы пішуцца асобна: *У высокім небе пералівіста звінеў нястомны **весялун** жаўрук...* (А. Капусцін);
2) калі ўласны назоўнік стаіць перад агульным: *І плыве, плыве імклівы светлы Нёман-**чарадзей*** (Я. Пушча).

У двукоссе бяруцца прыдаткі, якія абазначаюць назвы прадпрыемстваў, кніг, фільмаў і г. д.: *трактар «Беларус»*, *паэма «Курган»*. Прыдаткі са словам *імя* ў двукоссе не бяруцца: *Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка*.

**Акалічнасць** — даданы член сказа, які характарызуе дзеянне, спосаб дзеяння і розныя ўмовы дзеяння: *Маланка **адчайна** злуецца. Успыхвае **ўмомант** ярчэй* (Н. Галіноўская). Акалічнасці могуць абазначаць розныя абставіны дзеяння: месца, час, прычыну, умову, спосаб дзеяння, уступку, меру і ступень. Паводле значэння яны падзяляюцца на адпаведныя разрады.

У ролі акалічнасці могуць выступаць прыслоўі: *Вясна непрыкметна перайшла ў лета* (Т. Хадкевіч); дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты: *Ён ішоў дахаты не спяшаючыся* (Я. Сіпакоў). *Спіць, стаілася возера, накрыўшыся коўдрай-туманам* (І. Пташнікаў); назоўнікі ва ўскосных склонах: *Ад сырасці і дажджой паветра над горадам станавілася цяжкім...* (В. Гігевіч); лічэбнікі або спалучэнні лічэбнікаў з назоўнікамі: *Два дні я не браўся за гэты сшытак* (З. Прыгодзіч); інфінітыў: *Ружовы дзень спусціўся падрамаць за верхавінамі смалістых сосен* (Т. Кляшторны).

! Акалічнасці ў сказе падпарадкоўваюцца дзеясловам. Могуць выражацца рознымі часцінамі мовы і іх спалучэннямі, інфінітывам, дзеепрыметным і дзеепрыслоўным зваротамі, фразеалагічнымі словазлучэннямі.

! Акалічнасці ступені могуць падпарадкоўвацца як дзеясловам, так і прыметнікам, дзеепрыметнікам, дзеепрыслоўям і прыслоўям.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** ***Кожны*** сплёў сабе вянок (*Н. Галіноўская*).<br>**Б.** Вузкі ***човен*** возера гайдае (*Ф. Баторын*).<br>**В.** ***Нагрэцца*** сеў на комін абветраны бацян (*У. Мазго*).<br>**Г.** Сціх ***лістапада*** каляровы дождж (*С. Басуматрава*). | **1.** Дзейнік.<br>**2.** Выказнік.<br>**3.** Азначэнне.<br>**4.** Дапаўненне.<br>**5.** Акалічнасць. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Яна [сарока] паляцела ***перадаваць*** навіны іншым птушкам (*І. Навуменка*).<br>**Б.** ***Хадзіць*** жа далей у пушчу бацька ім строга забараніў (*Т. Хадкевіч*).<br>**В.** Той міг сустрэчы ***берагчы*** ў будні буду і ў нядзелі (*М. Шабовіч*).<br>**Г.** ***Быць*** чалавекам на зямлі зямля бацькоў дала мне права (*Р. Барадулін*). | **1.** Дзейнік (частка дзейніка).<br>**2.** Выказнік (частка выказніка).<br>**3.** Азначэнне (частка азначэння).<br>**4.** Дапаўненне (частка дапаўнення).<br>**5.** Акалічнасць (частка акалічнасці). |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 3.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Белай дрымотай ***спавіты*** кусты (*Н. Гілевіч*).<br>**Б.** ***Чорнае*** белым не стане (*Прыказка*).<br>**В.** Крынічка спявае, смяецца і рада між звонкіх сасён, што к ёй у люстэрка ***глядзецца*** прыходзяць бярозка і клён (*А. Астрэйка*).<br>**Г.** ***Кожнаму*** па сяле знаходзілася работа ў гаспадарцы... (*А. Пальчэўскі*). | **1.** Дзейнік.<br>**2.** Выказнік.<br>**3.** Азначэнне.<br>**4.** Дапаўненне.<br>**5.** Акалічнасць. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Варыянт 4.** Адзначце сказы, у якіх выдзелены ***выказнікі***:

☐ 1) Поле, дрэвы і шлях ***у здранцвенні*** (*М. Шабовіч*).

☐ 2) Новая школа ***бліжэй*** да Васілёвага дома... (*І. Навуменка*).

☐ 3) Дык і не дзіва, што любілі, што на руках яго ***насілі*** (*Я. Колас*).

☐ 4) ***Угаварыць*** яго [Волаха] было немагчыма... (*В. Быкаў*).

☐ 5) У гэтых лясах, ***здавалася***, і ягады былі сакаўнейшыя... (*К. Чорны*).

# УРОК 41 Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ***неабходна*** паставіць працяжнік:

☐ 1) Грыбы __ дзеці навальніц і шчодрых праліўных дажджоў, пасля якіх усталёўваецца на некалькі дзён цёплае сухое надвор'е (*В. Стома*).

☐ 2) Мастацтва __ бадай, адзіная форма духоўнага жыцця, дзе любы паўтор, любое капіраванне катэгарычна недапушчальныя (*З. Прыгодзіч*).

☐ 3) Чмяліны мёд __ салодкі, але рэдкі (*С. Лобач*).

☐ 4) Галоўнае __ дабрацца да Касцюкоўкі (*В. Быкаў*).

☐ 5) Ноч __ як сажа... (*К. Кірэенка*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ***неабходна*** паставіць працяжнік:

☐ 1) Сёння я __ не памочнік ёй (*М. Стральцоў*).

☐ 2) Мой край __ бялюткія бярозы абапал сіняе ракі (*В. Вярба*).

☐ 3) Сустрэчы нашы __ як чароўны сон (*М. Шабовіч*).

☐ 4) Яна __ ўжо самастойны чалавек, фельчар... (*І. Шамякін*).

☐ 5) Шырыня, прастор __ не акінеш вокам! (*Т. Хадкевіч*).

Пры адсутнасці дзеяслова-звязкі паміж дзейнікам і выказнікам працяжнік можа ставіцца або не ставіцца. Гэта залежыць ад спосабу выражэння галоўных членаў сказа, а ў некаторых выпадках і ад суседніх слоў.

**Працяжнік абавязкова ставіцца:**

1) калі абодва галоўныя члены выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне і пры гэтым выказнік:
   - з'яўляецца лагічным азначэннем дзейніка: *Стылістыка — навука аб спосабах выкарыстання моўных сродкаў* (З граматыкі);
   - утрымлівае ацэнку таго, што абазначана дзейнікам: *Смольная хвоя — вельмі моцнае і даўгавечнае дрэва* (К. Чорны);
   - уступае ў параўнальныя адносіны з дзейнікам (**!** без злучніка): *Голас — срэбраны званочак* (Я. Колас);
   - знаходзіцца пасля аднародных дзейнікаў: *Барва падвялай лістоты і развітальныя крыкі жураваў — характэрныя прыкметы восені* (В. Стома);

   **!** Ва ўсіх гэтых выпадках выказнік стаіць пасля дзейніка.

2) калі абодва галоўныя члены сказа выражаны колькаснымі лічэбнікамі: *Пяць і пяць — дзесяць*; калі дзейнік выражаны назоўнікам або займеннікам, а выказнік — колькасным лічэбнікам (ці лічэбнікам з залежнымі ад яго словамі): *Плошча Белавежскай пушчы — 79171 га. Тураў — адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі*;
3) калі абодва галоўныя члены сказа або адзін з іх выражаны інфінітывам: *Найвышэйшы абавязак — узгадаваць і выхаваць чалавека* (М. Лужанін);
4) калі выказнік выражаны назоўнікам без дзеяслова-звязкі, а дзейнік — назоўнікам у творным склоне з дзеясловам-звязкай: *Стаць настаўніцай — патаемная мара Аленкі* (І. Шамякін);
5) калі перад выказнікам ёсць словы *вось*, *гэта*, *значыць*, *гэта значыць*: *Беларусь для мяне — гэта белыя зімы і вясновы бурлівы разліў* (Я. Золак);
6) калі дзейнік выражаны назоўнікам, а выказнік — фразеалагізмам з ацэначным значэннем у форме абагульнена-асабовага ці няпэўна-асабовага сказа: *Возера — рукой падаць* (Я. Скрыган). *Шыр*, *прастор — вокам не ахапіць* (Б. Сачанка); у ролі выказнікаў у гэтым выпадку могуць выступаць і фразеалагізмы тыпу *кроў з малаком*, *стрэляны верабей*: *Твар — кроў з малаком*;
7) калі выказнік выражаны ўсечанай формай дзеяслова (аддзеяслоўным выклічнікам) тыпу *бліс*, *круць*, *гоп*, *скок*, *шусь* і абазначанае гэтымі словамі дзеянне падкрэслена лагічна і мае адценне нечаканасці: *Уладзік зараз — шмыг у дзверы!* (Я. Колас). *Казёл — бац вайка рагамі* (Я. Брыль);

   **!** Калі названыя ўмовы адсутнічаюць, працяжнік не ставіцца: *Снег скрып ды скрып пад нагамі* (І. Шамякін). *З гуменца бацька шусь у хату* (Я. Колас).

8) калі дзейнік выражаны назоўнікам ці займеннікам, а выказнік — выклічнікам (у сказах тыпу *Ён яшчэ — ого!*).

**Працяжнік не ставіцца:**

1) калі дзейнік або выказнік выражаны займеннікам: ***Я беларус***, *і я шчаслівы*, *што маці мову мне дала*, *што родных песень пераліві і зблізку чую*, *і здаля* (Н. Гілевіч);
2) калі перад выказнікам, выражаным назоўнікам у назоўным склоне, ёсць адмоўе ***не***: *Нацыя*, *нацыянальнае не капрыз гісторыі*, *а дадзенасць*, *што склалася вякамі...* (Р. Барадулін);

   **!** Калі выказнік выражаны інфінітывам, працяжнік ставіцца: *Век зжыць — не мех сшыць* (Прыказка).

3) калі перад выказнікам стаіць не дапасаваны да яго член сказа або пабочнае слова, злучнік ці часціца: *Пушча мне дом родны* (А. Астрэйка). *Баравік усім грыбам грыб*, *самая дарагая і самая жаданая знаходка кожнага грыбніка* (В. Стома);
4) калі пры выказніку ёсць параўнальныя злучнікі *як*, *як быццам*, *нібы*, *што*: *Свая хатка як родная матка* (Прыказка);
5) калі выказнік, выражаны назоўнікам, стаіць перад дзейнікам-назоўнікам або ў сярэдзіне яго: *Асаблівы чалавек дзядзька Тамаш* (К. Чорны);

   **!** У большасці адзначаных выпадкаў можа быць пастаўлены працяжнік з мэтай лагічнага выдзялення дзейніка ці выказніка: *Я — матчын спеў*, *я — матчыны трывогі...* (А. Куляшоў). *Ласкавае сонца — што дзень ясны* (Я. Колас). *Нядобрае пачуццё — зайздрасць* (І. Шамякін).

6) калі дзейнік і выказнік цесна звязаны сэнсава і могуць успрымацца як адзін член сказа: ***Грош цана*** *такой рабоце* (Я. Колас).



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Падлічыце, колькі працяжнікаў неабходна паставіць у тэксце. Адказ запішыце лічбай.

*Зіма цяжкі перыяд у жыцці большасці лясных жыхароў. І холад гэта яшчэ нічога. Для мноства дробных жывёлін снег гэта страха, ахова ад лютых халадоў і траскучых маразоў. Галоўнае здабыць корм* (В. Стома).

☐

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ***неабходна*** паставіць працяжнік:

☐ 1) Наша мова ___ бярозавік весні, аксаміт жаўруковае песні (*Я. Золак*).

☐ 2) Жыццё ___ не проста існаванне, а штохвілiннае змаганне (*Ф. Баторын*).

☐ 3) Гучанне слова ___ гэта яго жыццё, яго дыханне (*В. Вітка*).

☐ 4) Лявон, як і Піліп, ___ дзелавы чалавек (*І. Навуменка*).

☐ 5) Мэта песні ___ будзіць і ўзбагачаць духоўнае жыццё чалавека, падымаць ягоны настрой і гэтым самым павялічваць у ім маральныя і фізічныя сілы, трываласць у жыццёвай барацьбе (*Р. Шырма*).

**Варыянт 3.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў ***неабходна*** паставіць працяжнік:

☐ 1) Наледзь на студні ___ што барада... (*Г. Пашкоў*).

☐ 2) Чалавек ___ па натуры сваёй шукальнік (*У. Дамашэвіч*).

☐ 3) Пугач ___ адна з буйнейшых соў не толькі нашай, але і сусветнай фаўны (*С. Зуёнак*).

☐ 4) Жаніцца ___ не вады напіцца (*Прыказка*).

☐ 5) Прыроды мы ___ адданыя, надзейныя сябры (*Н. Галіноўская*).

# УРОК 42 Каардынацыя дзейніка і выказніка



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх выказнік, што ў дужках, ужываецца ў адзіночным ліку:

☐ 1) Толькі некалькі вішань (расло — раслі) цяпер пры цяперашняй яго хаце (*К. Чорны*).

☐ 2) Вунь на лысіне ўзгорка (шапаціць — шапацяць) лістотай чатыры бярозкі (*В. Мартыненка*).

☐ 3) Чацвёра дзядоў (садзіцца — садзяцца) за вёслы (*І. Навуменка*).

☐ 4) (Тчэ — ткуць) зоры і месяц яму свае шаты (*Я. Колас*).

☐ 5) (Мінула — мінулі) больш за дваццаць гадоў з таго часу (*М. Аўрамчык*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх выказнік, што ў дужках, ужываецца ў множным ліку:

☐ 1) (Было — былі) тут каля трыццаці чалавек (*М. Лынькоў*).

☐ 2) Спакой і цішыня (пануе — пануюць) над зялёнымі аксамітамі балот і лясоў (*Я. Колас*).

☐ 3) (Стаяла — стаялі) некалькі дзясяткаў цягнікоў з хлебам, з жывёлай, з розным іншым дабром... (*М. Лынькоў*).

☐ 4) Пад сцяною, у зацішку, падстаўляючы твары цёпламу ўжо сонцу, (стаіць — стаяць) тры бабкі (*З. Прыгодзіч*).

☐ 5) (Мінула — мінулі) некалькі год (*В. Быкаў*).

Пры дзейніку, які выражаны іменна-колькасным спалучэннем, выказнік можа ўжывацца як у адзіночным, так і ў множным ліку.

Выказнік ставіцца толькі ў адзіночным ліку, калі дзейнік выражаны:

1) колькасна-іменным спалучэннем, у склад якога ўваходзяць словы ***ўсяго***, ***толькі*** (*Усяго трое падарожнікаў дайшло да станцыі. Толькі тры экзамены было ў гэтым годзе.*) ці займеннікі ***нас***, ***вас***, ***іх*** (*Было іх пяцёра.*);
2) колькасна-іменным спалучэннем, якое абазначае адрэзак часу: *Прайшло дзве гадзіны*;
3) спалучэннем назоўнікаў, першы з якіх мае значэнне пэўнай колькасці (***дзясятак***, ***сотня***, ***пара***, ***двойка***, ***тройка*** і г. д.): *Сотня турыстаў стаяла ля крэпасці* (І. Шамякін);
4) спалучэннем адмоўнага або няпэўнага займенніка з назоўнікам (займеннікам) у форме ўскоснага склону: *Ніхто з дамашніх не згадае, чым рэчка Костуся займае* (Я. Колас);
5) спалучэннем лічэбніка з назоўнікам, якое абазначае прыблізную колькасць: *Чалавек з дзесяць прыехала музыкантаў* (М. Лынькоў);
6) спалучэннем слоў, у складзе якога ёсць слова ***тысяча***, ***мільён***, ***мільярд***: *Тысяча чалавек сабралася на плошчы*;
7) спалучэннем лічэбнікаў са словамі ***гадоў***, ***месяцаў***, ***тыдняў***, ***дзён***, ***гадзін***, ***мінут***, ***зім*** і г. д.: *Дваццаць гадоў прайшло з таго часу*.

У множным ліку выказнік ужываецца ў наступных выпадках:

1) калі дзейнік выражаны спалучэннем назоўніка назоўнага склону з назоўнікам у форме творнага склону: *Тата з Толем едуць ззаду, на другім возе* (Я. Брыль);
2) пры аднародных дзейніках, калі знаходзіцца пасля іх: *Цішыня і спакой ляжалі на полі* (А. Жук); калі выказнік стаіць перад аднароднымі дзейнікамі, ён, як правіла, дапасуецца ў ліку да бліжэйшага з іх: *З-за ўзгорка паказаўся горад і рачны вакзал* (Я. Брыль). *Толькі вясною бывае такая свежасць, такая празрыстасць* (З. Прыгодзіч);
3) калі дзейнік выражаны спалучэннем колькаснага лічэбніка і назоўніка са значэннем асобы: *Праз хвіліну на дарогу выйшлі два чалавекі* (У. Дамашэвіч); калі ў такім спалучэнні неадушаўлёны назоўнік стаіць перад выказнікам: *Пяць дубоў шырока раскінулі свае кроны* (Я. Колас);
4) калі дзейнік, выражаны колькасна-іменным спалучэннем, або толькі назоўнік у ім мае пры сабе азначэнне ці словы ***ўсе***, ***гэтыя***: *Чарнеюць тры вялізныя разгалістыя дубы* (І. Навуменка). *Усе трое спазніліся тады* (Я. Непачаловіч).

**Запомніце!**

1. Калі дзейнік выражаны складаным назоўнікам з часткай ***паў-***, выказнік ужываецца ў адзіночным ліку: *Засталося паўгода* (*паўшклянкі*, *паўпірага*). У множным ліку выказнік можа ўжывацца, калі дзейнік называе групу асоб (*Паўгрупы не прыйшлі на заняткі.*) або калі дзейнік мае пры сабе дапасаванае азначэнне (*Прайшлі самыя цяжкія паўгода.*).

2. Звычайна выказнік мае форму адзіночнага ліку пры дзейніку, які выражаны спалучэннямі:

• зборны лічэбнік + назоўнік (займеннік): *На другой фурманцы сядзела двое мужчын...* (Т. Хадкевіч);

• назоўнік з няпэўна-колькасным значэннем (***мноства***, ***безліч***, ***шэраг***, ***большасць***, ***меншасць*** і г. д.) + назоўнік у форме роднага склону множнага ліку: *Большасць экспанатаў была прывезена з краязнаўчага музея* (З календара «Родны край»). *Мноства чутак пайшло па свеце* (Я. Колас);

• няпэўна-колькаснае слова (***мала***, ***нямала***, ***многа***, ***нямнога***, ***шмат***, ***няшмат***, ***колькі***, ***некалькі***, ***столькі***) + назоўнік (займеннік) у форме роднага склону множнага ліку: *У яго было ў запасе шмат гісторый...* (М. Лынькоў). *Там стаяла некалькі хат* (К. Чорны).


У гэтым выпадку выказнік, як правіла, размяшчаецца перад дзейнікам.

Выказнікі могуць ужывацца таксама ў форме множнага ліку пры ўмове, што дзейнік абазначае асобу, або пры неабходнасці падкрэсліць актыўнасць дзейнасці: *Сядзяць каля вогнішча некалькі рыбакоў* (В. Вольскі). *Некалькі чалавек у парусінавых спяцоўках і форменных фуражках стаялі ля ўвахода* (Т. Хадкевіч). *Праз хвіліну яму ўжо добра было відаць, што ідуць двое людзей* (К. Чорны).

**Запомніце!** Пры выбары формы роду дзеяслова-выказніка неабходна ўлічваць наступныя моманты:

1) пры дзейніку, выражаным нескланяльным назоўнікам, які з'яўляецца геаграфічнай назвай (назвай органаў друку, радыёстанцый, радыёканалаў і г. д.), форма выказніка адпавядае роду агульнага назоўніка, які абазначае радавое паняцце: *Бі-бі-сі перадавала* (радыёстанцыя), *«Таймс» апублікавала* (газета), *Токіа вельмі прыгожы* (горад); пры дзейніку, выражаным нескланяльнай абрэвіятурай, род

выказніка залежыць ад роду апорнага слова: *БДУ правёў алімпіяду* (універсітэт), *ААН накіравала місію* (арганізацыя);
2) калі ў ролі дзейніка ўжываецца назоўнік са значэннем прафесіі (пасады, звання), выказнік мае форму мужчынскага роду незалежна ад полу асобы, абазначанай дзейнікам: *Трэнер падрыхтаваў каманду. Загадчык кафедры выступіў з прапановай.* Калі пры слове, якое абазначае прафесію (пасаду, званне), называецца імя або прозвішча асобы, то форма роду выказніка вызначаецца гэтым уласным іменем: *Трэнер Пятроў падрыхтаваў каманду. Трэнер Пятрова падрыхтавала каманду.*


ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх выказнік, што ў дужках, ужываецца ў адзіночным ліку:

☐ 1) Пад столлю (лыпала — лыпалі) вачамі дзясяткі тры лупатых соў (*Ф. Баторын*).
☐ 2) У гэтым кутку не многа людзей (ходзіць — ходзяць) у капелюшах (*І. Шамякін*).
☐ 3) (Ходзіць — ходзяць) у пары сонца і цень, радасць і смутак, любоў і нянавісць... (*А. Лойка*).
☐ 4) Сасна, бяроза, дуб (стаіць — стаяць) усё сваё жыццё на адным і тым жа месцы, але на долю не скардзяцца (*І. Навуменка*).
☐ 5) Тут (расло — раслі) некалькі дубоў, вязаў, бяроз і многа алешыны (*К. Чорны*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх выказнік, што ў дужках, ужываецца ў множным ліку:

☐ 1) З таго часу шмат (прайшло — прайшлі) гадоў (*Я. Колас*).
☐ 2) (Мінае — мінаюць) дзень, два, тыдзень (*І. Навуменка*).
☐ 3) Іван з сынам (прайшоў — прайшлі) кіламетраў з пяць... (*А. Кудравец*).
☐ 4) Вуліцу ўпоперак (перабегла — перабеглі) дзве[1] цені (*М. Лобан*).
☐ 5) У голасе яе (чулася — чуліся) непадробнае хваляванне і боль (*З. Прыгодзіч*).

# УРОК 43 Аднародныя члены сказа


ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Непрыкметна адыходзілі светлыя, спакойныя__ вераснёўскія дні (*А. Жук*).
☐ 2) Многа было дрэў__ і зямлі, і травы, і вады, і неба (*К. Чорны*).
☐ 3) А цягнікі бягуць зімой__ і летам, увосень__ і ўвясну (*М. Лынькоў*).
☐ 4) Дзве глыбока выезджаныя машынамі каляіны вялі ў густы__ з чорнай карой сасоннік (*М. Кусянкоў*).
☐ 5) Яе [песню] Сямён чуў і раней__ ды не звяртаў увагі на словы (*Я. Каршукоў*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) А сёння раніцай, ні свет__ ні зара, будзіць ён [Валодзя] мяне... (*З. Прыгодзіч*).
☐ 2) Гэта быў высокі, чорны__ сярэдняга веку і ў самай сіле чалавек (*М. Лобан*).
☐ 3) [Лісце] доўга трымалася на галлі, зрывалася ветрам__ і разносілася куды-небудзь__ або падала на зямлю... (*В. Стома*).
☐ 4) Жоўтая__ акуратна пасыпаная пяском дарожка вяла да невялікага дома... (*Э. Самуйлёнак*).
☐ 5) Недзе з глыбіні лесу яснымі__ чырвонымі ягадамі свяцілася каліна (*В. Адамчык*).

[1] ГН — *два*.

**Аднароднымі** называюцца два або некалькі членаў сказа (як галоўныя, так і даданыя), якія выконваюць аднолькавую сінтаксічную функцыю, адносяцца ў сказе да аднаго і таго ж слова ці словазлучэння і характарызуюцца інтанацыяй пералічэння: *Хораша цвітуць рамонкі, незабудкі, васількі...* (А. Дзеружынскі). Аднародныя члены сказа, якія адносяцца да аднаго і таго ж слова ці словазлучэння, утвараюць рад аднародных членаў. У адным сказе можа быць некалькі радоў аднародных членаў: *Песня і казка ходзяць у пары, сеюць па свеце дзівы і чары* (Я. Купала). У гэтым сказе тры рады аднародных членаў: дзейнікі *песня* і *казка*, выказнікі *ходзяць у пары* і *сеюць*, дапаўненні *дзівы* і *чары*.

! Аднароднымі членамі сказа не з'яўляюцца: кампаненты дзеяслоўных выказнікаў тыпу *збегай купі*, *сядзь раскажы*, *узяў ды заспяваў*; члены сказа, выражаныя паўторам слоў: *Круцілася, круцілася кола часу* (Б. Сачанка); фразеалагізмы з паўторнымі злучнікамі: *ні свет ні зара*, *ні жывы ні мёртвы* і інш.

Аднародныя члены сказа характарызуюцца наступнымі прыметамі: 1) займаюць пазіцыю аднаго члена сказа; 2) звязваюцца з адным і тым жа членам сказа аднолькавай сувяззю; 3) звязаны паміж сабой злучальнай ці бяззлучнікавай сувяззю; 4) звычайна выражаюцца аднымі і тымі ж часцінамі мовы (хаця магчыма і рознае марфалагічнае выражэнне); 5) звычайна выражаюць аднатыпныя паняцці.

! Пры вызначэнні аднародных членаў сказа пэўную цяжкасць выклікаюць дапасаваныя азначэнні, якіх пры паяснёным слове можа быць некалькі.

**Аднародныя** дапасаваныя азначэнні пералічваюць розныя прыметы прадметаў і паасобку звязваюцца з паяснёным словам (такія азначэнні звязваюцца інтанацыяй пералічэння, дапускаюць устаўку злучнікаў *і*, *не толькі ... але і*): [*Уладзіслаў Сыракомля*] *перакладаў з* ***лацінскай***, ***французскай***, ***нямецкай***, ***англійскай***, ***іспанскай***, ***рускай***, ***украінскай*** *моў* (У. Мархель).
Аднароднымі з'яўляюцца азначэнні, калі адно з іх выражана прыметнікам, а другое — дзеепрыметнікавым словазлучэннем або прыметнікам з паясняльнымі словамі: *Хведар выбраўся на ўзлесак ля* ***старой***, ***знаёмай з дзяцінства*** *грушыны...* (В. Быкаў). *Нарэшце дарога выбегла да* ***маладога***, ***прысыпанага снегам*** *жыта* (В. Адамчык).

! Не заўсёды з'яўляюцца аднароднымі азначэнні, калі адно з іх выражана прыметнікам, а другое — дзеепрыметнікам. ***Параўнайце:*** *На другі дзень поцемкам падшэрхлаю дарогаю выйшлі на* ***шырокую заледзянелую*** *гравійку* (С. Грахоўскі). *У поцемку лесу нізкія елачкі трымалі* ***празрыстыя***, ***заледзянелыя*** *пацеркі расы...* (В. Адамчык). У другім сказе азначэнні блізкія паводле значэння.

Заўсёды з'яўляюцца аднароднымі дапасаваныя азначэнні (як адасобленыя, так і неадасобленыя), якія стаяць пасля паяснёнага слова: *Маўчала* ***вёска***, ***заснежаная***, ***сонная*** (З. Прыгодзіч). *Там* ***бярозы*** *шэпчуць* ***белыя***, ***сарамлівыя***, ***нясмелыя*** (Я. Колас). Адасобленыя азначэнні ў гэтым выпадку заўсёды аднародныя.

! Аднароднымі ў адным радзе з'яўляюцца дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні: *З супрацьлеглага боку падляцела да берага* ***маленькая***, ***у*** *белых і шэрых* ***плямах*** *птушачка сітаўка* (В. Стома).

Аднароднымі з'яўляюцца азначэнні, калі другое з іх — эпітэт да першага: ***Цёплыя***, ***сардэчныя*** *ўспаміны — самы лепшы помнік на зямлі* (Я. Непачаловіч) — або сінонім: *Гэта было першае далучэнне да* ***чароўнага***, ***загадкавага*** *свету мастацтва* (С. Грахоўскі).
**Неаднародныя** дапасаваныя азначэнні характарызуюць прадметы з розных бакоў, выражаюцца звычайна прыметнікамі розных разрадаў, не могуць звязвацца злучнікамі: *За* ***ціхім сасновым*** *лесам паказалася* ***знаёмае вялікае бульбяное*** *поле* (Г. Далідовіч).
Аднародныя члены сказа могуць звязвацца паміж сабой бяззлучнікавай і злучнікавай сувяззю (злучальнымі злучнікамі).
Злучнікі:
1) *спалучальныя*: *і*, *ды* (у значэнні *і*), *ні ... ні*, *таксама*, *як ... так і*, *не толькі ... але і*;
2) *супраціўныя*: *а*, *але*, *ды* (у значэнні *але*), *аднак*, *затое*, *толькі*;
3) *размеркавальныя*: *ці*, *або* (*альбо*), *ці то ... ці то*, *не то ... не то*, *то ... то*.

## Знакі прыпынку паміж аднароднымі членамі сказа

**Коска ставіцца:**
1) паміж аднароднымі членамі, звязанымі бяззлучнікавай сувяззю (**О, О**): *Дзесьці далёка ўнізе* ***звініць***, ***булькоча*** *ручаёк* (А. Асіпенка);
2) калі аднародныя члены сказа спалучаюцца адзіночнымі супраціўнымі злучнікамі ***а***, ***але***, ***ды***, ***аднак***, ***затое*** (**О, *а* О**): ***Драбнюткі***, *але* ***спорны*** *дождж церушыў цэлыя суткі* (П. Пестрак);

3) паміж аднароднымі членамі, звязанымі спалучальнымі або размеркавальнымі злучнікамі, якія паўтараюцца:
— два аднародныя члены (***і* О, *і* О**; ***ці* О, *ці* О**; ***ні* О, *ні* О**; ***то* О, *то* О** і інш.): ***Ні*** *месяца*, ***ні*** *зорак зусім не было відаць* (Я. Колас);
— тры аднародныя члены і больш (***і* О, *і* О, *і* О**; **О, *і* О, *і* О**): ***І*** *гэты малады хвойнік*, ***і*** *гэты лес*, ***і*** *гэтыя хвоі зліваліся ў адну сцяну лесу*... (Я. Колас);

! Коска ў апошнім выпадку ставіцца і пры адсутнасці злучніка перад першым з аднародных членаў: ***Алеямі*** *зялёнымі*, *і* ***ліпамі***, *і* ***клёнамі***, *і* ***паркамі*** *цяністымі ўпрыгожаны стаіш, ты рана прачынаешся, і сонцам умываешся, і ў будучыню з гордасцю, наш родны Мінск, глядзіш!* (А. Дзеружынскі).

! Калі паўторныя злучнікі ***і*** ... ***і***, ***ні*** ... ***ні***, ***то*** ... ***то*** звязваюць словы як аднародныя часткі ўстойлівых (фразеалагічных) выразаў, то коска не ставіцца: *і смех і грэх*, *ні свет ні зара*, *ні канца ні краю*, *то сюды то туды* і пад.

4) паміж парамі аднародных членаў сказа, калі паміж сабой гэтыя члены звязаны спалучальным злучнікам ***і*** (**О *і* О**), а іх пары — інтанацыяй пералічэння (**О *і* О, О *і* О**): *Тут раслі шыракалістыя пароды дуба* ***і*** *граба*, *ліпы* ***і*** *клёна*, *вяза* ***і*** *ясеня* (І. Гурскі);
5) перад другой часткай падвойнага злучніка (***як* О, *так і* О**; ***не толькі* О, *але і* О**; ***хоць і* О, *але* О**; ***не так* О, *як* О**): *Полацк быў* ***не толькі*** *палітычным*, ***але і*** *духоўным цэнтрам княства* (У. Арлоў).

**Коска не ставіцца:**
1) паміж аднароднымі членамі сказа, якія звязаны адзіночнымі спалучальнымі ці размеркавальнымі злучнікамі (**О *і* О**; **О *ці* О**): *Начы са дзве* ***ці*** *са тры ў лагчынах ля грэблі* ***і*** *ў аселіцах ля ракі ляжаў іней* (І. Пташнікаў);
2) перад злучнікам ***і***, які паўтараецца, але звязвае розныя рады аднародных членаў: *Тысячу гадоў назад большую частку цэнтральнай* ***і*** *ўсходняй Еўропы пакрываў дзікі* ***і*** *цёмны першабытны лес* (З календара «Родны край»);
3) паміж аднароднымі членамі сказа, звязанымі неаднолькавымі злучнікамі — спалучальнымі (**О *і* О *ды* О**), размеркавальнымі (**О *ці* О *або* О**): *Удосталь наплёскаўшыся, чыжык цяжка ўзлятаў, садзіўся дзе-небудзь* ***і*** *доўга сушыў* ***ды*** *прычэсваў дзюбай пер'е* (С. Зуёнак);
4) перад першым з паўторных злучнікаў, калі з яго пачынаецца пералічэнне (***то* О, *то* О**): *Няма мне прытулку* ***ні*** *ў гаі*, ***ні*** *ў лесе*, ***ні*** *ў лузе*, ***ні*** *ў полі* (Я. Колас);
5) паміж аднароднымі членамі сказа, якія ўтвараюць цэласнае сэнсавае спалучэнне і вымаўляюцца без інтанацыі пералічэння: *Вітаю цябе я* ***і*** *хлебам* ***і*** *соллю* (Я. Купала).

! Паміж аднароднымі членамі сказа, якія выражаюць супрацьпастаўленне, пры адсутнасці злучніка ставіцца працяжнік: ***Не ў*** *хісткім* ***чаўне — на*** *магутным плыву* ***караблі*** (В. Вітка).

! Не з'яўляюцца аднароднымі членамі словы, якія звязваюцца бяззлучнікавай сувяззю (таму раздзяляюцца коскамі) і паўтараюцца ў сказе з мэтай абазначэння працягласці дзеяння, узмацнення ступені якасці: *А зіма ніяк, ніяк не супакойвалася, не лагаднела*... (Б. Сачанка).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Явар з ліпаю веццем шаптаўся__ і ніжэй да сяброўкі схіляўся (*А. Дзеружынскі*).
☐ 2) Усюды загаманілі, забулькалі ручаі__ і ў шматгалосым, імклівым шуме__ і звоне паняслі[1] вясну некуды далей (*Б. Сачанка*).
☐ 3) Такі бясконцы мой давер быў да ласкі сонца__ і да вербаў, і да прадвесня, і да выраю, да ціхай песні, самай шчырае (*В. Вітка*).
☐ 4) Груздзы__ і махавікі__ ды лісічкі хутка напоўнілі нашы кошыкі (*З. Бядуля*).
☐ 5) Пад Новы год пасярод плошчы ставіцца высокая__ багата ўпрыгожаная і асветленая ёлка (*В. Вольскі*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Мясцовасць была з кустамі__ і невялікімі лясамі__ і шмат дзе была забалочаная (*К. Чорны*).
☐ 2) Пакой дастаўся Несцяровічу добры__ з вокнамі на густы зялёны сасоннік (*І. Навуменка*).

---
[1] ГН — *панеслі*.

- [ ] 3) Я дзякую табе, зямля бацькоў, за цішыню, за песні салаўёў__ і за матуль шчаслівых калыханкі (*Я. Крупенька*).
- [ ] 4) Лістападу радуйся__ і снежню, і вятрам асеннім, і снягам (*П. Панчанка*).
- [ ] 5) Некаторыя эпізоды з пражытага паступова сціраліся з памяці__ ці проста адыходзілі на задні план (*В. Стома*).

# УРОК 44 Абагульняльныя словы пры аднародных членах сказа



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

- [ ] 1) Ад стомы, гарачыні__ ды няпэўнасці чакання хлопцу пачала дакучаць дрымота (*В. Быкаў*).
- [ ] 2) З супрацьлеглага боку падляцела да берага маленькая__ ў белых і шэрых плямах птушачка сітаўка (*В. Стома*).
- [ ] 3) Табе быццам хочацца кінуцца ў гэтую роўнядзь__ і паплысці__ альбо разбегчыся з пагорка, узвіцца і... паляцець над лесам (*В. Мартыненка*).
- [ ] 4) А ветрык лёгенькі__ паўднёвы зусім прыціхне ўскрай палёў (*Я. Колас*).
- [ ] 5) І ўспамінаю я Дняпро__ і лета, і цень каштана на старой сцяне (*У. Караткевіч*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:

- [ ] 1) І гэтыя кветкі, і маладая светла-зялёная трава, і лёгкае паветра, усё было ўрачыста-святочным... (*М. Паслядовіч*).
- [ ] 2) Усё прыгожа навакол: і рака, і туман, і трава, і кветкі, і раса... (*М. Лынькоў*).
- [ ] 3) Пчаліны, неўгамонны звон вясну на лёгкіх крылах нёс (*Я. Пушча*).
- [ ] 4) Лес то хаваўся ў лагчыне, то ўзбягаў на пагоркі... (*А. Марціновіч*).
- [ ] 5) Давайце ўспомнім дні дзіцячых прыгод і казак, і надзей (*К. Кірэенка*).



## ТЭОРЫЯ

**Абагульняльныя словы** пры аднародных членах сказа абазначаюць шырокае, родавае паняцце, а аднародныя члены — відавыя (індывідуальныя) паняцці: *За вечар **усё** ўспомнілі: і **дзяцінства**, і **вучобу**, і агульных **знаёмых*** (М. Лобан).

У ролі абагульняльных слоў часта ўжываюцца азначальныя і адмоўныя займеннікі (*увесь*, *усякі*, *ніхто*, *нішто* і інш.), прыслоўі (*усюды*, *заўсёды*, *ніколі*, *нідзе* і інш.), а таксама назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы і нават спалучэнні слоў.

! Абагульняльныя словы і аднародныя члены сказа з'яўляюцца адным і тым жа членам сказа.

Абагульняльнае слова можа стаяць як перад аднароднымі членамі сказа, так і пасля іх. У залежнасці ад гэтага ставіцца пэўны знак прыпынку — двукроп'е ці працяжнік.

Неабходна ведаць наступныя **правілы**:

1. Пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е: ***Усё** было ў гэтых песнях: прастор бязберажных палёў, і шум крыніцы пад гарою, і мілы шэлест каласоў* (Я. Колас). Схема: **⊙: О, *і* О, *і* О**.

! Калі пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі ёсць словы *а іменна*, *а менавіта*, *напрыклад*, то перад імі ставіцца коска, а пасля іх — двукроп'е: *Сярод грыбоў ёсць ядавітыя, напрыклад: бледная паганка, некаторыя віды мухамораў, апенька несапраўдная і інш.* (З календара «Родны край»).

2. Калі абагульняльнае слова стаіць пасля аднародных членаў, перад ім ставіцца працяжнік: *Трава і дрэва, рыба і звер — **усё** расце і водзіцца ў гэтым мілым куточку* (І. Шамякін). Схема: **О *і* О, О *і* О — ⊙**. Калі паміж аднароднымі членамі і абагульняльным словам ёсць пабочныя словы (*словам*, *адным словам*, *карацей кажучы*), то працяжнік ставіцца перад пабочным словам, а коска — пасля яго: *Паэты і празаікі нараджаліся і нараджаюцца на ўсіх мацерыках і кантынентах, на берагах грымотных акіянаў і мораў, каля вялікіх і малых рэк, у гарадах і глухіх вёсках — **словам**, усюды* (В. Макарэвіч). Схема: **О, О, О —** *словам*, **⊙**.
3. Калі абагульняльнае слова стаіць перад аднароднымі членамі, а сказ пасля іх мае працяг, то пасля абагульняльнага слова ставіцца двукроп'е, а пасля аднародных членаў сказа — працяжнік: *Усё разам: і хаты, і поле, і дарога — чарнела ад асенняй імглы і туману* (К. Чорны). Схема: **⊙: О, О *і* О — ...** .

! Калі аднародныя члены сказа маюць характар дадатковага тлумачэння, а на абагульняльнае слова прыпадае лагічны націск, то пасля абагульняльнага слова можа ставіцца працяжнік: *У лесе кожная мясцінка — лужок, палянка, баравінка — асобны твар і выраз мае* (Я. Колас).



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:

☐ 1) І раптам усё знікла, прапала: і трапяткое святло месяца, і серабрыстае ззянне задумлівых хвой (*М. Лынькоў*).

☐ 2) На гэты час усё: і машыны, і спрэчкі, і нарады, і штодзённая мітусня асталіся недзе далёка-далёка... (*Я. Сіпакоў*).

☐ 3) Усё гаворыць тут роднаю мовай, ад вясенніх грымот да бароў, ад азёр і шумлівай дубровы да асенняй журбы журавоў (*В. Вярба*).

☐ 4) І гэта сцішанасць, і сыраваты перадвячэрні спакой, і засяроджанасць — усё неяк балюча і прыемна кранула Максімава сэрца (*А. Кудравец*).

☐ 5) З дубу гнулі абады, палазы, рабілі бочачкі, кадушкі, дзежкі — адным словам, усё, што павінна доўга служыць чалавеку (*Я. Пархута*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) Кожнаму па сіле знаходзілася работа ў гаспадарцы__ ці то на полі, ці каля жывёлы, ці ў хаце (*А. Пальчэўскі*).

☐ 2) Яны ішлі праз лес глухой__ замеценай снегам дарогай... (*В. Быкаў*).

☐ 3) Буслы, салоўкі__ ды чыжы ляцяць у смутку ў край чужы... (*Ф. Баторын*).

☐ 4) Нас разлучалі вёрсты__ і гады, і стылыя аснежаныя далі (*С. Грахоўскі*).

☐ 5) Імчыць дзед ні жывы__ ні мёртвы, толькі барада па ветру[1] пасцілаецца (*М. Лынькоў*).

# УРОК 45 Параўнальныя звароты ў сказах



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Быццам пацеркі__ ірдзелі журавіны на траве (*П. Прыходзька*).

☐ 2) Адразу лінула__ як з вядра (*С. Александровіч*).

☐ 3) У жоўтых кажушках вавёркі спрытна скачуць__ як мячы (*П. Панчанка*).

☐ 4) Зіма__ як бы і не думае здавацца (*З. Прыгодзіч*).

☐ 5) Такіх__ як Шэмет__ сабралася чалавек з сорак (*М. Лобан*).

[1] ГН — *па ветры*.

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Больш__ як на кіламетр цягнуўся гэты малюнак (*К. Чорны*).

☐ 2) Уздоўж палеткаў, абочын сцяжын пасталі__ быццам дзеці з блакітнымі вачанятамі__ васількі (*Я. Пархута*).

☐ 3) Нават сам Кандрат успрыняў гэта__ як пахвалу__ і задаволена ўхмыляўся (*З. Прыгодзіч*).

☐ 4) Полымя зялёнага лісты трымцяць на ветры__ нібы птушаняты (*П. Макаль*).

☐ 5) Зала была__ як наэлектрызаваная (*М. Аўрамчык*).



## ТЭОРЫЯ

**Параўнальныя звароты** — гэта словы (спалучэнні слоў), якія шляхам параўнання раскрываюць і ўдакладняюць змест іншых слоў (спалучэнняў слоў) у сказе. Гэтыя звароты ўводзяцца ў структуру сказа пры дапамозе злучнікаў *як*, *што*, *чым*, *бы*, *нібы*, *нібыта*, *як бы*, *быццам* і інш.: *Дзьмухаўцы*, ***як парашуты***, *па-над лугам кружацца* (Н. Галіноўская).

Параўнальныя звароты могуць адносіцца да любога члена сказа — галоўнага ці даданага. Калі пры членах сказа ёсць указальныя словы *так*, *такі* і пад., параўнальны зварот адносіцца да словазлучэння з гэтымі ўказальнымі словамі: *Ільны такія белыя*, ***што лебядзіны пух*** (М. Калачынскі). Параўнальны зварот можа быць выказнікам або ўваходзіць у яго склад: *Хата была як цацка* (А. Чарнышэвіч).

На пісьме параўнальныя звароты ў пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа выдзяляюцца або аддзяляюцца коскамі ў наступных выпадках:

- калі маюць канкрэтнае параўнальнае значэнне (без іншых адценняў): ***Як хвалі***, *з шумам адплываюць дні* (Л. Рублеўская). *Густая высокая трава*, ***як мора***, *калышацца на ветры* (Я. Колас). *А поўня на сінім паркалі нябёс блішчыць*, ***як забытая брошка*** (В. Гардзей);
- калі адносяцца да ўказальных слоў *так* (*гэтак*), *такі* (*гэтакі*), *той*, што знаходзяцца ў асноўнай частцы сказа: *Нават* ***такія*** *буйныя жывёлы*, ***як ласі і казулі***, *у пошуках ежы заходзяць у вялікія гарады* (С. Зуёнак).

! Коскамі выдзяляюцца або аддзяляюцца таксама спалучэнні слоў *як адзін*, *як правіла*, *як звычайна*, *як знарок*, *як цяпер*, *як заўсёды* і пад.: *Назаўтра ранічкай маці*, ***як звычайна***, *ласкава разбудзіла Іванку на гары...* (В. Быкаў).

! Коска перад злучнікам *як* ставіцца ў спалучэннях *не хто іншы*, *як* і *не што іншае*, *як*: *Уся гісторыя чалавецтва — гэта* ***не што іншае***, ***як*** *выхаванне і адукацыя чалавека працай* (Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»).

**Коска не ставіцца:**

1) калі параўнальныя звароты з'яўляюцца выказнікамі або ўваходзяць у іх склад: *Вочы нібы васількі* (З. Бядуля);
2) калі параўнальныя звароты з'яўляюцца ўстойлівымі (фразеалагічнымі) або непадзельнымі па сэнсе выразамі: *Добры грыбнік не гойсае па лесе* ***як апантаны***, *не траціць дарма часу* (З. Прыгодзіч). *Іван заснуў* ***як пшаніцу прадаўшы*** (Я. Колас);
3) калі параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ пры дапамозе спалучэнняў *больш як* (*не больш як*), *менш як* (*не менш як*), *менш чым* (*не менш чым*), *не бліжэй як*, *усё роўна як* і пад.: ***Менш чым праз хвіліну*** *Несцяровіч вярнуўся ў хату* (К. Чорны);
4) калі перад параўнальным зваротам стаяць часціцы *не* (*ні*), *амаль*, *зусім*: *Сонца прыгравала* ***зусім як летам*** (М. Паслядовіч). Тут параўнанне не мае ўдакладняльнага значэння;
5) калі спалучэнні слоў са злучнікам *як* маюць значэнне 'ў якасці' без адцення прычыны: *У жыцці мы перш за ўсё адчуваем сябе* ***як асобу*** (М. Стральцоў);
6) калі зварот з *як* ужыты са значэннем тоеснасці: *Быў дзень як дзень*;
7) перад часціцамі *нібы*, *нібыта*, *як бы*, *як быццам*, *быццам* (у сказах выражаецца меркаванне, няўпэўненасць): *Дрэвы быццам крыху пацямнелі* (В. Стома).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Болей__ як два месяцы__ няма дажджу (*В. Вітка*).

☐ 2) А наша восень будзе залатой і сонечнай__ нібыта дзень вясновы (*У. Скарынкін*).

☐ 3) Тады я ўжо зусім па-іншаму зірнуў на гісторыю__ як на навуку... (*В. Гігевіч*).

☐ 4) І вёсачка лясная мяне__ як маці__ з-за платоў пазнае і сцежачку скароціць удвая (*Г. Пашкоў*).
☐ 5) Быстры, серабрысты Нёман у затоцы__ нібы спыніўся ў сваім імклівым бегу... (*І. Гурскі*).
☐ 6) Дождж раптам хлыне__ як з вядра... (*І. Навуменка*).
☐ 7) Як малако разлітае__ бялее шыр палёў (*М. Багун*).
☐ 8) Ласкавае сонца__ што дзень ясны (*Прыказка*).
☐ 9) Гэта быў не хто іншы__ як наша бабуля.
☐ 10) Аднойчы__ як звычайна, на досвітку, Кандрат прачнуўся і выйшаў на двор (*З. Прыгодзіч*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Цяпер ён [Янка Купала]__ як легенда (*В. Вітка*).
☐ 2) Над кветкамі, над церпкім бадыллём трапеча смех дзяўчат__ бы матылёк (*Н. Мацяш*).
☐ 3) Прыдумаць не сумелі б фантазёры такіх блакітных цудаў__ як азёры (*П. Сушко*).
☐ 4) Як сістэма выхавання__ педагогіка пачала складвацца ў старажытных дзяржавах (*Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»*).
☐ 5) Нібы крапелькі яснаты__ ападаюць з бяроз лісты (*М. Шабовіч*).
☐ 6) Алег Раманавіч адчуваў сябе горш__ як на дзяржаўным экзамене... (*А. Асіпенка*).
☐ 7) Галінку алешына крохкая__ нібы руку__ падае (*Н. Маеўская*).
☐ 8) Са старажытнасці людзі імкнуліся жыць__ як мага бліжэй да вады (*П. Сабіна*).
☐ 9) І__ як жывая__ паўстала перад ім карціна (*К. Чорны*).
☐ 10) На самым разыходзе восені і зімы__ нібы раптам прыпыніўся адвечны рух прыроды... (*І. Мележ*).

# УРОК 46 Адасобленыя азначэнні



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Сонца__ ўмытае ў росах__ нізка павісла над садам... (*В. Вітка*).
☐ 2) Нарэшце заўважаю пад хвойкай__ прысыпаныя зямлёй__ каптурыкі зялёнак (*І. Навуменка*).
☐ 3) І я__ захоплены__ стаю, абдожджаны кругом (*П. Броўка*).
☐ 4) Крыху здзіўлены і астуджаны нечаканым выпадам гэтага ціхага чалавека__ старшына не знайшоў што сказаць далей... (*В. Быкаў*).
☐ 5) Восеньскія дзянькі стаяць__ на дзіва ясныя, цёплыя... (*М. Капыловіч*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) ...Бэзавы куст ля ганка стаяў__ ненатуральна голы, закіданы ўнізе цёмна-зялёным бліщчастым лісцем (*М. Стральцоў*).
☐ 2) З выгляду спакойны і заўжды ўпэўнены ў сваіх учынках__ Карпенка на самай справе быў не такі (*В. Быкаў*).
☐ 3) Здзіўлены__ я моўчкі стаяў ля бярозы (*А. Кандрусевіч*).
☐ 4) Маўчалі дрэвы__ задумлівыя, пяшчотна-пушыстыя (*З. Прыгодзіч*).
☐ 5) У дажджавіках, з фотаапаратамі ў футлярах__ мы ціха снавалі па велікапышнай царкве, аглядаючы яе мастацкія вартасці (*Я. Брыль*).



## ТЭОРЫЯ

**Дапасаваныя** азначэнні, выражаныя адзіночнымі прыметнікамі і дзееприметнікамі, а таксама прыметнікавымі і дзееприметнікавымі спалучэннямі (зваротамі), адасабляюцца і выдзяляюцца коскамі, калі:

1) адносяцца да асабовых займеннікаў (незалежна ад месца ў сказе): ***Я*** *спыніўся*, ***асліплены сонцам***, *толькі на ўзлеску перад полем* (Б. Сачанка). ***Зачараваны***, ***я*** *заміраю, не магу паварухнуцца, нават паварушыць губамі* (В. Стома);
2) стаяць пасля паяснёных назоўнікаў і з'яўляюцца развітымі (выражаны прыметнікавымі ці дзееприметнікавымі зваротамі): *Сваіх садоў паслухай* ***пошум***, ***такі чароўны на змярканні*** (Ф. Баторын). *Шумяць* ***струмені*** *ліўня залатога*, ***уплеценыя сонцу ў валасы*** (Т. Бондар);
3) выражаны адзіночнымі прыметнікамі ці дзееприметнікамі, стаяць пасля назоўнікаў і нясуць вялікую сэнсавую нагрузку: *У* ***вёсцы***, ***начной***, ***апусцелай***, *было непрывычна ціха* (М. Лупсякоў);
4) стаяць перад назоўнікамі і маюць дадатковае акалічнаснае значэнне (найчасцей — прычыны ці ўступкі): ***Уражаны гэтымі словамі***, ***хлопец*** *не ведае, што адказаць* (І. Навуменка). ***Маленькая знадворку***, ***будка*** *ў сярэдзіне была досыць памясцоўная* (Я. Колас);
5) аддзелены ад паяснёных назоўнікаў дзеясловамі-выказнікамі ці іншымі членамі сказа: ***Пасівелы***, ***у травы па плечы ўрослы***, *заспаўся* ***валун*** *ля лясное дарогі* (Н. Маеўская);
6) адзіночныя азначэнні (адно або некалькі) стаяць пасля паяснёнага слова, перад якім ёсць яшчэ адно азначэнне: *Па другі бок узгорка стаіць* ***мешаны лес***, ***густы і пануры*** (Я. Колас).

! Калі адасабленне падкрэслена асабліва моцна, дапасаваныя азначэнні могуць аддзяляцца працяжнікамі: *Пазней ад былога княжацкага палаца працягнулася вуліца Замкавая — самая старажытная ў нашым горадзе* (С. Іванова).

! Не адасабляюцца і не выдзяляюцца коскамі дапасаваныя азначэнні, выражаныя адзіночнымі прыметнікамі і дзееприметнікамі, калі стаяць пасля паяснёнага назоўніка, з якім утвараюць адно сэнсавае цэлае: *Травою* ***спелаю***, ***мурожнай*** *уся запахла сенажаць* (А. Астрэйка).

**Недапасаваныя** азначэнні, выражаныя назоўнікамі ва ўскосных склонах і рознымі словазлучэннямі, адасабляюцца і выдзяляюцца знакамі прыпынку:

1) калі адносяцца да асабовых займеннікаў або ўласных ці агульных назоўнікаў: *Светлага воласу, з абветраным тварам і рэдкімі вяснушкамі на пераноссі*, ***ён*** *[Лукашэвіч] здаваўся ціхмяным і не вельмі рухавым* (К. Чорны). *У кароткім кажушку, са стрэльбай за плячыма*, ***дзед Талаш*** *выглядаў як сапраўдны баец* (Я. Колас);
2) калі знаходзяцца ў адным радзе з адасобленымі дапасаванымі азначэннямі: *Бярозы*, ***разгалістыя***, ***з дробным і мяккім лісцем***, *абышлі яго [гасцінец] з лагчыны аж далёка на пагор'е* (І. Пташнікаў);
3) калі ўдакладняюць змест папярэдніх дапасаваных азначэнняў або нясуць значную сэнсавую нагрузку: *Высокая, па пояс, канюшына хвалямі кланялася ветру...* (А. Звонак). *У меншай палавіне дома, ад двара, жыў настаўнік* (К. Чорны);
4) калі недапасаванае азначэнне выражаецца неазначальнай формай дзеяслова (інфінітывам), перад якой можна ўставіць словы *а менавіта*, *а імення*, то перад азначэннем звычайна ставіцца працяжнік: *Прыбавілася клопату ў шпакоў —* ***абмеркаваць маршрут і ў шлях сабрацца*** (Р. Барадулін).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Пад гарой вялікі камень__ сівы ад моху, мокры знізу (*А. Асіпенка*).
☐ 2) У канцы бачыўся__ заліты сонцам__ лужок (А. Асіпенка).
☐ 3) Аблітыя жывым трапяткім сонечным святлом__ ствалы залаціліся... (*У. Глушакоў*).
☐ 4) Маўчала неба__ агромністае, таямнічае (*З. Прыгодзіч*).
☐ 5) Падобныя да сонца__ рамонкі, белая і чырвоная канюшына па-ранейшаму клікалі да сябе басавітых чмялёў, працавітых пчол, бесклапотных матылькоў (*І. Новікаў*).
☐ 6) Яна [Ліля] супакоілася__ заварожаная гэтай глухой цішынёй (*А. Кудравец*).
☐ 7) У камяністай, спрасаванай вякамі__ пародзе на розных глыбінях выяўлены пласты вугалю (*М. Парахневіч*).

☐ 8) Мы стаялі__ ашаломленыя (*Я. Маўр*).

☐ 9) Астап Гаўрылавіч чмыхае носам і__ пакрыўджаны__ злазіць з паравоза (*М. Лынькоў*).

☐ 10) Насыпаны людзьмі__ вал у даўнія часы лічыўся крэпасцю (*І. Навуменка*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) ...Знічкі сыпаліся ў жыта з__ зыркім золатам расшытай__ чорнай бездані нябёс... (*Ф. Баторын*).

☐ 2) Сад__ заліты яркім сонечным святлом__ таксама здаваўся ненатуральным, прывідным (*Я. Сіпакоў*).

☐ 3) Здаецца, ўсю[1] зямлю кляновым лісцем услаў__ на фарбы здатны__ лістапад... (*А. Звонак*).

☐ 4) З пацямнелых нябёс ціха падае снег__ такі чысты і белы (*М. Башлакоў*).

☐ 5) Змануты цішынёй__ над полем з'яўляецца жаўранак (*В. Быкаў*).

☐ 6) Чалавек паказвае пры сустрэчы__ звязаныя вяровачкай__ тоўстыя і тонкія кніжкі... (*Ф. Янкоўскі*).

☐ 7) Вярнулася яна [маці] пад вечар__ вясёлая, жвавая, па-ранейшаму прыгожая і ласкавая (*В. Быкаў*).

☐ 8) Восень наступіла рана__ цёплая, залатая (*У. Рубанаў*).

☐ 9) Фіялкі ў вазачцы стаялі__ пяшчотныя і празрыстыя, наскрозь свяціліся сонейкам (*В. Карамазаў*).

☐ 10) Вясёлыя і сумныя, жартоўныя і працяжныя__ яны [беларускія песні] нашы вечныя спадарожнікі ад бязвоблачных дзён маленства да сівізны (*Р. Шырма*).

# УРОК 47 Адасобленыя прыдаткі і дапаўненні



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Яму [дзядзьку]__ як старэйшаму__ трэба было зараз жа, за якую хвіліну, вырашыць, што рабіць (*Я. Маўр*).

☐ 2) Бацьку і дзеду далі спецыяльныя бляшкі, каб павесілі на грудзі__ замест прапускоў (*М. Лынькоў*).

☐ 3) Праз нейкі час прыйшоў старэйшы сын__ Андрэй Іванавіч, высокі, ладны мужчына (*Я. Маўр*).

☐ 4) Францыск Скарына нарадзіўся ў сям'і полацкага купца__ Лукаша, які вёў гандаль у многіх гарадах... (*У. Калеснік*).

☐ 5) Іван__ апрача лыжак і вядзерца__ ўзяў сякеру (*М.Ваданосаў*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Гэта, вядома, была летняя кватэра__ або наша дача (*Я. Маўр*).

☐ 2) Другая радыстка__ Маруся Ганчарова__ скруцілася клубочкам і, паклаўшы галаву на руказак, заплюшчыла вочы (*І. Новікаў*).

☐ 3) А паверхня вады__ замест свіцязянскага ліпавага цвету__ пацярушана сівым пылком насення сітнякоў (*Я. Брыль*).

☐ 4) Наогул гіпс__ як матэрыял для манументальнай скульптуры__ ў старажытнасць і ў часы Рэнесансу амаль не ўжываўся (*В. Быкаў*).

☐ 5) Тут і жыла цётка__ Надзея__ з сынам-хлопчыкам, пастушком (*М. Гарэцкі*).

---

[1] ГН — *усю*.



ТЭОРЫЯ

Адасабляцца могуць неразвітыя і развітыя прыдаткі, выражаныя назоўнікамі або назоўнікамі з паясняльнымі словамі.

Прыдаткі адасабляюцца пры наступных умовах:

1) незалежна ад месца ў сказе, калі адносяцца да асабовых займеннікаў: *Ён*, ***сялянскі сын***, *добра ведаў цану дажджавой кроплі* (С. Александровіч). *Аднаго разу мы*, ***удзельнікі хору***, *былі на спеўцы ў школе, калі іншых вучняў не было* (Я. Маўр);
2) калі адносяцца да агульных назоўнікаў (развітыя прыдаткі) або да ўласных назоўнікаў (неразвітыя і развітыя прыдаткі) і стаяць пасля іх: *Раскінула ночка асенняя чары над рэчкаю казачнай*, ***ціхаю Шчарай*** (С. Шушкевіч). *З-за павароту вынырнуў Мартын Мартынавіч, зяць* (А. Асіпенка). *Адзначу яшчэ, што ў гэтым раёне жылі Кітка і Грышка*, ***мае два найлепшыя сябры*** (Я. Маўр);
3) калі стаяць перад уласнымі назоўнікамі і маюць дадатковае акалічнаснае значэнне: ***Як верны сын і патрыёт сваёй Радзімы***, *Генадзь Бураўкін неаднаразова звяртаецца да роднага краю, апявае і славіць яго ў сваіх творах* (В. Макарэвіч);
4) калі звязваюцца з паяснёнымі назоўнікамі злучнікамі *ці*, *або*, *як*: *Лакрыца*, *ці* ***лакрычны корань***, *— гэта расліна, саладзейшая за цукар* (З календара «Родны край»);

   ! Прыдаткі са злучнікамі *ці*, *або* маюць удакладняльнае значэнне, са злучнікам *як* — значэнне прычыны.

   ! Калі слова (ці некалькі слоў) са злучнікам *як* мае значэнне ‘ў якасці’, яно не з’яўляецца прыдаткам і не адасабляецца: *У жыцці мы перш за ўсё адчуваем сябе як асобу...* (М. Стральцоў).

5) калі выражаюцца ўласнымі назоўнікамі, якія канкрэтызуюць папярэдні агульны назоўнік ці займеннік: *І муж у яе*, ***Мартын Мартынавіч***, *быў заядлы тэхнар...* (А. Асіпенка), а таксама імёнамі ў спалучэнні са словамі *па прозвішчы*, *па мянушцы* і пад.: *Да вайны ў школе, дзе вучыўся Косця Кветка, маляванне і чарчэнне выкладаў старамодны настаўнік Апалінарый Феактыставіч*, ***па празванню***[1] ***Цыркуль*** (І. Навуменка).

## Адасобленыя дапаўненні

Адасабляюцца дапаўненні, выражаныя назоўнікамі або займеннікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі *акрамя*, *апрача*, *замест*, *за выключэннем*, *звыш*: *Ганна Максімаўна, акрамя працы выкладчыцы, прымала ўдзел амаль ва ўсіх камісіях школы* (І. Гурскі). *У хаце, апрача бабкі Насты, нікога не было* (Я. Колас). *У горадзе яго асабліва не ведалі, за выключэннем хіба чыгуначнага вузла* (М. Лынькоў). *Дзед сядае на калоду і, замест барышу, дае сальца малышу* (Я. Колас).

! Калі прыназоўнік *замест* ужываецца ў значэнні прыназоўніка *за*, тады дапаўненні з гэтым прыназоўнікам не адасабляюцца: *А* ***замест лыжак*** *скарысталі тыя гліняныя чарапкі, што калісьці ляпілі* (Я. Маўр).



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

- [ ] 1) Ён быў такім магутным__ лівень, што мог, здавалася, скасіць дуб... (*К. Кірэенка*).
- [ ] 2) Праўдзівасць__ як маральная якасць асобы__ патрабуе ад яе ў любых абставінах гаварыць ісціну (*Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»*).
- [ ] 3) Замест яго [бацькі]__ на рамонтныя работы хадзіла маці... (*М. Лынькоў*).
- [ ] 4) Чалавек няўрымслівага характару, паэт і рамантык__ Віталь Цвірка заўсёды ў творчым пошуку (*П. Карнач*).
- [ ] 5) Апроч Ганусі__ больш тут людзей ужо не было (*К. Чорны*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

- [ ] 1) Тады__ замест яе [бульбы]__ былі параная рэпа, бручка ці нешта такое іншае (*У. Караткевіч*).
- [ ] 2) Сакавік__ вясны маладзік__ праразаецца пакрысе (*А. Грачанікаў*).
- [ ] 3) Апошнія пятнаццаць гадоў Юліуш__ гэты з выгляду яшчэ бравы сівы стары__ з такімі ж сівымі вусамі на рэзка акрэсленым твары, адышоў ад палітычнага і свецкага жыцця (*Г. Марчук*).
- [ ] 4) Гэта — ляцяга[2]__ або лятучая вавёрка, — сказаў ён [Віктар] нарэшце (*Я. Маўр*).
- [ ] 5) На ўзлесках і ўскрайках палян красуецца прыгажун нашых лясоў__ паўтараметровы іван-чай[3] (*В. Стома*).

---

[1] ГН — *па празванні*.
[2] ЛН — *палятуха*.
[3] ЛН — *скрыпень*.

# УРОК 48 Адасобленыя акалічнасці



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Цётка Марына хапае вёдры і__ таўхануўшы нагой дзверы, выходзіць у сенцы (*А. Кудравец*).

☐ 2) У шэрай начной цемені__ мільгаючы__ сыпаў рэдкі дробненькі сняжок (*В. Быкаў*).

☐ 3) Ужо ноччу падняўся моцны вецер, гонячы па полі сухое лісце__ і атрасаючы ў садах грушы і яблыкі (*І. Пташнікаў*).

☐ 4) Вецер спіць__ не прымяўшы калосся__ ў жыце (*Ф. Баторын*).

☐ 5) Дадому мы ішлі ўсе разам, яшчэ і яшчэ раз__ прыгадваючы кожную драбніцу, кожную дэталь вечара (*З. Прыгодзіч*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Яна [гаспадыня] заўсёды хадзіла__ насупіўшыся... (*В. Стома*).

☐ 2) Ноч зусім пачарнела__ ўтапіўшы ў восеньскай глухамані ўсё наваколле (*В. Быкаў*).

☐ 3) Развеяць гэту пакутлівую невядомасць можна, канечне, толькі__ паехаўшы туды самому (*З. Прыгодзіч*).

☐ 4) Камень на сваім шляху сустрэўшы__ збочыў і ў лугі пабег ручай (*Ф. Баторын*).

☐ 5) Украдкаю прабіраецца месяц у акно і__ загледзеўшыся__ прынікае халодным дапытлівым зрокам да думак тваіх, да слоў сукрытых (*М. Лынькоў*).



ТЭОРЫЯ

Адасобленыя акалічнасці ў залежнасці ад спосабу выражэння і сінтаксічнай функцыі падзяляюцца на дзве групы: 1) акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі; 2) акалічнасці, выражаныя прыслоўямі і назоўнікамі з прыназоўнікамі.

### Акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі

**Заўсёды адасабляюцца:**

1) акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі (у пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа): ***Прыціснуўшыся хвастом да гладкага ствала сасны***, *дзяцел дзюбае дрэва* (І. Навуменка). *А над дарогай*, ***жоўты пыл узняўшы ўгору***, *вецер стогне* (Г. Пашкоў). *Шумеў лес*, ***спяваючы сваю бясконцую песню*** (І. Гурскі);
2) акалічнасці, выражаныя адзіночным дзеепрыслоўем (ці некалькімі ў ролі аднародных) са значэннем дадатковага дзеяння ці стану: *Вухне ў садзе*, ***падаючы***, *яблык* (Н. Маеўская). *Далей сасновы ўзлесак паварочваў на поўдзень і*, ***закругляючыся***, *адступаў кудысь на паўднёвы ўсход* (В. Быкаў).

**Запомніце! Не адасабляюцца** акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, калі:
1) выражаны адзіночнымі дзеепрыслоўямі, прымыкаюць да выказніка і па сваёй ролі набліжаюцца да прыслоўя (звычайна знаходзяцца ў канцы сказа): *Шкодна чытаць* ***лежачы***. *Ён ішоў* ***не спяшаючыся***;
2) узніклі на базе ўстойлівых выразаў (фразеалагізмаў): *Сядзець* ***склаўшы рукі*** *і чакаць, пакуль прырода зробіць нам ласку і палепшыць усё сама, не даводзіцца* (Б. Сачанка);
3) стаяць пасля акалічнасці, выражанай прыслоўем, і звязваюцца з ёю злучнікам *і*: *Крушынскі гаварыў ціха і* ***не пазіраючы на госця*** (З. Бядуля).

### Акалічнасці, выражаныя прыслоўямі і назоўнікамі з прыназоўнікамі

Акалічнасці гэтай групы **адасабляюцца**:

1) калі канкрэтызуюць, удакладняюць змест папярэдняй (неадасобленай) акалічнасці: *Трохі вышэй*, ***у кроне той жа сасны***, *з галінкі на галінку пералятае шэранькі непрыкметны матылёк* (В. Стома). *...Ціха*, ***без шораху***, *ападалі лісты з бяроз* (М. Лынькоў). Такія акалічнасці называюцца ўдакладняльнымі;

2) калі з'яўляюцца акалічнасцю ўступкі, выражанай назоўнікам з прыназоўнікам *нягледзячы на* або далучаюцца злучнікам *як ні*: ***Нягледзячы на позні час***, *ніхто з пасажыраў не спаў* (І. Шамякін);
3) з пэўнай сэнсавай мэтай, калі выражаны назоўнікамі з прыназоўнікамі *дзякуючы*, *насуперак*, *паводле*, *з прычыны*, *у выніку*, *згодна з*, *у адпаведнасці з* і інш. і стаяць у пачатку сказа: ***Дзякуючы большай зарплаце***, *ён меў магчымасць набыць іншы раз што-небудзь для сям'і* (П. Пестрак).

! Прыназоўнікі *нягледзячы на* і *дзякуючы* неабходна адрозніваць ад дзеепрыслоўяў (*ішоў, не гледзячы пад ногі*; *схіліў галаву, дзякуючы за прытулак*), якія ўваходзяць у склад адасобленых акалічнасцей.

## Адасабленне далучальных членаў сказа

**Далучальнымі** называюцца члены сказа, якія выражаюць дадатковыя паведамленні, тлумачэнні, заўвагі (таму могуць звязвацца з любым членам сказа). Далучэнне адбываецца пры дапамозе злучнікаў *і*, *ды*, *але*, *і то*, *ды і то*, *прычым* і інш., а таксама слоў *нават*, *асабліва*, *пераважна*, *у прыватнасці*, *у першую чаргу*, *у тым ліку*, *у адпаведнасці*, *галоўным чынам*, *напрыклад* і інш.: *Размаўляючы*, *жартуючы*, *настаўнікі*, ***у тым ліку і дырэктар***, *мімаволі пазіралі на Данілу Платонавіча*... (І. Шамякін).
На пісьме далучальныя канструкцыі выдзяляюцца коскамі, радзей — працяжнікамі: *У лесе горача*, ***нават парна*** (І. Навуменка). *Эстэтыка — навука пра заканамернасці і прыроду асваення рэчаіснасці па законах прыгажосці ў працэсе дзейнасці чалавека*, ***найперш у мастацтве*** (Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»).


ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Сонца ўжо адскочыла ад лесу і цяпер вісела ў шэрым небе__ абяцаючы добры дзень (*А. Кудравец*).
☐ 2) Не толькі здалёку, а нават__ і пад'ехаўшы зусім блізка, Паўлюк не мог разабраць, хто гэта там наявіўся да яго ў госці (*Я. Сіпакоў*).
☐ 3) Грышка спалохаўся, што здарыцца страшнае, і__ кінуўшыся да старога, засланіў яго (*В. Быкаў*).
☐ 4) Ішоў каля новай Міколавай хаты і__ як ні страшна__ зайшоў (*Я. Брыль*).
☐ 5) Нехта гаварыў у жыце__ не змаўкаючы (*І. Пташнікаў*).
☐ 6) Прасіць у Мікіты больш пасагу можна было хіба__ толькі пазычыўшы вачэй у сабакі (*Я. Брыль*).
☐ 7) І ў гэты час ад алешніку роўна__ не хаваючыся__ ляцяць дзве птушкі (*А. Жук*).
☐ 8) Ракеты над сасоннікам гарэлі__ не перастаючы... (*В. Быкаў*).
☐ 9) Свет звузіўся да памераў роднага падворка, дзе мяне__ нягледзячы ні на што__ чакаюць бацькі (*У. Глушакоў*).
☐ 10) Лейтэнант пазнаў чалавека на кані, а__ ўбачыўшы яго расчырванелы твар, зразумеў, што проста так гнаць каня той не будзе (*К. Чорны*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Іваноўскі ж усё не мог адарваць позірку ад хвойнага ўзлеску, быццам__ спадзеючыся там што ўбачыць (*В. Быкаў*).
☐ 2) Апошнія метры да лесу яны [салдаты] не паўзлі, а__ прыгнуўшыся__ знямогла беглі... (*В. Быкаў*).
☐ 3) Нягледзячы на сцюжу__ вельмі хацелася спаць (*В. Быкаў*).
☐ 4) Максім падняўся і прайшоўся па пакоі, знарок з сілай__ наступаючы на масніцыну, якая скрыпела (*І. Шамякін*).
☐ 5) — Ты нават ясі__ стоячы (*І. Шамякін*).
☐ 6) На прагулку выйшаў сом, ён раз-пораз усплёскваў ваду__ парушаючы вячэрнюю цішыню (*І. Гурскі*).
☐ 7) Пыхкаючы__ цягнік спыняецца (*І. Навуменка*).
☐ 8) Дома Іван, як і Зімчук, не сядзеў__ склаўшы рукі (*І. Навуменка*).
☐ 9) Грукоча гром калодзежным вядром, дажджынак пражу__ працягнуўшы з неба (*П. Макаль*).
☐ 10) Сяржант тым часам асцярожна падняў клямку і__ рэзка піхнуўшы дзверы прыбудоўкі, ускочыў усярэдзіну (*А. Кудравец*).

# УРОК 49 Знакі прыпынку пры зваротку



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць дзве коскі:

☐ 1) ...Люблю цябе мой светлы родны горад ціхмяна-задуменная сталіца (*В. Жуковіч*).

☐ 2) Радзіма мая дарагая ты ў шчасці жаданым жыві (*А. Бачыла*).

☐ 3) Што ж ты так самоцішся мілая ты птаха? (*М. Башлакоў*).

☐ 4) Я забыццю вас продкі не аддам (*У. Дзюба*).

☐ 5) Ой лясочак ой лясок ты імчышся не ў той бок (*Н. Галіноўская*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць тры коскі:

☐ 1) Табе шчодры сялянскі стол хочацца сказаць ласкавае слова (*Я. Сіпакоў*).

☐ 2) Ой ты зямля мая зямля як маці родная мая... (*А. Дзеружынскі*).

☐ 3) Гуляйце вейце снежныя вятры ад ранняй да вячэрняе зары (*М. Танк*).

☐ 4) Незабудкі мае незабудкі мой блакітны і радасны май! Добра вам між бярозак бялюткіх — шэпча казкі бярозавы гай (*Н. Галіноўская*).

☐ 5) Што ты месяц над стрэхамі ходзіш серабром напаўняеш калодзеж?.. (*Ф. Баторын*).



ТЭОРЫЯ

**Звароткам** называецца слова (ці спалучэнне слоў), якое служыць для абазначэння асобы або персаніфікаванага прадмета, да якога звяртаецца той, хто гаворыць: *Пакружыся, **бусел**, нізка над вярбой* (Н. Галіноўская).

Зваротак можа быць выражаны:

1) назоўнікам у назоўным склоне: *Што ты плачаш, **кнігаўка**?* (М. Башлакоў);
2) субстантываванымі часцінамі мовы (найчасцей прыметнікамі і дзеепрыметнікамі): ***Любая**, ты засланіла свет...* (Г. Бураўкін);
3) клічнай формай назоўніка (старажытны клічны склон): *Гуслям, **княжа**, не пішуць законаў* (Я. Купала);
4) асабовымі займеннікамі: *Эй, **ты**, чаму не едзеш?* (К. Чорны).

Зваророткі бываюць неразвітыя і развітыя. Неразвітыя звароткі складаюцца з аднаго слова: *Трэба, **Ваня**, пагаварыць сур'ёзна* (І. Шамякін). Развітыя звароткі выражаюцца спалучэннямі слоў: *Багата, **родная ты мова**, цябе стварыў і ўзнёс народ* (П. Броўка). Неразвітыя і развітыя звароткі могуць быць аднароднымі: ***Мова**, **пявучая родная мова**, ты — уладарка нявызнаных скарбаў* (А. Зарыцкі).

Сам зваротак членам сказа не з'яўляецца, аднак ён знаходзіцца ў сэнсавай і сінтаксічнай сувязі з усім сказам або з асобнымі членамі сказа. Гэтая сувязь выражаецца пры дапамозе інтанацыі (зваротак выдзяляецца павышэннем ці паніжэннем тону голасу, а таксама паўзамі), формы дзеяслова-выказніка: ***Сцяжыначка-сцяжынка**, куды нас прывяла?* (Н. Галіноўская); на сувязь зваротка з членамі сказа можа паказваць і асабовы займеннік: *Ноч і вечар, дзень, світанне абняло **ты**, **слова-краска*** (Я. Колас).

Зваротак можа знаходзіцца ў пачатку, у сярэдзіне або ў канцы сказа і заўсёды аддзяляецца ад іншых членаў сказа коскамі, а калі стаіць у пачатку сказа і вымаўляецца з клічнай інтанацыяй, то пасля яго ставіцца клічнік: ***Таварыш сяржант**! А ну вярніцеся!* (В. Быкаў).

Неабходна ведаць некалькі **дадатковых правіл**:

1) калі перад зваротказм ужыты выклічнік, ён аддзяляецца ад зваротка коскай: ***Ах**, **Беларусь**, мая ты доля, мая сляза і пацалунак, маё рунеючае поле, мой песнямі набіты клунак!* (Е. Лось);
2) калі перад зваротказм стаіць выклічнік (або член сказа) і займеннік ***ты*** або ***вы***, то коскамі выдзяляецца толькі зваротак: *Ой ты, **вецер неспакойны**, дзьмеш ты безустанку* (Я. Колас). *Не пакінь ты, **надзея**, мяне, на адну не пакінь ты хвіліну...* (Ц. Гартны);
3) калі аднародныя або развітыя звароткі разрываюцца членамі сказа або выклічнікамі, то кожная частка зваротка выдзяляецца коскамі: *Спі, **сыночку**, спі, **каточку**, спі* (П. Глебка). *Ой, **лясочак**, ой, **лясок**, ты імчышся не ў той бок* (Н. Галіноўская);
4) часціца ***о*** ад зваротка коскай не аддзяляецца. ***Параўнайце:** «**Міхал**! **Міхале**! О, **Міхале**!» — пачуўся голас як бы здаля...* (Я. Колас). ***О Радзіма**, табою напоўнена сэрца да краю* (П. Панчанка). У першым сказе ***о*** — выклічнік, у другім — часціца.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць дзве коскі:

☐ 1) Дзе ты часіна светлая надзей? (*Я. Крупенька*).
☐ 2) Сад у квецені садзе мой родны мне так цяжка з табой разлучацца! (*В. Жуковіч*).
☐ 3) Гэй ты церам-церамок адчыні свае нам дзверы адамкні хутчэй замок! (*Н. Галіноўская*).
☐ 4) Плыві ў прастор сяброўская гаворка плыві ўспамінаў светлая рака! (*А. Звонак*).
☐ 5) Верасок верасок не хавай мой грыбок! (*Н. Галіноўская*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх трэба паставіць тры коскі:

☐ 1) Добры дзень лужок квяцісты гаманлівы галасісты (*Н. Галіноўская*).
☐ 2) О мова родная на белым свеце адна такая ты адна такая... (*М. Башлакоў*).
☐ 3) Ты не бойся нас зязюля не хавайся ў сасняку (*Н. Галіноўская*).
☐ 4) Добры дзень вам палачане добры дзень Дзвіна! (*А. Александровіч*).
☐ 5) Эх ты поле бязмежнае поле! Люба мне беларуская шыр! (*Т. Кляшторны*).

# УРОК 50 Сказы з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі



ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Тут__ і сапраўды__ было холадна (*К. Чорны*).
☐ 2) Я не ўяўляю__ напрыклад__ Мінска без Нямігі (*Я. Скрыган*).
☐ 3) Адсюль__ відаць__ шырокі разліў ракі, бязмежныя лугі і палі на тым беразе (*М. Лынькоў*).
☐ 4) Каля дарогі на Макаў__ па гэтай дарозе Васіль ходзіць у лес__ калгас пасеяў канюшыну (*І. Навуменка*).
☐ 5) Словам__ я скарыстаў момант і ўкінуў у кузаў сотню-другую лістоў шыферу (*З. Прыгодзіч*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:

☐ 1) На гэтай зарослай лазою гары, над ціхаю рэчкай, над звонкай крыніцай__ гаворыць паданне__ быў кляштар стары з высокай стральчатай цаглянай званіцай (*Ф. Баторын*).
☐ 2) У адну з тых начэй__ яшчэ не было занадта позна, толькі скончыўся вечар__ двое людзей блукалі па глухіх закутках гэтага месца (*К. Чорны*).
☐ 3) У гэтым__ якраз__ месцы і закончыўся бой... (*К. Чорны*).
☐ 4) Нязвыклым і казачным нейкім__ здавалася__ ўсё на зямлі (*Н. Галіноўская*).
☐ 5) Так ішоў час, ужо__ мабыць__ настаў поўдзень (*В. Быкаў*).



ТЭОРЫЯ

**Пабочнымі** называюцца словы, словазлучэнні і сказы, якія ўключаюцца ў сказ з мэтай паказаць адносіны таго, хто гаворыць, да выказанай думкі; яны не з'яўляюцца членамі сказа і граматычна не звязаны з членамі сказа (да іх нельга паставіць пытанне): *Велічэзная бяроза ўзнімалася і над дарогай, і, **здавалася**, над усім лесам* (К. Чорны). Тут пабочны сказ *здавалася* выражае няўпэўненасць.

Паводле значэння пабочныя словы, словазлучэнні і сказы можна падзяліць на групы:

| | |
|---|---|
| 1. Выражаюць перакананасць, упэўненасць або няўпэўненасць асобы ў рэальнасці таго, пра што паведамляецца | *безумоўна, бясспрэчна, ведаю (добра ведаю, я гэта ведаю), вядома, вядомая справа, зразумела, натуральна, не сакрэт, разумеецца, сапраўды, упэўнены, быццам, відавочна, відаць па ўсім, здаецца, як мне здалося, мабыць, магчыма, можа б, можна падумаць, мусіць, мяркую, напэўна, нібыта, хутчэй за ўсё, хто яго ведае, цяжка сказаць* |
| 2. Указваюць на ступень звычайнасці ці незвычайнасці таго, пра што паведамляецца | *звычайна, як звычайна, па звычцы, як вядзецца, бывае, як заўсёды, як бывала, здаралася, здарылася так* |
| 3. Указваюць на крыніцу аўтарства выказвання | *бачым, як стала вядома, на маю думку, гавораць, як гаворыцца, думаецца мне, думалі людзі, на мой погляд, па-мойму, па словах, як мне думалася, кажуць, як кажуць у народзе, як той казаў, маўляў, як пісалі ў газеце, памятаю* |
| 4. Выражаюць стаўленне асобы да спосабу перадачы думкі (да формы і стылю выказвання, да падбору слоў, да будовы сказаў, да тону выказвання) | *іншымі словамі, калі можна так сказаць, карацей кажучы, дакладней, інакш кажучы, мякка кажучы, не пры вас кажучы, уласна кажучы, скажу вам адкрыта (шчыра), калі можна так сказаць, правільней, трэба прызнацца, ва ўсякім выпадку, па сутнасці, другімі словамі* |
| 5. Выражаюць эмацыянальную ацэнку таго, пра што паведамляецца | *на шчасце, на жаль, як на бяду, як на дзіва, на маё здзіўленне, як на грэх, як наўмысна, як ні дзіўна, дзіўная рэч, трэба ж такому здарыцца* |
| 6. Дапамагаюць устанавіць лагічныя адносіны паміж часткамі выказвання | *па-першае, па-другое, такім чынам, дарэчы, між іншым, з аднаго боку, з другога боку, у першую чаргу, адным словам, значыць, выходзіць, увогуле, у прыватнасці, аднак, наадварот, тым не менш, як адзначалася (вышэй), як было сказана, у дадатак да ўсяго, дарэчы сказаць, напрыклад, разам з тым* |
| 7. Дапамагаюць звярнуцца да субяседніка ці чытача з мэтай актывізаваць яго ўвагу або выклікаць пэўнае стаўленне да таго, пра што паведамляецца | *звярніце ўвагу, як бачыце, паверце, прыміце пад увагу, самі ведаеце, ці паверыце, вы толькі падумайце, уявіце сабе, калі хочаце верыць* |
| 8. Дапамагаюць ацаніць меру ці ступень якой-небудзь якасці, значнасць пэўнага факта | *галоўнае, самае галоўнае, па меншай меры, галоўным чынам, што самае важнае* |

На пісьме пабочныя словы, словазлучэнні і сказы заўсёды выдзяляюцца коскамі: *Шаша, **вядома**, не ідзе ні ў якое параўнанне з былым старым трактам* (І. Грамовіч). *Вёска Залессе была, **як і сцвярджала яе назва**, за лесам, кіламетраў за шэсць ад цэнтра калгаса* (А. Савіцкі). ***Можа**, воўк бег, **можа**, хітрая лісіца* (І. Навуменка).

Пабочныя пытальныя і клічныя сказы выдзяляюцца толькі працяжнікамі: *Пад восень — **ці чулі?** — сам прыехаў Пуцята* (А. Бялевіч). *Рыба — **хоць ты плач!** — на кручок не бралася* (З календара «Родны край»).

! Злучнікі ***а***, ***і*** не заўсёды аддзяляюцца ад наступнага пабочнага слова ці словазлучэння. Праверыць, наколькі цесная сувязь паміж злучнікам і пабочным словам, можна, апусціўшы апошняе ці пераставіўшы яго ў іншае месца. Калі сэнс не парушыцца, значыць, злучнік не звязаны з пабочным словам і аддзяляецца ад яго: *Яны* [*бярозы*] *былі тоўстыя **і**, **відаць**, дужа старыя...* (В. Быкаў); калі ж сэнс парушаецца, коска пасля злучніка не ставіцца: *Але бяседы, спектаклі і песні, **а галоўнае**, новыя ўмовы жыцця ўзялі верх над старым календаром* (З. Бядуля). У гэтым сказе слова *галоўнае* нельга ні пераставіць, ні апусціць.

! Некаторыя словы (словазлучэнні) могуць выступаць як у ролі членаў сказа, так і ў ролі пабочных утварэнняў. Гэта словы *відаць*, *сапраўды*, *бадай*, *напэўна*, *нарэшце* і інш. Трэба памятаць, што без пабочнага слова структура сказа захоўваецца (*Ён, **відаць**, не прыйдзе. // Ён не прыйдзе.*), а без члена сказа — разбураецца (*Праз расчыненыя дзверы **відаць** у другім пакоі просценькі ложак, засланы байкавай коўдрай* (С. Александровіч)).

**Запомніце! Дадатковыя правілы:**
— калі пабочнае слова стаіць перад адасобленым зваротам, пабочным сказам або ўдакладняльнай канструкцыяй, то яно ўваходзіць у іх склад і коскай не аддзяляецца. ***Параўнайце:***

| | |
|---|---|
| *Некалькі грузавікоў замітусіліся на ўзбярэжжы, **відаць** спадзеючыся праскочыць якім-небудзь бродам* (М. Лынькоў). | *Некалькі грузавікоў замітусіліся на ўзбярэжжы, спадзеючыся, **відаць**, праскочыць якім-небудзь бродам.* |

— не выдзяляюцца коскамі:

| | |
|---|---|
| часціца ***нават***, словы ***няйначай***, ***пэўна***, ***напэўна***, ***сапраўды***, ***часам***, ***бывае***, ***бывала***, ***бадай***, ***бадай што***, ***мо*** (ад ***можа***) і пад., калі ўжываюцца ў ролі мадальнай часціцы або са значэннем прыслоўя і выражаюць сцвярджэнне, узмацненне | *Я **нават** і цяпер не магу растлумачыць тое захапленне кветкамі* (Л. Гаўрылкін). *Цяпер зіма **напэўна** ляжа* (Я. Колас). *Ды толькі адну **мо** хвілінку знаёмства цягнулася іх, і сонца забрала расінку з прастораў і траў лугавых* (М. Танк). |
| словы ***відаць***, ***здаецца***, ***здавалася*** і пад., калі з'яўляюцца выказнікамі | ***Відаць** зялёненькія стужкі лёну з сіненькімі галоўкамі* (Я. Колас). *Зямля **здаецца** лёгкай, бязважкай, яна ўся дыхае цішай, спакоем* (М. Лынькоў). |
| слова ***аднак***, спалучэнні слоў ***між тым***, ***тым не менш***, ***да таго ж***, калі яны ўжыты ў пачатку сказа або другой часткі складанага сказа (у ролі злучнікаў) | ***Аднак** да вечара работа была завершана* (А. Кандрусевіч). ***Тым не менш** падыходзіць бліжэй да замка жаданне ўжо не было ні ў кога* (В. Стома). |
| **!** коска не ставіцца паміж пабочнымі словамі і часціцамі, якія да іх адносяцца і стаяць пасля іх | *Нічога асаблівага, **здавалася б**, не адбылося* (З. Прыгодзіч). |

**Устаўнымі канструкцыямі** называюцца словы, словазлучэнні і сказы, якія ўключаюцца ў структуру сказа з мэтай падаць дадатковыя звесткі, удакладненні, тлумачэнні, заўвагі, але пры гэтым вызначаюцца сэнсавай адасобленасцю ад зместу асноўнага сказа: *Самуіл Яўхімавіч Плаўнік (**Змітрок Бядуля**, **Ясакар**) нарадзіўся ў 1886 годзе ў мястэчку Пасадзец Плешчаніцкага раёна Мінскай вобласці* (М. Лынькоў). Устаўныя канструкцыі ўносяць у сказ дадатковыя тлумачэнні, але не выражаюць адносін таго, хто гаворыць, да выказанай думкі: *Толькі цяпер вылез з будкі і вінавата — **праспаў госця** — завіляў хвастом стары чорны сабака з белай мордай і белымі лапамі* (А. Кудравец). Такія канструкцыі выдзяляюцца дужкамі або працяжнікамі, але могуць выдзяляцца і коскамі (калі выконваюць удакладняльную функцыю): *Людзі, **а іх было багата**, проста за жываты хапаліся ад смеху* (М. Лынькоў). У сказах можа назірацца спалучэнне знакаў прыпынку: *У тую самую ноч, калі зацвітае папараць, — **я толькі пераказваю тое**, **што ўжо зложана ў казках тутэйшымі людзьмі**, — пазбіраліся на сходку русалкі, лясун, ваўкалакі, вадзянік, дамавік, здані і чараўнікі розных гатункаў* (Я. Колас).

**!** Устаўныя сказы могуць быць апавядальнымі, пытальнымі і пабуджальнымі, няклічнымі і клічнымі, простымі і складанымі, развітымі і неразвітымі, ускладненымі і няўскладненымі.



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) І__ мусіць__ не аднаму мне было ніякавата (*З. Прыгодзіч*).

☐ 2) Ён [Іван] угледзеўся, зусім__ пэўна__ адчуваючы ў гушчары месца, дзе з'явіцца чалавек (*В. Быкаў*).

☐ 3) Можа__ гэта было не са мною, можа__ выдумаў, можа__ прысніў? (*М. Шабовіч*).

☐ 4) А яблыкі__ я ем адно__ такія свежыя, вялікія, чырванабокія, салодкія (*Я. Брыль*).

☐ 5) Наогул__ пра яго Скварыш ведаў няшмат... (*В. Быкаў*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Нідзе і ні ў чым не знойдзеш__ бадай__ большага адзінства і большай злітнасці, як у прыродзе і чалавеку (*З. Прыгодзіч*).

☐ 2) Нарэшце__ ён адчуў на сваіх плячах вялікую, як у дзядзькі Мацвея, татаву руку (*М. Лобан*).

☐ 3) [Сабака] не кінуўся ўцякаць, а__ наадварот__ зноў сеў перад старою... (*Я. Сіпакоў*).

☐ 4) Тая размова адбылася__ якраз__ па дарозе да астаноўкі тралейбуса (*В. Быкаў*).

☐ 5) За час язды ад Пінска__ гэта крыху болей за тры гадзіны__ бацька бойка і ўпэўнена паказваў шафёру дарогу... (*У. Глушакоў*).

# УРОК 51 Тыпы складаных сказаў



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Паўсюды беларус пакінуў след: у Польшчы, Летуве[1], Маскве, Сібіры, у Чылі, Арызоне і Заіры, нат з космасу зірнуў на белы свет (*Ф. Баторын*).<br>**Б.** Ад былога балота павявала цеплаватай вільгаццю, і здавалася, што там стаіць вада (*А. Жук*).<br>**В.** Слоў мяшок, а спраў — на вяршок (*Прыказка*).<br>**Г.** Птушыныя галасы, бурштынавая раса на верасе і на галінках маладых сасонак, у лодачках чаромхавых лісточкаў, што пачала трапляцца бліжэй да рачулкі, — усё гэта ўзбадзёрвала (*У. Саламаха*). | **1.** Складаназлучаны.<br>**2.** Складаназалежны.<br>**3.** Складаны бяззлучнікавы.<br>**4.** Складаны з рознымі відамі сувязі.<br>**5.** Просты ўскладнены. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**Тэст № 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Спачуванне — гэта ўласцівасць душы, элементарны маральны прынцып чалавечага жыцця: ты спачуваеш некаму, а нехта клапоціцца пра цябе (*З энцыклапедычнага даведніка «Чалавек і грамадства»*).<br>**Б.** Мастацтву падуладны ўсе бакі чалавечага існавання, і ў тым яго сіла (*В. Быкаў*).<br>**В.** Калі і адчуў прыгажосць зямлі Васіль, то іменна тут, на неабсяжных прасторах ружова-сініх верасоў (*І. Навуменка*).<br>**Г.** Мяжа ж, як мне расказалі потым, не была перашкодаю не толькі для саду (*Я. Сіпакоў*). | **1.** Складаназлучаны.<br>**2.** Складаназалежны.<br>**3.** Складаны бяззлучнікавы.<br>**4.** Складаны з рознымі відамі сувязі.<br>**5.** Просты ўскладнены. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐



## ТЭОРЫЯ

Тып складанага сказа вызначаецца ў залежнасці ад сэнсавых адносін паміж часткамі і адпаведных ім сродкаў сувязі:

| Тыпы сказаў | Агульная характарыстыка | Прыклады |
|---|---|---|
| 1. Складаназлучаныя | Часткі сказа раўнапраўныя, звязваюцца злучальнай сувяззю (злучальнымі злучнікамі: спалучальнымі, супраціўнымі, размеркавальнымі) | [1]*Ззяюць сонейка праменні*[2] *ў срэбных кропельках расы, і* [2]*гамоняць між сабою залатыя каласы* (А. Дзеружынскі).<br>Схема: [1 ], ***і*** [2 ]. |
| 2. Складаназалежныя | Часткі сказа нераўнапраўныя: галоўная (ад якой ставіцца пытанне) і даданая (залежная ад галоўнай) | [1]*Стаяла тая пара,* [2]*калі ў зялёны летні колер восень паволі пачынае ўплятаць свае жоўтыя ніткі* (А. Кудравец).<br>*якая?*<br>Схема: [1 ], (2***калі***...). |
| 3. Бяззлучнікавыя | Часткі звязваюцца інтанацыйна, па сэнсе | [1]*У садах засвісталі шпакі,* [2]*чутны жаўранка срэбныя звоны* (А. Астрэйка).<br>Схема: [1 ], [2 ]. |

[1] ГН — *Літве.*
[2] ГН — *промні.*

| Тыпы сказаў | Агульная характарыстыка | Прыклады |
|---|---|---|
| 4. Сказы з рознымі відамі сувязі (у даведачнай літаратуры сустракаюцца іншыя назвы такіх сказаў: складаныя сказы камбінаванай будовы; складаныя сінтаксічныя канструкцыі) | Часткі аб'ядноўваюцца пры дапамозе розных відаў сувязі:<br>а) злучнікавай і бяззлучнікавай;<br>б) злучальнай і падпарадкавальнай | а) [1]*Але вось зусім нечакана дождж перастаў ісці*, [2]*выбліснула сонейка, і* [3]*ўсё навокал ажыло і павесялела* (Р. Ігнаценка).<br>Схема: [1 ], [2 ], ***і*** [3 ].<br>б) [1]*Кожнае дрэва мае свой нораў, і* [2]*трэба ведаць*, [3]*каля якога дрэва той ці іншы грыб шукаць* (І. Навуменка).<br>*што?*<br>Схема: [1 ], ***і*** [2 ], ([3]***каля***...). |



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце складаназлучаныя сказы:

☐ 1) Белы конь і белая завея (*П. Місько*).

☐ 2) Ужо вясна, здаецца, на парозе, ды зноў зіма вяртаецца назад (*М. Шабовіч*).

☐ 3) Трава пасівела ад інею, і на ёй, калі прайсці, заставаліся выразныя сляды (*З. Прыгодзіч*).

☐ 4) Ужо надвячорак, і трэба да цемені дабрацца дамоў (*І. Навуменка*).

☐ 5) Я прыпадаю вухам да цемені Замкавай гары, цёплага ў любую пару года (нават у лютыя маразы зямля тут не прамярзае і на вяршок, і снег не трымаецца ў тым месцы, дзе некалі стаяла прыгажуня царква), і нібыта скрозь сон чую заклікальны барабанны дробат, конскае ржанне, калёсны скрып, ружэйныя залпы... (*У. Глушакоў*).

**Варыянт 2.** Адзначце складаназалежныя сказы:

☐ 1) Чуваць, як шорстка сыплецца з кустоў лістоў саспелых восеньская ціша (*Г. Пашкоў*).

☐ 2) Уздоўж дарогі чынна з краю слупы стаяць у два рады, і, нібы гуслі-самаграі, звіняць іх струны-правады (*Я. Колас*).

☐ 3) Чыталі хто з месца, хто, — мабыць, каб зрабіць большае ўражанне, — выходзячы да кафедры (*З. Прыгодзіч*).

☐ 4) Панавала такая ціша, што, здавалася, чуваць, як лёгка спіць і дыхае возера (*У. Дамашэвіч*).

☐ 5) Як вядома, героі казак вельмі часта з'яўляюцца на свет у выніку тых ці іншых незвычайных праяў або маюць на сабе які-небудзь незвычайны знак (*Я. Колас*).

**Варыянт 3.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх характарыстыкай. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Яны [птушкі] то, гойдаючыся, пырхаюць з дрэва на дрэва, то вылятаюць у поле, дзе, падняўшыся ў неба, сваім танюткім і нескончаным звонам заліваюцца жаўранкі (*Я. Скрыган*).<br>**Б.** Можа, у думках ён [Астаповіч] і не заходзіў так далёка, аднак жа, можна гэта сказаць з упэўненасцю, сапраўды-такі аддаваўся вялікаму шчасцю ўзводзіць на пустым месцы новыя сцены (*К. Чорны*).<br>**В.** І тут жа заблішчэлі маланкі, загрымела навокал і захадзіла пад нагамі падлога (*Я. Сіпакоў*).<br>**Г.** То сеецца дождж, па лісці сячэ, то сонца асвеціць сцюдзёныя росы (*М. Башлакоў*). | **1.** Складаназлучаны.<br>**2.** Складаназалежны.<br>**3.** Складаны бяззлучнікавы.<br>**4.** Складаны з рознымі відамі сувязі.<br>**5.** Просты ўскладнены. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

# УРОК 52 Знакі прыпынку ў складаназлучаных сказах



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) Пачало змяркацца__ і трэба было паклапаціцца пра начлег (*К. Кірэенка*).

☐ 2) Там, за сінім Сожам, росныя світанні__ і духмяным цветам пеняцца сады (*М. Башлакоў*).

☐ 3) Нізка, краем неба скочвалася за лес вялікае чырвонае сонца__ і яго промні, бліскучыя і яркія, наскрозь працiналі смуглява-залацістую хмарку (*А. Асіпенка*).

☐ 4) Праз якія абшары зямлі пройдуць пуцявінкі__ і куды яны прывядуць? (*Я. Колас*).

☐ 5) Дзяцей гукалі матулі__ альбо яны самі разыходзіліся па хатах, а мы яшчэ ўсёю сямейкаю доўга сядзелі ля агню, гледзячы на малінавае вуголле.

**Тэст № 2.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) Ільдзінамі-аковамі грыміць рака раскутая__ і поймаю шырокаю паводка разліваецца (*М. Башлакоў*).

☐ 2) Вецер спіць, не прымяўшы калосся, у жыце__ ды тужліва шапоча лістота асін (*Ф. Баторын*).

☐ 3) Толькі ледзь прыкметна пасвятлела неба__ і памутнелі зоркі (*М. Паслядовіч*).

☐ 4) Шызы мох мерна хрумсціць пад тоўста-мяккімі падэшвамі__ і час ад часу хрупаюць пустыя, натапыраныя сасновыя шышкі (*Я. Брыль*).

☐ 5) Блакіт нябёсаў__ і блакіт пралесак (*М. Башлакоў*).



## ТЭОРЫЯ

Сродкам выражэння адносін паміж часткамі ў складаназлучаным сказе з’яўляюцца злучальныя злучнікі — спалучальныя, супастаўляльныя, размеркавальныя. Адносіны паміж часткамі могуць быць спалучальныя, прычынна-выніковыя, супастаўляльныя, пералічальна-размеркавальныя, далучальныя. Часткі сказаў паводле будовы могуць быць аднасастаўнымі і двухсастаўнымі, развітымі і неразвітымі, ускладненымі і няўскладненымі.

Неабходна памятаць наступныя **правілы** пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаназлучаных сказах:

1. Паміж часткамі складаназлучанага сказа найчасцей ставіцца коска: *Загарэўся агнём край усходні нябёс, і ляцяць на зямлю іскры сонечных кос* (Я. Журба).
2. Коска не ставіцца перад злучнікамі *і*, *ды* (*і*), *ці*, *або*:
   — калі часткі, звязаныя гэтымі злучнікамі, маюць агульны даданы член, часціцу або пабочнае слова: ***Зрэдку*** *падасць голас якая-небудзь птушка ды ўпадзе на дол сухая шышка* (І. Навуменка). ***Толькі*** *нягучна пасвістваюць сініцы і каралькі ды нагадвае пра сябе барабанным пошчакам дзяцел* (В. Стома). ***Відаць***, *хмары пройдуць і дажджу не будзе* (Т. Хадкевіч);
   — калі дзейнік другой часткі выражаны займеннікам *сам* (*сама, само, самі*), якім узмацняецца дзейнік першай часткі: *Замужам яна [Ніна] там за настаўнікам і сама настаўніца* (М. Лобан);
   — калі часткі супастаўляюцца і маюць аднатыпную будову з паўторам слоў: *Ёсць пачатак усяму і ёсць канец усяму* (У. Глушакоў);
   — калі ў другой частцы прапушчаны выказнік ці яго звязка: *Прызямліліся чатыры жоравы і за імі яшчэ некалькі* (В. Вольскі);
   — калі часткі з’яўляюцца назыўнымі або безасабовымі, а таксама клічнымі ці пытальнымі: *Пажоўклы ліст і цьмяная вада* (Ф. Баторын). *Ціха і ніякага руху* (К. Чорны). *Хто ж усё-такі прыходзіць сюды і чым ён займаецца?* (В. Стома).
3. Калі часткі маюць свае знакі прыпынку (з’яўляюцца развітымі ці ўскладненымі), то паміж імі ставіцца кропка з коскай: *Тым часам сонца выйшла ўгору і з безгранічнага прастору шырокай плынню агнявою на зямлю шчодраю рукою лье бляск гарачы і яскравы; і вянуць скошаныя травы, і выглядаюць нудна палі* (Я. Колас).
4. Калі ў другой частцы паказваецца хуткая змена падзей, супрацьпастаўленне або вынік, то паміж часткамі ставіцца працяжнік: *Яшчэ некалькі крокаў — і я на самай вяршыні...* (В. Стома).

**Варыянт 1.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) Побач, закрыўшы палову неба, высілася магутнае старое дрэва__ і паднімалася стромкая сцяна нейкай будыніны (*В. Быкаў*).

☐ 2) Доўгімі становяцца дні__ і зусім кароткімі такія ж цёплыя духмяныя ночы (*В. Стома*).

☐ 3) Сонца толькі што ў сілу ўвайшло__ і лета толькі што сілы набрала (*К. Камейша*).

☐ 4) Каму для ўзлёту неба не хапае__ і вузкай стала круглая зямля? (*П. Прыходзька*).

☐ 5) А дуб шуміць, а дуб сівы гамоніць__ і падаюць на сцежку жалуды (*М. Башлакоў*).

☐ 6) Лотаць жаўцела__ а белы гарлачык песціўся ў промнях вясновых гарачых (*А. Дзеружынскі*).

☐ 7) А паспрабуй схапіць яшчарку__ і хвост адломіцца (*С. Лобач*).

☐ 8) Ці то мышка прабяжыць__ ці то вавёрачка на зямлю спусціцца (*В. Стома*).

☐ 9) Хоць бы певень праспяваў__ ці сабака гаўкнуў (*Л. Левановіч*).

☐ 10) Там толькі дзікая птушка зможа праляцець__ ды лесавая звярушка з купіны на купіну пераскочыць (*М. Лынькоў*).

**Варыянт 2.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх трэба паставіць дзве коскі:

☐ 1) Зазвіняць жалобна крыгі і бурлівая вада снег размоклы ў час адлігі змые з луга без сляда (*М. Багдановіч*).

☐ 2) То спёка млее то дажджыць то раптам грымне навальніца (*Ф. Баторын*).

☐ 3) Яна [прырода] упарта не хоча развітвацца з летнім цяплом а восень настойліва крадзецца да яе восеньскай прахалодай і першымі замаразкамі (*В. Стома*).

☐ 4) Поле прытаілася ў чаканні а хмара набліжалася і цямнела і час ад часу блакітныя ніці маланкі пранізвалі яе (*Т. Хадкевіч*).

☐ 5) Ёсць свае карані і ў кожнага з нас і ўваходзяць яны ў глыбіню стагоддзяў (*Б. Сачанка*).

☐ 6) Ці то яе [жанчыну] расчуліла такая рэдкая па цяперашнім тлумным часе чалавечая шчырасць ці прыгадалася ёй нешта запаветнае навек зберажонае ў сэрцы з яе далёкай маладосці? (*А. Капусцін*).

☐ 7) Вясна расквеціла сады і шэпча вяз каля прысад а на руках сваіх дубы калышуць белых буслянят (*А. Русак*).

☐ 8) У зялёным трохі сіваватым лісці маладых прышчэпаў ужо свяціліся лабатыя яблычкі і спакуслівай чырваннюналіваліся чарэшні (*В. Адамчык*).

☐ 9) Усюды было поўна людзей і ўсе былі радасныя вясёлыя (*М. Лынькоў*).

☐ 10) Грымяць мнагаспеўнасцю гукаў супольных як гімн перамогі вясной ручаі і мары аб сонцы струменяць гаі... (*Я. Колас*).

# УРОКІ 53–54 Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах



## ПРАВЕРЦЕ САВЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце складаназалежныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі:

☐ 1) Як добра стаміцца ад цяжкіх дарог, схіліцца ў знямозе пад елку на мох і слухаць так прагна, і соладка сніць, як срэбны жаўрук над палямі звініць (*В. Вярба*).

☐ 2) Калі не маеш сілы жыць, успомні, як праз каменне прарасла трава (*Ф. Баторын*).

☐ 3) Можа, якраз над гэтай крыніцай, у зялёнай загадкавай засені дрэў нараджаўся той першы наіўны вершык, за які яму бацька-ляснік адмераў авансам важкі ганарар — цяжкай службай здабыты царскі рубель (*Я. Брыль*).

☐ 4) А цяпер падумайце, як бы гэта было б добра, каб кожны чалавек, што жыве на свеце, пасадзіў бы за сваё жыццё адно дрэўца дзе-небудзь пры сваёй хаце, пры дарозе, ля ракі! (*Э. Самуйлёнак*).

☐ 5) Ён [салдат] спаў непадалёку ад гарматы, у неглыбокай ямцы, і, каб не прабірала холадам ад настылае зямлі, ссек некалькі кустоў ядлоўцу, падаслаўся (*А. Жук*).

**Тэст № 2.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) Радзіма, Радзіма, мяне нарадзіла ты ў гэтым цудоўным куточку, дзе рэчкі, крыніцы бруяцца з зямліцы__ і спеюць ігрушы ў садочку (*А. Дзеружынскі*).

☐ 2) Іван прайшоў яшчэ трохі і__ калі адчуў пад нагамі сакаўную мякаць травы, падумаў, што зараз упадзе (*В. Быкаў*).

☐ 3) Хто не ведае, якімі мілымі і пацешнымі бываюць малыя кацяняты, асабліва__ калі разгуляюцца (*Я. Маўр*).

☐ 4) Цяжка было распазнаць__ ці прыродная гэта грэбля, ці зроблена людскімі рукамі (*Я. Маўр*).

☐ 5) Ён [Агееў] ужо сцяміў, што павінен зрабіць, каб__ калі не апраўдацца зусім, дык хоць бы змякчыць прысуд камандзіра палка (*В. Быкаў*).



## ТЭОРЫЯ

Даданыя часткі ў складаназалежных сказах (яны могуць стаяць перад галоўнымі, у сярэдзіне галоўных і пасля галоўных) звязваюцца з галоўнымі пры дапамозе падпарадкавальных злучнікаў і злучальных слоў.

### Правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах

1. Часткі складаназалежнага сказа аддзяляюцца адна ад адной **коскамі**: [1]*Жывуць успаміны*, [2]*якія звязваюць пакаленні* (В. Мартыненка). Схема: [[1] ], ([2]***якія***...) (якія?). [1]*Як ластаўкам жыць невыносна без стрэх*, [2]*так нам без радзімы пражыць немагчыма* (М. Шабовіч). Схема: ([1]***як***...), [[2] ] (як менавіта?).

! Трэба мець на ўвазе, што простыя часткі могуць быць ускладненымі. Усе знакі прыпынку пры аднародных і адасобленых членах сказа, пры зваротках, пры пабочных і ўстаўных канструкцыях захоўваюцца, пры гэтым можа ўтварацца збег знакаў прыпынку або паглынанне аднаго другім: *Не разумеючы, дзе ён, хлопец ірвануўся, сеў, шырока расплюшчваючы са сну балючыя вочы, азірнуўся і прыемна здзівіўся ад нябачанай, амаль казачнай прыгажосці* (В. Быкаў).

! Калі перад падпарадкавальным злучнікам (злучальным словам) стаяць словы ***нават***, ***асабліва***, ***толькі***, ***а таксама***, ***напрыклад*** і пад., а таксама назоўнікі ці займеннікі (з прыназоўнікамі і без прыназоўнікаў), якія сэнсава звязаны са злучальнымі словамі, коска ставіцца не перад злучнікам (злучальным словам), а непасрэдна перад гэтымі словамі: *Тут зусім ціха*, ***асабліва калі*** *сцямнее* (Я. Колас). *Неўзабаве паказалася прыгожае азярцо*, ***у люстраной гладзі якога*** *адлюстроўваюцца велічныя сцены нясвіжскага замка* (С. Александровіч).

! Дадзеная частка, якая стаіць у сярэдзіне галоўнай або іншай дадзенай, аддзяляецца коскамі з абодвух бакоў: [1]*Над кручай высокай*, [2]*дзе ходзяць аблокі*, [1]*арол малады разгарнуў свае крылы* (А. Дзяржынскі). Схема: [[1]..., ([2]**дзе**...), [1]...]. (*якой?*)

! Калі дадзеныя часткі паясняюць у галоўнай аднародныя члены сказа (пры сузалежным падпарадкаванні), то гэтыя дадзеныя аддзяляюцца ад частак галоўнай на агульных падставах: [1]*Птушыных песень* ***слухай*** *пералівы*, ***адчуй***, [2]*як вецер па траве цячэ*, ***глядзі***, [3]*як павучок цянёты тчэ*, [4]*як мёд пчала збірае клапатліва* (Ф. Баторын). Схема: [[1]..., ([2]**як**...), [1]...], ([3]**як**...), ([4]**як**...). (*што?*, *на што?*)

2. Калі аднародныя сузалежныя часткі звязваюцца паміж сабой адзіночнымі злучнікамі ***і***, ***ці***, ***або***, **коска** перад гэтымі злучнікамі **не ставіцца**: [1]*Я люблю часіну навальніцы*, [2]*калі б'е пярун па ўсіх ладах* ***і*** [3]*злуюцца ў хмарах бліскавіцы, кроплі асыпаючы на дах* (П. Панчанка). Схема: [ ], (***калі***...) ***і*** ( ). (*якую?*)

! Пры паўторных злучніках коска ставіцца, як і пры аднародных членах сказа: *І не разбярэш, ці то птушкі пяюць, ці то пераліваюцца, журчаць ручаі пад вузлаватымі карэннямі*[1] *соснаў* (М. Лынькоў).

3. Пры збегу двух падпарадкавальных злучнікаў (або злучніка і злучальнага слова) **коска** паміж імі **ставіцца**, калі пропуск дадзенай часткі з другім злучнікам не парушае структуры астатняй часткі сказа: *Здавалася тады*, ***што***, ***калі*** *зойдзе сонца, праменне яго астаецца на ўсю ноч ляжаць на ціхіх дрэвах* (К. Чорны).

! Калі пропуск дадзенай часткі (са злучнікамі *калі ... то*, *калі ... дык*) парушае структуру сказа, коска не ставіцца: *Потым [разведчыкі] доўга стаялі, прыслухоўваліся да ночы*, ***бо калі*** *прыслухацца*, ***то*** *ноч не такая і ціхая* (А. Жук).

Пры збегу злучальнага і падпарадкавальнага злучнікаў — так бывае, калі дадзеная частка паясняе адзін з аднародных членаў сказа, які звязваецца з папярэднім пры дапамозе злучніка, — коска паміж імі ставіцца, калі пропуск дадзенай часткі не парушае сэнсу і структуры простых частак сказа: *Убачыўшы суседку, шпак узмахвае крыламі, заўзята свішча* ***і***, ***калі*** *тая прысядзе на галінку суседняга дрэва, стараецца з усіх сіл ёй спадабацца*... (Л. Кацкевіч). Спосаб праверкі: дадзеную частку з падпарадкавальным злучнікам можна апусціць або пераставіць у іншае месца (звычайна адразу пасля галоўнай часткі), пры гэтым сэнс сказа і структура частак не зменіцца. ***Параўнайце:*** *Убачыўшы суседку, шпак узмахвае крыламі, заўзята свішча* ***і*** *стараецца з усіх сіл ёй спадабацца*, ***калі*** *тая прысядзе на галінку суседняга дрэва*...

! У пачатку сказа злучальны і падпарадкавальны злучнікі коскамі не раздзяляюцца: ***І калі*** *ўзнікне ветрык, ён чапляецца за збажыну і гуляе ў ёй, і песціцца*... (Т. Хадкевіч).

4. Паміж дадзенымі часткамі або іх групамі, калі яны маюць развітую будову або слаба звязаны сэнсам, **ставіцца кропка з коскай**: *Ніхто не знаў тых струнаў, патайных ніцей душы, што злучаюць гук пярунаў*[2] *з немым голасам цішы; бо і ў той цішы зацятай ёсць і голас, і свой твар, разнастайны і багаты, поўны музыкі і чар* (Я. Колас).
5. У рэдкіх выпадках паміж галоўнай і дадзенай часткамі **ставіцца двукроп'е**, **працяжнік**, **коска** і **працяжнік**. Гэта аўтарскія знакі, якія выкарыстоўваюцца з мэтай узмацніць значэнне якой-небудзь часткі або падкрэсліць яе адасобленасць: *Паляцела б, не паглядзела б ні на што, — каб было з кім* (І. Мележ).

**Коска не ставіцца:**
1) перад дадзенай часткай, якая складаецца толькі са злучальнага слова: *Андрэй сам не ведае* ***чаму***, *але ж адразу стаў у чаргу*... (Я. Сіпакоў);
2) перад злучнікамі ***і***, ***ды*** (у значэнні ***і***), ***або***, ***ці***, якія звязваюць дзве галоўныя часткі, да якіх адносіцца агульная дадзеная частка: (*Калі наступае глыбокая восень*), [*над зямлёй нізка сцелецца туман*] *або* [*імжыць дробны дождж*] (К. Чорны);
3) калі паміж галоўнай і дадзенай часткамі ёсць узмацняльная часціца ***і*** або адмоўная часціца ***не***: *З гэтым неспакоем сядзела яна* ***і калі*** *акно наперадзе зноў чыста забялела і запалілася ў хаце святло* (І. Мележ). *Я пытаю* ***не хто*** *паедзе, а калі паедзем.*

**Запомніце!**
1. Калі дадзеная частка звязваецца з галоўнай пры дапамозе састаўных падпарадкавальных злучнікаў (***перш чым***, ***затым што***, ***пасля таго як***, ***для таго каб***, ***па меры таго як***, ***да таго часу пакуль***, ***з прычыны таго што***, ***нягледзячы на тое што***, ***дзякуючы таму што***, ***у сувязі з тым што***

---
[1] ГН — *каранямі.*
[2] ГН — *перуной.*

і пад.), то коска ставіцца паміж галоўнай часткай і дададай, калі дададая стаіць перад галоўнай і пачынаецца такім злучнікам (злучнік не разрываецца): ***Пасля таго як*** *звярнулі яшчэ з асноўнай дарогі, прайсці прыйшлося добры кіламетр* (В. Стома). (Дапускаецца коска перад другой часткай састаўнога злучніка, калі неабходна зрабіць лагічны націск на першай частцы гэтага злучніка: ***Па меры таго***, ***як*** *неба цямнела, рэдкі лёгкі паўзмрок змяняўся шараватай смугой, якая паступова гусцела...* (Т. Хадкевіч).)

2. Калі дададая частка стаіць пасля галоўнай, коска ў залежнасці ад сэнсу ставіцца або перад другой часткай састаўнога падпарадкавальнага злучніка, або перад гэтым злучнікам у поўным яго складзе: *Яна пайшла хутчэй, каб ён не дагнаў,* ***таму што*** *тады развітанне зацягнулася б* (І. Шамякін). *А мо яна [травінка] захісталася* ***таму***, ***што*** *да яе дайшоў павеў ветру, які ўсё яшчэ шастаў недзе ўверсе* (Я. Сіпакоў).

Не з'яўляюцца дададзенымі часткамі і не аддзяляюцца коскамі:

— спалучэнні слова ***каб*** з інфінітывам у складзе пытальнай канструкцыі з пачатковым ***што***: ***Што каб*** *пайсці ў адпачынак?*;

— сінтаксічныя канструкцыі са словам ***каб*** у складзе злучнікаў ***для таго каб***, ***з тым каб***, ***замест таго каб***, ***на тое каб*** і інш. пры інфінітыўных зваротах, калі ў іх на словы ***таго***, ***тым***, ***тое*** не прыпадае лагічны націск: ***Для таго каб*** *стаць паэтам, трэба бачыць свет у некалькіх вымярэннях.* Але: *Гаворка заўсёды пачынаецца не* ***для таго***, ***каб*** *нічога не сказаць* (Б. Мікуліч). **!** У першым сказе злучнік ***для таго каб*** можна замяніць злучнікам ***каб***;

— устойлівыя выразы з канструкцыяй сказа тыпу *куды ногі нясуць, куды вочы глядзяць, як не трэба лепш, калі б то ні было, што б там ні было* і пад.: *Усё было вылічана і вымеркавана* ***як не трэба лепш*** (К. Чорны).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

☐ 1) Васіль чамусьці падумаў, што__ калі нават ён і пачне працаваць у рэдакцыі, наўрад ці знойдзе сабе там сябра... (*У. Саламаха*).

☐ 2) ...Я пабрыў ад узлеску__ куды вочы глядзяць (*У. Глушакоў*).

☐ 3) А я__ дзе б ні быў, у старое гняздо, як бусел, заўжды прылятаю (*П. Броўка*).

☐ 4) Мама многа разоў яму гаварыла, што__ калі здарыцца што-небудзь такое, што трэба будзе хавацца, уцякаць, то каб ён [Лёвачка] найхутчэй бег шукаць тату (*М. Лобан*).

☐ 5) І толькі калі нарэшце пачуўся гул машын__ і з-за дрэў зачарнела асфальтавая стужка, Ірына спынілася, абяссілена прыхінулася плечуком да шурпатага ствала сасны (*З. Прыгодзіч*).

☐ 6) Дзяцінства бераг васількова, дзівосны кут маіх надзей, ты не забудзешся ніколі__ хоць я з табой усё радзей (*М. Шабовіч*).

☐ 7) Але да самых замаразкаў__ пакуль не захрумсціць пад нагамі тонкі, як шкло, лядок, што зацягне ўтвораныя дажджом лужыны, грыбнік знойдзе ў лесе любімы для сябе занятак і выдатны адпачынак (*В. Стома*).

☐ 8) Дарослыя__ хоць і стараліся захоўваць саліднасць, радаваліся не менш, чым дзеці (*З. Прыгодзіч*).

☐ 9) Я да цябе прапісаны, мой край, сузор'ямі і месяцам над хатай, жытамі, што падперлі небакрай__ і абяцаюць ураджай багаты (*М. Шабовіч*).

☐ 10) На зваротным шляху ў Мінск, зрабіўшы прыпынак у Пінску, я не заспеў знаёмага дома і__ каб неяк скарыстаць час, вырашыў без спешкі і мітусні паблукаць па старажытным горадзе, дзе раней даводзілася бываць толькі праездам (*У. Глушакоў*).

**Варыянт 2.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх трэба паставіць дзве коскі:

☐ 1) Гэта быў адзін з тых рэдкіх ліўняў якія налятаюць раптоўна і даюць столькі вады што яе хапіла б на цэлы месяц спакойных дажджоў (*А. Кудравец*).

☐ 2) ...Так ужо вядзецца што калі чалавек пачне хлусіць то адна хлусня вядзе за сабой другую (*Я. Маўр*).

☐ 3) Толя з палёгкай уздыхнуў радуючыся што ўся гэтая гісторыя скончылася для яго так шчасліва (*Я. Маўр*).

- [ ] 4) Хоць горад рэкламай іскрыстай у цуды замор’я заве старэнькая хата як прыстань ратуе ад бур і завей (*А. Камароўскі*).
- [ ] 5) Я не прывыкну ўсё ніяк што тут цяпер музей і што самога тут няма гаспадара (*М. Аўрамчык*).
- [ ] 6) Яны [байцы] доўга ішлі так па беразе і калі сонца зусім схавалася за зубчастаю сцяной лесу павярнулі назад да горада (*В. Быкаў*).
- [ ] 7) Дзве родныя ракі як дзве рукі што абдымаюць гэты свет з любоўю нясуць праз далячыні і вякі прабабчыны купальскія вянкі і прадзедаў сівыя чаўнакі да слыннага Дняпра па Прыдняпроўі (*С. Басуматрава*).
- [ ] 8) Я чую як у мудрай цішыні то ліпа раптам зарыпіць калыскаю то скрыпкаю яліна зазвініць (*Г. Бураўкін*).
- [ ] 9) Калі вочы мае праясніла заранка і жыцця разгарнуўся абрус над калыскай спявалі тады калыханку маці каліна і Беларусь (*С. Законнікаў*).
- [ ] 10) Вось і сёння як толькі я прыйшоў з бібліятэкі Міхась зноў папрасіў мяне паслухаць што піша яму яго Валя (*З. Прыгодзіч*).

**Варыянт 3.** Адзначце складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем:

- [ ] 1) Цяжка знайсці чалавека, які б не любіў лес[1], не лічыў яго сваім сябрам, які б у вольную гадзіну не імкнуўся адпачыць душой сярод непаўторнай лясной прыгажосці (*С. Давідовіч*).
- [ ] 2) З раніцы неба пакрыта белымі, нібы статак лебедзяў, аблачынкамі, якія да паўдня разыходзяцца, агаляючы бязмежную сінечу неба, па якім плыве бліскучы круг сонца (*І. Навуменка*).
- [ ] 3) Як нам патрэбна хвіля[2] цішыні, каб мы дыханне бліжняга адчулі, пазбыліся тлумлівай мітусні, каб у душу нам зоркі зазірнулі, каб шолах траў і салаўіны спеў дайсці да сэрца нашага паспеў (*Ф. Баторын*).
- [ ] 4) Была нейкая загадка ў гэтай вечнай вадзе, якую давала зямля, давала і берагла, захіляла яе кустамі і травою так густа, што і ў самую гарачыню цяжка было дастаць яе сонцу (*А. Жук*).
- [ ] 5) Хоць неба і ўсыпана зоркамі, усё ж яны не так блішчэлі, як гэта звычайна бывае пазней, у жніўні, калі ад іхняга бляску ўсюды робіцца светла: і ў лузе, і ў полі, і на вуліцы (*Я. Сіпакоў*).

**Варыянт 4.** Адзначце складаназалежныя сказы з сузалежным падпарадкаваннем:

- [ ] 1) Каб не быў чалавекам, я б жаўранкам стаў і спяваў бы нястомней за ўсіх і званчэй, каб рабілася людзям ад песні лягчэй, каб шпарчэй узнімаліся ўвысь саснякі, каб віліся ў вірлівай рацэ шчупакі... (*Г. Бураўкін*).
- [ ] 2) Хочацца мне мець адказ на ўсё, што ёсць, што будзе, каб назаўсёды зразумець, што значу я, што значаць людзі (*М. Шабовіч*).
- [ ] 3) Сашы здаецца, што яна чуе, як малады клён, што расце пад акном, п’е сок зямлі (*І. Шамякін*).
- [ ] 4) Дзесьці ёсць і твой пачатак, безупынная рака, дзе ні моста, дзе ні кладак, дзе ні лодкі рыбака (*П. Глебка*).
- [ ] 5) Калі б магло каменне гаварыць, дык таямніцы нашае зямліцы надзіва нам яно магло б раскрыць такія, што і ў снах не могуць сніцца! (*А. Звонак*).

**Варыянт 5.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх слова ***што*** з’яўляецца злучнікам:

- [ ] 1) Здзіўленне ў голасе маці было настолькі шчырае, што я міжвольна ўсміхнуўся (*Я. Брыль*).
- [ ] 2) Я не ведаю, што мне і думаць (*В. Быкаў*).
- [ ] 3) Закрасуйся, Нёман, каласамі ніў, што вясновым ранкам росамі паіў (*А. Русак*).
- [ ] 4) Адчуўшы прысутнасць чалавека, у голлі запішчалі, завалтузіліся, ссыпаючы кроплі расы і лісце, вераб’і, што набіліся нанач у крону (*В. Хомчанка*).
- [ ] 5) Хлопец настолькі адкрыты і непасрэдны, што кожнай сваёй радасцю яму неадкладна хочацца падзяліцца з кім-небудзь (*З. Прыгодзіч*).

---

[1] ГН — *лесу*.
[2] ГН — *хвіліна*.

**Варыянт 6.** Адзначце складаназалежныя сказы з дадзенымі дапаўняльнымі часткамі:

- [ ] 1) Пейзаж ужо не той, што бачылі мы летам (*Я. Маўр*).
- [ ] 2) Пасля снег пагусцеў і на змярканні паваліў так густа, што за пяць крокаў нічога не было відаць (*В. Быкаў*).
- [ ] 3) Хіба знойдзецца сэрца, якому не трэба цяпла? (*Ф. Баторын*).
- [ ] 4) Ці знаеш, як цяжка з глыбінь наверх прабіваюцца рэкі? (*В. Макарэвіч*).
- [ ] 5) Не помню, колькі прастаяў гадзін я над асенняй Прыпяццю адзін (*С. Грахоўскі*).

# УРОК 55 Складаныя бяззлучнікавыя сказы



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:

- [ ] 1) Дождждык асенні ціха булькоча, вецер не вее, гром не грукоча, зоры на хмарах спяць (*А. Астрэйка*).
- [ ] 2) А ад тутэйшых мясцін вачэй не адарваць — узгоркі і пералескі, квяцістыя лугі і сенажаці, прапахлыя чаборам і медуніцай, блакітныя стужкі рэчак, жытнёвыя і бульбяныя палеткі, сілуэты ветракоў і калодзежных жураўлёў (*М. Карпенка*).
- [ ] 3) Прыеду ў Мазыр — адчуваю: я дома... (*У. Верамейчык*).
- [ ] 4) Адарвецца кветка ад карэння — не чакай ні плода, ні насення (*Ф. Баторын*).
- [ ] 5) І зноў неўразуменнае пытанне, хто і завошта дарма робіць нам такую ласку? (*Я. Маўр*).

**Тэст № 2.** Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць двукроп'е:

- [ ] 1) Дарогі пахаваліся, слядоў нідзе няма__ камусь на нешта жаліцца кудлатая зіма (*М. Багун*).
- [ ] 2) Васіль адчувае__ да густога лесу не дойдзе (*І. Навуменка*).
- [ ] 3) Бачу ў лесе ружовую кветку, чую тонкі і ўкрадлівы рух__ так шыпшына, нібы ў разведку, пасылае свой водар на луг (*М. Кусянкоў*).
- [ ] 4) З гэтай прычыны ён [Адам] цяпер і быў у трывозе__ ці не занадта далёка ён зайшоў? (*К. Чорны*).
- [ ] 5) Мой край — лугі і пералескі, крынічны звон і шум лясны__ мой край — блакітныя пралескі на сцежках ранняе вясны (*В. Вярба*).



## ТЭОРЫЯ

Складаныя бяззлучнікавыя сказы могуць набліжацца да складаназлучаных або складаназалежных сказаў. Гэта залежыць ад сэнсавых адносін паміж прэдыкатыўнымі часткамі. На аснове гэтых адносін адрозніваюць дзве разнавіднасці складаных бяззлучнікавых сказаў:
1) складаныя бяззлучнікавыя сказы з аднатыпнымі часткамі;
2) складаныя бяззлучнікавыя сказы з разнатыпнымі часткамі.

У складаных бяззлучнікавых сказах у залежнасці ад сэнсавых адносін паміж часткамі, будовы і размяшчэння частак могуць ставіцца коска або кропка з коскай (у сказах з аднатыпнымі часткамі), двукроп'е ці працяжнік (у сказах з разнатыпнымі часткамі).

1. **Коска** ставіцца, калі паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці або паслядоўнасці: *Хіляцца з насмешкаю рабіны, ясені ад смеху шалясцяць* (З. Астапенка). *Вось і зноўку прыйшла на зямлю маю восень, над пустымі шляхамі закружыў ліставей* (М. Башлакоў).
2. **Кропка з коскай** ставіцца ў тым выпадку, калі прэдыкатыўныя часткі з'яўляюцца ўскладненымі (маюць свае знакі прыпынку) або не маюць цеснай сувязі паміж сабой: *І раптам ад цёмнай, суцэльнай заслоны хмар аддзяліўся доўгі сіваваты вал; выгнуўшыся дугою і займаючы палавіну неба, ён шпарка каціўся*

*наперад* (Я. Колас). *Новыя краявіды, новыя шыр, дарогі, снягі падбягалі, знікалі, змяняліся; у гэтым імклівым лёце ўвесь час не адступалі, кружыліся думкі* (І. Мележ).

3. **Двукроп'е** ставіцца:

| | |
|---|---|
| Калі наступная частка (ці некалькі частак) раскрывае, дапаўняе, тлумачыць сэнс папярэдняй. **Спосаб праверкі:** паміж часткамі можна ўставіць словы ***а менавіта***, ***а іменна*** | *Навокал дзіўная акустыка: чуваць асы далёкі звон...* (А. Русецкі). |
| Калі другая частка абазначае прычыну таго, пра што гаворыцца ў першай. **Спосаб праверкі:** можна ўставіць злучнікі ***бо***, ***таму што*** | *Але ноч тая мне здоўжылася: не давалі заснуць яркія і нейкія трывожныя думкі* (А. Асіпенка). |
| Калі першая частка заканчваецца дзеясловамі ***бачыць***, ***глядзець***, ***разглядзецца***, ***чуць***, ***адчуваць***, ***адчуць***, ***заўважыць***, ***разумець***, ***ведаць***, ***верыць***, ***казаць*** і пад. — гэтыя дзеясловы могуць адсутнічаць, але абавязкова падразумяваюцца, — пры дапамозе якіх указваецца, што далей будзе ісці паведамленне пра што-небудзь. **Спосаб праверкі:** паміж часткамі можна ўставіць злучнікі ***што***, ***як*** | *Ігнат павёў вачыма па ліпе і ўбачыў прычыну баязлівага птушынага неспакою: гэта быў вялікі чорны кот* (А. Кудравец). |
| Калі другая частка дапаўняе першую. **Спосаб праверкі:** перад другой часткай можна ўставіць спалучэнні слоў тыпу ***і ўбачыў***, ***што***; ***і пачуў***, ***што***; ***і адчуў***, ***што***; ***і даведаўся***, ***што*** і пад. | *Я падсоўваюся да елкі і прыкладваю вуха да яе кары: сапраўды, елка быццам ціхенька спявае* (В. Хомчанка). |
| Калі другая частка — прамое пытанне | *Імгненне зусім нічога не разумею: дзе я, што са мною?* (В. Стома). |
| Калі першая частка абагульняе наступныя | *Усё вакол знаёмае да болю: збягаюць незабудкі да вады, сядае важна бусел на таполю, ад ластавак абвіслі правады* (Г. Бураўкін). |

4. **Працяжнік** ставіцца:

| | |
|---|---|
| Калі паміж часткамі выражаюцца адносіны часу або ўмовы. **Спосаб праверкі:** перад першай часткай можна ўставіць злучнік ***калі*** | *Будзе дождж — будзе хлеб на стале, не будзе дажджу — не будзе ні хлеба, ні ягад, ні грыбоў, ні арэхаў, ні садавіны, ні гароднíны* (С. Александровіч). |
| Калі другая частка паказвае на вынік таго, пра што гаворыцца ў першай, або з'яўляецца высновай з яе. **Спосаб праверкі:** паміж часткамі можна ўставіць словы ***значыць***, ***таму***, ***і таму*** | *Неба зорамі яркімі ўсеяна — значыць, будзе спагадлівы год* (А. Александровіч). *Сухі марац, мокры май — будзе жыта нібы гай* (Прыказка). |
| Калі змест частак супрацьпастаўляецца | *То не снег — то чаромха цвіце...* (З. Бядуля). |
| Калі паміж часткамі выражаюцца параўнальныя адносіны. **Спосаб праверкі:** паміж часткамі можна ўставіць злучнікі ***бы***, ***нібы***, ***быццам*** | *Слова сказаў — сякерано адсек* (Прыказка). |
| Калі паміж часткамі выражаецца хуткая змена падзей або нечаканы вынік. **Спосаб праверкі:** паміж часткамі можна ўставіць злучнік ***і*** | *Здаецца, хай пойдзе суткі цёплы дождж — папараць зазелянее, пусціцца ў рост і дагоніць малады сасняк* (І. Пташнікаў). |
| Калі паміж часткамі выражаюцца далучальныя адносіны (далучальная частка пачынаецца словамі ***гэта***, ***то***, ***так***, ***такі***) | *Здаецца, кропелькі блакіту прасыпаліся з нябесных вышынь — гэта цвілі ля самай крыніцы незабудкі* (М. Лынькоў). |
| Калі апошняя частка абагульняе папярэднія | *Пасля дзесьці крычалі людзі, пасля плакаў Марыльчын хлапчук, утаймоўвала яго Марылька, галасіла старая, стралялі на вуліцы жаўнеры — усё гэта прыйшло раптам да ягонай свядомасці* (К. Чорны). |



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:

☐ 1) Песня тужыць, песня летуценіць — песня льецца шумнаю ракой і ў Альбуці, на зялёнай сцэне, і ў гасцях, на плошчы гарадской (*М. Маляўка*).

2) Дзяцінства будучага паэта праходзіла ў працы: ён [Анатоль Астрэйка] араў і сеяў, касіў і малаціў, пасвіў авечак і кароў, адводзіў на начлег коней (*А. Бельскі*).

3) Пупышкі набрынялі на таполях: зяленіва прабілася ў палях (*В. Лукша*).

4) А цяпер у нас ёсць справа важнейшая: трэба падрыхтавацца да сустрэчы новых гасцей (*Я. Маўр*).

5) Трапіш да кабеціны рахманай — паспытаеш, друг мой дарагі, дранікі са свежаю смятанай, бабку, клёцкі, нават пірагі (*П. Панчанка*).

6) Аднак час ад часу там [у хвойніку] адчувалася нейкае варушэнне, некаторыя вяршаліны неспакойна пагойдваліся — значыць, вараннё ўсё чакала (*В. Быкаў*).

7) Прадстаўлены акадэмічнай радзе нацюрморт меў, з пункту гледжання сталічных мэтраў, адценне крамольнасці: у акадэміі заахвочвалі маляванне кветак і садавіны, беларускі ж мастак [Іван Хруцкі] змясціў на палатне гародніну, грыбы, рыбу, а ў дадатак і сялянскі гладыш (*У. Арлоў*).

8) Нават пяцігадовая сястрычка знайшла сабе важную работу — яна шыла сукенку для сваёй лялькі (*Я. Маўр*).

9) Не салоўка спяваў — плыў твой голас чароўны (*У. Карызна*).

10) Плывуць праз гул штармоў мацерыкі, у нетрах закіпае гнеў вулканаў (*Ф. Баторын*).

**Варыянт 2.** Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць двукроп’е:

1) Табе я ўсміхнуся і напомню__ жыццё пражыць — не поле перайсці (*Я. Крупенька*).

2) Пачынае чарэмшына зацвітаць__ пачынае халадок за шчокі шчыпаць (*А. Бялевіч*).

3) Але думкі тут [у асеннім лесе] маюць іншую форму__ яны яркія, кароткія і хутка змяняюць адна адну (*І. Шамякін*).

4) Ступілі крок далей__ зноў трэск (*Я. Маўр*).

5) Пайшоў пазычаць насення__ не пазычылі... (*П. Галавач*).

6) Я вось так гляджу__ павінен чалавек да ўсяго мець паняцце (*М. Лынькоў*).

7) Зноў пад сонцам выліняла лета__ травы спачываюць у стагах (*Н. Галіноўская*).

8) Сусвету таямнічае свячэнне здаўна разгадваць людзі пачалі__ нашто яно патрэбна на зямлі? (*Я. Міклашэўскі*).

9) І над галавою Анюты пранёсся лёгкі пошапт крылляў[1]__ то прыляцела на песню другая зязюля (*М. Капыловіч*).

10) Хлопец, гледзячы ўслед, націснуў лёгка на газ__ машына пакацілася (*Ф. Янкоўскі*).

# УРОК 56 Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі:

1) Кожны новы дзень вясны дорыць новыя галасы: дзесьці раздаюцца посвісты попаўзняў, зацёхкае ў гаі ці ў даліне ракі салавей, зайграе, быццам на флейце, івалга, прагучыць сакаўная мелодыя слаўкі-чорнагалоўкі (*Л. Кацкевіч*).

2) Наша мова неўміручая, бо яе захоўваюць усе: сялянка, што спявае народную песню, вучоны, які складае слоўнік, дзяды, што апавядаюць пра мінулае (*У. Караткевіч*).

3) Адчайна цвіў і пах багун п’янкі, знікала непрыкметна ў моху сцежка, і кроплі спелых ягад буякі гублялі ў жоўты сподак сыраежкі (*Ф. Баторын*).

[1] ГН — *крылаў.*

☐ 4) Перапоўнены радасцю, вярнуўся я ў той дзень дадому, і, прызнаюся, яшчэ з тыдзень жыў ва мне настрой задавальнення (*А. Кандрусевіч*).

☐ 5) На душы маёй робіцца светла, і я думаю пра дзеда Аніса, гэтага ляснога чарадзея, які пакінуў так многа добрага ў маёй памяці (*В. Хомчанка*).

**Тэст № 2.** Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх знакі прыпынку паміж часткамі пастаўлены правільна:

☐ 1) Снег усюды белы, сыпкі, неба гэткае ж малочна-белае, шчыльна кладзецца на ўскрай берагоў, і, калі чалавек трапляе ў рэчышча, яму здаецца, што трапіў ён у нейкі інакшы свет, на інакшую планету, дзе бель снегу ўгары і ўнізе і ўрачыстае маўчанне зімы (*Э. Самуйлёнак*).

☐ 2) Вядома, справа ў гаспадынях, і вось які быў сумны вынік: бліны былі з адной мукі, ды рукі розныя пяклі іх (*Я. Крупенька*).

☐ 3) Адагрэтая за вясну зямля набрала сіл, і зеляніна на ёй расце і шырыцца з такой шпаркасцю, што, калі прыслухацца ўважліва, дык уловіш, як выпростваюцца і цягнуцца каліўцы ўгору, і шасцяць, і перашэптваюцца (*Т. Хадкевіч*).

☐ 4) У гэтым маўчанні, якое было такім мнагазначным, угадвалася адно пытанне, чаму так здарылася, хто дзе чаго недагледзеў? (*М. Лобан*).

☐ 5) Сапраўды, колькі людзі беззваротна губляюць у штодзённай мітусні бясконца дарагога, да чаго прывыклі і да чаго неразумна абыякавы[1], і зеляніна дрэў іх не кранае, і блакіт неба, і вясновае паветра... (*Я. Каршукоў*).



ТЭОРЫЯ

Могуць спалучацца наступныя віды сувязі:

1. Злучнікавая і бяззлучнікавая:

*[1]Вясною дыхае зямля, і [2]п'юць сады цяпло блакіту, [3]птушыны грай чуваць здаля, [4]на ўзгорках зеленее жыта* (А. Дзеружынскі).

[1 ], **i** [2 ], [3 ], [4 ].

! Спалучаецца бяззлучнікавая і злучальная сувязь.

*[1]Лес жыве сваім жыццём, [2]ён нібы нагадвае аб нетаропкай вечнасці, [3]якой няма ні граніц, ні берагоў* (І. Навуменка).

I [1 ], II [2×], (3 **якой** ...). (якой?)

! Спалучаецца бяззлучнікавая і падпарадкавальная сувязь.

Лічбамі I і II пазначаны структурна-лагічныя часткі, якія могуць быць афармлены як складаназлучаныя, складаназалежныя або складаныя бяззлучнікавыя сказы. Знакі прыпынку ў іх ставяцца ў адпаведнасці з асноўнымі правіламі да кожнага тыпу сказа.

2. Злучальная і падпарадкавальная:

*[1]Грамы варочаюцца ў небе, а [2]на зямлі спакой такі, [3]ажно чуваць, [4]як звонка недзе лапочуць крыллем матылькі* (Г. Бураўкін).

I [1 ], **а** II [2×], (3...), (4 **як** ...). (які? што?)

3. Бяззлучнікавая, злучальная і падпарадкавальная:

*[1]Іллюк углядаўся ў прадаўгаваты бялёсы твар Шведа, і [2]ў сэрцы ўзнікала глыбокая прыязнасць да яго: [3]чалавек гаварыў пра агульныя справы так, [4]быццам у іх заключалася ўсё яго жыццё* (Т. Хадкевіч).

I [[1 ], **і** [2 ]]: II [3× ], (4 **быццам** ...). (як менавіта?)

---

[1] ГН — *абыякавыя*.

4. Сказы, у якіх дзве ці некалькі галоўных частак, звязаных паміж сабою злучальнай ці бяззлучнікавай сувяззю, маюць пры сабе адну ці некалькі даданых, лічацца складанымі сказамі з рознымі відамі сувязі:

*[1]Трэба дома бываць часцей,*
*[2]Трэба дома бываць не госцем,*
*[3]Каб душою не ачарсцвець,*
*[4]Каб не страціць святое штосьці.*

Р. Барадулін.

*з якой мэтай?*

[[1]×], [[2]×], ([3]***каб*** ...), ([4]***каб*** ...).

## Знакі прыпынку ў складаных сказах з рознымі відамі сувязі

Часткі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі аддзяляюцца адна ад адной тымі ж знакамі прыпынку, што і прэдыкатыўныя часткі ў складзе складаназлучаных, складаназалежных, складаных бяззлучнікавых сказаў: *На працягу ўсяго свайго жыцця чалавек неаднаразова пытае сябе: хто я такі і для чаго прызначаны?* (Энцыклапедычны даведнік «Чалавек і грамадства»). *З дарог, што не прыносяць стому, шлях самы блізкі ў свеце ёсць: ён адусюль вядзе дадому і нас вяртае ў маладосць* (П. Прыходзька). *Крыніца нізкая, вада ў ёй недалёка, а таму даставаць яе лёгка: абагнуўся цераз зруб, расхінуў у бакі лісце, зачэрпнуў вядром, каб яно аж па самыя вушкі схавалася ў вадзе, і вось ён, той чысты крышталь, ад якога, бывае, у летнюю спёку не адарваца: зубы заходзяцца, рукі млеюць трымаць навыцяжку цяжкае вядро, а ты, здаецца, усё піў бы і піў, ніяк не наталяючы смагі* (Я. Сіпакоў).

**!** Пры збегу злучальнага і падпарадкавальнага злучнікаў (ці злучальнага злучніка і злучальнага слова) коска паміж імі ставіцца ў тым выпадку, калі пасля даданай часткі не ўжываецца другая частка парнага злучніка ***калі*** ... ***то***, ***калі*** ... ***дык***, ***як*** ... ***то*** (***дык***), ***каб*** ... ***то*** (***дык***), ***раз*** ... ***то*** (***дык***), ***хоць*** ... ***але***: *У мяне даволі слоў,* ***і***, ***калі*** *хто хоча, баяць казку я гатоў аж да самай ночы* (В. Вітка). Калі ў галоўнай частцы сказа ***то*** або ***дык*** захоўваюцца як часткі парных злучнікаў, коска паміж злучальным і падпарадкавальным злучнікамі не ставіцца: *На калодках былі прыбіты дошкі,* ***і калі*** *па іх ішлі,* ***то*** *яны выгіналіся і калыхаліся* (Я. Маўр).

У астатніх выпадках пры збегу злучальнага і падпарадкавальнага злучнікаў (ці злучальнага злучніка і злучальнага слова) коска паміж імі ставіцца тады, калі тую даданую частку, у якую ўваходзіць падпарадкавальны злучнік (ці злучальнае слова), можна апусціць ці пераставіць у іншае месца без парушэння сэнсу сказа.
***Параўнайце:***

| | |
|---|---|
| *Пад раніцу нават здавалася, што гэта першы снег злёгку прытрусіў падмёрзлую глебу,* ***але***, ***калі*** *поцемкі праходзілі і дастаткова развіднялася, падман адразу ж раскрываўся...* (В. Стома). — *Пад раніцу нават здавалася, што гэта першы снег злёгку прытрусіў падмёрзлую глебу,* ***але*** *падман адразу ж раскрываўся,* ***калі*** *поцемкі праходзілі і дастаткова развіднялася...* | *Надвор'е рэзка павярнула на восень, зачасцілі нудныя слотныя дажджы,* ***а калі*** *яны пераставалі, асабліва ўранні, напаўзалі туманы, у якіх патаналі дамы, гароды*[1]*, платы і дрэвы* (В. Быкаў). — **!** Даданую частку нельга ні пераставіць, ні апусціць. |

**!** У сказах з рознымі відамі сувязі можа назірацца спалучэнне знакаў прыпынку і «паглынанне» аднаго іншым: *Чалавеку, які ўпершыню трапляе ў Белавежскую пушчу, спачатку цяжка зразумець, дзе ён знаходзіцца, — такая велічная і разнастайная прырода гэтага першабытнага лесу* (В. Вольскі). *Што б ні здарылася наперадзе за доўгі летні дзень, але раніца такая, што дзіця: прыносіць усмешку і радасць* (І. Шамякін).



### ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце знакі прыпынку, якія прапушчаны ў сказе:
*На лясных рэках шмат нечаканага і таямнічага раптам з-за павароткі пакажуцца паваленыя, спілаваныя бабрамі дрэвы або бабровая плаціна, хаткі і вы пристанеце да берага і калі ўдасца пацікуеце за звяркамі* (У. Саламаха).

☐ 1) адна коска;
☐ 2) дзве коскі;
☐ 3) тры коскі;
☐ 4) двукроп'е;
☐ 5) працяжнік.

[1] ГН — *агароды.*

**Варыянт 2.** Адзначце знакі прыпынку, якія прапушчаны ў сказе:

*Па рэчцы ўгадвалі і надвор'е зменшала пад вечар вада заўтра зранку будзе дождж нізка ластаўкі лётаюць над вадою таксама на дождж паглыбшала*[1] *рэчка гэта ўжо знак што будзе пагода* (Я. Колас).

- ☐ 1) дзве коскі;
- ☐ 2) тры коскі;
- ☐ 3) адно двукроп'е;
- ☐ 4) два працяжнікі;
- ☐ 5) тры працяжнікі.

**Варыянт 3.** Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх знакі прыпынку паміж простымі часткамі пастаўлены правільна:

- ☐ 1) Памятаю, як ляснік Аніс гаварыў калісьці нам, дзецям, што лес жывы: дрэвы, як і людзі, маюць свае душы, галасы і размаўляюць па-свойму (*В. Хомчанка*).
- ☐ 2) Гэта дзікая шалёная язда абудзіла пасажыраў, і, хоць усе зразумелі просты манеўр Бені, але нервовасць і напружанасць перадаліся ўсім... (*М. Лынькоў*).
- ☐ 3) Сонца заходзіла ярка, і мяне спыніла, уразіла тое, што ў яго промнях ззяла, мігцела, пералівалася кожная кропля дажджу, што затрымалася на траве, — звычайна гэта бывае раніцою, пры ўсходзе сонца, і ззяе тады раса (*Я. Сіпакоў*).
- ☐ 4) Хоць было цёмна і ў доле мала што можна было згледзець, ён [Сушчэня] згледзеў-такі шараватую на траве купінку — то быў чалавек (*В. Быкаў*).
- ☐ 5) Толькі зверху, дзе хісталіся верхавіны-венічкі стромкіх сосен, ішоў ціхі маркотны шум, ды трапяталіся і шалясцелі лісточкі асін ды бяроз (*А. Чарнышэвіч*).
- ☐ 6) Міхась цвёрда быў упэўнены: калі горад прайшоў праз стагоддзі, не знік у іх, не згарэў у пажарах войнаў, ён набывае асаблівую высакароднасць свайго аблічча (*А. Кажадуб*).
- ☐ 7) Валя не заўважала, што не адчувае плыні часу, а, калі ўрэшце зірнула на гадзіннік, то не паверыла вачам: урок канчаўся, а яна паспела толькі пазнаёміцца з вучнямі і распытаць, як яны правялі канікулы (*У. Дамашэвіч*).
- ☐ 8) Уставала сонца — усе ведалі, што жыццё не спынілася, што яно крынічыць, б'ецца, прарываючыся наверх, шукаючы выйсця з-пад тоўшчы снегу і ўкаванай марозам зямлі (*У. Дамашэвіч*).
- ☐ 9) Малаковіч так і не прыйшоў сёння, і Агееў думаў, ці не здарылася ўжо з ім што-небудзь кепскае? (*В. Быкаў*).
- ☐ 10) Шчыра паважаючы ўсё найлепшае, што народ вынес з мінуўшчыны: найбагацейшую мову, працавітасць, душэўную мяккасць селяніна-палешука, — Іван Мележ сцвярджаў усёй сілай свайго таленту: гэтыя людзі не для паказу вам жывуць, не дзеля экзатычнай забаўкі! (*А. Адамовіч*).

**Варыянт 4.** Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх паміж простымі часткамі прапушчаны знакі прыпынку:

- ☐ 1) Іван дужа спяшаўся, вельмі выразна разумеючы, што начаваць тут нельга, толькі ў хадзе паратунак, і калі яны ў гэтую ноч не адолеюць перавал, то заўтра ўжо будзе позна (*В. Быкаў*).
- ☐ 2) Калі жыццё бядой дратуе і боль душу тваю калечыць, каханне нас тады ратуе, каханне нас гаюча лечыць (*А. Камароўскі*).
- ☐ 3) Груганы і смутнае жаданне дачакацца Войціка прымусілі Сушчэню адмовіцца ад намеру пайсці куды з гэтага месца, і хоць было страхавіта і сцюдзёна, ён цярпліва чакаў (*В. Быкаў*).
- ☐ 4) Часам яны [кусты] здаваліся астравамі, а калі човен пад'язджаў бліжэй, то мог праехаць праз іх проста па вадзе (*Я. Маўр*).
- ☐ 5) З ісцін вялікіх, з ісцін жыццёвых высноваў, вынасіў толькі адну: той хто за праўду памерці гатовы, той не прыгрэе змяёю ману (*А. Бачыла*).
- ☐ 6) Задрамлю і, можа, зноў прысніцца, што прынесла з лесу аж сюды вечна маладая чараўніца прыгаршчы гаючае вады (*С. Грахоўскі*).
- ☐ 7) Шаную даўні звычай землякоў: пакуль жыву ганю прэч сум, спакой, не плачу, долу рук не апускаю (*Х. Жычка*).
- ☐ 8) Гэтай ісціне веру даўно і яна для мяне як замова: у людзей ёсць багацце адно: чалавечае, добрае слова (*С. Законнікаў*).

---

[1] ГН — *паглыбела.*

9) Што ж, мабыць, самая пара была перакусіць, і каб не сядзець на сонцы, яны перайшлі пад сцяну — у засень (*В. Быкаў*).

10) У паветры скразіла святочнасць, знаёмыя твары местачкоўцаў былі ветлівыя, гарадчукі гучна віталіся з намі, колькі разоў прыпыняліся на два-тры словы, і хоць на душы было шчымліва паранейшаму, але гэтую шчымлівасць ахутвала лёгкая хваля радасці... (*У. Глушакоў*).

# УРОК 57 Знакі прыпынку пры простай мове



## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце сказы з простай мовай, якія адпавядаюць схеме **«П, — а, — п»**:

1) Валодзя, гэта ты пачуў ён у трубцы знаёмы голас жонкі, Веранікі прыязджай хутчэй дадому (*Б. Сачанка*).

2) Дрэвы, сынок гаварыла маці ўпрыгожваюць наша жыццё, дораць чалавеку радасць, робяць яго шчаслівейшым (*Я. Галубовіч*).

3) Ты зноў расчыніў акно ад свежасці прачыналася Ларыса, перасмыкала плячамі, моршчылася і, не счакаўшы адказу, дадавала хай толькі гаспадыня ўбачыць, мала нам не будзе, глядзі, шпалеры пашарэлі (*У. Саламаха*).

4) Як ты пойдзеш далей я сказаў свайму сэрцу нясі песню жыццю і не знайся са смерцю, нясі сонца туды, дзе мяцеліць зіма, нясі радасць таму, ў[1] каго сёння няма (*К. Кірэенка*).

5) Надзя сказаў я ну чаму ў нас усё так атрымліваецца (*З. Прыгодзіч*).

**Тэст № 2.** Адзначце сказы з простай мовай, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:

1) «Не, не можа быць! — нарэшце вымавіў археолаг, азіраючыся наўкола: Як жа так?!» (*М. Зарэмба*).

2) Птушкі ў паветры шчаслівыя звоняць: «Сонейка, дзякуй. Радасць якая — скарбы зямныя вясна адмыкае!» (*Н. Галіноўская*).

3) «Ну, Петрусёк, сёння я магу ўзяць цябе з сабой — сказаў аднойчы бацька, аглядаючы на двары веласіпед, на якім звычайна ездзіў у пушчу. — Ёсць у мяне вольны час, паездзім, паглядзім, што, дзе і як...» (*Т. Хадкевіч*).

4) «Дзякую, мама, — сказаў ён. І папытаўся: Табе памагчы што?» (*М. Гіль*).

5) «Нават не верыцца, што на двары красавік», — кажу, каб неяк перапыніць няёмкае маўчанне (*М. Зарэмба*).



## ТЭОРЫЯ

**Простая мова** — гэта чужое выказванне, перададзенае кім-небудзь даслоўна, з захаваннем не толькі зместу, але і формы: *І сонца, як здалося мне, адказала: «Я люблю вас, людзі, як маці любіць сваіх дзяцей; я люблю цябе, зямля, як сваю дачку; ты, зямля, мая самая, самая любімая!..»* (С. Кухараў).

У простай мове часта ўжываюцца пытальныя, пабуджальныя і клічныя сказы, звароткі, выклічнікі, мадальныя словы, словы-сказы, няпоўныя сказы.

Звычайна простая мова ўключаецца пры дапамозе слоў аўтара, якія могуць стаяць перад простай мовай (***У нас кажуць**: «Сосны з небам гавораць»* (С. Законнікаў)), у сярэдзіне яе (*«Нічога, — **бадзёра сказаў Віктар**. — Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць»* (З. Прыгодзіч)) або пасля простай мовы (*«Цяпер я згодзен жыць тут хоць усё лета!» — **цешыўся Віктар*** (Я. Маўр)).

[1] ГН — *у*.

Пры афармленні сказаў з простай мовай выкарыстоўваюцца двукроп'е, двукоссе і працяжнік. Выбар патрэбнага знака залежыць ад размяшчэння простай мовы.
Калі словы аўтара і простая мова пішуцца ў адзін радок, то простая мова бярэцца ў двукоссе: *«Чалавек жыве, пакуль нешта робіць», — сказаў бацька* (А. Асіпенка).

! У мастацкай літаратуры простая мова можа быць запісана з абзаца, перад якім ставіцца працяжнік. У гэтым выпадку яна ў двукоссе не бярэцца:
*І трэба было бачыць Андрэя Макаравіча ў тую хвіліну, калі ён падняўся на ганак, зазваніў у званок і сказаў:*
*— Дзень добры, дзеці! Віншую вас з пачаткам новага навучальнага года!* (Б. Сачанка).

## Правілы афармлення простай мовы

1. Калі простая мова стаіць пасля слоў аўтара, то перад ёю ставіцца двукроп'е і пачынаецца яна з вялікай літары: *Бацька прыжмурвае вочы і гаворыць любімую прыказку: «Хочаш жыць, умей, брат, круціцца»* (У. Глушакоў). Схема: **А: «П»**. У клічных і пытальных сказах двукоссе ставіцца пасля клічніка і пытальніка: *З глыбіні кузава пачуўся Марозаў голас: «Што там такое яшчэ?»* (М. Лобан). Схема: **А: «П?»**.
2. Калі простая мова стаіць перад словамі аўтара, то пасля яе ставіцца знак у залежнасці ад мэты выказвання (коска, клічнік, пытальнік; коска пры гэтым ставіцца пасля двукосся) і працяжнік, а словы аўтара пачынаюцца з малой літары:
   *«Да пабачэння», — адразу сказала Надзя, і ў трубцы пачуліся кароткія гудкі* (З. Прыгодзіч). Схема: **«П», — а**.
   *«Дзень добры! Дзень добры, світанне!» — гукае азёрны прастор* (А. Бялевіч). Схема: **«П!» — а**.
   *«Праўда гэта ці няпраўда?» — задавалі мы сабе пытанне і адказаць не маглі* (Я. Маўр). Схема: **«П?» — а**.

! Калі пасля простай мовы стаіць шматкроп'е, то перад словамі аўтара ставіцца толькі працяжнік: *«Не, Валя, нельга так...» — як мага ласкавей сказала Марыля* (З. Прыгодзіч). Схема: **«П...» — а**.

3. Калі простая мова перарываецца словамі аўтара, знакі прыпынку ставяцца ў залежнасці ад месца разрыву:
   • калі словы аўтара перарываюць простую мову там, дзе не павінна быць ніякага знака прыпынку або павінна стаяць коска, кропка з коскай, двукроп'е ці працяжнік, то словы аўтара з абодвух бакоў выдзяляюцца коскай з працяжнікам, а другая частка простай мовы пачынаецца з малой літары. Схема: **«П, — а, — п»**.

***Параўнайце:***

| | |
|---|---|
| *«І праўда, — падхапілася адразу Надзя, — пойдзем лепш у кіно»* (З. Прыгодзіч). | *«І праўда, пойдзем лепш у кіно», — падхапілася адразу Надзя.* |

   • калі словы аўтара перарываюць простую мову там, дзе павінна стаяць кропка, клічнік або пытальнік, то перад словамі аўтара (з малой літары) ставіцца адпаведны знак (коска, клічнік ці пытальнік) і працяжнік, а пасля слоў аўтара — кропка і працяжнік; другая частка простай мовы пачынаецца з вялікай літары. Схемы: **«П, — а. — П»**; **«П! — а. — П»**; **«П? — а. — П»**.

***Параўнайце:***

| | |
|---|---|
| *«А хіба тут нельга наняць кватэру? — працягваў Васіль. — Вунь колькі хат пустуе»* (У. Саламаха). | *«А хіба тут нельга наняць кватэру? Вунь колькі хат пустуе», — працягваў Васіль.* |

! Калі пасля першай часткі простай мовы стаіць шматкроп'е, то перад словамі аўтара ставіцца толькі працяжнік: *«Ах ты, мой саколік... — цалуючы ўнучка, прыгаворвала яна расчулена. — Званочак мой залаты»* (З. Прыгодзіч). Схема: **«П... — а. — П»**.

   • калі ў словах аўтара, якімі перарываецца простая мова, ёсць два дзеясловы-выказнікі са значэннем маўлення, думкі і гэтыя дзеясловы адносяцца да розных частак простай мовы, то пасля слоў аўтара трэба ставіць двукроп'е і працяжнік, а другую частку простай мовы пісаць з вялікай літары: *«Матчына мова за руку павяла, — прызнаваўся Якуб Колас і, хвіліну памаўчаўшы, дадаваў: — Беларускае слова, пяшчотнае і ласкавае, гнеўнае і сумнае, паслухмянае і гнуткае ў паэтычным радку, было бліжэйшае і мілейшае майму сэрцу»* (С. Александровіч). Схема: **«П, — а: — П»**.

! У мастацкай літаратуры ўжываюцца сказы з простай мовай, калі словы аўтара размеркаваны ў два сказы: *«І дзе ж ён [Сяржа] дзеўся? Пайшоў раніцай з дому — і няма, — разгублена сказала Вера. Памаўчала і дадала: — Там каля вашай палаткі я бачыла хлопца з нашай вёскі...»* (М. Зарэмба).

4. Калі простая мова знаходзіцца ў сярэдзіне слоў аўтара (так званая ўключаная простая мова), то пачатак афармляецца ў адпаведнасці з асноўным правілам; у канцы простай мовы ставіцца адпаведны знак прыпынку (коска — на месцы кропкі, клічнік, пытальнік ці шматкроп'е) і працяжнік; працяг слоў аўтара афармляецца з малой літары. Магчымыя схемы: 1) **А: «П», — а**; 2) **А: «П!» — а**; 3) **А: «П?» — а**; 4) **А: «П...» — а**. *Ляўчук крыкнуў: «Бяжым!» — і яны, прыгнуўшыся, што было сілы пабеглі па разоры назад да ўзлеску* (В. Быкаў).

! Пры неабходнасці ставяцца іншыя знакі прыпынку: *Хадоська, што ляжала ўжо з малымі, несамавіта крыкнула: «Татко!», ускочыла, кінулася ў сенцы* (І. Мележ).



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Адзначце сказы, у якіх простая мова аформлена правільна:

☐ 1) Гаварыла мама-птушка: «Верабейку, ветрык, гушкай. Хай маленькі спіць даўжэй — будзе падрастаць хутчэй. Набярэцца росту, сілы, падужэюць з часам крылы. І над роднаю зямлёю паляцім усёй сям'ёю» (*Н. Галіноўская*).

☐ 2) «Вось каб нам ля школы пасадзіць язмінавую алею», — задумліва сказаў дырэктар і тут жа спытаў: «Дык што там натварыў наш Абабурка?» (*М. Зарэмба*).

☐ 3) «А ведаеш, тата, — смялеў Васіль, разумеючы, што маці на яго баку, — ты сякерай на жыццё зарабляеш, а журналісты і пісьменнікі — пяром» (*У. Саламаха*).

☐ 4) «Малады чалавек, можна вас на хвілінку?», — голас быў звонкі і смяшлівы (*М. Зарэмба*).

☐ 5) «Вось гэта спявак!.. — нарэшце не вытрываў, прамовіў у захапленні я. — Нездарма вы яму гэткі прыгожы домік зрабілі» (*У. Ягоўдзік*).

☐ 6) «Добры вечар, — не гледзячы на мяне, адказала яна [Валя] і адразу павярнулася, пайшла зноў на кухню, кінула праз плячо: — Праходзьце, распранайцеся...» (*З. Прыгодзіч*).

☐ 7) «Чаму, як адлятаюць птушкі ў вырай, на мяне находзіць смутак?» — пытае ўнук (*Я. Крамко*).

☐ 8) «Няўжо рака плыла тут і дзвесце гадоў? — Здзіўлялася Вера. — А яшчэ даўней?» (*М. Зарэмба*).

☐ 9) «А можа, прыпыніцеся на хвілінку, перакусіце? — не адступалася Ядвіга Рыгораўна. — Цэлы ж дзень у дарозе» (*М. Зарэмба*).

☐ 10) «Прыгожыя кветкі, — усмешка схавалася ў густой барадзе Алега Ціханавіча: А як пахнуць!» (*М. Зарэмба*).

**Варыянт 2.** Адзначце сказы з простай мовай, у якіх на месцы пропуску ставіцца двукроп'е:

☐ 1) «Як на востраве жывём»__ — уздыхнула Вера Маркаўна, з сілай адчыняючы дзверы, занесеныя за ноч снегам (*Г. Васілеўская*).

☐ 2) Так у роздуме мы, відаць, прасядзелі б доўга, калі б наш экскурсавод не падаў каманду__ «Ну, хлопцы, а зараз давайце заглянем на грыбныя баравіны» (*С. Александровіч*).

☐ 3) «З мінскай газеты? — без асаблівага энтузіязму перапытаў хлопец і дадаў__ — І далёка ж цябе загналі. Пра нашу ферму хочаш напісаць?» (*М. Зарэмба*).

☐ 4) «Ну вось, — спачуваючы хлопцу, сказала сакратарка__ цяпер давядзецца чакаць не менш гадзіны» (*У. Саламаха*).

☐ 5) І зноў падумалася__ «Як у пчол усё складна і разумна... Вось каб так і ў людзей...» (*М. Зарэмба*).

☐ 6) Калі сядалі ў машыну, сказала зноў тое матчына, тое народнае, тое незабыўнае: «Я й за гарою вам пакланюся. — І дадала тое — сваё і наша — шчырае__ — Гладкае вам дарогі. Хай будзе гладкая ваша дарога» (*Ф. Янкоўскі*).

☐ 7) «Я на хвіліну, — сказаў Кісляков__ — Што здарылася?» (*В. Быкаў*).

☐ 8) «Табе пара, Жэня... — сказала яна [Надзя] ціха і з сумам__ — Спознішся на аўтобус» (*З. Прыгодзіч*).

☐ 9) Яблынька шаптала ціха ветру__ «Не зрывай майго, вятрыска, цвету — дай мне часу ім палюбавацца, дай пажыць мне, дай пакрасавацца!» (*Я. Крупенька*).

☐ 10) «Пайду пагуляю, — сказала Вера__ Можа, суніцы пачырванелі на ўзлеску?» (*М. Зарэмба*).

# УРОК 58 Тэкст як адзінка сінтаксісу і звязнага маўлення



ПРАВЕРЦЕ САВЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Адзначце нумары тэкстаў, у якіх сказы звязаны паміж сабой паслядоўнай сувяззю:

☐ 1) На двары ішоў дождж, асенні, дробны, але яшчэ цёплы, церушыў, як праз сіта. Суцэльная хмара, быццам нерухомая, вісела над зямлёй. Над ракой плакаліся вербы, ранялі долу першае лісце (*І. Шамякін*).

☐ 2) Берагі, як стрыечныя браты, чымсьці розняцца. Адзін — высокі, камяністы, парослы рэдкалессем, шорсткімі травамі. Другі — спадзісты (*С. Лобач*).

☐ 3) Ліпа падала. І падала страшэнна марудна. Спачатку яна ўздрыгнула, скаланулася ўсім голлем, нібы хацела атрэсці з лісця рэшткі ранішняй расы (*А. Кудравец*).

☐ 4) Вася ляжыць пад арэхавым кустом, палуднуе. Прыемнай стомай ные цела. Сонца паступова ідзе на схіл. Дзень не вельмі гарачы (*І. Навуменка*).

☐ 5) Ноччу выпаў сняжок. Прыкметна пабялелі і без таго белыя бярозы. Выразней сталі глядзецца камлі сосен. А чорная вольха так і крэсліць неба сваімі галінамі (*Я. Пархута*).

**Тэст № 2.** Устанавіце адпаведнасць паміж парамі сказаў у тэксце і сродкамі сувязі паміж імі. Адказ запішыце.
*(1) А вось і азярцо. (2) Яно завецца ўсё роўна як на яцвяжскі лад — Ляцкія. (3) Невялікае, усяго якіх дзвесце пяцьдзясят гектараў. (4) Мае з дзясятак астраўкоў. (5) Здаецца, для пушчы гэта дробязь. (6) А як змянілася жыццё ў яго наваколлі! (7) Пасяліліся тут бабёр, андатра, выдра, норка, лебедзь* (Я. Пархута).
***Увага:*** лічбы ў адказах могуць паўтарацца; адказаў можа быць некалькі.

| | |
|---|---|
| **А.** Сказы 1 — 2<br>**Б.** Сказы 2 — 3<br>**В.** Сказы 3 — 4<br>**Г.** Сказы 4 — 5<br>**Д.** Сказы 5 — 6<br>**Е.** Сказы 6 — 7 | **1.** Паўтор слоў і словазлучэнняў з папярэдняга сказа ў наступным<br>**2.** Словы і словазлучэнні, сінанімічныя адпаведным элементам папярэдняга сказа<br>**3.** Займеннікі замест адпаведных назваў з папярэдняга сказа<br>**4.** Прыслоўі замест адпаведных назваў з папярэдняга сказа<br>**5.** Злучнікі, якія непасрэдна звязваюць наступны сказ з папярэднім<br>**6.** Пабочныя словы і словазлучэнні, кампазіцыйна звязаныя з папярэдняй інфармацыяй<br>**7.** Няпоўныя сказы, сэнс якіх узнаўляецца з папярэдніх |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐ **Д** ☐ **Е** ☐



ТЭОРЫЯ

## Паняцце тэксту

**Тэкст** — гэта паведамленне (напісанае, надрукаванае або выказанае вусна), якое характарызуецца сэнсавай завершанасцю і інтанацыйнай афармленасцю.
Кампаненты тэксту арганізаваны ў выглядзе ланцужка: літара — слова — сказ — абзац — тэкст. Сказы і абзацы ў тэксце аб'яднаны агульнай тэмай. Найбольшая адзінка тэксту — твор, які можна дзяліць на часткі, раздзелы.
Тэксту ўласцівы наступныя прыметы:
- тэматычнае адзінства;
- сэнсавая і структурная цэласнасць (кожны сказ стаіць на сваім месцы, паміж імі існуе сэнсавая і граматычная сувязь);
- завершанасць і закончанасць выказвання.

## Сродкі тэкставай сувязі

Для аб'яднання частак тэксту (сказаў, абзацаў) выкарыстоўваюцца разнастайныя сродкі сувязі:
- паўтор слоў і словазлучэнняў з папярэдняга сказа ў наступным;
- словы і словазлучэнні, сінанімічныя адпаведным элементам папярэдняга сказа;
- займеннікі і прыслоўі замест адпаведных назваў з папярэдняга сказа;
- злучнікі, якія непасрэдна звязваюць наступны сказ з папярэднім;

- пабочныя словы і словазлучэнні, кампазіцыйна звязаныя з папярэдняй інфармацыяй;
- няпоўныя сказы, сэнс якіх узнаўляецца з папярэдніх;
- аднатыпныя канструкцыі пры пабудове суседніх сказаў або іншых частак тэксту (так званы сінтаксічны паралелізм);
- парцэляцыя.

## Тыпы тэксту

У стылістыцы традыцыйна вылучаюцца тры тыпы тэкстаў: апісанне, апавяданне і разважанне.

**Апісанне** выкарыстоўваюць пры неабходнасці дэталёвай характарыстыкі прадмета ці стану рэчаіснасці з падрабязным пералічэннем шэрага прымет, што існуюць у пэўны момант (партрэт, краявід, інтэр'ер і г. д.). Апісанне заўсёды статычнае. Яго задача — адказ на пытанне *які прадмет?* Схема апісальнага тэксту: агульнае ўяўленне аб прадмеце (што гэта такое), яго выгляд, прыметы, уласцівасці і роля або прызначэнне. Апісанне можа быць *мастацкім* і *навуковым*.

**Апавяданне** служыць для выражэння часавай, храналагічнай паслядоўнасці дзеянняў або з'яў, паказвае сувязь паміж дзеяннямі. Схема апавядання: *уступ* (завязка) — *асноўная частка* (з кульмінацыяй) — *развязка* (можа быць канцоўка з высновамі аўтара).

**Разважанне** выкарыстоўваецца тады, калі неабходна паставіць пытанне *чаму?* і адказаць на яго. Разважанню ўласціва лагічнае развіццё думкі — у чым прычына з'явы, што атрымалася ці атрымаецца ў выніку. Схема разважання: *тэзіс* — *доказ* (доказы) — *высновы* (вывады).

! Апавяданне можа спалучацца з апісаннем і разважаннем; апісанне можа пераходзіць у апавяданне, а разважанне — у апісанне.

## Спосабы сувязі сказаў у тэксце

Сказы могуць звязвацца паслядоўнай або паралельнай сувяззю.

Пры ***паслядоўнай*** (ланцуговай) сувязі змест кожнага наступнага сказа дапаўняе змест папярэдняга і звязаны з ім: думка развіваецца паступова, сказы сэнсава і структурна быццам «чапляюцца» адзін за аднаго (гл. сродкі тэкставай сувязі).

Пры ***паралельнай*** сувязі змест першага сказа дапаўняецца зместам усіх наступных сказаў (часцей за ўсё даецца апісанне, пералічэнне ці супастаўленне). Асноўны сродак аб'яднання сказаў пры гэтым відзе сувязі — форма часу дзеясловаў-выказнікаў.

! Часта ў тэкстах выкарыстоўваюцца адначасова абодва віды сувязі: паслядоўная з элементамі паралельнай або паралельная з элементамі паслядоўнай.



ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Вызначце тып кожнага тэксту і пазначце яго адпаведнай лічбай: ***1 — апісанне***; ***2 — разважанне***; ***3 — апавяданне***. ***Увага:*** адказы могуць паўтарацца.

**А.** Чаму чалавек прагне азірнуцца назад? І ці варта спрабаваць асэнсаваць тое, што аджыло ўжо сваё? Сапраўды, што можна ўбачыць і зразумець у сівой глыбіні стагоддзяў з рэактыўнай вышыні сённяшняга імклівага веку і дня? А калі — нічога, акрамя напластавання воблакаў, дык чаму ж тады раптам не спіцца па начах? Адкуль, скажыце, з якіх запаведных лугоў прасочваюцца надвячоркам у прачыненую фортку гарадской кватэры трапяткія, настоеныя на травах старажытныя пахі зямлі, здольныя ўмомант адагрэць тваю душу, якая празябла на гарадскіх скразняках, пазбавіць яе немачы, вымыць з сэрца ржавы накіп мітуслівага, выпадковага?..

Выходзіць, чалавеку, як часам паветра ў задушаным смогам горадзе, чагосьці ўжо не хапае ў гэтым вірлівым, бязладным жыцці... Чаго? (*У. Глушакоў*).

**Б.** Аднойчы я крочыў лясною сцежкаю і цешыўся прыгажосцю снежнага лесу. Раптам выскачыў заяц-русак і пачаў аглядвацца навокал. Калі я азірнуўся, то ўбачыў, што зайца зверху праследаваў ястраб. Доўга не думаючы, я кінуўся ўслед за імі. Да лесу заставалася каля ста метраў, калі ястраб маланкай кінуўся зайцу на спіну. Заяц рэзка прыпыніўся, сцяўся ў камячок, зрабіў вялікі скачок убок і паімчаў[1] далей. Ястрабу давялося праляцець дарэмна. Пакуль ён набраў пэўную вышыню, заяц выйграў час і апынуўся ў кустах. Здавалася, што тут ястраб не можа пагражаць русаку, але ён упарта працягваў праследаванне. Закружыўся ў кустах заяц, прынюхаўся, разгроб пярэднімі лапамі снег і шмыгнуў у старую лісіную нару.

Папіскваючы, ястраб апісваў кругі ў небе і паступова аддаляўся. А заяц не стаў доўга затрымлівацца ў гасцях у лісы, выбег з нары і паімчаўся[2] ў сасоннік (*В. Яскевіч*).

---

[1] ГН — *памчаў.*
[2] ГН — *памчаўся.*

**В.** Калі я адчула, што люблю цябе, мая зямля? Можа, тады, калі ўбачыла, як плачуць ледзяшы на стрэхах, няўцешна і горка? Ці свецяцца радасцю першыя пралескі? Ці калі красуе жыта, а ў травы такія густыя і шаўковыя валасы?

А можа, тады, калі журавы ў роспачы кружылі над маёй хатай і скінулі мне, як напамін аб нечым дарагім і незабыўным, лёгкае і цёплае пер'е[1]?

Ці калі зіма ўсыпала дарогу сярэбранымі зоркамі?

А можа, калі пасадзіла рабінку на школьным двары ці згрэбла ў валок духмянае сена?

Ці тады, калі мой сын, пагойдваючыся, як былінка на ветры, тупаў па зямлі, а яна, нібы маці, клапатліва падтрымлівала яго? (*С. Лобач*).

**Г.** Была восень з апошнімі днямі спакойна-рашучай нейкай красы, і была ва ўсім незразумелая цярплівасць адзінокага лістка, што біўся на галінцы, не хочучы ці не могучы адарвацца і ўпасці. Удзень свяціла сонца, і пустое поле засцілала смуга, а ў лесе на прагалах было суха, свежа і пападаліся дзе-нідзе ля дарогі на ўгрэвах баравікі...

Раніцай на траве ляжаў рэдкі іней, зляталіся да ляснога дамка сойкі, а бэзавы куст ля ганка стаяў ненатуральна голы, закіданы ўнізе цёмна-зялёным бліскучастым лісцем. Прыгравала сонца, і з сосен цурком бегла вада... Праз дзень на ганку ў вазоне для кветак узялася лёдам вада, і лёд не растаў да вечара, а яшчэ праз дзень за адну ноч агаліўся лес, і не стала яблыкаў пад знаёмай лясоўкай: пазашываліся ў лісце. Туман як лёг з раніцы, так і трымаўся праз увесь дзень... Дзве ночы не было зор, сеялася імжа, пакуль вецер не разагнаў туман і высыпалі вечарам зоры. Падшэрхла зямля, а раніцай было зноў сонца, удзень наплылі хмары і пайшоў снег, каб растаць неўзабаве. Прыйшла восень... (*Паводле М. Стральцова*).

**Д.** Сцежкі — гэта тыя ж ручаі, якія выбіраюць самы кароткі і лепшы шлях, упадаюць у рэкі. Дарэчы, а куды ўпадаюць сцежкі? Пэўна ж, у дарогі: пятляюць, аж пакуль не ўткнуцца носам у які-небудзь пыльны шлях.

А дарогі — гэта рэкі, і ўпадаюць яны, відаць, у гарады. А ці канчаюцца дзе дарогі? Відаць, не. Проста, увайшоўшы ў горад, яны выходзяць з другога боку — іншымі дарогамі. Дарогам нельга канчацца. Гэта ўжо дрэнна, калі сцежка ці дарога, нікуды не ўпадаючы, перасыхае недзе ў полі, у лесе, у лузе, зарастаючы травою, як вунь тая сцежка ля хаты дзеда Сянчылы. Які жыве адзін і, хворы, амаль ніколі не выходзіць на вуліцу (*Я. Сіпакоў*).

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐ **Д** ☐

**Варыянт 2.** Прааналізуйце тэкст і выканайце заданні да яго.

(1) Без сноў, кажуць, чалавек жыць не можа. (2) А сны бываюць самыя нечаканыя і неверагодныя. (3) У сны прыходзяць назаўсёды забытыя людзі і здарэнні, падзеі і непрыкметныя эпізоды. (4) Бывае, прачнешся, і ўсё развеялася, забылася, а ў душы, у падсвядомасці застаецца пачуццё радасці або трывогі, тоненькай павуцінкай трымціць працяг успамінаў, а то прыснёны ***гук***, даўно забытае слова, мелодыя.

(5) Веснавыя сны найчасцей бываюць светлыя і лёгкія, ружовыя і кароткія, як красавіцкая ноч. (6) Яны знікаюць нечакана, але доўга яшчэ ў памяці ***жыве*** іх адчуванне: нейкае імгненне ты зноў быў шчаслівым хлопчыкам, марыў хутчэй вырасці, бо не здагадваўся, колькі нягод чакае цябе ў сталасці. (7) Прыснілася толькі радаснае маленства — і ты ўвесь дзень успамінаеш далёкае, даўно змененае часам наваколле. (8) Такім яно засталося ***толькі*** ў глыбінях памяці і ў нечаканых снах. (9) Прысніцца — і бачыш кожную драбніцу, адчуваеш ***пахі*** талай вады і гаркаватых тапалёвых пупышак, вербных коцікаў і цёплы дух узаранай зямлі.

(10) Позняй восенню снілася мне надоўга запомненая сонечная вясна.

(11) Над сажалкай... да самай вады схіліліся старыя дуплаватыя вербы. (12) Іх тонкія ***косы(1)***, усыпаныя ***мяккімі(2)*** жоўтымі ***чмялямі(3)*** коцікаў, ***купаюцца(4)*** ў зялёнай ***вадзе(5)***... (13) Сінее чыстае неба, ***плывуць*** ружова-белыя воблачкі... (14) Я ***гайдаюся*** на вярбе. (15) Яе голле рыпіць, кашлатыя коцікі хмеляць саладкаватым водарам, асыпаючыся дробненькім жоўтым пылам. (16) Так прыгожа наўкол... (17) Так светла, сонечна, лагодна і ціха, што ад замілавання аж хочацца заплакаць, усё і ўсіх любіць, быць ласкавым і добрым, чулым і шчодрым, не злавацца і не крыўдзіць нікога (*Паводле С. Грахоўскага*).

№ 1. Утварыце дзеепрыслоўе, адпаведнае дзеяслову, падкрэсленаму ў ***6-м*** сказе. Запішыце дзеепрыслоўе.

___

№ 2. Адзначце фанетычныя і арфаэпічныя характарыстыкі падкрэсленага ў ***14-м*** сказе слова:

☐ 1) вымаўленне слова адпавядае яго напісанню;
☐ 2) у слове два санорныя зычныя гукі;
☐ 3) у слове няма глухіх зычных гукаў;
☐ 4) колькасць літар і гукаў у слове не супадае;
☐ 5) у слове тры мяккія зычныя гукі.

[1] ГН — *пяро*.

№ 3. Знайдзіце ў ***17-м*** сказе слова, граматычнае значэнне якога залежыць ад месца пастаноўкі націску. Запішыце гэта слова.

______________________________

№ 4. Вызначце, якія з падкрэсленых у ***12-м*** сказе і пранумараваных слоў ужыты ў пераносным значэнні. Запішыце нумары гэтых слоў.

______________________________

№ 5. Вызначце спосаб утварэння падкрэсленага ў ***9-м*** сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

______________________________

№ 6. Запішыце падкрэслены ў ***4-м*** сказе назоўнік у форме роднага склону адзіночнага ліку.

______________________________

№ 7. Ад асновы дзеяслова, падкрэсленага ў ***13-м*** сказе, утварыце форму 2-й асобы множнага ліку. Адказ запішыце.

______________________________

№ 8. Знайдзіце ў ***4-м*** сказе самастойную нязменную часціну мовы і запішыце яе.

______________________________

№ 9. Вызначце часцінамоўную прыналежнасць слова, выдзеленага ў ***8-м*** сказе. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

______________________________

№ 10. Вызначце від ***16-га*** сказа:

- [ ] 1) аднасастаўны пэўна-асабовы;
- [ ] 2) аднасастаўны няпэўна-асабовы;
- [ ] 3) аднасастаўны абагульнена-асабовы;
- [ ] 4) аднасастаўны безасабовы;
- [ ] 5) аднасастаўны назыўны.

# УРОК 59 Паняцце стылю маўлення



## ПРАВЕРЦЕ САВЕ ВЕДЫ

**Тэст № 1.** Запішыце не названы ў прыведзеным шэрагу стыль маўлення:
*мастацкі*, *навуковы*, *афіцыйна-дзелавы*, *гутарковы*.

______________________________

**Тэст № 2.** Адзначце прыметы навуковага стылю, якія выяўляюцца ў наступным тэксце:
*Мяцеліца (завіруха, завея) — перанос снегу ветрам у прыземным слоі паветра. Адрозніваюць тры віды: замець — перанос снегу, што выпаў раней, на вышыні не болей за 2 метры ад паверхні зямлі; нізавая мяцеліца — вышэй за 2 метры; агульная мяцеліца — у асноўным суправаджаецца інтэнсіўным выпадзеннем снегу з воблакаў...* (Энцыклапедычны даведнік «Геаграфія Беларусі»).

- [ ] 1) усе словы з прамым значэннем;
- [ ] 2) ёсць тэрміналагічныя назвы;
- [ ] 3) ёсць эпітэты для стварэння зрокавых і слыхавых вобразаў;
- [ ] 4) ёсць канкрэтныя лічбы для дэманстрацыі розных паказчыкаў;
- [ ] 5) ёсць асабовыя і прыналежныя займеннікі.



## ТЭОРЫЯ

Паняцце стылю вызначаецца функцыямі мовы. **Стыль** — гэта разнавіднасць маўлення, якая залежыць ад умоў камунікацыі (сферы выказвання, зместу і мэты паведамлення, а таксама сітуацыі маўлення).

У стылістыцы традыцыйна вылучаецца пяць асноўных функцыянальных стыляў: гутарковы і кніжныя (навуковы, публіцыстычны, афіцыйны і мастацкі).

! Неабходна памятаць, што адметнасць стылю вызначаецца не толькі лексікай, але і іншымі моўнымі сродкамі.

| Стыль | Сфера выкарыстання | Адметнасць |
|---|---|---|
| 1. Гутарковы | Сфера бытавых зносін і неафіцыйных пазаслужбовых адносін паміж людзьмі; абмен думкамі: функцыя зносін (вітанне, запрашэнне, падзяка, роспыт пра жыццё) і функцыя паведамлення (расказ пра сябе) | Свабодны выбар слоў і выразаў; шырокае выкарыстанне нелітаратурнай лексікі (дыялектызмаў, жарганізмаў, прастамоўных слоў), слоў і выразаў з эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай; ужыванне стылістычна нейтральных слоў з пераносным значэннем |
| **Кніжныя:**<br>1. Навуковы | Сфера навукі, тэхнікі і навучання (гэта стыль навуковых прац, падручнікаў і лекцый па навучальных дысцыплінах) | Шырокае ўжыванне навуковых і тэхнічных тэрмінаў, адназначных, нявобразных слоў; аднароднасць лексікі і шматкратнае ўжыванне адных і тых жа слоў; шырокае выкарыстанне абстрактнай лексікі; ужыванне слоў з канкрэтным значэннем для абазначэння агульных паняццяў; рэдкае ўжыванне эмацыянальных слоў і слоў з пераносным значэннем |
| 2. Публіцыстычны | Абслугоўвае сферу грамадскіх адносін (выкарыстоўваецца ў грамадска-палітычнай літаратуры, перыядычным друку, палітычных выступленнях, прамовах, на радыё і тэлебачанні); адрасуецца шырокім масам | Вялікая колькасць абстрактнай лексікі і лексікі грамадска-палітычнага характару; наяўнасць стандартных устойлівых выразаў; арганічнае спалучэнне грамадска-палітычнай тэрміналогіі і моўных сродкаў для выказвання настрою, пачуццяў (эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі — эпітэтаў, метафар, перыфразаў, гіпербал і інш.); шырокае выкарыстанне ацэначнай лексікі |
| 3. Афіцыйны | Афіцыйныя службовыя адносіны, адміністрацыйна-прававыя ўзаемаадносіны, дыпламатычныя адносіны | Асаблівая афіцыйнасць афарбоўкі (своеасаблівая кніжная лексіка, вялікая колькасць тэрмінаў для абазначэння розных юрыдычных паняццяў, дакументаў, назваў асоб); вялікая колькасць канцылярскіх штампаў; ужыванне дзеясловаў з загадным значэннем; адсутнасць слоў з пераносным значэннем і вобразных сродкаў мовы |
| 4. Мастацкі | Духоўная сфера жыцця грамадства. Камунікатыўная функцыя — перадача пэўнага зместу; эстэтычная функцыя — уздзеянне на чытача праз мастацкія вобразы | Спалучэнне элементаў усіх стыляў; многагалоссе (спалучэнне мовы аўтара і мовы персанажаў). Лексіка ўсіх стыляў, паэтычныя і народна-паэтычныя словы; вобразнасць, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць (шырокае выкарыстанне сінтаксічна-стылістычных фігур, да якіх адносяцца анафара, эпіфара, антытэза, аксюмаран і інш.); наяўнасць вобразных моўна-выяўленчых сродкаў, да якіх адносяцца тропы (метафара, метанімія, сінекдаха, гіпербала, літота, увасабленне, адухаўленне), прыказкі, прымаўкі, пісьменніцкія неалагізмы і аказіяналізмы |



## ТЭСТЫ

**Варыянт 1.** Выпішыце слова, якое ў прыведзеным шэрагу абазначае лішні жанр маўлення:
*аповесць*, *навэла*, *раман*, *аўтабіяграфія*, *казка*.

---

**Варыянт 2.** Вызначце стыль кожнага тэксту і пазначце яго адпаведнай лічбай: ***1 — навуковы***; ***2 — публіцыстычны***; ***3 — мастацкі***; ***4 — афіцыйны***; ***5 — гутарковы***. ***Увага:*** адказы могуць паўтарацца.

**А.** Сяброўства — вялікая справа. Па-першае, яно не церпіць несумленных, баязлівых людзей. Не церпіць сяброўства зазнаек, якія паважаюць толькі сябе. Не церпіць таму, што сяброўства — вялікі абавязак, які ўскладзены на чалавека. Сяброўства абавязвае кожнага рабіць штосьці добрае для свайго сябра.

Калі чалавек культурны, смелы, калі ў яго цвёрды характар, вялікая воля, калі ён не кідае слоў на вецер, то ён з гонарам зможа выканаць гэтыя абавязкі. Ён заўсёды будзе тваім сябрам. Чаму? Таму, што ён зможа ў любы

момант выручыць цябе з бяды, дапамагчы табе ў цяжкіх умовах, утрымаць ад дрэннага ўчынку. Сяброўства — гэта гатоўнасць пайсці на ахвяру дзеля таварыша (*Я. Маўр*).

**Б.** Зіма — пара года, кліматычны сезон з найбольш нізкімі для пэўнай тэрыторыі тэмпературамі паветра. У астранамічным разуменні — гэта прамежак часу ад моманту зімовага сонцастаяння да вясенняга раўнадзенства (з 22-га снежня да 20 сакавіка ў Паўночным паўшар'і, з 21-га чэрвеня да 23-га верасня — у Паўднёвым). Зімовымі месяцамі ў Паўночным паўшар'і ўмоўна лічаць снежань, студзень і люты, у Паўднёвым — чэрвень, ліпень і жнівень. Ва ўмераных шыротах, у тым ліку і ў Беларусі, зіма характарызуецца перавагай марознага надвор'я з утварэннем устойлівага снегавога покрыва, ледаставу на рэках і азёрах, спыненнем вегетацыі раслін, спячкай або анабіёзам у многіх відаў жывёл (*Энцыклапедычны даведнік «Геаграфічныя паняцці і тэрміны»*).

**В.** Сярод ночы пачало падмарожваць — снег зрадзеў і сеяўся, як праз сіта, сухі і лёгкі. Ціха асядаў упоцемку, шапацеў, нібы праз сон. За ноч патаўсцелі ўсланыя гэтым лёгкім пухам тонкія старыя стрэхі гумнаў і хат. Высокімі ганарыстымі каўпакамі снег сядзеў на рассохлых слупках у плоце, белымі вужамі выкруціўся на тоўстых суках дрэў, пухкаю ватаю начапляўся на калючы дрот, белым вывернутым кажухом накрыў падвязаны куст божага дрэўца ў гародчыку (*В. Адамчык*).

**Г.** Лета было гарачае і, здавалася, доўгае.

Жнівень падышоў да сярэдзіны. Раніцамі на лагу ўжо выпадала густая з начы раса, халодная, аж калола ў ногі. Ночы рабіліся ціхія, вільготныя і цёмныя. У цьмяным небе, нізкім, навіслым, як старая дзіравая страха над пуняй, рэдка і скупа, што праз туман, мігцелі зоркі. Млечны Шлях рабіўся сівы і расплываўся ўгары над усёй вёскай.

Кожную ноч падалі зоркі. Зрываліся над самым дваром і ляцелі аж на лес, пакідаючы за сабой жоўценькую вузенькую нітку, нібы хто хуценька шоргаў сярнічкай па чорным ад сажы чалесніку ў печы. Ад іх рабілася відно на небе ў адным месцы і адразу ў другім: круці галавой, пакуль не зловіш вачыма. На лагу і далёка за ракой кожны дзень ляжаў сівы туман. Паяўляўся адразу на захадзе сонца, спачатку ля самай ракі, пасля вышэй, на лагу. Слаўся вузкімі сінімі палосамі, адна на адну, высока над зямлёй, упоравень з платамі (*Я. Сіпакоў*).

**Д.** Аб'ява

Заўтра, 2. 04. 2014, а 14-й гадзіне ў актавай зале адбудзецца сустрэча з прадстаўнікамі Белтэлерадыёкампаніі.

Аргкамітэт.

**Е.** Нічога, сынок, за так не даецца. Хто стукаецца ў дзверы — таму адчыняюць. Але ж бывае і інакш! Чалавеку баліць — ён крычыць да пасінення, а яго не чуюць! Вось у чым штука... Ты запомні. У жыцці, ведаеш... загадваць рызыкоўна. Жыццё, яно... эх, сынок! (*У. Глушакоў*).

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐ **Д** ☐ **Е** ☐

**Варыянт 3.** Прааналізуйце тэкст і выканайце заданні да яго. ***Увага:*** у тэксце пранумараваны не сказы, а абзацы.

(1) Барадулін — гэта чараўнік.

(2) Найперш — чараўнік паэтычнай ***стыхіі(1)***, якая жыве ў ім, мабыць, з дня яго нараджэння, і які сам жыве ў ёй, вольна і радасна, як жыве птушка ў палёце, рыба ў вадзе, самаадданая жанчына ў каханні... Вобразы ягонай паэзіі, ***гнуткія(2)*** і хлёсткія, нечаканыя і ***ўтончаныя(3)***, — грацыёзныя ***служкі(4)*** яго бязмежнай ***фантазіі(5)*** і яго думкі — афарыстычнай і парадаксальнай, мужнай і чалавечнай.

(3) Барадулін — дзіця народнай стыхіі, ён увасабляе яе без знарочыстасці і натугі — проста, натуральна і лёгка, бо тая яго народнасць — сапраўды ад народа, з якога ён выйшаў і якім жыве... У ягонай народнасці — спрадвечна сялянскае, амаль язычніцкае адчуванне прыроды, уласнага кутка і жытла, мілай несамавітай Ушаччыны, сардэчныя гімны якой, не перастаючы, гучаць у ягонай паэзіі.

(4) Для каго паэзія — гэта космас і гмахі, веліч і гучнасць, для Барадуліна ж гэта найперш першазданная існасць: лес, поле, залева, прыпар, золак, дасвецце. Але таксама і драма жыцця і смерці, вайна, чалавек, каханне. Ягоныя вершы поўняцца пошумам дрэў, травянымі пахамі, сельскімі радасцямі...

(5) Барадулін — чараўнік народнага слова.

(6) Пэўна, як ні ў кога іншага з ягоных сучаснікаў, паэтычнае слова ў Барадуліна зіхаціць і пераліваецца ўсімі колерамі, гучыць, як ***бубен(1)***, і спявае, бы скрыпка. І ўсё з такім спрытам і густам, на якія толькі і здольнае сапраўды паэтычнае слова. Нават самыя непаслухмяныя, ***каструбаватыя(2)*** словы нашае мовы, усе гэтыя празаізмы, ***дыялектызмы(3)***, ***варварызмы(4)*** і няўклюдныя ***неалагізмы(5)***, трапіўшы ў барадулінскі радок, дзівосна пераўтвараюцца, робяцца надзіва зграбныя і гнуткія...

(7) ...Барадулін як чалавек і паэт невычэрпны. Бо ён арганічна таленавіты. І яшчэ ён зменлівы. Зменлівы, як кожная жывая істота, як талент, які бярэ ад жыцця на шматпакутнай святой зямлі пад сонцам любае Бацькаўшчыны... (*В. Быкаў*).

№ 1. Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць тэксту:

- [ ] 1) тэкст адказвае на агульнае пытанне: *які прадмет маўлення?*;
- [ ] 2) стыль тэксту *публіцыстычны*;
- [ ] 3) тып тэксту — *апавяданне*;
- [ ] 4) сувязь сказаў у ***7-м*** абзацы *паслядоўная*;
- [ ] 5) асноўная думка тэксту выражана ў *апошнім* сказе.

№ 2. Вызначце, якія з падкрэсленых у ***2-м*** абзацы і пранумараваных слоў ужыты ў пераносным значэнні. Запішыце нумары гэтых слоў.

___

№ 3. Вызначце, якія з падкрэсленых у ***6-м*** абзацы і пранумараваных слоў з'яўляюцца тэрмінамі. Запішыце нумары гэтых слоў.

___

№ 4. Адзначце, пры дапамозе якіх сродкаў звязаны сказы ў ***3-м*** абзацы:

- [ ] 1) сінонім;
- [ ] 2) займеннік;
- [ ] 3) лексічны паўтор;
- [ ] 4) непаўната сказа;
- [ ] 5) злучнік.

# УРОК 60 Праверачны тэст

## Частка А

**А1.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***э***:

- [ ] 1) р_дказямельны;
- [ ] 2) ш_лясцець;
- [ ] 3) бр_зентавы;
- [ ] 4) _кспанат;
- [ ] 5) растр_вожаны.

**А2.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску пішацца літара ***я***:

- [ ] 1) в_трыска;
- [ ] 2) вып_чаны;
- [ ] 3) вугл_кіслы;
- [ ] 4) в_нгерскі;
- [ ] 5) ц_жкаваты.

**А3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць літару ***ў***:

- [ ] 1) а_дыенцыя;
- [ ] 2) малады _нтэр-афіцэр;
- [ ] 3) мастакі-_мельцы;
- [ ] 4) шлагба_м;
- [ ] 5) медаль «За адвагу» _ручаны.

**А4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропуску трэба пісаць ***мяккі знак***:

- [ ] 1) ін_екцыя;
- [ ] 2) міл_ярд;
- [ ] 3) верф_;
- [ ] 4) аген_чык;
- [ ] 5) кін_ма.

**А5.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- [ ] 1) кішэнны;
- [ ] 2) вільгаццю;
- [ ] 3) задуманны;
- [ ] 4) группавы;
- [ ] 5) паднябесье.

**А6.** Адзначце правільна напісаныя словы:

- [ ] 1) хадайніцтва;
- [ ] 2) цёччын;
- [ ] 3) атцясніць;
- [ ] 4) журналістскі;
- [ ] 5) кантрасны.

**A7.** Адзначце словы, у якіх выдзелены ***канчаткі***:

- ☐ 1) заснаван***ы***;
- ☐ 2) апранаю***ся***;
- ☐ 3) існава***ў***;
- ☐ 4) пастукаўш***ы***;
- ☐ 5) чырвон***ыя***.

**A8.** Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць выдзеленаму ў сказе назоўніку:
*Быццам у кручыне, галаву схіляе старадаўні* ***бор*** (П. Глебка).

- ☐ 1) агульны;
- ☐ 2) канкрэтны;
- ☐ 3) адушаўлёны;
- ☐ 4) асабовы;
- ☐ 5) зборны.

**A9.** Адзначце словы, якія трэба пісаць ***праз злучок***:

- ☐ 1) (стэрэа) апаратура;
- ☐ 2) (паў) Еўропы;
- ☐ 3) (гука) маскіроўка;
- ☐ 4) (піяніст) імправізатар;
- ☐ 5) (генерал) маёр.

**A10.** Сярод пранумараваных у сказе слоў вызначце ***прыметнікі***. Адзначце нумары гэтых слоў:
*Праз заснежаныя[1] лапкі хваін ён добра бачыў лісіцу, асветленую сонцам, зграбную[2], прывабную ў сваім[3] рыжым уборы, зусім нейкую[4] па-хатняму свойскую[5], дамашнюю і прыгожую* (А. Асіпенка).

☐☐☐☐☐

**A11.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія трэба пісаць ***разам***:

- ☐ 1) (агра) культурны;
- ☐ 2) (нью) ёркскі;
- ☐ 3) (інша) гародні;
- ☐ 4) (фізічна) здаровы;
- ☐ 5) (нізка) каларыйны.

**A12.** Адзначце характарыстыкі, якія адпавядаюць падкрэсленаму ў сказе дзеяслову:
*Да вясны так далёка, без цябе адзінока... Пералётная птушка,* ***вяртайся*** *хутчэй* (М. Шабовіч).

- ☐ 1) I спражэння;
- ☐ 2) закончанага трывання;
- ☐ 3) зваротны;
- ☐ 4) абвеснага ладу;
- ☐ 5) ужыты ў форме 3-й асобы адзіночнага ліку.

**A13.** Устанавіце адпаведнасць паміж дзеясловамі і іх канчаткамі ў форме першай асобы множнага ліку. Запішыце нумар правільнага адказу.

| | |
|---|---|
| **А.** Ісці | **1.** -ем |
| **Б.** Дагледзець | **2.** -ём |
| **В.** Скакаць | **3.** -ім |
| **Г.** Памнажаць | **4.** -ым |
| | **5.** -ам |

- ☐ 1) А2Б3В1Г4;
- ☐ 2) А1Б2В4Г5;
- ☐ 3) А2Б3В5Г1;
- ☐ 4) А3Б2В1Г5;
- ☐ 5) А1Б3В4Г2.

**A14.** Адзначце прыклады, у якіх выдзеленыя словы пішуцца ***разам***:

- ☐ 1) прывык (***з***) ***малку***;
- ☐ 2) паўтаралася (***што***) ***месяц***;
- ☐ 3) (***у***) ***дзень*** нараджэння;
- ☐ 4) пераскочыў (***з***) ***разгону***;
- ☐ 5) кінуліся (***ў***) ***рассыпную***.

**A15.** Адзначце прыклады, у якіх ***не***, ***ні*** з выдзеленымі словамі трэба пісаць ***асобна***:

- ☐ 1) (***ні***) ***чым*** не цікавіўся;
- ☐ 2) (***не***) ***шкадуючы*** добрых слоў;
- ☐ 3) (***не***) ***горш*** за іншых;
- ☐ 4) зусім (***не***) ***далёка*** ад нас;
- ☐ 5) да каго б (***ні***) ***зайшоў***.

**A16.** Адзначце сказы, у якіх на месцы ўсіх пропускаў пішацца ***ні***:

- ☐ 1) І вызначаліся ў лесе такія з'явы, якіх раней ніхто __ мог бы заўважыць (*А. Кулакоўскі*).
- ☐ 2) Што __ кветка, што __ травіна — то свой гоман, свой нораў, сваё жыццё (*В. Карамазаў*).
- ☐ 3) Я __ без гонару глядзеў на сухую, энергічную пастаць бацькі, ад якой павявала адвагай, бесшабашнасцю, хоць і __ без прымесі хвалявання (*У. Глушакоў*).
- ☐ 4) На полі не відаць было __ душы (*І. Новікаў*).
- ☐ 5) Хор лясны — птушыны гоман — не змаўкае __ на момант (*Н. Галіноўская*).

**А17.** Адзначце словазлучэнні, правільна перакладзеныя на беларускую мову:

☐ 1) сбегать за яблоками — збегаць па яблыкі;
☐ 2) написать по адресу — напісаць на адрас;
☐ 3) крепче железа — мацней жалеза;
☐ 4) заведующий кафедрой — загадчык кафедры;
☐ 5) в трёх метрах от нас — за тры метры ад нас;
☐ 6) вкуснее всего — смачней усяго;
☐ 7) женился на однокурснице — ажаніўся на аднакурсніцы;
☐ 8) посмеиваться над ним — пасмейвацца з яго;
☐ 9) четыре новых дома — чатыры новых дамы;
☐ 10) простить всех — даравацъ усіх.

**А18.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і іх сінтаксічнай роляй. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Роўна і светла ахінала ***наваколле*** цішыня (*М. Стральцоў*).<br>**Б.** Стол белым абрусам ***засланы***, дыміцца абед на стале (*М. Калачынскі*).<br>**В.** ***Дасягнуць*** лесу не склала цяжкасці (*М. Лобан*).<br>**Г.** Выніку паездка ***ў Міханавічы*** не дала (*І. Навуменка*). | **1.** Дзейнік.<br>**2.** Выказнік.<br>**3.** Азначэнне.<br>**4.** Дапаўненне.<br>**5.** Акалічнасць. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**А19.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба ***абавязкова*** паставіць працяжнік:

☐ 1) Родная зямелька __ як зморанаму пасцелька (*Прыказка*).
☐ 2) Жыццё __ адказнейшы экзамен, яго ніяк не абмінеш (*Ю. Свірка*).
☐ 3) Шчасце __ нідзе не спыняцца ў дарозе (*С. Грахоўскі*).
☐ 4) Ну, а буралом __ не тое дрэва, што вяршыняй цягнецца да неба (*Я. Крупенька*).
☐ 5) А бор __ такі духмяны, загадкавы такі! (*П. Панчанка*).

**А20.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Вецер пах вадою__ і смаловым настоем далёкіх__ і блізкіх бароў (*С. Грахоўскі*).
☐ 2) Халодныя, нізкія__ набрынялыя вільгаццю воблакі позняй восені плылі, здавалася, па самай вуліцы (*Я. Сіпакоў*).
☐ 3) У выніку ўсіх гэтых захадаў__ ці не ў выніку, але страхі яго мінулі (*М. Лобан*).
☐ 4) А што робіць са снегам неспакойны вецер__ то надзьме велізарныя дзівосныя сумёты, то навырабляе мудрагелістых, падобных на дзіўных звяроў, фігурак, то пранясецца па полі густой калючай замецццю (*В. Стома*).
☐ 5) У памяці да кожнае драбніцы дождж густы__ і пошум вербаў ніцых, і нашых мар свавольных матылі (*М. Шабовіч*).

**А21.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Дзяўчына пра каліну заспявае__ нібы зарэчны звонкі салавей... (*П. Сушко*).
☐ 2) І праз некалькі хвілін дзеці селі__ як адзін (*Н. Галіноўская*).
☐ 3) Неба__ як і раней__было зацягнута воблакамі (*І. Навуменка*).
☐ 4) Надзя гаварыла гэта__ быццам і са смехам, але з такой непрыхаванай радасцю (*З. Прыгодзіч*).
☐ 5) З даўніх часоў чалавека вабілі азёры__ як крыніцы пітной вады, магчымасць здабычы рыбы і выкарыстання іх__ як водных шляхоў (*Энцыклапедычны даведнік «Геаграфія Беларусі»*).

**А22.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

☐ 1) Захоплены ўласным спрытам і жвавасцю__ [Матузка] на час забыўся пра пагрозлівыя абставіны (*В. Быкаў*).
☐ 2) Марудна пасоўваючыся пад аблокамі__ і самотна курлыкаючы, ляцеў там у невядомую далеч невялікі ланцужок жураваў (*В. Быкаў*).

3) Яна [сарока], як і павінна быць, прыляцела, папераскоквала з дрэва на дрэва і__ разведаўшы ўсё цікавае, паляцела перадаваць навіны іншым птушкам (*І. Навуменка*).

4) Ледзь пратаптаная__ сцежка ўвяла яго [Адама] ў стары хвойнік (*К. Чорны*).

5) На хвіліну на ўсіх__ акрамя Мацвея__ найшло збянтэжанне (*М. Лобан*).

**А23.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску (пропускаў) трэба паставіць коску (коскі):

1) Назвы нашых сёл, гарадоў і вуліц__ іх таксама трэба браць пад ахову__ разам з чалавечымі прозвішчамі складаюць самае яркае ў моўным запасе кожнай мовы і нясуць водгукі гісторыі кожнага народа (*М. Лужанін*).

2) Мастацтва__ на мой погляд__ — гэта перш за ўсё пачуццё, а затым ужо — думка (*З. Прыгодзіч*).

3) З акна Івана Раманавіча__ відаць__ густая сценка маладых сучкаватых хвоек з дзвюма жоўтымі свечкамі бярозак пасярэдзіне (*А. Кудравец*).

4) Гэта__ і сапраўды__ было дзіва (*А. Асіпенка*).

5) Які ты пышны__ сад зялёны (*Н. Галіноўская*).

**А24.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

1) Значыцца, скончылася возера__ і пачаўся бераг (*Я. Маўр*).

2) За акном, цераз вуліцу, за чорнай зямлёй агародаў, нібы перавернутая зубамі ўгору піла, стаяў лес__ і над ім вялікім ірдзяным кругам вісела сонца (*А. Кудравец*).

3) Між цёмных узбярэжных камянёў ціха плёхалі дробныя хвалі__ і зыбка гойдаліся чорныя, поўныя смалістага паху чаўны (*В. Быкаў*).

4) О вясна, вясна, чаму ты век між намі не жывеш__ і нашто зіме ты лютай край на здзекі аддаеш? (*М. Засім*).

5) Добры баршчок__ ды замалы гаршчок (*Прыказка*).

**А25.** Адзначце складаназалежныя сказы ***з некалькімі даданымі часткамі***, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць коску:

1) Успаміны, нібы шырокая ціхая плынь, у якую ўваходзіш паступова__ і якая як рукой здымае здарожанасць, авалодвалі ім [Васілём] (*У. Саламаха*).

2) Прыемна глядзець на танклявыя бярозкі, якія прабягаюць за вокнамі, на маладзенькія дубкі__ што ўбіраюцца ў красу і сілу (*А. Марціновіч*).

3) Агееў памарудзіў з адказам, бо__ хоць і трэба было адказваць, яму нічога не было зразумела (*В. Быкаў*).

4) А вунь там__ дзе рака паварочвае, дзяўчаты, нарваўшы кветак, сядзелі на беразе, спявалі песні і плялі вянкі, а потым кідалі іх у раку (*А. Марціновіч*).

5) Ад самага краю [Мікалай] убачыў, што па гэтай жа сцежачцы бяжыць, спяшаецца перад ім птушанятка__ і прыбавіў кроку, каб дагнаць яго (*Я. Сіпакоў*).

**А26.** Адзначце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на месцы пропуску трэба паставіць двукроп'е:

1) Не зоркім паглядам, не постаццю гнуткай праславіўся хлопец__ праславілі рукі! (*П. Броўка*).

2) Чую шэпт калосся ў жытнім полі__ чую звон пчаліных верасоў (*М. Маляўка*).

3) Нішто жывое не траціць цяпер дарэмна гэтых апошніх залатых дзянькоў__ хтоназапашвае на зіму кармы, хто спяшаецца цёплае жыллё на зіму ўладкаваць, хто проста жыруе, набіраецца сілы (*Р. Ігнаценка*).

4) Пасмы снегу раз-пораз перабягалі цераз дарогу, праносіліся ў паветры перад вачыма__ ад гэтага ўсё выглядала варухлівым, неспакойным і нібы няпэўным (*І. Мележ*).

5) У халодных слязах пакідае паспешна нас лета, душа халадзее ад думкі__ няўжо назаўжды? (*Н. Маеўская*).

**А27.** Запішыце нумары пропускаў, на месцы якіх трэба паставіць коску:

*Забываўся [Іван Васільевіч] часам назвы*[1]__ *як і прозвішчы, але*[2]__ *каб завязалі вочы і прывялі ў любое сяло, якое наведаў хоць аднойчы*[3]__ *ён беспамылкова сказаў бы*[4]__ *калі ён тут быў*[5]__ *і з якімі людзьмі сустракаўся* (І. Шамякін).

**А28.** Адзначце, які знак прыпынку прапушчаны пры афармленні простай мовы:
*«Куды вы, жоравы? Вярніцеся, чуеце!.. — хочацца крыкнуць мне ім услед, але крык чамусьці перасядае ў горле, і я толькі бязгучна шапчу губамі: Вярніцеся, жоравы...»* (З. Прыгодзіч).

- 1) працяжнік;
- 2) двукроп'е;
- 3) коска;
- 4) пытальны знак;
- 5) кропка.

**А29.** Адзначце правільныя сцверджанні:

- 1) ***паўтара*** — *дробавы* лічэбнік;
- 2) дзеяслоў у форме інфінітыва можа быць любым членам сказа;
- 3) займеннікі ***сам*** і ***самы*** маюць аднолькавыя склонавыя формы;
- 4) аднасастаўныя сказы з'яўляюцца *няпоўнымі*;
- 5) зваротак у сказе выконвае ролю *дзейніка*.

**Тэкст да заданняў А30—А32, В1, В3, В5, В7, В8**

(1) Ён [Хведар] убачыў перад сабой ***нізкі*** ***падлесак*** і за ім нешырокі прасцяг асакі, за якім ***усчыналіся*** ***глухія*** ***зараснікі*** лазы і алешніку. (2) То пачыналася Багавізна... (3) Многія пакаленні жыхароў шмат чаго чулі пра яе ад старэйшых і ў сваю чаргу расказвалі ўнукам неверагодныя... гісторыі, што там здараліся з людзьмі... (4) Казалі, там быў нейкі ***падземны(1) ход(2)*** ці рака, што злучала ***тамашнія(3)*** прадонні ***з іншымі(4)*** вірамі і ***азёрамі(5)***...

(5) Дзесяць вёрст суцэльнае багны і віроў, між якімі ліпелі чэзлыя вольхі, аер, ***зараснікі*** трыснягу ды на купінах буяў улетку лазняк. (6) Туды ніколі не хадзілі па ягады і журавіны, якіх там заўжды было процьма, не лавілі рыбы... (7) Зімой Багавізна трохі падмярзала, але яе шматлікія вокны-прадонні нават у самы люты мароз браліся тоненькім лёдам, які не трымаў чалавека. (8) ***Хіба*** што ваўка... (9) Некалі там вадзілася багата мядзведзяў, якія не давалі спакою жыхарам суседніх паселішчаў.

(10) Хведар памятаў, як дзед расказваў пра адну такую сустрэчу з касалапым каля Багавізны, дзе старога заспела залева і ён схаваўся ў выпаленае пастухамі дубовае дупло. (11) Ліў дождж, было цемнавата, а ў дупле і зусім стала цёмна, калі ў яго сунулася нешта касматае. (12) Дзед сцяўся ні жывы ні мёртвы: мядзведзь так прыціснуў яго... што нельга было дыхнуць. (13) Касалапы зручна ўмясціўся ў дупле, мабыць мяркуючы адпачыць тут да ранку. (14) Але дзеду адпачываць не было як: яму трэба было араць поле, а раней знайсці і ***забраць*** каня, якога ён пусціў недалёка папасвіцца. (15) І як было вылезці, каб не патрывожыць няпрошанага госця? (16) Доўга дзед думаў, а тады як крыкне, і той мядзведзь, як корак з бутэлькі, выскачыў з дупла. (17) Такая была Багавізна (*Паводле В. Быкава*).

**А30.** Адзначце правільна ўтвораныя ад асновы дзеяслова, падкрэсленага ў ***14-м*** сказе, ***дзеепрыметнік*** і ***дзеепрыслоўе***:

- 1) забіраючы;
- 2) забраны;
- 3) забраўшы;
- 4) забранны;
- 5) забіраны.

**А31.** З пранумараваных у ***4-м*** сказе слоў (спалучэння слоў) выберыце тыя, у якіх вымаўленне не супадае з напісаннем. Запішыце нумары гэтых слоў.

**А32.** З падкрэсленых у ***1-м*** сказе слоў знайдзіце тое, што ўжыта ў пераносным значэнні. Запішыце слова ў пачатковай форме.

## Частка В

**В1.** Знайдзіце ў ***5-м*** сказе лічэбнік і запішыце яго ў форме творнага склону.

**В2.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах словамі і пунктамі з правага слупка. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Ды ***за тое*** была Марылька такая смелая, што і хлопец другі не дакажа.<br>**Б.** Лёгкі туманок хаваўся ў кустах, ад ***чаго*** глухлі гукі.<br>**В.** Кветкі так густа абляпілі галінкі, ***што*** саміх галінак не было відаць.<br>**Г.** ***Нашто*** ты расказаў сястры пра тое здарэнне? | **1.** Прыслоўе.<br>**2.** Напісана з памылкай.<br>**3.** Падпарадкавальны злучнік.<br>**4.** Адносны займеннік.<br>**5.** Указальны займеннік. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**В3.** Вызначце спосаб утварэння падкрэсленага ў ***5-м*** сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

______________________________________________

**В4.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі ў сказах спалучэннямі слоў і пунктамі з правага слупка. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Заўтра, ***таго і глядзі***, і да нас з праверкай прыедуць.<br>**Б.** Хутарок яго — ***сярэдняй рукі***.<br>**В.** Амаль месяц бацька і сын ***вачэй не высоўвалі*** на вуліцу.<br>**Г.** Цяпер нам на катамаране трэба было прайсці самае ***вузкае месца*** ў затоцы. | **1.** Фразеалагізм, які мае значэнне '*нельга прычапіцца да чаго-небудзь*'.<br>**2.** Фразеалагізм, які ў сказе выконвае ролю *выказніка*.<br>**3.** Няправільна пабудаваны фразеалагізм.<br>**4.** Свабоднае словазлучэнне.<br>**5.** Фразеалагізм, які мае сінонім *чаго добрага*. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**В5.** Вызначце часцінамоўную прыналежнасць выдзеленага ў ***8-м*** сказе слова. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

______________________________________________

**В6.** Устанавіце адпаведнасць паміж сказамі і іх відам. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| **А.** Вось кабінет Коласа (*С. Кухараў*).<br>**Б.** Прапанову Грыца аднадушна адхіляюць (*І. Навуменка*).<br>**В.** Мне таксама трэба было на той, на процілеглы бок (*У. Глушакоў*).<br>**Г.** Люблю дугу-вясёлку над зямлёй... (*Я. Крупенька*). | **1.** Аднасастаўны, развіты.<br>**2.** Двухсастаўны, няпоўны.<br>**3.** Назыўны, развіты.<br>**4.** Безасабовы.<br>**5.** Няпэўна-асабовы. |

**А** ☐ **Б** ☐ **В** ☐ **Г** ☐

**В7.** Сярод сказаў ***1—5*** знайдзіце сказ, звязаны з папярэднім пры дапамозе займенніка. Нумар сказа запішыце лічбай.

☐

**В8.** Вызначце ***стыль*** і ***тып*** тэксту. Адзначце правільны адказ:

☐ 1) навуковы стыль, апавяданне;
☐ 2) мастацкі стыль, разважанне;
☐ 3) мастацкі стыль, апісанне з элементамі апавядання;
☐ 4) публіцыстычны стыль, апісанне;
☐ 5) публіцыстычны стыль, разважанне з элементамі апавядання.

# Ключы з каментарыямі

## Урок 1. Пробны тэст

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| A1 | 1, 2, 4 | A9 | 1, 3, 5 | A17 | 1, 2 | A25 | 1, 2 | B1 | двумастамі |
| A2 | 2, 3 | A10 | 2, 4 | A18 | 1, 2 | A26 | 1, 3 | B2 | працы, стоме, рацэ |
| A3 | 2, 4, 5 | A11 | 1, 3, 4, 5 | A19 | 1, 3 | A27 | 2, 5 | B3 | павароту |
| A4 | 1, 2, 4 | A12 | 3, 4, 5 | A20 | 3, 4 | A28 | 1, 3 | B4 | А4Б3В1Г2 |
| A5 | 2, 3, 4 | A13 | 2 | A21 | 2, 4, 5 | A29 | 1, 5 | B5 | злучнік |
| A6 | 3, 4 | A14 | 2, 3, 5 | A22 | 3, 4, 5 | A30 | 3, 4 | B6 | А2Б4В5Г3 |
| A7 | 2, 4 | A15 | 2, 4, 5 | A23 | 2, 4 | A31 | 3, 4, 5 | B7 | 13 |
| A8 | 2 | A16 | 1, 3, 4 | A24 | 1, 4 | A32 | 2, 3, 4 | B8 | мастацкі |

## Урок 2. Лексічныя характарыстыкі слова

**Тэст № 1.** 3.

| Словазлучэнні | Словы | Характарыстыка | Каментарый |
|---|---|---|---|
| А | ***Нізкая*** якасць — ***нізкая*** яблыня | Мнагазначнае слова | Паміж значэннямі ёсць сэнсавая сувязь (адзін сінонім: *невысокая*) |
| Б | ***Маўклівая*** згода — ***гаваркая*** бабуля | Антонімы | Пары слоў адной часціны мовы з процілеглым значэннем |
| В | ***Незвычайная*** далікатнасць — ***выключная*** памяць | Сінонімы | Абазначаюць адно паняцце |
| Г | ***Крытычны*** артыкул — ***крытычны*** стан | Амонімы | Маюць празнае лексічнае значэнне, але супадаюць у напісанні і ў гучанні: ***крытычны*** артыкул (які заключае ў сабе крытыку) — ***крытычны*** стан (цяжкі, небяспечны) |

**Тэст № 2.** 1, 3, 7.

Усе словы адносяцца да неадушаўлёных прадметаў, а абазначаюць дзеянні, уласцівыя адушаўлёным прадметам.

**Варыянт 1.** 2, 3, 6, 7, 9.

Усе словы адносяцца да неадушаўлёных прадметаў, а абазначаюць дзеянні і якасці, уласцівыя адушаўлёным прадметам.

**Варыянт 2.** 2, 3, 5.

***1*** — слова *недарэчны* лішняе; ***4*** — слова *самотны* лішняе.

**Варыянт 3.** 3, 4.

***1*** — слова *прыдатны* мае значэнне ‘*прыгодны, з патрэбнымі якасцямі*’; ***2*** — слова *плённы* мае значэнне ‘*прадукцыйны*’; ***5*** — слова *арыгінальны* мае значэнне ‘*своеасаблівы*’.

**Варыянт 4.** 5.

| № | Словы | Характарыстыка | Каментарый |
|---|---|---|---|
| А | *Сухая* ***быліна*** *— прачытаная* ***быліна*** | Амонімы | Маюць рознае лексічнае значэнне, але супадаюць у напісанні і ў гучанні: *сухая* ***быліна*** (сцябліна) — *прачытаная* ***быліна*** (народная эпічная песня) |
| Б | ***Далікатна*** *крануць —* ***тактоўна*** *прамаўчаць* | Сінонімы | Абазначаюць адно паняцце |
| В | ***Знарок*** *зачапіў —* ***выпадкова*** *зайшоў* | Антонімы | Пары слоў адной часціны мовы з процілеглым значэннем |
| Г | ***Знак*** *увагі — грашовы* ***знак*** | Мнагазначнае слова | Паміж значэннямі ёсць сэнсавая сувязь (значэнне ‘*метка, прымета, умоўнае абазначэнне*’) |

**Варыянт 5.** 2, 3, 4.

***1*** — мнагазначнае слова: значэнне ‘*адысці*’; ***5*** — мнагазначнае слова: значэнне ‘*наблізіць*’.

**Варыянт 6.** 3, 4, 5.

***1*** — *сабалёвая*; ***2*** — *тактоўны*.

**Варыянт 7.** *Гаспадарлівы*.

**Варыянт 8.** *Драбнець*.

**Варыянт 9.** А2Б4В3Г1.

**Варыянт 10.** 2, 3, 4.

***1*** — сінонім *зменлівы*; ***5*** — слова адназначнае.

## Урок 3. Значэнне фразеалагізмаў і іх ужыванне

**Тэст № 1.** А3Б4В1Г5.

**Тэст № 2.** А2Б4В5Г1.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Варыянт 1 | А2Б3В5Г1 | Варыянт 5 | А4Б5В2Г1 | Варыянт 9 | А2Б3В1Г5 |
| Варыянт 2 | А4Б5В1Г2 | Варыянт 6 | А3Б1В2Г5 | Варыянт 10 | А3Б1В2Г5 |
| Варыянт 3 | А4Б5В1Г3 | Варыянт 7 | А3Б5В1Г4 | | |
| Варыянт 4 | А2Б4В5Г3 | Варыянт 8 | А4Б3В5Г2 | | |

## Урок 4. Фанетыка. Класіфікацыя гукаў беларускай мовы

**Тэст № 1.** 3, 5, 6, 10.

| № | Слова | Транскрыпцыя | № | Слова | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | шчаўе | [шча́ўйэ] | 6 | выязджаў | [выйажджа́ў] |
| 2 | хімія | [х’і́м’ійа] | 7 | насенне | [нас’э́н̅’э] |
| 3 | выявіць | [вы́йав’іц’] | 8 | дзьме | [дз’м’э] |
| 4 | вялікая | [в’ал’і́кайа] | 9 | ганарыцца | [ганары́ц̅а] |
| 5 | трашчаў | [трашча́ў] | 10 | альянс | [ал’йа́нс] |

**Тэст № 2.** 3, 4, 5.
[с’ц’э́шк’і]: ***1*** — вымаўленне слова не адпавядае яго напісанню; ***2*** — у слове няма санорных зычных гукаў.

**Варыянт 1.** 3, 4, 5, 6, 8.

***1*** — галосныя ўтвараюцца пры дапамозе голасу; ***2*** — зычныя не ўтвараюць складоў; ***7*** — для гукаў [д] і [т] пазіцыя перад [ч] або [ц] з'яўляецца слабай: ***адчапіць*** — [ач̄ап'і́ц'], *у* ***лодцы*** — [у‿ло́ц̄ы], ***вытча*** — [вы́ч̄а], ***цётцы*** — [ц'о́ц̄ы]; ***9*** — для свісцячых пазіцыя перад шыпячымі з'ўляецца слабай: ***сшыць*** — [ш̄ыц'], ***разжаваць*** — [раж̄ава́ц']; ***10*** — галосныя не пад націскам знаходзяцца ў слабай пазіцыі.

**Варыянт 2.** А4Б3В2Г1.

**Варыянт 3.** 3, 4, 6, 9, 10.

***1*** — [грэ́чка]: [г] звонкі, [р] санорны; ***2*** — [ко́ўшык]: [ў] санорны; ***5*** — [п'айэ́ш]: [й] санорны; ***7*** — [паку́йуц']: [й] санорны; ***8*** — [к'ійо́чак]: [й] санорны.

**Варыянт 4.** 2, 4, 6, 7, 9.

| № | Слова | Транскрыпцыя | № | Слова | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | шчаслівы | [шчас'л'і́вы] | 6 | сцюдзёны | [с'ц'удз'о́ны] |
| 2 | дождж | [дошч] | 7 | ванна | [ва́н̄а] |
| 3 | якасць | [йа́кас'ц'] | 8 | дзіўная | [дз'і́ўнайа] |
| 4 | абуджаюць | [абуджа́йуц'] | 9 | агеньчык | [аг'э́н'чык] |
| 5 | адзвінеў | [адз'в'ін'э́ў] | 10 | ад'язджаюць | [адйаждджа́йуц'] |

**Варыянт 5.** 1, 3, 5, 7, 9.

| № | Слова | Транскрыпцыя | № | Слова | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | апошнія | [апо́шн'ійа] | 6 | яблынька | [йа́блын'ка] |
| 2 | ігліца | [ігл'і́ца] | 7 | аб'ява | [абйа́ва] |
| 3 | салаўі | [салаўйі́] | 8 | знойдзецца | [зно́йдз'эц̄а] |
| 4 | здаецца | [здайэ́ц̄а] | 9 | дыягназ | [дыйа́гнас] |
| 5 | знаёмы | [знайо́мы] | 10 | батальён | [батал'йо́н] |

**Варыянт 6.** 2, 4, 6, 10.

| № | Слова | Транскрыпцыя | № | Слова | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | сям'я | [с'амйа́] | 6 | прыязджаў | [прыйажджа́ў] |
| 2 | надзея | [надз'э́йа] | 7 | вяселле | [в'ас'э́л̄'э] |
| 3 | абуджаць | [абуджа́ц'] | 8 | агеньчык | [аг'э́н'чык] |
| 4 | мяккая | [м'а́к̄айа] | 9 | змагацца | [змага́ц̄а] |
| 5 | блішчыць | [бл'ішчы́ц'] | 10 | брыльянт | [брыл'йа́нт] |

**Варыянт 7.** 2, 3, 4, 5.
***1*** — вымаўленне слова не адпавядае яго напісанню ([п'арс'ц'о́нак]).

**Варыянт 8.** 1, 4, 5.
***2*** — у слове два санорныя зычныя гукі [й] ([гайда́йэц̄а]); ***3*** — у слове ёсць глухі зычны гук [ц̄].

**Варыянт 9.** 2, 5.
***1*** — у слове колькасць гукаў і літар не супадае ([прас'в'атл'э́н̄'а]); ***3*** — у слове ёсць глухія зычныя гукі [п], [с'], [т]; ***4*** — у слове ёсць свісцячы зычны гук [с'].

**Варыянт 10.** 1, 2, 4, 5.

***3*** — у слове ёсць глухія зычныя гукі [т], [ч], [с'], [ц'] ([тайамн'і́час'ц']).

# Урок 5. Беларускае літаратурнае вымаўленне. Націск

## Беларускае літаратурнае вымаўленне

**Тэст № 1.** 1, 4, 5, 7, 9.

| № | Слова | Транскрыпцыя | № | Слова | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | спяваць | [***с'***п'ава́ц'] | 6 | аб'ём | [абйо́м] |
| 2 | вагончык | [ваго́нчык] | 7 | здзівіцца | [***з'***дз'ів'і́ц͡а] |
| 3 | згінуць | [зг'і́нуц'] | 8 | расплюшчыць | [распл'у́шчыц'] |
| 4 | пранізлівы | [пран'і́***з'***л'івы] | 9 | з'ехаць | [***з'***йэ́хац'] |
| 5 | без зімы | [б'э***з'***͡з'імы́] | 10 | расхістаць | [расх'іста́ц'] |

**Тэст № 2.** 2, 3, 5, 6, 7, 8, 10.

| № | Слова | Транскрыпцыя | № | Слова | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | раскіснуць | [раск'і́снуц'] | 6 | экзатычны | [э***г***заты́чны] |
| 2 | ад чаго | [а***ч̄***аго́] | 7 | у яме | [у͡***йа́***м'э] |
| 3 | з мёдам | [***з'***͡м'о́дам] | 8 | з кропкай | [***с***͡кро́пкай] |
| 4 | рух і транспарт | [рух͡і͡тра́нспарт] | 9 | гаварлівы | [гаварл'і́вы] |
| 5 | праязны | [пра***йа***зны́] | 10 | футболка | [фу***д***бо́лка] |

**Варыянт 1.** 1, 4, 5, 6, 7, 9.

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [***с'***м'айа́ц͡а] | Свісцячыя [з], [с] перад мяккімі зычнымі (за выключэннем [г'], [ґ'], [к'], [х']) вымаўляюцца мякка |
| 2 | [буто́***н***чык] | Наступны зычны зацвярдзелы |
| 3 | [***з***г'іна́ц͡а] | Свісцячыя [з], [с] перад зычнымі [г'], [ґ'], [к'], [х'] не змякчаюцца |
| 4 | [шча***с'***л'і́вы] | Свісцячыя [з], [с] перад мяккімі зычнымі (за выключэннем [г'], [ґ'], [к'], [х']) вымаўляюцца мякка |
| 5 | [б'а***з'***͡з'э́л'эн'і] | Свісцячыя [з], [с] перад мяккімі зычнымі (за выключэннем [г'], [ґ'], [к'], [х']) вымаўляюцца мякка |
| 6 | [па***ц'***в'э́л'вац͡а] | Свісцячы гук [ц], які не ўтварыўся з [т], перад мяккім [в'] вымаўляецца як мяккі |
| 7 | [аб'э́***дз'***в'э] | Свісцячы гук [дз] перад мяккім [в'] вымаўляецца як мяккі |
| 8 | [***с***пл'у] | Наступны зычны цвёрды |
| 9 | [***з'***йэм] | Свісцячыя [з], [с] перад мяккімі зычнымі (за выключэннем [г'], [ґ'], [к'], [х']) вымаўляюцца мякка |
| 10 | [***с***к'эпты́чна] | Свісцячыя [з], [с] перад зычнымі [г'], [ґ'], [к'], [х'] не змякчаюцца |

**Варыянт 2.** 1, 2, 4, 6, 10.

***1***, ***2***, ***6***, ***10*** — спалучэнні [дч], [тч] вымаўляюцца як падоўжаны [ч]; ***4*** — фанетычнае падаўжэнне; ***3***, ***7***, ***9*** — свісцячыя [с], [з] перад глухім шыпячым [ч] вымаўляюцца як глухі шыпячы [ш]; ***5***, ***8*** — спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна.

**Варыянт 3.** 1, 4, 5, 6, 7.

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [узвы́***ш̄***а] | Фанетычнае падаўжэнне |
| 2 | [патп'і́***шч***ык] | Свісцячы [с] перад глухім шыпячым [ч] вымаўляецца як глухі шыпячы [ш], а спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 3 | [***шч***а́ўйэ] | Спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 4 | [ра***ш̄***ырыц'] | Свісцячы [с] прыпадабняецца да глухога шыпячага [ш] |

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 5 | [б’э**ш**акала́ду] | Свісцячы [з] у адным фанетычным слове прыпадабняецца да глухога шыпячага [ш] |
| 6 | [падн’о́**ш**ы] | Свісцячы [с] прыпадабняецца да глухога шыпячага [ш] |
| 7 | [**ш**у́мам] | Свісцячы [с] у адным фанетычным слове прыпадабняецца да глухога шыпячага [ш] |
| 8 | [у**шч**ап’і́ца] | Свісцячы [с] перад глухім шыпячым [ч] вымаўляецца як глухі шыпячы [ш], а спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 9 | [са**шч**ам’і́ц’] | Спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 10 | [п’а**шч**ы́нка] | Свісцячы [с] перад глухім шыпячым [ч] вымаўляецца як глухі шыпячы [ш], а спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна |

**Варыянт 4.** 2, 4, 5, 6, 7, 8.

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [п’эрайа**жджа́**ц’] | Свісцячы [з] перад звонкім шыпячым [дж] вымаўляецца як звонкі шыпячы [дж], а спалучэнне двух звонкіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 2 | [**ж**урав’і́н] | Свісцячы [з] у адным фанетычным слове прыпадабняецца да звонкага шыпячага [ж] |
| 3 | [да**ждж**ы́нка] | Спалучэнне двух звонкіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 4 | [ра**ж**а́л’іц’] | Свісцячы [з] прыпадабняецца да звонкага шыпячага [ж] |
| 5 | [падаро́**ж**а] | Фанетычнае падаўжэнне |
| 6 | [б’а**ж**а́ртаў] | Свісцячы [з] у адным фанетычным слове прыпадабняецца да звонкага шыпячага [ж] |
| 7 | [**ж**а́ты] | Свісцячы [з] прыпадабняецца да звонкага шыпячага [ж] |
| 8 | [б’э**ж**ыц’о́ва] | Свісцячы [з] прыпадабняецца да звонкага шыпячага [ж] |
| 9 | [усхо́**дж**ас’ц’] | Адзін зычны гук [дж] |
| 10 | [дра**ждж**авы́] | Спалучэнне двух звонкіх шыпячых вымаўляецца нязменна |

**Варыянт 5.** 2, 4, 6, 8, 9.

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [пад**ж**ава́ц’] | *пад-* — прыстаўка, [ж] — каранёвы гук |
| 2 | [сала**дж**а́вы] | [дж] перад галосным вымаўляецца нязменна |
| 3 | [дош**ч**] | [дж] на канцы слова аглушаецца |
| 4 | [з’йэ́ж**дж**у] | [дж] перад галосным вымаўляецца нязменна |
| 5 | [ад**ж**ына́ц’] | *ад-* — прыстаўка, [ж] — каранёвы гук |
| 6 | [л’і́**дж**бавы] | Глухі зычны [ч] перад звонкім [б] азванчаецца |
| 7 | [ад**ж**ы́ты] | *ад-* — прыстаўка, [ж] — каранёвы гук |
| 8 | [даж**дж**л’і́вы] | [дж] перад санорным вымаўляецца нязменна |
| 9 | [прадугл’э́**дж**вац’] | [дж] перад санорным вымаўляецца нязменна |
| 10 | [пад**ж**ы́лк’і] | *пад-* — прыстаўка, [ж] — каранёвы гук |

**Варыянт 6.** 1, 3, 5, 8.

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [**дз’**э́с’ац’] | Гук [дз’] перад галоснай ***е*** |
| 2 | [пад**з’**ам’э́л’ны] | *пад-* — прыстаўка, [з’] — каранёвы гук |
| 3 | [на**дз’**му́ты] | [дз’] перад зычным вымаўляецца мякка, бо ў іншых формах гэты зычны таксама можа вымаўляцца мякка: [на**дз’м’**э] |
| 4 | [за́пав’э**ц’**] | [дз’] на канцы слова аглушаецца |
| 5 | [м’а**дз’**в’э́ц’] | [дз’] перад санорным вымаўляецца нязменна |
| 6 | [ад**з**ван’і́ц’] | *ад-* — прыстаўка, [з] — каранёвы гук (цвёрды) |
| 7 | [м’э**ц’**] | [дз’] на канцы слова аглушаецца |
| 8 | [на**дз’**э́йа] | Гук [дз’] перад галоснай ***е*** |

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 9 | [пад**з**ыва́ц’] | *пад-* — прыстаўка, [з] — каранёвы гук (цвёрды) |
| 10 | [забу́***ц̄’***э] | [дз’] у сярэдзіне слова перад глухім [ц’] аглушаецца |

**Варыянт 7.** 1, 2, 4, 5, 6, 7, 8, 9.

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [ра***ш***чын’і́ц’] | Свісцячы [с] перад глухім шыпячым [ч] вымаўляецца як глухі шыпячы [ш] |
| 2 | [***ш***чы́л’іна] | Спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 3 | [вага́йэ***с̄’***а] | Шыпячы [ш] перад мяккім свісцячым [с’] вымаўляецца як мяккі свісцячы [с’] |
| 4 | [разно́***ш***чык] | Свісцячы [с] перад глухім шыпячым [ч] вымаўляецца як глухі шыпячы [ш] |
| 5 | [сту́***ш***ка] | [ж] перад глухім зычным [к] аглушаецца |
| 6 | [разлу́***ш***чаны] | Спалучэнне двух глухіх шыпячых вымаўляецца нязменна |
| 7 | [***ш***⁀чыгу́нк’і] | Свісцячы [з] у адным фанетычным слове перад глухім шыпячым [ч] вымаўляецца як глухі шыпячы [ш] |
| 8 | [рэ́***ш***чыцк’і] | Свісцячы [з] перад глухім шыпячым [ч] вымаўляецца як глухі шыпячы [ш] |
| 9 | [м’іра́***ш***] | [ж] на канцы слова аглушаецца |
| 10 | [нарэ́***с’***ц’э] | Шыпячы [ш] перад мяккім свісцячым [ц’] вымаўляецца як мяккі свісцячы [с’] |

**Варыянт 8.** 1, 2, 5, 6, 7, 8, 9.

| № | Транскрыпцыя | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [вы́ра***й***] | У адпаведнасці з вымаўленнем |
| 2 | [раз’***й***о́мны] | Літара ***ё*** пасля апострафа абазначае гукі [йо] |
| 3 | [з⁀ыго́лкам’і] | Літара ***і*** не пад націскам абазначае гук [ы]: папярэдняе слова (прыназоўнік) заканчваецца на зычны |
| 4 | [п’ал’о́стк’і] | Літара ***і*** стаіць пасля зычнага, абазначае яго мяккасць і перадае гук [і] |
| 5 | [***й***э́лачка] | Літара ***е*** ў пачатку слова абазначае гукі [йэ] |
| 6 | [з’⁀***й***і́м’і] | Літара ***і*** ў пачатку слова пад націскам абазначае гукі [йі] |
| 7 | [ускра́***й***іна] | Літара ***і*** ў сярэдзіне слова пасля галоснага абазначае гукі [йі] |
| 8 | [ды***й***ам’э́нты] | Літара ***я*** ў сярэдзіне слова пасля галоснага абазначае гукі [йа] |
| 9 | [за***й***і́н’эц’] | Літара ***і*** ў сярэдзіне слова пасля галоснага абазначае гукі [йі] |
| 10 | [іс’ц’і́] | Літара ***і*** ў пачатку слова не пад націскам абазначае гук [і]; другая літара ***і*** стаіць пасля зычнага, абазначае яго мяккасць і перадае гук [і] |

**Варыянт 9.** 1, 2, 4, 7, 10.

| № | Словa | Транскрыпцыя | № | Словa | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | ускіпець | [уск’іп’э́ц’] | 6 | адказваць | [а***т***ка́звац’] |
| 2 | адразу | [адра́зу] | 7 | ткацтва | [тка́цтва] |
| 3 | змазчык | [зма́***ш***чык] | 8 | пясняр | [п’а***с’***н’а́р] |
| 4 | не зрабіў | [н’э⁀зраб’і́ў] | 9 | садаводства | [садаво́***ц***тва] |
| 5 | лагчына | [ла***х***чы́на] | 10 | дажджысты | [дажджы́сты] |

**Варыянт 10.** 2, 3, 5, 6, 7, 8, 10.

| № | Словa | Транскрыпцыя | № | Словa | Транскрыпцыя |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | раскідваць | [раск’і́двац’] | 6 | экзамен | [э***г***за́м’эн] |
| 2 | адчыніць | [а***ч̄***ын’і́ц’] | 7 | у яго | [у⁀***йа***го́] |
| 3 | з лесу | [***з’***⁀л’э́су] | 8 | з хаты | [***с***⁀ха́ты] |
| 4 | сок і цукеркі | [сок⁀і⁀цук’э́рк’і] | 9 | сварлівы | [сварл’і́вы] |
| 5 | мядзведжы | [м’а***дз’***в’э́джы] | 10 | бейсболка | [б’эй***з***бо́лка] |

## Націск

**Тэст № 1.** 1, 2, 3.

**Тэст № 2.** 1, 2, 4.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Варыянт 1 | 3, 4, 6, 9 | Варыянт 5 | 1, 3, 5, 7, 8 | Варыянт 9 | 1, 2, 5, 6, 7, 10 |
| Варыянт 2 | 2, 3, 5, 8, 9 | Варыянт 6 | 1, 3, 4, 5, 8, 9, 10 | Варыянт 10 | 1, 3, 4, 5, 6, 7, 8 |
| Варыянт 3 | 1, 4, 5, 6, 7, 9, 10 | Варыянт 7 | 2, 6, 7, 8, 10 | | |
| Варыянт 4 | 1, 3, 6, 9 | Варыянт 8 | 1, 2, 3, 6, 7, 9, 10 | | |

## Урок 6. Правапіс галосных О, Э — А, Ы ў простых словах

**Тэст № 1.** 1, 2, 4, 7, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ж**а**ле́йка | Літара ***а*** пішацца ў ненаціскным становішчы пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных у адпаведнасці з вымаўленнем |
| 2 | ч**а**рне́ць | Галосны гук [о] ў ненаціскным становішчы чаргуецца з [а] |
| 3 | накр**ы**шы́ць | Не падпарадкоўваюцца правілу перадачы акання ў вымаўленні і на пісьме словы са спалучэннямі ***ро***, ***ло***, якія не пад націскам чаргуюцца з ***ры***, ***лы*** |
| 4 | ар**а**ндава́ць | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** не пад націскам у спрадвечнабеларускіх словах і запазычаннях са славянскіх моў, у тым ліку і ва ўласных імёнах |
| 5 | гіпо́т**э**за | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 6 | і́нд**э**кс | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 7 | д**а**ліка́тны | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** не пад націскам у спрадвечнабеларускіх словах і запазычаннях са славянскіх моў, у тым ліку і ва ўласных імёнах |
| 8 | кват**а**ра́нт | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** не пад націскам у спрадвечнабеларускіх словах і запазычаннях са славянскіх моў, цалкам адаптаваных у беларускай мове |
| 9 | канды́т**а**р | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** ў ненаціскных фіналях ***-эль***, ***-эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |
| 10 | по́ч**ы**рк | У адпаведнасці з вымаўленнем у некаторых беларускіх словах (іх трэба запомніць) пішацца ***ы*** |

**Тэст № 2.** 2, 4, 5, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | сві́т**а**р | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** ў ненаціскных фіналях ***-эль***, ***-эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |
| 2 | с**э́**рвіс | Пасля ***губных*** і ***з***, ***с***, ***н*** згодна з літаратурным вымаўленнем (слоўнікавае слова) |
| 3 | ш**а**вялю́ра | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** не пад націскам у спрадвечнабеларускіх словах і запазычаннях са славянскіх моў, цалкам адаптаваных у беларускай мове |
| 4 | вад**э**ві́ль | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 5 | Пі́т**э**р | Літара ***э*** захоўваецца ў ненаціскных фіналях ***-эль***, ***-эр*** ва ўласных назоўніках (і вытворных ад іх словах), запазычаных з неславянскіх моў |
| 6 | ч**а**ка́ніць | Літара ***а*** пішацца ў ненаціскным становішчы пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных у адпаведнасці з вымаўленнем |
| 7 | кап**э́**ла | Пасля губнога зычнага згодна з літаратурным вымаўленнем |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 8 | шні́ц**а**ль | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** ў ненацiскных фiналях ***-эль***, ***-эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |
| 9 | бандэро́ль | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 10 | інж**ы**не́р | У адпаведнасці з вымаўленнем у некаторых беларускіх словах (іх трэба запомніць) пішацца ***ы*** |

**Тэст № 3.** 1, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | бр**ы**зе́нт | У адпаведнасці з вымаўленнем у некаторых словах (іх трэба запомніць) пішацца ***ы*** |
| 2 | ш**э**дэ́ўр | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 3 | апт**ы**мі́ст | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 4 | гр**ы**ме́ць | Не падпарадкоўваюцца правілу перадачы акання ў вымаўленні і на пісьме словы са спалучэннямі ***ро***, ***ло***, якія не пад націскам чаргуюцца з ***ры***, ***лы*** |
| 5 | д**ы**рэ́кцыя | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 6 | гл**ы**та́ць | Не падпарадкоўваюцца правілу перадачы акання ў вымаўленні і на пісьме словы са спалучэннямі ***ро***, ***ло***, якія не пад націскам чаргуюцца з ***ры***, ***лы*** |
| 7 | канц**ы**ля́рыя | У адпаведнасці з вымаўленнем у некаторых словах (іх трэба запомніць) пішацца ***ы*** |
| 8 | д**ы**за́йнер | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 9 | ч**ы**гу́н | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 10 | агр**э**га́т | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |

**Варыянт 1.** 1, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | пац**а**лава́ць | Літара ***а*** пішацца ў ненацiскным становiшчы пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных у адпаведнасці з вымаўленнем |
| 2 | д**э**та́ль | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 3 | аст**э**ро́ід | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 4 | вы́карч**а**ваць | Галосны гук [о] ў ненацiскным становiшчы чаргуецца з [а] |
| 5 | ат**э**става́ць | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 6 | вы́кр**а**слены | Галосны гук [э] ў ненацiскным становiшчы чаргуецца з [а] |
| 7 | раскр**ы**шы́ць | Не падпарадкоўваюцца правілу перадачы акання ў вымаўленні і на пісьме словы са спалучэннямі ***ро***, ***ло***, якія не пад націскам чаргуюцца з ***ры***, ***лы*** |
| 8 | галант**а**рэ́я | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** не пад націскам у даўніх запазычаннях (з неславянскіх моў), цалкам адаптаваных у беларускай мове |
| 9 | га́нд**а**ль | Літара ***а*** пішацца на месцы ***э*** ў ненацiскных фiналях ***-эль***, ***-эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |
| 10 | Юпі́т**э**р | Літара ***э*** захоўваецца ў ненацiскных фiналях ***-эль***, ***-эр*** ва ўласных назоўніках (і вытворных ад іх словах), запазычаных з неславянскіх моў |

**Варыянт 2.** 2, 4, 5, 7, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | д**э**дэро́н | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 2 | пры́нт***а***р | Літара ***а*** пішацца на месцы **э** ў ненаціскных фіналях **-*эль***, **-*эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |
| 3 | альт**э**рнаты́ва | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 4 | шпа́т***а***ль | Літара ***а*** пішацца на месцы **э** ў ненаціскных фіналях **-*эль***, **-*эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |
| 5 | тр***а***скатня́ | Галосны гук [э] ў ненаціскным становішчы чаргуецца з [а] |
| 6 | ж**э**стыкуля́цыя | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 7 | літ***а***рату́рны | Літара ***а*** пішацца на месцы **э** не пад націскам у даўніх запазычаннях з неславянскіх моў, цалкам адаптаваных у беларускай мове |
| 8 | бяр***э́***знік | Пад націскам згодна з літаратурным вымаўленнем |
| 9 | паш***а***вялі́цца | Літара ***а*** пішацца ў ненаціскным становішчы пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных у адпаведнасці з вымаўленнем |
| 10 | ч***а***рні́ла | Галосны гук [о] ў ненаціскным становішчы чаргуецца з [а] |

**Варыянт 3.** 3, 4, 6, 7, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | тр**ы**во́га | Літара **ы** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 2 | інд**ы**віду́альны | Літара **ы** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 3 | інгр**э**дые́нт | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 4 | р**э**е́стр | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 5 | д**ы**лета́нт | Літара **ы** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 6 | ка́т**э**т | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 7 | о́рд**э**н | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 8 | палан***э́***з | Пасля ***губных*** і ***з***, ***с***, ***н*** згодна з літаратурным вымаўленнем (слоўнікавае слова) |
| 9 | ш***а***сцярня́ | Галосны гук [э] ў ненаціскным становішчы чаргуецца з [а] |
| 10 | пан***э́***ль | Пасля ***губных*** і ***з***, ***с***, ***н*** згодна з літаратурным вымаўленнем (слоўнікавае слова) |

**Варыянт 4.** 1, 3, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | экз**э**мпля́р | Пасля ***губных*** і ***з***, ***с***, ***н*** згодна з літаратурным вымаўленнем (слоўнікавае слова) |
| 2 | ар**ы**штава́ць | Літара **ы** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 3 | с***э́***канд-х***э́***нд | Згодна з літаратурным вымаўленнем (слоўнікавае слова) |
| 4 | тун***э́***ль | Пасля ***губных*** і ***з***, ***с***, ***н*** згодна з літаратурным вымаўленнем (слоўнікавае слова) |
| 5 | дыспе́тч***а***р | Літара ***а*** пішацца на месцы **э** ў ненаціскных фіналях **-*эль***, **-*эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |
| 6 | д**э**задара́нт | Не пад націскам **э** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 7 | ску́т***а***р | Літара ***а*** пішацца на месцы **э** ў ненаціскных фіналях **-*эль***, **-*эр*** у запазычаных словах (агульных назоўніках і вытворных ад іх словах) |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 8 | ур**э**гуляваць | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 9 | ас**э**нсаваць | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў словах з коранем ***-сэнс-*** |
| 10 | д**ы**сертацыя | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |

**Варыянт 5.** 2, 3, 5, 7, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | працэ**д**ура | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 2 | інц**ы**дэнт | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 3 | гор**ы**ч | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 4 | р**э**актар | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў прыстаўцы ***рэ-*** |
| 5 | др**ы**вотня | Не падпарадкоўваюцца правілу перадачы акання ў вымаўленні і на пісьме словы са спалучэннямі ***ро***, ***ло***, якія не пад націскам чаргуюцца з ***ры***, ***лы*** |
| 6 | д**э**дукты́ўны | Не пад націскам ***э*** захоўваецца ў сярэдзіне слоў, запазычаных з неславянскіх моў, пасля ***зацвярдзелых***, а таксама пасля ***д*** і ***т*** |
| 7 | зар**ы**ва | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 8 | д**ы**рыжор | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 9 | задр**а**маць | Галосны гук [э] ў ненаціскным становішчы чаргуецца з [а] |
| 10 | д**ы**скрымінацыя | Літара ***ы*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |

# Урок 7. Правапіс галосных О, Э — А, Ы ў складаных словах

**Тэст № 1.** 1, 3, 5, 6, 7, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | выс**о**камастацкі | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 2 | т**а**нкаствольы | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 3 | в**о**даканал | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 4 | ст**а**тысячны | Першая частка з’яўляецца формай роднага склону лічэбніка ***сто*** і захоўваецца нязменна незалежна ад націску |
| 5 | сл**о**ватворчасць | Літара ***о*** ў першай частцы захоўваецца незалежна ад націску ў другой частцы ў складаных словах, першымі часткамі якіх з’яўляюцца ***слова-***, ***што-***, ***фота-***, ***мота-***, ***грос-***, ***контр-***, ***проці-*** |
| 6 | п**о**літэхнічны | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 7 | ф**о**таздымак | Літара ***о*** ў першай частцы захоўваецца незалежна ад націску ў другой частцы ў складаных словах, першымі часткамі якіх з’яўляюцца ***слова-***, ***што-***, ***фота-***, ***мота-***, ***грос-***, ***контр-***, ***проці-*** |
| 8 | в**о**гнеўстойлівы | Калі першы націскны склад другой часткі пачынаецца з ***ў***, у першай частцы захоўваецца ***о*** |
| 9 | ч**о**рна-белы | Кожная частка складаных слоў, якія пішуцца праз злучок, мае свой націск |
| 10 | м**а**латабоец | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |

**Тэст № 2.** 1, 3, 4, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | выс***а***каро́дны | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 2 | пр***э***снаво́дны | Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца (акрамя складаных слоў, у якіх першая частка з'яўляецца формай лічэбніка ў родным склоне) |
| 3 | ст***а***то́нны | Першая частка з'яўляецца формай роднага склону лічэбніка ***сто*** і захоўваецца нязменна незалежна ад націску |
| 4 | ч***а***рнагры́вы | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 5 | пч***о***ларазвядзе́нне | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 6 | п***а***ліклі́ніка | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 7 | кр***ы***вяно́сны | Адбываецца чаргаванне складоў са спалучэннямі ***ро***, ***рэ*** са складамі з ***ры*** (націск падае на першы склад другой часткі, таму ў першай на месцы ***о*** ўзнікае ***ы***) |
| 8 | ф***а***тагра́фія | Слова-выключэнне з часткай ***фота-*** |
| 9 | пр***о***цівага́з | Частка ***проці-*** пішацца з літарай ***о*** незалежна ад націску ў другой частцы складанага слова |
| 10 | п***а***ўнале́цце | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |

**Варыянт 1.** 2, 3, 5, 7, 8.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | м***а***таво́з | Слова-выключэнне з часткай ***мота-*** |
| 2 | усх***о***дазна́вец | Літара ***о*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца ў словах-тэрмінах з першай часткай ***усхода-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 3 | в***о***даправо́дны | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 4 | ст***а***го́дні | Першая частка з'яўляецца формай роднага склону лічэбніка ***сто*** і захоўваецца нязменна незалежна ад націску |
| 5 | п***о***лівітамі́ны | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 6 | с***а***нцапёк | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 7 | пр***о***цібо́левы | Частка ***проці-*** пішацца з літарай ***о*** незалежна ад націску ў другой частцы складанага слова |
| 8 | мал***о***чнакі́слы | Літара ***о*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца ў словах-тэрмінах з першай часткай ***малочна-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 9 | в***а***страсло́ў | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 10 | м***а***тацыклі́ст | Слова-выключэнне з часткай ***мота-*** |

**Варыянт 2.** 1, 2, 4, 5, 7, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | руж***о***ватва́ры | Літара ***о*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца ў словах з першай часткай ***ружова-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 2 | н***о***ваўтво́раны | Калі першы націскны склад другой часткі пачынаецца з ***ў***, у першай частцы захоўваецца ***о*** |
| 3 | ст***а***метро́вы | Першая частка з'яўляецца формай роднага склону лічэбніка ***сто*** і захоўваецца нязменна незалежна ад націску |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 4 | ч**о**рна-бу́ры | Кожная частка складаных слоў, якія пішуцца праз злучок, мае свой націск |
| 5 | тр**о**хсотто́нны | Першая частка з'яўляецца формай роднага склону лічэбніка ***трыста*** і захоўваецца нязменна незалежна ад націску |
| 6 | п**а**літэ́хнікум | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 7 | м**о**вазна́ўства | Літара ***о*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца ў словах-тэрмінах з першай часткай ***мова-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 8 | р**а**ўнапра́ўе | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 9 | в**а**дацёк | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 10 | м**о**таго́нкі | Літара ***о*** ў першай частцы захоўваецца незалежна ад націску ў другой частцы ў складаных словах, першымі часткамі якіх з'яўляюцца ***слова-***, ***што-***, ***фота-***, ***мота-***, ***грос-***, ***контр-***, ***проці-*** |

**Варыянт 3.** 1, 3, 5, 7, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | зак**а**нада́ўства | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 2 | ч**о**рнавало́сы | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 3 | мн**а**газна́чны | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 4 | свабо**о**далю́бства | Літара ***о*** захоўваецца ў першай частцы ***свабода-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 5 | ф**а**таграфі́чны | Слова-выключэнне з часткай ***фота-*** |
| 6 | пр**о**цývі́русны | Частка ***проці-*** пішацца з літарай ***о*** незалежна ад націску ў другой частцы складанага слова |
| 7 | ст**а**рублёвы | Першая частка з'яўляецца формай роднага склону лічэбніка ***сто*** і захоўваецца нязменна незалежна ад націску |
| 8 | г**а**рналы́жнік | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 9 | др**ы**васе́к | Адбываецца чаргаванне складоў са спалучэннямі ***ро***, ***рэ*** са складамі з ***ры*** (націск падае на першы склад другой часткі, таму ў першай на месцы ***о*** ўзнікае ***ы***) |
| 10 | д**а**брадзе́й | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |

**Варыянт 4.** 1, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | б**а**мбасхо́вішча | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 2 | гр**о**сма́йстар | Літара ***о*** захоўваецца ў першай частцы ***грос-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 3 | р**о**ўназале́жны | У першай частцы складанага слова з націскам не на першым складзе другой часткі пішацца літара ***о*** |
| 4 | свабо**о**далю́бны | Літара ***о*** захоўваецца ў першай частцы ***свабода-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 5 | д**а**ўгале́цце | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 6 | п**а**ўнакро́ўны | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 7 | прыр**о**дазна́вец | Літара ***о*** захоўваецца ў першай частцы ***прырода-*** незалежна ад націску ў другой частцы |
| 8 | ж**а**ўталі́сце | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 9 | ч**а**рнабро́вы | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 10 | ф**о**така́мера | Літара ***о*** захоўваецца ў першай частцы ***фота-*** незалежна ад націску ў другой частцы |

**Варыянт 5.** 2, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | стр**ы**мгало́ў | Адбываецца чаргаванне складоў са спалучэннямі ***ро***, ***рэ*** са складамі з ***ры*** (націск падае на першы склад другой часткі, таму ў першай на месцы ***о*** ўзнікае ***ы***) |
| 2 | ш**э**разём | Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца (акрамя складаных слоў, у якіх першая частка з'яўляецца формай лічэбніка ў родным склоне) |
| 3 | стр**э**лаві́дны | Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца (акрамя складаных слоў, у якіх першая частка з'яўляецца формай лічэбніка ў родным склоне) |
| 4 | сонц**а**стая́нне | Злучальная галосная ***а*** пішацца пасля цвёрдых асноў (першых частак складанага слова) не пад націскам |
| 5 | ш**э**сцьсо́т | Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца (акрамя складаных слоў, у якіх першая частка з'яўляецца формай лічэбніка ў родным склоне) |
| 6 | др**э**ванасаджэ́нне | Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца (акрамя складаных слоў, у якіх першая частка з'яўляецца формай лічэбніка ў родным склоне) |
| 7 | пч**а**лаво́дства | У першай частцы складанага слова з націскам на першым складзе другой часткі пішацца літара ***а*** |
| 8 | ц**э**наўтварэ́нне | Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца (акрамя складаных слоў, у якіх першая частка з'яўляецца формай лічэбніка ў родным склоне) |
| 9 | р**э**дканасе́лены | Літара ***э*** ў першай частцы заўсёды захоўваецца (акрамя складаных слоў, у якіх першая частка з'яўляецца формай лічэбніка ў родным склоне) |
| 10 | ш**а**сцісо́ты | Парадкавы лічэбнік, у якім першая частка захоўваецца ў форме роднага склону |

## Урок 8. Правапіс галосных Е, Ё — Я ў простых словах

**Тэст № 1.** 2, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | б**я**спо́шлінны | Літара ***я*** замест ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***без-*** (***бес-***) у першым складзе перад націскам |
| 2 | с**е**ляні́н | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 3 | гн**е**здава́нне | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 4 | ве́**я**лка | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах ***-ялк-*** і ***-янк-*** у назоўніках, утвораных ад дзеясловаў |
| 5 | вег**е**та́цыя | Літара ***е*** пішацца ў ненаціскных складах пасля [г'], [к'], [х'] |
| 6 | гал**е**рэ́я | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 7 | с**я**мна́ццаты | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |
| 8 | абан**е**ме́нт | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 9 | вы́см**е**яць | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 10 | н**я**ўзго́днены | Літара ***я*** замест ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***не-*** ў першым складзе перад націскам |

**Тэст № 2.** 2, 4, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | вы́л***е***піць | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 2 | дз***я***вя́цера | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |
| 3 | ск***е***пты́чны | Літара ***е*** пішацца ў ненаціскных складах пасля [г'], [к'], [х'] |
| 4 | кал***я***ндáр | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у даўно запазычаных словах |
| 5 | сýв***я***зь | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах назоўнікаў ***-яч***, ***-язь***, ***-ядзь*** |
| 6 | ц***я***жкавáты | Традыцыйнае напісанне ў няпершым пераднаціскным складзе |
| 7 | в***е***львéт | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 8 | кáшл***я***ць | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў некаторых суфіксах дзеясловаў |
| 9 | спóв***е***дзь | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 10 | аві***я***цы́йны | Спалучэнне галосных (***іа***) у запазычаным слове не пад націскам |

**Варыянт 1.** 1, 2, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | цéм***е***нь | Літара ***е*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах назоўнікаў, акрамя ***-яч***, ***-язь***, ***-ядзь*** |
| 2 | лег***е***ндáрны | Літара ***е*** пішацца ў ненаціскных складах пасля [г'], [к'], [х'] |
| 3 | ды***я***метрáльны | Спалучэнне галосных (***іа***) у запазычаным слове не пад націскам |
| 4 | адв***я***чóрак | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |
| 5 | унів***е***рсáльны | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 6 | акс***е***суáры | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 7 | пáм***я***ць | Традыцыйнае напісанне ў пасляцiскным складзе |
| 8 | н***е***людзі́мы | Літара ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***не-*** не ў першым складзе перад націскам |
| 9 | бóязь | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах назоўнікаў ***-яч***, ***-язь***, ***-ядзь*** |
| 10 | дз***е***сяткóвы | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |

**Варыянт 2.** 1, 3, 5, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | баск***е***тбóл | Літара ***е*** пішацца ў ненаціскных складах пасля [г'], [к'], [х'] |
| 2 | дрóб***я***зь | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах назоўнікаў ***-яч***, ***-язь***, ***-ядзь*** |
| 3 | б***е***згустóўны | Літара ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***без-*** не ў першым складзе перад націскам |
| 4 | н***я***éзджаны | Літара ***я*** замест ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***не-*** ў першым складзе перад націскам |
| 5 | в***é***нзель | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 6 | сé***я***лка | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах ***-ялк-*** і ***-янк-*** у назоўніках, утвораных ад дзеясловаў |
| 7 | б***е***нзі́н | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 8 | дз***я***вя́ты | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |
| 9 | вы́л***е***цець | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 10 | ты́с***я***чны | Традыцыйнае напісанне ў паслянаціскным складзе |

**Варыянт 3.** 2, 3, 4, 7, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | б**я**здзе́йны | Літара ***я*** пішацца ў прыстаўцы ***без-*** у першым складзе перад націскам |
| 2 | ве́с**е**ла | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 3 | л**е**ге́нда | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 4 | з**е**ні́т | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 5 | **я**длаўцо́вы | Традыцыйнае напісанне незалежна ад націску |
| 6 | цац**я**ру́к | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |
| 7 | н**е**загó йны | Літара ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***не-*** не ў першым складзе перад націскам |
| 8 | з**е**ляні́на | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 9 | пал**е**шукі́ | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 10 | дал**я**чы́нь | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |

**Варыянт 4.** 1, 3, 5, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ла́**я**нка | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах ***-ялк-*** і ***-янк-*** у назоўніках, утвораных ад дзеясловаў |
| 2 | эл**е**ме́нт | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 3 | вы́гл**я**д | Традыцыйнае напісанне незалежна ад націску |
| 4 | бал**е**ры́на | Літара ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам у словах, запазычаных з неславянскіх моў |
| 5 | та**я**мні́ца | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |
| 6 | цв**е**рдава́ты | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 7 | н**я**ўхі́льна | Літара ***я*** замест ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***не-*** ў першым складзе перад націскам |
| 8 | вы́дз**е**ўбці | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 9 | б**я**спла́тна | Літара ***я*** замест ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***бес-*** у першым складзе перад націскам |
| 10 | фе**е**рве́рк | Спалучэнне галосных (***йе***) у запазычаным слове ў першым складзе перад націскам |

**Варыянт 5.** 2, 4, 5, 6, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | во́з**е**ра | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 2 | св**я**ткава́ць | Традыцыйнае напісанне незалежна ад націску |
| 3 | удал**е**чыні́ | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 4 | п**я**цярня́ | Традыцыйнае напісанне незалежна ад націску |
| 5 | пап**я**рэ́дні | Літара ***я*** замест ***ё***, ***е*** пішацца ў першым складзе перад націскам ва ўласнабеларускіх словах |
| 6 | вары**я**ты́ўны | Спалучэнне галосных (***іа***) у запазычаным слове не пад націскам |
| 7 | з**е**мляны́ | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 8 | зн**е**важа́ць | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |
| 9 | б**я**зві́завы | Літара ***я*** замест ***е*** пішацца ў прыстаўцы ***без-*** у першым складзе перад націскам |
| 10 | за́в**я**зь | Літара ***я*** ў паслянаціскных складах пішацца ў суфіксах назоўнікаў ***-яч***, ***-язь***, ***-ядзь*** |

# Урок 9. Правапіс галосных Е, Ё — Я ў складаных словах

**Тэст № 1.** 1, 3, 6, 7, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дз***е***вяцігало́вы | Літара ***е*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца незалежна ад месца націску ў другой частцы |
| 2 | л***ё***гказасвая́льны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 3 | в***е***лікаду́шны | Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, літара ***е*** ў гэтай аснове пішацца, калі націск падае на першы склад другой часткі |
| 4 | цв***ё***рданасе́нны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 5 | в***я***лікагало́вы | Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, літара ***я*** ў гэтай аснове пішацца, калі націск падае не на першы склад другой часткі |
| 6 | с***е***рпападо́бны | Літара ***е*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца незалежна ад месца націску ў другой частцы |
| 7 | ц***е***мнаво́кі | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 8 | в***я***лікаўзро́ставы | Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, літара ***я*** ў гэтай аснове захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 9 | зв***е***рагадо́ўля | Літара ***е*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца незалежна ад месца націску ў другой частцы |
| 10 | в***е***лікаро́слы | Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, літара ***е*** ў гэтай аснове пішацца, калі націск падае на першы склад другой часткі |

**Тэст № 2.** 2, 3, 4, 6, 7, 8.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | кропл***е***падо́бны | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 2 | зерн***я***схо́вішча | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 3 | музе***я***зна́ўства | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 4 | крышта***ля***о́птыка | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 5 | вогн***е***ўсто́йлівы | Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 6 | вільгац***я***ёмістасць | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 7 | кра***я***зна́ўца | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 8 | радыя***ло́***гія | Літара ***я*** ў частцы ***радыя-/радые-*** пішацца ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыю, радыяцыі', калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 9 | кра***е***вуго́льны | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 10 | радыёсу́вязь | Частка ***радыё-*** пішацца нязменна ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыё' |

**Варыянт 1.** 1, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | м***е***дано́сны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 2 | цв***ё***рдахара́к-тарны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 3 | в***е***лікагру́зны | Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, літара ***е*** ў гэтай аснове пішацца, калі націск падае на першы склад другой часткі |
| 4 | дал***ё***каўсхо́дні | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 5 | цв***е***рдаце́лы | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 6 | л***е***дарэ́з | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 7 | в***я***лікаакія́нскі | Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-/вялік-***, літара ***я*** ў гэтай аснове пішацца, калі націск падае не на першы склад другой часткі |
| 8 | ц***е***мнабро́вы | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 9 | ц***е***плалюбі́вы | ***Запомніць:*** частка ***цепла-*** пішацца нязменна |
| 10 | л***ё***гкаатле́т | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |

**Варыянт 2.** 2, 4, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | л***е***гкаве́рны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 2 | л***ё***дадрабі́лка | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 3 | цв***е***рдавэ́нджаны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 4 | м***ё***даварэ́нне | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 5 | л***е***дако́льны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 6 | ц***ё***мнавало́сы | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 7 | м***е***дазбо́р | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова не захоўваецца пры націску на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 8 | цв***ё***рдакаме́нны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |
| 9 | дз***е***сяцігра́дусны | Літара ***е*** захоўваецца ў першай частцы складанага слова, якая з'яўляецца формай роднага склону лічэбніка |
| 10 | л***ё***гкапраніка́льны | Літара ***ё*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі складанага слова |

**Варыянт 3.** 1, 3, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | хвал***е***ўтварэ́нне | Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 2 | дал***я***гля́д | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 3 | радыеактыўны | Літара ***е*** ў частцы ***радыя-/радые-*** пішацца ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыю, радыяцыі', калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 4 | караблеваджэнне | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 5 | крывятворны | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 6 | землеўласнік | Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 7 | радыяхімія | Літара ***я*** ў частцы ***радыя-/радые-*** пішацца ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыю, радыяцыі', калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 8 | жыццеапісальны | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 9 | чаеўбрачны | Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 10 | змеяшчарка | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |

**Варыянт 4.** 1, 3, 5, 7, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | вільгацезварот | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 2 | верхнядзвінскі | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 3 | землеапрацоўчы | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 4 | змеялоў | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 5 | солеўстойлівасць | Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 6 | жыццялюбства | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 7 | змеепадобны | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 8 | чаеапрацоўка | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 9 | узроўнямер | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 10 | каменедрабленне | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |

**Варыянт 5.** 2, 4, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | вільгацеўстойлівы | Злучальная галосная ***е*** ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з ***ў*** перад націскным складам |
| 2 | земляроб | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 3 | радыёвежа | Частка ***радыё-*** пішацца нязменна ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыё' |
| 4 | жыццярадасны | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 5 | вугл**е**прамысло́вы | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 6 | ча**я**во́дства | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 7 | вогн**е**тушы́цель | Злучальная галосная ***е*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 8 | камен**я**па́д | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |
| 9 | рады**е**экало́гія | Літара ***е*** ў частцы ***радыя-/радые-*** пішацца ў словах са значэннем 'які мае дачыненне да радыю, радыяцыі', калі націск прыпадае не на першы склад другой часткі складанага слова |
| 10 | сярэдн**я**су́тачны | Злучальная галосная ***я*** пішацца пасля асноў на мяккі зычны, калі націск прыпадае на першы склад другой часткі складанага слова |

## Урок 10. Правапіс У складовага і нескладовага Ў

**Тэст № 1.** 1, 2, 5.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | прэзіды**у**м | Літара ***у*** пішацца ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум***, ***-ус*** |
| 2 | ток-шо**у** | Літара ***у*** пішацца ў канцы запазычаных слоў |
| 3 | раздзел «Фанетыка» **ў** падручніку | Літара ***ў*** пішацца пасля злучка або двукосся, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны |
| 4 | но**ў**тбук | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |
| 5 | вёска **У**здзенскага раёна | Літара ***у*** пішацца ў пачатку ўласных назваў |

**Тэст № 2.** 2, 3, 4.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | натары**у**с | Літара ***у*** пішацца ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум***, ***-ус*** |
| 2 | на **ў**весь дзень | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку) |
| 3 | па**ў**за | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |
| 4 | з гэтага **ў**нікальнага адкрыцця | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку) |
| 5 | Рана ўстанеш — **у**сё паспееш зрабіць. | Літара ***у*** пішацца ў пачатку слова пасля знака прыпынку |

**Тэст № 3.** 1, 4, 5.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | удвая-**ў**трая больш | Нескладовае ***ў*** пішацца пасля злучка або двукосся (гэтыя значкі не з'яўляюцца знакамі прыпынку), калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны |
| 2 | со**у**сніца | Літара ***у*** пішацца ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум***, ***-ус***, і вытворных ад іх словах |
| 3 | на **у**льтракароткіх хвалях | Літара ***у*** пішацца пад націскам у пачатку і ў сярэдзіне слова |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 4 | прынялі на «***ў***ра» | Нескладовае ***ў*** пішацца пасля злучка або двукосся (гэтыя значкі не з'яўляюцца знакамі прыпынку), калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны |
| 5 | танец «Лявоніха» ***ў*** канцэрце | Нескладовае ***ў*** пішацца пасля злучка або двукосся (гэтыя значкі не з'яўляюцца знакамі прыпынку), калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны |

**Варыянт 1.** 2, 4, 5.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | па***ў***метра | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [л] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |
| 2 | паводле Брэсцкай ***у***ніі | Літара ***у*** пішацца пад націскам |
| 3 | а***ў***дыязапіс | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |
| 4 | тэрарыу***м*** | Літара ***у*** пішацца ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум***, ***-ус***, і вытворных ад іх словах |
| 5 | сталіца ***У***збекістана | Літара ***у*** пішацца ў пачатку ўласных назваў |

**Варыянт 2.** 1, 5.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | восенню, ***у*** лістападзе | Літара ***у*** пішацца пасля знакаў прыпынку |
| 2 | гэтага ***ў***льтыматуму | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку) |
| 3 | п'еса «Тутэйшыя» ***ў*** рэпертуары | Нескладовае ***ў*** пішацца пасля двукосся, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны |
| 4 | добра***ў***парадкаваны | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |
| 5 | браты ***У***ласавы | Літара ***у*** пішацца ў пачатку ўласных назваў |

**Варыянт 3.** 2, 4.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | да сястры ***У***ладзіміра | Літара ***у*** пішацца ў пачатку ўласных назваў |
| 2 | па***ў***торны | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [в] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |
| 3 | сея***л***ка | Літара ***л*** захоўваецца пры адсутнасці чаргавання [л] з [ў] |
| 4 | машына-***ў***тылізатар | Нескладовае ***ў*** пішацца пасля злучка, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны |
| 5 | новая ***у***рна | Літара ***у*** пішацца пад націскам |

**Варыянт 4.** 3, 4, 5.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | стра***у***сятнік | Літара ***у*** пішацца ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ***-ум***, ***-ус***, і вытворных ад іх словах |
| 2 | давай ***у***спомнім | Літара ***у*** пішацца ў пачатку слова, калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны |
| 3 | спявалі ва ***ў***нісон | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку) |
| 4 | фа***ў***на | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |
| 5 | мароза***ў***стойлівы | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галосных перад зычнымі |

**Варыянт 5.** 1, 3, 5.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | на ***ў***сходнеславянскіх зем-лях | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у пачатку слова (калі гэта слова не пачынае сказ і перад ім няма знакаў прыпынку) |
| 2 | майстар-***у***ніверсал | Літара ***у*** пішацца пасля злучка, калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны |
| 3 | паўднёва-***ў***сходні | Нескладовае ***ў*** пішацца пасля злучка, калі папярэдняе слова заканчва-ецца на галосны |
| 4 | дзіця-***у***нікум | Літара ***у*** пішацца пад націскам |
| 5 | метэа***ў***мовы | Літара ***ў*** пішацца пры чаргаванні [у] з [ў] у сярэдзіне слова пасля галос-ных перад зычнымі |

# Урок 11. Правапіс мяккага знака і апострафа

**Тэст № 1.** 1, 3, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | міл***ь***ён | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***л*** перад галоснай ***ё***, якая абазначае два гукі |
| 2 | саф***’***ян | Апостраф пішацца пасля губнога [ф] перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 3 | ц***ь***мяны | Змякчальны мяккі знак пішацца перад мяккім зычным, калі пры змене слова гэты зычны становіцца цвёрдым (*цьма*) |
| 4 | ін***’***екцыя | Апостраф пішацца пасля прыстаўкі, якая заканчваецца на зычную, перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |
| 5 | струмен***ь***чык | Змякчальны мяккі знак пішацца перад суфіксам ***-чык***, калі слова без гэтага суфікса заканчваецца на ***-нь*** |
| 6 | ранц***ь***е | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***ц*** перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |
| 7 | чацвер | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля мяккіх зычных перад мяккімі, калі пры змяненні слова абодва зычныя застаюцца мяккімі |
| 8 | яблын***ь*** | Змякчальны мяккі знак пішацца на канцы назоўнікаў на ***-ня*** ў родным склоне множнага ліку |
| 9 | конскі | Змякчальны мяккі знак пішацца перад суфіксам ***-ск-*** толькі ў прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на ***-нь*** |
| 10 | агледз***ь***ся | Змякчальны мяккі знак пішацца ў дзеясловах загаднага ладу перад постфіксам ***-ся*** |

**Тэст № 2.** 2, 3, 5, 7, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дас***ь***е | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***с*** перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |
| 2 | уз***’***ядна нне | Апостраф пішацца пасля прыстаўкі, якая заканчваецца на зычную, перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 3 | сям***’***я | Апостраф пішацца пасля губнога [м] перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 4 | кампан***ь***ён | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***н*** перад галоснай ***ё***, якая абазначае два гукі |
| 5 | бар***’***ер | Апостраф пішацца пасля зацвярдзелага [р] перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |
| 6 | здароўе | Апостраф не пішацца пасля ***ў*** |
| 7 | двух***’***ярусны | Апостраф пішацца ў складаных словах пасля частак ***двух-***, ***трох-***, ***чатырох-***, ***шмат-*** |
| 8 | Лук***’***ян | Апостраф пішацца пасля заднеязычнага [к] перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 9 | бяз**’**ядзерны | Апостраф пішацца пасля прыстаўкі, якая заканчваецца на зычную, перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 10 | парц**ь**ера | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***ц*** перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |

**Варыянт 1.** 1, 4, 5, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | кагос**ь**ці | Змякчальны мяккі знак пішацца ў постфіксе ***-сьці*** |
| 2 | пяццю | Змякчальны мяккі знак не пішацца пры перадачы фанетычнага падаўжэння і марфалагічнага падваення |
| 3 | мядзведзь | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля мяккіх зычных перад мяккімі, калі пры змяненні слова абодва зычныя застаюцца мяккімі |
| 4 | мадз**ь**яры | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***дз*** перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 5 | жнівен**ь**скі | Змякчальны мяккі знак пішацца перад суфіксам ***-ск-*** у прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на ***-нь*** |
| 6 | з**’**яднаць | Апостраф пішацца пасля прыстаўкі, якая заканчваецца на зычную, перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 7 | вагончык | Змякчальны мяккі знак не пішацца перад суфіксам ***-чык***, калі слова без гэтага суфікса не заканчваецца на ***-нь*** |
| 8 | стан**ь**ма | Змякчальны мяккі знак пішацца ў дзеясловах загаднага ладу перад канчаткам 1-й асобы множнага ліку ***-ма*** |
| 9 | шэсц**ь**сот | Змякчальны мяккі знак пішацца ў складаных лічэбніках з першай часткай ***пяць-***, ***шэсць-***, ***дзевяць-*** |
| 10 | дзвесце | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля мяккіх зычных перад мяккімі, калі пры змяненні слова абодва зычныя становяцца цвёрдымі (*двухсот*) |

**Варыянт 2.** 1, 3, 6, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | песен**ь**ка | Змякчальны мяккі знак пішацца ў суфіксах ***-еньк-***, ***-аньк-***, ***-эньк-*** |
| 2 | надзем**’**е | Апостраф пішацца пасля губнога [м] перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |
| 3 | прыгледз**ь**ся | Змякчальны мяккі знак пішацца ў дзеясловах загаднага ладу перад постфіксам ***-ся*** |
| 4 | п**’**яўка | Апостраф пішацца пасля губнога [п] перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 5 | смаргонскі | Змякчальны мяккі знак пішацца перад суфіксам ***-ск-*** толькі ў прыметніках, утвораных ад назваў месяцаў на ***-нь*** |
| 6 | дзец**ь**мі | Змякчальны мяккі знак пішацца перад канчаткам ***-мі*** ў назоўніках творнага склону множнага ліку |
| 7 | мыш | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля шыпячых |
| 8 | дроб | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля губных |
| 9 | чацвёрты | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля мяккіх зычных перад мяккімі, калі пры змяненні слова абодва зычныя застаюцца мяккімі |
| 10 | Ул**ь**яна | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў словах ***Ілья***, ***Ульяна***, ***Касьян*** і вытворных ад іх |

**Варыянт 3.** 2, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | раўнапраўе | Апостраф не пішацца пасля ***ў*** |
| 2 | паўшар**’**е | Апостраф пішацца пасля зацвярдзелага [р] перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |
| 3 | прэм**’**ера | Апостраф пішацца пасля губнога [м] перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 4 | салаўі | Апостраф не пішацца пасля ***ў*** |
| 5 | з**’**яднацца | Апостраф пішацца пасля прыстаўкі, якая заканчваецца на зычную, перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 6 | в**’**етнамцы | Апостраф пішацца пасля губнога [в] перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |
| 7 | кан**ь**як | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***н*** перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 8 | шмат**’**ёмісты | Апостраф пішацца ў складаных словах пасля частак ***двух-***, ***трох-***, ***чатырох-***, ***шмат-*** |
| 9 | мыш**’**як | Апостраф пішацца пасля шыпячага [ш] перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |
| 10 | канферанс**ь**е | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***с*** перад галоснай ***е***, якая абазначае два гукі |

## Урок 12. Правапіс падоўжаных зычных

**Тэст № 1.** 2, 4, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | гра***м***атыка | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |
| 2 | плазм***енн***ы | ***нн*** пішацца ў суфіксах ***-енн-*** (***-энн-***) у прыметніках з адносным значэннем |
| 3 | упарадкав***ан***асць | Суфікс дзеепрыметніка ***-ан-*** + суфікс назоўніка ***-асць*** |
| 4 | арце***лл***ю | Фанетычнае падаўжэнне |
| 5 | накале***нн***ік | Напісанне падвоеных зычных на стыку кораня і суфікса |
| 6 | раўні***нн***асць | Напісанне падвоеных зычных на стыку кораня і суфікса |
| 7 | пехаці***н***ец | Суфікс ***-інец*** |
| 8 | падэшв***енн***ы | ***нн*** пішацца ў суфіксах ***-енн-*** (***-энн-***) у прыметніках з адносным значэннем |
| 9 | ка***л***екцыя | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |
| 10 | суквe***цц***е | Фанетычнае падаўжэнне |

**Тэст № 2.** 1, 2, 5, 7, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | па***нн***ачка | ***нн*** пішацца ў слове-выключэнні |
| 2 | дзеся***цц***ю | Фанетычнае падаўжэнне |
| 3 | ка***с***ір | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |
| 4 | расчул***ен***ы | У суфіксах дзеепрыметнікаў пішацца адна літара ***н*** |
| 5 | Ната***лл***я | Фанетычнае падаўжэнне |
| 6 | падвердж***ан***асць | Суфікс дзеепрыметніка ***-ан-*** + суфікс назоўніка ***-асць*** |
| 7 | забы***цц***ё | Фанетычнае падаўжэнне |
| 8 | насце***нн***ы | ***нн*** пішацца ў суфіксах прыметнікаў, калі ўтваральная аснова заканчваецца на ***н*** і суфікс пачынаецца з ***н*** (*сцян*-) |
| 9 | распазнава***нн***е | Фанетычнае падаўжэнне |
| 10 | Ілья | Ва ўласных імёнах ***Ілья***, ***Ульяна***, ***Касьян***, ***Емяльян***, ***Юльян***, ***Юльяна***, ***Традзьякоўскі*** і вытворных ад іх словах не падаўжаюцца |

**Варыянт 1.** 2, 4, 6, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | па**с**ажыр | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |
| 2 | пацяпле***нн***е | Фанетычнае падаўжэнне |
| 3 | зладж***ан***асць | Суфікс дзеепрыметніка ***-ан-*** + суфікс назоўніка ***-асць*** |
| 4 | прымадо***нн***а | ***нн*** пішацца ў слове-выключэнні |
| 5 | пчал***ін***ы | Адна літара ***н*** пішацца ў суфіксах прыметнікаў ***-ан-*** (***-ян-***), ***-ін-*** (***-ын-***) |
| 6 | пятнацца***цц***ю | Фанетычнае падаўжэнне |
| 7 | фір***менн***ы | ***нн*** пішацца ў суфіксах ***-енн-*** (***-энн-***) у прыметніках з адносным значэннем |
| 8 | прышчэпл***ен***ы | У суфіксах дзеепрыметнікаў пішацца адна літара ***н*** |
| 9 | выбра***нн***ік | Напісанне падвоеных зычных на стыку кораня і суфікса |
| 10 | Ге***н***адзь | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |

**Варыянт 2.** 1, 2, 4, 5, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | сва***цц***я | Фанетычнае падаўжэнне |
| 2 | падгрудз***інн***ы | ***нн*** пішацца ў суфіксах прыметнікаў, калі ўтваральная аснова заканчваецца на ***н*** і суфікс пачынаецца з ***н*** (*грудзін-*) |
| 3 | са***м***іт | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |
| 4 | цем***янн***ы | ***нн*** пішацца ў прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на ***-мя*** |
| 5 | заці***шш***а | Фанетычнае падаўжэнне |
| 6 | сярэбр***ан***ы | Адна літара ***н*** пішацца ў суфіксах прыметнікаў ***-ан-*** (***-ян-***), ***-ін-*** (***-ын-***) |
| 7 | ра***н***ішнік | Утваральная аснова — *ран-* |
| 8 | соце***нн***ы | ***нн*** пішацца ў суфіксах прыметнікаў, калі ўтваральная аснова заканчваецца на ***н*** і суфікс пачынаецца з ***н*** (*сотн-*) |
| 9 | сяго***нн***яшні | ***нн*** пішацца традыцыйна |
| 10 | раслі***н***аводства | Першая ўтваральная аснова — *раслін-* |

**Варыянт 3.** 2, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | падкрэсл***ен***ы | У суфіксах дзеепрыметнікаў пішацца адна літара ***н*** |
| 2 | па***дд***оследны | Напісанне падвоеных зычных на стыку прыстаўкі і кораня |
| 3 | прафе***с***ійны | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |
| 4 | Прынямо***нн***е | Фанетычнае падаўжэнне |
| 5 | а***к***уратны | Этымалагічнае падаўжэнне ў запазычаных словах не перадаецца |
| 6 | белакача***нн***ы | ***нн*** пішацца ў суфіксах прыметнікаў, калі ўтваральная аснова заканчваецца на ***н*** і суфікс пачынаецца з ***н*** (*качан-*) |
| 7 | спалуч***ан***асць | Суфікс дзеепрыметніка ***-ан-*** + суфікс назоўніка ***-асць*** |
| 8 | абя***зз***броіць | Напісанне падвоеных зычных на стыку прыстаўкі і кораня |
| 9 | смята***нн***ік | Напісанне падвоеных зычных на стыку кораня і суфікса |
| 10 | ю***н***ы | Адна літара ***н*** пішацца ў слове *юны* |

# Урок 13. Правапіс І, Ы, Й

**Тэст № 1.** 2, 4, 7, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дыза***й***н | Літара ***й*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 2 | за***і***нтрыгаваць | Літара ***і*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 3 | спыд***ы***лба | Літара ***і*** пішацца пасля прыстаўкі (***с***)***пад-*** |
| 4 | між***і***нстытуцкі | Літара ***і*** пішацца пасля прыстаўкі ***між-*** |
| 5 | без***ы***ніцыятыўны | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***без-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 6 | бяспро***й***грышны | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ігр-* (ад *іграць*) |
| 7 | вы***і***грываць | Каранёвы ***і*** захоўваецца (пасля галосных) пад націскам, калі ўтварае склад |
| 8 | за***і***скрыцца | Каранёвы ***і*** захоўваецца (пасля галосных) пад націскам, калі ўтварае склад |
| 9 | не***і***стотны | Літара ***й*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 10 | пера***й***начаны | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *інач-* |

**Тэст № 2.** 1, 2, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | камба***й***н | Літара ***й*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 2 | пера***й***мальны | Літара ***й*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 3 | над***ы***сці | Пасля прыстаўкі на зычны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *іс-* (ад *ісці*) пішацца літара ***ы*** |
| 4 | за***і***грываць | Каранёвы ***і*** захоўваецца (пасля галосных) пад націскам, калі ўтварае склад |
| 5 | пера***й***шоўшы | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *іш-* (ад *ісці*) |
| 6 | па***й***менны | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ім-* (ад *імя*) |
| 7 | пра***і***снаваць | Літара ***і*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 8 | да***й***граны | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ігр-* (ад *іграць*) |
| 9 | фа***е*** | Спалучэнне літар ***je***, ***уе*** пасля галосных у запазычаных словах перадаецца літарай ***е*** |
| 10 | пера***й***менаваць | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ім-* (ад *імя*) |

**Варыянт 1.** 2, 4, 5, 7, 8.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | на***й***грыш | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ігр-* (ад *іграць*) |
| 2 | звыш***і***мклівы | Літара ***і*** пішацца пасля прыстаўкі ***звыш-*** |
| 3 | аб***ы***шоўшы | Пасля прыстаўкі на зычны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *іш-* (ад *ісці*) пішацца літара ***ы*** |
| 4 | да***і***грываць | Каранёвы ***і*** захоўваецца (пасля галосных) пад націскам, калі ўтварае склад |
| 5 | за***і***скрыцца | Каранёвы ***і*** захоўваецца (пасля галосных) пад націскам, калі ўтварае склад |
| 6 | дэз***ы***нфекцыя | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***дэз-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 7 | гіпер***і***нфляцыя | Літара ***і*** пішацца пасля прыстаўкі ***гіпер-*** |
| 8 | пед***і***нстытут | Літара ***і*** пішацца ў другой частцы складанаскарочанага слова |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 9 | пера**й**мяноўваць | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ім-* (ад *імя*) |
| 10 | пра**й**грацца | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ігр-* (ад *іграць*) |

**Варыянт 2.** 2, 3, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | контр**і**гра | Літара ***і*** пішацца пасля прыстаўкі ***контр-*** |
| 2 | аб**ы**ржавелы | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***аб-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 3 | раз**ы**грацца | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***раз-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 4 | з**ы**мправізаваць | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***з-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 5 | звыш**і**нфляцыя | Літара ***і*** пішацца пасля прыстаўкі ***звыш-*** |
| 6 | с**ы**сціся | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***с-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 7 | пан**і**сламізм | Літара ***і*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***пан-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 8 | дэз**ы**нфармацыя | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***дэз-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 9 | с**ы**скаць | Літара ***ы*** пішацца пры спалучэнні прыстаўкі ***с-*** са словам, што пачынаецца з ***і*** |
| 10 | борт**і**нжынер | Літара ***і*** пішацца ў другой частцы складанаскарочанага слова |

**Варыянт 3.** 1, 3, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | пера**й**менаваны | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ім-* (ад *імя*) |
| 2 | пад**ы**граць | Пасля прыстаўкі на зычны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ігр-* (ад *іграць*) пішацца літара ***ы*** |
| 3 | вы**й**шла | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *іш-* (ад *ісці*) |
| 4 | пра**й**маць | Літара ***й*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 5 | пераўз**ы**дзены | Пасля прыстаўкі на зычны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ідз-* (ад *ісці*) пішацца літара ***ы*** |
| 6 | пера**й**начванне | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *інач-* |
| 7 | за**і**нтрыгаваць | Літара ***і*** пішацца ў адпаведнасці з вымаўленнем |
| 8 | про**й**грыш | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ігр-* (ад *іграць*) |
| 9 | неда**й**граны | Літара ***й*** пішацца пасля прыстаўкі на галосны замест каранёвага ненаціскнога ***і*** ў слове з коранем *ігр-* (ад *іграць*) |
| 10 | пера**і**грываць | Каранёвы ***і*** захоўваецца (пасля галосных) пад націскам, калі ўтварае склад |

## Урок 14. Правапіс спалучэнняў зычных

**Тэст № 1.** 1, 4, 7, 8.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | запо**зн**ены | Не вымаўляецца і не перадаецца на пісьме зычны [д] у спалучэнні ***здн*** |
| 2 | ***ад***цягнуць | Прыстаўка ***ад-*** пішацца нязменна |
| 3 | ***рас***чулены | Спалучэнне прыставачнай ***с*** і каранёвай ***ч*** перадаецца на пісьме нязменна |
| 4 | свісла**ц**кі | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** перадаюцца літарай ***ц*** |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 5 | тлу***шч***авы | Спалучэнне зычных ***ст*** (*тлу**сты***) чаргуецца са ***шч*** |
| 6 | два***цц***атка | Марфалагічнае падваенне (гістарычнае) |
| 7 | сві***сн***уць | Не вымаўляецца і не перадаецца на пісьме зычны [т] у спалучэнні ***стн*** (*свістаць*) |
| 8 | лю***д***скі | Спалучэнне каранёвай ***д*** з суфіксальнай ***с*** на пісьме перадаецца нязменна |
| 9 | пя***с***чынка | Спалучэнне каранёвай ***с*** і суфіксальнай ***ч*** перадаецца на пісьме нязменна |
| 10 | мала***ц***ьба | Чаргаванне звонкіх і глухіх зычных (акрамя прыставачнага ***з***) на пісьме не адлюстроўваецца |

**Тэст № 2.** 2, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | (на) сятча***т***цы | Каранёвыя зычныя перад [к], якія чаргуецца з [ц], перадаюцца нязменна |
| 2 | аген***цтв***а | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** перадаюцца літарай ***ц*** |
| 3 | ***бяс***страшны | Спалучэнне аднолькавых зычных на стыку прыстаўкі і кораня перадаецца падвойным напісаннем адпаведнай літары |
| 4 | сцера***г***чы | Чаргаванне звонкіх і глухіх зычных (акрамя прыставачнай ***з***) на пісьме не адлюстроўваецца |
| 5 | пары***жск***і | У прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў, каранёвыя ***з***, ***ж***, ***ш***, а таксама ***г***, ***х***, якія чаргуюцца з ***ж***, ***ш***, пры спалучэнні з суфіксальным ***с*** на пісьме захоўваюцца |
| 6 | ***рас***селены | Спалучэнне аднолькавых зычных на стыку прыстаўкі і кораня перадаецца падвойным напісаннем адпаведнай літары |
| 7 | зага***д***чык | Спалучэнні каранёвых ***д***, ***т***, ***з***, ***с***, ***ж*** з суфіксальнай ***ч*** перадаюцца нязменна |
| 8 | Навагру***дч***ына | Спалучэнні каранёвых ***д***, ***т***, ***з***, ***с***, ***ж*** з суфіксальнай ***ч*** перадаюцца нязменна |
| 9 | ма***т***чын | Спалучэнні каранёвых ***д***, ***т***, ***з***, ***с***, ***ж*** з суфіксальнай ***ч*** перадаюцца нязменна |
| 10 | шасна***цц***аць | Марфалагічнае падваенне (гістарычнае) |

**Варыянт 1.** 3, 4, 8, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | прае***зн***ы | Не вымаўляецца і не перадаецца на пісьме зычны [д] у спалучэнні ***здн*** (*прае**зд***) |
| 2 | ***ад***шпіліць | Прыстаўка ***ад-*** пішацца нязменна |
| 3 | ***рас***чараваны | Спалучэнне прыставачнай ***с*** і каранёвай ***ч*** перадаецца на пісьме нязменна |
| 4 | тры***ц***цаты | Марфалагічнае падваенне (гістарычнае) |
| 5 | заблі***ш***чаць | Спалучэнне зычных ***ск*** (*блі**ск**аць*) чаргуецца са ***шч*** |
| 6 | гіган***ц***кі | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** перадаюцца літарай ***ц*** |
| 7 | кары***сл***івы | Не вымаўляецца і не перадаецца на пісьме зычны [т] у спалучэнні ***стл*** (*карысць — карыстацца*) |
| 8 | паломні***цтв***а | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** перадаюцца літарай ***ц*** |
| 9 | сту***ж***ка | Чаргаванне звонкіх і глухіх зычных (акрамя прыставачнага ***з***) на пісьме не адлюстроўваецца |
| 10 | Пола***чч***ына | Спалучэнні каранёвай ***к*** з суфіксальнай ***ч*** перадаюцца спалучэннем ***чч*** |

**Варыянт 2.** 1, 3, 4, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | супя***с***чаны | Спалучэнне каранёвай ***с*** і суфіксальнай ***ч*** перадаецца на пісьме нязменна |
| 2 | францу***зск***і | У прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў, каранёвыя ***з***, ***ж***, ***ш***, а таксама ***г***, ***х***, якія чаргуюцца з ***ж***, ***ш***, пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** на пісьме захоўваюцца |
| 3 | пі***шч***аць | Спалучэнне зычных ***ск*** (*піск*) чаргуецца са ***шч*** |
| 4 | рыба***цтв***а | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** перадаюцца літарай ***ц*** |
| 5 | чатырна***цц***аць | Марфалагічнае падваенне (гістарычнае) |
| 6 | ***рас***чарціць | Спалучэнне прыставачнай ***с*** і каранёвай ***ч*** перадаецца на пісьме нязменна |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 7 | пла***ц***дарм | Чаргаванне звонкіх і глухіх зычных (акрамя прыставачнай ***з***) на пісьме не адлюстроўваецца |
| 8 | ***ад***чайны | Прыстаўка ***ад-*** пішацца нязменна |
| 9 | мадэрні***сц***кі | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** передаюцца літарай ***ц*** |
| 10 | сваяцтва | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** передаюцца літарай ***ц*** |

**Варыянт 3.** 1, 5, 6, 7, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | тавары***ств***а | Каранёвыя ***с***, ***ж***, ***ш*** (і ***г***, ***х***, якія чаргуюцца з ***ж***, ***ш***) пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** передаюцца літарай ***с*** |
| 2 | дзевятна***ц***цаць | Марфалагічнае падваенне (гістарычнае) |
| 3 | прыла***ш***чаны | Спалучэнне зычных ***ск*** (*ласка*) чаргуецца са ***шч*** |
| 4 | ***раз***злаваць | Спалучэнне аднолькавых зычных на стыку прыстаўкі і кораня передаецца падвойным напісаннем адпаведнай літары |
| 5 | кліен***ц***кі | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** передаюцца літарай ***ц*** |
| 6 | латы***ш***скі | У прыметніках, утвораных ад геаграфічных назваў, каранёвыя ***з***, ***ж***, ***ш***, а таксама ***г***, ***х***, якія чаргуюцца з ***ж***, ***ш***, пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** на пісьме захоўваюцца |
| 7 | (у) част***ц***ы | Каранёвыя зычныя перад ***к***, які чаргуецца з ***ц***, передаюцца нязменна |
| 8 | но***с***ьбіт | Чаргаванне звонкіх і глухіх зычных (акрамя прыставачнай ***з***) на пісьме не адлюстроўваецца |
| 9 | брэ***сц***кі | Каранёвыя ***т***, ***ц***, ***к***, ***ч*** пры спалучэнні з суфіксальнай ***с*** передаюцца літарай ***ц*** |
| 10 | ***рас***чараванне | Спалучэнне прыставачнай ***с*** і каранёвай ***ч*** передаецца на пісьме нязменна |

# Урок 15. Марфемная будова слова

**Тэст № 1.** 2, 4, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | чытаючы | Дзеепрыслоўе — нязменная форма дзеяслова — не мае канчатка |
| 2 | адказваў□ | Дзеяслоў у форме прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку мае нулявы канчатак |
| 3 | па-вясноваму | Прыслоўе — нязменная часціна мовы — не мае канчатка |
| 4 | золак□ | Назоўнік мужчынскага роду — зменная часціна мовы — мае нулявы канчатак |
| 5 | расказваць | Інфінітыў — нязменная форма дзеяслова — не мае канчатка |
| 6 | стара***ем***ся | Асабовая форма дзеяслова мае канчатак |
| 7 | прыгожа | Прыслоўе — нязменная часціна мовы — не мае канчатка |
| 8 | здарэнн***е*** | Назоўнік ніякага роду — зменная часціна мовы — мае канчатак |
| 9 | апранацца | Інфінітыў — нязменная форма дзеяслова — не мае канчатка |
| 10 | выканан***ы*** | Дзеепрыметнік — зменная форма дзеяслова — мае канчатак |

**Тэст № 2.** 1, 4.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | пабрацім | па-брац-ім-□ |
| 2 | шматмернасць | шмат-мер-н-асць-□ |
| 3 | званковы | званк-ов-ы |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 4 | паварыха | па-вар-ых-а |
| 5 | напружана | на-пруж-ан-а |

**Варыянт 1.** А5Б2В3Г4.

| | |
|---|---|
| **А.** Зарапад<br>**Б.** Запатрабаванне<br>**В.** Завідна<br>**Г.** Выбар | **1.** Прыставачны<br>**2.** Суфіксальны (*запатрабаванне* ← *запатрабава-ць*)<br>**3.** Прыставачна-суфіксальны (*завідна* ← *відн-ы*)<br>**4.** Бяссуфіксны (*выбар∅* ← *выбр-аць*)<br>**5.** Складанне (*зарапад* ← *падз-енне зор*) |

**Варыянт 2.** А5Б4В2Г1.

| | |
|---|---|
| **А.** Шматбаковы<br>**Б.** Практык<br>**В.** Перасяленец<br>**Г.** Антысейсмічны | **1.** Прыставачны (*антысейсмічны* ← *сейсмічны*)<br>**2.** Суфіксальны (*перасяленец* ← *перасял-яцца*)<br>**3.** Прыставачна-суфіксальны<br>**4.** Бяссуфіксны (*практык∅* ← *практык-а*)<br>**5.** Складанне (*шматбаковы* ← *шмат бак-ой* + -*ов*-) |

## Урок 16. Лексіка-граматычныя разрады назоўнікаў

**Тэст № 1.** 1, 2.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | агульны | Абазначае назву прадмета |
| 2 | канкрэтны | Абазначае назву канкрэтнага прадмета, які існуе ў пэўным выглядзе як асобны экзэмпляр |
| 3 | адушаўлёны | — |
| 4 | асабовы | — |
| 5 | зборны | Не адносяцца да зборных назоўнікі, што абазначаюць такую сукупнасць асоб ці прадметаў, якая паддаецца лічэнню |

**Тэст № 2.** 2, 3, 4.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | уласны | Абазначае назву шэрага аднародных прадметаў, а не адзінкавы прадмет |
| 2 | канкрэтны | Абазначае назву канкрэтных прадметаў |
| 3 | адушаўлёны | Абазначае назву жывых істот |
| 4 | асабовы | Абазначае назву асоб |
| 5 | зборны | *Людзі* — форма множнага ліку назоўніка *чалавек* |

**Варыянт 1.** 2, 3, 6, 7, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | кілаграм | — Канкрэтны — адзінка вымярэння |
| 2 | рухавасць | + Назва апрадмечанай уласцівасці |
| 3 | аднаўленне | + Назва адцягненага паняцця або працэсу |
| 4 | занятак | — Канкрэтны (мае формы адз. і мн. ліку) |
| 5 | маланка | — Канкрэтны — прыродная з'ява (мае формы адз. і мн. ліку) |
| 6 | існаванне | + Назва адцягненага паняцця або працэсу |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 7 | характво | + Назва апрадмечанай уласцівасці |
| 8 | вецер | — Канкрэтны — прыродная з'ява (мае формы адз. і мн. ліку) |
| 9 | рамантызм | + Назва адцягненага паняцця або грамадскай плыні |
| 10 | барацьба | + Назва адцягненага паняцця або працэсу |

**Варыянт 2.** 1, 3, 5, 7, 8, 9.

***2***, ***4***, ***6***, ***10*** — зборныя назоўнікі.

**Варыянт 3.** 2, 4, 5, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | нафта | — Рэчыўны (абазначае назву карысных выкапняў) |
| 2 | лісце | + |
| 3 | морква | — Рэчыўны (абазначае назву агароднай культуры) |
| 4 | студэнцтва | + |
| 5 | клавіятура | + |
| 6 | малако | — Рэчыўны (абазначае назву харчовага прадукту) |
| 7 | адміністрацыя | + |
| 8 | снег | — Рэчыўны (абазначае назву прыроднай з'явы) |
| 9 | сузор'е | + |
| 10 | крупы | — Рэчыўны (абазначае назву харчовага прадукту) |

## Паўтарэнне

**Варыянт 1.** 1, 2, 4.

***3*** — прыметнік не можа быць антонімам назоўніка; ***4*** — слова адназначнае.

**Варыянт 2.** 1, 3, 4.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дзень | [дз'эн'] (5 літар — 3 гукі) |
| 2 | выстаяць | [вы́стайац'] (8 літар — 8 гукаў) |
| 3 | задуменнасць | [задум'э̄́н̄ас'ц'] (12 літар — 10 гукаў) |
| 4 | урачыстая | [урачы́стайа] (9 літар — 10 гукаў) |
| 5 | мяне | [м'ан'э́] (4 літары — 4 гукі) |

# Урок 17. Род назоўнікаў

**Тэст № 1.** ***1*** — 2, 6, 12, 17, 19, 24, 25, 28, 29; ***2*** — 3, 7, 10, 14, 16, 20, 22, 27, 30; ***3*** — 1, 5, 9, 11, 13, 18, 23; ***4*** — 4, 8, 15, 21, 26.

**Тэст № 2.** ***3*** — вялікі жаль; ***4*** — алімпійскі медаль.

**Тэст № 3.** ***2*** — паляўнічы сабака; ***5*** — вялікае бярэмя.

**Варыянт 1.** ***2*** — высокі насып; ***3*** — маленькае гусяня; ***4*** — мужчынская далонь.

**Варыянт 2.** ***1*** — прыгожы роспіс; ***2*** — звонкі салоўка; ***4*** — шэры шынель.

## Урок 18. Лік назоўнікаў

**Тэст № 1.** 2, 3, 5, 7, 8, 10.

**Тэст № 2.** 1, 3, 4, 7, 9, 10.

**Варыянт 1.** 1, 3, 5, 9, 10.

| № | Словы | Правільная форма |
|---|---|---|
| 1 | каласы | |
| 2 | астрава | астравы |
| 3 | фасоліны | |
| 4 | корані | карані |
| 5 | азёры | |
| 6 | рага | рогі |
| 7 | каменне | камяні |
| 8 | пашпарта | пашпарты |
| 9 | імхі | |
| 10 | бровы | |

**Варыянт 2.** 1, 3, 5, 6, 7, 9, 10.

| № | Словы | Правільная форма |
|---|---|---|
| 1 | дырэктара | дырэктары |
| 2 | лясы | |
| 3 | вокна | вокны |
| 4 | нябёсы | |
| 5 | воўкі | ваўкі |
| 6 | торты | тарты |
| 7 | птушані | птушаняты |
| 8 | рэбры | |
| 9 | лосі | ласі |
| 10 | тыдзені | тыдні |

## Урок 19. Назоўнікі першага скланення. Правапіс канчаткаў

**Тэст № 1.** 1, 3, 4, 7, 8.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дзяўчына | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны |
| 2 | глыбіня | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 3 | заслуга | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***г//з***) |
| 4 | завіруха | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***х//с***) |
| 5 | шчака | ***-э*** пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 6 | перапёлка | ***-ы*** не пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 7 | Света | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***т//ц***) |
| 8 | узнагарода | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***д//дз***) |
| 9 | хваля | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 10 | Алеся | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |

**Тэст № 2.** 1, 2, 5, 6, 7, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ружа | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 2 | сініца | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 3 | дачка | ***-э*** пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 4 | рака | ***-э*** пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 5 | камера | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 6 | вышыўка | ***-ы*** не пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 7 | задача | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 8 | траска | ***-э*** пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 9 | Вера | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 10 | пчолка | ***-ы*** не пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |

**Варыянт 1.** 2, 4, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | вавёрка | ***-ы*** не пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 2 | аздоба | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны |
| 3 | яблыня | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 4 | морква | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны |
| 5 | нумарацыя | ***-і*** — аснова на мяккі зычны (*нумарацый-*) |
| 6 | Паліна | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны |
| 7 | Лідзія | ***-і*** — аснова на мяккі зычны (*Лідзій-*) |
| 8 | Зінаіда | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***д//дз***) |
| 9 | Таня | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 10 | Узда | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***д//дз***) |

**Варыянт 2.** 1, 2, 4, 5, 8, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | гераіня | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 2 | нядзеля | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 3 | узнагарода | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***д//дз***) |
| 4 | сваццця | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 5 | шпакоўня | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 6 | падлога | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны (***г//з***) |
| 7 | ніва | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны |
| 8 | Азія | ***-і*** — аснова на мяккі зычны (*Азій-*) |
| 9 | Насця | ***-і*** — аснова на мяккі зычны |
| 10 | Марыя | ***-і*** — аснова на мяккі зычны (*Марый-*) |

**Варыянт 3.** 1, 2, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | пляцоўка | ***-ы*** не пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 2 | агароджа | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 3 | шаша | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 4 | мука | ***-э*** пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 5 | модніца | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 6 | натура | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 7 | рука | ***-э*** пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |
| 8 | Орша | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 9 | Варвара | ***-ы*** — аснова на зацвярдзелы зычны |
| 10 | луска | ***-э*** пад націскам — аснова на ***к*** (***к//ц***) |

## Урок 20. Назоўнікі другога скланення. Правапіс канчаткаў

**Тэст № 1.** 2, 4, 5, 7, 8.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | гуманізм | ***-у*** (абазначае абстрактна-разумовае паняцце) |
| 2 | айсберг | ***-а*** (абазначае канкрэтны прадмет рэчаіснасці) |
| 3 | твар | ***-у*** (слова-выключэнне — абазначае частку цела) |
| 4 | куб | ***-а*** (абазначае тэрмін) |
| 5 | камітэт | ***-а*** (абазначае ўстанову, грамадскую арганізацыю) |
| 6 | грып | ***-у*** (абазначае назву захворвання) |
| 7 | палец | ***-а*** (абазначае канкрэтны прадмет рэчаіснасці) |
| 8 | бокс | ***-а*** (абазначае назву віду спорту) |
| 9 | віхар | ***-у*** (абазначае з'яву прыроды) |
| 10 | асфальт | ***-у*** (абазначае рэчыва, матэрыял) |

**Тэст № 2.** 2, 3, 5, 6, 8, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | геній | ***-ю*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 2 | музей | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 3 | гандаль | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 4 | Віталь | ***-ю*** — уласны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 5 | мядзведзь | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 6 | певень | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 7 | вучань | ***-ю*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 8 | узлессе | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 9 | кісель | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 10 | ветразь | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |

**Варыянт 1.** 2, 4, 5, 7, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | вопыт | ***-у*** (абазначае абстрактна-разумовае паняцце) |
| 2 | суфікс | ***-а*** (абазначае тэрмін) |
| 3 | гоман | ***-у*** (абазначае абстрактнае дзеянне) |
| 4 | штаб | ***-а*** (абазначае ўстанову, грамадскую арганізацыю) |
| 5 | вальс | ***-а*** (абазначае назву танца) |
| 6 | стэп | ***-у*** (абазначае геаграфічную прастору) |
| 7 | раён | ***-а*** (абазначае мясцовасць, адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку) |
| 8 | гумар | ***-у*** (абазначае абстрактна-разумовае паняцце) |
| 9 | смутак | ***-у*** (абазначае абстрактна-разумовае паняцце) |
| 10 | хлеб | ***-а*** (слова-выключэнне — абазначае прадукт харчавання) |

**Варыянт 2.** 2, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | палын | ***-е*** — аснова на цвёрды зычны |
| 2 | лісце | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 3 | прамень | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 4 | госць | ***-ю*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 5 | кап'ё | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 6 | поле | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 7 | герой | ***-ю*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 8 | звычай | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 9 | конь | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 10 | Анатоль | ***-ю*** — уласны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |

**Варыянт 3.** 1, 2, 4, 5, 8.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | вызваліцель | ***-ю*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 2 | Аляксей | ***-ю*** — уласны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 3 | зерне | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 4 | збавіцель | ***-ю*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 5 | Генадзь | ***-ю*** — уласны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 6 | гай | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 7 | верабей | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 8 | каваль | ***-ю*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 9 | алень | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |
| 10 | стыль | ***-і*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |

**Варыянт 4.** 2, 3, 4, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дырыжор | ***-у*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 2 | багаж | ***-ы*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 3 | заяц | ***-ы*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 4 | плашч | ***-ы*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 5 | глядач | ***-у*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 6 | палац | ***-ы*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 7 | хітрэц | ***-у*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 8 | плячо | ***-ы*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |
| 9 | геолаг | ***-у*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на заднеязычны) |
| 10 | дрэўца | ***-ы*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на зацвярдзелы зычны) |

**Варыянт 5.** 1, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | мост | ***-е*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на цвёрды зычны) |
| 2 | смех | ***-у*** — абстрактны назоўнік (асновы на ***г***, ***х***) |
| 3 | Раман | ***-е*** — уласны асабовы назоўнік (аснова на цвёрды зычны) |
| 4 | універмаг | ***-у*** — запазычаны назоўнік (асновы на ***г***, ***к***, ***х***) |
| 5 | бераг | ***-е*** — (***г//з***) уласнабеларускі назоўнік (асновы на ***г***, ***х***) |
| 6 | нарыс | ***-е*** — агульны неасабовы назоўнік (аснова на цвёрды зычны) |
| 7 | напарстак | ***-у*** — назоўнік з асновай на ***к*** |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 8 | артыст | ***-е*** — агульны асабовы назоўнік (аснова на цвёрды зычны) |
| 9 | паверх | ***-е*** — (***х//с***) уласнабеларускі назоўнік (асновы на ***г***, ***х***) |
| 10 | Яўсей | ***-ю*** — уласны асабовы назоўнік (аснова на мяккі зычны) |

## Урок 21. Назоўнікі трэцяга скланення. Правапіс канчаткаў. Скланенне назоўнікаў у множным ліку

### Назоўнікі трэцяга скланення. Правапіс канчаткаў

**Тэст № 1.** 2, 4, 5.

| № | Форма творнага склону | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | здольна***сц***ю | У канцы асновы збег зычных |
| 2 | ла***нн***ю | У творным склоне назіраецца падаўжэнне зычнага асновы (апрача ***губных*** і ***р***), калі ён знаходзіцца пасля галоснага |
| 3 | чвэ***рц***ю | У канцы асновы збег зычных |
| 4 | спіра***лл***ю | У творным склоне назіраецца падаўжэнне зычнага асновы (апрача ***губных*** і ***р***), калі ён знаходзіцца пасля галоснага |
| 5 | сувя***зз***ю | У творным склоне назіраецца падаўжэнне зычнага асновы (апрача ***губных*** і ***р***), калі ён знаходзіцца пасля галоснага |

**Тэст № 2.** 2, 3, 4.

| № | Форма творнага склону | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | глы***б'***ю | Губныя зычныя і ***р*** не падаўжаюцца |
| 2 | мы***шш***у | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 3 | ры***сс***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 4 | ні***цц***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 5 | шы***р'***ю | Губныя зычныя і ***р*** не падаўжаюцца |

**Варыянт 1.** 2, 3, 5, 6, 8, 9, 10.

| № | Форма творнага склону | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | яка***сц***ю | У канцы асновы збег зычных |
| 2 | памя***цц***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 3 | мола***ддз***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 4 | ко***сц***ю | У канцы асновы збег зычных |
| 5 | намара***зз***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 6 | Свісла***чч***у | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 7 | Уба***рц***ю | У канцы асновы збег зычных |
| 8 | Белару***сс***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 9 | Прыпя***цц***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |
| 10 | Хаты***нн***ю | Зычны асновы стаіць пасля галоснага |

**Варыянт 2.** 2, 3, 5, 7, 8.

| № | Форма творнага склону | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | любоўю | Апостраф не пішацца пасля ***ў*** |
| 2 | глыб'ю | Апостраф пішацца пасля ***губных*** зычных і ***р*** |
| 3 | верф'ю | Апостраф пішацца пасля ***губных*** зычных і ***р*** |
| 4 | свякроўю | Апостраф не пішацца пасля ***ў*** |
| 5 | Сібір'ю | Апостраф пішацца пасля ***губных*** зычных і ***р*** |

| № | Форма творнага склону | Каментарый |
|---|---|---|
| 6 | тушшу | Зычны асновы (апрача ***губных*** і ***р***) падаўжаецца, калі ён знаходзіцца пасля галоснага |
| 7 | шыр'ю | Апостраф пішацца пасля ***губных*** зычных і ***р*** |
| 8 | Свір'ю | Апостраф пішацца пасля ***губных*** зычных і ***р*** |
| 9 | рэччу | Зычны асновы (апрача ***губных*** і ***р***) падаўжаецца, калі ён знаходзіцца пасля галоснага |
| 10 | моцай | Слоўнікавая форма |

## Скланенне назоўнікаў у множным ліку

**Тэст № 1.** 1, 3, 5, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | голас — галасы | Змяняецца месца націску |
| 2 | тыдзень — тыдні | Выпадае галосны |
| 3 | грамадзянін — грамадзяне | Назоўнікі з суфіксам ***-анін-*** (***-янін-***) страчваюць фіналь ***-ін*** пры абазначэнні мноства асоб |
| 4 | птушаня — птушаняты | У множным ліку ў большасці назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот, узнікае ўстаўка ***-ят-*** |
| 5 | голуб — галубы | Змяняецца месца націску |
| 6 | курыца — куры | Выпадае суфікс ***-ыц-*** |
| 7 | імя — імёны | У множным ліку назоўнікі *імя*, *стрэмя* могуць ужывацца з устаўкай ***-ён-*** або без яе (*імі*, *стрэмі*) |
| 8 | востраў — астравы | Змяняецца месца націску, таму знікае прыстаўны ***в*** |
| 9 | цяля — цяляты | У множным ліку ў большасці назоўнікаў, якія абазначаюць маладых істот, узнікае ўстаўка ***-ят-*** |
| 10 | варона — вароны | Зборны назоўнік *варанн*ё мае форму адзіночнага ліку |

**Тэст № 2.** 2, 3, 5, 7, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | трамваі — трамваяў | Назоўнікі мужчынскага роду на ***мяккі*** зычны не пад націскам маюць канчатак ***-яў*** |
| 2 | тыдні — тыдняў | Назоўнікі мужчынскага роду на ***мяккі*** зычны не пад націскам маюць канчатак ***-яў*** |
| 3 | гамяльчане — гамяльчан | Назоўнікі з суфіксам ***-анін-*** (***-янін-***), якія ў множным ліку страчваюць фіналь ***-ін***, маюць нулявы канчатак |
| 4 | коні — коней | Назоўнікі *коні*, *госці*, *лапці*, *локці* пры ўказанні на зборнасць маюць канчатак ***-ей*** |
| 5 | ваўкі — ваўкоў | Назоўнікі мужчынскага роду на ***цвёрды*** зычны, ***шыпячыя***, ***р***, ***ц*** і ***г***, ***к***, ***х*** пад націскам маюць канчатак ***-оў*** |
| 6 | птушкі — птушак | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення са збегам зычных, дзе апошні зычны — суфікс ***-к-***, маюць нулявы канчатак (з'яўляецца беглы галосны) |
| 7 | з'явы — з'яў | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення з асновай на адзін зычны маюць нулявы канчатак |
| 8 | аповесці — аповесцей (-яў) | Назоўнікі жаночага роду 3-га скланення з націскам на аснове маюць варыянтныя канчаткі |
| 9 | вуліцы — вуліц | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення з асновай на адзін зычны маюць нулявы канчатак |
| 10 | рэчы — рэчаў | Назоўнікі *рэч*, *шчолач*, *даль* маюць канчатак ***-аў*** (***-яў***) (не пад націскам) |

**Варыянт 1.** 1, 3, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | альха — вольхі | Змяняецца месца націску (перад націскным ***о*** з'яўляецца прыстаўная ***в***) |
| 2 | бервяно — бярвёны | Змяняецца месца націску (пад націскам выяўляецца ***ё***) |
| 3 | сэрца — сэрцы | Усе назоўнікі ў назоўным склоне множнага ліку маюць канчатак **-ы** (**-і**) |
| 4 | шуфель — шуфлі | Знікае беглы галосны |
| 5 | вятрак — ветракі | Змяняецца месца націску (не ў 1-м складзе перад націскам выяўляецца ***е***) |
| 6 | рабро — рэбры | Змяняецца месца націску (пад націскам выяўляецца ***э***) |
| 7 | пашпарт — пашпарты | Усе назоўнікі ў назоўным склоне множнага ліку маюць канчатак **-ы** (**-і**) |
| 8 | славянін — славяне | Назоўнікі з суфіксам ***-анін-*** (***-янін-***) страчваюць фіналь ***-ін*** пры абазначэнні мноства асоб |
| 9 | сподак — сподкі | Знікае беглы галосны |
| 10 | пяро — пёры | Змяняецца месца націску (пад націскам выяўляецца ***ё***) |

**Варыянт 2.** 2, 4, 5, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | плакса — плаксаў | Назоўнікі агульнага роду з асновай на збег зычных маюць канчатак ***-аў*** (***-яў***) |
| 2 | лінія — ліній | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення з асновай на адзін зычны (*ліній-*) маюць нулявы канчатак |
| 3 | кніжка — кніжак | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення са збегам зычных, дзе апошні зычны — суфікс ***-к-***, маюць нулявы канчатак (з'яўляецца беглы галосны) |
| 4 | справа — спраў | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення з асновай на адзін зычны маюць нулявы канчатак |
| 5 | крыга — крыг | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення з асновай на адзін зычны маюць нулявы канчатак |
| 6 | стрэльба — стрэльбаў | Назоўнікі жаночага роду 1-га скланення з асновай на збег зычных маюць канчатак ***-аў*** (***-яў***) |
| 7 | селянін — сялян | Назоўнікі з суфіксам ***-анін-*** (***-янін-***), якія ў множным ліку страчваюць фіналь ***-ін***, маюць нулявы канчатак |
| 8 | мужчына — мужчын | Назоўнікі мужчынскага роду на ***-а*** (***-я***) з асновай на адзін зычны маюць нулявы канчатак |
| 9 | мяч — мячоў | Назоўнікі мужчынскага роду на ***цвёрды*** зычны, ***шыпячыя***, ***р***, ***ц*** і ***г***, ***к***, ***х*** пад націскам маюць канчатак ***-оў*** (назоўнікі *меч* і *мяч* у множным ліку скланяюцца аднолькава) |
| 10 | дажынкі — дажынак | Множналікавыя назоўнікі са збегам зычных маюць нулявы канчатак (з'яўляецца беглы галосны) |

## Урок 22. Правапіс складаных назоўнікаў

**Тэст № 1.** 2, 3, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | альпініст-вышыннік | Складаны назоўнік з аднаслоўным прыдаткам (скланяюцца абедзве часткі) |
| 2 | авіябілет | Пачатковая іншамоўная частка ***авія-*** |
| 3 | паліткарэктнасць | Складанаскарочанае слова |
| 4 | грузавік-самазвал | Складаны назоўнік з аднаслоўным прыдаткам (скланяюцца абедзве часткі) |
| 5 | унтэр-афіцэр | Пачатковая частка ***унтэр-*** |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 6 | самаапраўданне | Складаны назоўнік з дзвюх асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальнай галоснай |
| 7 | чалавека-дзень | Значэнне цэласнай адзінкі вымярэння |
| 8 | водаачыстка | Складаны назоўнік з дзвюх асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальнай галоснай |
| 9 | паўартыкула | Агульная назва з часткай ***паў-*** |
| 10 | вакуум-помпа | Складаны назоўнік, у якім скланяецца толькі апошняе слова |

**Тэст № 2.** 1, 2, 3, 8, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | лётчык-выпрабавальнік | Складаны назоўнік з аднаслоўным прыдаткам (скланяюцца абедзве часткі) |
| 2 | экс-дырэктар | Пачатковая частка ***экс-*** |
| 3 | міні-матч | Пачатковая частка ***міні-*** |
| 4 | радыёсеанс | Пачатковая іншамоўная частка ***радыё-*** |
| 5 | агітбрыгада | Складанаскарочанае слова |
| 6 | газасховішча | Складаны назоўнік з дзвюх асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальнай галоснай |
| 7 | мікраарганізм | Пачатковая іншамоўная частка ***мікра-*** |
| 8 | ліберал-дэмакрат | Называе партыю (рух, плынь) |
| 9 | прэм’ер-міністр | Складаны назоўнік, у якім скланяецца толькі апошняе слова |
| 10 | паў-Беларусі | Уласная назва з часткай ***паў-*** |

**Варыянт 1.** 1, 3, 4, 6, 7, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | стэрэагук | Пачатковая іншамоўная частка ***стэрэа-*** |
| 2 | тона-кіламетр | Значэнне цэласнай адзінкі вымярэння |
| 3 | нафтаздабыча | Складаны назоўнік з дзвюх асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальнай галоснай |
| 4 | грампласцінка | Складанаскарочанае слова |
| 5 | прэс-сакратар | Пачатковая частка ***прэс-*** |
| 6 | разведрота | Складанаскарочанае слова |
| 7 | асфальтаўкладчык | Складаны назоўнік з дзвюх асноў, якія спалучаюцца пры дапамозе злучальнай галоснай |
| 8 | сацыял-дэмакратыя | Называе прадстаўніка партыі (руху, плыні) |
| 9 | аргкамітэт | Складанаскарочанае слова |
| 10 | віцэ-прэзідэнт | Пачатковая частка ***віцэ-*** |

**Варыянт 2.** 1, 2, 4, 5, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | максі-спадніца | Пачатковая частка ***максі-*** |
| 2 | самалёта-вылет | Значэнне цэласнай адзінкі вымярэння |
| 3 | сабака такса | Першы назоўнік абазначае родавае паняцце, а другі — відавое |
| 4 | паэт-песеннік | Складаны назоўнік з аднаслоўным прыдаткам (скланяюцца абедзве часткі) |
| 5 | обер-майстар | Пачатковая частка ***обер-*** |
| 6 | прайдзісвет | Складаны назоўнік, у якім першай часткай з’яўляецца дзеяслоўная форма загаднага ладу на ***-і*** (***-ы***) |
| 7 | паўяблыка | Агульная назва з часткай ***паў-*** |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 8 | рэжысёр-пастаноўшчык | Складаны назоўнік з аднаслоўным прыдаткам (скланяюцца абедзве часткі) |
| 9 | Новалукомль | Складаная ўласная назва паселішча з пачатковай часткай ***нова-*** (***нава-***), ***стара-***, ***верхне-*** (***верхня-***), ***ніжне-*** (***ніжня-***), ***сярэдне-*** (***сярэдня-***) |
| 10 | матыль-птушкакрыл | Складаны назоўнік з аднаслоўным прыдаткам (скланяюцца абедзве часткі) |

## Урок 23. Прыметнік. Разрады. Ступені параўнання

**Тэст № 1.** 1, 2.

***3***, ***5*** — займеннікі; ***4*** — дзеепрыметнік.

**Тэст № 2.** 2, 4, 5.

***2*** — адносны прыметнік у пераносным значэнні перайшоў у разрад якасных са значэннем ‘*чыстая*’; ***4*** — адносны прыметнік у пераносным значэнні перайшоў у разрад якасных са значэннем ‘*цяжкі*’; ***5*** — адносны прыметнік у пераносным значэнні перайшоў у разрад якасных са значэннем ‘*добры*’.

**Варыянт 1.** 1, 2, 5.

***3*** — парадкавы лічэбнік; ***4*** — займеннік.

**Варыянт 2.** 1, 3, 5.

***2*** — дзеепрыметнік; ***4*** — адносны прыметнік.

**Варыянт 3.** 2, 4, 5, 7, 9 — абазначаюць колькасна нязменную якасць.

**Варыянт 4.** 2, 3, 5, 6, 7, 9.

Правільныя формы: (***1***) *малы — меншы*, *самы малы*, *найменшы*; (***4***) *смелы — смялейшы*, *найсмялейшы*, *самы смелы*, *больш* (*менш*) *смелы*; (***8***) *адказны — самы адказны*, *больш* (*менш*) *адказны*; (***10***) *дужы — дужэйшы*, *найдужэйшы*, *самы дужы*, *больш* (*менш*) *дужы*.

## Урок 24. Правапіс складаных прыметнікаў

**Тэст № 1.** 2, 4, 5, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | сацыял-дэмакратычны | Утвораны ад складанага назоўніка, які пішацца праз злучок |
| 2 | шматскладовы | Суадносіцца са словазлучэннем назоўніка з прыслоўем адноснай меры колькасці |
| 3 | экалагічна чысты | Прыслоўі, утвораныя ад адносных прыметнікаў, захоўваюць самастойнасць |
| 4 | вуглепад’ёмны | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння дзеяслова з назоўнікам) |
| 5 | электравымяральны | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння дзеяслова з назоўнікам) |
| 6 | паўднёва-ўсходні | Абазначае спалучэнне напрамкаў свету |
| 7 | эканамічна выгадны | Прыслоўе ўтворана ад адноснага прыметніка |
| 8 | лёгкавыканальны | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння дзеяслова з прыслоўем) |
| 9 | мар’інагорскі | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння назоўніка з прыметнікам) |
| 10 | штабс-капітанскі | Утвораны ад складанага назоўніка, які пішацца праз злучок |

**Тэст № 2.** 2, 3, 5, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | авіяспартыўны | Суадносіцца са складаным назоўнікам, што пішацца ў адно слова |
| 2 | кісла-салодкі | Абазначае спалучэнне адценняў смаку |
| 3 | фізіка-тэхнічны | Утвораны спалучэннем слоў, якія абазначаюць разнародныя назвы прыметы |
| 4 | аэраздымачны | Суадносіцца са складаным назоўнікам, што пішацца ў адно слова |
| 5 | пясчана-гліністы | Утвораны спалучэннем слоў, якія абазначаюць раўнапраўныя паняцці (паміж словамі ў прыметніку можна паставіць злучнік ***і***) |
| 6 | белавата-блакітны | Абазначае спалучэнне адценняў колеру |
| 7 | выключна важны | Прыслоўе ўтворана ад адноснага прыметніка |
| 8 | обер-пракурорскі | Утвораны ад складанага назоўніка, які пішацца праз злучок |
| 9 | буда-кашалёўскі | Утвораны ад складанага назоўніка, які пішацца праз злучок |
| 10 | дастаткова вядомы | Прыслоўе ўтворана ад адноснага прыметніка |

**Варыянт 1.** 1, 2, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | лёгказасваяльны | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння дзеяслова з прыслоўем) |
| 2 | сталеразлівачны | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння дзеяслова з прыслоўем) |
| 3 | эканамічна стабільны | Прыслоўе ўтворана ад адноснага прыметніка |
| 4 | горка-салёны | Абазначае спалучэнне адценняў смаку |
| 5 | пяцісценны | Суадносіцца са словазлучэннем назоўніка з лічэбнікам |
| 6 | паўночнаафрыканскі | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння назоўніка з прыметнікам) |
| 7 | мядзяна-чырвоны | Абазначае спалучэнне адценняў колеру |
| 8 | мікракліматычны | Суадносіцца са складаным назоўнікам, што пішацца ў адно слова |
| 9 | маральна-прававы | Утвораны спалучэннем слоў, якія абазначаюць раўнапраўныя паняцці |
| 10 | хуткарастваральны | Суадносіцца са словазлучэннем з падпарадкавальнай сувяззю (утвораны ад спалучэння дзеяслова з прыслоўем) |

**Варыянт 2.** 2, 4, 5, 7, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | аэрадынамічны | Суадносіцца са складаным назоўнікам, што пішацца ў адно слова |
| 2 | паштова-тэлеграфны | Утвораны спалучэннем слоў, якія абазначаюць раўнапраўныя паняцці |
| 3 | абсалютна спакойны | Прыслоўе ўтворана ад адноснага прыметніка |
| 4 | бледна-зялёны | Абазначае спалучэнне адценняў колеру |
| 5 | віцэ-консульскі | Утвораны ад складанага назоўніка, які пішацца праз злучок |
| 6 | дзесяцігадовы | Суадносіцца са словазлучэннем назоўніка з лічэбнікам |
| 7 | музейна-краязнаўчы | Утвораны спалучэннем слоў, якія абазначаюць разнародныя назвы прыметы |
| 8 | агратэхнічны | Суадносіцца са складаным назоўнікам, што пішацца ў адно слова |
| 9 | ідэальна чысты | Прыслоўе ўтворана ад адноснага прыметніка |
| 10 | эстэтычна-філасофскі | Утвораны спалучэннем слоў, якія абазначаюць разнародныя назвы прыметы |

## Урок 25. Лічэбнік. Разрады лічэбнікаў

**Тэст № 1.** 2, 3.

***1***, ***4***, ***5*** — назоўнікі.

**Тэст № 2.** 1, 3, 5.

***2*** — парадкавы лічэбнік; ***4*** — у ролі часціцы *толькі.*

**Варыянт 1.** 2, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дзевяноста | У сучаснай мове просты |
| 2 | пяцідзясяты | Два карані: *пяц'-* + *дзясят-* |
| 3 | паўтара | Адзін корань: *паўтар-* |
| 4 | шэсцьсот | Два карані: *шэсц'-* + *сот-* |
| 5 | адзінаццаць | У сучаснай мове просты |
| 6 | восемдзесят | Два карані: *восем-* + *дзесят-* |
| 7 | сорак два | Састаўны — складаецца з самастойных слоў |
| 8 | чатырыста | Два карані: *чатыр-* + *ст-* |
| 9 | дзевяцісоты | Два карані: *дзевяц'-* + *сот-* |
| 10 | сто дваццаць трэці | Састаўны — складаецца з самастойных слоў |

**Варыянт 2.** 1, 2, 4, 7, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | студэнт | Абазначае асобу мужчынскага роду |
| 2 | шпачаня | Абазначае назву маладой істоты |
| 3 | актрыса | Абазначае асобу жаночага роду |
| 4 | гусь | ***Запомніць:*** ужываюцца са словамі *гусі, дзеці, людзі, коні, свінні* |
| 5 | тэатр | Неадушаўлёны назоўнік мужчынскага роду |
| 6 | дрэва | Неадушаўлёны назоўнік ніякага роду |
| 7 | вартавы | Абазначае асобу мужчынскага роду |
| 8 | сям'я | Неадушаўлёны назоўнік (не называе парнага прадмета і не з'яўляецца множналікавым) |
| 9 | дзіця | ***Запомніць:*** ужываюцца са словамі *гусі, дзеці, людзі, коні, свінні* |
| 10 | дзяжурны | Абазначае асобу мужчынскага роду |

**Варыянт 3.** 2, 4, 6, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | сем | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля губных |
| 2 | пяцьдзясят | Змякчальны мяккі знак пішацца ў складаных лічэбніках з першай часткай ***пяць-***, ***шэсць-***, ***дзевяць-*** |
| 3 | восемсот | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля губных |
| 4 | пяцьсот | Змякчальны мяккі знак пішацца ў складаных лічэбніках з першай часткай ***пяць-***, ***шэсць-***, ***дзевяць-*** |
| 5 | восемдзесят | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля губных |
| 6 | васьмі | Форма роднага склону лічэбніка *восем* |
| 7 | дзве | Змякчальны мяккі знак не пішацца пасля мяккіх зычных перад мяккімі, калі пры змяненні слова абодва зычныя застаюцца мяккімі (*дзвюх*) |
| 8 | шасцю | Форма творнага склону лічэбніка *шэсць* |
| 9 | сямюстамі | Форма творнага склону лічэбніка *семсот* |
| 10 | мільярд | Раздзяляльны мяккі знак пішацца ў слове іншамоўнага паходжання пасля літары ***л*** перад галоснай ***я***, якая абазначае два гукі |

## Урок 26. Лічэбнік. Скланенне лічэбнікаў

**Тэст № 1.** 1, 3, 4, 6, 7, 10.

Правільныя формы: ***2*** *— восемсот*; ***5*** *— чацвёрты*; ***8*** *— дваццаць*; ***9*** *— чатыры сёмыя.*

**Тэст № 2.** 3, 5, 8, 9.

Правільныя формы: ***1*** *— абедзвюх*; ***2*** *— васьмюстамі*; ***4*** *— двумастамі*; ***6*** *— пяцццюдзесяццю*; ***7*** *— двумастамі дваццаццю*; ***10*** *— васьмюдзесяццю.*

**Варыянт 1.** 1, 2, 4, 7, 8.

Правільныя формы: ***3*** *— абаіх*; ***5*** *— трэцяй*; ***6*** *— пяцідзесяці*; ***9*** *— паўтары* (*тоны*); ***10*** *— шасцісот.*

**Варыянт 2.** 2, 3, 4, 6, 7, 9.

Правільныя формы: ***1*** *— трыма пятымі*; ***5*** *— ста сарака дзевяццю*; ***8*** *— тысяча сто сёмым*; ***10*** *— дваімі.*

**Варыянт 3.** 1, 3, 4, 6, 7, 9, 10.

Правільныя формы: ***2*** *— чацвёртым*; ***5*** *— двухсот, двухстах*; ***8*** *— ста дваццаці.*

## Урок 27. Займеннік

**Тэст № 1.** 2, 4, 6, 8, 9.

***1***, ***5***, ***7***, ***10*** — прыслоўі; ***3*** — можа выконваць ролю прыслоўя, слова катэгорыі стану, няпэўна-колькаснага лічэбніка.

**Тэст № 2.** 4.

Займеннікі *кожны*, *сам*, *самы*, *усякі* — азначальныя, займеннік *такі* — указальны.

**Варыянт 1.** А5Б3В4Г2.

| Сказ | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| А | хто | Не мае формы множнага ліку |
| Б | нейкіх два-тры гады | Пры лічэбніках ***два***, ***тры***, ***чатыры*** прыметнікі і дапасаваныя займеннікі ўжываюцца ў форме назоўнага склону: ***нейкія*** *два-тры гады* |
| В | сабе | Займеннік ***сябе*** не мае формы назоўнага склону |
| Г | кагосці | Постфікс ***-сьці*** |

**Варыянт 2.** 1 (правільная форма: *не ў сабе самім*), 3 (правільная форма: *самому*).

**Варыянт 3.** 2 (правільная форма: *табе*), 3 (правільная форма: *табе*).

**Варыянт 4.** 2 (правільная форма: *сабе*), 4 (правільная форма: *сабе*).

## Урок 28. Дзеяслоў. Граматычныя катэгорыі. Правапіс суфіксаў

**Тэст № 1.** 1, 2, 4, 6, 7, 8, 10.

| № | Правільныя формы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | завя***за***ць — завяз***ва***ць | Суфікс ***-ва-*** пішацца пасля адзіночных зычных або іх спалучэнняў, якія заканчваюцца не на [л’], [н], [р]. У 1-й асобе адзіночнага ліку яны заканчваюцца на ***-ваю***: *завязваю* |

| № | Правільныя формы | Каментарый |
|---|---|---|
| 2 | даслед***ава***ць | У неазначальнай форме і ў формах прошлага часу пішацца суфікс ***-ава-*** (***-ява-***), калі ў 1-й асобе адзіночнага ліку дзеясловы заканчваюцца на ***-ую***: *даследую* |
| 3 | хадайніч***а***ць | Дзеяслоў 1-га спражэння: *хадайнічаюць* |
| 4 | удв***оі***ць — удв***ой***ваць | Калі ў інфінітыве дзеяслоў закончанага трывання на ***-іць*** мае папярэдні галосны, то ў незакончаным трыванні замест ***і*** пішацца ***й*** |
| 5 | абнадз***еі***ць — абнадз***ей***ваць | Калі ў інфінітыве дзеяслоў закончанага трывання на ***-іць*** мае папярэдні галосны, то ў незакончаным трыванні замест ***і*** пішацца ***й*** |
| 6 | замаро***з***іць — замарож***ва***ць | Суфікс ***-ва-*** пішацца пасля адзіночных зычных або іх спалучэнняў, якія заканчваюцца не на [л’], [н], [р] |
| 7 | настр***оі***ць — настр***ой***ваць | Калі ў інфінітыве дзеяслоў закончанага трывання на ***-іць*** мае папярэдні галосны, то ў незакончаным трыванні замест ***і*** пішацца ***й*** |
| 8 | разгла***дз***іць — разгладж***ва***ць | Суфікс ***-ва-*** пішацца пасля адзіночных зычных або іх спалучэнняў, якія заканчваюцца не на [л’], [н], [р] |
| 9 | удаскана***л***іць — удасканa***льва***ць | Суфікс ***-ва-*** пішацца пасля адзіночных зычных або іх спалучэнняў, якія заканчваюцца не на [л’], [н], [р] (захоўваецца мяккасць зычнага [л’]) |
| 10 | падця***г***нуць — падцяг***ва***ць | Суфікс ***-ва-*** пішацца пасля адзіночных зычных або іх спалучэнняў, якія заканчваюцца не на [л’], [н], [р] |

**Тэст № 2.** 2, 3, 4.

| № | Правільны адказ | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | I спражэнне | 3-я асоба множнага ліку: *прагуля**юца*** |
| 2 | Закончанае трыванне | Пытанне да дзеяслова: *што зрабіць?* |
| 3 | Зваротны | Мае постфікс ***-ца*** |
| 4 | Непераходны | Не кіруе назоўнікамі ў вінавальным склоне |
| 5 | Ужыты ў форме інфінітыва | Пытанне да дзеяслова: *што зрабіць?* |

**Варыянт 1.** 2, 3, 4.

| № | Правільны адказ | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | II спражэнне | 3-я асоба множнага ліку: *раздзел**яца*** |
| 2 | Закончанае трыванне | Пытанне да дзеяслова: *што зрабіла?* |
| 3 | Зваротны | Мае постфікс ***-ся*** |
| 4 | Абвеснага ладу | Абазначае дзеянне як рэальны факт |
| 5 | Ужыты ў форме прошлага часу, жаночага роду, адзіночнага ліку | Пытанне да дзеяслова: *што зрабіла?* |

**Варыянт 2.** 2, 4, 5, 7, 8.

*Намокнуць* (***2***), *заспяваць* (***4***), *прывезці* (***5***), *перабегчы* (***7***), *прыспешыць* (***8***) — дзеясловы закончанага трывання (маюць формы будучага і прошлага часу: адказваюць на пытанне *што зрабіць?*).

**Варыянт 3.** 2, 3, 6, 7, 9.

| № | Правільныя формы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | садзейнічаў | Дзеяслоў I спражэння: утваральная аснова (аснова інфінітыва) — *садзейніч**а**-* |
| 2 | склаў | Калі дзеяслоў заканчваецца на ***-сці***, то каранёвы ***с*** у прошлым часе выпадае: (аснова інфінітыва — *скла**с**-*) |
| 3 | падпоўз | Калі аснова інфінітыва заканчваецца на зычны, то ў форме прошлага часу мужчынскага роду суфікс ***-ў*** не ўжываецца (аснова інфінітыва — *падпаў**з**-*) |
| 4 | сцерагла | Калі аснова інфінітыва заканчваецца на зычны, то ў форме прошлага часу мужчынскага роду суфікс ***-ў*** не ўжываецца (аснова інфінітыва — *сцера**г**-*) |

| № | Правільныя формы | Каментарый |
|---|---|---|
| 5 | настройвалі | Калі ў інфінітыве дзеяслоў закончанага трывання на ***-іць*** мае папярэдні галосны (*настр**о**іць*), то ў незакончаным трыванні замест ***і*** пішацца літара ***й***, якая захоўваецца ва ўсіх формах |
| 6 | загроб | Калі аснова інфінітыва заканчваецца на зычны, то ў форме прошлага часу мужчынскага роду суфікс ***-ў*** не ўжываецца (аснова інфінітыва — *загрэ**б**-*) |
| 7 | зморшчыўся | Правільная форма: аснова інфінітыва — *зморшч**ы**_ца* |
| 8 | папрысутнічаў | Дзеяслоў І спражэння: утваральная аснова — *папрысутніч**а**-* |
| 9 | прыліп | У дзеясловах, якія абазначаюць стан прадмета, суфікс ***-ну-*** выпадае |
| 10 | вывезла | Літара ***е*** пішацца ва ўсіх складах, акрамя першага перад націскам |

**Варыянт 4.** 2, 3.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | агортвае | Пытанне *што робіць?* |
| 2 | калыхне | Пытанне *што зробіць?* |
| 3 | абмылі | Пытанне *што зрабілі?* |
| 4 | сустракалі | Пытанне *што рабілі?* |
| 5 | грэла | Пытанне *што рабіла?* |

**Варыянт 5.** 1, 3.

(***2***) *буду берагчы* — складаная форма будучага часу абвеснага ладу; (***4***) *пішы* — форма загаднага ладу, *не патушыла* — форма прошлага часу абвеснага ладу; (***5***) *сачыў* — форма прошлага часу абвеснага ладу.

**Варыянт 6.** 1, 3, 4.

(***2***) *хацелася б* — форма ўмоўнага ладу; (***5***) *пахавалі* — форма прошлага часу абвеснага ладу.

**Варыянт 7.** 1, 2, 5.

| № | Граматычная аснова | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | красуе жыта | Граматычны суб'ект (у сказе — дзейнік) сам выконвае дзеянне |
| 2 | хмара рассыпае | Граматычны суб'ект (у сказе — дзейнік) сам выконвае дзеянне |
| 3 | свята рабілася | Дзеяслоў абазначае дзеянне, накіраванае на граматычны суб'ект (у сказе — дзейнік) |
| 4 | мыецца падлога, падмятаюцца надворкі | Дзеясловы абазначаюць дзеянне, накіраванае на граматычныя суб'екты (у сказе — дзейнікі) |
| 5 | крык плыве | Граматычны суб'ект (у сказе — дзейнік) сам выконвае дзеянне |

**Варыянт 8.** 1, 3, 5.

| № | Кіраванне дзеяслова | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | кранула траву | Дзеяслоў абазначае дзеянне, накіраванае непасрэдна на аб'ект і выражанае формай вінавальнага склону без прыназоўніка |
| 2 | дзьмуў з акна | Дзеяслоў абазначае дзеянне, якое не накіравана на нейкі аб'ект, а адносіцца толькі да ўтваральніка дзеяння |
| 3 | змываюць рэшткі змроку | Дзеяслоў абазначае дзеянне, накіраванае непасрэдна на аб'ект і выражанае формай вінавальнага склону без прыназоўніка |
| 4 | плешча цераз край | Дзеяслоў абазначае дзеянне, якое не накіравана на нейкі аб'ект, а адносіцца толькі да ўтваральніка дзеяння |
| 5 | запаланілі свет | Дзеяслоў абазначае дзеянне, накіраванае непасрэдна на аб'ект і выражанае формай вінавальнага склону без прыназоўніка |

# Урокі 29—30. Дзеяслоў. Спражэнне. Асабовыя канчаткі

**Тэст № 1.** 1, 4, 5, 6, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | перабраць | У 3-й асобе множнага ліку канчатак ***-уць*** пад націскам: *перабяру́ць* |
| 2 | цярпець | Дзеяслоў, які неабходна запомніць |
| 3 | закрычаць | У 3-й асобе множнага ліку канчатак ***-аць*** пад націскам: *закрыча́ць* |
| 4 | вымыць | Вытворны прыставачны дзеяслоў належыць да таго самага тыпу спражэння, што і беспрыставачны *мыць*: аднаскладовы дзеяслоў заканчваецца на ***-ыць*** |
| 5 | шыць | Аднаскладовы дзеяслоў заканчваецца на ***-ыць*** |
| 6 | падвезці | У 3-й асобе множнага ліку канчатак ***-уць*** пад націскам: *падвязу́ць* |
| 7 | з’есці | У беларускай мове дзеясловы *бегчы*, *есці*, *даць* (і ўсе вытворныя прыставачныя ад іх) лічацца рознаспрагальнымі |
| 8 | абклеіць | Дзеяслоў у форме інфінітыва заканчваецца на ***-іць*** |
| 9 | перадаць | У беларускай мове дзеясловы *бегчы*, *есці*, *даць* (і ўсе вытворныя прыставачныя ад іх) лічацца рознаспрагальнымі |
| 10 | садзейнічаць | У 3-й асобе множнага ліку канчатак ***-уць*** не пад націскам: *садзе́йнічай-уць* |

**Тэст № 2.** 1, 2, 4.

***3*** — незваротныя і адпаведныя ім зваротныя дзеясловы адносяцца да аднаго тыпу спражэння; ***5*** — дзеясловы ўмоўнага ладу не маюць асабовых формаў.

**Варыянт 1.** 3.

| Дзеяслоў | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| А | разатрэ́ш | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*разатр-*), націск на канчатку |
| Б | вы́тчаш | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на ***к***: *вытк-* (*к* // *ч*), націск не на канчатку |
| В | злучыш | Дзеяслоў II спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*луч-*) |
| Г | прывязеш | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на цвёрды зычны (*прывяз-*) |

**Варыянт 2.** 2.

| Дзеяслоў | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| А | успомніць | Дзеяслоў II спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*успомн’-*) |
| Б | нясе | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на зычны (*няс-*) |
| В | бярэ́ | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*бяр-*), націск на канчатку |
| Г | ска́жа | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*скаж-*), націск не на канчатку |

**Варыянт 3.** А5Б2В1Г3.

| Дзеяслоў | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| А | залежыць | Дзеяслоў II спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*залеж-*) |
| Б | адрачэцца | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на ***к***: *адрак_ца* (*к* // *ч*), націск на канчатку |
| В | садзейнічае | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*садзейнічай-*) |
| Г | вяжа | Дзеяслоў I спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*вяж-*), націск не на канчатку |

**Варыянт 4.** 2, 5.

| Дзеяслоў | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | перака́жа | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*перакаж-*), націск не на канчатку |
| 2 | мо́жа | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на ***г***: *мог-* (*г // ж*), націск не на канчатку |
| 3 | распастрэ́ | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*распастр-*), націск на канчатку |
| 4 | распражэ́ | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на ***г***: *распраг-* (*г // ж*), націск на канчатку |
| 5 | вы́бера | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*выбер-*), націск не на канчатку |

**Варыянт 5.** 1.

| Дзеяслоў | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| А | разнясём | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на цвёрды зычны (*разняс-*), націск на канчатку |
| Б | нарэ́жам | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*нарэж-*), націск не на канчатку |
| В | дабяро́мся | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*дабяр-_-ца*), націск на канчатку |
| Г | зно́йдзем | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на цвёрды зычны (*знойд-*), націск не на канчатку |

**Варыянт 6.** А2Б5В3Г4.

| Дзеяслоў | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| А | напячом | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на ***к***: *напяк-* (*к // ч*), націск на канчатку |
| Б | завершым (за-вяршым) | Дзеяслоў ІІ спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*заверш-* (*завярш-*)) |
| В | надзьмёмся | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на цвёрды зычны (*надзьм-_-ца*), націск на канчатку |
| Г | прыгонім | Дзеяслоў ІІ спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*прыгон’-*) |

**Варыянт 7.** А2Б5В4Г1.

| Дзеяслоў | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| А | дастаяце́ | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*дастай-*), націск на канчатку |
| Б | ство́рыце | Дзеяслоў ІІ спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*створ-*) |
| В | прыму́сіце | Дзеяслоў ІІ спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*прымус’-*) |
| Г | выраша́еце | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*дастай-*), націск не на канчатку |

**Варыянт 8.** 2, 3.

| № | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | крычыце́ | Дзеяслоў ІІ спражэння, утваральная аснова на зацвярдзелы зычны (*крыч-*), націск на канчатку |
| 2 | ідзяце́ | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на цвёрды зычны (*ід-*), націск на канчатку |
| 3 | стрыжаце́ | Дзеяслоў І спражэння, утваральная аснова на ***г***: *стрыг-* (*г // ж*), націск на канчатку |
| 4 | баіце́ся | Дзеяслоў ІІ спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*бай-_-ца*), націск на канчатку |
| 5 | стаіце́ | Дзеяслоў ІІ спражэння, утваральная аснова на мяккі зычны (*стай-*), націск на канчатку |

**Варыянт 9.** 1, 2, 5.

| № | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | склейваюць | Дзеяслоў I спражэння незакончанага трывання |
| 2 | разганяюць | Дзеяслоў I спражэння незакончанага трывання |
| 3 | злучаць | Дзеяслоў II спражэння закончанага трывання |
| 4 | бароняць | Дзеяслоў II спражэння незакончанага трывання |
| 5 | пускаюць | Дзеяслоў I спражэння незакончанага трывання |

**Варыянт 10.** 2, 3, 4.

| № | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | мелюць | Дзеяслоў I спражэння незакончанага трывання |
| 2 | дагоняць | Дзеяслоў II спражэння закончанага трывання |
| 3 | зменшаць | Дзеяслоў II спражэння закончанага трывання |
| 4 | падзеляць | Дзеяслоў II спражэння закончанага трывання |
| 5 | расколюць | Дзеяслоў I спражэння закончанага трывання |

# Урок 31. Дзеепрыметнік

**Тэст № 1.** 1, 2, 3.

***4*** — дзеепрыметнікі дапасуюцца да назоўнікаў (*вывучаны верш*) або кіруюць імі (*сплецены з лазы*); ***5*** — не маюць ступеняў параўнання.

**Тэст № 2.** 2, 4, 7, 8, 9.

| № | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | прагорк***л***ы | Аснова прошлага часу непераходнага дзеяслова (*прагорк-*) + ***-л-*** |
| 2 | скліка***н***ы | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*склік**а**-*) + ***-н-*** |
| 3 | скош***ан***ая | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*скас**і**-*) + ***-ан-*** (*с // ш*) |
| 4 | паспе***л***ыя | Аснова інфінітыва непераходнага дзеяслова (*пасп**е**-*) + ***-л-*** |
| 5 | пройдз***ен***ы | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*прайс-*) + ***-ен-*** |
| 6 | засе***я***нае | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*засе**я**-*) + ***-н-*** |
| 7 | прамёрз***л***ая | Аснова прошлага часу непераходнага дзеяслова (*прамёрз-*) + ***-л-*** |
| 8 | пераплаўл***ен***ы | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*параплав**і**-*) + ***-ен-*** (*в // ўл*) |
| 9 | адштурх***нут***ы | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*адштурх**ну**-*) + ***-т-*** |
| 10 | раста***л***ы | Аснова інфінітыва непераходнага дзеяслова (*раст**а**-*) + ***-л-*** |

**Варыянт 1.** 2, 4, 6, 8.

***2***, ***4***, ***6***, ***8*** — ад зваротных дзеясловаў дзеепрыметнікі ў беларускай мове не ўтвараюцца.

**Варыянт 2.** 1, 2, 5, 7, 9.

| № | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | спахмурнелае | Аснова інфінітыва непераходнага дзеяслова (*спахмурн**е**-*) + ***-л-*** |
| 2 | змолатая | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*змал**о**-*) + ***-т-*** |
| 3 | апалы | Аснова інфінітыва непераходнага дзеяслова (*апа**с**-*) + ***-л-*** |
| 4 | заасфальтаваная | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*заасфальтав**а**-*) + ***-н-*** |

| № | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 5 | прадыктаваны | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*прадыктава*-) + + **-н-** |
| 6 | ашуканы | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*ашука*-) + **-н-** |
| 7 | затопленая | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*затапі*-) + **-ен-** |
| 8 | — | Зваротны дзеяслоў |
| 9 | пасеяны | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*пасея*-) + **-н-** |
| 10 | напаленая | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*напалі*-) + **-ен-** |

**Варыянт 3.** 2, 4, 7, 8, 10.

| № | Правільная форма | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | правеянае | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*правея*-) + **-н-** |
| 2 | уладкаваны | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*уладкава*-) + **-н-** |
| 3 | непрадбачаная | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*прадбачы*-) + **-ан-** |
| 4 | купленыя | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*купі*-) + **-ен-** |
| 5 | вывуджаная | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*вывудзі*-) + **-ан-** |
| 6 | утоены | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*утаі*-) + **-ен-** |
| 7 | пабялелая | Аснова інфінітыва непераходнага дзеяслова (*пабяле*-) + **-л-** |
| 8 | знойдзенае | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*знайс*-) + **-ен-** |
| 9 | перададзенае | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*перада*-) + **-ен-** |
| 10 | адроджаныя | Аснова інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*адрадзі*-) + **-ан-** |

**Варыянт 4.** 2, 3, 5, 7, 10.

| № | Дзеясловы | Дзеепрыметнікі |
|---|---|---|
| 1 | укамплектаваць | *укамплектаваны* — ад асновы інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*укамплектава*-) + **-н-** |
| 2 | перашыць | *перашыты* — ад прыставачнага дзеяслова з аднаскладовай беспрыставачнай часткай (*шы*-) + **-т-** |
| 3 | закрануць | *закрануты* — ад асновы інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*закрану*-) + **-т-** |
| 4 | запаволіць | *запаволены* — ад асновы інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*запаволі*-) + **-ен-** |
| 5 | выцягнуць | *выцягнуты* — ад асновы інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*выцягну*-) + **-т-** |
| 6 | падмокнуць | *падмоклы* — ад асновы прошлага часу (абазначае стан) пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*падмок*-) + **-л-** |
| 7 | падкінуць | *падкінуты* — ад асновы інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*падкіну*-) + **-т-** |
| 8 | падсохнуць | *падсохлы* — ад асновы прошлага часу (абазначае стан) пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*падсох*-) + **-л-** |
| 9 | закалыхаць | *закалыханы* — ад асновы інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*закалыха*-) + **-н-** |
| 10 | сціснуць | *сціснуты* — ад асновы інфінітыва пераходнага дзеяслова закончанага трывання (*сцісну*-) + **-т-** |

## Урок 32. Дзеепрыслоўе

**Тэст № 1.** 1, 2, 3.

***4*** — дзеепрыслоўі прымыкаюць да дзеяслова; ***5*** — дзеепрыслоўі закончанага трывання ўтвараюцца ад асновы інфінітыва дзеясловаў закончанага трывання.

**Тэст № 2.** 2, 4.

***1*** — *нягледзячы на* (вытворны прыназоўнік); ***3*** — *назапашанага* (дзеепрыметнік); ***5*** — *злічаны* (дзеепрыметнік).

**Варыянт 1.** 3, 4, 6, 7, 10.

| № | Дзеепрыслоўі | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | захапля***ючы***ся | Утворана ад дзеяслова незакончанага трывання I спражэння |
| 2 | ходз***ячы*** | Утворана ад дзеяслова незакончанага трывання II спражэння |
| 3 | паспрабава***ўшы*** | Утворана ад дзеяслова закончанага трывання (аснова інфінітыва на галосны: *паспрабав**а**-*) |
| 4 | узгада***ўшы*** | Утворана ад дзеяслова закончанага трывання (аснова інфінітыва на галосны: *узгад**а**-*) |
| 5 | адзнача***ючы*** | Утворана ад дзеяслова незакончанага трывання I спражэння |
| 6 | прыстасава***ўшы***ся | Утворана ад дзеяслова закончанага трывання (аснова інфінітыва на галосны: *прыстасав**а**_ца*) |
| 7 | засея***ўшы*** | Утворана ад дзеяслова закончанага трывання (аснова інфінітыва на галосны: *засе**я**-*) |
| 8 | змага***ючы***ся | Утворана ад дзеяслова незакончанага трывання I спражэння |
| 9 | прывёў***шы*** | Утворана ад дзеяслова закончанага трывання (аснова інфінітыва на зычны: *прывe**с**-*) |
| 10 | адмові***ўшы*** | Утворана ад дзеяслова закончанага трывання (аснова інфінітыва *адмов**і**-*) |

**Варыянт 2.** 2, 3, 5, 8, 10.

Дзеепрыслоўі ўтвораны ад дзеясловаў незакончанага трывання II спражэння пры дапамозе суфікса ***-ячы***; 1, 4, 6, 7, 9 — ад дзеясловаў незакончанага трывання I спражэння пры дапамозе суфікса ***-ючы***.

**Варыянт 3.** 1, 4, 5.

***2*** — у безасабовых сказах дзеепрыслоўе можна ўжываць толькі ў тым выпадку, калі яно адносіцца да інфінітыва; ***3*** — дзейнік *сустрэча* не можа выконваць дзеяння, абазначанага дзеепрыслоўем.

## Урок 33. Прыслоўе

**Тэст № 1.** 2, 3, 4.

***1*** — ***уздоўж*** *берага* (прыназоўнік); ***5*** — ***узбоч*** *дарогі* (прыназоўнік).

**Тэст № 2.** 2, 4, 7, 8 — акалічнасныя прыслоўі; 9 — форма суб'ектыўнай ацэнкі.

**Варыянт 1.** 1, 2, 3, 5.

***4*** — акалічнаснае прыслоўе.

**Варыянт 2.** 1, 2, 3.

***4***, ***5*** — прыслоўе не змяняецца па склонах і ліках (гэта нязменная часціна мовы).

## Урок 34. Правапіс прыслоўяў

**Тэст № 1.** 2, 3, 4, 6, 8, 9, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *у сярэдзіне* лета | Спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паяснляльнага слова пішуцца асобна |
| 2 | рабілі *паэтапна* | Пасля прыстаўкі не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам |

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 3 | насыпалі *даверху* | Утворана ў выніку спалучэння прыназоўніка з формай назоўніка ***верх*** (азначэнне або дапаўненне адсутнічаюць) |
| 4 | *патроху* папраўляўся | Пасля прыстаўкі не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам |
| 5 | спынілі *на скаку* | **!** Запомніць напісанне |
| 6 | *штогод* наведваўся | Прыслоўе з часткай ***што-*** |
| 7 | *на верх* гары | Спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паясняльнага слова пішуцца асобна |
| 8 | працавалі *ўдваіх* | Утворана ў выніку спалучэння прыназоўніка ***у*** са склонавай формай зборнага лічэбніка *двое* |
| 9 | стаіць *наводдаль* | Утворана ад прыслоўя прыставачным спосабам |
| 10 | планавалі *надалей* | Утворана ад прыслоўя прыставачным спосабам |

**Тэст № 2.** 1, 4, 5, 7, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *па-філасофску* глыбока | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-***, якое заканчваецца на ***-ску*** (ад адноснага прыметніка) |
| 2 | падлічвалі *падэкадна* | Пасля прыстаўкі не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам |
| 3 | *падоўгу* размаўлялі | Пасля прыстаўкі не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам |
| 4 | атрымалася *па-твойму* | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-***, утворанае ад давальнага склону прыналежнага займенніка з суфіксам ***-му*** |
| 5 | сустракалі *сям-там* | Складанае прыслоўе ўтворана спалучэннем блізкіх па значэнні слоў |
| 6 | знаходзіўся *пад бокам* | Блізкае па значэнні да прыслоўя спалучэнне назоўніка з прыназоўнікам (паміж прыназоўнікам і назоўнікам можна паставіць азначэнне: *пад самым бокам*) |
| 7 | выць *па-воўчы* | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-*** і суфіксам ***-ы***, утворанае ад прыметніка |
| 8 | разышліся *па-добраму* | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-***, утворанае ад давальнага склону поўнага прыметніка з суфіксам ***-аму*** |
| 9 | ішлі *па двое* | **!** Запомніць напісанне |
| 10 | *дзе-небудзь* у космасе | Прыслоўі з постфіксам ***-небудзь*** |

**Варыянт 1.** 1, 3, 4, 7.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | вымылі *дачыста* | Прыслоўе ўтворана ад прыметніка прыставачна-суфіксальным спосабам |
| 2 | бегалі *да ўпаду* | **!** Запомніць напісанне |
| 3 | лічылі *пагадзінна* | Пасля прыстаўкі не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам |
| 4 | вярталіся *дадому* | Пасля прыстаўкі не можа быць далучана азначэнне або пастаўлена склонавае пытанне з адпаведным прыназоўнікам |
| 5 | сеяў *з ранку да вечара* | **!** Запомніць напісанне |
| 6 | завучыць *на памяць* | **!** Запомніць напісанне |
| 7 | зачыніць *наглуха* | Прыслоўе ўтворана ад прыметніка прыставачна-суфіксальным спосабам |
| 8 | *у дадатак* да сказанага | Спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паясняльнага слова пішуцца асобна |
| 9 | *з роду* Радзівілаў | Спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паясняльнага слова пішуцца асобна |
| 10 | *у даль* мора | Спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікам пры наяўнасці паясняльнага слова пішуцца асобна |

**Варыянт 2.** 1, 2, 5, 6, 8, 10.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *па-рыцарску* смела | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-***, якое заканчваецца на ***-ску*** (ад адноснага прыметніка) |
| 2 | *па-асенняму* дажджлівы | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-***, утворанае ад давальнага склону поўнага прыметніка з суфіксам ***-яму*** |
| 3 | дзялілі *паро́ўну* | Прыслоўе ўтворана ад прыметніка прыставачна-суфіксальным спосабам |
| 4 | кінуўся *наперарэз* | Прыслоўе ўтворана спалучэннем прыназоўніка і склонавай формы назоўніка, якая самастойна не ўжываецца |
| 5 | ладзіў *па-гаспадарску* | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-***, якое заканчваецца на ***-ску*** (ад адноснага прыметніка) |
| 6 | выкінуць *абы-куды* | Прыслоўе з прыстаўкай ***абы-*** |
| 7 | *усё роўна* спазніліся | **!** Запомніць напісанне |
| 8 | *перш-наперш* спланаваў | Складанае прыслоўе ўтворана спалучэннем блізкіх па значэнні слоў |
| 9 | дадаваць *памалу* | Прыслоўе ўтворана ад прыметніка прыставачна-суфіксальным спосабам |
| 10 | *па-чалавечы* шкада | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-*** і суфіксам ***-ы***, утворанае ад прыметніка |

**Варыянт 3.** 2, 4, 6, 8, 9.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | бег *штосілы* | Прыслоўе з часткай ***што-*** |
| 2 | лавіць *на ляту* | **!** Запомніць напісанне |
| 3 | *па-мацярынску* пяшчотна | Прыслоўе з прыстаўкай ***па-***, якое заканчваецца на ***-ску*** (ад адноснага прыметніка) |
| 4 | *у пачатку* восені | Спалучэнне прыназоўніка з назоўнікам пры наяўнасці паясняльнага слова пішацца асобна |
| 5 | сядзеў *насупраць* | Прыслоўе ўтворана ад прыслоўя прыставачным спосабам |
| 6 | *у дзвюх* кватэрах | Спалучэнне прыназоўніка з лічэбнікам пішацца асобна |
| 7 | прыняць *напавер* | Прыслоўе ўтворана спалучэннем прыназоўніка і склонавай формы назоўніка, якая самастойна не ўжываецца |
| 8 | беглі *без аглядкі* | Блізкае па значэнні да прыслоўяў спалучэнне назоўніка з прыназоўнікам ***без*** |
| 9 | заўсёды *на віду* | Блізкае па значэнні да прыслоўяў спалучэнне назоўніка з прыназоўнікам ***на***. **!** Запомніць напісанне |
| 10 | гадаць *надвае* | Утворана ў выніку спалучэння прыназоўніка ***на*** са склонавай формай зборнага лічэбніка |

## Урок 35. Службовыя часціны мовы

### Прыназоўнікі

**Тэст № 1.** 1, 2, 4.

***3*** — не могуць звязваць аднародныя члены сказа; ***5*** — бываюць вытворнымі.

**Тэст № 2.** 1, 4.

***2*** — параўнальная часціца; ***3*** — падпарадкавальны злучнік; ***5*** — злучальны злучнік.

**Варыянт 1.** 1, 2, 3, 4.

***5*** — прыслоўе.

**Варыянт 2.** 1, 3.

***2*** — *смяяцца з іх*; ***4*** — *выправіць па цукар*; ***5*** — *ад'ехаць па справах.*

## Злучнікі

**Тэст № 1.** 1, 2, 3.

***4*** — не могуць выступаць у ролі ніякіх членаў сказа; ***5*** — некаторыя з'яўляюцца вытворнымі.

**Тэст № 2.** 3, 4, 5, 7, 10.

***2*** — адносны займеннік у ролі злучальнага слова; ***6*** — асабовы займеннік *ён* у форме творнага склону; ***8*** — прыназоўнік; ***9*** — адносны займеннік у ролі злучальнага слова.

**Варыянт 1.** 2, 4.

***1*** — адносны займеннік у ролі злучальнага слова; ***3*** — адносны займеннік у ролі злучальнага слова; ***5*** — прыслоўе ў ролі злучальнага слова.

**Варыянт 2.** 2, 3, 4.

***1***, ***5*** — звязваюць аднародныя члены сказа.

## Часціцы

**Тэст № 1.** 2, 4, 5.

***1*** — гэта службовая часціна мовы; ***3*** — не могуць называць прадметы і дзеянні.

**Тэст № 2.** 2, 3, 5, 6, 10, 11.

***1*** — прыназоўнік; ***4*** — прыназоўнік; ***7*** — супастаўляльны злучнік; ***8*** — параўнальны злучнік; ***9*** — (*побач з*) прыназоўнік.

**Варыянт 1.** 1, 4, 5.

***2*** — адносны займеннік у ролі злучальнага слова; ***3*** — параўнальны злучнік.

**Варыянт 2.** А3Б2В5Г1.

# Урок 36. Ужыванне часціц НЕ і НІ

**Тэст № 1.** 1, 3, 4.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | загаварыла ***не*** адразу | Ужыта са значэннем адмаўлення |
| 2 | як ***ні*** стараліся | Узмацняе сцвярджэнне ў дадзеным сказе (*спосаб праверкі*: ставім пытанне да дзеяслова, каб атрымаць станоўчы ці адмоўны адказ (*усе стараліся?*); калі адказ сцвярджальны (у сказе: *так, стараліся*), пішацца *ні*) |
| 3 | ці ***не*** туманы? | Незалежны пытальна-клічны сказ |
| 4 | далёка ***не*** апошнюю ролю | Прыслоўе з паясняльным словам *апошнюю*, якое мае ацэначнае значэнне якасці |
| 5 | ***ні*** гуку, ***ні*** руху, ***ні*** ветрыка | Няпоўны сказ, у якім падразумяваецца выказнік з адмоўем |

**Тэст № 2.** 2, 3, 4.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ***не*** раз начаваў | *Не раз* (многа разоў) |
| 2 | няма ***ні*** ластавак, ***ні*** чаек | Адмоўны сказ, дзе адмаўленне выражана словам *няма* |

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 3 | дзе б ***ні*** жыў | Узмацняе сцвярджэнне ў дадзеным сказе |
| 4 | не змаўкае ***ні*** на момант | Адмоўны сказ, дзе адмаўленне выражана часціцай *не*: *не змаўкае* |
| 5 | ***не*** больш за паўмезенца | Ужыта са значэннем адмаўлення пры форме вышэйшай ступені параўнання прыслоўя |

**Варыянт 1.** 1, 2, 5.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ***не*** можа ***не*** адбіцца | Часціца ўжыта двойчы — пры кожнай частцы састаўнога выказніка |
| 2 | хіба ***не*** адчуваў? | Незалежны пытальна-клічны сказ |
| 3 | не ціхне ***ні*** на хвіліну | Адмоўны сказ, дзе адмаўленне выражана часціцай *не*: *не ціхне* |
| 4 | не аддаваў увагі ***ні*** сонцу, ***ні*** цішыні | У ролі злучніка *і* ў адмоўных сказах пры пералічэнні аднародных членаў сказа |
| 5 | ***не то*** травы, ***не то*** кустоў | Паўторны размеркавальны злучнік пры аднародных членах у сцвярджальным сказе |

**Варыянт 2.** 1, 3, 5.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | нельга было ***не*** заўважыць | Сцвярджальнае значэнне ў спалучэнні са словам *нельга* |
| 2 | ***ні*** адзін месяц не багаты | *Ні* ўзмацняе адмоўны сэнс сказа, дзе адмаўленне выражана часціцай *не*: *не багаты* |
| 3 | ***не*** хто іншы, а сам | Сцвярджальнае значэнне ў выразе *не хто іншы, а* (*як*) |
| 4 | што ***ні*** дзень | Сцвярджальнае значэнне: ‘*кожны дзень*’ |
| 5 | якіх ***не*** нацярпеўся страхаў! | Незалежны пытальна-клічны сказ |

**Варыянт 3.** 1, 4, 5.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ***ні*** на міг не пакідалі | Адмоўны сказ, дзе адмаўленне выражана часціцай *не*: *не пакідалі* |
| 2 | хто ***не*** мае слабасці? | Незалежны пытальна-клічны сказ |
| 3 | ледзь ***не*** хлыне | Стаіць пасля часціцы *ледзь* |
| 4 | не чуваць было ***ні*** лёскату, ***ні*** грукату, ***ні*** галасоў | У ролі злучніка *і* ў адмоўных сказах пры пералічэнні аднародных членаў сказа |
| 5 | як ***ні*** гне, ***ні*** гладзіць | Узмацняе сцвярджэнне ў дадзеным сказе |

## Урок 37. Правапіс часціц НЕ і НІ (АНІ)

**Тэст № 1.** 2, 3, 5.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | стаяў *нерухома* | Часціца служыць для выражэння новага, супрацьлеглага паняцця |
| 2 | *не блізкі*, а далёкі | З прыметнікам, пры якім выражана супрацьпастаўленне |
| 3 | ніколі *не бачаныя* | Прыметнік, пры якім у якасці паясняльнага слова выступае прыслоўе, якое пачынаецца з *ні*: *ніколі* |
| 4 | *ніхто* не можа | Займеннік, у якім *ні* не аддзелена прыназоўнікам |
| 5 | аб чым *ні пацікаўся* | Стаіць перад выказнікам у дадзенай частцы складанага сказа, дзе служыць для ўзмацнення сцвярджальнага значэння |

**Тэст № 2.** 1, 4.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *не вельмі* багата | Прыслоўе ацэнкі *вельмі* |
| 2 | *нідзе* не варушылася | Прыслоўе ў адмоўным сказе |
| 3 | *непрыкметна* перайшла | Часціца служыць для выражэння новага, супрацьлеглага паняцця |
| 4 | *не чутно* | Нязменнае слова *не чутно* ў ролі выказніка |
| 5 | як *ніхто* іншы | Займеннік, у якім *ні* не аддзелена прыназоўнікам |

**Варыянт 1.** 1, 3, 4.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | дзе б *ні сустрэў* | Стаіць перад дзеясловам-выказнікам у дадзенай частцы складанага сказа |
| 2 | *недаацаніць* намаганняў | Дзеяслоў з прыстаўкай *неда-*, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме |
| 3 | *не сустракаючы* перашкод | Дзеепрыслоўе |
| 4 | *не кранутым* нікім снег | Поўны дзеепрыметнік, пры якім ёсць паясняльнае слова (*нікім*) |
| 5 | *нікуды* не спяшаўся | Прыслоўе |

**Варыянт 2.** 2, 4.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *нідзе* не бачыў | Прыслоўе |
| 2 | *не падобная* на астатнія сасна | Поўны прыметнік, пры якім ёсць паясняльнае слова (*на астатнія*) |
| 3 | зусім *непрадуманы* адказ | Поўны дзеепрыметнік, пры якім ёсць прыслоўе ацэнкі *зусім* |
| 4 | экзамен *не здадзены* | Кароткі дзеепрыметнік |
| 5 | *недаспелыя* памідоры | Дзеепрыметнік з прыстаўкай *неда-*, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме |

**Варыянт 3.** 2, 4, 5.

| № | Спалучэнні слоў | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *непахісная* вера | Слова, якое без *не* не ўжываецца |
| 2 | *не шкада* часу | Нязменнае слова *не шкада* (**!** запомніць) |
| 3 | *нішто* не перашкаджае | Займеннік, у якім *ні* не аддзелена прыназоўнікам |
| 4 | *ні разу* не бачыў | Выраз *ні разу* (**!** запомніць) |
| 5 | яшчэ *не пажаўцелы* ліст | Поўны дзеепрыметнік, пры якім ёсць паясняльнае слова (*яшчэ*) |

## Урок 38. Словазлучэнне

**Тэст № 1.** 2, 4, 5, 8, 9.

***1*** — састаўны лічэбнік; ***3*** — параўнальная часціца і прыслоўе; ***6*** — аднародныя члены сказа; ***7*** — форма ступені параўнання прыметніка; ***10*** — дзейнік і выказнік.

**Тэст № 2.** 2, 4, 6, 8, 10.

Правільныя адказы: ***1*** — *тры высокія будынкі*; ***3*** — *глыбей* (*глыбейшы*) *за акіян*; ***5*** — *знаходзіць па слядах*; ***7*** — *гаварыць па тэлефоне*; ***9*** — *падзякаваць кіраўнікам*.

**Варыянт 1.** 1, 3, 4, 6, 7, 9.

| № | Словазлучэнні (выдзелена галоўнае слова) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *уменне* слухаць | Галоўнае слова (назоўнік) — іменная часціна мовы |
| 2 | *закалыхаць* дзіця | Дзеяслоўнае словазлучэнне (галоўнае слова — дзеяслоў) |
| 3 | шчаслівае *дзяцінства* | Галоўнае слова (назоўнік) — іменная часціна мовы |
| 4 | *другая* з краю | Галоўнае слова (лічэбнік) — іменная часціна мовы |
| 5 | добра *выкананы* | Дзеяслоўнае словазлучэнне (галоўнае слова — форма дзеяслова) |
| 6 | *малодшы* за мяне | Галоўнае слова (прыметнік) — іменная часціна мовы |
| 7 | саматканы *абрус* | Галоўнае слова (назоўнік) — іменная часціна мовы |
| 8 | *сказаўшы* праўду | Дзеяслоўнае словазлучэнне (галоўнае слова — форма дзеяслова) |
| 9 | *адзін* з жыхароў | Галоўнае слова (лічэбнік) — іменная часціна мовы |
| 10 | *напісаны* алоўкам | Дзеяслоўнае словазлучэнне (галоўнае слова — форма дзеяслова) |

**Варыянт 2.** 2, 4, 5, 6, 8, 9.

| № | Словазлучэнні (выдзелена галоўнае слова) | Каментарый (будова словазлучэння: выдзелена залежнае слова) |
|---|---|---|
| 1 | *жаданне* дапамагчы | назоўнік + *інфінітыў* (прымыканне) |
| 2 | чыясьці *кніга* | *займеннік* (змяняецца па склонах) + назоўнік (дапасаванне) |
| 3 | *ручнік* з вышыўкай | назоўнік + *прыназоўнік* + *назоўнік* (кіраванне) |
| 4 | падрыхтаваны *артыкул* | *дзеепрыметнік* + назоўнік (дапасаванне) |
| 5 | дзясяты *клас* | *парадкавы лічэбнік* + назоўнік (дапасаванне) |
| 6 | вашы *спадзяванні* | *займеннік* (змяняецца па ліках і склонах) + назоўнік (дапасаванне) |
| 7 | *лаўка* пад клёнам | назоўнік + *прыназоўнік* + *назоўнік* (кіраванне) |
| 8 | перасплелыя *вішні* | *дзеепрыметнік* + назоўнік (дапасаванне) |
| 9 | кожны *грамадзянін* | *займеннік* (змяняецца па ліках і склонах) + назоўнік (дапасаванне) |
| 10 | прыгожа *распісаны* | *прыслоўе* + дзеепрыметнік (прымыканне) |

**Варыянт 3.** 1, 2, 3, 6, 8.

| № | Словазлучэнні (выдзелена галоўнае слова) | Каментарый (будова словазлучэння: выдзелена залежнае слова) |
|---|---|---|
| 1 | *узяцца* за рукі | дзеяслоў + *прыназоўнік* + *назоўнік* (кіраванне) |
| 2 | *кавалак* хлеба | назоўнік + *назоўнік* (кіраванне) |
| 3 | *кожны* з нас | займеннік + *прыназоўнік* + *займеннік* (кіраванне) |
| 4 | яшчэ *вучацца* | *прыслоўе* + дзеяслоў (прымыканне) |
| 5 | зжатае *жыта* | *дзеепрыметнік* + назоўнік (дапасаванне) |
| 6 | *лепш* за ўсё | прыслоўе + *прыназоўнік* + *займеннік* (кіраванне) |
| 7 | адказна *выкананая* | *прыслоўе* + дзеепрыметнік (прымыканне) |
| 8 | *спісаны* з кнігі | дзеепрыметнік + *прыназоўнік* + *назоўнік* (кіраванне) |
| 9 | часта *сустракаліся* | *прыслоўе* + дзеяслоў (прымыканне) |
| 10 | радасная *сустрэча* | *прыметнік* + назоўнік (дапасаванне) |

**Варыянт 4.** 2, 3, 4, 5, 7, 10.

| № | Словазлучэнні (выдзелена галоўнае слова) | Каментарый (будова словазлучэння: выдзелена залежнае слова) |
|---|---|---|
| 1 | *пасадзіць* дрэва | дзеяслоў + *назоўнік* (кіраванне) |
| 2 | *майстэрства* вышываць | назоўнік + *інфінітыў* (прымыканне) |

| № | Словазлучэнні (выдзелена галоўнае слова) | Каментарый (будова словазлучэння: выдзелена залежнае слова) |
|---|---|---|
| 3 | *размаўляць* стоячы | дзеяслоў + *дзеепрыслоўе* (прымыканне) |
| 4 | вельмі *старанны* | *прыслоўе* + прыметнік (прымыканне) |
| 5 | *пішу* штомесяц | дзеяслоў + *прыслоўе* (прымыканне) |
| 6 | чагосьці *хочацца* | *займеннік* + дзеяслоў (кіраванне) |
| 7 | рэдка *бачымся* | *прыслоўе* + дзеяслоў (прымыканне) |
| 8 | нешта *задумаць* | *займеннік* + дзеяслоў (кіраванне) |
| 9 | *дзесьці* ў лесе | прыслоўе + *прыназоўнік* + *назоўнік* (кіраванне) |
| 10 | *зрабіць* па-свойму | дзеяслоў + *прыслоўе* (прымыканне) |

# Урок 39. Сказ. Тыпы сказаў. Аднасастаўныя сказы

## Сказ. Тыпы сказаў

**Тэст № 1.** 1, 2, 4.

***3*** — у сказе два аднародныя састаўныя дзеяслоўныя выказнікі: *хочацца пабыць*, *хочацца памаўчаць*; ***5*** — у сказе два рады аднародных членаў: выказнікі і адасобленыя акалічнасці.

**Тэст № 2.** 1, 2, 4, 5.

***1***, ***2*** — гэта складаназлучаны сказ з дзвюх самастойных частак; ***3*** — абедзве часткі двухсастаўныя (*Жалеза моцнае, але цярпенне і настойлівасць чалавечыя яшчэ мацнейшыя*); ***4*** — другая частка ўскладнена аднароднымі дзейнікамі; ***5*** — першая частка неразвітая (складаецца толькі з граматычнай асновы).

**Варыянт 1.** 3, 4, 5.

***1*** — гэта складаназалежны сказ; ***2*** — складаецца з дзвюх частак (другая ўскладнена адасобленым прыдаткам).

**Варыянт 2.** 3, 4.

***1*** — гэта аднасастаўны (пэўна-асабовы) сказ; ***2*** — у сказе тры аднародныя простыя дзеяслоўныя выказнікі: *пойдзем*, *знойдзем*, *прынясём*; ***5*** — у сказе адзін рад аднародных членаў (выказнікі).

## Аднасастаўныя сказы

**Тэст № 1.** А3Б4В5Г2.

| Сказ | Граматычная аснова | Каментарый |
|---|---|---|
| А | не носяць, а просяць | Абагульнена-асабовы сказ: дзеянне, абазначанае дзеясловам, можа адносіцца да любой асобы, да кожнага |
| Б | хочацца паехаць, хочацца ўбачыць | Безасабовы сказ: частка выказніка, выражаная безасабовым дзеясловам *хочацца*, абазначае жаданне дзеяння |
| В | матэрыялы напісаны | Двухсастаўны сказ |
| Г | выкарыстоўваюць | Няпэўна-асабовы сказ: перадаецца дзеянне, утворанае няпэўнымі або невядомымі асобамі (выказнік выражаны дзеясловам 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу) |

**Тэст № 2.** А2Б4В1Г5.

| Сказ | Граматычная аснова | Каментарый |
|---|---|---|
| А | ахвяравалі | Няпэўна-асабовы сказ: перадаецца дзеянне, утворанае няпэўнымі або невядомымі асобамі (выказнік выражаны дзеясловам прошлага часу множнага ліку) |

| Сказ | Граматычная аснова | Каментарый |
|---|---|---|
| Б | пахі | Назыўны сказ з недапасаванымі азначэннямі |
| В | памятаеш | Пэўна-асабовы сказ: абазначаецца дзеянне, якое ўтвараецца канкрэтнай асобай (выказнік выражаны дзеясловам 1-й асобы цяперашняга часу абвеснага ладу) |
| Г | сцяжынкі, сцежкі, дарогі | Двухсастаўны сказ (акрамя групы дзейніка *свае жыццёвыя*, ёсць дапаўненне *ў чалавека*) |

**Варыянт 1.** А3Б1В4Г2.

| Сказ | Граматычная аснова | Каментарый |
|---|---|---|
| А | пакой | Назыўны сказ з дапасаванымі азначэннямі |
| Б | сусвет вялікі, казачны, бяздонны | Двухсастаўны сказ (няма даданых членаў) |
| В | нельга падрабіць | Безасабовы сказ: частка выказніка, выражаная безасабова-прэдыкатыўным словам *нельга*, абазначае немагчымасць дзеяння |
| Г | рогі | Двухсастаўны сказ (акрамя групы дзейніка *маладзіка сярэбраныя*, ёсць акалічнасць *над макаўкамі елак*) |

**Варыянт 2.** А1Б4В5Г3.

| Сказ | Граматычная аснова | Каментарый |
|---|---|---|
| А | ноч | Двухсастаўны сказ (акрамя групы дзейніка *чорная вераснёвая*, ёсць акалічнасць *за акном*) |
| Б | адказалі | Няпэўна-асабовы сказ: перадаецца дзеянне, утворанае няпэўнымі або невядомымі асобамі (выказнік выражаны дзеясловам прошлага часу множнага ліку) |
| В | пойдзем | Пэўна-асабовы сказ: выказнік, выражаны дзеясловам 1-й асобы цяперашняга часу абвеснага ладу, абазначае дзеянне, якое ўтвараецца канкрэтнай асобай |
| Г | мяжа | Назыўны сказ з адасобленым азначэннем |

**Варыянт 3.** А4Б5В1Г2.

| Сказ | Граматычная аснова | Каментарый |
|---|---|---|
| А | вее | Безасабовы сказ: выказнік, выражаны асабовым дзеясловам у значэнні безасабовага, абазначае з’яву прыроды |
| Б | не шукайце | Пэўна-асабовы сказ: выказнік, выражаны дзеясловам загаднага ладу, абазначае дзеянне, якое ўтвараецца канкрэтнай асобай |
| В | канцэрт | Двухсастаўны сказ (акрамя групы дзейніка *неверагодны птушыны*, ёсць акалічнасць *за акном*) |
| Г | дрэва загадкавае, мудрае | Двухсастаўны неразвіты сказ |

## Урок 40. Члены сказа

**Тэст № 1.** А4Б1В2Г3.

| Сказ | Выдзеленыя словы | Каментарый |
|---|---|---|
| А | *выбраць* | Разважаем: у сказе два дзеясловы; гэта можа быць адзін састаўны выказнік, два простыя выказнікі або адзін просты выказнік і іншы член сказа (бо інфінітыў можа выступаць у ролі любога члена сказа); граматычная аснова — *дзяцінства дапамагае*, бо інфінітыў *выбраць* адносіцца да іншага выканаўцы дзеяння; ставім пытанне: *дапамагае ў чым?* (гэта пытанне да дапаўнення) |

| Сказ | Выдзеленыя словы | Каментарый |
|---|---|---|
| Б | *жывое* | Дзейнік, выражаны субстантываваным прыметнікам |
| В | (было) *глыбей* | *Было глыбей* — састаўны іменны выказнік у безасабовым сказе |
| Г | (адказ) *на адно пытанне* | Ставім пытанне: *адказ які?* (гэта пытанне да азначэння) |

**Тэст № 2.** 3.

Ставім пытанне: *шчасце якое?* (гэта пытанне да азначэння).

**Варыянт 1.** А1Б4В5Г3.

| № | Выдзеленыя словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *кожны* сплёў | Дзейнік, выражаны субстантываваным займеннікам |
| 2 | *човен* гайдае | Граматычная аснова — *возера гайдае*; ставім пытанне: *гайдае што?* (гэта пытанне да дапаўнення) |
| 3 | сеў *нагрэцца* | Ставім пытанне: *сеў з якой мэтай?* (гэта пытанне да акалічнасці) |
| 4 | дождж *лістапада* | Ставім пытанне: *дождж які?* (гэта пытанне да азначэння) |

**Варыянт 2.** А5Б4В2Г3.

| № | Выдзеленыя словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | паляцела *перадаваць* | Ставім пытанне: *паляцела з якой мэтай?* (гэта пытанне да акалічнасці) |
| 2 | забараніў *хадзіць* | Інфінітыў *хадзіць* адносіцца не да дзейніка, а да іншага выканаўцы дзеяння; ставім пытанне: *забараніў што?* (гэта пытанне да дапаўнення) |
| 3 | буду *берагчы* | Частка простага дзеяслоўнага выказніка |
| 4 | права *быць* чалавекам | Ставім пытанне: *права якое?* (гэта пытанне да азначэння) |

**Варыянт 3.** А2Б1В5Г4.

| № | Словы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *спавіты* кусты | Просты іменны выказнік, выражаны кароткім дзеепрыметнікам |
| 2 | *чорнае* | Дзейнік, выражаны субстантываваным прыметнікам |
| 3 | прыходзяць *глядзецца* | Ставім пытанне: *прыходзяць з якой мэтай?* (гэта пытанне да акалічнасці) |
| 4 | знаходзілася *кожнаму* | Граматычная аснова — *работа знаходзілася*; ставім пытанне: *знаходзілася каму?* (гэта пытанне да дапаўнення) |

**Варыянт 4.** 1, 2.

***3*** — выказнік *на руках насілі* (фразеалагізм); ***4*** — выказнік *было немагчыма* (падкрэслены дзейнік); ***5*** — выказнік *былі сакаўнейшыя* (падкрэслена пабочнае слова, якое не можа быць членам сказа).

## Урок 41. Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам

**Тэст № 1.** 1, 4.

***1*** — абодва галоўныя члены выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне;
***2*** — перад выказнікам стаіць пабочнае слова (*бадай*);
***3*** — дзейнік выражаны назоўнікам, а выказнікі — прыметнікамі;
***4*** — адзін з галоўных членаў сказа (дзейнік) выражаны інфінітывам;
***5*** — пры выказніку ёсць параўнальны злучнік *як*.

**Тэст № 2.** 2, 5.

***1*** — дзейнік выражаны займеннікам;
***2*** — абодва галоўныя члены выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне;

***3*** — пры выказніку ёсць параўнальны злучнік *як*;

***4*** — а) дзейнік выражаны займеннікам, б) перад выказнікам стаіць не дапасаваны да яго член сказа (акалічнасць *ужо*);

***5*** — выказнік выражаны фразеалагізмам з ацэначным значэннем у форме абагульнена-асабовага сказа.

**Варыянт 1.** 4.

*Зіма — цяжкі перыяд у жыцці большасці лясных жыхароў. І холад — гэта яшчэ нічога. Для мноства дробных жывёлін снег — гэта страха, ахова ад лютых халадоў і траскучых маразоў. Галоўнае — здабыць корм.*

**Варыянт 2.** 1, 3, 5.

***1*** — абодва галоўныя члены выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне;
***2*** — перад выказнікам, выражаным назоўнікам у назоўным склоне, ёсць адмоўе *не*;
***3*** — перад выказнікам ёсць слова *гэта*;
***4*** — перад выказнікам стаіць параўнальны зварот;
***5*** — адзін з галоўных членаў сказа (дзейнік) выражаны інфінітывам.

**Варыянт 3.** 3, 4.

***1*** — пры выказніку ёсць параўнальны злучнік *што*;
***2*** — перад выказнікам стаіць не дапасаваны да яго член сказа;
***3*** — абодва галоўныя члены выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне;
***4*** — абодва галоўныя члены выражаны формай інфінітыва;
***5*** — дзейнік выражаны займеннікам.

## Урок 42. Каардынацыя дзейніка і выказніка

**Тэст № 1.** 1, 5.

| № | Граматычная аснова (падкрэслены дзейнік) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | <u>некалькі вішань</u> расло | Дзейнік выражаны спалучэннем няпэўна-колькаснага слова (*некалькі*) з назоўнікам |
| 2 | шапацяць <u>чатыры бярозкі</u> | Выказнік у множным ліку ўжыты перад дзейнікам, выражаным спалучэннем колькаснага лічэбніка з неасабовым назоўнікам, з мэтай паказаць актыўнасць (выразнасць) дзеяння |
| 3 | <u>чацвёра дзядоў</u> садзяцца | Дзейнік выражаны спалучэннем зборнага лічэбніка з назоўнікам |
| 4 | ткуць <u>зоры</u> і <u>месяц</u> | Першы з аднародных дзейнікаў ужыты ў форме множнага ліку |
| 5 | мінула <u>больш за дваццаць гадоў</u> | Дзейнік выражаны колькасна-іменным спалучэннем, якое абазначае адрэзак часу |

**Тэст № 2.** 2, 4.

| № | Граматычная аснова (падкрэслены дзейнік) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | было <u>каля трыццаці чалавек</u> | Дзейнік выражаны спалучэннем лічэбніка з назоўнікам, якое абазначае прыблізную колькасць |
| 2 | <u>спакой</u> і <u>цішыня</u> пануюць | Выказнік знаходзіцца пасля аднародных дзейнікаў |
| 3 | стаяла <u>некалькі дзясяткаў цягнікоў</u> | Дзейнік выражаны спалучэннем няпэўна-колькаснага слова (*некалькі*) з назоўнікам |
| 4 | стаяць <u>тры бабкі</u> | Дзейнік выражаны спалучэннем колькаснага лічэбніка і назоўніка са значэннем асобы |
| 5 | мінула <u>некалькі год</u> | Дзейнік выражаны спалучэннем лічэбніка са словам *год* (*гадоў*) |

**Варыянт 1.** 2, 5.

| № | Граматычная аснова (падкрэслены дзейнік) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | лыпалі вачамі дзясяткі тры соў | Выказнік у множным ліку ўжыты перад дзейнікам, выражаным спалучэннем лічэбніка з назоўнікам, якое абазначае прыблізную колькасць, з мэтай паказаць актыўнасць дзеяння |
| 2 | не многа людзей ходзіць | Дзейнік выражаны спалучэннем няпэўна-колькаснага слова (*не многа*) з назоўнікам |
| 3 | ходзяць у пары сонца і цень, радасць і смутак, любоў і нянавісць | Выказнік знаходзіцца перад аднароднымі дзейнікамі, якія ўжыты непадзельнай парай |
| 4 | сасна, бяроза, дуб стаяць | Выказнік знаходзіцца пасля аднародных дзейнікаў |
| 5 | расло некалькі дубоў, вязаў, бяроз і многа алешыны | Дзейнік выражаны спалучэннем няпэўна-колькаснага слова (*некалькі*) з назоўнікам |

**Варыянт 2.** 3, 4.

| № | Граматычная аснова (падкрэслены дзейнік) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | шмат прайшло гадоў | Дзейнік выражаны спалучэннем няпэўна-колькаснага лічэбніка са словам *гадоў* |
| 2 | мінае дзень, два, тыдзень | Выказнік стаіць перад аднароднымі дзейнікамі і дапасуецца ў ліку да бліжэйшага з іх |
| 3 | Іван з сынам прайшлі | Дзейнік выражаны спалучэннем назоўніка назоўнага склону з назоўнікам у форме творнага склону |
| 4 | перабеглі дзве цені | Выказнік у множным ліку ўжыты перад дзейнікам, выражаным спалучэннем колькаснага лічэбніка з неасабовым назоўнікам, з мэтай паказаць актыўнасць (выразнасць) дзеяння |
| 5 | чулася хваляванне і боль | Выказнік стаіць перад аднароднымі дзейнікамі і дапасуецца ў ліку да бліжэйшага з іх |

## Урок 43. Аднародныя члены сказа

**Тэст № 1.** 2, 4, 5.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | — | Азначэнні *спакойныя вераснёўскія* не з'яўляюцца аднароднымі: характарызуюць прадметы з розных бакоў, выражаны прыметнікамі розных разрадаў, не могуць звязвацца злучнікамі |
| 2 | О, ***і*** О, ***і*** О, ***і*** О | У сказе больш за два аднародныя члены, перад 1-м з іх можа адсутнічаць злучнік |
| 3 | О ***і*** О, О ***і*** О | Коска ставіцца толькі паміж парамі аднародных членаў сказа |
| 4 | О, О | Аднароднымі ў адным радзе з'яўляюцца дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні |
| 5 | О, ***ды*** (= ***але***) О | Аднародныя члены сказа спалучаюцца адзіночным супраціўным злучнікамі ***ды*** |

**Тэст № 2.** 2, 4.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | — | Паўторны злучнік ***ні*** ... ***ні*** звязвае словы як аднародныя часткі ўстойлівага (фразеалагічнга) выразу (гэта не аднародныя члены сказа) |
| 2 | О, О, О ***і*** О | Аднароднымі ў адным радзе з'яўляюцца выказнікі (па схеме дапасаваных і недапасаваных азначэнняў) |

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 3 | O, O ***і*** O ***або*** O | Аднародныя члены сказа спалучаюцца злучнікамі рознага значэння |
| 4 | O, O | Аднароднымі з'яўляюцца азначэнні, калі адно з іх выражана прыметнікам, а другое — дзеепрыметнікавым словазлучэннем |
| 5 | — | Азначэнні *яснымі чырвонымі* не з'яўляюцца аднароднымі |

**Варыянт 1.** 3, 5.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | O ***і*** O | Аднародныя члены сказа звязаны адзіночным спалучальным злучнікам |
| 2 | (O ***і*** O) (O ***і*** O) | Злучнікі ***і*** звязваюць розныя рады аднародных членаў |
| 3 | O, ***і*** O, ***і*** O, ***і*** O, O | У сказе больш за два аднародныя члены, перад 1-м з іх можа адсутнічаць злучнік |
| 4 | O ***і*** O ***ды*** O | Аднародныя члены сказа звязаны неаднолькавымі спалучальнымі злучнікамі |
| 5 | O, O | Аднароднымі з'яўляюцца азначэнні, калі адно з іх выражана прыметнікам, а другое — дзеепрыметнікавым словазлучэннем |

**Варыянт 2.** 2, 4.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | (O ***і*** O) ***і*** O | Злучнікі ***і*** звязваюць розныя рады аднародных членаў |
| 2 | O, O | Аднароднымі ў адным радзе з'яўляюцца дапасаванае і недапасаванае азначэнне |
| 3 | O, O ***і*** O | Другі і трэці з аднародных членаў сказа звязаны адзіночным спалучальным злучнікам |
| 4 | O, ***і*** O, ***і*** O, ***і*** O | У сказе больш за два аднародныя члены, перад 1-м з іх можа адсутнічаць злучнік |
| 5 | O ***ці*** O | Аднародныя члены сказа звязаны адзіночным размеркавальным злучнікам |

## Урок 44. Абагульняльныя словы пры аднародных членах сказа

**Тэст № 1.** 2, 5.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | O, O ***ды*** O | Другі і трэці з аднародных членаў сказа звязаны адзіночным спалучальным злучнікам |
| 2 | O, O | Аднароднымі ў адным радзе з'яўляюцца дапасаванае і недапасаванае азначэнне |
| 3 | O ***і*** O ***альбо*** O | Аднародныя члены сказа спалучаюцца злучнікамі рознага значэння |
| 4 | — | Азначэнні *лёгенькі пайднёвы* не з'яўляюцца аднароднымі |
| 5 | O, ***і*** O, ***і*** O | У сказе больш за два аднародныя члены, перад 1-м з іх можа адсутнічаць злучнік |

**Тэст № 2.** 2, 4.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ***і*** O, ***і*** O, ***і*** O — ⊙ | Калі абагульняльнае слова стаіць пасля аднародных членаў, перад ім ставіцца працяжнік |
| 2 | ⊙: ***і*** O, ***і*** O, ***і*** O, ***і*** O, ***і*** O | Пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е |
| 3 | — | Азначэнні *пчаліны нейгамонны* не з'яўляюцца аднароднымі |

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 4 | ***то*** О, ***то*** О | Коска ставіцца паміж аднароднымі членамі, звязанымі спалучальнымі або размеркавальнымі злучнікамі, якія паўтараюцца |
| 5 | О, ***і*** О, ***і*** О | У сказе больш за два аднародныя члены, перад 1-м з іх можа адсутнічаць злучнік |

**Варыянт 1.** 1, 4, 5.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ⊙: ***і*** О, ***і*** О | Пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е; самі аднародныя члены звязаны спалучальнымі злучнікамі, якія паўтараюцца |
| 2 | ⊙: ***і*** О, ***і*** О, ***і*** О, ***і*** О — ... | Калі абагульняльнае слова стаіць перад аднароднымі членамі, а сказ пасля іх мае працяг, то пасля абагульняльнага слова ставіцца двукроп'е, а пасля аднародных членаў сказа — працяжнік |
| 3 | ⊙: (*ад*) О (*да*) О, (*ад*) О ***і*** О (*да*) О | Пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е |
| 4 | ***і*** О, ***і*** О, ***і*** О — ⊙ | У сказе тры аднародныя члены, перад кожным з іх стаіць злучнік; калі абагульняльнае слова стаіць пасля аднародных членаў, перад ім ставіцца працяжнік |
| 5 | О, О, О, О, О — *адным словам*, ⊙ | Паміж аднароднымі членамі і абагульняльным словам стаіць пабочнае слова *адным словам*, таму працяжнік ставіцца перад гэтым словам, а коска — пасля яго |

**Варыянт 2.** 2, 4.

| № | Схема аднародных членаў сказа | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | ⊙: ***ці то*** О, ***ці*** О, ***ці*** О | Пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е |
| 2 | О, О | Аднароднымі з'яўляюцца азначэнні, калі адно з іх выражана прыметнікам, а другое — дзеепрыметнікавым словазлучэннем |
| 3 | О, О ***ды*** О | Другі і трэці з аднародных членаў сказа звязаны адзіночным спалучальным злучнікам |
| 4 | О, ***і*** О, ***і*** О | У сказе больш за два аднародныя члены, перад 1-м з іх можа адсутнічаць злучнік |
| 5 | — | Паўторны злучнік ***ні*** ... ***ні*** звязвае словы як аднародныя часткі ўстойлівага (фразеалагічнага) выразу (гэта не аднародныя члены сказа) |

## Урок 45. Параўнальныя звароты ў сказах

**Тэст № 1.** 1, 3, 5.

***1*** — параўнальны зварот у пачатку сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***2*** — параўнальны зварот з'яўляецца ўстойлівым (фразеалагічным) выразам;
***3*** — параўнальны зварот у канцы сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***4*** — коска не ставіцца перад часціцай ***як бы*** (няма параўнання);
***5*** — параўнальны зварот адносіцца да ўказальнага слова ***такіх***, якое знаходзіцца ў асноўнай частцы сказа.

**Тэст № 2.** 2, 4.

***1*** — параўнальны зварот уводзіцца ў сказ пры дапамозе спалучэння ***больш як***;
***2*** — параўнальны зварот у сярэдзіне сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***3*** — спалучэнне слоў са злучнікам ***як*** мае значэнне '*ў якасці*' без адцення прычыны;
***4*** — параўнальны зварот у канцы сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***5*** — параўнальны зварот уваходзіць у склад выказніка.

**Варыянт 1.** 2, 4, 7, 9, 10.

***1*** — параўнальны зварот уводзіцца ў сказ пры дапамозе спалучэння ***болей як***;
***2*** — параўнальны зварот у канцы сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***3*** — спалучэнне слоў са злучнікам ***як*** мае значэнне ‘*ў якасці*’ без адцення прычыны;
***4*** — параўнальны зварот у сярэдзіне сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***5*** — коска не ставіцца перад часціцай ***нібы*** (няма параўнання);
***6*** — параўнальны зварот з’яўляецца ўстойлівым (фразеалагічным) выразам;
***7*** — параўнальны зварот у пачатку сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***8*** — параўнальны зварот з’яўляецца выказнікам;
***9*** — коска перад злучнікам ***як*** ставіцца ў спалучэнні ***не хто іншы, як***;
***10*** — коскамі выдзяляецца спалучэнне слоў ***як звычайна***.

**Варыянт 2.** 2, 3, 5, 7.

***1*** — спалучэнне слоў са злучнікам ***як*** мае значэнне ‘*ў якасці*’ без адцення прычыны;
***2*** — параўнальны зварот у канцы сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***3*** — параўнальны зварот адносіцца да ўказальнага слова ***такіх***, якое знаходзіцца ў асноўнай частцы сказа;
***4*** — спалучэнне слоў са злучнікам ***як*** мае значэнне ‘*ў якасці*’ без адцення прычыны;
***5*** — параўнальны зварот у пачатку сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***6*** — параўнальны зварот уводзіцца ў сказ пры дапамозе спалучэння ***горш як***;
***7*** — параўнальны зварот у сярэдзіне сказа (мае канкрэтнае параўнальнае значэнне);
***8*** — ***як мага*** з’яўляецца непадзельным словазлучэннем;
***9*** — параўнальны зварот з’яўляецца ўстойлівым (фразеалагічным) выразам;
***10*** — коска не ставіцца перад часціцай ***нібы*** (няма параўнання).

## Урок 46. Адасобленыя азначэнні

**Тэст № 1.** 1, 3, 4.

***1*** — дапасаванае азначэнне стаіць пасля паяснёнага назоўніка *сонца* і з’яўляецца развітым (выражана дзеепрыметнікавым зваротам);

***2*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам *каптурыкі*;

***3*** — дапасаванае азначэнне, выражанае адзіночным дзеепрыметнікам, адносіцца да асабовага займенніка *я*;

***4*** — дапасаваныя азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікавымі зваротамі, стаяць перад паяснёным назоўнікам *старшына* і маюць дадатковае акалічнаснае значэнне прычыны;

***5*** — прыметнікавы зварот *на дзіва ясныя*, *цёплыя* з’яўляецца часткай выказніка.

**Тэст № 2.** 2, 3, 4, 5.

***1*** — прыметнікавы зварот *ненатуральна голы* з’яўляецца часткай выказніка;

***2*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам *Карпенка* і мае дадатковае акалічнаснае значэнне ўступкі;

***3*** — дапасаванае азначэнне, выражанае адзіночным дзеепрыметнікам, адносіцца да асабовага займенніка *я*;

***4*** — дапасаваныя азначэнні выражаны адзіночнымі прыметнікамі, стаяць пасля паяснёнага назоўніка і нясуць вялікую сэнсавую нагрузку;

***5*** — недапасаваныя азначэнні адносяцца да асабовага займенніка *мы*.

**Варыянт 1.** 1, 3, 4, 6, 9.

***1*** — дапасаваныя азначэнні стаяць пасля паяснёнага назоўніка і з’яўляюцца развітымі (выражаны прыметнікавымі зваротамі);

***2*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам;

***3*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам і мае дадатковае акалічнаснае значэнне прычыны;

***4*** — дапасаваныя азначэнні выражаны адзіночнымі прыметнікамі, стаяць пасля паяснёнага назоўніка і нясуць вялікую сэнсавую нагрузку;

***5*** — дапасаванае азначэнне, выражанае прыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам;
***6*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, адносіцца да асабовага займенніка *яна*;
***7*** — дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікам і дзеепрыметнікавым зваротам, стаяць перад паяснёным назоўнікам і не маюць дадатковага акалічнаснага значэння прычыны;
***8*** — дзеепрыметнік *ашаломлены* з'яўляецца часткай выказніка;
***9*** — дапасаванае азначэнне, выражанае адзіночным дзеепрыметнікам, стаіць пасля паяснёнага назоўніка і аддзелена ад яго выказнікам;
***10*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам і не мае дадатковага акалічнаснага значэння.

**Варыянт 2.** 2, 4, 5, 7, 8, 10.

***1*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам і не мае дадатковага акалічнаснага значэння;
***2*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць пасля паяснёнага назоўніка;
***3*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам і не мае дадатковага акалічнаснага значэння;
***4*** — дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікавымі зваротамі, стаяць пасля паяснёнага назоўніка;
***5*** — дапасаванае азначэнне *змануты цішынёй*, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, аддзелена ад паяснёнага слова *жаўранак* іншымі членамі сказа (выказнікам *з'яўляецца* і акалічнасцю *над полем*);
***6*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, стаіць перад паяснёным назоўнікам і не мае дадатковага акалічнаснага значэння;
***7*** — дапасаванае азначэнне, выражанае дзеепрыметнікавым зваротам, адносіцца да асабовага займенніка *яна*;
***8*** — дапасаваныя азначэнні *цёплая*, *залатая*, выражаныя адзіночнымі прыметнікамі, аддзелены ад паяснёнага слова *восень* іншымі членамі сказа (выказнікам *наступіла* і акалічнасцю *рана*);
***9*** — прыметнікі *пяшчотныя* і *празрыстыя* з'яўляюцца часткамі аднародных выказнікаў;
***10*** — аднародныя дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі, адносяцца да асабовага займенніка *яны*.

## Урок 47. Адасобленыя прыдаткі і дапаўненні

**Тэст № 1.** 1, 3, 5.

***1*** — прыдатак адносіцца да асабовага займенніка *яму*;
***2*** — прыназоўнік *замест* ужыты са значэннем прыназоўніка *за*, таму дапаўненне з ім не адасабляецца;
***3*** — прыдатак, выражаны асабовым назоўнікам, стаіць пасля агульнага назоўніка і канкрэтызуе яго;
***4*** — назоўнік *купца* называе прафесію, стаіць перад уласным іменем;
***5*** — дапаўненне з прыназоўнікам *апрача* адасабляецца (тут паказвае ўключэнне прадмета ў пэўны рад).

**Тэст № 2.** 1, 2, 3.

***1*** — прыдатак *наша дача* звязваецца з паяснёным назоўнікам злучнікам *або*;
***2*** — прыдатак, выражаны асабовым назоўнікам, стаіць пасля агульнага назоўніка і канкрэтызуе яго;
***3*** — дапаўненне з прыназоўнікам *замест* адасабляецца (тут паказвае замяшчэнне прадмета іншым прадметам);
***4*** — спалучэнне слоў са злучнікам *як* мае значэнне '*ў якасці*', таму яно не з'яўляецца прыдаткам і не адасабляецца;
***5*** — назоўнік *цётка* называе асобу па ступені сваяцтва, стаіць перад уласным іменем.

**Варыянт 1.** 1, 4, 5.

***1*** — прыдатак адносіцца да асабовага займенніка *ён*;
***2*** — спалучэнне слоў са злучнікам *як* мае значэнне '*ў якасці*', таму яно не з'яўляецца прыдаткам і не адасабляецца;
***3*** — прыназоўнік *замест* ужыты са значэннем прыназоўніка *за*, таму дапаўненне з ім не адасабляецца;
***4*** — прыдатак стаіць перад уласным назоўнікам і мае дадатковае акалічнаснае значэнне прычыны;
***5*** — дапаўненне з прыназоўнікам *апроч* адасабляецца (тут паказвае выключэнне прадмета з ліку аднародных).

**Варыянт 2.** 2, 3, 4.

***1*** — прыназоўнік *замест* ужыты са значэннем прыназоўніка *за*, таму дапаўненне з ім не адасабляецца;
***2*** — прыдатак адносіцца да назоўніка і стаіць пасля яго;

***3*** — прыдатак адносіцца да назоўніка і стаіць пасля яго;
***4*** — прыдатак *лятучая вавёрка* звязваецца з паяснёным назоўнікам злучнікам *або*;
***5*** — прыдатак *прыгажун* адносіцца да назоўніка і стаіць перад ім.

## Урок 48. Адасобленыя акалічнасці

**Тэст № 1.** 1, 2, 4.

***1*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у сярэдзіне сказа;
***2*** — акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем са значэннем дадатковага дзеяння;
***3*** — дзве аднародныя акалічнасці (выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі), звязаныя адзіночным злучнікам *і*;
***4*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у сярэдзіне сказа;
***5*** — дзеепрыслоўе знаходзіцца не ў пачатку дзеепрыслоўнага словазлучэння, таму коска ставіцца толькі перад 1-м словам дзеепрыслоўнага звароту.

**Тэст № 2.** 2, 4, 5.

***1*** — акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем, стаіць у канцы сказа, прымыкае да выказніка і па сваёй ролі набліжаецца да прыслоўя;
***2*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у канцы сказа;
***3*** — дзеепрыслоўе знаходзіцца не ў пачатку дзеепрыслоўнага словазлучэння, таму коска ставіцца толькі перад 1-м словам дзеепрыслоўнага звароту;
***4*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у пачатку сказа;
***5*** — акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем са значэннем дадатковага дзеяння.

**Варыянт 1.** 1, 3, 4, 7, 9.

***1*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у канцы сказа;
***2*** — дзеепрыслоўе знаходзіцца не ў пачатку дзеепрыслоўнага словазлучэння, таму коска ставіцца толькі перад 1-м словам дзеепрыслоўнага звароту;
***3*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у сярэдзіне сказа;
***4*** — з'яўляецца акалічнасцю ўступкі, якая далучаецца злучнікам *як ні*;
***5*** — акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем, стаіць у канцы сказа, прымыкае да выказніка і па сваёй ролі набліжаецца да прыслоўя;
***6*** — акалічнасць выражана ўстойлівым выразам (фразеалагізмам);
***7*** — акалічнасць *не хаваючыся* стаіць пасля акалічнасці, выражанай прыслоўем *роўна*, і звязваецца з ёю бяззлучнікавай сувяззю;
***8*** — акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем, стаіць у канцы сказа, прымыкае да выказніка і па сваёй ролі набліжаецца да прыслоўя;
***9*** — з'яўляецца акалічнасцю ўступкі, якая выражана назоўнікам з прыназоўнікам *нягледзячы на*;
***10*** — коска пасля злучніка *а* не ставіцца, бо без акалічнасці *ўбачыўшы яго расчырванелы твар* будова сказа парушыцца.

**Варыянт 2.** 2, 3, 6, 7, 10.

***1*** — дзеепрыслоўе знаходзіцца не ў пачатку дзеепрыслоўнага словазлучэння, таму коска ставіцца толькі перад 1-м словам дзеепрыслоўнага звароту;
***2*** — акалічнасць выражана адзіночным дзеепрыслоўем са значэннем дадатковага дзеяння; коска пасля злучніка *а* ставіцца, бо без акалічнасці будова сказа не парушыцца;
***3*** — з'яўляецца акалічнасцю ўступкі, якая выражана назоўнікам з прыназоўнікам *нягледзячы на*;
***4*** — дзеепрыслоўе знаходзіцца не ў пачатку дзеепрыслоўнага словазлучэння, таму коска ставіцца толькі перад 1-м словам дзеепрыслоўнага звароту;
***5*** — акалічнасць, выражаная адзіночным дзеепрыслоўем, стаіць у канцы сказа, прымыкае да выказніка і па сваёй ролі набліжаецца да прыслоўя;
***6*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у канцы сказа;
***7*** — акалічнасць выражана адзіночным дзеепрыслоўем са значэннем дадатковага дзеяння;
***8*** — акалічнасць выражана ўстойлівым выразам (фразеалагізмам);
***9*** — дзеепрыслоўе знаходзіцца не ў пачатку дзеепрыслоўнага словазлучэння, таму коска ставіцца толькі перад 1-м словам дзеепрыслоўнага звароту;
***10*** — акалічнасць, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, у сярэдзіне сказа.

## Урок 49. Знакі прыпынку пры зваротку

**Тэст № 1.** 1, 4.

| № | Сказы (выдзелены звароткі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *...Люблю цябе,* ***мой светлы родны горад****,* ***ціхмяна-задуменная сталіца*** (В. Жуковіч). | Аднародныя звароткі ў канцы сказа (першая коска аддзяляе звароткі ад асноўнай часткі сказа, другая раздзяляе аднародныя звароткі) |
| 2 | ***Радзіма мая дарагая****, ты ў шчасці жаданым жыві* (А. Бачыла). | Развіты зваротак знаходзіцца ў пачатку сказа |
| 3 | *Што ж ты так самоцішся,* ***мілая ты птаха?*** (М. Башлакоў). | Развіты зваротак знаходзіцца ў канцы сказа (займеннік ***ты*** ўваходзіць у склад зваротка) |
| 4 | *Я забыццю вас,* ***продкі****, не аддам* (У. Дзюба). | Неразвіты зваротак знаходзіцца ў сярэдзіне сказа |
| 5 | *Ой,* ***лясочак****, ой,* ***лясок****, ты імчышся не ў той бок* (Н. Галіноўская). | Аднародныя звароткі разрываюцца выклічнікамі, таму кожная частка зваротка выдзяляецца коскамі |

**Тэст № 2.** 2, 3, 5.

| № | Сказы (выдзелены звароткі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *Табе,* ***шчодры сялянскі стол****, хочацца сказаць ласкавае слова* (Я. Сіпакоў). | Развіты зваротак знаходзіцца ў сярэдзіне сказа |
| 2 | *Ой ты,* ***зямля мая****,* ***зямля****, як маці родная мая...* (А. Дзеружынскі). | Перад звароткам стаіць выклічнік і займеннік ***ты***, таму коскамі выдзяляюцца толькі аднародныя звароткі (паміж імі коска пры бяззлучнікавай сувязі) |
| 3 | *Гуляйце, вейце,* ***снежныя вятры****, ад ранняй да вячэрняе зары* (М. Танк). | Развіты зваротак знаходзіцца ў сярэдзіне сказа (першая коска паміж аднароднымі выказнікамі пры бяззлучнікавай сувязі) |
| 4 | ***Незабудкі мае****,* ***незабудкі****,* ***мой блакітны і радасны май!*** *Добра вам між бярозак бялюткіх — шэпча казкі бярозавы гай* (Н. Галіноўская). | Тры аднародныя звароткі, звязаныя бяззлучнікавай сувяззю |
| 5 | *Што ты,* ***месяц****, над стрэхамі ходзіш, серабром напайняеш калодзеж?..* (Ф. Баторын). | Неразвіты зваротак знаходзіцца ў сярэдзіне сказа (займеннік ***ты*** не ўваходзіць у склад зваротка) |

**Варыянт 1.** 2, 5.

| № | Сказы (выдзелены звароткі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *Дзе ты,* ***часіна светлая надзей?*** (Я. Крупенька). | Развіты зваротак знаходзіцца ў канцы сказа (займеннік ***ты*** не ўваходзіць у склад зваротка) |
| 2 | ***Сад у квецені****,* ***садзе мой родны****, мне так цяжка з табой разлучацца!* (В. Жуковіч). | Два аднародныя звароткі, звязаныя бяззлучнікавай сувяззю |
| 3 | *Гэй ты,* ***церам-церамок****, адчыні свае нам дзверы, адамкні хутчэй замок!* (Н. Галіноўская). | Перад звароткам стаіць выклічнік і займеннік ***ты***, таму коскамі выдзяляецца толькі зваротак |
| 4 | *Плыві ў прастор,* ***сяброўская гаворка****, плыві,* ***ўспамінаў светлая рака!*** (А. Звонак). | Аднародныя звароткі разрываюцца выказнікамі, таму кожная частка зваротка выдзяляецца коскамі |
| 5 | ***Верасок****,* ***верасок****, не хавай мой грыбок!* (Н. Галіноўская). | Два аднародныя звароткі, звязаныя бяззлучнікавай сувяззю |

**Варыянт 2.** 1, 4.

| № | Сказы (выдзелены звароткі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *Добры дзень,* ***лужок квяцісты****,* ***гаманлівы****,* ***галасісты*** (Н. Галіноўская). | Два аднародныя звароткі, звязаныя бяззлучнікавай сувяззю |
| 2 | ***О мова родная****, на белым свеце адна такая ты, адна такая...* (М. Башлакоў). | Часціца ***о*** ад зваротка коскай не аддзяляецца |

| № | Сказы (выдзелены звароткі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 3 | *Ты не бойся нас,* ***зязюля****, не хавайся ў сасняку* (Н. Галіноўская). | Неразвіты зваротак знаходзіцца ў сярэдзіне сказа (займеннік ***ты*** не ўваходзіць у склад зваротка) |
| 4 | *Добры дзень вам,* ***палачане****, добры дзень,* ***Дзвіна****!* (А. Александровіч). | Аднародныя звароткі разрываюцца выказнікамі, таму кожная частка зваротка выдзяляецца коскамі |
| 5 | *Эх ты,* ***поле****,* ***бязмежнае поле****! Люба мне беларуская шыр!* (Т. Кляшторны). | Перад аднароднымі звароткамі стаіць выклічнік і займеннік ***ты***, таму коскамі выдзяляецца толькі зваротак |

## Урок 50. Сказы з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі

**Тэст № 1.** 2, 5.

| № | Сказы (выдзелены пабочныя і ўстаўныя канструкцыі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *Тут і сапраўды было холадна* (К. Чорны). | Прыслоўе *сапраўды* ў значэнні часціцы (не выдзяляецца коскамі) |
| 2 | *Я не ўяўляю,* ***напрыклад****, Мінска без Нямігі* (Я. Скрыган). | Пабочнае слова ў сярэдзіне сказа |
| 3 | *Адсюль відаць шырокі разліў ракі, бязмежныя лугі і палі на тым беразе* (М. Лынькоў). | Слова *відаць* з'яўляецца выказнікам (без яго структура сказа разбураецца) |
| 4 | *Каля дарогі на Макаў —* ***па гэтай дарозе Васіль ходзіць у лес*** *— калгас пасеяў канюшыну* (І. Навуменка). | Устаўная канструкцыя (даюцца дадатковыя звесткі) |
| 5 | ***Словам****, я скарыстаў момант і ўкінуў у кузаў сотню-другую лістоў шыферу* (З. Прыгодзіч). | Пабочнае слова ў пачатку сказа |

**Тэст № 2.** 1, 5.

| № | Сказы (выдзелены пабочныя і ўстаўныя канструкцыі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *На гэтай зарослай лазою гары, над ціхаю рэчкай, над звонкай крыніцай,* ***гаворыць паданне****, быў кляштар стары з высокай стральчатай цаглянай званіцай* (Ф. Баторын). | Пабочны сказ у сярэдзіне сказа |
| 2 | *У адну з тых начэй —* ***яшчэ не было занадта позна****,* ***толькі скончыўся вечар*** *— двое людзей блукалі па глухіх закутках гэтага месца* (К. Чорны). | Устаўная канструкцыя (даюцца дадатковыя звесткі) |
| 3 | *У гэтым якраз месцы і закончыўся бой...* (К. Чорны). | Прыслоўе *якраз* у значэнні часціцы (не выдзяляецца коскамі) |
| 4 | *Нязвыклым і казачным нейкім здавалася ўсё на зямлі* (Н. Галіноўская). | Слова *здавалася* з'яўляецца часткай выказніка (без яго структура сказа разбураецца) |
| 5 | *Так ішоў час, ужо,* ***мабыць****, настаў поўдзень* (В. Быкаў). | Пабочнае слова ў сярэдзіне сказа |

**Варыянт 1.** 1, 3.

| № | Сказы (выдзелены пабочныя і ўстаўныя канструкцыі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *І,* ***мусіць****, не аднаму мне было ніякавата* (З. Прыгодзіч). | Пабочнае слова ў сярэдзіне сказа пасля злучніка *і* (калі апусціць пабочнае слова, сэнс не парушыцца: значыць, злучнік не звязаны з пабочным словам і аддзяляецца ад яго) |
| 2 | *Ён [Іван] угледзеўся, зусім пэўна адчуваючы ў гушчары месца, дзе з'явіцца чалавек* (В. Быкаў). | Прыслоўе *пэўна* ў ролі акалічнасці спосабу дзеяння |
| 3 | ***Можа****, гэта было не са мною,* ***можа****, выдумаў,* ***можа****, прысніў?* (М. Шабовіч). | Пабочнае слова *можа* ўжыта тры разы, заўсёды выдзяляецца коскамі |

| № | Сказы (выдзелены пабочныя і ўстаўныя канструкцыі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 4 | *А яблыкі —* ***я ем адно*** *— такія свежыя, вялікія, чырванабокія, салодкія* (Я. Брыль). | Устаўная канструкцыя (даюцца дадатковыя звесткі) |
| 5 | *Наогул пра яго Скварыш ведаў няшмат...* (В. Быкаў). | Прыслоўе *наогул* у ролі акалічнасці спосабу дзеяння |

**Варыянт 2.** 1, 3.

| № | Сказы (выдзелены пабочныя і ўстаўныя канструкцыі) | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | *Нідзе і ні ў чым не знойдзеш,* ***бадай****, большага адзінства і большай злітнасці, як у прыродзе і чалавеку* (З. Прыгодзіч). | Пабочнае слова ў сярэдзіне сказа |
| 2 | *Нарэшце ён адчуў на сваіх плячах вялікую, як у дзядзькі Мацвея, татаву руку* (М. Лобан). | Прыслоўе *нарэшце* ў ролі акалічнасці часу |
| 3 | *[Сабака] не кінуўся ўцякаць, а,* ***наадварот****, зноў сеў перад старою...* (Я. Сіпакоў). | Пабочнае слова ў сярэдзіне сказа пасля злучніка *а* (калі апусціць пабочнае слова, сэнс не парушыцца: значыць, злучнік не звязаны з пабочным словам і аддзяляецца ад яго) |
| 4 | *Тая размова адбылася якраз па дарозе да астаноўкі тралейбуса* (В. Быкаў). | Прыслоўе *якраз* у значэнні часціцы (не выдзяляецца коскамі) |
| 5 | *За час язды ад Пінска —* ***гэта крыху болей за тры гадзіны*** *— бацька бойка і ўпэўнена паказваў шафёру дарогу...* (У. Глушакоў). | Устаўная канструкцыя (даюцца дадатковыя звесткі) |

## Урок 51. Тыпы складаных сказаў

**Тэст № 1.** А5Б4В1Г2.

| Сказ | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| А | Паўсюды беларус пакінуў след: у Польшчы, Летуве, Маскве, Сібіры, у Чылі, Арызоне і Заіры, нат з космасу зірнуў на белы свет. | [⊙: О, О, О, О, О, О ***і*** О, О]. Просты сказ, ускладнены двума радамі аднародных членаў: 1) акалічнасці з абагульняльным словам *паўсюды*; 2) выказнікі. |
| Б | [1]Ад былога балота павявала цеплаватай вільгаццю, і [2]здавалася, [3]што там стаіць вада. | [[1] ], ***і*** [[2] ], ([3]***што***...). Складаны сказ з рознымі відамі сувязі: злучальнай і падпарадкавальнай. |
| В | [1]Слоў мяшок, а [2]спраў — на вяршок. | [[1] ], ***а*** [[2] ]. Складаназлучаны сказ, у абедзвюх частках прапушчаны дзеясловы-звязкі. |
| Г | [1]Птушыныя галасы, бурштынавая раса на верасе і на галінках маладых сасонак, у лодачках чаромхавых лісточкаў, [2]што пачала трапляцца бліжэй да рачулкі, — [1]усё гэта ўзбадзёрвала. | [[1]О, О, ([2]***што***...), — ⊙]. Складаназалежны сказ, галоўная частка ўскладнена радам аднародных дзейнікаў з абагульняльным словам *усё*. |

**Тэст № 2.** А4Б1В2Г5.

| Сказ | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| А | [1]Спачуванне — гэта ўласцівасць душы, элементарны маральны прынцып чалавечага жыцця: [2]ты спачуваеш некаму, а [3]нехта клапоціцца пра цябе. | [[1] ]: [[2] ], ***а*** [[3] ].Складаны сказ з рознымі відамі сувязі: бяззлучнікавай і злучнікавай. |
| Б | [1]Мастацтву падуладны ўсе бакі чалавечага існавання, і [2]ў тым яго сіла. | [[1] ], ***і*** [[2] ]. Складаназлучаны сказ, у другой частцы прапушчаны дзеяслоў-звязка. |
| В | [1]Калі і адчуў прыгажосць зямлі Васіль, [2]то іменна тут, на неабсяжных прасторах ружова-сініх верасоў. | ([1]***Калі***...), [[2]***то***... ]. Складаназалежны сказ, галоўная частка няпоўная (ёсць толькі дадзены член сказа са складу выказніка — акалічнасць *тут*), ускладненая ўдакладняльнай акалічнасцю. |

| Сказ | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| Г | Мяжа ж, як мне расказалі потым, не была перашкодаю не толькі для саду. | [ ]. Просты сказ, ускладнены пабочнай канструкцыяй (сказам, у якім паведамляецца крыніца інфармацыі). |

**Варыянт 1.** 1, 2, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Белы конь і [2]белая завея. | [[1] ] ***і*** [[2] ]. Складаназлучаны сказ, абедзве часткі — назыўныя сказы. |
| 2 | [1]Ужо вясна, здаецца, на парозе, ды [2]зноў зіма вяртаецца назад. | [[1] ], ***ды*** [[2] ]. Складаназлучаны сказ, першая частка ўскладнена пабочным словам. |
| 3 | [1]Трава пасівела ад інею, і [2]на ёй, [3]калі прайсці, [2]заставаліся выразныя сляды. | [[1] ], ***і*** [[2]..., ([3]***калі***...), [2]...]. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі: злучальнай і падпарадкавальнай. |
| 4 | [1]Ужо надвячорак, і [2]трэба да цемені дабрацца дамоў. | [[1] ], ***і*** [[2] ]. Складаназлучаны сказ, першая частка няпоўная (выказнік прапушчаны, але ёсць дадзены член сказа з з яго складу — акалічнасць *ужо*); другая частка аднасастаўная безасабовая. |
| 5 | Я прыпадаю вухам да цемені Замкавай гары, цёплага ў любую пару года (нават у лютыя маразы зямля тут не прамярзае і на вяршок, і снег не трымаецца ў тым месцы, дзе некалі стаяла прыгажуня царква), і нібыта скрозь сон чую заклікальны барабанны дробат, конскае ржанне, калёсны скрып, ружэйныя залпы... | [ ]... Просты сказ, ускладнены: 1) аднароднымі выказнікамі; 2) аднароднымі дапаўненнямі; 3) устаўной канструкцыяй (складаным сказам з рознымі відамі сувязі, у якім паведамляецца дадатковая інфармацыя). |

**Варыянт 2.** 1, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Чуваць, [2]як шорстка сыплецца з кустоў лістоў саспелых восеньская ціша. | [[1] ], ([2]***як***...). Складаназалежны сказ, галоўная частка аднасастаўная (безасабовая, неразвітая). *Чуваць* — выказнік, ад яго ставіцца пытанне да даданай. |
| 2 | [1]Уздоўж дарогі чынна з краю слупы стаяць у два рады, і, [2]нібы гуслі-самаграі, звіняць іх струныправады. | [[1] ], ***і*** [[2] ]. Складаназлучаны сказ, другая частка ўскладнена параўнальным зваротам. |
| 3 | [1]Чыталі хто з месца, [2]хто, — мабыць, каб зрабіць большае ўражанне, — выходзячы да кафедры. | [[1] ], [[2] ]. Складаны бяззлучнікавы сказ, другая частка ўскладнена ўстаўной канструкцыяй. |
| 4 | [1]Панавала такая ціша, [2]што, здавалася, чуваць, [3]як лёгка спіць і дыхае возера. | [[1] ], ([2]***што***...), ([3]***як***...). Складаназалежны сказ з дзвюма даданымі; першая даданая частка аднасастаўная (безасабовая, неразвітая, ускладненая пабочным словам *здавалася*). *Чуваць* — выказнік, ад яго ставіцца пытанне да другой даданай. |
| 5 | Як вядома, героі казак вельмі часта з'яўляюцца на свет у выніку тых ці іншых незвычайных праяў або маюць на сабе які-небудзь незвычайны знак. | [ ]. Просты сказ, ускладнены пабочнай канструкцыяй (сказам, у якім паведамляецца крыніца інфармацыі). |

**Варыянт 3.** А2Б5В4Г1.

| Сказ | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| А | [1]Яны [птушкі] то, гойдаючыся, пырхаюць з дрэва на дрэва, то вылятаюць у поле, [2]дзе, падняўшыся ў неба, сваім танюткім і нясканчоным звонам заліваюцца жаўранкі. | [[1] ], ([2]***дзе***...). Складаназалежны сказ з адной даданай; галоўная частка ўскладнена аднароднымі выказнікамі і адасобленай акалічнасцю *гайдаючыся*, даданая частка ўскладнена аднароднымі азначэннямі і адасобленай акалічнасцю, выражанай дзеепрыслоўным зваротам. |

| Сказ | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| Б | Можа, у думках ён [Астаповіч] і не заходзіў так далёка, аднак жа, можна гэта сказаць з упэўненасцю, сапраўды-такі аддаваўся вялікаму шчасцю ўзводзіць на пустым месцы новыя сцены. | [ ]. Просты сказ, ускладнены: 1) аднароднымі выказнікамі; 2) пабочным словам *можа*; 3) пабочнай канструкцыяй (сказам, у якім выказваецца ўпэўненасць). |
| В | [1]І тут жа заблішчэлі маланкі, [2]загрымела навокал і [3]захадзіла пад нагамі падлога. | [[1] ], [[2] ] ***і*** [[3] ]. Складаны сказ з рознымі відамі сувязі: бяззлучнікавай і злучнікавай. |
| Г | [1]То сеецца дожджык, па лісці сячэ, то [2]сонца асвеціць сцюдзёныя росы. | ***То*** [[1] ], ***то*** [[2] ]. Складаназлучаны сказ, у якім часткі звязаны размеркавальным злучнікам *то..., то...* . |

## Урок 52. Знакі прыпынку ў складаназлучаных сказах

**Тэст № 1.** 1, 3, 5.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Пачало змяркацца, і [2]трэба было паклапаціцца пра начлег. | [[1] ], ***і*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання). |
| 2 | [1]*Там*, за сінім Сожам, росныя світанні і [2]духмяным цветам пеняцца сады. | [[1] ] ***і*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа коска не ставіцца, таму што ў пачатку сказа ёсць агульны для абедзвюх частак член сказа (акалічнасць). |
| 3 | [1]Нізка, краем неба скочвалася за лес вялікае чырвонае сонца, і [2]яго промні, бліскучыя і яркія, наскрозь праціналі смуглява-залацістую хмарку. | [[1] ], ***і*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання). |
| 4 | [1]Праз якія абшары зямлі пройдуць пуцявінкі і [2]куды яны прывядуць? | [[1] ] ***і*** [[2] ]? Паміж часткамі складаназлучанага сказа коска не ставіцца, таму што абедзве часткі з'яўляюцца пытальнымі. |
| 5 | [1]Дзяцей гукалі матулі, альбо [2]яны самі разыходзіліся па хатах, а [3]мы яшчэ ўсёю сямейкаю доўга сядзелі ля агню, гледзячы на малінавае вуголле. | [[1] ], ***альбо*** [[2] ], ***а*** [[3] ]. Паміж усімі часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання). |

**Тэст № 2.** 1, 2, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Ільдзінамі-аковамі грыміць рака раскутая, і [2]поймаю шырокаю паводка разліваецца. | [[1] ], ***і*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання). |
| 2 | [1]Вецер спіць, не прымяўшы калосся, у жыце, ды [2]тужліва шапоча лістота асін. | [[1] ], ***ды*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання). |
| 3 | [1]*Толькі* ледзь прыкметна пасвятлела неба і [2]памутнелі зоркі. | [[1] ] ***і*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа коска не ставіцца, таму што ў пачатку сказа ёсць агульная для абедзвюх частак часціца. |
| 4 | [1]Шызы мох мерна хрумсціць пад тоўстамяккімі падэшвамі, і [2]час ад часу хрупаюць пустыя, натапыраныя сасновыя шышкі. | [[1] ], ***і*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання). |
| 5 | [1]Блакіт нябёсаў і [2]блакіт пралесак. | [[1] ] ***і*** [[2] ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа коска не ставіцца, таму што абедзве часткі з'яўляюцца аднасастаўнымі назыўнымі. |

**Варыянт 1.** 3, 5, 6, 8 — паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання).

***1*** — коска не ставіцца, таму што ў пачатку сказа ёсць агульны для абедзвюх частак член сказа (акалічнасць *побач*);

***2*** — коска не ставіцца, таму што ў пачатку сказа ёсць агульны для абедзвюх частак член сказа (частка выказніка *становяцца*);

***4*** — коска не ставіцца, таму што абедзве часткі з'яўляюцца пытальнымі;

***7*** — калі ў другой частцы паказваецца хуткая змена падзей, супрацьпастаўленне або вынік, то паміж часткамі ставіцца працяжнік;

***9*** — коска не ставіцца, таму што ў пачатку сказа ёсць агульная для абедзвюх частак часціца *хоць бы*;

***10*** — коска не ставіцца, таму што ў пачатку сказа ёсць агульны для абедзвюх частак член сказа (акалічнасць *там*) і часціца *толькі*.

**Варыянт 2.** 2, 4, 6, 7, 9.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | $^{1}$Зазвіняць жалобна крыгі, і $^{2}$бурлівая вада снег размоклы ў час адлігі змые з луга без сляда. | [$^{1}$ ], ***і*** [$^{2}$ ]. У складаназлучаным сказе дзве простыя часткі (адна коска). |
| 2 | $^{1}$То спёка млее, то $^{2}$дажджыць, то $^{3}$раптам грымне навальніца. | ***То*** [$^{1}$ ], ***то*** [$^{2}$ ], ***то*** [$^{3}$ ]. Складаназлучаны сказ, у якім тры часткі звязаны размеркавальным злучнікам *то..., то..., то...* . Коскі ставяцца (тут няма ніводнага абмежавання). |
| 3 | $^{1}$Яна [прырода] упарта не хоча развітвацца з летнім цяплом, а $^{2}$восень настойліва крадзецца да яе восеньскай прахалодай і першымі замаразкамі. | [$^{1}$ ], ***а*** [$^{2}$ ]. У складаназлучаным сказе дзве простыя часткі (адна коска). |
| 4 | $^{1}$Поле прытаілася ў чаканні, а $^{2}$хмара набліжалася і цямнела, і $^{3}$час ад часу блакітныя ніці маланкі пранізвалі яе. | [$^{1}$ ], ***а*** [$^{2}$ ], ***і*** [$^{3}$ ]. У складаназлучаным сказе тры простыя часткі (дзве коскі — няма ніводнага абмежавання). |
| 5 | $^{1}$Ёсць свае карані і ў кожнага з нас, і $^{2}$ўваходзяць яны ў глыбіню стагоддзяў. | [$^{1}$ ], ***і*** [$^{2}$ ]. Паміж усімі часткамі складаназлучанага сказа ставіцца коска (тут няма ніводнага абмежавання). |
| 6 | $^{1}$Ці то яе [жанчыну] расчуліла такая рэдкая па цяперашнім тлумным часе чалавечая шчырасць, ці $^{2}$прыгадалася ёй нешта запаветнае, навек зберажонае ў сэрцы з яе далёкай маладосці? | ***Ці то*** [$^{1}$ ], ***ці*** [$^{2}$ ]? Складаназлучаны сказ, у якім абедзве часткі пытальныя, але яны звязаны размеркавальным злучнікам *ці то..., ці...*; 2-я коска раздзяляе аднародныя азначэнні. |
| 7 | $^{1}$Вясна расквеціла сады, і $^{2}$шэпча вяз каля прысад, а $^{3}$на руках сваіх дубы калышуць белых буслянят. | [$^{1}$ ], ***і*** [$^{2}$ ], ***а*** [$^{3}$ ]. У складаназлучаным сказе тры простыя часткі (дзве коскі — няма ніводнага абмежавання). |
| 8 | $^{1}$У зялёным, трохі сіваватым *лісці* маладых прышчэпаў ужо свяціліся лабатыя яблычкі і $^{2}$спакуслівай чырванню наліваліся чарэшні. | [$^{1}$ ] ***і*** [$^{2}$ ]. Паміж часткамі складаназлучанага сказа коска не ставіцца, таму што ў пачатку сказа ёсць агульны для абедзвюх частак член сказа (акалічнасць). |
| 9 | $^{1}$Усюды было поўна людзей, і $^{2}$ўсе былі радасныя, вясёлыя. | [$^{1}$ ], ***і*** [$^{2}$ ]. У складаназлучаным сказе дзве простыя часткі (коска ставіцца — няма ніводнага абмежавання); 2-я коска раздзяляе часткі аднародных выказнікаў. |
| 10 | $^{1}$Грымяць мнагаспеўнасцю гукаў супольных, як гімн перамогі, вясной ручаі, і $^{2}$мары аб сонцы струменяць гаі... | [$^{1}$ ], ***і*** [$^{2}$ ]... У складаназлучаным сказе дзве простыя часткі (коска ставіцца перад злучнікам *і* — няма ніводнага абмежавання); 1-я і 2-я коскі выдзяляюць параўнальны зварот. |

## Урокі 53—54. Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах

**Тэст № 1.** 2, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы |
|---|---|---|
| 1 | $^{1}$Як добра стаміцца ад цяжкіх дарог, схіліцца ў знямозе пад елку на мох і слухаць так прагна, і соладка сніць, $^{2}$як срэбны жаўрук над палямі звініць. | *што?* [$^{1}$ ], ($^{2}$***як***...). |
| 2 | $^{1}$Калі не маеш сілы жыць, $^{2}$успомні, $^{3}$як праз каменне прарасла трава. | *пры якой умове?* *што?* ($^{1}$***Калі***...), [$^{2}$ ], ($^{3}$***як***...). |

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы |
|---|---|---|
| 3 | [1]Можа, якраз над гэтай крыніцай, у зялёнай загадкавай засені дрэў нараджаўся той першы наіўны вершык, [2]за які яму бацька-ляснік адмераў авансам важкі ганарар — цяжкай службай здабыты царскі рубель. | які?<br>[[1] ], ([2]***за які***...). |
| 4 | [1]А цяпер падумайце, [2]як бы гэта было б добра, [3]каб кожны чалавек, [4]што жыве на свеце, [3]пасадзіў бы за сваё жыццё адно дрэўца дзе-небудзь пры сваёй хаце, пры дарозе, ля ракі! | пра што? пры якой умове? які?<br>[[1] ], ([2]***як***...), ([3]***каб***..., ([4]***што***...), [3]...)! |
| 5 | [1]Ён [салдат] спаў непадалёку ад гарматы, у неглыбокай ямцы, і, [2]каб не прабірала холадам ад настылае зямлі, [1]ссек некалькі кустоў ядлоўцу, падаслаўся. | з якой мэтай?<br>[[1]..., ([2]***каб***...), [1]...]. |

**Тэст № 2.** 2, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Радзіма, Радзіма, мяне нарадзіла ты ў гэтым цудоўным куточку, [2]дзе рэчкі, крыніцы бруяцца з зямліцы і [3]спеюць ігрушы ў садочку. | у якім?<br>[[1] ], ([2]***дзе***...) ***і*** ([3]...).<br>Аднародныя сузалежныя часткі звязаны адзіночным злучнікам *і*, таму коска перад злучнікам не ставіцца. |
| 2 | [1]Іван прайшоў яшчэ трохі і, [2]калі адчуў пад нагамі сакаўную мякаць травы, [1]падумаў, [3]што зараз упадзе. | калі? што?<br>[[1]..., ([2]***калі***...), [1]...], ([3]***што***...).<br>Пасля злучніка, які звязвае аднародныя выказнікі галоўнай часткі *прайшоў* і *падумаў*, пачынаецца даданая частка, таму ставіцца коска. |
| 3 | [1]Хто не ведае, [2]якімі мілымі і пацешнымі бываюць малыя кацяняты, [3]асабліва калі разгуляюцца. | чаго? пры якой умове?<br>[[1] ], ([2]***якімі***...), ([3]...***калі***...).<br>Перад падпарадкавальным злучнікам стаіць слова *асабліва*, таму коска ставіцца не перад злучнікам, а непасрэдна перад гэтым словам. |
| 4 | [1]Цяжка было распазнаць, [2]ці прыродная гэта грэбля, [3]ці зроблена людскімі рукамі. | што?<br>[[1] ], ([2]***ці***...), ([3]***ці***...).<br>Часткі складаназалежнага сказа аддзяляюцца адна ад адной коскамі. |
| 5 | [1]Ён [Агееў] ужо сцяміў, [2]што павінен зрабіць, [3]каб [4]калі не апраўдацца зусім, [3]дык хоць бы змякчыць прысуд камандзіра палка. | што? пры якой умове? з якой мэтай?<br>[[1] ], ([2]***што***...), ([3]***каб*** ([4]***калі***...), [3]***дык***...).<br>Пропуск даданай часткі са злучнікам *калі ... дык* парушае структуру сказа, таму паміж злучнікамі коска не ставіцца. |

**Варыянт 1.** 1, 3, 6, 7, 8, 10.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Васіль чамусьці падумаў, [2]што, [3]калі нават ён і пачне працаваць у рэдакцыі, [2]наўрад ці знойдзе сабе там сябра... | што? пры якой умове?<br>[[1] ], ([2]***што***, ([3]***калі***...), [2]...)...<br>Пропуск даданай часткі са злучнікам *калі* не парушае структуры сказа, таму паміж злучнікамі коска ставіцца. |
| 2 | ...Я пабрыў ад узлеску *куды вочы глядзяць*. | Просты сказ з устойлівым выразам, які мае канструкцыю сказа. |
| 3 | [1]А я, [2]дзе б ні быў, [1]у старое гняздо, як бусел, заўжды прылятаю. | нягледзячы на што?<br>[[1]..., ([2]***дзе***...), [1]...].<br>Даданая частка стаіць у сярэдзіне галоўнай (павінна выдзяляцца коскамі з абодвух бакоў). |

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 4 | [1]Мама многа разоў яму гаварыла, [2]што [3]калі здарыцца што-небудзь такое, [4]што трэба будзе хавацца, уцякаць, [2]то каб ён [Лёвачка] найхутчэй бег шукаць тату. | *пры якой умове?* *што?* *што менавіта?* [1 ], (2**што** (3**калі**...), (4**што**...), 2**то каб**...). Пропуск дадзенай часткі са злучнікам *калі ... то* парушае структуру сказа, таму паміж злучнікамі коска не ставіцца. |
| 5 | [1]І толькі калі нарэшце пачуўся гул машын і [2]з-за дрэў зачарнела асфальтавая стужка, [3]Ірына спынілася, абяссілена прыхінулася плечуком да шурпатага ствала сасны. | *калі?* (1...**калі**...) **і** (2...), [3 ]. Аднародныя сузалежныя часткі звязаны адзіночным злучнікам *і*, таму коска перад злучнікам не ставіцца. |
| 6 | [1]Дзяцінства бераг васількова, дзівосны кут маіх надзей, ты не забудзешся ніколі, [2]хоць я з табой усё радзей. | *нягледзячы на што?* [1 ], (2**хоць**...). Часткі складаназалежнага сказа аддзяляюцца адна ад адной коскамі. |
| 7 | [1]Але да самых замаразкаў, [2]пакуль не захрумсціць пад нагамі тонкі, як шкло, лядок, [3]што зацягне ўтвораныя дажджом лужыны, [1]грыбнік знойдзе ў лесе любімы для сябе занятак і выдатны адпачынак. | *да якога часу?* *які?* [1..., (2**пакуль**...), (3**што**...), 1...]. Часткі складаназалежнага сказа аддзяляюцца адна ад адной коскамі. |
| 8 | [1]Дарослыя, [2]хоць і стараліся захоўваць саліднасць, [1]радаваліся не менш, чым дзеці. | *нягледзячы на што?* [1..., (2**хоць**...), 1...]. Часткі складаназалежнага сказа аддзяляюцца адна ад адной коскамі. |
| 9 | [1]Я да цябе прапісаны, мой край, сузор'ямі і месяцам над хатай, жытамі, [2]што падперлі небакрай і абяцаюць ураджай багаты. | *якімі?* [1 ], (2**што**...). Коска не ставіцца: аднародныя выказнікі ў дадзенай частцы звязаны адзіночным злучнікам *і*. |
| 10 | [1]На зваротным шляху ў Мінск, зрабіўшы прыпынак у Пінску, я не паспеў знаёмага дома і, [2]каб неяк скарыстаць час, [1]вырашыў без спешкі і мітусні паблукаць па старажытным горадзе, [3]дзе раней даводзілася бываць толькі праездам. | *з якой мэтай?* *па якім?* [1..., (2**каб**...), 1...], (3**дзе**...). Пасля злучніка, які звязвае аднародныя выказнікі *не заспеў* і *вырашыў паблукаць*, пачынаецца дадзеная частка, таму ставіцца коска. |

**Варыянт 2.** 1, 2, 3, 6, 8, 9.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Гэта быў адзін з тых рэдкіх ліўняў, [2]якія налятаюць раптоўна і даюць столькі вады, [3]што яе хапіла б на цэлы месяц спакойных дажджоў. | *з якіх?* *колькі?* [1 ], (2**якія**...), (3**што**...). Часткі складаназалежнага сказа аддзяляюцца адна ад адной коскамі. |
| 2 | [1]...Так ужо вядзецца, [2]што [3]калі чалавек пачне хлусіць, [2]то адна хлусня вядзе за сабой другую. | *як?* *пры якой умове?* [1 ], (2**што** (3**калі**...), 2**то**...). Пропуск дадзенай часткі са злучнікам *калі ... то* парушае структуру сказа, таму паміж злучнікамі коска не ставіцца. |
| 3 | [1]Толя з палёгкай уздыхнуў, радуючыся, [2]што ўся гэтая гісторыя скончылася для яго так шчасліва. | *з чаго?* [1 ], (2**што**...). Першай коскай аддзяляецца адасобленая акалічнасць *радуючыся*, другой коскай аддзяляецца дадзеная частка ад галоўнай. |

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 4 | [1]Хоць горад рэкламай іскрыстай у цуды замор'я заве, [2]старэнькая хата, як прыстань, ратуе ад бур і завей. | *нягледзячы на што?*<br>([1]***Хоць***...), [[2] ].<br>Першай коскай аддзяляецца даданая частка ад галоўнай; другой і трэцяй коскамі выдзяляецца параўнальны зварот. |
| 5 | [1]Я не прывыкну ўсё ніяк, [2]што тут цяпер музей і [3]што самога тут няма гаспадара. | *да чаго?*<br>[[1] ], ([2]***што***...) ***і*** ([3]***што***...).<br>Аднародныя сузалежныя часткі звязаны адзіночным злучнікам *і*, таму коска перад злучнікам не ставіцца. |
| 6 | [1]Яны [байцы] доўга ішлі так па беразе і, [2]калі сонца зусім схавалася за зубчастаю сцяной лесу, [1]павярнулі назад да горада. | *калі?*<br>[[1]..., ([2]***калі***...), [1]...].<br>Даданая частка стаіць у сярэдзіне сказа, таму выдзяляецца коскамі. |
| 7 | [1]Дзве родныя ракі, як дзве рукі, [2]што абдымаюць гэты свет з любоўю, [1]нясуць праз далячыні і вякі прабабчыны купальскія вянкі і прадзедаў сівыя чаўнакі да слыннага Дняпра па Прыдняпроўі. | *якія?*<br>[[1]..., ([2]***што***...), [1]...].<br>Першыя дзве коскі выдзяляюць параўнальны зварот, а другая коска яшчэ і аддзяляе даданую частку ад галоўнай; трэцяя коска стаіць пасля даданай. |
| 8 | [1]Я чую, [2]як у мудрай цішыні то ліпа раптам зарыпіць калыскаю, [3]то скрыпкаю яліна зазвініць. | *што?*<br>[[1] ], ([2]***як***...), ([3]...).<br>Аднародныя сузалежныя часткі звязаны бяззлучнікавай сувяззю, таму коска паміж імі ставіцца. |
| 9 | [1]Калі вочы мае праясніла заранка і [2]жыцця разгарнуўся абрус, [3]над калыскай спявалі тады калыханку маці, каліна і Беларусь. | *калі?*<br>([1]***Калі***...) ***і*** ([2]...), [[3] ].<br>Аднародныя сузалежныя часткі звязаны адзіночным злучнікам *і*, таму коска перад злучнікам не ставіцца. Першая коска аддзяляе даданую частку ад галоўнай, другая коска раздзяляе аднародныя члены сказа. |
| 10 | [1]Вось і сёння, [2]як толькі я прыйшоў з бібліятэкі, [1]Міхась зноў папрасіў мяне паслухаць, [3]што піша яму яго Валя. | *калі?* *што?*<br>[[1]..., ([2]***як***...), [1]...], ([3]***што***...).<br>Коскі ставяцца паміж усімі часткамі сказа. |

**Варыянт 3.** 2, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Цяжка знайсці чалавека, [2]які б не любіў лес, не лічыў яго сваім сябрам, [3]які б у вольную гадзіну не імкнуўся адпачыць душой сярод непаўторнай лясной прыгажосці. | *якога?*<br>[[1] ], ([2]***які***...), ([3]***які***...).<br>Сузалежнае (аднароднае) падпарадкаванне: абедзве даданыя часткі залежаць ад галоўнай. |
| 2 | [1]З раніцы неба пакрыта белымі, нібы статак лебедзяў, аблачынкамі, [2]якія да паўдня разыходзяцца, агаляючы бязмежную сінечу неба, [3]па якім плыве бліскучы круг сонца. | *якімі?* *якога?*<br>[[1] ], ([2]***якія***...), ([3]***па якім***...).<br>Паслядоўнае падпарадкаванне: першая даданая частка (2) залежыць ад галоўнай, а другая даданая (3) — ад папярэдняй даданай. |
| 3 | [1]Як нам патрэбна хваля цішыні, [2]каб мы дыханне бліжняга адчулі, пазбыліся тлумлівай мітусні, [3]каб у душу нам зоркі зазірнулі, [4]каб шолах траў і салаўіны спеў дайсці да сэрца нашага паспеў. | *дзеля чаго?*<br>[[1] ], ([2]***каб***...), ([3]***каб***...), ([4]***каб***...).<br>Сузалежнае (аднароднае) падпарадкаванне: усе тры даданыя часткі залежаць ад галоўнай. |

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 4 | [1]Была нейкая загадка ў гэтай вечнай вадзе, [2]якую давала зямля, давала і берагла, захіляла яе кустамі і травою так густа, [3]што і ў самую гарачыню цяжка было дастаць яе сонцу. | з якой? як менавіта?<br>[[1] ], ([2]***якую***...), ([3]***што***...).<br>Паслядоўнае падпарадкаванне: першая даданая частка (2) залежыць ад галоўнай, а другая даданая (3) — ад папярэдняй даданай. |
| 5 | [1]Хоць неба і ўсыпана зоркамі, [2]усё ж яны не так блішчэлі, [3]як гэта звычайна бывае пазней, у жніўні, [4]калі ад іхняга бляску ўсюды робіцца светла: і ў лузе, і ў полі, і на вуліцы. | нягледзячы на што? як? калі?<br>([1]***Хоць***...), [[2] ], ([3]***як***...), ([4]***калі***...).<br>Змешанае падпарадкаванне: часткі 1, 2, 3 — сузалежнае (неаднароднае) падпарадкаванне: абедзве даданыя часткі залежаць ад галоўнай; часткі 3, 4 — паслядоўнае падпарадкаванне: даданая частка 3 залежыць ад галоўнай, а даданая 4 — ад папярэдняй даданай (3). |

**Варыянт 4.** 1, 4, 5.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Каб не быў чалавекам, [2]я б жаўранкам стаў і спяваў бы нястомней за ўсіх і званчэй, [3]каб рабілася людзям ад песні лягчэй, [4]каб шпарчэй узнімаліся ўвысь сасннякі, [5]каб віліся ў вірлівай рацэ шчупакі... | пры якой умове? з якой мэтай?<br>([1]***Каб***...), [[2] ], ([3]***каб***...), ([4]***каб***...), ([5]***каб***...)...<br>Сузалежнае (тры часткі аднародныя) падпарадкаванне: усе чатыры даданыя часткі залежаць ад галоўнай. |
| 2 | [1]Хочацца мне мець адказ на ўсё, [2]што ёсць, [3]што будзе, [4]каб назаўсёды зразумець, [5]што знач у я, [6]што значаць людзі. | на што менавіта? з якой мэтай? што?<br>[[1] ], ([2]***што***...), ([3]***што***...), ([4]***каб***...), ([5]***што***...), ([6]***што***...).<br>Змешанае падпарадкаванне: часткі 1, 2, 3, 4 — сузалежнае падпарадкаванне: усе даданыя часткі залежаць ад галоўнай; часткі 4, 5, 6 — паслядоўнае падпарадкаванне: даданая частка 4 залежыць ад галоўнай, даданая 5 — ад папярэдняй даданай (4), а даданая 6 — ад папярэдняй даданай (5). |
| 3 | [1]Сашы здаецца, [2]што яна чуе, [3]як малады клён, [4]што расце пад акном, [3]п'е сок зямлі. | што? што? які?<br>[[1] ], ([2]***што***...), ([3]***як***..., ([4]***што***...), [3]...).<br>Паслядоўнае падпарадкаванне: першая даданая частка (2) залежыць ад галоўнай, другая даданая (3) — ад папярэдняй даданай (2), а трэцяя даданая (4) — ад папярэдняй даданай (3). |
| 4 | [1]Дзесьці ёсць і твой пачатак, безупынная рака, [2]дзе ні моста, [3]дзе ні кладак, [4]дзе ні лодкі рыбака. | дзе менавіта?<br>[[1] ], ([2]***дзе***...), ([3]***дзе***...), ([4]***дзе***...).<br>Сузалежнае (тры часткі аднародныя) падпарадкаванне: усе чатыры даданыя часткі залежаць ад галоўнай. |
| 5 | [1]Калі б магло каменне гаварыць, [2]дык таямніцы нашае зямліцы надзіва нам яно магло б раскрыць такія, [3]што і ў снах не могуць сніцца! | пры якой умове? якія менавіта?<br>([1]***Калі***...), [[2] ], ([3]***што***...)!<br>Сузалежнае (неаднароднае) падпарадкаванне: усе даданыя часткі залежаць ад галоўнай. |

**Варыянт 5.** 1, 5.

| № | Сказы | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | Здзіўленне ў голасе маці было настолькі шчырае, *што* я міжвольна ўсміхнуўся. | Злучнік: не з'яўляецца членам сказа; на яго не прыпадае лагічны націск; яго можна замяніць іншым злучнікам (*аж*). |

| № | Сказы | Каментарый |
|---|---|---|
| 2 | Я не ведаю, *што* мне і думаць. | Злучальнае слова: *што* ў дадана́й частцы выконвае ролю дапаўнення (без яго разбураецца структура сказа), на яго прыпадае лагічны націск. |
| 3 | Закрасуйся, Нёман, каласамі ніў, *што* вясновым ранкам росамі паіў. | Злучальнае слова *што* ў даданай частцы замяняе назоўнік *ніў* з галоўнай часткі.<br>Спосаб праверкі: злучальнае слова *што* можна замяніць словам *якія*. |
| 4 | Адчуўшы прысутнасць чалавека, у голлі запішчалі, завалтузіліся, ссыпаючы кроплі расы і лісце, вераб'і, *што* набіліся нанач у крону. | Злучальнае слова *што* ў даданай частцы замяняе назоўнік *вераб'і* з галоўнай часткі.<br>Спосаб праверкі: злучальнае слова *што* можна замяніць словам *якія*. |
| 5 | Хлопец настолькі адкрыты і непасрэдны, *што* кожнай сваёй радасцю яму неадкладна хочацца падзяліцца з кім-небудзь. | Злучнік: не з'яўляецца членам сказа; на яго не прыпадае лагічны націск. |

**Варыянт 6.** 4, 5 (адказваюць на пытанні ўскосных склонаў).

## Урок 55. Складаныя бяззлучнікавыя сказы

**Тэст № 1.** 1, 3, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Дожджык асенні ціха булькоча, [2]вецер не вее, [3]гром не грукоча, [4]зоры на хмарах спяць. | [1 ], [2 ], [3 ], [4 ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці, таму ставяцца коскі. |
| 2 | [1]А ад тутэйшых мясцін вачэй не адарваць: [2]узгоркі і пералескі, [3]квяцістыя лугі і сенажаці, прапахлыя чаборам і медуніцай, [4]блакітныя стужкі рэчак, [5]жытнёвыя і бульбяныя палеткі, [6]сілуэты ветракоў і калодзежных жураўлёў. | [1 ]: [2 ], [3 ], [4 ],[5 ], [6 ],<br>У некалькіх аднародных частках раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй, таму ставіцца двукроп'е. |
| 3 | [1]Прыеду ў Мазыр — [2]адчуваю: [3]я дома... | [1 ] — [2 ]: [3 ]...<br>Паміж 1-й і 2-й часткамі выражаюцца адносіны часу або ўмовы, таму ставіцца працяжнік; паміж 2-й і 3-й часткамі ставіцца двукроп'е, таму што 2-я частка заканчваецца дзеясловам *адчуваю* (пасля яго можна ўставіць злучнік *што*). |
| 4 | [1]Адарвецца кветка ад карэння — [2]не чакай ні плода, ні насення. | [1 ] — [2 ].<br>Паміж 1-й і 2-й часткамі выражаюцца адносіны часу або ўмовы, таму ставіцца працяжнік (перад 1-й часткай можна ўставіць злучнік *калі*). |
| 5 | [1]І зноў неўразуменнае пытанне: [2]хто і завошта дарма робіць нам такую ласку? | [1 ]: [2 ]?<br>2-я частка — прамое пытанне, таму ставіцца двукроп'е. |

**Тэст № 2.** 2, 4.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Дарогі пахаваліся, [2]слядоў нідзе няма, [3]камусь на нешта жаліцца кудлатая зіма. | [1 ], [2 ], [3 ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці. |
| 2 | [1]Васіль адчувае: [2]да густога лесу не дойдзе. | [1 ]: [2 ].<br>1-я частка заканчваецца дзеясловам *адчуваю* (пасля яго можна ўставіць злучнік *што*). |
| 3 | [1]Бачу ў лесе ружовую кветку, чую тонкі і ўкрадлівы рух — [2]так шыпшына, нібы ў разведку, пасылае свой водар на луг. | [1 ] — [2 ].<br>2-я частка з'яўляецца высновай з 1-й. |

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 4 | [1]З гэтай прычыны ён [Адам] цяпер і быў у трывозе: [2]ці не занадта далёка ён зайшоў? | [1 ]: [2 ]?<br>2-я частка — прамое пытанне. |
| 5 | [1]Мой край — лугі і пералескі, крынічны звон і шум лясны, [2]мой край — блакітныя пралескі на сцежках ранняе вясны. | [1 ], [2 ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці. |

**Варыянт 1.** 2, 4, 5, 6, 7, 9, 10.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Песня тужыць, [2]песня летуценіць, [3]песня льецца шумнаю ракой і ў Альбуцы, на зялёнай сцэне, і ў гасцях, на плошчы гарадской. | [1 ], [2 ], [3 ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці. |
| 2 | [1]Дзяцінства будучага паэта праходзіла ў працы: [2]ён [Анатоль Астрэйка] араў і сеяў, касіў і малаціў, пасвіў авечак і кароў, адводзіў на начлег коней. | [1 ]: [2 ].<br>У 2-й частцы раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй. |
| 3 | [1]Пупышкі набрынялі на таполях, [2]зяленіва прабілася ў палях. | [1 ], [2 ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці. |
| 4 | [1]А цяпер у нас ёсць справа важнейшая: [2]трэба падрыхтавацца да сустрэчы новых гасцей. | [1 ]: [2 ].<br>У 2-й частцы раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй (можна ўставіць словы *а менавіта, а іменна*). |
| 5 | [1]Трапіш да кабецінцы рахманай — [2]паспытаеш, друг мой дарагі, дранікі са свежаю смятанай, бабку, клёцкі, нават пірагі. | [1 ] — [2 ].<br>Паміж 1-й і 2-й часткамі выражаюцца адносіны часу або ўмовы (перад 1-й часткай можна ўставіць злучнік *калі*). |
| 6 | [1]Аднак час ад часу там [у хвойніку] адчувалася нейкае варушэнне, [2]некаторыя вяршаліны неспакойна пагойдваліся — [3]значыць, вараннё ўсё чакала. | [1 ], [2 ] — [3 ].<br>3-я частка з'яўляецца высновай з дзвюх першых. |
| 7 | [1]Прадстаўлены акадэмічнай радзе нацюрморт меў, з пункту гледжання сталічных мэтраў, адценне крамольнасці: [2]у акадэміі заахвочвалі маляванне кветак і садавіны, [3]беларускі ж мастак [Іван Хруцкі] змясціў на палатне гародніну, грыбы, рыбу, а ў дадатак і сялянскі гладыш. | [1 ]: [2 ], [3 ].<br>У 2-й частцы абазначаецца прычына таго, пра што гаворыцца ў 1-й (можна ўставіць злучнікі *бо, таму што*). |
| 8 | [1]Нават пяцігадовая сястрычка знайшла сабе важную работу: [2]яна шыла сукенку для сваёй лялькі. | [1 ]: [2 ].<br>У 2-й частцы раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй (можна ўставіць словы *а менавіта, а іменна*). |
| 9 | [1]Не салоўка спяваў — [2]плыў твой голас чароўны. | [1 ] — [2 ].<br>Змест частак супрацьпастаўляецца. |
| 10 | [1]Плывуць праз гул штармоў мацерыкі, [2]у нетрах закіпае гнеў вулканаў. | [1 ], [2 ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці. |

**Варыянт 2.** 1, 3, 6, 8.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Табе я ўсміхнуся і напомню: [2]жыццё пражыць — не поле перайсці. | [1 ]: [2 ].<br>1-я частка заканчваецца дзеясловам *напомню* (пасля яго можна ўставіць злучнік *што*). |
| 2 | [1]Пачынае чаремшына зацвітаць — [2]пачынае халадок за шчокі шчыпаць. | [1 ] — [2 ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны часу або ўмовы (перад 1-й часткай можна ўставіць злучнік *калі*). |

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 3 | [1]Але думкі тут [у асеннім лесе] маюць іншую форму: [2]яны яркія, кароткія і хутка змяняюць адна адну. | [[1] ]: [[2] ].<br>У 2-й частцы раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй (можна ўставіць словы *а менавіта, а іменна*). |
| 4 | [1]Ступілі крок далей — [2]зноў трэск. | [[1] ] — [[2] ].<br>Паміж часткамі выражаецца вынік (можна ўставіць злучнік *і*). |
| 5 | [1]Пайшоў пазычаць насення — [2]не пазычылі... | [[1] ] — [[2] ]...<br>Паміж часткамі выражаецца адмоўны вынік (можна ўставіць злучнік *але*). |
| 6 | [1]Я вось так гляджу: [2]павінен чалавек да ўсяго мецъ паняцце. | [[1] ]: [[2] ].<br>1-я частка заканчваецца дзеясловам *гляджу* (пасля яго можна ўставіць злучнік *што*). |
| 7 | [1]Зноў пад сонцам выліняла лета, [2]травы спачываюць у стагах. | [[1] ], [[2] ].<br>Паміж часткамі выражаюцца адносіны адначасовасці. |
| 8 | [1]Сусвету таямнічае свячэнне здаўна разгадваць людзі пачалі: [2]нашто яно патрэбна на зямлі? | [[1] ]: [[2] ]?<br>2-я частка — прамое пытанне. |
| 9 | [1]І над галавою Анюты пранёсся лёгкі пошапт крылляў — [2]то прыляцела на песню другая зязюля. | [[1] ] — [[2] ].<br>Далучальная частка пачынаецца словам *то*. |
| 10 | [1]Хлопец, гледзячы ўслед, націснуў лёгка на газ — [2]машына пакацілася. | [[1] ] — [[2] ].<br>Паміж часткамі выражаецца вынік (можна ўставіць злучнік *і*). |

## Урок 56. Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі

**Тэст № 1.** 3, 5.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Кожны новы дзень вясны дорыць новыя галасы: [2]дзесьці раздаюцца посвісты попаўзняў, [3]зацёхкае ў гаі ці ў даліне ракі салавей, [4]зайграе, быццам на флейце, івалга, [5]прагучыць сакаўная мелодыя слаўкі-чорнагалоўкі. | [[1] ]: [[2] ], [[3] ], [[4] ], [[5] ].<br>Паміж усімі часткамі адзін від сувязі: бяззлучнікавая. |
| 2 | [1]Наша мова неўміручая, [2]бо яе захоўваюць усе: сялянка, [3]што спявае народную песню, вучоны, [4]які складае слоўнік, дзяды, [5]што апавядаюць пра мінулае. | *чаму?* *якая?* *які?* *якія?*<br>[[1] ], ([2]***бо***...: ..., ([3]***што***...), [2]..., ([4]***які***...), [2]..., ([5]***што***...)).<br>Складаназалежны сказ, у якім 2-я частка ўскладнена аднароднымі дзейнікамі з абагульняльным словам. |
| 3 | [1]Адчайна цвіў і пах багун п'янкі, [2]знікала непрыкметна ў моху сцежка, і [3]кроплі спелых ягад буякі гублялі ў жоўты сподак сыраежкі. | [[1] ], [[2] ], ***і*** [[3] ].<br>Сказ з рознымі відамі сувязі (бяззлучнікавай і злучнікавай). |
| 4 | [1]Перапоўнены радасцю, вярнуўся я ў той дзень дадому, і, [2]прызнаюся, яшчэ з тыдзень жыў ва мне настрой задавальнення. | [[1] ], ***і*** [[2] ].<br>Складаназлучаны сказ, у якім 2-я частка ўскладнена пабочным словам. |
| 5 | [1]На душы маёй робіцца светла, і [2]я думаю пра дзеда Аніса, гэтага ляснога чарадзея, [3]які пакінуў так многа добрага ў маёй памяці. | *пра якога?*<br>[[1] ], ***і*** [[2] ], ([3]***які***...).<br>Сказ з рознымі відамі сувязі (злучальнай і падпарадкавальнай). |

**Тэст № 2.** 1, 2.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Снег усюды белы, сыпкі, [2]неба гэткае ж малочна-белае, шчыльна кладзецца на ўскрай берагоў, і, [3]калі чалавек трапляе ў рэчышча, [4]яму здаецца, [5]што трапіў ён у нейкі інакшы свет, на інакшую планету, [6]дзе бель снегу ўгары і ўнізе і [7]ўрачыстае маўчанне зімы. | I [1 ], [2 ], II **і**, (3**калі**...), [4 ], (5**што**...), (6**дзе**...) **і** (7...). (пры якой умове? што? на якую?)<br>I (1, 2) — бяззлучнікавая сувязь;<br>II (**і**, **калі**...) — паміж злучнікамі коска ставіцца, таму што пропуск даданай часткі са злучнікам *калі* не парушае структуры сказа;<br>3, 4 — коска аддзяляе даданую ад галоўнай;<br>4, 5, 6 — пасля галоўнай часткі дзве даданыя. |
| 2 | [1]Вядома, справа ў гаспадынях, і [2]вось які быў сумны вынік: [3]бліны былі з адной мукі, ды [4]рукі розныя пяклі іх. | I [1 ], **і** II [2 ]: [3 ], **ды** [4 ].<br>I, II — злучальная сувязь;<br>2, 3, 4 — сказ з рознымі відамі сувязі (у 3-й і 4-й частках раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй (можна ўставіць словы *а менавіта*, *а іменна*)). |
| 3 | [1]Адагрэтая за вясну зямля набрала сіл, і [2]зеляніна на ёй расце і шырыцца з такой шпаркасцю, [3]што [4]калі прыслухацца ўважліва, [3]дык уловіш, [5]як выпростваюцца і цягнуцца каліўцы ўгору, і шасцяць, і перашэптваюцца. | I [1 ], **і** II [2 ], (3**што** (4**калі**...), 3**дык**...), (5**як**...). (з якой менавіта? пры якой умове? што?)<br>I, II — злучальная сувязь;<br>2, 3, 4, 5 — складаназалежны сказ з некалькімі даданымі;<br>3, 4 — пропуск даданай часткі са злучнікам *калі ... дык* парушае структуру сказа, таму паміж злучнікамі коска не ставіцца. |
| 4 | [1]У гэтым маўчанні, [2]якое было такім магазначным, [1]угадвалася адно пытанне: [3]чаму так здарылася, [4]хто дзе чаго недагледзеў? | [1..., (2**якое**...), 1...]: [3 ], [4 ]? (у якім?)<br>1, 2 — складаназалежны сказ, даданая ў сярэдзіне сказа выдзяляецца коскамі;<br>3, 4 — прамыя пытанні, таму перад імі ставіцца двукроп'е. |
| 5 | [1]Сапраўды, колькі людзі беззваротна губляюць у штодзённай мітусні бясконца дарагога, [2]да чаго прывыклі і [3]да чаго неразумна абыякавы: [4]і зеляніна дрэў іх не кранае, і блакіт неба, і вясновае паветра... | I [1 ], (2**да чаго**...) **і** (3**да чаго**...): II [4 ]... (чаго менавіта?)<br>I (1, 2, 3) — складаназалежны сказ з некалькімі даданымі (сузалежнае аднароднае падпарадкаванне, таму перад злучнікам *і* коска не ставіцца);<br>I, II — у частцы II раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй, таму перад ёю ставіцца двукроп'е. |

**Варыянт 1.** 3, 4.

*На лясных рэках шмат нечаканага і таямнічага: раптам з-за павароткі пакажуцца паваленыя, спілаваныя бабрамі дрэвы або бабровая плаціна, хаткі, і вы прыстанеце да берага і, калі ўдасца, пацікуеце за звяркамі* (У. Саламаха).

**Варыянт 2.** 2, 3, 5.

*Па рэчцы ўгадвалі і надвор'е: зменшала пад вечар вада — заўтра зранку будзе дождж, нізка ластаўкі лётаюць над вадою — таксама на дождж, паглыбшала рэчка — гэта ўжо знак, што будзе пагода* (Я. Колас).

**Варыянт 3.** 1, 3, 4, 5, 6, 8, 10.

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 1 | [1]Памятаю, [2]як ляснік Аніс гаварыў калісьці нам, дзецям, [3]што лес жывы: [4]дрэвы, як і людзі, маюць свае душы, галасы і размаўляюць па-свойму. | I (што? што?) [1 ], (2**як**...), (3**што**...): II [4 ].<br>I (1, 2, 3) — складаназалежны сказ з некалькімі даданымі;<br>I, II — у частцы II раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй, таму перад ёю ставіцца двукроп'е. |
| 2 | [1]Гэта дзікая шалёная язда абудзіла пасажыраў, і [2]хоць усе зразумелі просты манеўр Бені, але [3]нервовасць і напружанасць перадаліся ўсім... | I [1 ], ***і*** II (нягледзячы на што?) (2**хоць**...), [3**але**...]...<br>I, II — злучальная сувязь;<br>II (2, 3) — складаназалежны сказ;<br>2, 3 — пропуск даданай часткі са злучнікам *хоць* парушае структуру сказа, таму паміж злучнікамі коска не ставіцца. |
| 3 | [1]Сонца заходзіла ярка, і [2]мяне спыніла, уразіла тое, [3]што ў яго промнях ззяла, мігцела, пераліваласся кожная кропля дажджу, [4]што затрымалася на траве, — [5]звычайна гэта бывае раніцою, пры ўсходзе сонца, і [6]ззяе тады раса. | I [1 ], ***і*** II (што менавіта? якая?) [2 ], (3**што**...), (4**што**...), — III [5 ], ***і*** [6 ].<br>I, II — злучальная сувязь;<br>II (2, 3, 4) — складаназалежны сказ з некалькімі даданымі, усе часткі якіх аддзелены коскамі;<br>II, III — бяззлучнікавая сувязь (далучальныя часткі з высновамі, таму перад імі ставіцца працяжнік);<br>III (5, 6) — складаназлучаны сказ. |
| 4 | [1]Хоць было цёмна і [2]ў доле мала што можна было згледзець, [3]ён [Сушчэня] згледзеў-такі шараватую на траве купінку — [4]то быў чалавек. | I (нягледзячы на што?) (1**Хоць**...) ***і*** (2...), [3 ] — II [4 ].<br>I (1, 2, 3) — складаназалежны сказ з аднароднымі даданымі, таму коска перад злучнікам *і* не ставіцца;<br>I, II — бяззлучнікавая сувязь (далучальная частка з высновамі, таму перад ёю ставіцца працяжнік). |
| 5 | [1]Толькі зверху, [2]дзе хісталіся верхавіны-венічкі стромкіх сосен, [1]ішоў ціхі маркотны шум, ды [3]трапяталіся і шалясцелі лісточкі асін ды бяроз. | (адкуль?) [1..., (2**дзе**...), 1...], **ды** [3 ].<br>3-я частка не адносіцца да акалічнасці *толькі зверху*. |
| 6 | [1]Міхась цвёрда быў упэўнены: [2]калі горад прайшоў праз стагоддзі, не знік у іх, не згарэў у пажарах войнаў, [3]ён набывае асаблівую высакароднасць свайго аблічча. | I [1 ]: II (пры якой умове?) (2**калі**...), [3 ].<br>I, II — бяззлучнікавая сувязь; у частцы II раскрываецца, дапаўняецца, тлумачыцца сэнс папярэдняй, таму перад ёю ставіцца двукроп'е. |
| 7 | [1]Валя не заўважала, [2]што не адчувае плыні часу, а [3]калі ўрэшце зірнула на гадзіннік, [4]то не паверыла вачам: [5]урок канчаўся, а [6]яна паспела толькі пазнаёміцца з вучнямі і распытаць, [7]як яны правялі канікулы. | I (чаго?) [1 ], (2**што**...), ***а*** II (калі?) (3**калі**...), [4**то**...]: III (пра што?) [5 ], ***а*** [6 ], (7**як**...).<br>3, 4 — пропуск даданай часткі са злучнікам *калі* парушае структуру сказа, таму паміж злучнікамі коска не ставіцца. |

| № | Сказы (падкрэслены граматычныя асновы) | Схемы і каментарый |
|---|---|---|
| 8 | [1]Уставала сонца — [2]усе ведалі, [3]што жыццё не спынілася, [4]што яно крынічыць, б'ецца, прарываючыся наверх, шукаючы выйсця з-пад тоўшчы снегу і ўкаванай марозам зямлі. | I II *што?* [[1] ] — [[2] ], ([3]**што**...), ([4]**што**...). Паміж часткамі (I, II) выражаюцца адносіны часу або ўмовы (перад 1-й часткай можна ўставіць злучнік *калі*). |
| 9 | [1]Малаковіч так і не прыйшоў сёння, і [2]Агееў думаў: [3]ці не здарылася ўжо з ім што-небудзь кепскае? | I II [[1] ], ***і*** [[2] ]: [[3] ]? 3-я частка — прамое пытанне, таму перад ёю ставіцца двукроп'е. |
| 10 | [1]Шчыра паважаючы ўсё найлепшае, [2]што народ вынес з мінуўшчыны: найбагацейшую мову, працавітасць, душэўную мяккасць селяніна-палешука — [1]Іван Мележ сцвярджаў усёй сілай свайго таленту: [3]гэтыя людзі не для паказу вам жывуць, не дзеля экзатычнай забаўкі! | I *што менавіта?* II [[1]..., ([2]**што**...), [1]...]: [[3] ]! 2-я частка ўскладнена аднароднымі дапаўненнямі з абагульняльным словам (пасля яго ставіцца двукроп'е, а пасля аднародных членаў — працяжнік); I, II — бяззлучнікавая сувязь; у частцы II дапаўняецца сэнс папярэдняй, таму перад ёю ставіцца двукроп'е. |

**Варыянт 4.** 3, 5, 6, 7, 8, 9.

***3***. Груганы і смутнае жаданне дачакацца Войціка прымусілі Сушчэню адмовіцца ад намеру пайсці куды з гэтага месца, і**,** хоць было страхавіта і сцюдзёна, ён цярпліва чакаў (*В. Быкаў*).
***5***. З ісцін вялікіх, з ісцін жыццёвых выснаваў, вынасіў толькі адну: той**,** хто за праўду памерці гатовы, той не прыгрэе змяёю ману (*А. Бачыла*).
***6***. Задрамлю**,** і, можа, зноў прысніцца, што прынесла з лесу аж сюды вечна маладая чараўніца прыгаршчы гаючае вады (*С. Грахоўскі*).
***7***. Шаную даўні звычай землякоў: пакуль жыву**,** ганю прэч сум, спакой, не плачу, долу рук не апускаю (*Х. Жычка*).
***8***. Гэтай ісціне веру даўно**,** і яна для мяне як замова: у людзей ёсць багацце адно: чалавечае, добрае слова (*С. Законнікаў*).
***9***. Што ж, мабыць, самая пара была перакусіць, і**,** каб не сядзець на сонцы, яны перайшлі пад сцяну — у засень (*В. Быкаў*).

## Урок 57. Знакі прыпынку пры простай мове

**Тэст № 1.** 2, 4.

| № | Сказы | Схемы |
|---|---|---|
| 1 | «Валодзя, гэта ты? — пачуў ён у трубцы знаёмы голас жонкі, Веранікі. — Прыязджай хутчэй дадому». | **«П? — а. — П».** |
| 2 | «Дрэвы, сынок, — гаварыла маці, — упрыгожваюць наша жыццё, дораць чалавеку радасць, робяць яго шчаслівейшым». | **«П, — а, — п».** |
| 3 | «Ты зноў расчыніў акно, — ад свежасці прачыналася Ларыса, перасмыкала плячамі, моршчылася і, не счакаўшы адказу, дадавала: — Хай толькі гаспадыня ўбачыць, мала нам не будзе, глядзі, шпалеры пашарэлі». | **«П, — а: — П».** |
| 4 | «Як ты пойдзеш далей, — я сказаў свайму сэрцу, — нясі песню жыццю і не знайся са смерцю, нясі сонца туды, дзе мяцеліць зіма, нясі радасць таму, ў каго сёння няма». | **«П, — а, — п».** |
| 5 | «Надзя, — сказаў я, — ну чаму ў нас усё так атрымліваецца?» | **«П, — а, — п?»** |

**Тэст № 2.** 2, 5.

*1*. «Не, не можа быць! — нарэшце вымавіў археолаг, азіраючыся наўкола. — Як жа так?!» (*М. Зарэмба*).

*3*. «Ну, Петрусёк, сёння я магу ўзяць цябе з сабой, — сказаў аднойчы бацька, аглядаючы на двары веласіпед, на якім звычайна ездзіў у пушчу. — Ёсць у мяне вольны час, паездзім, паглядзім, што, дзе і як...» (*Т. Хадкевіч*).

*4*. «Дзякую, мама, — сказаў ён. І папытаўся: — Табе памагчы што?» (*М. Гіль*).

**Варыянт 1.** 1, 3, 5, 6, 7, 9.

*2*. «Вось каб нам ля школы пасадзіць язмінавую алею, — задумліва сказаў дырэктар і тут жа спытаў: — Дык што там натварыў наш Абабурка?» (*М. Зарэмба*).

*4*. «Малады чалавек, можна вас на хвілінку?» — голас быў звонкі і смяшлівы (*М. Зарэмба*).

*8*. «Няўжо рака плыла тут і дзвесце гадоў? — здзіўлялася Вера. — А яшчэ даўней?» (*М. Зарэмба*).

*10*. «Прыгожыя кветкі, — усмешка схавалася ў густой барадзе Алега Ціханавіча: — А як пахнуць!» (*М. Зарэмба*). Можа быць варыянт афармлення па схеме «П, — а. — П!»

**Варыянт 2.** 2, 3, 5, 6, 9.

*1*. «Як на востраве жывём», — уздыхнула Вера Маркаўна, з сілай адчыняючы дзверы, занесеныя за ноч снегам (*Г. Васілеўская*).

*4*. «Ну вось, — спачуваючы хлопцу, сказала сакратарка, — цяпер давядзецца чакаць не менш гадзіны» (*У. Саламаха*).

*7*. «Я на хвіліну, — сказаў Кіслякоў. — Што здарылася?» (*В. Быкаў*).

*8*. «Табе пара, Жэня... — сказала яна [Надзя] ціха і з сумам. — Спознішся на аўтобус» (*З. Прыгодзіч*).

*10*. «Пайду пагуляю, — сказала Вера. — Можа, суніцы пачырванелі на ўзлеску?» (*М. Зарэмба*).

## Урок 58. Тэкст як адзінка сінтаксісу і звязнага маўлення

**Тэст № 1.** 2, 3.

| № | Тэксты | Каментарый |
|---|---|---|
| 1 | На дварэ ішоў дождж, асенні, дробны, але яшчэ цёплы, церушыў, як праз сіта. Суцэльная хмара, быццам нерухомая, вісела над зямлёй. Над ракой плакаліся вербы, ранялі долу першае лісце. | ***Паралельная*** сувязь: змест першага сказа дапаўняецца зместам усіх наступных сказаў (даецца апісанне). |
| 2 | Берагі, як стрыечныя браты, чымсьці розняцца. Адзін — высокі, камяністы, парослы рэдкалессем, шорсткімі травамі. Другі — спадзісты. | ***Паслядоўная*** сувязь: змест кожнага наступнага сказа дапаўняе змест папярэдняга і звязаны з ім. |
| 3 | Ліпа падала. І падала страшэнна марудна. Спачатку яна ўздрыгнула, скаланулася ўсім голлем, нібы хацела атрэсці з лісця рэшткі ранішняй расы. | ***Паслядоўная*** сувязь: змест кожнага наступнага сказа дапаўняе змест папярэдняга і звязаны з ім. |
| 4 | Вася ляжыць пад арэхавым кустом, палуднуе. Прыемнай стомай ные цела. Сонца паступова ідзе на схіл. Дзень не вельмі гарачы. | ***Паралельная*** сувязь: змест першага сказа дапаўняецца зместам усіх наступных сказаў (даецца апісанне). |
| 5 | Ноччу выпаў сняжок. Прыкметна пабялелі і без таго белыя бярозы. Выразней сталі глядзецца камлі сосен. А чорная вольха так і крэсліць неба сваімі галінамі. | ***Паралельная*** сувязь: змест першага сказа дапаўняецца зместам усіх наступных сказаў (апісанне з пералічэннем). |

**Тэст № 2.** А3Б7В7Г63Д5Е4.

**Варыянт 1.** А2Б3В2Г1Д2.

**Варыянт 2.** ***№ 1*** — *жывучы*. ***№ 2*** — 2, 4, 5. ***№ 3*** — *любіць*. ***№ 4*** — 1, 3, 4. ***№ 5*** — бяссуфіксны. ***№ 6*** — *гуку*. ***№ 7*** — *плывяце*. ***№ 8*** — *даўно*. ***№ 9*** — часціца. ***№ 10*** — 4.

